# Крапіва



# 3

РАМАН
П'ЕСЫ

Мінск
«Мастацкая літаратура»
2000

УДК 882.6-8
ББК 84(4Беи)6
К78

Укладанне і каментарыі
СЦЯПАНА ЛАЎШУКА

Мастак
АНАТОЛЬ АЛЕКСАНДРОВІЧ

ISBN 985-02-0254-8
ISBN 985-02-0420-6 (т. 3)

## I

Па Бараўской дарозе ідзе чалавек. Нізкі, нятоўсты, ён ідзе не спяшаючыся, мерна ступаючы па пескавой дарозе. Яго чаравікі і гетры запылены, і ў вячэрнім змроку толькі зусім зблізку можна адрозніць іх ад дарожнага пяску, але цёмныя галіфэ і фрэнч на гэтым фоне вылучаюцца даволі выразна. Ад гэтага здаецца, што ў чалавека не ногі, а вельмі кароценькія куксачкі, і ступае ён імі па паветры.

Спяшацца чалавеку няма куды: яму лепей прыйсці пазней, чым раней, а ісці засталося зусім недалёка. Паабапал дарогі змянялі адна адну палосы, падзеленыя вузкімі быльняговымі межамі, а часамі проста глыбокімі разорамі. Палосы неаднастайныя: адны цёмныя, другія святлейшыя, ёсць і зусім светлыя. На адной з такіх светлых палос сядзяць у рад нейкія застылыя нерухомыя постаці. «Нечы авёс яшчэ ў бабках стаіць»,— падумаў чалавек. Палосы былі няроўныя ўшыркі, і каб чалавеку пільна трэба было, дык ён бы, добра прыгледзеўшыся, убачыў, што палоска, на якой стаяць бабкі, вузенькая, чацвертачок, што каля яе, з аднаго боку, шырокая паўвалочная палоса, засаджаная бульбай, з другога — зноў вузенькая палоска аўсянага ржэўніку і далей чвартковая палоса трохі цямнейшая,— мусіць, быў ячмень, але даўно ўжо зжаты. Па ўсім гэтым чалавек мог пазнаць, што на палосцы стаіць у бабках авёс Сымона Курыльчыка.

Але чалавека не цікавіў Сымонаў авёс. Ён заняў яго ўвагу толькі на адзін кароценькі момант, толькі таму, што на раўніне палетка ў шэрані змроку вока яго якраз спынілася на гэтых бабках, якія ў першую хвіліну яму нават і не бабкамі здаваліся, а нейкімі варожымі, насцярожанымі, маўклівымі постацямі.

Цяпер ён ішоў далей, забыўшыся ўжо пра бабкі, і хоць не трывожна, але пільна прыслухоўваўся. Справа, непада-

лёку, у канцы палос высілася чорная, аднастайная, шчыльная і панурая, нібы з чыгуну вылітая, сцяна лесу. Але ў гэты бок чалавек паглядаў не так часта. Больш за ўсё ён глядзеў уперад і ўлева.

Адтуль, недзе з-за ўзгорка, даносіліся невыразныя, як бы прыдушаныя, гукі. Сярод іх час ад часу выразна чутно было рыпенне жураўля ды нехта аднамерна танклявым, ломкім, маладым голасам клікаў каня: «Кось-кось-кось-кось...»

Чалавек лавіў гэтыя гукі, аж выцягваў шыю, здаецца, прынюхваўся да паветра, у якім яны разлягаліся, як воўк, што падкрадаецца да вёскі, каб чым пажывіцца.

Вось ён узышоў на ўзгорак. Можа, за кіламетр ад яго, трохі ўлева, над радам гумён, якія цяпер зліліся ў адну цёмна-шэрую доўгую палосу, на фоне святлейшай палоскі вячэрняга неба рэзка вылучыліся: востры клінок высокай елі і, трохі ўправа ад яго,— закругленая і як бы прадраная з аднаго боку шапка грушы. Чалавек зразу абмяк. Ён ужо не прыглядаўся і не прыслухоўваўся так уважна, а ішоў спакойна, трохі спусціўшы галаву і памахваючы дубчыкам у правай руцэ.

На гэту елку яшчэ васьмігадовым хлапчуком ён залазіў аж на самы вяршок, кукаваў там зязюляй і кідаўся шышкамі, калі хто праходзіў каля елкі. Маці з распяразаным фартухом у руцэ, трасучы паскамі, грозіць яму:

«Злазь зараз жа, вісус ты! Вось як злаўлю, раздзяру, як жабу».

«О-го-го-о-о! Зловіць яна мяне! Узлезь, папрабуй, дык і ляпнеш з елкі»,— а сам узбіраўся яшчэ вышэй і прытойваўся сярод густых калючых і пахучых яловых лапак. Дзе ж ёй, прысадзістай ды грузнай, далезці да яго!

Пад грушу ж ён бегаў, калі яшчэ добра портак не ўмеў насіць. Ледзь толькі вочы прадзярэ — выбежыць на двор, стане каля ганка, задраўшы кашулю, а сонца ўжо высакавата паднялося і ласкава грэе яго ногі і жывот. А груша — вось яна, недалёчка зусім, толькі прабегчы трохі па сцежцы да гумна, а там цераз Сталяровых авёс — і вось ён пад грушай ужо. На аўсе яшчэ не абсохла раса. Яна мочыць і халодзіць ногі, праймае праз кашулю, а ён храбра прадзіраецца праз саламяны гушчар на мяккую мураву пад грушай. Там выбірае галіну, якая найніжэй спусцілася над зямлёю, цэліцца вокам у шышак зялёных, ледзь кранутых жаўцізною, дзічак і кідае грудкамі і каменьчыкамі, аж пакуль не ўдасца яму збіць адну-дзве дзічкі. Іншы ж раз захопіць з сабою братаву вуду і тады ўжо нашалёстае

повен прыпол. А ўдзень убачыць яго Трахім Сталяровых на прыгуменні, ківае каравым тоўстым пальцам і кліча:

— Уладзік, ідзі сюды. Я табе нештачка пакажу.

— Ат, ты будзеш біцца.

— Дурны, вунь паглядзі, якое гняздзечка ў мяне пад страхою. І птушаняткі ціўкаюць.

І страшна, і хочацца паглядзець. Але хочацца больш, як страшна, і ён памаленьку падбліжаецца да Трахіма. Вось ужо зусім асмеліўся і ўглядаецца пад страху ў цёмны закутак, дзе павінна быць гняздзечка. А тут шурпатыя Трахімавы пальцы спрытна хапаюць яго за вуха, рыжая з сівізною барада набліжаецца аж да самага Уладзікавага носа і страшна шыпіць:

— А ты, урвіцель, зноў патаптаў мне авёс!

— А, дзядзечка, не буду больш! Далібог, не буду!

— Не будзеш? О-то-то ж! Глядзі, а то другі раз вушы ашалёстаю.

Уладзік адскочыўся ўжо за крокаў трыццаць, трасе на старога кулаком і крычыць:

— А ты, урвіцель, другі раз не хапай мяне за вухі.

— Ах ты, маляўка гэтакая! Я ж табе вось пакажу! — І Трахім мацае каля паясніцы, каб расперазаць папружку, якой у яго няма, а Уладзікавы пяты мільгаюць ужо далёка па сцежцы.

Другому падшыванцу Трахім і сапраўды накруціў бы вушы, а гэтага ён толькі страшыць, не хоча з суседам сабачыцца, ды яшчэ з такім суседам, як Ануфрэй, які ўжо шэсць год старастам ходзіць. Можа і ў воласці слова закінуць, калі падатак не справішся ў тэрмін выплаціць.

Чалавек усміхнуўся сам сабе: «А што, калі б Трахім цяпер стрэў мяне на тым самым прыгуменні? Утрупеў бы, мусіць...» Але ўсмешка раптам збегла з твару, і ён ужо стаў жорсткім і насцярожаным. Воддалек пачуўся лёскат колаў і працяжны воклік: «Нно-о-о, каб цябе!..»

Стукат колаў усё набліжаўся, і, нарэшце, са змроку пачала вылучацца цёмная пляма фурманкі, а збоку меншая і рухавейшая — няйначай жарабя. Чалавек прыгнуўся, прайшоў ад дарогі па бульбяніку крокаў з дваццаць і лёг паміж градак. Падняў галаву. Тое, што здавалася раней вялікай цёмнай плямай, цяпер выступіла больш выразна — конь, калёсы, а ў іх чалавек. Але тое, што можна было палічыць за жарабя, раптам забурчала і памкнулася ў бульбянік, спынілася, нібы застыла, і потым пачуўся сярдзіты і баязлівы брэх.

— Кусі, кусі! — зацкавалі з воза.

Сабака пасмялеў, наблізіўся яшчэ на некалькі крокаў і яшчэ зласней пачаў брахаць і скакаць па бульбяніку.

— Вон, каб ты здох! — шыпеў той, што ляжаў у разоры. Ён намацаў на градцы невялікі камень і папусціў у сабаку. Сабака скавытнуў, адскочыўся ды ўжо да рэшты раз'юшаны падскочыў яшчэ бліжэй і скакаў чуць не над самай галавой у чалавека.

— Што там за трасца гэтакая! Тпру...— пачулася з воза. Фурманка супынілася.

«Парве цяпер, воўчае мяса,— падумаў той, што ляжаў у разоры.— Трэба пужнуць».

Ён памацаў рукою кішэнь, выняў і, не мерачыся, стрэліў. Сабака перакаціўся цераз спіну, заенчыў і кінуўся да воза.

Конь ірвануўся і ва ўсю моц памчаўся па дарозе. Фурман чуць не зляцеў з воза, а потым прыпаў галавою ў перадок і смаліў пугаўём каню па клубах, які і так не ведаў, на якім ён свеце знаходзіцца.

Чалавек устаў з разоры і ціха зарагатаў. Ён атрапаў з вопраткі пясок і падаўся далей па дарозе, якая ішла наўкасы цераз палетак да далейшага канца вёскі.

Прайшоўшы яшчэ трохі, чалавек звярнуў з дарогі налева, на шырокую ўдзірванелую мяжу і неўзабаве дайшоў да невялічкага балотца. Гэта быў калдабан сярод поля — гектара паўтара. З поля сюды збягала дажджавая і снегавая вада, а адгэтуль ёй не было куды дзецца. Балотца пасярэдзіне было гразкае і куп'істае. На купінах рос чорнагаловік і асака самага горшага гатунку.

Але кругом ускрай поля была мяккая густая мурава. Чалавек аблюбаваў сабе мясціну, памацаў нагою, каб не было мокра, і лёг.

Ён спачатку пільна прыслухоўваўся. Кругом было ўжо зусім цёмна і ціха. Толькі з вёскі на момант даляталі ўрыўкі нечай гаворкі. Вось рэзнуў цішыню пужлівы і радасны дзявочы віск і смех, і зноў стала ціха.

Чалавек супакоіўся, дастаў папяросу і, хаваючы запалку ў прыгаршчы, прыкурыў. Ляжаў, падпёршы галаву леваю рукою, і раздумліва пацягваў з рукава папяросу.

Вось ледзь пачуўся асцярожны працяглы свіст. Чалавек сеў і насцеражыўся. Нехта зноў свіснуў, ужо трохі смялей. Чалавек адказаў яму такім жа свістам і зноў успёрся на локаць.

— Уладзік, дзе ты тут?

— Гэта ты, Шкурдзя? Ідзі проста на мой голас... Глядзі, дзе блісне агеньчык.

Ён выняў з рукава недакурак і моцна зацягнуўся:

— Во, цяпер бачу.

— А нашы ўсе тут?

— Усе... Гэй, вы, там! — Шкурдзя свіснуў.— Салапякі! Сюды ідзіце,— паклікаў ён у цемнату.

Недзе заплюхала пад нагамі вада, і нехта злосна вылаяўся па-мацернаму. Другі засмяяўся. Потым адна за адной падышлі да гэтых двух чатыры цёмныя постаці.

— Хто гэта тут стрэліў? — запыталася адна постаць.

— Я,— адказаў Уладзік.

— У каго гэта ты? Мы ўжо думалі, што цябе ловяць, хацелі бегчы ратаваць.

— Ат, глупства... Пасля раскажу. Цяпер давайце за работу.

— За работу, дык за работу...— азваўся Шкурдзя.— Толькі кішкі марша граюць. Трэба было б іх трохі паднапхаць.

— А хіба ж вы ў Жагулы не пажывіліся?

— Не, ані макулінкі.

— Нешта мне не верыцца, каб Шкурдзя ад Жагулы галодным пайшоў. Не такі Шкурдзя чалавек.

— Ну, брат, не было калі сёння, спяшаліся. Каб мы там загуляліся, дык і ляжаў бы ты тут цэлую ноч адзін, як воўк, сярод балотца. Дык мы з сабою сяго-таго трохі прыхапілі: вяндліны кусок ды пляшку першака. Не хацеў даваць гугнявы чорт. А я яму кажу: «Нічога не будзе, Мікіта; аддай, а то згубіш».— «Ну, чорт вас, кажа, бяры, свае людзі, трэба даць».— «Сваякі, кажу, мы з табою блізкія. Бальшавікі як зловяць нас, дык і цябе ў адной яме з намі закапаюць». Ну, ён дзядзька не вельмі пужлівы. Потым я, ведаеш, яшчэ Маньку Жагулаву лішні раз ушчыкнуў, дык яна мне цішком кілбасу сухенькую... з часначком, з перчыкам, з імбірчыкам — любата! Але гэта ўжо мая. Сваім мазалём, можна сказаць, зарабіў. Ну, цябе, начальнік, я пачастую. Начальства ўсё-такі. Ды яшчэ нашаму Скубэнту трэба будзе завязку даць з'есці. Ён яшчэ малы, каб рыбы часамі не налавіў. Гэта памагае.

— Заткні старое гаўкала,— адказала адна постаць маладым танклявым голасам.

— Ты, Шкурдзя, такі, мусіць, нюхнуў ужо? — сказаў Уладзік.

— Толькі адзін разочак. Трэба было папрабаваць мацунак, ці варта цягнуць аж сюды гэту пляшку.

— Ну, падмацавацца то мы падмацуемся, але ж трэба разведку выслаць,— сказаў Уладзік.

— Гэта твая справа. Арудуй...

— Слухайце, што я скажу,— загадаў Уладзік.— Мэндрык, ты ўсё ўзяў з сабою, што я табе казаў?

— Як мае быць,— адказаў чалавек з цемры.

— Пераапраніся і прайдзі праз вёску. Глыні там на дарогу... Толькі не дужа.

Неўзабаве вёскаю, пасярод вуліцы, ішоў чалавек — у лапцях, шарачковых портках і старым суконным паліто-не. На плячы, на сукаватай палцы, торбачка з хлебам. Ён ішоў, уважна прыслухоўваючыся і прыглядваючыся. Убачыўшы ў варотах ля шула чалавека, ён прыпыніўся, даў «добры вечар» і папытаўся дарогі на Піліцу.

— Ідзі, чалавеча, проста, аж пакуль пяройдзеш сенажаць. Там упрэшся ў рэчку. Гукнеш паромшчыка, дык ён цябе і перавязе,— адказаў той, што стаяў ля шула.

Чалавек пайшоў далей, размашыста ступаючы па мяккай пескавой вуліцы. Але, выйшаўшы за вёску, ён агледнуўся кругом, звярнуў з дарогі налева і цераз поле пайшоў на Бараўскую дарогу.

Падыходзячы да балотца, ён свіснуў. Яму адказалі.

— Ну, як там у цябе? — спытаўся Уладзік, калі ён падышоў.

— Усё добра. Вартаўнікоў нідзе не відаць, мусіць, зусім не вартуюць. Агонь толькі ў адной хаце, і то, відаць праз акно, пасцель сцелюць. На адной прызбе нехта з марухаю з сваёю яшчэ ціскаецца, але не даждалі яны сядзець цэлу ноч.

— Дзе, далёка?

— Аж у тым канцы, хат з пяць не даходзячы да канца. Я забыўся, як у вас таго гаспадара завуць.

— Ты, Шкурдзя, паглядзіш там.

— Пагляджу. Ды гэта пустое. Я магу з-пад іх выцягнуць тое, на чым яны сядзяць, і яны не пачуюць.

— Ну, добра, пасля будзеш хваліцца. А цяпер завядзеш хлопцаў, пакажаш, у каго і што, як мы ўмовіліся.

— Добра, пакажу... А ты што ж будзеш рабіць? — спытаўся Шкурдзя.

— Я ў госці пайду. Няпрошаны, праўда, госць, але а ну ж як-небудзь згаворымся. Мэндрык са мною пойдзе.

Па-за садкамі, па-за хлявамі, пазавуголлю, гародамі краліся адзін за адным папацёмку ўчатырох, як ваўкі. Туліліся да платоў, прыпыняліся, шапталі, краліся далей.

А той, у гетрах і фрэнчы, ішоў з загумёнак па сцежцы, без асаблівай асцярогі, час ад часу ціха загаворваў з тым, каго ён назваў Мэндрыкам, і нават прабаваў нешта спяваць сам сабе пад нос. Нібы гэта ён хадзіў некуды па справе, запазніўся, справа ўдалася, і цяпер ён ідзе, спакойны і ў добрым гуморы.

Вароты ад гарода ціха рыпнулі, і яны ўвайшлі ў двор. Як гаспадар, якому ўсё тут добра вядома, Уладзік накіраваўся да хлява, дзе стаяць коні. Чуваць было, як яны хрумаюць, жуючы нешта, і ціха пафыркваюць. На варотах вісеў здаравенны, кавальскай работы, замок.

— Пробуй адмычкі,— сказаў Уладзік.

Мэндрык забразгаў вязкай дробных жалезін і пачаў пробаваць імі замок. У яго доўга не ўдавалася. Ад нецярплівасці і страху пачалі дрыжаць рукі.

— Ёсць,— сказаў ён нарэшце.

Клямка ціха бразнула, і дзве цяжкія форткі варот павольна расхінуліся, паказаўшы чорную праламку хлява.

На суседнім двары (мусіць, толькі прачнуўся), счуўшы чужых людзей, забрахаў сабака. Намерыўшыся ўжо ісці ў хлеў, Мэндрык раз ступіў і, сумеўшыся ад сабачага брэху, спыніўся і паглядзеў на Уладзіка.

— Ідзі, не бойся,— сказаў той.— Калі прыйдзе гаспадар, дык я сам з ім пагавару. На запалкі, пасвяці. Бяры сівую кабылу. Той няхай застаецца.

Сабака ўсё брахаў, заложна і аднастайна. Змаўкаў на момант, як бы прыслухоўваўся, і зноў пачынаў брахаць. І па гэтым брэху можна было дагадацца, што нехта чужы ходзіць каля будынкаў.

На другім баку вуліцы адчынілася акно. Папацёмку нельга было разгледзець, хто ў акне, толькі чуваць было, як нехта цкаваў:

— Кусі, Мурза, кусі, кусі!

Сабака пасмялеў і памкнуўся на двор.

«Андрэй пачуў,— падумаў Уладзік.— Руплівы, як і раней. Зараз будзе ісці».

У той жа момант бразнула клямка дзвярэй. Белая постаць, ледзь прыкметная ў змроку, высунулася на вуліцу. Вось яна выступае ўсё выразней, падбліжаецца, крадзецца ля шула, ля сцяны. Стулілася за другою форткаю варот у двух метрах ад Уладзіка. Толькі чуваць было, як стараецца стрымацца, каб не дыхаць. З-за форткі выткнулася лязо нарыхтаванай, паднятай угору сякеры, каб палажыць на месцы таго, хто першы высунецца з варот.

А ў хляве бразнуў цуглямі Мэндрык. Чуваць быў яго асцярожны, прыдушаны голас:

— Стой, дурная... Дай лоб!

— Андрэй, пастаў сякеру,— сказаў Уладзік, сціскаючы на ўсякі выпадак у руцэ рэвальвер.

— А!.. Хто гэта тут?! — пачуўся трывожны і недаверлівы голас брата.

— Ужо і голасу майго не пазнаеш?

— Гэта ты, Уладзік?

— Як чуеш.

Андрэй выйшаў з-за форткі ўвесь белы — у адной кашулі і споднiках.

— Дык што гэта ты надумаўся рабіць?

— Думаю ў цябе кабылу ўкрасці.

— Вар'яцееш ты ўжо, мусіць. Хіба табе без мае кабылы не хапае? Коней повен свет.

— Не хачу, каб ты адзін раскашаўся на тым, што бацька ды мы ўсе нажылі. Злосць мяне бярэ, калі я падумаю пра гэта. Пакінуў чорту лысаму — бальшавікі ўсё роўна спажывуць. Ты думаеш, гэта так усё і будзе? Дабяруцца яны яшчэ да цябе. А можа, і ты ўжо ў камуністы падаўся? Дык забірай мяне, вядзі.

— Няхай іх жывот возьме разам з табою. Праз цябе яны і мяне зацягалі па допытах. Дзесяць раз ператрэслі, спакою не даюць.

— А кабылу я ўсё-такі вазьму. Няхай будзе гэта з тае часткі, якая мне з гаспадаркі належыць. Не пайду ж я судзіцца ў ваш бальшавіцкі суд, каб частку сваю адсудзіць,— сам вазьму.

— Не дам кабылы! — ускіпеў Андрэй, сашчапіўшы зубы, і замахнуўся сякерай.

Невысокі, прысадзісты, але карчакаваты і моцны, як бярозавы камель, ён гатоў быў цяпер раскроіць таго да пояса. Але той адскочыўся ўжо крокаў на два і наставіў рэвальвер:

— Аддасі, а дзе ты дзенешся? Палажы сякеру! Мэндрык, выводзь кабылу, садзіся і сып, куды я табе казаў. Я там хутка буду.

Мэндрык, які, прытаіўшыся ў хляве, слухаў спрэчку братоў, вывеў кабылу, забягаючы, каб не ісці з таго боку, дзе стаяў Андрэй. Адвёўшы за вароты на гарод, ён ускочыў верхам і рвануў з месца галопам на прыгумень.

— Дурны ты,— сказаў спакойна Уладзік брату, які ўсё яшчэ стаяў насуплены, збычыўшы галаву і скоса пазіраючы.— І табе лепш будзе. Не так вязацца будуць.

Цяпер, дзе што якое здарыцца, дык усё на мяне. А тады — хто гэта падумае, што я ў цябе кабылу ўкраў. Значыць, нейкая другая банда ёсць, і на нас з табою трохі забудуцца.

— А рабіць на чым жа я буду?

— Ну, Гнеды яшчэ дужы, хоць і стары.

— Дык хоць бы ты мне грошай даў на другога каня. У цябе іх, напэўна, хапае. Не з мазаля жывеш.

— Я грошы не збіраю і не кладу ў паклад. Што ўварву — прагуляю. Вось перабяруся з коньмі за мяжу, дык і грошы будуць. Паны конніцу фарміруюць, добра плацяць. А мо якога дзядзьку памацаю на дарозе ў кірмашовы дзень. Калі што якое, перашлю сваім чалавекам. На рынку знойдзе цябе. Ну, дай руку. Не будзем гнявацца адзін на аднаго — мы ўсё ж такі браты. Жонцы і Наталлі нічога не кажы, не трэба лішняй гаворкі.

Андрэй моўчкі і як бы нехаця падаў руку.

Калі Уладзік знік у гародзе за варотамі, Андрэй увайшоў у хлеў і прыпёрся плячыма да загарады каля Гнедага. Гнеды жаваў усё канюшынную атаву, але часамі хрумание сціхала. Заціснуўшы ў зубах атаву, ён трошкі паварочваў галаву і касіў адным вокам на вароты. Нарэшце падняў галаву і заржаў. Андрэй моўчкі паляпаў яго рукою па шыі. Конь супакоіўся, нагнуўся над жолабам і зноў стаў папоўніцы есці атаву.

Андрэй хацеў абдумаць тое, што здарылася, але быў занадта ўсхваляваны, рукі і ногі яго яшчэ дрыжалі, і шчокі гарэлі. Адно, што выразна ён цяпер адчуваў,— гэта шкода было кабылы, і таму была страшэнная злосць на некага. Не то на Уладзіка, які ўжо каторы год швэндаецца цераз граніцу сюды і туды, пра якога па ўсёй воласці ходзяць нядобрыя чуткі, не то на ўладу, якая, па яго думцы, «чаплялася» да яго дарэмна, дыхнуць спакойна не давала,— усё праз Уладзіка. А хіба Уладзік гэтак рабіў бы, каб яны за ім не ганяліся, каб яму можна было прыйсці дадому і спакойна жыць? Але з глыбіні свядомасці, праз крыўду і яшчэ не астылую злосць, прабівалася нешта прыемнае, нейкая палёгка, пакуль што яшчэ не зусім ясная. Праз хвіліну гэта сфарміравалася ў выразную думку: «Цяпер мяне, можа, чапаць не будуць, а каня другога як-небудзь набуду, з гаспадаркі яшчэ можна выціснуць». Пасля ўздумаў пра нібы абяцаныя Уладзікам грошы, і злосць яго растала зусім, шчымела толькі адно — усё ж шкада было кабылы. «Трэба ісці легчы, можа, лепш разбяруся»,— падумаў ён, мацнуў рукою ў жолабе Гнедага, узяў з кабы-

лінага жолаба атаву, што яна не паспела з'есці, палажыў яе Гнедаму, пляснуў яго рукою па крыжы і выйшаў з хлява. Вароты ён прычыніў, але на клямку не зашчэпліваў. Замок, на які наступіў нагою, падняў, пакруціў у руках і зноў кінуў ля варот: «Няхай будзе, як было»,— і пайшоў у хату.

## II

Сонца яшчэ не паказалася з-за высокага бору ў канцы вёскі, і ён, спакойна-задуменны і вастраверхі, быў як бы намаляваны на чырвані неба. Стрэхі зацягнены шэранню вераснёвага прымаразку, нібы павуціннем засланы. Зямля вільготная зверху, і на ёй месцам таксама прыкметны налёт замаразку, які пячэ босыя ногі, і яны робяцца чырвоныя, як гусіныя лапы. Але жанчына не адчувае гэтага холаду. Проставалосая, раструханая, у адной кашулі і саматканай спадніцы яна бяжыць, задыхаючыся, пасярод вуліцы, на якой яшчэ няма людзей. Пасмы яе цёмнарусых валасоў прыліпаюць да мокрага ад слёз твару. Яна падтрымлівае рукою цяжкія, налітыя малаком грудзі, якія перашкаджаюць ёй бегчы і вылузваюцца з расхлістанай пазухі. Яна раз-два ступіць, каб перадыхнуць, і потым зноў трушком, хліпаючы і задыхаючыся.

Дабегла, бразнула моцна клямкаю — не адчыняецца. Падбегла да акна і загрукатала кулаком у раму:

— Язэпка, братачка, адчыні,— бяда!

Шоргнула ў сенцах жалезная засаўка, і ў прыадчыненых дзвярах паказаўся член сельсавета, высокі, хударлявы і чарнамазы, у выпушчанай на споднікі кужэльнай кашулі.

— Што ў цябе такое? — устрывожана пытаецца ён.

— Каня... укралі. Язэпка, родненькі, саколік, ратуй жа ты нас. Можа ж бы ты ў міліцыю... ці людзям бы сказаў, каб памаглі шукаць,— гаварыла яна праз плач, уваходзячы за Язэпам у хату.

— Можа, ты яшчэ дарэмна бядуеш, можа, сам конь выперся з хлява,— сказаў Язэп, каб хоць чым-небудзь заспакоіць жанчыну, хоць і сам ужо не верыў у тое, што казаў.

— Дзе ж ты, братачка, бачыў, як жа ён мог выперціся, калі замкнёны быў. І прабой жа вырваны, і аброці няма, а яна ж вісела на калку над яслямі... Ой, божачка, ды ўжо ж мы рады былі, што ён гэтакі сабе вясёлы ды дужы, бо ведама ж гэтак нагараваліся, пакуль нажылі, цэлыя ж два

гады аб посным... Кароўку збылі, з цялушкаю засталіся, хлеба і таго ўволю не елі, бульбай жывіліся... А цяпер... Згубілі, зусім згубілі!..— І яна зноў захліпала.

— Прыпрыся ж ты, вось хоць тут на зэдліку,— сказала Язэпіха, засцілаючы пасцель.— Усё роўна ўжо...

Што ўсё роўна, яна гэтага не магла выказаць. Сказала таму, што ў такіх выпадках трэба было неяк паспачуваць чалавеку ў бядзе, сказаць яму ласкавае слова.

Ганскі адчуваў, што, як член сельсавета, павінен тут нешта зрабіць, што ў вёсцы нейкі вялікі непарадак, але што яму трэба было рабіць, гэтага ён якраз і не ведаў. Трэба было мець вінаватага, каб пайсці да яго і сказаць: «Ты нядобра робіш,— гэта не па закону. Вось гэтак трэба рабіць». Але вінаватага — злаві яго, папрабуй. Заняты гэтымі сваімі няпэўнымі думкамі і адчуваннямі, ён таксама ўслед за жонкаю сказаў:

— Але, Ганна, прысядзь трохі. Я вось толькі абуюся...

— Не, родненькія, дзяцей жа адных пакінула, пабягу.

— А Пятрусь жа дома?

— Дзе вы бачылі!.. Пабег шукаць... З Тамашом Кірыкам удвух. Дык каб жа ведаў хоць, у які бок бегчы...

— Але. Злодзею, як кажаш, адна дарога, а хто шукае, таму многа,— згадзілася Ганская.

— Дык я ж, Язэпка, пайду ўжо. Ты, братачка, назнач яшчэ людзей, каб памаглі шукаць, ды, можа, у міліцыю хто б з'ездзіў,— прасіла яна, трымаючыся ўжо за клямку.

Каля Верамейчыка на вуліцы сабралася чарада мужчын. Гаварылі пра адно: пра тое, што здарылася ў мінулую ноч. Кожнаму хацелася сказаць, што ён ведаў, і самому пачуць нешта яшчэ новае, нячутнае, а можа, і чутнае, але расказанае нанава, з новымі падрабязнасцямі і меркаваннямі. Разам з гэтым успаміналіся розныя іншыя падобныя здарэнні, што былі калі-небудзь і дзе-небудзь.

— Але, скажы ты, неяк жа яны ўзялі, што і не чуў ніхто! І замкі — ці гэта яны паадмыкалі, ці паламалі?

— Вунь, кажа, у Баранка зусім хлеў адамкнёны быў.

— Вось чалавек! Трэба ж яму, такога каня меўшы...

— Замыкаў, кажа, усё лета. А то замок сапсаваўся, дык занёс да каваля. А таму ўсё часу не было ўзяцца за яго. Дык ён і не замыкаў хлява: «Ат, думае, ці якраз ужо ў гэту ноч злодзей і палезе». Адно ж вось табе...

Тодар Кірык гаварыў пра тое, што ён ведаў, ахвотна. Ён ганарыўся тым, што ведае больш за іншых, і ўсе яго з такою цікавасцю слухаюць. А ведаў ён заўсёды шмат. Невялікі, хударлявы, танканогі, толькі з досыць вялікімі

і густымі светла-русымі вусамі, ён усім цікавіўся, заўсёды чым-небудзь захапляўся ці абураўся, і ўсё гэта так сабе, без якой-небудзь для сябе карысці. Устаўшы зранку і дагледзеўшы (калі гэта было зімою) жывёлу, якой у яго было не многа,— конь, карова ды адна свіння,— ён абягаў некалькі хат, не затрымліваючыся ні ў адной доўга, падхопліваў у кожнай якую-небудзь навіну, пераносіў яе ў другую і праз якую гадзіну ці дзве меў сабе запасу навін на цэлы дзень, каб расказваць іх кожнаму, з кім сустракаўся. Часта здаралася так, што ён забываўся, ад каго пачуў тую ці іншую навіну, і, сустрэўшыся, расказваў яе таму, ад каго пачуў раней сам, і расказваў так, нібы ўсё гэта бачыў на свае вочы і чуў на свае вушы. За гэткія свае здольнасці збіраць і разносіць навіны яго ў вёсцы празвалі Поштай. Сягоння жыла, трапяталася і гарэла ўся яго шчуплая істота,— гэтакіх навін яму даўно не здаралася разносіць па сяле, і ён ахвотна гаварыў далей:

— У Соміка адамкнулі, ключ падабралі, а ў Петруся Кухара прабой вырвалі. І шуло ж новае, летась толькі паставіў, прабой гэтакі здаровы, і неяк жа вылупілі.

— Даўно ж ужо не было гэтага ў Мядзведзічах. Аж з таго часу, як у Марціна Крываношкі пару коней вывелі ды на пасэсара злажылі. Нашарохалі тады добра пасэсара, пацягалі па допытах, але ніхто дакладна даказаць не мог — апраўдалі. Ды не іначай гэта ён, бо з таго часу ціха стала. А цяпер вось зноў... Каб сказаў — хто з сваіх, дык няма на каго падумаць.

— Хіба мала ўсялякай брыды цягаецца яшчэ па лесе, апрача сваіх,— заўважыў мнагазначна Кастусь Верамейчык, чалавек прыцісліві, скрытны і на словы асцярожны, які, гаворачы, заўсёды думае, каб не ўгаварыцца і, калі што якое, каб можна было назад адгаварыцца.

— Ну, каб гэта я злавіў у сваім хляве,— важка сказаў Ціхон Зязюля,— жывога не пусціў бы. Ужо мне што б было пасля, а яму зрабіў бы канцы.

Усе на момант замоўклі. Кожны падумаў сам сабе, што гэты так і зрабіў бы. Не дарэмна ў вёсцы празвалі яго Грамабоем. Росту вышэй сярэдняга, шырачэзны ў плячах, сінявокі і шыракатвары, ён быў на вёсцы першы свавольнік і задзірака, нікому з дарогі не саступаў і, калі што чужое займаў, дык людзі скарэй згодны былі яму перапусціць, чым мелі займацца з гэтакім. Яшчэ і дагэтуль усе ў вёсцы памяталі, як ён адбіў печані Сідараваму хлопцу, калі той незнарок упусціў карову ў Грамабоеву віку. Хлопец нешта з год пачэўраў ды даўся.

— Вельмі ты яго зловіш. Ён ідзе, то ўжо цікуе, як ты дзе паварочваешся,— абазваўся, нарэшце, адзін з мужчын.— Ды зноў жа не вельмі ён да сябе і падпусціць: ідзе на такую справу, то не без прыпасу. Стукне з-за вугла чым па галаве або нажом парне ў жывот, і сышчы тады ў небе.

— Гэта каб сабаку добрага меў.

— І сабаку твайго прылашчаць, і каня ўкрадуць, і сам ты чуць не будзеш.

— Ну, брат, добрага сабаку не вельмі прылашчыш,— умяшаўся тут Сцяпан Варанец, якога за вочы або ў лаянцы звалі проста Варона.— Вунь у Ваўчэцкага на хутары быў сабака, дык такога прылашч пайдзі. Ён цябе так прылашчыць, што і за месяц не выкачаешся. Гэта я летась быў у яго на рабоце, адрыну крыў, дык ён навязаны, а ці паверыш, страшна па двары прайсці. Калдунаваты ды вялізны, як стане дубка, дык роўны з чалавекам,— а няхай ты здохні! Калі рванецца, дык, здаецца, і ланцуг той паляціць к чорту. Я — цюцечка, цюцечка! — і сала прабаваў кідаць — не бярэ, воўчае мяса! А то раз, казалі, з ланцуга сарваўся ды за вароты вырабіўся. А там на дарозе чалавек сена вёз, сам на возе сядзеў. Дык ён, каб ён здох, як бег, дык чуць не на самы воз ускочыў, лапамі за рубель ухапіўся. Добра, што ў таго якраз граблі на возе былі, то ён стаўпцом яму па лбе стукнуў, дык той адкінуўся, а то парваў бы, з воза б сцягнуў.

— У Жагулы таксама добрыя сабакі. Вось няхай толькі сучка Жагулава ашчэніцца, непрыменна шчанюка вазьму,— рашыў раптам Тодар Пошта.

— Так табе Жагула і даў шчанюка! Не той Жагула, каб ён абы-каму раскідаўся сваім дабром.

— Дасць. Папрашу хораша. Адраблю два, тры дні, колькі скажа, а шчанюка дастану. Жыў не буду, калі не дастану. Выгадую, вось будзе сабака!

— Нашто ж ён табе?

— Чаму нашто? Свой вартаўнік будзе. Каня нечага ніхто не ўкрадзе.

Мужчыны дружна зарагаталі. Смешна было, што Пошта баіцца, каб у яго каня не ўкралі. Ніводзін злодзей не пакваціў бы на Тодаравага каня. Конь у Пошты стары, маленькі, трыбухаты. Бегчы іначай не ўмее, як толькі трушком: перабірае нагамі, усё роўна, як проса таўчэ. На Поштавым кані злодзея дагнаў бы пяшком не толькі сам Пошта, а любы чалавек і не з такімі лёгкімі нагамі.

Пошта скеміў, што ён тут трохі ўгаварыўся, і стараўся паправіцца:

— Ды добра вось і курэй з ячменю паганяе, свінні ў гарод улезуць — таксама. А то сёлета твая, Ціхон, свіння паўганок бульбы ў мяне выкапала, і рады ёй не даць. Ты хоць бы ў хляве яе трохі патрымаў.

— Ну, дзеля мае свінні не варта адрабляць за сабаку. Я яе зараз у катух засаджу, карміць буду,— азваўся Грамабой.— Я табе лепш параю, што табе з сабакам рабіць: ты яго каля Тэклінага ложка навяжы, каб да яе хлопцы не хадзілі. Сам тады будзеш спаць насмелую.

Мужчыны зноў зарагаталі яшчэ дружней і мацней. Па сяле хадзілі чуткі, што да Тодаравай жонкі, кірпатай і рабой, але здаровай маладзіцы, сапраўды хадзілі хлопцы. Казалі нават, што сам Тодар пра гэта ведаў, але цярпеў і зносіў, бо калі ён раз упікнуў гэтым жонку, дык яна нібыта проста яму адрэзала: «Калі ты, сапляк, не можаш даставіць сваёй жонцы, чаго яе душа хоча, дык я сама пра гэта падбаю. А калі табе гэта не ў нос, дык чорт цябе бяры, я і без цябе пражыву». І Тодар, казалі, цярпеў, бо баяўся страціць жонку, якую ён, нягледзячы на ўсё, любіў усім сваім шчуплым сэрцам. Ён і цяпер зачырванеўся, збянтэжыўся, нешта невыразнае буркнуў сабе ў вусы, варожа глянуўшы на Грамабоя, і змоўчаў.

Памаўчаўшы трохі, пакуль мужчыны нешта гаварылі, ён неспадзеўкі бахнуў:

— А я ведаю, хто коні пакраў.

Усе аглянуліся на яго, хто з зацікаўленасцю, хто недаверліва, а Грамабой зняважліва адтапырыў ніжнюю губу.

— Бо, можа, і ты памагаў? — кіўнуў, жартуючы, Кастусь Верамейчык, які падумаў, што Пошта, напэўна, трэплецца і таму лепш да гэтага сур'ёзна не ставіцца.

— Хто ў Польшчу ўцёк, той і коні пакраў,— упэўнена заявіў Пошта, узрадаваўшыся, што ўжо зноў цікавяцца ім і тым, што ён гаворыць.

— Адкуль жа ты ведаеш?

— А калі ён заальхоўскага чалавека стрэў на дарозе ды каня і грошы адабраў, калі пошту з грашыма пераняў, дык і гэта яго рук не мінула.

— Так, пане ты мой, яшчэ нельга гаварыць. Мала што... Не злавіў — не злодзей, як тыя людзі кажуць. Чалавек, можа, богу душою не вінават, а на яго, бывае, зваляць,— умяшаўся ў гаворку Сцяпан Варанец. Сказаў так не таму, што не верыў Тодару, наадварот, сам сабе ён думаў, што яно скарэй за ўсё так і будзе, як Пошта кажа. А супярэчыў ён, так сказаць, прынцыпова, не можна, бачыце, абвінавачваць чалавека, калі добра не ведаеш.

Дарэчы і прыклад у яго добры быў, пра які ён тут жа і пачаў расказваць.

— Памятаеце, як ужо, мусіць, гадоў з пятнаццаць таму назад у мястэчку ў татарына Сюлі аўчыны з вырабу пакралі? Усе казалі, што гэта ён сам украў аўчыны, якія яму людзі ў выраб аддалі. А потым, як дазналіся, дык вунь яно што...

Але тут ён павінен быў перапыніцца, каб адказаць на «дзень добры» Андрэя Каржакевіча. Той, прывітаўшыся, хвіліну маўчаў і моцна зацягваўся папяросай, якую трымаў у пальцах. Уся яго невысокая прысадзістая постаць, здавалася, яшчэ больш урасла ў зямлю. Сам ён здаваўся невясёлым і моцна заклапочаным. Яго невялікія, нейкія рудыя, глыбока пасаджаныя вочы трывожна бегалі.

— Ці не ведаеце (вы тут блізка жывяце?), член сельсавета дома ці мо пайшоў куды? — спытаўся ў мужчын.

— Ды не відаць было ідучы, мусіць, дома яшчэ,— адказаў Верамейчык.

— А вам нашто гэта ён? Ці не здарылася што? — не сцярпеўшы, запытаўся Сцяпан Варанец. Даўнейшы аўтарытэт Каржакевіча як самага багатага ў вёсцы гаспадара і амаль самага пісьменнага чалавека, які да таго ж знаўся некалі з валасным панствам, яшчэ і дагэтуль не пахіснуўся ў некаторых мядзведзіцкіх: шмат хто з іх казаў яму «вы».

— Ды дайце рады — кабылу ўкралі,— яшчэ больш спахмурнеўшы, адказаў Каржакевіч.

Здзіўленыя мужчыны глянулі адзін на аднаго.

— Ганскі і сам сюды ідзе,— заўважыў Верамейчык.

— Мужчынкі, ці вы чулі, што гэта робіцца? — гукнуў ён яшчэ здалёк.

— Мы ўжо даўно чулі, гэта ты, як начальства, дык позна спіш, цяпер толькі пачуў,— пакпіў Грамабой.

— Дык што гэта вы сабе думаеце? Гэта ж трэба неяк ратаваць людзей. Можа, пайшлі б вы шукаць памаглі, каму час ёсць.

Мужчыны прымоўклі, чакаючы адзін на аднаго,— можа, хто і падахвоціцца.

— Ды, сказаць, дзе той час,— азваўся, нарэшце, Варанец.

— У мяне дык жыта яшчэ не пасеяна. Там, на Доўгіх, ганок са двое пад бульбай было, дык учора толькі выбралі...

— Язэп, шукаць жа пайшлі ўжо! — крыкнуў тут Пошта.— У каго коні пакралі, самі пайшлі, ды яшчэ ў каго

сваякі, суседзі. Чалавек, мусіць, з дзесяць пайшло ва ўсе бакі. Мусіць жа, і ў Андрэя нехта пайшоў? — дапытліва глянуў ён на Каржакевіча.

— Чаму, і ў цябе ўкралі? — здзіўлена запытаўся Ганскі.

— Але, брат, кабылу ўкралі. Я папрасіў швагра, той пайшоў. Сам я думаю ў мястэчка з'ездзіць, у міліцыю заявіць. Там у мяне нават і начальнік міліцыі знаёмы, дык мо скарэй што зробіць. Гэта я ішоў да цябе сказаць, каб ты ведаў. Можа, і сам паедзеш?

Андрэй не спадзяваўся на тое, што коні знойдуць,— не ў тыя рукі папалі. Але, урэшце, чорт яму і верыў, гатовы дзе-небудзь натрапіць. Для яго гэта было б вельмі нядобра. Таму ён і не пайшоў шукаць разам з людзьмі, але, каб не выклікаць падазрэння, надумаўся ехаць у міліцыю, зусім не думаючы спяшацца вельмі, каб заявіць аб пакражы.

— Вось добра! — зарадаваўся Ганскі.— А я думаў ужо каго-небудзь з мужчын прасіць. Дык я з табою пад'еду ў сельсавет.

— Добра. Я пайду запрагаць.

— Ага, ідзі, а я пайду тым часам перакушу чаго трохі.

Андрэй Каржакевіч жыў на другім канцы вёскі, і ў гэтым канцы яшчэ не ведалі, што і яго кабылу ўкралі, аж пакуль ён сам не прыйшоў.

Калі Каржакевіч і Ганскі адышліся ад мужчын, дык кожны з мужчын ведаў, пра што далей будзе гаворка, але чакалі, хто першы пачне. Пачаў Грамабой. Павярнуўшы трохі галаву да Пошты, ён іранічна запытаўся:

— Ну, што, пустабрэх? Хто коні пакраў?

— Чорт яго... а што я ведаю. Людзі казалі, дык і я кажу,— апраўдваўся той.

— Які табе сабака казаў?

— Казалі, усе кажуць.

— Такія, як і ты,— зняважліва кінуў Грамабой.

— Во, я ж казаў, што не можна так, без дай прычыны, на чалавека віну ўскладаць,— зарадаваўся Сцяпан Варанец, што на яго выйшла.

— Але, вось і скажы тут на каго,— загаварыў спакойна Верамейчык.— А кабыла Андрэева — важная кабыла! Не скора такую цяпер набудзеш. Чалавеку цяпер проста хоць ты разарвіся з жалю.

— Ну, па ім то плакаць вельмі няма чаго. Гэты набудзе. Сам з чортавых зубоў можа вырваць, добрая цаца,— сказаў Варанец Рыгор, які дагэтуль у гаворку не ўмешваў-

ся. Гэта быў стрыечны брат Сцяпана Вароны, і з твару трохі падобны быў да яго — такі ж самы кірпаты з шырокімі ноздрамі нос, шыракаваты рот з тонкімі сціснутымі губамі і падбародак шырокі падаўся трохі наперад. Нягледзячы на тое, што быў маладзейшы за Сцяпана, выглядаў ён сталей. Калі той быў занадта гаваркі, дык гэты хутчэй маўклівы, гаварыў толькі тады, калі канечне трэба было, і, не падумаўшы, не гаварыў ніколі.

Верамейчык ужо каяўся, што паспачуваў Андрэю Каржакевічу. Рыгор, мусіць, ужо так і думае, што Верамейчык цягне за багатага. Не пашкадаваў вось Кухара, а Каржакевіча пашкадаваў. І заўсёды гэты Рыгор: стаіць, маўчыць, чорт яго ведае, што ён думае. Толькі хочаш з людзьмі слова сказаць, забудзешся, што ён ёсць тут, а ён і секане табе. З чалавекам бяда здарылася, пашкадаваў чалавека, дык і гэта нядобра,— чаму яго, а не другога. А для Верамейчыка ўсе яны роўныя, ні з кім ён не сварыўся, ніхто ў яго нічога не заняў. Але ж нешта Рыгору трэба адказаць і чорт яго ведае што: адкажаш ды зноў не патрапіш.

— Дык я і не плачу. Што мне ён — сват ці брат? Я толькі пра кабылу. Кабыла вельмі ж важная. Скажам, Кухараў конь таксама не кепскі, але ж гэтакіх коней шмат ёсць у людзей,— апраўдваўся ён.

— Шмат, ды дарэмна людзі не даюць. А мазалём каня таксама за месяц не набудзеш. Заўтра жыта сеяць, дык Андрэй паедзе на тым, што астаўся, ды пасее ўсё-такі, а не ўправіцца на адным, дык другога дастане, хоць не такога, як кабыла. А Петрусю няма за што і рук зацяць. Прыйдзе да цябе ды скажа: «Дай, Кастусь, каня жыта забаранаваць».

— Да мяне... У мяне самога яшчэ работы шмат. Вунь іржэўнік увесь нявораты.

— Ну, вось бачыш. А яму ж што рабіць?

— Адкуль жа я ведаю, няхай у камітэт ідзе... Ды адстань ты ад мяне, чалавек! Вось прывязаўся! Быццам я гэта вінават, што ў Петруся каня ўкралі.

— А ты, Рыгор, купіў бы Петрусю каня, калі ў цябе так па ім сэрца баліць,— умяшаўся Грамабой.

— У цябе не забаліць. Ты сам бы ў другога зубамі сэрца вырваў,— агрызнуўся Рыгор.

— На чорта мне тваё сэрца. У мяне ёсць што кусаць без твайго сэрца. Гэта вы рвяце з усіх бакоў, сквапныя на чужое дабро.

— Шмат у цябе нарвалі... Хіба яшчэ рвануць, можа.

— Хваробу, не дачакацца табе!

— Ды кіньце вы, мужчыны! За чужыя коні сварку ўзнялі,— пачаў мірыць іх Сцяпан Варанец.

Гутарка далей ужо не клеілася. Пошту жонка паклікала, каб ішоў вады прынёс, а за ім і іншыя, хто па якой прычыне, разышліся па хатах.

## III

Коней шукалі траха не цэлы дзень. Некаторыя павaрочаліся адвячоркам, калі сонца, стомленае і пачырванелае, спаўзло ўжо на самыя стрэхі Дымаўкі, а некаторыя дык і зусім на змярканні. Прайшлі па ўсіх дарогах мо на вёрст дзесяць ад Мядзведзіч. Пыталіся ў вёсках і па дарозе ў людзей: ці не чулі, можа, хто моцна ехаў цераз вёску, ці не бачылі вось такіх коней. Ніхто не чуў і не бачыў. Абышлі ўсе закануркі паблізу вёскі — можа, дзе да часу зладзеі кінулі коні. Нічога нідзе не знайшлі. Спачатку яшчэ была сякая-такая надзея. Ад хлява Соміка па сцежцы на прыгуменне і далей па загуменню пайшоў свежы след Сомікавага каня. Конь яго быў падкуты на перад і гакі ў падковах былі не кавальскай работы, а куплёныя, штыфтавыя, што прышрубоўваюцца. Ад іх на цвёрдай зямлі заставаліся круглыя ямачкі. След гэты павёў па загуменню, а далей цераз поле ў лес, трохі прайшоў каля лесу па дарожцы і раптам знік. На імху і шыпульках у лесе ніякіх слядоў нельга было ўбачыць.

Заходзілі да Жагулы, што жыў на хутары сярод лесу.

— Ці не заходзіў да цябе хто ўчора ўдзень ці вечарам? Ці не праязджаў уночы каля цябе?

— Не, мужчынкі, ніхто не заходзіў, і не праязджаў ніхто. Сабакі маўчалі цэлую ноч. Там тае ночы дык з вечара завінуліся моцна брахаць — мусіць, воўк блізка падышоў. Я ўзяў стрэльбу, разы два пужнуў, то яны і супакоіліся. Не іначай воўк. А гэтай ночы ўсю ноч спакойна было,— хлусіў Жагула, не маргнуўшы вокам.

Прыйшлося яму верыць, хоць Петруся Кухара і цюкнула, што Жагула занадта спакойна ўжо гаворыць пра ўсё гэта, нібы ён загадзя да гэтага падрыхтаваўся, што Манька Жагулава нешта вельмі вёртка вільнула за дзверы сваім гладкім азадкам, што ў старой Жагуліхі якраз на той час у печы дровы раскаціліся і яна так старанна ўзялася іх папраўляць, аж нават і не чула, аб чым гаварылася ў хаце. Але ж сілаю яго за язык не пацягнеш; верыш не верыш, а нічога не зробіш.

Паварочаліся людзі дадому ні з чым. Моцна прысцігнула гора. Здавалася, канца і краю няма яму і ніколі ад яго не адкараскацца. Але пераносілі яны гэта гора па-рознаму. Пятрусь Кухар маўклівы, з глыбока запалымі маркотнымі вачыма, аж згорбіўся неяк за гэты дзень: нібы непамернае гора ўсім сваім цяжарам гняло яго да зямлі. Ён нікому не скардзіўся, ні на кога не наракаў, і ні з кім не хацелася яму гаварыць. Цяжкія думкі ахінулі яго галаву, і не відаць было праз іх ніякага прасвятлення.

Баранок жа не мог вытрымаць свайго гора сам-насам. Ён ішоў па вёсцы, прыпыняўся каля кожнай чародкі людзей, кожнаму, каго сустракаў на вуліцы, расказваў пяты, дзесяты, дваццаты раз, як ён усё лета замыкаў хлеў і каня на начлег не пускаў, як сапсаваўся замок і як якраз у гэты час укралі яго каня. Сам ён бедаваў, людзі яго шкадавалі і памагалі бедаваць, і ў гэтым ён меў сабе нейкую палёгку.

Зусім інакш трымаўся Сомік. І тое, што шкада было каня, і стома ад хады нашча праз цэлы дзень — усё гэта танула ў яго непамернай злосці. Яна поўніла ўсю яго істоту, пераlівалася цераз берагі, пырскала, біла фантанам. Злосць гэта павялічвалася яшчэ, што не было таго, на каго яна павінна была наваліцца. Выходзячы ў пошукі, ён моцна штурхануў жонку, якая сказала яму слова напоперак ці проста адважылася нешта параіць. Увесь дзень ён кляў на чым свет стаіць члена сельсавета Язэпа Ганскага, што той не глядзіць, каб варта была на сяле, крыў наогул уладу, што яна не можа рады даць разбойнікам ды зладзеям, якія не даюць спакойна пажыць на свеце. Пад вечар — здалося яму — знайшоў вінаватага, на якога і накіраваў усю сваю злосць. Калі ён перад змярканнем увайшоў у вёску, дык яго прарэзлівы тонкі голас загайсаў па ўсёй вёсцы, нервуючы нават найбольш спакойных. Яго тонкія пабялелыя губы, ледзь прыкметныя ў агніста-рыжым кароткім шчаціннi барады і вусоў, былі запенены, на твары скакаў і дрыжаў кожны мускул, трапяталася кожная рыса.

— Зладзюгі! Абармоты! Астрожнікі! Згубіцелі! Усё сяло за сведку запішу, усе скажуць, што Наздрэйкі коні пакралі,— крычаў ён, ідучы па вуліцах і грозячы ў паветра кулакамі.— Усе ведаюць, што яны падлогу ў магазіне ўзадралі ды дошкі пакралі, што яны снапы ў мяне з азярода пацягалі, што не іначай яны і сала Тарасікава з свірна пакралі. І коні таксама іх рук не мінулі.

Людзі, пачуўшы яго крык, выбягалі на вуліцу. Некаторыя спачувалі, больш дзівіліся і не ведалі — не то верыць яму, не то не. Можа, і сапраўды ён знайшоў якія-небудзь доказы на Наздрэйку.

А доказы ў Соміка былі слабыя. Што Наздрэйкі, бацька з сынам, уздзіралі падлогу ў магазіне,— гэта праўда. Але кралі з магазіна не адны Наздрэйкі. І засекі паразбіралі, і падлогу паўздзіралі, і нават дзверы з завесаў пазнімалі. Пакінулі адны голыя сцены.

У гэты магазін да вайны ссыпалі збожжа ўсёй вёскаю. Не раз у гэтым збожжы пагрэў быў рукі і Андрэя Каржакевіча бацька за шэсць гадоў свайго старастоўства. За час вайны засекі былі ачышчаны, магазін пуставаў і на яго забыліся. А калі пра магазін зноў успомнілі — успомніла толькі што арганізаваная ў Мядзведзічах камсамольская ячэйка, якая надумалася зрабіць з магазіна клуб,— дык тады ўбачылі, што ад магазіна засталіся толькі сцены ды страха.

Камсамольцы на сходзе паднялі крык. Пачалі шукаць вінаватых. Але іх было вельмі шмат, і кожны з іх адказваўся тым, што «ўсе бралі, дык і я браў. Хіба ж гэта крадзеж?» На Наздрэйкаў нападалі больш, чым на іншых. Яны цягалі дошкі, нават не хаваючыся, удзень. Але ўсім ясна было, што не адны Наздрэйкі расцягнулі магазін. Так яно і засталося. На падлогу, на лаўкі ды на сцэну пачалі збіраць дошкі з усёй вёскі, а вінаватых шукаць пакінулі.

А снапы ў Соміка залетась сапраўды пакраў нехта з азярода. Снапоў з дзесяць аўса недалічыўся Сомік. Ён тады бажыўся, што след пайшоў (нацярушана было) аж пад самую адрыну Наздрэйкаву. І Тодар Пошта як быццам гэта бачыў.

На вёсцы гаварылі, што проста стары Наздрэйка захацеў каня падкарміць, каб лепш плуг цягнуў, як паедзе на жыта араць. Ну, а свайго аўса ў яго нямнога было. Дык ён пашкадаваў, на далей, на зіму пакідаў. Як там ні было, але тады Сомік насмерць палаяўся, аж чуць не пабіўся з Наздрэйкам. Хацеў на суд падаваць, ды людзі адгаварылі; казалі, што неяк сорам і судзіцца за дзесяць снапоў аўса. Але з таго часу, якая б у вёсцы пакража ні здарылася, Сомік казаў, што гэта не іначай Наздрэйкі.

Стары Наздрэйка сапраўды меў нядобрую прывычку прыбіраць (праўда, драбніцу толькі), калі што ў каго дрэнна ляжыць. Патрэбен, напрыклад, Наздрэйку рубель воз уціснуць. У лес ісці яму не хочацца — шукай там ды цягні з лесу на плячах. А ў суседа пад страхою ёмкая

яловая жардзіна ляжыць. Назаўтра сусед лаецца, не знайшоўшы на месцы жардзіны, а ў Наздрэйкі рубель новы — любата.

Або пойдзе Наздрэйка да суседа:

— Братка, дай свярдзёлка. Граблі раблю, дык няма чым дзіркі папракручваць у стаўпцы.

А праз тыдні два суседу самому свярдзёлак патрэбен. Мац за трамаю — няма.

— Ці не ведаеш ты (там сякая-такая), дзе наш свярдзёлак?

— Ты ж, здаецца, Данілу даваў.

— Данілу? А чорт яго ведае, можа, і даваў.

А сустрэўшыся з тым:

— Даніла, ці табе ўжо мой свярдзёлак не трэба?

— Які свярдзёлак? Хіба я ў цябе браў?

— Здаецца, браў.

— Пашукаю. Але нешта я не памятаю.

А другі раз сустрэўшыся:

— Няма ў мяне твайго свярдзёлка. Ты мо каму другому даваў.

Але каб Даніла каня адважыўся ўкрасці, гэтага пра яго ніхто б не сказаў. А што да маладога Наздрэйкі Міколы, дык пра таго і гаварыць няма чаго. Ён так хлопец мялаваты, трохі гультаяваты, да гаспадаркі не вельмі здатны, але каб красці, дык не.

Аднак Соміку здавалася іначай.

— Астрожнікі! Зладзеі. Не я буду, калі я іх у астрог не засаджу. У вышэйшы суд падам. Гэтакую сволач вон трэба з вёскі выгнаць, каб іх і почуту не засталося,— лямантаваў ён, ідучы па вуліцы і збіраючы вакол сябе ўсё больш людзей. Падышоўшы да Наздрэйкавай хаты, ён сашчапіў зубы і кінуўся да акна. Кулакі дробна і шалёна заскакалі па раме, шкло са звонам пасыпалася на прызбу.

— Зладзюга! Прызнавайся, дзе коні? Кішкі выматаю! У зямлю ўганю.

З сянец выбег збялелы, спалоханы Даніла Наздрэйка.

— Ды што ты, чалавек! Ашалеў?! Што ты мне вокны б'еш? Каб я так сваю гаспадарку аглядаў, як я бачыў твайго каня. Каб мне ногі паадсыхалі, калі я куды-небудзь далей свайго двара адышоўся ўвечар... І чаго прывязаўся чалавек?

— Маўчы, халера старая! Тваіх рук не мінула,— падступаў да яго агніста-рыжы, нібы злосцю да чырвона напалены Сомік.

Малады Наздрэйка, які толькі што выйшаў з адрынкі, стаяў хвіліну — буйны, маўклівы — і наліваўся злосцю. Раптам ірвануўся з месца, закасваючы на хаду рукавы:

— Пусціце!.. Растрыбушу рыжую суку! Раздзяру, як жабу!

— Пакінь, не займайся з шалёным. Няхай судзіцца, няхай судзіцца, няхай яго сударга судзіць,— заскочыў сыну наперад Даніла.

А мужчыны трымалі за рукі Соміка, які ўжо ўзняў велізарны камень, каб адбіць атаку маладога Наздрэйкі.

— Гэта табе не за царом — людзей мардаваць! — крычаў, задыхаючыся ад злосці, Мікола.— Возьмуцца яшчэ за цябе, рыжага сабаку!

Але Сомік падаўся ўжо да свае хаты, усё яшчэ абарочваючыся, лаючыся і грозячы Наздрэйкам кулакамі.

Калі малады Наздрэйка закідаў Соміку цара, успамінаў пра мардаванне людзей, дык гэта з вялікай злосці прыйшлі яму на памяць тыя чуткі, што хадзілі па сяле. Адслужыўшы некалі ў войску, Сомік не прыйшоў адразу дадому, а яшчэ недзе прападаў гады са два. І вось на сяле гаварылі, што ён нібы стражнікам ці ўраднікам быў у нейкім мястэчку Бабруйскага павета. Што там быў нібы нейкі бунт, і не то ён біў людзей, не то яго людзі білі, што яшчэ і цяпер на галаве ў яго знакі ёсць, валасамі не пазарасталі. А можа, і ён біў, і яго білі. Казалі, што нехта нібы падгледзеў у яго ў куфэрку фатаграфію, дзе ён зняты вярхом на кані ў стражнікоўскай форме, з шашкай і плёткай. Але ніхто нічога напэўна не ведаў, яму ў вочы ніхто гэтага не казаў, і Сомік нават не пазбаўлен быў выбарчага голасу. Пачуўшы сёння ад маладога Наздрэйкі закід пра царскія часы, Сомік, як ні быў злосны, але трохі спалохаўся. Мо толькі таму і даў сябе ўгаварыць мужчынам і пайшоў дадому ад Наздрэйкавай хаты, нікога не скрывавіўшы і сам не скрываўлены.

## IV

Па-святочнаму нудна ў хаце Верамейчыкаў. Малады Верамейчык Юзік у зеленкаватай суконнай чырвонаармейскай гімнасцёрцы, якую ён прынёс з арміі і надзяе толькі ў святочныя дні, сядзіць край стала, нагнуўшыся над «Беларускай вёскай». Газеты прывык чытаць ён яшчэ ў арміі, і цяпер яму без газеты, як без вачэй.

Чытаючы, Юзік час ад часу ўзнімае галаву ад газеты, бровы яго паўзуць угору пад валасы, і ён паглядае на жонку, што ўвіхаецца каля печы. Яна стаіць проці печы з чапялою, маладая, бялявая і прыгожая. Дровы моцна разгарэліся, полымя шугае аж у чалеснікі. Зосіны шчокі нагрэліся і таксама палаюць. Яна спрытна выхапляе чапялою з печы скавараду, хапае гарачы румяны блін і кідае яго на зэдлік, засланы чыстым абрусам. Трэ па гарачай скавародзе подмазкай, ад чаго скаварада шыпіць і ад яе ідзе пахучы сінняваты дымок, зноў кідае на скавародку палонік цеста і ставіць у печ.

Яна часам сустракаецца вачыма з Юзікам, робіць смяшлівую міну і ледзь прыкметна ківае галавою ў бок свякрові. Тая ходзіць насупленая, як хмара, толькі злосна носам сапе. Бровы яе навіслі на самыя вочы і збегліся на пераноссі. Яна даўно ўжо шукае якой-небудзь прычэпкі, каб пагрызці нявестку, але ў тае сёння ўсё спраўна выходзіць, і ад гэтага Тадору яшчэ большая злосць падшыбае. Калі яна адварочваецца ў другі бок, Зося ловіць Юзікаў позірк, выцягвае падбародак і ледзь прыкметна, без гуку, толькі шавелячы губамі, шэпча:

— Ведзьма.

Юзікавы губы ледзь кранае ўсмешка, і ён зноў нагінаецца над газетай.

Белагаловы, гадоў адзінаццаць хлопец снедае. Ён есць ужо другі блін, памазаны маслам. Есці яму ўжо не хочацца, але і пакідаць чуць не палавіну мазанага бліна нядобра, будуць сварыцца, што зглуміў. Ён неахвотна кусае блін, марудна жуе, шчыпле блін яшчэ і крадкам кідае кату пад стол. Кот, які дагэтуль мяўкаў, супакойваецца і смачна есць. Калі хлопец чапае яго караваю босаю нагою, кот абараняецца лапаю і бурчыць. Хлопец ціха смяецца.

Есці цёплыя бліны ўсім бы пара было, але масла прынесена толькі хлопцу, дарослым маслам мазаць бліны — «каб не занудзіла», добра будзе ім і здорам. Але ўсім скаромным загадвае старая. А яна, каб спагнаць сваю злосць, знарок не спяшаецца: «Трасцу, няхай жа паглытаюць трохі сліны пасынак ды нявестка».

Злосная яна ходзіць не толькі сягоння,— скрозь так, мусіць, ад першага дня, як прыйшла ў гэту хату. І прычына гэтай злосці адна: не ўдаецца ёй ніяк выжыць з хаты Юзіка, каб уся гаспадарка цалкам засталася яе белагаловаму Ціліпку. Пайшоў Юзік на вайну, думала, дзе-небудзь галаву скруціць. І чорт яго не ўзяў, вярнуўся назад. Като-

ры год чаўпе яна бацьку, каб выштырыў як-небудзь з хаты Юзіка. Маўчыць стары, моцна думае нешта, часамі буркне сам сабе пад нос, а іншы раз і не вытрымае — зазлуе, запырскае, замацюкаецца. І рад бы быў стары Верамейчык, каб сын адышоў куды-небудзь з хаты, каб знайшоў сабе дзе які талент. Але, як відаць, нікуды не думае адыходзіць Юзік, усё мацней за гаспадарку бярэцца. А выгнаць — як жа ты яго выганіш? Шкада неяк, і ён жа сын усё-такі. Дый закону такога няма цяпер: часць возьме, калі што якое. Дык вось і злосць старой, вось і шукае кожны дзень Тадора якой-небудзь прычэпкі, каб дапячы нявестцы. Пасынка самога баіцца трохі чапаць. Злосны і на язык востры — адсячэ зразу, аж абліжашся. Ды розуму вельмі набраўся. Над газетамі ўсё сядзіць, спусціўшы нос. Ох, гэтыя газеты! Яна на іх глядзець не можа. Каб сіла, дык вырвала б з рук і кінула б у печ, каб яны ўсе з дымам пайшлі. І кнігі ўсе яго з гэтым зялёным куфэркам. Яшчэ на кут паставіў брыдоту гэту!

Не любіць старая ні кніг, ні газет: «Пустая забаўка ўсё, хлеб з гэтага не будзеш есці. Гэтым толькі панам займацца, якім няма чаго рабіць, на якіх мужыкі хлеба наробяць». Таму і мела кожнага за гультая, хто з кнігамі знаўся, таму і Юзіка не раз у сварцы абзывала гультаём, хоць і робіць ён у гаспадарцы больш за ўсіх.

А яшчэ яна ненавідзіць Юзікавы кнігі, што праз гэта ён вунь як нясе сябе; разумнейшым за яе сябе ставіць, і нічога тут Тадора зрабіць не можа, не папнецца, не зраўнуецца з ім, хоць бы і хацела. І зайздрасць і злосць ад гэтага — на ражне б яна яго бачыла...

Стары Верамейчык толькі што змяніў кашулю, надзеў чыстую. Ён зашпільвае гузікі. Яны дробныя і выслізгваюцца, уцякаюць з яго тоўстых закарузлых пальцаў. Ён таксама скоса пaглядае на газеты. Ужо два разы сплюнуў, але маўчыць яшчэ пакуль што. Карціць яму палаяць сына! Выпусціў кабылу блэнгаць зубамі па выгане. Свінні зрылі выган, гусі спаскудзілі — што там ёсць на тым выгане! Павёў бы папасвіў дзе-небудзь, дык ён за газеты ўзяўся. А з газет вычытае якую трасцу і тады лезе, мяшаецца, хоча бацьку вучыць, як гаспадарку весці. Бацька век зжыў на гаспадарцы, а ён — вучыць: сырадэлю сей, буракі на полі садзі, вокны ў хляве карове праразай. Быццам карове там чытаць або пісаць. Чорт яе не возьме, патрапіць мысаю ў трасянку і папацёмку.

Стары і сам трохі пісьменны: калі літары вялікія, дык ён, слібізуючы, бэкае трохі. Быць пісьменнаму — яно ня-

дрэнна, распісацца, калі дзе прыйдзецца, дык не трэба людзей прасіць; грошы добра пазнаваць, каб не ашукалі часам на кірмашы, ведама, гэтулькі ўсялякіх грошай перавярнулася за гэтыя гады. Так прыемна прачытаць на траскучай белай паперцы: «Адзін чырвонец», злажыць яго хораша, загарнуць у насоўку і схаваць у такое месца, што не толькі сын, але нават і старая не ведае. Гэтыя новыя грошы, гэта табе не «лімоны» — моцныя, кажуць. І зусім непрыемна чытаць такую паперку як «Акладны ліст». Панадрукаваны малюсенькімі літарамі нейкія не зусім зразумелыя словы, а ўрэшце выходзіць, што яму трэба вывертаць з насоўкі таго самага траскучага чырвонца ды другога з палавіну чапіць і ўсё гэта несці ды аддаць «чорт ведае за што»,— заўсёды злуе Верамейчык. Стары і сам бачыць у лісце лічбу «16», але думае: «А можа, яшчэ і менш, можа, скідка якая, ці што». Ён падае ліст сыну.

— На, паглядзі, колькі тут нам сёлета.

І пасля гэтага ў старога ўжо ніякай надзеі не застаецца: трэба вывертаць чырвонцы.

Добра, пісьменным быўшы, і шыльду ў мястэчку прачытаць: «Дробны гандаль. М. Разенгауз» або «Рымар Антось Маляўка». Моўшу Шэвелевага (гэта Разенгауза) Верамейчык ведае яшчэ з маладых год, і заплюшчыўшы вочы ён патрапіў бы ў Моўшаву краму, але, падыходзячы, ён заўсёды шавеліць губамі, чытае па складах, што напісана на шыльдзе, і тады толькі заходзіць у краму, задаволены, што сам прачытаў, якая тут крама і хто гандлюе.

Аднаго разу, калі яшчэ Юзік другі год у школу бегаў, стары Верамейчык аж цэлую кнігу прачытаў. Пра Баву-Каралевіча. Сыну купіў чытаць, ды сам усю і прабэкаў — спадабалася вельмі. Цяпер не чытае стары: вочы не так добра бачаць, літары мітусяцца і расплываюцца. Зблізку зусім не відаць. Толькі калі выцягнуць на ўсю руку ды аднесці кнігу ад вачэй, тады можна што разабраць. Ды старая гэта — няхай яе паралюш! — не любіць вельмі. Лаецца моцна, а то і зусім гатова кнігу з рук вырваць ды ў качаргешнік шпурнуць.

Тадора прынесла на дзеравяным кружку кусок здору і моўчкі бразнула з кружком на стол. Гэта значыць «жарыце, няхай вас паразрывае ды параспірае!»

Юзік адлажыў прачытаную газету і ўзяўся за другую. У будны дзень часамі няма калі і глянуць у газету, дык трэба нагнаць хоць у свята. Раней за бацьку ён не хоча брацца за блін, каб не ўгнявіць. А той, паважаючы сваю сталасць, не спяшаецца. Узяў аскепак з нейкага вялікага,

відаць, люстэрка (шкло ледзь не ў палец таўшчынёю) і глядзіцца, зачэсвае валасы, расчэсвае вусы і цёмнарусую, з ніткамі сівізны, даўно стрыжаную бараду. Тады толькі падышоў да стала і капянуў нагою ката, які блытаўся пад нагамі.

— Хто гэта парсюку ўчора мяшаў? — буркнула старая, глянуўшы ў ражку, у якой на дне было са жменьку пакуцанай лычам свіной яды.

— Я мяшала,— адказала, не адварочваючыся ад печы, Зося, але адчуваючы, што свякроў знайшла-такі прычэпку.

— Каб табе мазгі ў галаве перамяшаліся,— пажадала ёй старая.

Зося нічога не адказала, толькі глянула на Юзіка, быццам кажучы: «Во, глядзі,— пачынаецца». Юзік чытаў, моцна ўнурыўшыся ў газету, але спрактыкаванае жаночае вока бачыла, што ён чуе кожнае слова.

— Не выбрала даўнейшага, дык яно ўсё ўкісла, вось і не еў. Папэцкаў, раскеўзаў па ражцы ды кінуў. І палавіны не з'еў.

— Выбрала і выпаласкала,— коратка кінула нявестка.

— Вось паласкала ты... Няхай цябе нечага ўжо з гэтага свету спалошча. Робіць па канец рук, каб табе ў грудзях рабіла. Гэта сала будзе з гэтага догляду... А нябось, як на скавaрадзе паставяць, дык прэш, аж нос гнецца.

— Учора з'еў усё, дык бяда была — казала, мала замяшала, галодны застаўся, а сёння больш замяшала, дык зноў бяда, што не з'еў. Не хацеў, дык і не з'еў. Што ж я, пад хвост яму напхаю?

— Гультай ты! Што ж ты калі па-людску зробіш? Табе ж цяжка рукі завярнуць, каб табе нечага гэту яндоўку тваю на патыліцу звярнула. Толькі з кубельца, дык ты б цягала, каб табе кішкі ды вантробы выцягнула.

— Няхай з цябе і выцягне, ведзьма старая,— не сцярпела, нарэшце, нявестка.— На чорта мне твой кубелец, задушыся ты ім сама.

— Тфу, брадзяга, трасца тваёй матары! Яшчэ аскірзаецца. Кепска робіць, дык і аказацца нельга, зараза паршывая. Санагога вялікая — не можна слова сказаць,— умяшаўся ў сварку стары Верамейчык.

Юзік з усяе моцы крапіўся, каб не ўмяшацца. Ён, сціснуўшы зубы, яшчэ ніжэй нагнуўся над газетай, але не бачыў ужо ніводнай літары. У Зосі на вачах заблішчалі слёзы, і яму яе моцна было шкада. У сярэдзіне пачало ныць, накіпала злосць, і разам з гэтым было страшэнна

агідна ўсё гэта чуць і бачыць, пэцкацца ў гэта самому. Пачыналася тое, без чаго рэдка які дзень праходзіў у хаце Верамейчыкаў. Ваўкаватая панурасць, якая заўсёды панавала ў Верамейчыкавай хаце, калі цэлы дзень ад чалавека, бывае, слова не пачуеш, калі нават блізкія між сабою людзі, як мужык з жонкаю, не асмельваюцца пры другіх сказаць адно аднаму ласкавае слова,— гэта панурасць часцяком узрывалася. І тады людзі не маглі нагаварыцца адно з адным. Гаварылі ўсе адразу. Крычалі, лямантавалі, скавыталі, скрыгіталі зубамі з бруднай лаянкаю, са страшнымі кленічамі. Зычылі адно аднаму такое, што каб хаця дваццатая доля таго сталася, дык бы ўсіх іх назаўтра павыцягалі на могілкі. І ўсё гэта за пусцяковіну, за глупства, за зламаную іголку, за лапаць-недатопак, за тое, што курыца, мусіць, знеслася ў суседавых каноплях.

Здавалася Юзіку, што з кожнага кутка хаты шчэрыць зубы нешта прагавітае і агіднае; што яно гатова вырваць з зубоў кожны кусок, сарваць з плеч кожны лахман. І дзе выхад з гэтага? Як зрабіць, каб у хаце можна было вольна дыхаць, каб насмелую можна было сказаць звонкае і вясёлае слова, па-добраму пагаварыць пра тое, як і што трэба рабіць, пажартаваць, пасмяяцца самому і пачуць людскі шчыры, а не з'едлівы, штучны смех? Дзе дзецца ад усяго гэтага? Ці плюнуць на ўсё, адрачыся ад усяго ды ісці ў свет, шукаць сабе працы і людскога жыцця, ці змагацца з усім гэтым (але якім чынам?), ці, нарэшце, махнуць на ўсё рукой, рабіць па прыказцы: «з ваўкамі жыць, па-воўчы выць». Для сябе-то ён знайшоў бы выхад: пайшоў у саўгас рабочым, як зрабіў Нупрэй з жонкаю. Ці ў горад бы падаўся. Напэўна знайшоў бы хоць невялікую працу. Але ж ці выхад гэта, калі адкінуць сябе ўбок, глянуць на вясковае жыццё? Гэта азначала б, што з вёскі падаўся, падтуліўшы хвост, найменш зубасты і заядлы, які не здужаў з ваўкамі «па-воўчы выць», а вёска засталася паранейшаму, па-звярынаму прагавітая і цёмная. Юзік адчуваў, што недзе на краі яго свядомасці туліцца нешта не зусім згоднае з яго такімі разважаннямі. Але ў гэту хвіліну ён у думках стараўся не краталь гэтага нешта. Гэта было тое новае ў вёсцы, да чаго ён употай далучаў і сябе, што канкрэтна звязвалася з вобразамі Сцёпкі, Шуры ды іншых некаторых і яшчэ тое, часта не зусім для яго выразнае, што не столькі бачылася, колькі адчувалася; і тое новае, хвалі якога патрошку, але ўсё смялей падмываюць грунт старога вясковага ўкладу, адрываюць ад яго кавалачкі і кавалкі. Гэтакім кавалачкам у пэўнай меры з'яўляецца

і ён сам. Ён яшчэ не бачыць усёй заканамернасці гэтага працэсу, але адчувае, што недзе там ёсць разумная і цвёрдая рука, якая накіроўвае гэтыя хвалі ў пэўнае русла, дае ім пэўны кірунак. Тая самая рука, якая накіроўвала яго і шмат тысяч такіх, як ён, на фронце, у хаосе баявой абстаноўкі паказвала заўсёды патрэбны кірунак, ставіла патрэбную баявую задачу кожнаму ўдзельніку. І ў суме выканання гэтых паасобных, часта дробных задач выйшла нешта грандыёзнае і малаверагоднае — перамога Чырвонай Арміі над усімі ворагамі і на ўсіх франтах. Юзік верыў у разумную і цвёрдую волю бальшавіцкага кіраўніцтва; як сонца ў каплі вады, бачыў адлюстраванне гэтай волі ў знаёмых і нават блізкіх яму мядзведзіцкіх людзях, у тых справах, якія адбыліся і адбываюцца ў Мядзведзічах. Больш таго, сам пра сябе ён думаў (і гэтым ганарыўся ўпотай), што хоць у нейкай малюсенькай меры з'яўляецца часта выканаўцам гэтай волі. А цяпер ён наўмысна стараўся не думаць пра гэта новае, каб з тым большай сілай накіраваць увесь цяжар свайго абурэння на стары звярыны вясковы быт, які так уеўся яму ў косці.

Грызуцца не толькі Верамейчыкі. Рэдка ў якой хаце няма грызні. Не грызецца свякроў з нявесткай, дык брат з братам, братавая з дзеверам, залвіца з ятроўкай, бацька з сынам, мужык з жонкаю. Але як жа зрабіць, каб гэтага не было, каб кожны не дрыжаў над сваёю крыхой, каб не рваў у другога, каб не калаціўся кожны раз, думаючы пра тое, як будуць жыць яго дзеці і хто яго будзе даглядаць пад старасць. Нейкі адказ на гэта пытанне як бы недзе шавяліўся ў Юзікавай галаве. Але гэта было нешта вельмі невыразнае і туманнае.

«Зробіш тут з гэтаю брыдотаю камуну»,— падумаў ён, злосна глянуўшы на старую, якая ўсё яшчэ дапякала нявестку і рада была, што нявестка цяпер ужо напэўна снедаць не будзе.

Толькі Тадора прыдумала нешта такое з'едлівае і пякучае, што праняло б нявестку аж да самых печаняў, як у сенцах бразнула клямка. Ішоў нехта чужы. Сварка сціхла. Зося хутка выцерла рукавом вочы і нагнулася паглядзець у печ.

У хату ўвайшоў высокі бялявы хлопец.

— Дзень добры,— кінуў ён з парога.

— Дзень добры,— адказалі стары Верамейчык і нявестка. Нават старая і тая нешта буркнула.

— Што дарогу загарадзіла? — крыкнуў хлопец і, жартуючы, схапіў Зосю за плечы.

— Алесь!.. Ашалееў ты, ці што? — адмахнулася тая.

— Што газеты пішуць? — спытаўся хлопец, паціскаючы ўжо руку Юзіку і садзячыся на лаве.

— На, вось, пачытай.

— Чорт яго... Доўга чытаць. Ты ж чытаў ужо, дык скажы.

— Дык і казаць жа доўга... Вось пішуць, што лубін трэба сеяць,— жыта добра родзіць. Кажуць, што на лубіне на весну і бульбу можна садзіць без гною.

— Лубін позна ўжо сеяць, малаціць пара. Вунь наш даўно пад страхою стаіць, не хочацца неяк брацца за яго. Пра землеўпарадкаванне што чуваць?

— Пішуць, што на пасёлкі людзі ідуць.

— Я чуў, што і да нас нейкае начальства прыедзе пра пасёлкі гаварыць. Але хіба ж нашы пойдуць? Гэтакія дурныя людзі. Усё на прадзедаў аглядаюцца. У іх адна гаворка: «дзяды, прадзеды жылі, і мы пражывём».

— А што ж, як дзяды жылі, не мудравалі, дык і хлеб быў, а цяпер трасца з хваробаю,— азвалася старая.

— З мякінаю, з мякінаю хлеб быў ды з лебядою. А цяпер з мякінаю ніхто і есці не хоча — нясмачна,— супярэчыў і дражніў старую Алесь.— Нашага чалавека яшчэ трэба дубінкаю ў рай заганяць. Каб я быў вялікім начальствам якім, Саўнаркомам ці Цыкам, дык я б такі загад даў, каб, скажам, за два тыдні ўсе на пасёлкі выйшлі, каб за год усе завялі шматполле і ўсялякія новыя парадкі ў гаспадарцы. Хто не слухае — штраф або ў турму; хто працівіцца — проста біць трэба. Нябось, быць не можа, памагло б.

— А як цябе білі, добра было? — злосна ўжо сказала Тадора.

Усім у хаце стала трохі няёмка. Алесь на момант збянтэжыўся і нават крыху пачырванеў ад гэтага напамінку.

— Варт быў, дык і білі,— адказаў ён, крыху знізіўшы голас.

— Дык нашто ж табе каго заганяць у рай. Ты ж сам першы ішоў бы. Знайшоў бы сабе хеўру такіх ахвотнікаў, ды на пасёлак ці на хутар...

— Не вельмі такіх ахвотнікаў і набярэцца. Вось прайдзі па сяле, апытай, колькі іх знойдзецца. Ды я ж не гаспадар. У нас жа ў хаце ёсць гаспадар апрача мяне.

Гаворку Алесеву перапыніў, увайшоўшы ў хату, рыжы Сомік.

— Вы, Верамейчык, сёння ў мястэчка не едзеце? — доўга не чакаючы, звярнуўся ён да старога.

— Не. Сказаць, і патрэбы няма такой.

— А я думаў, паедзеце, дык і я з вамі пад'ехаў бы. Думаю сёння ісці ў суд падаваць за каня.

— На каго ж гэта? — здзівілася і зацікавілася старая.

— На зладзеяў, на каго ж іначай.

— Ці вы ж іх ведаеце?

— А хто ж іх не ведае? І вы іх ведаеце.

— Я... адкуль жа мне ведаць? — ухілілася Тадора. Усе астатнія маўчалі, ведалі ўжо наперад, пра каго будзе гаварыць Сомік.

— Наздрэйкі коней пакралі і больш ніхто. Я галаву магу ў заклад аддаць, што яны. Не адны, вядома, перадалі некаму ў другія рукі, а з хлява-то яны вывелі.

— Як кажаш, чорт ім і верыў, у душу чалавеку не залезеш,— няпэўна сказаў стары.

— Пакуль ты яму ў душу, дык ён да цябе ў свіран або ў хлеў. Гэтакія рыштанюгі, яны ў цябе з зубоў вырвуць. Іх бы, свалачэй, з сяла трэба было выштырыць, каб і шныру іх тут не было. Але ж няма каму. Усюды зладзеяў поўна. Самі рвуць, дзяруць, бяруць, грабяць, дзе зарваў хто. Вунь з фінаддзела скарбнік збег, пятнаццаць тысяч звалок,— лаві яго цяпер.

— Але што ж тут улада вінавата,— стаў супярэчыць Юзік.— Закон жа забараняе красці. Зловяць — засудзяць, пакараюць.

— Караюць яны... возьмуць, дзеля прыклёпу, пасадзяць на месяц, а там то амністыя, то трасца, то хвароба — і зноў гуляе маладзец. Або і зусім умоўна засудзяць. Гэта ж здзек проста. Той прыйдзе ды будзе выскаляцца, што табе шкоду зрабіў. Але гэтых я ўсаджу, не я буду.

— Ну а калі не яны, дык шкада ж людзей, што дарэмна пакутаваць будуць,— сказала Зося.

— Гэта іх шкада, зладзеяў гэтых?! Апрача коней, яны ўжо нямала чаго пакралі. Ім усё роўна не пашкодзіць, калі гадоў два пасядзяць. А не ўкралі, дык яшчэ ўкрадуць, за іх сыдзе.

— Дык гэта ж не па закону; за такія рэчы і самому можа папасці,— заўважыў Алесь.

— Пляваць мне на закон. Няхай мне закон каня купіць, што вось няма на чым на поле выехаць,— узгарэўся Сомік. І, пачакаўшы крыху, ужо спакойна звярнуўся да старога Верамейчыка:

— Гэта ж я хацеў прасіць, можа б, вы за сведку ў мяне былі. Яны ж і ў вас тады снапы пакралі.

— Ды снапоў з дзесяць вывалак нехта... Не, дзе бачылі, куды мне, старому. Я не буду ведаць, што там і казаць. Хіба, можа, Юзік падахвоціцца,— нерашуча сказаў стары.— «Чорт іх, снапы ўжо не вернеш,— падумаў ён,— але няхай бы іх засудзілі; перапудзілі б, можа, спакайней бы было ў сяле. Толькі каб мне не ўмешвацца».

Юзік ускіпеў на бацькавы словы. Ён увесь зачырванеўся, а з вачэй дык здаецца іскры пасыплюцца.

— Ішоў бы сам ды сведчыў, што меў выпраўляць,— груба адказаў ён.— Не ведаючы нічога ніякага, я пайду на людзей нешта ўзводзіць.

— Хто цябе выпраўляе, як хочаш. Я так сабе кажу,— мармытаў стары збянтэжана.

— Вось так жа ў нас і робіцца.— Рыжая Сомікава барада ўжо скакала і трымцела ад злосці.— Няма каб памагчы злодзея за каўнер узяць, дык яшчэ пакрываюць. Усё сяло абыдзі, не ўпросіш чалавека за сведку пайсці. Крумкач крумкачу вока не выдзеўбе,— скончыў ён не зусім дарэчы.

Старога Верамейчыка кальнулі гэтыя Сомікавы словы. «Ці не я гэта ўжо крумкач?» — падумаў ён насупіўшыся.

Юзік, ссунуўшы бровы, глядзеў недзе ўбок і чакаў, што яшчэ скажа Сомік. Але той рэзка павярнуўся і шпарка пайшоў да дзвярэй.

## V

Калі Сомік казаў, што ўсё сяло трэба абысці, каб сведку дастаць, дык ён быў недалёка ад праўды. Пабыў ён за раніцу хатах у пяці ці ў шасці. Абышоў усіх тых, у каго коні пакралі, і яшчэ ў сяго-таго быў. Пятрусь Кухараў дык той проста сказаў: «Не падбівай, братка, мяне на такую справу. У цябе з Наздрэйкамі нейкая даўнейшая крыўда, ты злосны на іх, дык табе і здаецца, што гэта яны. А я да іх нічога не маю, не магу сказаць на людзей дарэмна. Хай ужо мне аднаму баліць».

Баранок як быццам ва ўсім згаджаўся з Сомікам, патакаў яму, разоў колькі сам пачынаў гаварыць пра замок, што ў каваля, і што злодзей, мусіць, ведаў пра гэта,— няйначай свой. Але калі Сомік загаварыў пра тое, каб разам на суд падаваць, дык Баранок адразу пачаў аднеквацца.

Каржакевіч дык той гаварыў мала, больш слухаў гарачую нервовую гаворку Соміка і яго блытаныя няпэўныя довады супроць Наздрэйкаў. Заявы ў суд разам з Сомікам падпісваць не захацеў.

Найбольш пашанцавала Соміку ў Пошты. Застаўшы таго на двары ў адрыне, Сомік адразу прыступіў да справы:

— Ты, Тодар, памятаеш, як снапы ў мяне пакралі?

— Памятаю,— адказаў той, чакаючы, што далей будзе.

— Бачыў, што след павёў на двор да Наздрэйкі?

— Бачыў... Усе бачылі...

— Можаш сказаць, што яны снапы пакралі?

— Магу. Што мне, цяжка сказаць, ці што?

— Дык пабудзь у мяне за сведку.

— За авёс на суд будзеш падаваць?

— Не, за коні.

— Дык я ж пра коні не ведаю. Што ж я буду там казаць?

— А ты кажы, што Наздрэйкі зладзеі, што яны скрозь кралі: авёс пакралі, сала пакралі, што і коні яны таксама пакралі. Скажы, што ішоў ты позна ўночы, чуў, як у Наздрэйкі ляпнулі дзверы і нехта, крадучыся, падаўся на гароды.

— Дык я тае ночы нідзе не быў і не бачыў гэтага.

— Я сам гэта бачыў, але ж мне суд не паверыць, трэба каб сведка сказаў. Хіба табе цяжка сказаць?

— Не цяжка, але што ж я буду гаварыць не ведаючы. Ды часу няма, работы чорт што,— схлусіў Пошта, чуючы тут нейкую пажыву.

— За тваю турбацыю я табе аддзякую, я дарэмна не хачу.

Пошта маўчаў, думаў, перабіраючы нейкія старыя жалязякі. Сомік, чакаючы, наглядаў за яго тварам, на якім пад светлымі вусамі торгаліся губы. Відаць, чалавек разважаў сам з сабою.

— Ды я магу пабыць, мне не цяжка... скажу, што ведаю,— няўпэўнена адказаў, нарэшце, Пошта.

— А... Ну, дзякую табе, Тодар. Скажы Тэклі, няхай падбяжыць, я крышан здору на затаўку дам. У цябе ж, мусіць, няма ўжо скаромнага?

— Добра, я скажу, зараз падбяжыць,— ахвотна адгукнуўся Пошта.

«Наўрад ці патрапіць так сказаць, як я яго вучыў. Па дурнаце сваёй набалбоча яшчэ такога, што і сам не рад будзеш»,— думаў Сомік, выходзячы з Поштавага двара.

## VI

Каменнаму трэба быць, каб жыць у сям'і Верамейчыкаў. Цяпер яшчэ трохі Зосі палепшала, як Юзік вярнуўся: ведае, што хоць будуць грызці, ды не ўкусяць, пабаяцца. Ды агойталася ўжо трохі за колькі год, прывыкла да грызні. Часамі і сама агрызнецца, калі ўжо вельмі свякроў прыстане. А спачатку дык думала не вытрымае. З першага дня неўзлюбілі Верамейчыкі Зосю. Вельмі ж свякроў ужо сіберная трапілася. Наровіш, як ліхой скуле, а ёй усё нядобра! Не хацелі старыя, каб Юзік яе браў. Бацька — бабыль дымаўскі. Зямлі свае нават і дзесяціны поўнай не было. Шавецтвам займаўся. Кожную нядзелю як пойдзе ў мястэчка тавар набіраць, дык і барыш ад заказчыка, каб лепшы тавар выбраў ды боты мацнейшыя шыў. Не трапіцца заказчык, дык па прывычцы ўсё роўна не міне Рэйзы. А прыпляцецца з мястэчка — цесная яму вуліца ў Дымаўцы, ходзіць улукаткі, за вуглы чапляецца, песні пяе, людзей пацяшае. А дачку выгадаваў — людзям зайздросна. Прыгожая ды прыветная. Засмяецца — здаецца, сонца выбліснула ў хмарны дзень, аж усярэдзіне цёпла зробіцца ад Зосінай усмешкі. За хараство і вось за гэту цёплую ўсмешку і ўзяў Юзік Зосю. Зґаладаўся ён у панурай суровай сям'і па ласкавым слове ды прыветнай усмешцы. А бацьку ды мачасе гэта не ў нос. Што ім з Зосінага хараства. У гаспадарцы хараством дзіркі не заткнеш. Не прывяла Зося ад бацькі каровы, вось і пустуе за́гарада ў Верамейчыкавым хляве. Усяго і пасагу, што свінчо нейкае з сабой прывезла ды пасцель сваю. А радня ж. Хіба гэтакага свата думаў мець Верамейчык — лайдака ды бабыля, у якога і хата жардзінаю падпёрта. Не вялікі гонар гэтакае сваяцтва для Кастуся Верамейчыка. Глядзеў ён зусім не ў той бок. Як і гаспадаром застаўся, напінаў усе жылы, каб гаспадаркі не апусціць, каб прыдбаць яшчэ што ды ад людзей не астацца. Калі ён думаў пра «людзей», дык не ўсіх людзей меў на ўвазе, не Рыгора Варанца і не Петруся Кухара, а людзей «адмысловых», як Каржакевіч, як Грамабой ды яшчэ два-тры такія гаспадары. Далекавата было Верамейчыку даганяць Каржакевіча, але пяўся, не траціў надзеі. Вось сын падрос, работнік добры. Ажэніцца, парадніцца Верамейчык з добрым чалавекам, з якім і на людзях не сорам будзе спаткацца, ды ў гаспадарку нявестка прывядзе нейкага хваста, а можа, і два. Вось і падпірка ў гаспадарцы. Вось і ўзняўся Верамейчык на сучок ці на два вышэй. Але Юзік упарты хлопец.

Як упёрся, дык хоць ты яму кол на галаве чашы. Ні просьбаю, ні грозьбаю — нічога рады не дасі.

І паставіў-такі на сваім: прывёў у хату нялюбую, голую нявестку, якая яшчэ і работу гаспадарскую не ўсю добра ўмела рабіць. Вядома, якая ж у бацькі гаспадарка!

Вельмі ж крута прыстрыгло Зосі, калі Юзік у Чырвоную Армію пайшоў пасля таго, як белапалякаў адагналі. Пяць год прайшло, а крыўда балючая, як свежая яшчэ. Цяжарную яе пакінуў, апошнія дзянёчкі даношвала. А працавала ж да самай апошняй часінкі. Грэчку рвала якраз на полі. Адна свякроў за старую дома была, на поле не хадзіла. Як кальнула ў спіну, Зося адразу пазнала, што пара ёй прыйшла. Падхапілася і заспяшалася дадому, пабаялася на даўжэй адна заставацца. Схопіць яе на дарозе, сядзе яна, перачакае, сашчапіўшы зубы, ды зноў у ход. Насілу ўкацілася ў хату. Ля полу на каленкі ўпала. Зыркнула свякроў вачыма і адразу дагадалася, што з нявесткай робіцца, узяла хлопца за руку:

— Хадзем, Піліпка, у гарод, я табе моркаўку вырву.

Знарок сышла з хаты.

Вярнуўся неўзабаве Піліпка ў хату. Уцёк, мусіць, ад маткі, як тая недзе закорпалася; скеміў, што з Зосяй нешта нядобрае. Дармо, што, падвучаны маткаю, часта ўсяляк гаварыў на Зосю ды фігі соваў ледзь не пад самы нос, цяпер шкада стала, расчуліўся яго малое сэрца. Сядзіць ля стала, нібы ў акно глядзіць, здаецца, і не бачыць, што Зося ўся потам аблілася і з болю рог падушкі зубамі сціснула, каб не крычаць, а ў самога слёзы на вачах навярцеліся і дрыжыць ніжняя губа.

— Піліпка, братачка родненькі,— папрасіла Зося, калі ёй адпусціла,— збегай ты, братачка, да Варанца, скажы іхняй бабе, што я прасіла, каб яна да нас прыйшла. Скоранька. Бяжы ж, толькі каб мама не бачыла, а то будзе сварыцца, яшчэ не пусціць цябе.

— Бабцы Вароне сказаць? — перапытаў хлопец, ужо трымаючыся за клямку.

— Але,— пакутна ўсміхнулася Зося.— Толькі не кажы на яе Варона, а то яна загневаецца ды не пойдзе.

Лепш бы было, каб пры родах пабыла Піперманіха, ці, як яе па-далікатнаму некаторыя завуць, мадам Піперман. Тая ўсё ж такі нейкай акушэркай трохі лічылася, вучылася на гэта некалі. Дык той жа заплаціць трэба, а чым ёй Зося заплаціць? Яны ж яе загрызуць, калі што з гаспадаркі возьме.

Прыйшла бабка Варона, маці Сцяпана Варанца, шчуплая, маршчатая і рухавая. Памагла не памагла, добра, што і пабыла, пакуль малое нарадзілася.

— Маладзец, сына прыкаціла,— сказала бабка, калі дзіцянё закугакала ў яе на руках.

Зося шчаслíва ўсміхнулася і зморана заплюшчыла вочы.

Нядоўга прыйшлося вылежвацца Зосі ў пасцелі. На другі дзень свякроў ужо сапла, ходзячы па хаце, ды нешта бурчала сабе пад нос. Назаўтра не сцярпела:

— Ну, надоўга ж разляглася? Пані вялікая. Ці не ў бацькі панаваць навучылася! Баішся вельмі чэрава растрэсці. Чорт цябе не возьме.

Адмаўчалася Зося. Не пікнула нават, абы толькі паляжаць яшчэ дзянёк, каб не скалечыць сябе на ўсё жыццё.

Але праз дзень не магла ўжо ўлежаць. Гной пад жыта якраз вазіць трэба было, накідаць няма каму. Не наймаць жа чужога чалавека, а старая ж не пойдзе.

Калупае сахаром той гной Зося, асцерагаецца, праўда,— не доўга сябе сапсаваць. Ды ногі яшчэ дрыжаць і млеюць. На далёкі палетак свёкар гной возіць — вярсты тры будзе, а яна ўсё роўна не ўправіцца воза накідаць. Прыедзе стары — воз не давершаны. Плюне са злосці, хапае сахор — і моўчкі крэкча, уздзіраючы вялізныя скібы і прыплескваючы іх на возе.

Накідае Зося, а самой рупіць,— як там малы? Можа, з плачу заходзіцца? Можа, карміць пара? Ды пакідаць аднаго ў хаце з свякроўю... хто яе ведае, што ў яе наўме. Падбяжыць пад акно, паслухае — не чуваць плачучы. Тады зноў страх агорне, а можа, ён ужо нежывы? І мурашкі пабягуць па целе. Бяжыць у хату, нібы вады напіцца. Патрымае кубак ля губ і да калыскі — ці дыша хаця? А свякроў ужо насупіла бровы, скоса пазглядае — зараз вызверыцца. Цалуе Зося малюсенькі чырвоны з жаўцізною лобік і зноў бяжыць у хлеў — хаця б свёкар не прыехаў.

Наробіцца Зося за дзень, ляжа ўвечар стомленая, а сон не бярэ. Думаецца ўсё, а як ён там? Даўно ўжо ліста не было. Як прыслаў адзін ускорасці пасля таго, як пайшоў, дык больш і не было. Невядома, што з ім робіцца, мо ўжо жывога няма. Малы ў калысцы пашавеліцца, запішчыць, тады весялей стане — возьме за вяровачкі, пакалыша асцярожна, каб не рыпела.

А цераз хату на другой пасцелі свякроў ужо бубніць нешта старому ў вуха. Слоў не разабраць, толькі ўсё бу-бу-бу-бу-бу-бу-бу-бу. Стары маўчыць і не чуваць яго,

толькі зрэдку ўздыхне моцна ці мармытне слова. Горшы жаль ад гэтага агортвае Зосю і страх нападае. На яе нагаворвае свякроў старому, навучае. Набубніцца за ноч, а назаўтра ўстане — як тая тыгра. Возьмецца Зося за чыгун, каб вады нагрэць, дзіця пакупаць, а яна — рвець чыгун з рук:

— Не бяры майго чыгуна, вазьмі той, што ад бацькі прынесла.

Сядзе Зося ля дзіцяці, зальецца слязьмі, паплача ціхенька, а потым вытра слёзы ды ідзе да суседкі чыгуна пазычыць.

Або трэба малому ўночы пялёнкі змяніць. Запаліць Зося газнічку, а свякроў толькі таго і чакала: усхопіцца з пасцелі, дзьмухне, затушыць газоўку:

— Не палі мае газы. Купі сабе за тое, што мужык прыдбаў.

Пра адно бубніць Тадора старому начамі. Юзік пайшоў, наўрад ці вернецца. Чуваць, што паміраюць шмат у войску: есці няма чаго, тыфус кладзе людзей. На вайне шмат забіваюць. Вунь, чуваць, паны зноў гоняць бальшавікоў назад, вельмі ж шмат пабілі пад Аршавай. Няма ўжо Юзіка жывога на свеце. Вось каторы час лістоў няма. Прыцягнуў у хату гэту ланту, толькі хату заваліў. Каб хаця ж дзіцяці не было, дык бы мо хто ўзяў, пагнаўся б на харaство. А з дзіцем на чорта ж яна каму. Ды на гэтым жа яшчэ не канец. Ці гэта ж яна ўцерпіць? Яшчэ мо са тры байструкі прынясе ў хату. Рыхтуй тады, свёкар, кожнаму часціну з гаспадаркі.

Не палянуецца тут старая і слязу падпусціць, каб больш расчуліць старога.

— І не здохне яно, байстручанё гэта, даруй ты мне, божачка, цяжкі грэх!

Маўчыць стары. Толькі ўздыхае ды крэхча, а што думае, не выказвае. Але чуе Тадора сваім нутром, што ўдзяўбла яму ў галаву. На нявестку яшчэ горш стаў ваўком глядзець. Іначай і не акажацца да яе, як са сваркаю ды з лаянкаю.

Устала аднаго разу Зося грудзей дзіцяці даць. Усперлася на калыску, а ў самой вочы зліпаюцца,— змарылася за дзень. І тут раптам паляцела разам з калыскай, нібы ў прорву. Прарэзліва кугакнула дзіця на доле і адразу сціхла. Загаласіла, забожкала Зося, падхапіла яго на рукі. А тут ніяк не знойдзе папацёмку конаўкі, каб вады зачэрпаць. Памачыла руку ў вядро і пырснула ў тварык, раз, другі. Слабым галаскам аказалася малое.

— Чаго цябе там нячыстая сіла душыць? — прачнуўся свёкар на крык Зосі. Злез. Запаліў газнічку.

— Чаго ж! Дзіця вунь, мусіць, забіла ўжо,— з'едліва адказала свякроў.— Не выспіцца ўсё ніяк, мех гэты. Узваліцца гэткая карова на калыску. Гэта ж вяроўка, што воз уціскаць, і тая не вытрымала б.

Грукнулася дзіцянё лобікам аб гліняны ток. Сіняк на ўвесь лобік, і кроў прасочваецца праз тонкую аксамітную скурку. Прыпала Зося губамі да болькі і зайшлася з плачу, распасцёршы рукі крыжам на пасцелі. Валасы рвала на сабе, праклінала, што сама сваё дзіця ўправіла.

Аж да раніцы трымала малое пры грудзях. А яно і смактаць не можа. Запішчыць слаба ды жаласна і зноў дыша, разявіўшы роцік. Глянула раніцою, а ў яго і вочкі пацьмянелі: глядзіць, як праз плёнку. «Што будзе ўжо,— уздыхнула Зося.— Можа, яшчэ і паправіцца». Узяла ў рукі праклятыя вяровачкі, глянула, і рукі апусціла, задрыжалі: не самі парваліся вяровачкі, пахадзілі каля іх нечыя рукі. У двух месцах, як паражаваны ўсё роўна. Не маглі яны так парвацца. Хутчэй за ўсё каменем нехта пастукаў, палажыўшы на камень. Хацела пабегчы да каго-небудзь, паскардзіцца, расказаць усё, ды пабаялася пакідаць адно слабае дзіцянё.

Назаўтра малы зусім не ўзяў грудзей. Смакануў разоў са два, ды і тое назад вылілася.

Да доктара надумалася везці Зося. Аказалася нясмела да свёкра:

— Тата, я хачу хлопца да доктара павезці. Можа б, вы каня запрэглі?

Памаўчаў свёкар, глянуў у запек на старую, а тая моргае — не давай.

— Што яму зробіцца, твайму дзіцяці? Мала што там прыхварнула — паправіцца. Гэтулькі работы на полі. Іржэўнік яшчэ не араны. На цэлы дзень каня адрываць дарэмна.

А сам думае: «Памрэ дзіця. Ну і няхай, так яно лепей. Я тут ні ў чым не вінават».

Пабегла Зося да Пошты:

— Тодарка, саколік, можа б, ты мне каня даў. Дзіця зусім нядужае, трэба да доктара звазіць.

— А чаму ж не на сваім?

— Бацька кажа, што работы шмат, араць паедзе.

— Вось людзі! Вось прорва! Каня шкадуюць. А каб вам бог смерці пашкадаваў! — скляў Тодар.— Я таксама

думаў ехаць бульбу выворваць, але калі так, дык бяры. Ідзі збірайся, я пайду запрагаць.

Распытаўся доктар, што і як, патрымаўся за ручку ў малога, запалку запаліў, павадзіў перад вачыма, потым пад патылічку руку падлажыў, галоўку прыгнуць папрабаваў — не гнецца шыйка, як дубяная. Сціснуў губы доктар, пастаяў трошкі, падумаў:

— Не можам, цётачка, нічым памагчы твайму сыну. Маладая яшчэ, не ўмееш дзяцей гадаваць.

І слова не змагла выгаварыць Зося. Узялася за стол, каб не паваліцца. Калі адлягло трохі, ухутала дзіця і выйшла з пакоя. Колькі ехала і як ехала, не ведала. Ачулася толькі, калі конь сам на двор узышоў.

Сканала дзіця адвячоркам. Цэлую ноч сядзела над ім Зося як скамянелая. Толькі назаўтра, калі вярнулася з могілак, знайшліся слёзы і пацяклі па твары, гарачыя і спорныя.

Пад вечар апранулася, пайшла да Аўдолі. Тая хлеб якраз рашчыняла. Гаворыць ёй Зося пра сваё непамернае гора, пра ўсё тое, што так накіпела ў яе на душы за гэтыя тыдні, без Юзіка. Маўчыць Аўдоля, корпаецца ля дзяжы. Відаць, што шкада ёй Зосі, а словамі гэтага не выказвае, перапыняць не хоча: няхай кабеціна выкажа ўсё, што ў яе набалела, лягчэй тады стане.

Сама Аўдоля хапіла гора нямала. Ведае, пачым фунт ліха і як гэта патрэбна бывае ў такую часіну пагаварыць з добрым чалавекам, расказаць яму ўсё. Здаецца тады, што падзяліў з ім сваё гора, што ён узяў частку твайго цяжару сабе на плечы. Пайшла яна за Антося, як той толькі з салдатаў вярнуўся. Два гады жылі ў вялікай сям'і. Таксама хата ніколі не сціхала, лічаныя дні без сваркі праходзілі.

Браты Антосевы старэйшыя — абодва жанатыя, з дзецьмі, кожны сябе глядзіць. Калі заробіць дзе каторы набаку — у кішэнь цісне, на гаспадарку не дае. А яны ўдваіх, як малодшыя, не маюць такой волі. Вечна за сваёю работай душацца, а калі справіць што, боты якія зрабіць ці хустку купіць, дык і няма за што. Нарадзілася дзіця, тады і завяршылася. Біцца прабавалі некалькі разоў, ды, нарэшце, разарвалі гаспадарку на часткі. Вузкі шнурочак Антосю дастаўся. Канянё — другі год, стрыгун, запрагаць яшчэ нельга было. З будынка — варыўня на хату ды адрынка. Не было на чым вельмі разгарнуцца, але рада была Аўдоля, што хоць з гэткага пекла вырвалася: «сама сабе гаспадыня, што захачу, зраблю». Толькі сталі трохі на гаспа-

дарку ўзбівацца, на другі год на табе — вайна. Забралі Антося ў першы ж дзень. Як развітваўся, суцяшаў малую, аддаючы яе на рукі Аўдолі: «Не плач, Алеська, я скора вярнуся, табе гасцінчыка прынясу». Адно ж як пайшоў, дык як у ваду. Пра другіх хоць чуваць было: таго забілі, таго ў палон узялі ці паранілі, а пра яго ні слуху ні духу. Скончылася нямецкая вайна, чакала Аўдоля: вось прыйдзе, вось вернецца. Людскія паварочаліся, хто жывы застаўся, а яго як няма, дык і па гэты дзень няма.

Прабавала Аўдоля, застаўшыся салдаткаю, сама гаспадарыць, дык дзе ж вы бачылі. Малое такое, што ні яго дома пакінуць, ні яго з сабою цягаць. Сама да мужчынскай работы не прывычна. Араць бы яшчэ нішто, каб конь сталы, а то маладое, порсткае, бяжыць-бяжыць, што не справіцца за плугам ісці, засапецца, замыліцца, стане, або з баразны рване. Натузаецца жанчына за дзень, прыедзе дадому — ні рук ні ног не чуе. А касіць пойдзе — зноў, як кажуць, ні спору ні ўмалоту. То ў зямлю каса носам улезе, то вяршкі сцінае. Аглянецца Аўдоля назад — не гладкі пракос, чубы стаяць, трава застаецца. Гляне на суседнюю Грамабоеву палосу — там як нулявою машынкаю выстрыжана. Білася, білася так ды здалася. Грамабой «па-суседску» падручыўся напалавіну яе шнурок урабляць. Колькі там тае палавіны з гэтага шнурка, а Грамабой яшчэ і з гэтай палавіну сабе выкруціць. Зусім крута прыходзіцца Аўдолі. Але кідалася сяк-так. Карову трымала, даглядала; часамі пакіне дзяўчынку з чужымі дзецьмі — у заработкі вырвецца.

Не зламала Аўдолю гора, толькі загартавала больш, прывучыла на сябе, на сваю сілу і рукі спадзявацца. Падрасла дзяўчынка, сёмы год пайшоў — можна і дома адну пакінуць: хаты дагледзіць і свінчо, якое ёсць, пакорміць. Надумалася Аўдоля зноў за зямлю ўзяцца. Даў ёй камітэт у дзевятнаццатым годзе вясною каня. Худы, закіданы, але яшчэ не вельмі стары, на яе гаспадарку хопіць. І вось налажылася, уцягнулася, другі і мужчына не справіцца з ёю. Заўсёды з мужчынамі на полі, на сенажаці — і сама як бы абмужчынілася, курыць нават пачала. Спачатку жартуючы: «Ідзі, Аўдоля, пасядзі трохі, адпачні. Работа не воўк, у лес не ўцячэ. Закуры вось мацаку, усё роўна ты ў нас за мужчыну ідзеш». Раз папрабавала, другі, а потым ужо і цягне. Сёлета дык і градку тытуню пасадзіла, кішэнь у спадніцу ўшыла, капшук з тытунём носіць. Хадзіць навучылася неяк па-мужчынскаму, шыро-

ка сцігаючы, і звычкі мужчынскія пераняла: пад злосць і вылаяцца можа не горш за мужчыну.

— Чула я, Зоська, як табе жывецца цяпер,— сказала Аўдоля, зачыняючы векам дзяжу.— І пра дзіця чула, і пра вяровачкі. Як я цяпер думаю, дык мала яшчэ білі ўсялякую брыду. Паноў ды буржуяў папраганялі толькі. А вось на такіх, як твая свякроўка-цаца, я таксама кулі не пашкадавала б... Не даравала б я ім, будучы табою. Паздыхалі б яны, калі б я папусцілася, каб яны з мяне здзекаваліся.

— А мая ж ты Аўдолечка! Каб жа мая сіла... Як жа я ім не дарую?..

— Сілаю ты іх не здужаеш, і біцца табе з імі не трэба. Хіба ж у нас няма каму заступіцца за пакрыўджанага чалавека? Ды мужык жа твой у чырвонаармейцах — гэта ж шмат значыць. Ідзі ў камітэт, скардзіся, на суд падавай. Людзі ж ведаюць, што яны з табою робяць.

— Няхай ёй, мая ты Аўдолька, у грудзях робіць, гэтай ведзьме старой. А як жа, барані божачка, Юзік не вернецца ці белапалякі зноў прыйдуць? Чуваць жа зноў каля Нясвіжа... Мне ж тады хоць на свеце не жыві, яны ж мяне жыўцом з'ядуць.

— Ну, як на маю адвагу, дык я б не пабаялася. Пакуль бы мне што зрабілі, дык яе пасадзіла б я ў астрог.

Маркотная і заплаканая, Зося задумалася, успёршыся локцем на падаконнік. Аўдоля пашэргала аб прыпек нож, скруціла ў скрутак лістоў пяць жоўтага звялага тытуню і на ўслоне пачала яго крышыць, запасячы на заўтра.

Шмат хлопцаў з Мядзведзіч пайшло ў Чырвоную Армію пасля таго, як адагналі белапалякаў, ды не ўсе яны там адзе́ржаліся. Знайшліся такія, што як сала сваё з торбы скончылі, дык і па доме зажурыліся. А зажурыўшыся, надумаліся збегаць дадому «хатніх наведацца», «сухароў ды сала захапіць яшчэ». «Бегчы», праўда, было далекавата: са Смаленска, з Ельні, з Дарагабужа — некаторым па вёрст трыста з гакам, але беглі. Збіраліся гуртам па шэсць, па дзесяць, па дваццаць чалавек, ішлі цёмнымі асеннімі начамі, ішлі ўдзень лясамі і хмызнякамі — воўчымі сцежкамі: абыходзілі здалёк гарады, мястэчкі і буйныя вёскі, заходзілі на хутары, выбіраючы, дзе шмат добрага будынку, высокі плот, моцная брама ды пара сабак-ваўкарэзаў на прывязі. За гэтымі брамамі калдунаватыя ваўкарэзы вартавалі захаваную кулацкую нянавісць да бальшавікоў і спачуванне, кусок пульхнага сеянага хлеба, а часамі і гладышык малака для дэзерціраў. А яны, прыйшоўшы дадому і насушыўшы сухароў, найчасцей глядзелі зусім не

ў той бок, дзе знаходзілася іх часць. Накіроўваліся з сухарамі ў лес, забіраліся на астраўкі сяродляснога балота, зашываліся ў гушчарнік. Там, пад пануры асенні лясны шум ды пад воўчае выццё начамі браў іх роздум. У некаторых абуджаліся дакоры сумлення, што яны здрадзілі тым, хто сплывае крывёй, змагаючыся за фабрыкі і заводы для рабочых, за зямлю для тых, хто на ёй працуе. У ціхія зорныя ночы, калі яны, абкружыўшы зыркі агонь, сядзелі і грэліся, панурыя і негаваркія, да іх здалёк, мо за паўсотні ці болей вёрст з захаду, даносіўся гарматны гул. Адны пад гэты гул ціха ўсміхаліся і прыслухоўваліся так, нібы гэты гул ішоў з іх нутра. Яны ў гэтым гуле чулі збаўленне сабе ад «бальшавіцкай напасці», ад продразвёрсткі, ад усялякіх камітэтаў і камісій, якія ідуць толькі каб узяць, а даць знойдуць нейкага іншага. У другіх ад гэтага гулу цела шэрхла і, здаецца, нанава пачыналі балець раны і пісагі ад шампалоў і бізуноў. За гэтым гулам уставала здань пана Гняцецкага, зухаватых і па-звярынаму бязлітасных белапольскіх афіцэраў, расплата за забраную ў пана зямлю, падзелены панскі скарб.

Такія не вытрымлівалі. Цішком па адным, па два яны пакідалі воўчыя прытулкі, выходзілі на шырокі гасцінец і накіроўваліся да бліжэйшай станцыі, каб ехаць зноў у сваю часць, дзе іх чакала, напэўна, не малая кара; або ішлі ў свой павятовы горад і самі здаваліся ў рукі камдэзу. А былі і такія, што клапаціліся толькі аб сваёй скуры; чакалі, што хутка яно як-небудзь ды пераменіцца, уціхне вайна, а тады — нашто яны ў войску? Вернуцца насмелую дахаты і пачнуць гаспадарыць на былой панскай зямлі, якую яны ўжо атрымалі ці яшчэ спадзяваліся атрымаць.

Канцы мядзведзіцкіх палос на Пасецы зараслі густым маладым хвойнікам. Зямля тут неўрадлівая, пясок, нічога расці не хоча. Нават у мокры год жыта тут слабое бывае, а ўжо пра ячмень ды авёс і думаць няма чаго, каб тут сеяць. Жыта толькі і сеялі цераз два гады на трэці. А хвойнік любіць тут расці. За два гады, пакуль не арэцца, усё роўна як яго знарок хто пасеяў,— густа паўзыходзіць. Ваявалі патроху людзі з пяском ды хвойнікам, а потым і рукой махнулі — не варта шкурка вырабу. Даўжэй за іншых сваіх суседзяў араў сваю палосу Верамейчык. Але на абкружанай з усіх бакоў хвойнікам палянцы зусім перастала расці. Шкада было Верамейчыку кавалка зямлі, але нічога не зробіш — кінуў і ён. За тры гады зямля ўялавела, але палянка вельмі прыдалася, каб на ёй слаць

лён: ні пастух сюды з авечкамі не заходзіць, ні ветру няма паміж хвойнікаў.

Вусцішна Зосі адной паміж лесу. Гатоў яшчэ воўк высунуцца ці ліхі чалавек. Дзе што шасне, яна ўздрыганецца, адагнецца, прыглядаецца ў той бок, пакуль не заўважыць, што там птушка з галінкі на галінку пералятае. Потым задумаецца, забудзецца, што яна адна, а рукі самі спрытна падбіраюць лён і складаюць у пучкі. Думкі ўсё пра адно штодзень: ці жыў Юзік? Ці вернецца? Цяжка ўтрымацца ёй цяпер у сям'і, як памерла дзіця. Калі не будзе вестак ад Юзіка, выжывуць з хаты. Раз адважылася, калі ўжо вельмі насела свякроў, пагразіла, што пойдзе ў камітэт заявіць, дык трохі была паспакайнела. А потым праз дзён колькі зноў узялася.

Моцна трэснула сухая галінка, і зашасталі хваёвыя лапкі. Зося спужалася, глянула ў той бок і яшчэ горш спужалася. З хвойніку выходзіў невысокі чалавек у доўгім новым шынялі. Ногі яе адразу памлелі. Яна момант стаяла нерухома, а потым памкнулася была бегчы.

— Не бойся, Зося, гэта я,— ціха, але выразна сказаў той.

Зося спынілася і недаверліва глянула на чалавека. Голас падаўся ёй знаёмы, але ў твар яна не магла пазнаць адразу, так змяніла яго вайсковая вопратка.

— Гэта ты, Уладзік? — спыталася яна нарэшце, добра ўгледзеўшыся.

— Але ж.

— Ну і спалохаў жа ты мяне, аж у мяне ўсё закалацілася. Што ж ты тут робіш?

— Я...— вочы яго забегалі,— з вайны іду.

— Як гэта ідзеш?

— Ды вось так... Годзе ваяваць, думаю сабе.

— Можа, цябе ў водпуск пусцілі?

— Можа, і ў водпуск.

— Дык чаму ж ты лесам? Няхай жа ж бы ты дарогаю ішоў.

— Не можна мне дарогаю хадзіць.

— Дык гэта ж ты ўцёк, мусіць?

— Няхай сабе будзе і гэтак.

— А кепска ж табе не будзе за гэта?

— Горай не будзе, як куля ў лоб, а лепей можа быць. Хіба ж я дурны ім у рукі пападацца?!

Памаўчалі трохі.

— Дык ты цяпер дома будзеш жыць?

— Нельга мне дома жыць.

— А некаторыя ж гэткія туляюцца. Мікола Грамабойчык, Алесь Галаскокавых і яшчэ хлопцаў са тры.

— Дык яны ж простыя, радавыя, ім нічога, а мяне, калі зловяць, расстраляюць. Я ж прапаршчыкам быў пры Керанскім, дык і цяпер зводным назначылі. Вось сцямнее трохі, дык пайду дадому, павячэраю, аддыхну, развітаюся, і далей на захад. Там каля фронту пачакаю дзе-небудзь у лесе, пакуль паны зоймуць, а тады разам з імі дадому вярнуся... Ты ж нікому не заявіш на мяне? Ды каб і хацела, дык позна ўжо, у мястэчка — не паспееш. А сваіх мядзведзіцкіх я не баюся, хоць каму і скажаш.

Зося зноў памаўчала.

— Можа, ты, Уладзічак, пра Юзіка што ведаеш? Вы ж ці не разам былі з ім?

— Дрэнь справа з тваім Юзікам... Дурны, угаворваў я яго яшчэ раней даць драла разам. Не паслухаў. Верна вельмі бальшавікам хацеў служыць. Дык вось...

— Што? Братка, кажы, не пужай ты мяне.

— Захварэў, вось што. Моцна нават захварэў: ногі ў яго распухлі і твар распух. У шпіталь палажылі. Вядома, гэтакая халадэча на дварэ, а мы яшчэ ўсё ў палатках былі! Цяпер яшчэ ў палатках...

— Гатоў памерці твой Юзік,— памаўчаўшы, сказаў Уладзік і цішком наглядаў, як ад гэтых яго слоў змeніцца ў твары Зося.

Яна старалася стрымаць дрыжанне падбародка, прыкусвала ніжнюю губу, а буйныя слязінкі адна за адной збягалі па яе шчаках.

— Плачам нічога не паможаш,— суцяшаў Уладзік.— Ды і хіба ж толькі свету, што ў акне! Знойдзеш другога, лепшага. Ты ж маладая яшчэ ды прыгожая.

Зося прамаўчала, толькі ўздыхнула і села на зямлі каля перавяслаў. Побач сеў і Уладзік.

— Помніш, якія лісты я да цябе пісаў? Скрозь ты мне падабалася, ды вось Юзіка выбрала.

Яна ўсё маўчала.

— Вось вярнуся разам з палякамі, дык зажывём тады з табою. Добра? Дармо, што ты замужам была, я на гэта не пагляджу...— Ён абняў яе стан і туліў да сябе.

— Пакінь ты свае жарты. Мне свет не міл, а табе дурэць наўме,— сказала яна, адводзячы яго руку і адсоўваючыся.

Але ён схапіў яе ўжо аберуч у пол і прыпаў губамі да шчакі.

Яна адхіснулася, глянула яму ў твар і спужалася. Гэты, добра знаёмы ёй амаль з маленства твар выглядаў цяпер чужым і страшным. Яна абедзвюма рукамі ўперлася яму ў падбародак, адпіхнулася з усяе сілы і вырвалася. Адскочылася крокаў на пятнаццаць. Не магла аддыхацца ад страху і вялікага напружання. Але ён ужо ўсхапіўся і ішоў проста на яе, прыгнуўшы галаву і гледзячы некуды ўбок. Зося наставіла рукі і адступалася назад:

— Уладзічак, братачка! Не чапай ты мяне. Хворая ж яшчэ я. Пасля дзіцяці не паправілася.

— Но, каб цябе!.. Ах, воўчае мяса,— пачулася зусім блізка за хвойнікам, і задрыгацелі па карэнні колы.

Бандыт адразу апамятаўся і кінуўся ў хвойнік на другі бок палосы. Зося, стараючыся супакоіцца, хутчэй нагнулася і пачала падбіраць лён. Яна пазнала свёкраў голас — гэта ён па лён ехаў. Але рукі яе калаціліся, і лён валіўся на зямлю.

— Тпру,— супыніў Верамейчык каня.— Гэта ты яшчэ не скончыла?

— Яшчэ трошкі. Пакуль вы зложыце той, дык я і скончу.— І па голасе, і па тым, як ходзяць яе рукі, свёкар пазнаў, што Зося не ў сабе.

— Чаго гэта ты так калоцішся?

— Напужалася моцна. Воўк напужаў.

— Можа, сабака Жагулаў прабег, а табе ўжо воўк здаўся,— не паверыў свёкар.

— Гэта не сабака. Сівы, вялізны, хвост апушчаны. Высунуўся з хвойніку і стаў, глядзіць на мяне. Я замахнулася на яго, кажу: «Вон, каб ты здох!», а ён як заляскае зубамі, дык я і ўтрупела. І ўцякаць баюся, каб не парваў,— сяджу і не варушуся. Як пачуў ваш голас, дык і пасунуўся зноў у хвойнік.

Свёкар крахтануў, больш нічога не сказаў і пачаў класці лён на воз.

Не хацелася Зосі ва ўсім спавядацца свёкру. Ён сказаў бы дома Тадоры, а тая хіба ж паверыла б, што яна абаранялася ды прасілася? Яна ж бы адразу сказала, што нявестка качалася ў хвойніку з Уладзікам і лёну не падабрала. Прылажыла б яшчэ ў дзесяць столак і пусціла б пра нявестку славу на ўсё сяло, што ўсе пальцамі б сталі паказваць. Яшчэ Юзік, калі жыў, мог бы дачуцца. І так ёй ужо хапае...

А Уладзіка ад таго разу яна вельмі баялася. Выйдзе ўвечар на двор, дык, здаецца, і стаіць ён за вуглом, пільнуе яе. А як пасля яшчэ пайшлі пра яго чуткі, што ён з-за

мяжы сюды з бандай пераходзіць, коні крадзе, людзей супыняе на дарозе ды грабіць, дык яшчэ горш стала баяцца. «Зловяць,— думалася ёй,— завяжуць рот, завязуць у лес і зробяць што захочуць. Яшчэ гатовы і ў Польшчу з сабою завесці». Нават удзень, каб у лес пайсці ў грыбы або ў ягады,— ні за што не пойдзе. Толькі, калі збярэцца вялікая чарада ды падгавораць жанкі, тады асмеліцца.

Сякуць лес мядзведзіцкія. Бяднейшым даў камітэт лесу — каму на хату, каму хлеў перасыпаць. Сераднякам некаторым па пнёў пяць-шэсць далі на падрубы ці на дошкі. А пры гэтым і тыя, каму не далі, валочаць. Ды яшчэ больш, чым тыя, каму далі. Іх пара цяпер пакуль што. Ляснік папаўся такі, што баіцца слова сказаць, прыкідваецца, быццам не бачыць, што ў яго абходзе робіцца. Вось і валочаць. Грамабою «да зарэзу» патрэбна дзерава на дом. «Сына жаніць мо ўскорасці прыйдзецца. Хата малая, цесная, дый струхлела ўжо».

— Хата твая не цяснейшая, як у людзей, а прастаіць яна яшчэ смела пятнаццаць гадоў, нават не перасыпаючы,— кажа камісія, што размяркоўвае лес.

Але Грамабой і без камісіі ведае, што яму трэба рабіць у гаспадарцы.

Ну, а Сураўцу і пагатоў. Пад гэтым жа Сяргейкам, які цяпер у лесе туляецца, яшчэ трох малодшых ёсць. Дзяліцца ж некалі прыйдзецца.

І дэзерцірам весялей у лесе стала. Работа знайшлася і хлеба дарэмна не ядуць. Ды цяплей за работай, а то ўжо ж не цяпер і снег выпаў, халады пачынаюць прыціскаць.

Спілуюць, ацярэбяць, на воз узложаць — толькі вязі. А вечарком, крадучыся, дахаты начаваць ідуць. А то ў Жагулы папросяцца пагрэцца. Таму хаты не шкада. «Толькі языкоў не распускайце, а то — самі ведаеце...» — напамінае ён ім.

Кешкаецца ў лесе з жонкаю Варанец Рыгор. Сорак пнёў далі яму на хату. Добра, што далі. У старой зусім ужо нельга жыць: па вокны ў зямлю ўехала, столь на подпірках трымаецца, бэлькі пагнілі. Але ж і працы трэба палажыць, пакуль новую паставіш. Гэта вось з лесу вывезці толькі з яго сілаю ды з яго канём — набярэшся, як стаць.

— Ды не гні ты гэтак пілу ўніз! — злуецца ён на жонку.

— А чорт табе тут і ўнаровіць,— агрызаецца тая, папраўляючыся. Рукі яе памлелі ўжо, цягаючы пілу, і ў калені холадна ад снегу. Няспраўна з бабаю ў лесе. Не налажылася яна да гэтакай работы. Пілу яшчэ цягае сяктак, і то баючыся. Піла яшчэ і да палавіны камель не прагрызла, а ёй здаецца, вось ужо хвоя на яе валіцца. Тут пілу тузае як папала, сама ўгору глядзіць, ці не хінецца ў гэты бок вяршыня. Ля воза зноў не гэтак спрытна ходзіць, як мужчына. Спадніцаю за сук зачэпіцца, паваліцца. А накладаць на воз прыйдзецца — колькі ў яе тае сілы!

— Ціхон, можа б, ты, братка, саскочыў, памог мне кавалак ускінуць,— просіць Рыгор Грамабоя, які праязджае каля яго.

— Сорам табе прасіць. Гэтакія здаравякі ўдваіх такога паленца не ўзложаць! Твая ж Марыля адна няхай папраўдзе возьме, дык у яе гэта бервяно аж загудзе,— кпіць Грамабой з хударлявай і слабасільнай Марылі.— А мне, брат, часу няма. Гэй, пайшоў, малы-ы! — падбадзёрвае ён і без таго рухавага буланага.

— Вось гад! Каб цябе... каб ты...— не падбярэ Рыгор досыць моцнага слова, каб склясці Грамабоя. Бярэ кол, падкладвае канец пад кавалак, а другі падпірае плячом. Твар густа наліваецца крывёю.

— Прытрымай трошачкі — я змянюся,— камандуе жонцы.

— Ях... шчэ раз! — выдыхае ён з натугаю, і камель кавалка, нібы нехаця, узлазіць на крэсла саней.

Грамабой пад'язджае да ўмоўленага месца.

— Гой, го-о-оп! — коціцца па лесе яго густы бас.

— У-ууу! — адгукаецца голас сына.

Едзе на голас, а той стаіць ужо ля хвоі,— аблюбаваў і падсек з аднаго боку, куды яна павінна валіцца. Гляне Грамабой угору — роўная, гладкая ды выносная — шапка валіцца з галавы; лясне пугаўём па камлі — звініць. Дзве хвіліны заўзятага шоргату пілы, і хвоя быццам раптам абнядужала,— закрахтала апошні раз, моцна гухкае аб мёрзлую зямлю, выцягнуўшыся на ўсю сваю даўжыню і падбіраючы пад сябе зялёную іглаватую моладзь.

— Хлопцы-ы-ы! Сюды-ы-ы! — разлягаецца зычны тэнар Міколы.

Падбягаюць з каламі Сяргей з Алесем, і васемнаццаціаршыновы кавалак (каб хапіла без уточкі на ўсю падоўжную сцяну), ледзь выгінаючыся сярэдзінаю, паслухмяна кладзецца на сані.

Грамабой бярэцца за лейцы.

— Но, пайшоў, малы!

«Малы» шчыльна прыціскае свае здаравенныя плечы да хамута, ставіць крукамі пярэднія ногі, упіраецца заднімі, аж пакуль яны не выпрастаюцца на ўсю даўжыню, і скранае цяжар з месца. Скрануўшы, ідзе ўпарта і натужна па снегавой цаліне, а ззаду віляе з каркамі Мікола, выкручваючыся з кавалкам паміж хвой. Выехаўшы на ўезджаную і простую дарогу, Грамабой садзіцца на кавалак, звешвае ногі на адзін бок і пасвіствае пужкай:

— Варушыся, малы-ы!

Выйшаў стары Верамейчык за гумно за патрэбаю,— эх, і тавар жа вязе Грамабой! Вось бы яму гэтакіх хаця кавалкаў з дваццаць хату перасыпаць. Зайздрасць узяла Верамейчыка, аж усярэдзіне неяк заныла,— гэтакае дабро ды дарэмна!

— Ці сходна купіў? — асцярожна кпіць ён з Грамабоя. А той і не бянтэжыцца, у тон яму адказвае:

— Ды не дарага, можна купляць. Паедзь, дык і табе там прададуць.

— Няма бо ў мяне з кім ехаць,— спахмурнеўшы, адказвае Верамейчык.

— А хто ж табе вінават? Трэ было не выпраўляць чорт куды і па што. Шчасця, думаеш, ён вельмі дастане табе ў бальшавікоў.

Напамінанне пра сына растрывожвае думкі старога. Аж шкада яму робіцца самога сябе — гэткае дабро людзі цягаюць, а яму глядзі ды толькі аблізвайся. А ўсё праз таго. Людскія вось дома, і чорт іх не бярэ. Ад вялікага ўзрушэння і жалю да сябе аж порткі забыўся падвязаць. Так і пайшоў з папружкаю на шыі ў гумно, дзе нявестка ячмень падсявала. Увайшоўшы, заўзята высмаркаўся і, плюнуўшы, разгладзіў вусы. Памаўчаўшы хвіліну, загаварыў як бы сам сабе:

— Цягаюць людзі дзерава, не глядзяць, не баяцца. А з мяне, як з дурня таго, смяюцца. А той балдык чакае, пакуль яго самі пусцяць. Хоць бы на трохі падскочыў, памог бы тут што, а тады зноў бы пайшоў. Галавы ж бы за гэта не сцялі.

Гаворачы гэта, Верамейчык трымаў сваё наўме. Перш за ўсё, ён спадзяваўся, што Зося скажа што-небудзь больш пэўнае пра сына: можа, ёй ужо вядома, што Юзіка няма жывога, ды яна толькі казаць не хоча. Шкада, праўда, сына, але ж тады ведаў бы чалавек, што рабіць, на што спадзявацца і як пакіраваць гаспадарку. А калі ён жывы ды даходзяць да яго лісты, што яна піша, дык, напэўна,

яна і пра гэта напіша, што ён цяпер гаварыў. Можа, нават папросіць, каб прыйшоў дадому, а ён паслухае яе ды сапраўды прыйдзе, паможа.

Але Зосі ад свёкравых слоў стала крыўдна да слёз за Юзіка. Такі то і бацька! Не пашкадуе, што сын, можа, у зямлі прэе, а толькі пра сябе клапоціцца. Дзерава рупіць! Зайздросна, што ўрвіцелі дабро казённае крадуць. Паўцякалі з войска, туляюцца тут, ды яшчэ і кпяць, старога падбухторваюць.

«Каб жа вы толькі павыдыхалі, хваробу вы тут будзеце раскашацца — пайду заяўлю»,— думае сама сабе Зося.

Нагінаецца стары, каб высыпаць паўасмінку падсеянага ячменю ў мех. Папружка скідаецца з шыі і бразгае спражкай аб ток. Злосць ад гэтага яшчэ больш падшыбла. Крахтануў, сплюнуў і пачаў падпяразвацца.

— Звыклі ўсе на гатовае. Нікому і не рупіць, каб штонебудзь прыдбаць у гаспадарку. Глядзяць толькі, каб пад'есці ды выспацца. А мне таксама яно не трэба. На чорта мне — на мой век хопіць.

Зося ведае, што гэта ўсё наконт яе і Юзіка гаворыцца, але яна ні слова не адказвае старому. Толькі рукі яе ходзяць жвава і рашуча, і рэшата вышэй падлятае ў руках. У яе зусім даспявае намер: «Усё роўна ж заяўлю. Скажу заўтра ў хаце, што пайду бацькі даведацца, а сама пайду і заяўлю».

У Мядзведзічах святкавалі зімняга Міколу. Хто збіраўся ў мястэчка на фэст, а хто, перакусіўшы трохі, забраўся на печ пагрэць спіну, пакуль абед згатуецца. Галаскокавых Агата, Алесева братавая, узяла ў сенцах вядро і пайшла па ваду. Але, толькі выткнуўшыся на вуліцу, яна рынулася назад у сенцы з парожнім вядром і бразнула яго на лаўку. Прачыніла дзверы ў хату і яшчэ з-за парога ледзь выгаварыла, задыхаўшыся:

— Хавайся! На вуліцу не бяжы,— дадала яна, калі Алесь без жакеткі і без шапкі кінуўся ў дзверы.

Выскачыўшы з сянец, Алесь з пуду падаўся быў на гароды, але, выткнуўшыся з-за вугла, убачыў каля суседскага свірна постаць чырвонаармейца. Той згледзеў, заляскаў замком стрэльбы.

— Стой!

Алесь ірвануў назад, кінуўся ў дзверы варыўні, зачыніўся з сярэдзіны і замкнуўся на жалезную засаўку.

Калі на двор да Галаскокавых узышоў начальнік атрада з трыма чырвонаармейцамі і старшынёю сельскага камітэта, на двары ўжо быў той чырвонаармеец, што згледзеў Алеся. Ён старанна аглядаў усе закуткі на двары, але, памятаючы інструкцыю, у хату не заходзіў, пакуль быў адзін.

— Таварыш зводны, не бачылі, цераз вуліцу з гэтага двара не перабягаў?

— Не, не відаць было.

— Дык ён тут недзе, я сам яго бачыў.

— Тут, дык павінен быць наш,— адказаў упэўнена начальнік.— Ты заставайся на двары і наглядай добра за вокнамі і дзвярыма,— загадаў ён чырвонаармейцу і накіраваўся ў хату, не зважаючы на лепет старшыні камітэта, якому сёе-тое паабяцана ўжо было за тое, што ён пакрывае дэзерціраў.

Калі ўвайшлі ў хату да Галаскокавых, там быў ужо падрыхтаваны і насцярожаны спакой. Алесева маці ляжала на печы, заплюшчыўшы вочы, але амаль не дыхала, так пільна прыслухоўвалася, што робіцца ў хаце. Старэйшы Галаскок стаяў ля прыпечка і, выгарнуўшы з ямкі вугаль і падняўшы яго на лучынцы, хацеў прыкурыць цыгарку. Але рука яго моцна дрыжала, і ён, як быццам незнарок, кінуў вугаль на прыпек і нагнуўся над ім, пыхкаючы цыгаркай. У кутку на палу сядзелі двое дзяцей — мурзатыя і маўклівыя. Яны баязліва глядзелі на чужых людзей.

— Ты будзеш Алесь Галаскок? — спытаўся начальнік.

— Я Галаскок, але не Алесь. Я Максім.

Начальнік глянуў на старшыню камітэта.

— Так, гэта Максім, таварыш начальнік,— паслужліва пацвердзіў той.

— А Алесь дзе?

— Ды ён жа ў арміі.

— Хлусіш, бачылі яго дома.

— Праўда, прыбягаў ён, але мы накрычалі, дык ён узяў сухароў ды зноў пайшоў.

— Хлусіш. Кажы дзе, а то горш будзе.

— Не верыце, дык шукайце.

— Вядома, пашукаем. Ну, хлопцы, абшукаць добра ўсе закануркі. На гары, у сенцах добра шукайце.

Калі, не знайшоўшы Алеся ў хаце, у сенцах і на гары, выйшлі на двор, чырвонаармеец, што там застаўся, паказваў на дзверы ў варыўні:

— Вось, таварыш зводны, замкнёна з сярэдзіны, а знадворку не зашчэплена. Не іначай тут будзе.

— Кліч гаспадара, няхай ключ нясе.

Максім прынёс ключ і амаль спакойна пачаў адмыкаць. Ён думаў, што варыўня была замкнёна ад учарашняга, і не спадзяваўся, што Алесь схаваўся там.

У варыўні святло ледзь прабівалася праз малюсенькае акенца, і, увайшоўшы знадворку, адразу нічога нельга было разгледзець. Пахла цвіллю і кіслаю капустай. Калі трохі вочы прывыклі да змроку, сталі відаць — кадзь з капустаю, кадушачка з агуркамі, другая з квасам, два катухі з бульбай. Добра агледзелі ўсе куткі — чалавека нідзе не было. Хацелі ўжо выходзіць з варыўні, як адзін з чырвонаармейцаў заўважыў, што катух не шчыльна прылягае да сцяны, паміж сцяной і катухом каля паўаршына яшчэ запасу.

— Таварыш зводны, тут вунь ля сцяны яшчэ якая чартовіна! Цэлы ўзвод можа схавацца,— далажыў чырвонаармеец.

— А ну, ускоч на бульбу, паглядзі там,— загадаў начальнік.

— Цёмна, нічога не відаць,— сказаў чырвонаармеец, нагнуўшы галаву над цёмным прагалкам.

— А ты штыком памацай,— параіў другі.

Узяўшы стрэльбу за прыклад, той пачаў торкаць штыком у зямлю за катух. Там нешта шорхнула па дошках.

— Ёсць, здаецца, нешта жывое. А ну яшчэ разок парнём! — намерыўся чырвонаармеец штыком у тое месца, дзе паварушылася.

— Таварыш, не калі, я вылезу,— пачуўся дрыготкі спужаны голас.

— А, вось ён, галубок! А ну, вылазь хутчэй! — скамандаваў начальнік.

З закутка паказалася спачатку калдунаватая галава з чубам збоку, як у Кузьмы Кручкова, а потым Алесь пачаў вылазіць на бульбу. Яго гэты чуб і моцна абсівераны, даўно як мае быць не мыты твар надавалі яму бандыцкі выгляд.

— Ну, цяпер ты наш, адгуляў,— сказаў начальнік.

— Вы ўдвух вядзіце яго за мною, пойдзем далей,— загадаў ён двум чырвонаармейцам.

Алеся вялі сярод вуліцы, як быў — распраненага і без шапкі. Высокі чырвонаармеец трымаў стрэльбу напагатове і спакойна і цвёрда ступаў за Алесем. Другі, маленькі і шчупленькі, відавочна, нерваваўся.

— Ну, ну пашавельвайся,— падганяў ён Алеся.

— Ды пашавельвайся хутчэй, бандыцкая морда! — крыкнуў ён нарэшце.

— Я не бандыт, таварыш. Ты мяне не абражай,— буркнуў Алесь, скасіўшыся на чырвонаармейца.

— Ах, сволач! — тоненька крыкнуў той, перахапіў стрэльбу ў левую руку і, падскочыўшы, правай спрытна заехаў Алесю па твары.

Алесь схапіўся рукой за нос, а калі адняў руку, на далоні была кроў.

— Шахоцін! Ты што ж гэта?

Позірк камандзіра суровы і здзіўлены.

— Таварыш камандзір! Не магу!.. Што хочаце рабіце. Два браты на фронце... загінулі. А гэта сволач, бандыт!.. «Не абражай!..»

— Ну, раскіс. Нервы распусціў, барышня. Вернемся,— на трое сутак на губу. Каб гэта больш не паўтаралася! — строга сказаў камандзір.

Кроў у Алеся з носа цякла тоненькім струменьчыкам цераз губы па падбародку і капала на снег. Ён фыркаў і сплёўваў, часамі выціраўся рукавом і размазваў кроў па ўсім твары, ад чаго выгляд яго зрабіўся зусім дзікім і страшным.

За ім подбегам ішла маці, несла кажух і шапку-кучомку.

— Алеська... сынок... апраніся,— прасіла яна. А ён ішоў, не абарочваючыся і не адказваючы.

Калі Зося ўбачыла яго такога праз акно, яна закрыла твар рукамі і, адхіснуўшыся, села на лаву. Не то жаль да Алеся, не то страх, што яна ў гэтым вінавата, апанаваў яе.

Сяргей Суравец толькі кончыў галіць свой пушок на барадзе і мыўся над ражкаю, як у хату ўбег хлапчук і, зрабіўшы вялікія вочы, таямніча прашыпеў:

— Салдаты на гародзе.

Рыпіна ўсхапілася з лавы:

— Сыночак... Сыночак... Куды ж цябе? — забегала яна па хаце.

— Ціха, супакойся ты, не крычы. А ты, Алеся, дай мне сваю спадніцу, кафтан і чаравікі.

— Нашто гэта табе?

— Будзеш бачыць, давай хутчэй.

Праз дзве хвіліны Сяргей з сваім маладжавым, дробным, толькі што паголеным тварам зусім быў падобны на дзяўчыну. Ён дастаў з-пад прыпеку венік і палажыў яго напагатове. Маці скеміла Сяргеевы хітрынкі і трохі супакоілася, а малы моцна зарагатаў: вельмі ж ужо смешна

было, што з Сяргея гэтакая дзеўка выйшла. Ён падбег і пацягнуў за спадніцу.

— Уцякай, жаба, а то дам,— брыкнуў Сяргей нагою, але не папаў, і малому стала зусім весела. Ён думаў ужо добра пападражнівацца, як умяшалася маці.

— Сядзь, Зміцер! Глядзі, як прыйдуць, каб ты мне і не пікнуў, а то як вазьму паскі, дык усю скуру спішу.

Зміцер неахвотна адышоўся да стала, але ўсё паглядаў на Сяргея і хіхікаў.

— Змоўкні, кажу! — уз'елася маці і, схапіўшы скарач, хвасянула драпкамі па плячах.

У малога навярцеліся слёзы, ён насупіўся і змоўк.

Як толькі замільгалі ў акне чырвонаармейскія шапкі, «дзяўчына» старанна ўзялася месці хату, адсунула стол і пачала вымятаць з-пад кута. Калі ўвайшлі, яна толькі на момант адагнулася, глянула і зноў нагнулася над сваёю работай.

На запытанне пра Сяргея і тут быў падрыхтаваны загадзя адказ.

— Прыбягаў, але пайшоў зноў у войска. І ліст нават прыслаў ужо адтуль.

— А дзе ліст? Дайце мы пачытаем,— сказаў старшы.

— Алеська, дзе ліст? Ты ж яго хавала недзе.

— Я ў шуфляду клала, ды няма ўжо там. Мусіць, Зміцер вывалак недзе ды падраў ужо.

— Я не браў. Ніякага ліста там не было,— буркнуў яшчэ насуплены малы.

— Вось праўду чалавек кажа,— ніякага ліста не было,— сказаў старшы.— Маладзец,— паляпаў ён па плячы малога.— Люблю, хто праўду гаворыць.

Малы цераз брыво глянуў угору на старшага і ўсміхнуўся.

— Ну, хлопцы,— сказаў далей старшы,— давайце шукайце, як я вам сказаў, а мы з Пятрэнкам застанёмся з мамашай, яшчэ пагутарым. Можа, яна падумае ды скажа нам што-небудзь прыемнае. Самой жа і сыну лепш будзе, калі добраахвотна.

— А мой ты саколік, што ж мне думаць! Ці думай, ці не думай, дык я ж яго вам не выдумаю, калі тут няма.

— Не верыцца нешта, мамаша! А ты, малады чалавек, што скажаш? Дзе ваш Сяргей? — паказытаў старшы хлопца пад барадой.

Малы глянуў на дзяўчыну, што мяла, потым перавёў погляд на матку:

— Я не ведаю. У войска пайшоў.

— А хто цябе маніць навучыў? Мамка, мусіць?

Хлопец апусціў вочы і маўчаў.

— Ось я хіба з цією дыўчынаю пабалакаю,— сказаў Пятрэнка.

— Відпічнеце, барышня, што вы так запрацювалыся,— скубянуў ён Сяргея за блузку.

Сяргей сцепануў плечуком і не адказаў.

— Глуха вона ў тэбе, мамаша, чы шчо?

— Але, саколік, і глухая, і нямая, і так нейкая як не ў сваім розуме,— адказала Рыпіна.— Лепш і не чапайце вы яе.

— У мэнэ сэстра дома така. З такімі я ўмію балакаты,— сказаў Пятрэнка, скубянуў зноў Сяргея за блузку і пачаў вырабляць пальцамі, прыстаўляць іх да носа і лба, паказваць нешта на далоні і мармытаць.

Сяргей тоненька мармытнуў і адмахнуўся рукою — не лезь.

Малому зноў стала весела. Ён вылез з-за стала, сачыў за кожнымківам Пятрэнкі і рагатаў.

Пятрэнка намерыўся абняць «дзяўчыну», але Сяргей адхіліўся і злёгку выцяў Пятрэнку венікам па руцэ.

Рыпіна не сцярпела:

— Вось прыстаў да дзяўчыны! Калі прыйшоў па справе, дык рабіў бы, што табе трэба, ды ішоў. Яе і так бог пакрыўдзіў.

— Нэ буду, нэ буду, мамаша. Я ўжо сіў, як святы,— падміргваючы малому вокам, сказаў Пятрэнка.

Як толькі «дзяўчына» адвярнулася ад яго, Пятрэнка асцярожна пачаў красціся зноў да яе і наставіў рукі, каб схапіць за плечы.

— Сяргей, ззаду крадзецца! — забыўшыся, крыкнуў малы.

У Сяргея венік выпаў з рук, а матка адразу збялела і не магла слова выгаварыць.

— Ну, годзе, барышня, камедзь ламаць,— рашуча сказаў старшы.— Скідай свае бабскія лахманы!

— А таварышок, а паночак, а залаценькі, а не карайце ж вы хаця моцна яго,— загаласіла Рыпіна.

— Ладна, ладна, мамаша, мы ведаем, што нам рабіць.

— А ну,— шагам марш!

Хата напоўнілася крыкам і галасам. Малы, здагадаўшыся, што зрабілася нешта нядобрае, прытуліўся ў куток і таксама плакаў, гледзячы, як гэты вясёлы вайсковы дзядзька раптам зрабіўся сярдзітым і, наставіўшы стрэльбу, загадаў Сяргею ісці наперад.

Тодар Пошта — можа, ужо ў дзесятую хату — прыбег да Верамейчыка.

— Дзень добры! Палавілі, усіх палавілі,— крыкнуў ён, толькі прачыніўшы дзверы і не чакаючы нават, пакуль яму адкажуць на «дзень добры»,— Міколу Грамабойчыку дык нагу прастрэлілі. Ён, як счуў толькі, што чырвонаармейцы ў вёсцы, дык і драпануў за гумны. Хацеў у лес падацца. Але, брат, яны таксама хітрыя. Кругом ачапілі вёску. І калі яны зрабілі гэта, што ніхто не бачыў,— вось дзіва! Як толькі Мікола выбег за гумны, дык яго і ўбачылі. Ганок за чацвёра быў чырвонаармеец. Прыпаў на калена: «Стой»,— і наставіў стрэльбу. Мікола яшчэ паддаў ходу. Тады ён намерыўся — бах. Не папаў. Другі раз. Бяжыць усё Мікола. Дык ён трэці раз як намерыўся, як даў, дык Мікола носам у снег і зарыў. Вось так як цераз хату не дабег да магазіна. Каб забег за магазін, прапала б тады ўжо. Нельга б было страляць. Дык Мікола яшчэ з месца пад магазін падпоўз. Так і знаць крывавая сцежка, як валок нагу. Як прыехалі забіраць (я таксама падбег туды), дык Мікола ляжыць пад магазінам скурчыўшыся, калоціцца ўвесь і скавыча, не раўнуючы, як шчаня. Фельчар іхні нагу яму перавязаў (вышэй калена куля папала), на сані і павезлі.

— А Галаскокавага дык збілі на горкі яблык. І нос разбілі, і зубы два выбілі, і спіна ўся ў сіняках. Скрывавілі ўсяго хлопца як мае быць,— расказваў далей Пошта.

Той факт, што знерваваны, хворы чырвонаармеец выцяў дэзерціра, падхапілі ўжо кулацкія языкі, перакруцілі, прылажылі яшчэ ў дзесяць столак і так апрацавалі, што дэзерціры і бандыты выглядалі бязгрэшнымі анёламі, а чырвонаармейцы нейкімі нелюдзямі, якія толькі тое і рабілі, што збівалі людзей і ўсяляк здзекаваліся з іх. Пошта ахвотна разносіў гэту лухту па хатах, і сам яшчэ дабаўляў сёе-тое, абы толькі цікавейшае выйшла апавяданне, і каб людзі, слухаючы яго, зайздросцілі, што ён ведае такую цікавую навіну.

Слухае Зося, што расказвае Тодар, а ў самой сэрца аж як не выскачыць. Гэта ж столькі праз яе бяды нарабілася: Алеся збілі, Міколу паранілі. А ніколі ж дагэтуль яна і вока нікому не запарушыла. Невядома ж яшчэ, што з імі будзе. Гатовы парасстрэльваць. Кепска, мусіць, зрабіла.

Стаіць Рыгор Варанец у варотах, рукі зложыў на жываце, глыбока ў рукавы кажуха пазасоўваў. Галаву ў каўнер увабраў. На губе недакурак дыміць. Згледзеў Аўдолю на вуліцы. Не то ад дыму вусны крывіць і вока

правае прыжмурвае, не то здалёк яшчэ спрабуе ўсміхнуцца Аўдолі.

— Ці не навабранцаў праводзіла?

— А як жа, сусед жа мой, як не правесці? Толькі не разабраць вось: не то на вайну, не то з вайны ён едзе. Параненага ж павезлі.

— Здарава?

— А як мае быць нагу прашыла куля. Будзе памятка добрая.

— Дык ты мо і паплакала трохі?

— Чаму не! Прыяцелі яны мне вельмі вялікія! Няхай па іх ваўкі ў лесе плачуць. І так вунь галасу поўна сяло.

— О-то не шкодзіць. Вельмі ж яны тут ужо былі разгуляліся. Ходзяць самапас, і ўшчунку на іх ніякага няма. Людзі галаву сваю кладуць, баронячы, як той кажа, дабро народнае, а яны тут цягаюць сабе гэта дабро і не баяцца нікога... Яшчэ і зубы скаляць,— дадаў Рыгор, успомніўшы, як Грамабой не захацеў памагчы яму кавалак узлажыць.

Убачыла Зося праз акно Аўдолю, накінула на плечы вялікую хустку з фрэнзлямі, выбегла:

— Аўдолька, пачакай!

Тая прыпынілася.

— Дзе гэта ты была? — задыхаўшыся ад бягі, запытала Зося.

— У тым канцы,— адказала тая ўжо на хаду.— Бачыла, як дэзянціраў павезлі.

— Ты іх усіх бачыла?

— Бачыла. Як добрых паноў, на сані пасаджалі, і пры кожным чырвонаармеец са стрэльбай...

— А ці праўда гэта, што яны Алеся збілі да паўсмерці?

— Плюнь таму ў вочы, хто табе гэта казаў.

— Пошта казаў.

— Слухай ты, што табе скажа гэты пусты млын! Там дакрануўся некаторы да носа, капля крыві паказалася, дык ужо збілі. Няхай яны ўспомняць, як белапалякі білі, ды за нішто.

— А я ўсё думаю, Аўдолька, ці добра гэта?

— Што ці добра?

— Ды вось што пабралі іх. Пакараюць, напэўна, моцна: гатовы расстраляць яшчэ.

— Не расстраляюць... Ды і што табе прыспела шкадаваць іх? — нават трохі зазлавала Аўдоля.— А яны твайго шмат шкадавалі? Чула ты, каб хто з іх хоць словам заікнуўся, што пра твайго і чутак няма, можа, і загінуў ужо?

А каб жа такіх бегуноў менш было, дык бы і войска больш было і мацнейшае б яно было; і твайму, можа, менш перанесці трэба б было, можа, ужо і дадому вярнуўся б.

— Яно ж гэтак, Аўдолька. Ты праўду кажаш, але ж няхай бы гэта хто другі...

— Што другі?

— Як падумаю, што праз мяне гэта ўсё, дык неяк аж вусцішна робіцца.

— Што праз цябе? Нешта я не ўцямлю, што ты хочаш сказаць.

— Я цябе прашу, Аўдолька, не кажы нікому нічога, а то кепска мне будзе. Гэта ж я даказала на іх, калі і хто дома будзе. Дык цяпер ужо аж чуць сама не каюся,— можа, не трэба было гэтага рабіць.

— А ты вось мне скажы... толькі чыстую праўду,— раптам павярнулася да яе Аўдоля: — За бальшавікоў ты ці за каго другога?

Неяк дзіўна Зосі чуць ад Аўдолі гэта пытанне, так неспадзявана і рубам пастаўленае, а Аўдоля сур'ёзна глядзіць ёй у твар і чакае.

— А чаму ты гэта ў мяне пытаеш? — збянтэжылася трохі Зося.

— Раней адкажы, а тады я табе скажу чаму.

— А за каго ж я... Бальшавікі за бедных, а я ж таксама за бедных, бацька мой бедны. Ды сама я, як сірата якая ўсё роўна. Каб свёкар прагнаў сягоння, дык і рук не было б за што зацяць.

— А ты гэтым, што даказала на дэзянціраў, памагла бальшавікам ці не?

— Бачыш жа, што, мусіць, памагла.

— Дык і добра зрабіла. А чаго ж ты яшчэ каяцца ўздумала?

— Калі ж людзі моцна крыўдзіцца будуць.

— А ты думаеш тыя, разам з кім твой Юзік, не крыўдзіліся б на цябе, каб ты не даказала на іх ворагаў? Тут без крыўды ўсё роўна не абысціся, дык няхай лепш ворагі крыўдзяцца, чым прыяцелі.

— Які ж ён мне вораг, хоць той жа Алесь?

— Ён бальшавікам вораг, твайму чалавеку вораг, дык і табе вораг, дарма, што ты з ім не білася і не сварылася.

— Мусіць, ты і праўду кажаш... Не можа мой розум знесці ўсяго гэтага.

— А ты не маркоцься, плюнь на ўсялякія крыўды.

— Дзякуй табе, Аўдолька, што ты трохі мяне разважыла. А я ўжо знарок хацела бегчы да цябе, каб пагаварыць з табою.

— Дык хадзем, зойдзеш, пагаворым. Работы ж у цябе сёння няма.

— Не, любачка, я вярнуся. Мы ж яшчэ не абедалі. Ды свінням зараз даваць трэба будзе. Пад вечар я забягу да цябе.

— Добра, прыходзь.

— Дык ты ж глядзі, Аўдолька,— яшчэ раз прашу цябе,— не кажы нікому.

— Смела будзь. Я ж, можа, не маленькая.

У той жа самы дзень адвячоркам, ідучы да Аўдолі, Зося стрэла на вуліцы Сцяпана Варанца. Даўшы «добры вечар», яна ўжо была размінулася з ім, як ён яе запыніў.

— Пачакай, пачакай,— падмаргнуў ён.

Яна спынілася, трохі здзіўленая: якая гэта ў Сцяпана можа быць справа да яе?

— Вось ■ табе зараз нешта дам.

— Што ж вы мне гэтакае дасце? — трохі ўжо дагадваючыся, але не ведаючы, ці ёй прыйдзецца радавацца ці плакаць, нясмела запытала Зося.— Дык дайце ж ужо,— дадала яна, бачачы, што Сцяпан не спяшаецца.

— Ого, якая ты скорая! Ужо і дайце ёй! Паскачы раней, а тады я табе дам,— цвяліўся той.

— Дык няма ж і з кім, як жа я адна буду скакаць.

— Вось хіба што няма з кім. А мне, старому, троху ўжо не выпадае скакаць з табою, ды яшчэ сярод вуліцы.

Ён зняў з галавы кучомку з парудзелай старой аўчыны і падставіў яе Зосі.

— Пазнавай, каторы твой.

Зося з пяці канвертаў выхапіла адзін шэра-сіняваты, на якім, відаць, насліненым хімічным алоўкам, Юзікаваю рукою быў напісан яе адрас.

Яна адразу моцна ўзрадавалася:

— Дзядзечка, родненькі, залаценькі! Вось цяпер я дык паскачу!

Яна хапіла яго за крысы кажуха, разоў са два закруцілася, круцячы і яго за сабою, потым абхапіла за шыю, цмокнула ў няголеную шчаку і подбегам пусцілася назад дадому.

— Пусці!.. А няхай цябе з маладзіцаю! От шаляніца, чуць усе вантробы не вытрасла,— злаваўся нарокам Сцяпан, нагінаючыся, каб сабраць рассыпаныя лісты.

Чаму яна падалася адразу назад дадому, а не пайшла да Аўдолі, Зося і пасля не магла сабе растлумачыць, калі думала пра гэта.

Прыйшоўшы дадому, не распранаючыся, села пад акно, разадрала канверт і пачала чытаць, старанна прыглядаючыся, бо стала ўжо змяркацца. Старыя прыпынілі нейкую сваю гаворку і абое глядзелі на Зосю.

Зося лёгка разбірала знаёмы почырк і ледзь шавяліла губамі.

«Любая Зоська, жоначка мая дарагая!

Даўно, вельмі даўно ўжо я ад цябе ліста не меў. І змарковіўся ж я па гэтым моцна, бо ведаю, якою я цябе пакінуў і з кім. Хоць бы маленькую вестачку пра малое — сын ці дачка, як завецца? Яно там недзе смяецца, ножкамі перабірае, кулачкамі размахвае, а я, гэткі тата, нічога і не ведаю пра яго».

У Зосі пасыпаліся слёзы. Яна выцірала іх рогам хусткі і старалася не плакаць, каб льга было чытаць далей. Нарэшце трохі сунялася і пачала зноў разбіраць літары:

«Ведаю, што не ты ў гэтым вінавата. Не магла б ты ўцярпець гэтулькі, каб не пісаць. Але пісала ты, мусіць, усё на стары адрас, а я з Дарагабужа ўжо даўно як выехаў. Напісаў я табе з дарогі адну паштоўку, ды, мусіць, яна не дайшла да цябе. А больш я напісаць не мог. Цяжка табе, мусіць, там цяпер прыходзіцца з малым. Мачаха, нябось, штодзень грызе. А ты не зважай на яе гаўканне. Якую пусцяковіну і перапусці, а калі што якое — ідзі ў камітэт. Не маюць ніякага права яны з цябе здзекавацца, як ты жонка чырвонаармейца. Яна недзе і бацьку на цябе нацкоўвае, дык і яго не бойся. Ён толькі ў сваёй хаце з бабамі ваяка, а калі ты яго начальствам пастрашыш, дык пабаіцца ды яшчэ і яе калі стрымае. Глядзі аднаго,— каб дзіця дагледжана было ды гадавалася. Ты ж ведаеш, што разам са мною ў Дарагабужы быў і Уладзя Каржакевіч. Калі я трохі быў захварэў ды мяне палажылі ў шпіталь, дык тады яго адправілі на фронт з маршаваю ротаю. Дык ён, сволач, збег у дарозе, і палавіна яго роты разбеглася. А нам на фронце вельмі патрэбны былі падрыхтаваныя камандзіры, і каб я яго, кулацкую халеру, злавіў, дык бы сваёю рукою расстраляў. І мяне былі ўжо назначылі аддзялённым камандзірам, але мне не пашанцавала, мяне ўскорасці паранілі.

Ага, я і забыўся табе напісаць, што з Дарагабужа наша рота паехала на фронт, на Урангеля. І калі мы раз наступалі на іх ды, закрычаўшы «ўра», пачалі матлашыць іх штыкамі ды прыкладамі, дык яны кінуліся наўцёкі, а некаторыя здаліся. Але адзін нейкі паршывец, мусіць, іхні афіцэр, выхапіў рэвальвер і стрэліў мне проста ў руку. Праўда, Колька Пронін тарканўў яго за гэта прыкладам па патыліцы, дык ён больш і не ўстаў. А мяне адвялі на перавязачны пункт, а адтуль павезлі ў Адэсу ў шпіталь. Куля зачапіла косць. Адэса гэта такі вялікі горад, большы за наш Мінск, у якім ты таксама ні разу не была. Цяпер рука ўжо загаілася, аж я сам гэтаю рукою напісаў табе гэты ліст, але яшчэ трохі мне прыйдзецца пабыць тут у шпіталі. Я тут раз прасіў аднаго таварыша, каб ён напісаў табе ад мяне ліст, і пераказаў яму, як пісаць. Але грамацей ён невялікі: мусіць, нядобра напісаў адрас, дык яно і не дайшло, ці мо так дзе прапала. Ну, больш напішу другім разам. Пішы ты цяпер, не магу дачакацца твайго ліста. Кланяйся бацьку і матцы ад мяне. Цалую моцна цябе і нашага сынка ці дачушку.

Адрас мой: горад Адэса, першы вайсковы шпіталь, палата чацвёртая, *Іосіфу Верамейчыку».*

Зося скончыла чытаць, згарнула ліст, палажыла назад у канверт, уздыхнула і задумалася.

— Можа, ад Юзіка ліст? — спытаў стары.

— Ад Юзіка.

— Вось і вер людзям. Набрахалі, што і на свеце няма жывога.— Непрыкметны ў змроку лёгкі пробліск радасці мільгануў на твары старога, але ён насцярожана зірнуў на старую.

Тая сядзела, як і раней, не зварухнулася і не аказалася. Але якраз гэта нерухомасць і маўклівасць гаварылі аб тым, што ўсярэдзіне ў яе кіпіць злосць і крыўда.

— Што ж ён піша? — памаўчаўшы, зноў спытаўся бацька.

— Кланяецца вам... усім.

Апошняе слова сказала яна з нейкай няёмкасцю. Не хацелася ёй загаварыць з самою свякроўю, каб сказаць, што Юзік і ёй кланяецца, а намякнуць неяк трэба было.

— Піша, што паранілі яго ў руку, але цяпер папраўіўся ўжо. Нават і ліст гэты напісаў гэтаю балючаю рукою.

— Не піша, можа, скора дадому вернецца?

— Не, нічога пра дом не піша.

На гэтым і спынілася іх гаворка пра ліст, і кожны маўкліва застаўся адзін са сваімі думкамі, аж пакуль не палеглі спаць. Тады зноў свякроў пачала бубніць нешта старому на вуха і бубніла аж за поўнач, а ён усё маўчаў і час-часом уздыхаў.

Гарачую Зосіну галаву, растрывожаную думкамі пра Юзіка, доўга не мог адолець сон у гэту ноч.

Ужо былі трохі забыліся ў вёсцы пра тое, як лавілі дэзерціраў. Прайшло, можа, з месяц ці больш часу, і вось тады аднекуль выплылі і пайшлі па вёсцы «казалы», ад суседкі да суседкі, ад кумы да кумы і дакаціліся так аж да радні дэзерціраў: Зося Верамейчыкава ўдала дэзерціраў. Ці то Аўдоля не ўмоўчала і каму-небудзь пад вялікім сакрэтам шапнула, ці то яно з воласці як перадалося ў вёску, але пайшла такая гаворка па сяле. Адны слухалі і не верылі: спакойная вельмі кабеціна, не падобна, каб яна гэта зрабіла. Другія верылі і рады былі, пры сустрэчы больш ветліва віталіся з Зосяй, а вочы іх нібы гаварылі: «Не прыкідвайся, ведаем. Маладзец, толькі гаварыць пра гэта не трэба». Трэція, не гаворачы ўжо пра радню дэзерціраў, прынялі гэта, як сваю асабістую крыўду і пагрозу сабе. Сёння іх, заўтра нас удасць бальшавікам,— гаварылі іх насупленыя бровы. Гэтыя адводзілі вочы ўбок, стараючыся не заўважаць, калі Зося траплялася ім на вочы.

Яшчэ не чуючы ніякіх гаворак, Зося дагадалася, што даведаліся пра яе ўчынак. Калі аднаго разу яна ішла па вуліцы і дала «дзень добры» Грамабоісе, якая стаяла каля сваіх варот, дык тая толькі нос у другі бок адвярнула, плюнула і моцна скляла Зосю. Нібы сама сабе, але так, каб Зося пачула ўсё ж такі.

А ўскорасці пайшлі па вёсцы пра Зосю брыдкія плёткі. Нехта бачыў, што аднаго дня на змярканні Зося нібыта ішла цераз вёску, несучы нешта пад крысом кажуха; што, дайшоўшы да Піперманіхі, яна крадкам аглянулася і пасля хуценька ўскочыла да яе ў хату. Тады ўспомнілі і пра тое, як тыдняў шэсць таму назад прыязджалі з мястэчка ў Мядзведзічы ставіць спектакль. Як на гэтым спектаклі мядзведзіцкі настаўнік круціўся ўсё каля Зосі, нешта ўсё гаварыў, а яна ўсё чырванела ды смяялася. Потым, калі разыходзіліся, дык ён праводзіў яе дадому, і Рыпіна Сураўцова казала — «сама бачыла», як ён, укруціўшы ў кажух, абнімаў яе каля Верамейчыкава шула. З усяго гэтага

Рыпіна злажыла цэлы прыгодніцкі раман на палітычнай падкладцы, паводле якога выходзіла, што Зося ўжо даўно камуністка, таму і ўдала дэзерціраў; што ў камуністаў закон такі: у бога не верыць, бацькоў не слухаць і жыць без ніякага шлюбу; што Юзік сам там камуністам зрабіўся і прыслаў ёй дазвол такі: «з кім хочаш, з тым і жыві, і гневацца не буду, бо і сам такі». Вось яна і знюхалася была з настаўнікам, ад яго і загрубела. Вось і хадзіла да Піперманіхі, каб тая дзіця вытруціла. Але ж тая дарэмна паскудзіцца не будзе, дык яна дзве дзялянкі сала завалакла Піперманісе, каб свёкар і свякроў не ведалі. Ды гэта ж толькі пачатак. Яна ж цяпер ужо ўзяла троп. Вось як вычухаецца, зноў пойдзе хвастом круціць. Нябось, яна ўсё сала павыцягвае ў Верамейчыка.

Варожыя языкі ахвотна перамолвалі ўсю гэту бязглуздзіцу, упрыгожвалі яе не менш бязглуздымі дадаткамі, смакавалі з усіх бакоў і рап'ём у вочы кідаліся тым, хто гэтаму не даваў веры. Самой Зосі ў вочы адкрыта гэтага не гаварылі, але часцяком падпускалі ёй шпількі пад пазногці. Калі сабраліся на вячоркі да Баранковых ды ўзгаварыліся нешта пра Піперманіху, дык Галаскокавых Агата і стала спакваля пад'язджаць пад Зосю: «Ох, і зарабляе, кажуць, гэта Піперманіха сёлета! Колькі ёй людзі сала ды круп перацягалі. Ды гэта ж яшчэ мала ў нас іх завялося, гэтакіх людзей. А што ж будзе далей, як іх больш будзе ды кожная штоночы будзе са свежым спаць?» Некаторыя з жанок хіхікнулі, некаторыя змоўчалі.

Зося яшчэ ўсяго не ведала, што пра яе плятуць, але па тым, як Агата падбірала губы і касіла вокам на яе, дагадалася, што тая ёй закідае.

Ганна Кухарава знарок мігнула Зосі і паклікала пайсці на двор «паглядзець, ці мароз адсеў». Калі выйшлі:

— Ведаеш, Зоська,— гэта ж яна наконт цябе ўсё пра Піперманіху ды пра сала. Гэта ж Рыпіна са злосці не ведае, што брахаць, дык злажыла ды пусціла гэтакую дзейку па сяле, што ты з настаўнікам абнімалася ды загрубела ад яго, ды пасля бегала да Піперманіхі і несла ёй сала. Вельмі ж яны ўжо злуюць на цябе, што ты хлопцаў іх выказала. Грамабой раз у Сураўцовых казаў, што каб запарваў цябе дзе адну, каб ніхто не ведаў, дык бы адразу канцы табе зрабіў і граху б не пабаяўся.

— Няхай брэшуць, няхай ім языкі паадсыхаюць. Укусіць, патом, не асмеляцца, дарма, што гэты абух грозіць. Няма, мінулася яму, кароткі рукі цяперака,— храбрылася Зося, хоць плёткі гэтыя моцна такі яе ўразілі, а Грамабоя

яна і дагэтуль баялася, а цяпер аж цела шэрхла, калі Ганна ёй гаварыла пра яго.— А гэтай сучцы Сураўцовай, няхай ёй зарве. Каб яна аглядала так сваіх дзяцей, як яна бачыла, што я абнімалася.

— Дык ты, Зоська, глядзі, асцерагайся. Чорт яму, гэтаму боўдзілу, і верыў, гатоў яшчэ залавіць дзе адну, ды... Што ж тады зробіш яму? У небе не сышчаш. Ды не толькі ж гэтыя злуюць на цябе за хлопцаў. Тут ужо адно за адно пачало чапляцца. Усе багатыры злуюць, кажуць, што гэта ты з Аўдоляю ды Рыгор Варанец ходзіце ў воласць ды ўдаяце, у каго шмат збожжа ці хто парсюка добрага выкарміў. Нібыта гэта праз вас і развёрсткі панакладалі больш на іх. Кажуць: «Усіх нас улада роўна абараняе, дык няхай і бяруць з усіх пораўні. У людзей, кажуць, так і робяць, а ў нас, кажуць, гэта праз іх (праз вас, значыцца) гэтакая напасць на людзей». Каржакевічу ж восемдзесят пудоў жыта назначылі ды пуд сала. Воўны не ведаю там, таксама шмат. Але гэты не Грамабой, гразіць не будзе. Гэты ціханька. Калі ўкусіць, дык спатайкоў. І не пазнаеш, што гэта ён, а знак будзе... Я свайму кажу: хаця ты ўжо не лезь у гэту калатушу. Не чапайся, кажу, няхай іх сарочка не чапае, а то калі, барані божачка, ды не ўтрымаецца гэта ўлада, дык тады ж са свету зжывуць. Дык ён лаецца са мною, кажа, што я нічога не разумею.

А ўскорасці Сураўцовы падшыванцы Зосі прайсці не давалі па вуліцы. Меншы, абы толькі згледзеў яе здалёк яшчэ, бяжыць і крычыць: «Міхась, Зося ідзе!» Той выскаквае з хаты ці з хлява. Хутка камечаць снежкі і складаюць у кучу за плотам. Самі садзяцца ў двары за тым самым плотам і чакаюць, пакуль падыдзе Зося. Тады пачынаюць брыдкую, абразлівую песню, зложаную, мусіць, некім са старэйшых.

Разоў дзесяць спяюць, аж пакуль яна, не аглядаючыся, міне іх хату. Тады выскакваюць на вуліцу, дружна выпускаюць увесь запас снежак у плечы і ў патыліцу, адскочацца і пачынаюць зноў абразлівую песню. Ужо за хат дзесяць яна адыдзецца, а яны ўсё крычаць на ўсю вуліцу:

Пу-у-уза завялося!
Са-ала звялося!

А Рыпіна паглядае ў акно з-за шалёўкі і цешыцца:

— Ото не шкодзіць! Ото добра! Малайцы хлопцы! Няхай ведае гэта флюндра, як удаваць добрых людзей.

Калі раз Зося ішла з Аўдоляю, ды яны гэтак напалі, дык тая не сцярпела. Сціснуўшы дручок у руцэ, падалася да жэўжыкаў:

— Я вам, шчаняты вы, каб вы не паўзрасталі! Як злаўлю, дык усе вушы паадкручваю, ды ў камітэт яшчэ заяўлю. Гэта маці вас так навучае?

Меншы адразу кінуўся ў дзверы скардзіцца мацеры.

Калі ўжо Аўдоля з Зосяй адышліся да суседняй хаты, на вуліцу выбегла Рыпіна. Узяўшы рукі ў бокі і падаўшыся ўсім тулавам да Аўдолі, яна крычала:

— Хто мае права маіх дзяцей ушчуваць?! Аднаго ўправілі, а цяпер ужо да гэтых дабіраецеся? А не дажджаце вы! Рукі караткі! Няхай толькі паткнецца каторая, дык я табе, сучка ты сухая, вочы выдзеру; я табе ўсе калдуны павырываю!

— А ну, падыдзі сюды! — абярнулася Аўдоля з дручком.— Вось пацягну раз па шчарбялях па тваіх, дык і хопіць з цябе.

— На, во, бачыш? — скруціла тая дзве хвігі. Потым — як віхрам яе закруціла — адвярнулася, нагнулася, лёпнула заўзята сябе ззаду па фалдах спадніцы і паджгала ў хату.

Другі мяшок з жытам завязвае ў свірне стары Верамейчык. Рукі, якімі ён збірае ў роўныя складкі бераг мяшка, трасуцца, на твары ад носа і да куткоў губ глыбокія пакутныя маршчыны. І ад таго, што ў зубах ён трымае нарыхтаваную аборачку-завязку (абедзве рукі заняты), маршчыны гэтыя здаюцца яшчэ глыбейшымі і пакута яшчэ большай. Згледзеў Андрэй Каржакевіч з вуліцы Верамейчыка з мяшкамі ў свірне. Знарок зайшоў:

— Як маецеся, Верамейчык?

— Як самі здаровенькі?

Адагнуўся той ад завязанага ўжо мяшка. Парукаліся.

— Ці не ў млын гэта рыхтуецеся?

— Ай, дзе бачылі! Гэта ж вось трэба аддаваць. Два мяхі ўжо раней завёз, а гэта яшчэ. Дваццаць жа пудоў усяго налажылі.

— А я думаў, у млын... Зайду, думаю, запытаюся, можа, чулі, ці завозна там. Мне ж самому трэ было.

— У млын, сказаць, і везці ўжо мала чаго засталося.

— Дайце рады. Таварышы чыста падмятаюць. Я думаў, што на вас увагу якую-небудзь мець будуць, адно ж і вам...

— А што ж я ў іх — лепшы?

— Чаму. Сын жа ваш такі ў іх служыць, ды нявестка ваша, кажуць, даходная да іх.

— Сын як сын, а з нявесткай — маўчыце вы ўжо лепш, пане Каржакевіч. Праўда гэта ці не праўда, а людзі гавораць. Дык думаеце, мне гэта прыемна, што сорам у вочы зірнуць добраму чалавеку? Альбо я карысць якую маю ад гэтага?

— Ды яно ж так... Я ўжо думаў пра вас. Не пашанцавала вам з нявесткаю. Карысці свае не разумее жанчына. Глядзіць на тых, у каго зусім няма нічога. Тыя з зайздрасці падбрэхваюць і яна з імі. А яно каб усе ў адно гаварылі, што няма лішняга хлеба ў нас, зямлі мала ды неўрадлівая, то нябось не налажылі б гэтулькі на вёску. А тады і вам, і мне, і пятаму, і дзесятаму не прыйшлося б па гэтулькі даваць. Што я меў лішніх шэсцьдзесят пудоў туды аддаваць, дык лепш бы я якога паўпуда ці цуд той самай Аўдолі ці Рыгору даў. І ёй добра было б, і мне лягчэй. А то зараз таварышы ўсіх падраўнуюць.

— Каб жа яны падраўноўвалі ды ўгору, з багацейшымі, дык я ім бы яшчэ і падзякаваў, а то ж яны ўніз раўнуюць.

«Вунь ты чаго захацеў! Кораткі пяты»,— засмяяўшыся толькі вачыма, падумаў Каржакевіч, а ўслых сказаў:

— Вось я ж тое і кажу. Зараз усе будзем свяціць, шануючы вас, голымі задніцамі і кожнаму трэба будзе дапамагчы. Ды не будзе ў каго ўзяць. Я не ведаю, што яны і думаюць сабе — гэтыя таварышы... Мусіць, каб на доўгае спадзяваліся, дык бы гэтак не рабілі. Гэта вы сёння думаеце везці?

— Трэба везці. Даўно ўжо трэба было, ды я думаў, што, можа, яно так як-небудзь абыдзецца. Адно ж присталі — рады няма. Пагразілі, што калі не павязу, дык самі прыедуць забяруць.

— Я таксама аддаў ужо. Даўно, яшчэ перад Калядамі. Тры вазы, як каню павезці. Але ж на мяне яны вока не маюць яшчэ за Уладзіка. Ды так... Нельга мне было цягнуць. А вам то можна б і пачакаць, можа, перамена якая будзе.

— Не чуваць нешта перамены.

— У Кранштаце, чуваць, матросы ўзбунтаваліся. Сіла вялікая. Караблі і гарматы ўсе захапілі. І заграніца ім памагае. Цяжка здужаць іх бальшавікам.

— То што ж тады будзе? Хаця б паны не вярнуліся,— занепакоіўся Верамейчык.

— Паны то наўрад ці вернуцца. Заграніца тады ім не дазволіць. Але што ўлада можа змяніцца, дык гэта праўда.

«Хто яго ведае як яно... горш будзе ці лепш,— задумаўся Верамейчык.— Якая б улада ні была, дык з нас яна скарэй возьме, як дасць, але ж не гэтулькі».

— Баюся, пакуль што якое, каб кепска не было. Трэба мусіць, везці,— адказаў Верамейчык хутчэй на свае думкі, чым на заўвагу Каржакевіча.

Каржакевіч далёка ўжо дыміў самаробнаю, скручанаю з «мультану», цыгараю, а Верамейчык усё сядзеў на мяшку, абапёршыся далонямі на калені, і думаў.

## VII

Начальства з раёна, пра якое гаварыў Алесь, што яно прыедзе наконт пасёлкаў, сапраўды такі прыехала, можа, з тыдзень пачакаўшы, пасля таго як пакралі коні.

За гэты час ясныя звонкія дні «бабінага лета» з невялікімі прымаразкамі па раніцах і срэбнымі ніткамі павуціння паспелі змяніцца на хмарныя і дажджлівыя. Дождж драбнюткі, але спорны, нібы праз падсітак, церушыў з каламутнага неба запар цэлыя дні. Мядзведзіцкая вуліца, бліскучая, чорная і гразкая, з дзвюма глыбокімі каляінамі пасярэдзіне, ляжала, выцягнуўшыся ва ўсёй сваёй прыгожасці.

Член сельсавета Ганскі, у ботах, заляпаных гразёю па самыя вушы халяў, пераходзіць па падвоканню ад хаты да хаты, стукае кожнаму канцом арэхавай палкі ў раму.

— На сход у школку.

Часамі дадае:

— З раёна прыехалі.

Гэта калі праз акно з хаты пыталіся:

— А што там за сход будзе?

Гэта «з раёна прыехалі» павінна было само сабою азначаць, што сход будзе важны і цікавы.

Але большасць ужо ведала і пра тое, што будзе сход, і пра тое, што прыехалі з раёна. Бачылі, як каля Ганскага спынілася фурманка, на якой сядзеў у кепцы і ў чорным падношаным паліто даўганосы і гарбаносы чалавек з рудаватаю, клінаватаю бародкаю, ад чаго яго і так доўгі твар здаваўся яшчэ даўжэйшым; як у накінутым наапашкі палітоне выйшаў з хаты Ганскі і падаў руку даўганосаму; як, пагаварыўшы хвіліну, ён ускочыў на білу, і яны паехалі аж на другі канец вёскі да Каржакевіча.

— Ну, там знойдзецца месца, дзе каня паставіць. Дый чалавека, калі прыйдзецца пакарміць, дык нішчымнай

бульбы не падсуне,— растлумачыў сабе гэта стары Верамейчык.

Загадваў Ганскі яшчэ завідна, а збірацца пачалі на сход, калі ўжо добра змерклася і пастаяла.

Ішлі мядзведзіцкія па адным, па два, хапаючыся за шулы і шчыкеты, намацваючы нагамі камяні, углядаючыся ў пратоптаныя сляды, выбіраючы дзе святлейшая, сушэйшая лапінка, і траплялі знячэўку ў самую сярэдзіну лужыны, ад чаго пырскі імпэтна разляталіся ва ўсе бакі, як аскепкі ад разрыву снарада. Добра, калі гэта быў бот, і зусім нецікавае становішча было лапця, які, жахнуўшыся, аж па самыя вушкі акунаўся ў халодную лужыну. Некаторыя шкадавалі абутку і, закасаўшы калошы ці падаткнуўшы падол, адважна мясілі босымі нагамі ледзь не пасярэдзіне вуліцы.

У школе ўсе лаўкі былі ўжо заняты. Некаторыя з маладзейшых сядзелі на падаконніках, а два паджылыя мужчыны прымасціліся ў кутку проста на падлозе. Адзін нагнуўся ў другога прыкурыць і не мог за смехам. Смяяўся ўвесь гэты кут. І па тым, як Сцяпан Варанец лагодна пыхкае, прытоптваючы ногцем тытунь у люльцы, і як ён самаздаволена плюнуў на падлогу, можна было пазнаць, што гэта ён толькі што скончыў расказваць пра адно са сваіх незлічоных здарэнняў.

У другім кутку скупілася чародка жанчын, і чутны адтуль іх тонкія галасы і смех. Аўдоля сядзіць на канцы лаўкі і, як ад тае заедзі, бойка адсякаецца ад мужчынскіх жартаў. З-за яе пляча відаць бялявы ўсмешлівы твар Зосі. Яна падмацоўвае вясёлым смехам кожны ўдалы Аўдолін адпор.

З боку ля Зосі, абапёршыся ёй на плячо, стаяла Шура, камсамолка, дачка Рыгора Варанца. Яна не зусім ёмка адчувала сябе сярод кабет, смяялася стрымана, занадта вольныя жарты пускала міма вушэй, быццам не чула, і толькі лёгкая чырвань на шчаках паказвала, што яна саромеецца і ёй гэта непрыемна.

А ў дзвярах, пераступіўшы парог, спыняліся ўсё новыя постаці. Праз сінюю заслону тытунёвага дыму яны стараліся выгледзець выгодную мясціну, дзе б можна было атаўбавацца на цэлы вечар.

Нарэшце ўвайшлі Ганскі, Каржакевіч і даўганосы з раёна.

Са стала, як спужаныя вераб'і, спырхнула трое хлапцоў-падлеткаў. Стары дзядзька павольна ўстаў з крэсла і адышоўся да акна, даючы месца начальству.

— Дык мы сёння будзем гаварыць пра адно толькі землеўпарадкаванне,— абвясціў парадак дня Ганскі.— Скажа нам пра гэта загадчык зямельнага аддзела таварыш Рахлюк.

Рахлюк устаў, чмыхнуў разоў са два носам.

Яго голас, нізкі і глухаваты, зразу шмат каму не спадабаўся. Пачаў ён здалёк, як кажуць, ад Адама, гаварыў вельмі агульнымі фразамі, устаўляючы шмат незразумелых слоў, глытаючы іх канцы. Стваралася ўражанне ў некаторых, што не ўмее і не хоча чалавек гаварыць выразна і проста, што хоча ён нешта затуманіць, што, можа, за гэтымі незразумелымі словамі якое ашуканства хаваецца, а таму самае лепшае — не згаджацца з ім, не слухаць, што ён гаворыць.

Тая ўвага і зацікаўленасць, якімі былі сустрэты першыя словы дакладчыка, чалавека свежага і «начальства», паступова пагаслі.

Зашастала папера, завіліся сінія дымкі цыгарак, дзенідзе крадком пачалася ціхая суседская гутарка.

Але пад канец прамовы — вось яно сваё, роднае: «палоскі вузенькія, параскіданы далёка ад вёскі. На іншую палоску не больш як два вазы гною за дзень можна завесці. На пераезды з аднае палоскі на другую трацічца палова рабочага часу».

Даўганосы гаварыў усім вядомую праўду вясковай цераспалосіцы, шматпалосіцы і малазямелля, але сход раптам ажывіўся.

Чакалі, што ён зараз дасць лякарства на гэту больку ці прынамсі раскажа, дзе і як яго дастаць. Як зрабіць, каб палоса была шырокая, каб зямля добра радзіла, каб працы было менш, а хлеба больш.

І лякарства зараз было прапісана. Рахлюк даваў яго ў поўную дозу, цэдзячы па каплі на вачах ва ўсіх. Каплі мяняюцца, каплі гараць рознымі колерамі, мікстура робіцца з такім разлікам, каб яна памагла хвораму ўжо адным сваім выглядам.

Але па тым, як Рахлюк без запінкі прапісвае гэты рэцэпт, відаць, што лякарства гэта загадзя ў яго падрыхтавана, што ён і не думае выявіць дакладна, чым жа хварэе вось гэты канкрэтны пацыент. Па яго думцы, усе хварэюць на адну хваробу, і ён усе сілы прыложыць, каб даць хвораму якраз гэта лякарства. Не першы раз яму праводзіць сходы па землеўпарадкаванню, і рэдка дзе не выходзіла так, як ён хацеў.

— У вёсцы не павінна быць сто пяцьдзесят двароў, як у Мядзведзічах. Да такой вёскі цалкам падыходзіць прыказка: «Вялік пень, ды дурань». Трэба гэту вёску перэтрэсці так, каб атрэсці з яе ўсю дапатопную адсталасць, усе дзедаўскія звычаі апрацоўкі зямлі. Трэба з такой вёскі зрабіць некалькі пасёлкаў,— мо дваццаць, мо трыццаць,— каб у кожным было пяць, шэсць двароў — не больш. А тады — уся зямля табе ў адным месцы ў дзвюх ці трох палосках, сенакос — тут жа пад бокам. На полі ты — хочаш, сееш канюшыну, хочаш, садзіш буракі, ніхто табе не перашкаджае, не скажа: тут папар, не маеш права. Ніхто не стравіць, ніхто не стопча; гной калі вазіць — за дзень, за два дык і ўправіўся, вядома ж, каля хаты. Зямля ўся ўгнойваецца аднамерна, ураджай павялічваецца ўдвайне. Шматполле можна завесці, зямлю разбіць не на тры палеткі, а на сем ці нават на дванаццаць, каб не прыходзіўся корань на корань. Ураджай ад гэтага павялічваецца яшчэ ўдвайне.

У Алеся Галаскока гараць вочы. Ён сядзіць на пярэдняй лаўцы і, не мігаючы, глядзіць у рот дакладчыку. Пра сваё калішняе дэзерцірства ён ужо даўно забыўся і зрабіўся заўзятым прыхільнікам усяго новага. Хапаўся ён за ўсякую навіну, не прымераўшы яе да сябе, да жыцця і ўмоў свае вёскі, і хацелася яму зрабіць гэта новае зараз жа, на гэтым самым месцы. Затое, калі на змену гэтаму новаму з'яўлялася другое, ён таксама раптоўна адракаўся ад гэтага і хапаўся за тое, хоць бы сабе і процілеглае нават, не заўважаючы свае такой непаслядоўнасці. Цяпер ён гатоў быў брацца за пасёлкі сёння ж, нават не кладучыся спаць.

Даўганосы скончыў сваю прамову, сеў і выцер хустачкай лысіну. «Павінна выйсці нешта. Падрэшт, здаецца, я ўзяў-такі за жывое»,— думаў ён, аглядаючы з-пад рукі бліжэйшыя твары.

З кута ў кут, як лёгкі ветрык па траве, прабегла па натоўпе ціхая гамонка. Хвіліна чакання — хто першы пачне.

— А як прырэзка, будзе якая ці не? — першае нясмелае запытанне. За ім пасыпалася, як з меха:

— А ці дадуць лесу забудавацца?

— Каморніка казна будзе аплачваць?

— І карміць жа яго, мусіць, прыйдзецца?

— На чорта яго карміць. Ты адно спраўляйся давай,— ён і сам будзе есці. (Гэта недзе ў задніх радах.)

Адказы на запытанні ў Рахлюка былі гатовыя, якія ён мо сотню разоў даваў на іншых такіх сходах. Але яны далёка не ўсіх задаволілі. Асабліва не спадабалася малазямельным, калі Рахлюк сказаў, што прырэзаць зямлі няма адкуль.

— А ў Жагулы хіба ж няможна абрэзаць? Гэтакі, пане ты мой, абшар.

— Добрая норма! Чорт яе там meраў яго норму. Па́нам дзела жыве, а ты тут гніся на гэтым шнурку.

— На ліха нам тады і пасёлкі гэтыя.

— Пакуль ад гэтых пасёлкаў дабра прычакаеш, дык і духі выматаюць.

«Не пойдуць, сукіны сыны»,— вылаяўся ў думках Рахлюк.

Гаварылі шмат і горача, як рэдка на якім сходзе.

Першым усхапіўся з свайго месца Алесь. Ён, як сапраўдны прамоўца, падышоў да стала і нават абапёрся аб яго абедзвюма рукамі. Голас яго быў урачыста-ўзняты, якім з сялян ніхто не гаварыў, і таму рабіў уражанне не тое, якое хацеў зрабіць Алесь. На некаторых тварах паказалася нават усмешка. Гэта яшчэ больш яго раззлавала, і кузьма-кручкоўскі чуб яшчэ драбней і энергічней затросся ў такт прамовы. За пасёлкі ён нічога новага не сказаў, апрача таго, што было ўжо сказана даўганосым. Затое вельмі энергічна нападаў ён на тых, хто не разумее карысці ад пасёлка.

— Ім жуюць і ў рот кладуць, а яны морды адварочваюць. Самі ў балоце сядзяць і другога за ногі трымаюць, каб ён адтуль не выцерабіўся. У іх адна гаворка: бацька, дзед так жыў, дык і я так пражыву. А таго не падумаюць, што дзед горш скаціны жыў, дый сам ён каторы недалёка адскочыў...

Дзед Крываношка, які дагэтуль сядзеў нерухома і драмаў, апёршыся на палку-крывулю, цяпер раптам заварушыўся. Яго, мусіць, раздражняла Алесева размахванне перад самым носам, ці, можа, да свядомасці дайшла капля сэнсу з нападу Алеся на старыя парадкі, толькі ён утаропіў ашклянелыя свае вочы ў твар Алеся, і яго белая, пажоўклая на канцах, барада падалася наперад і аж задралася ўгору:

— Чаго ты тут размахаўся? Чаго ты скачаш, як чорт на дроце? Пасё-ёлкі... Які цябе сабака трымае?

— Каб я быў сам гаспадаром, дык першы б пайшоў, ні на каго б не паглядзеў.

— Дык чаго ж ты тут падбрэхваеш, калі не гаспадар? Пайшоў ляж! — дзед застукаў палкай аб падлогу.

— Сам ты, дзед, ішоў бы на печ. Здзяцінеў ужо на старасць,— агрызнуўся Алесь, раззлаваны, што дзед збіў яго з тону прамовы.

Ён больш не гаварыў; сеў, чырвоны і насуплены, на сваё месца і паволі астываў ад узбуджэння, як кавалак жалеза, выняты з горна.

А дзед пажаваў сярдзіта бяззубымі сківіцамі і зноў нарыхтаваўся задрамаць, апёршыся на палку.

Юзік пісаў пратакол, стараўся занатаваць сэнс кожнай прамовы і дзівіўся, што так па-рознаму глядзяць людзі на гэту, здавалася яму, ясную справу. Выказваліся найчасцей выразна: за пасёлкі ці супраць іх, але прычын гэтых «за» і «супраць» было вельмі шмат і ў кожнага свая. Кожны меркаваў, як гэта яму будзе — лепш ці горш, лягчэй ці цяжэй, і тут Юзік пачаў пераконвацца, што справа гэта сапраўды не такая простая, як яму раней здавалася. Яму ў мазгі, проці яго волі, западалі чужыя думкі і словы і зацямнялі, каламуцілі яго ясны погляд на гэту справу. Ён глядзіць, як сярдзіты, пануры твар Рыгора Варанца зрабіўся яшчэ болш панурым ад таго, што ён пачаў гаварыць. Рыгор не глядзіць на прэзідыум, і вусны яго крывяцца трохі на правы бок. Словы Рыгоравы, скупыя і важкія, гірамі падаюць на Юзікаву ясную думку.

— ...Зямля ў месца збярэцца. Добра, у каго ёсць што збіраць. Збярэ Андрэй або Ціхон, дык там знак будзе...

Юзік неўзаметку пераскочыў думкамі на сваю гаспадарку — будзе знак ці не, калі ён зямлю збярэ.

— Вось таварыш кажа, можна гуртавацца, хто з кім хоча. Але ж Ціхон са мною гуртавацца не захоча, ён знойдзе сабе сябра,— адважвае слова за словам Рыгор.— Мне прыйдзецца гуртавацца з Петрусём Кухарам, з Кухарчыкам, Аўдолю да сябе запрасім — эх, і пасёлак будзе! — саркастычна засмяяўся ён.— Цяпер хоць я каня выпушчу на выган. Пад'есць не пад'есць, а ў хляве карміць не трэба. Дый пад'еў бы, каб гусі Ціхонавы так выгану не спаскудзілі...

— А ты пазатыкай маім гусям, каб яны не паскудзілі,— агрызнуўся з кута Грамабой.

— Хоць яны няхай паздыхаюць.

— Нябось не паздыхаюць. Заўтра на кірмаш павязу.

— ...а тады: каня навяжы, карову навяжы, авечку навяжы, свінню навяжы. Дый курыцу ўжо за адным махам навязвай. А дзе ж я гэта ўсё панавязваю, калі зямлі

ў мяне, як старой бабе сесці? Па-мойму, калі і разбіваць, дык не па пяць двароў, а вёску часткі на тры, на чатыры. Слабейшыя хай на месцы застаюцца, а дужэйшым можна і пераехаць, ім лягчэй.

Рыгоравы довады, простыя і ясныя, неадчэпна лезлі Юзіку ў галаву. І калі ён устаў гаварыць, дык раптам адчуў, што падрыхтаваныя загадзя козыры не такія моцныя, як яны здаваліся раней, што ёсць нейкі як бы фальш у тым, што ён думае сказаць.

— Здурнеў Юзік твой,— са злосцю кінула Аўдоля Зосі.— Але дзе ж, свая кашуля бліжэй к целу,— дадала яна спакайней.

Зосю гэта здзівіла і трохі пакрыўдзіла. Яна сама не магла разабрацца, ці добра гэта — на пасёлкі, ці не, але ёй захацелася, каб якая-небудзь згода была. Прыкра было, што яе лепшая сяброўка зазлавала на Юзіка.

— Чаму ты гэтак кажаш? — спыталася яна з крыўдай у голасе.— Хіба ж ён сабе тут што вымяркоўвае?

Але Аўдоля ёй не адказала. Яна ўстала і ўсёй сваёй высокай, хударлявай постаццю падалася ў бок прэзідыума.

— Таварыш, братка ты мой! Хочаш злуй, хочаш не, перад усімі заяўляю: на пасёлак я не пайду. Хіба ўжо сілаю перацягнуць мяне разам з хатаю. Падумай жа ты сам здаровенек: адна ж я, чалавека ў мяне няма. Дзяўчо яшчэ тое — дванаццаты гадок. Дык хіба ж гэта з нашаю сілаю на пасёлак перабрацца? Хатка ж у мяне — варывенька, спарахнела ўся. Пакуль стаіць, дык ліпіць, а крані ты яе, дык і рассыплецца ўся. Хоць бы і далі лесу, дык хіба ж я яго з маёю бабскаю сілаю высеку да вывезу? Альбо гэта будынак я перавязу ды зладжу? Усё ж людзей трэба наймаць. А ты ж мяне зарэж сёння ды скажы — дай траячку, дык я ж табе не дам. Таварыш кажа, што для ўлады добра гэтыя пасёлкі, больш хлеба будзе. Але ж улада наша, яна ж за бедных, дык няхай жа яна так робіць, каб і ёй і нам добра было.

Больш ахвотнікаў гаварыць як бы і не было, але Юзік бачыў, што частка сходу яшчэ нечага чакае і аглядаецца. «Хутаранцы,— падумаў Юзік,— чакаюць, што Андрэй скажа. Як толькі той заікнецца пра хутар, дык і падхопяць разам». Пакуль што толькі адзін Васіль Крываношка выказаўся за хутар. Што Андрэй таксама будзе за хутар гаварыць, Юзік наперад ведаў. Ён сам колькі разоў чуў, як Андрэй зайздросціў Жагулу і выказваў думку, што ў вёсцы такую гаспадарку справіць яму б не ўдалося.

Ужо два разы запытаўся Ганскі, ці не хоча хто яшчэ гаварыць; ужо нехта зазначыў, што і так цэлую ноч прагаварылі ды ўсё дарэмна, што пара б ужо і на бакавую, бо заўтра не свята. Тады толькі ўстаў Каржакевіч:

— Дайце я скажу пару слоў.

Нібы ён і гаварыць зусім не збіраўся, ды ўжо, калі няма больш ахвотнікаў, дык можна і сказаць. Заўсёды так: сядзіць, чакае. Выслухае, хто што гаворыць, выведае, хто што думае, а тады і падпусціць. Мерыцца, здэцца, у адну цэль, а пападае ў другую. Сёння ён неспадзеўкі падвёў тых, што на яго спадзяваліся. Юзік нават здзівіўся. Ні адным словам не ўспамянуў Андрэй пра хутар. Наогул ён сёння пра сябе як быццам зусім не думаў, клапаціўся толькі пра беднату.

— Гаварылася тут і за пасёлкі і на пасёлкі. Працы шмат, клопатна. Яно без працы і без клопату ніколі мы не жылі, але ж каб ад гэтага выгранка якая была. Праўду тут казалі: у каго зямлі чацвертачок ці яшчэ менш, дык таму не вельмі што і сходна на пасёлкі выходзіць. Трэба тут, мужчыны, пра гэта падумаць. Нельга ж так,— калі мне добра, дык і добра. Трэба і слабейшым памагчы. Тут усё ў зямлю ўпіраецца. Каб, скажам, таму самаму і Рыгору яшчэ зямлі дзесяцінкі дзве прырэзаў, дык яму можна б было тады і пра пасёлак думаць. А каб яшчэ добрага сенакосу з дзесяціну дадаў, то тады і думаць няма чаго. Толькі трэба дзе ўзяць гэту зямлю.

— Ось жа пра гэта і гаворка.

Нехта гэтым хацеў сказаць, што гэта ўсе ведаюць, але як няма, то няма чаго і гаварыць.

— А зямля такая ёсць,— у адказ на рэпліку пусціў Каржакевіч той самы свой моцны козыр, які і зрабіў гэта яго выступленне гістарычным для Мядзведзіч.

— Ёсць такая зямля, у нас жа пад бокам. Але мы так прывыклі, што нават і не бачым. Здаецца, гэтак і трэба.

Сход прыціх у напружаным чаканні. Нават сам даўганосы накіраваў свой руль на Каржакевіча.

— Гэта я кажу пра Бугайнік і Заброддзе. Яно ж кругом у нашым, у мядзведзіцкім. А па савецкіх законах цераспалосіцы не павінна быць, і ў зямельным кодэксе пра гэта пішацца. Як мы выходзім на пасёлкі, дык трэба, каб гэту зямлю і сенажаць саўгас аддаў нам, на прырэзкі бяднейшым, а можа, і сераднякам каторым, у каго сям'я вялікая. Калі савецкая ўлада не пашкадавала раздаць

парабкам — дый нашы там некаторыя — такі маёнтак, як Гадлеўшчына, дык яна не пашкадуе нам і гэтага куска. Трэба, каб і таварыш Рахлюк памог нам у гэтым, бо так саўгас гатоў яшчэ і ўпірацца.

Цішыня зразу разрадзілася ўзбуджанай гаворкай. Ва ўсіх кутках спрачаліся, аддадуць ці не аддадуць мядзведзіцкім Бугайнік і Заброддзе.

Бугайнік — кусок самай лепшай зямлі, а пры ёй, упіраючыся адным сваім краем у рэчку Брадзянку, лёг ладны кавалак заліўной сенажаці. Некалі пан Гняцецкі, адпускаючы сваіх сялян на «волю», пашкадаваў аддаць ім гэты кусок, пакінуў яго за сабою, у сярэдзіне мядзведзіцкай зямлі. Так яно і засталося за саўгасам, калі стары пан, сын таго, што на «волю» адпускаў, адубеў перад самай рэвалюцыяй, а малады Гняцеччык падаўся да Варшавы разам з легіёнамі.

Настрой выразна стаў пераламляцца за пасёлкі, вельмі ўжо ласы кусочак паказаў Каржакевіч.

Даўганосы пра сваю дапамогу ў гэтай справе дыпламатычна змоўчаў, параіў толькі раней пагаварыць наконт гэтага з самім саўгасам.

Калі пачалі галасаваць, дык супроць пасёлкаў паднялося рашуча толькі рук дзесяць, але і за пасёлкі, можа, на рук пяць толькі больш. Відавочна, што з такой невялікай большасцю перавесці вёску на пасёлкі нельга было, для гэтага патрэбна была згода прынамсі большай паловы гаспадароў.

Ганскі, перагаласаваўшы яшчэ раз, аж зазлаваў нарэшце:

— Што ж вы, як маленькія: ні за тое, ні за гэта. Не ведаеце, чаго вы хочаце.

— Не такая справа, каб раптоўна рабіць яе. Тут трэба падумаць ды памеркаваць,— адказалі яму.

— Мусіць, з жонкаю параіцца? — пакпіў Галаскок.

— А хоць бы і з жонкаю. Ты не будзеш раіцца, бо ў цябе няма.

Памеркаваўшы, сход згадзіўся, што сапраўды трэба даць людзям падумаць, і выбраў двух чалавек: Юзіка і Алеся Галаскока, як маладзейшых і пісьменных, каб яны праз дні два прайшлі па ўсёй вёсцы і сабралі подпісы, хто хоча выйсці на пасёлкі.

## VIII

«Дастойна есць якава ісціну блажыціцу багародзіцу прысна блажэнную і пры непарочную...» — перакручвае стары Верамейчык незразумелыя яму славянскія словы, молячыся перад сном.

Юзік слухае яго моцны шэпт, і крыўдна яму за бацьку і за недарэчнасць яго малітвы.

Вось ужо пяцьдзесят год рана і ўвечар гаворыць ён, як аўтамат, гэтыя незразумелыя словы і ўпэўнен, што «ён там, на небе», разбярэцца, што тут і да чаго, і зробіць якраз так, як патрэбна мядзведзіцкаму Кастусю Верамейчыку: каб дождж праходзіў — у меру і ў пару, каб кабыла шчасліва выжарабілася, каб сусед яго ў рабоце не абагнаў, каб на старасць з торбаю па падваконню не валачыцца ды памерці спакойна ў сваёй хаце ды на сваёй лаве.

— Ці не сказаў ты чаго дрэннага сёння? Нешта Аўдоля аж зазлавала была, казала, што і ты здурнеў. Гэта яна за пасёлкі, мусіць,— шэпча Зося на вуха Юзіку.

— Дурная яна. Я ж калі казаў, дык пра ўсіх думаў, а не толькі пра сябе. А яна злуе, невядома чаго.

— Яна яшчэ сказала, што табе свая кашуля бліжэй к целу. Але я ведаю, што гэта няпраўда. Цяжка ёй, беднай ды адзінокай. Толькі яна ганарлівая, нікому не пажаліцца і ласкі прасіць не любіць. А тут яшчэ пасёлкі гэтыя. Вось і падшыбае злосць, што не сіла яе, што не можа з людзьмі справіцца. На сваю ўдавіную долю злуе, а разам і на тых, хто не ў яе руку гаворыць,— растлумачыла Зося пасвойму.— А ты ж не з такіх, што пра сябе толькі думаеш. Бацька ж твой заўсёды цябе ўпікае, што ты ўсё пра некага клапоцішся, а на сябе забываешся, што ў гаспадарку мала дбаеш. Дый ваяваў жа ты хіба за сябе толькі? Калі хто не ведае ці забыўся пра гэта, дык вось у цябе і сведка ёсць.— Яна, закасаўшы рукаў яго кашулі, намацала вышэй локця рубец ад кулі.— Дык хіба ты можаш цяпер ісці разам з тымі, хто хоча крыўдзіць бедных?

Ён пагладзіў яе рукой па валасах:

— Што ты так загорнілася. Мала што яна сказала. Яна ж твая сяброўка, дык па шчырасці табе пад гарачую руку так сказала. Бач, гэта ўся справа з пасёлкамі, гэта не тое, што як на далоні. Тут трэба з усіх бакоў абмеркаваць. Можа, і я што не так сказаў. Спі і не думай пра гэта.

Яна, расчуленая і супакоеная, прытулілася да яго пляча і сцішылася.

Юзік ляжаў дагары і глядзеў у цемнату расплюшчанымі вачыма. Твары і словы сягонняшняга сходу ўставалі перад ім яскрава, як у сапраўднасці, і пераблытваліся з успамінамі аб мінулым, такім непадобным да цяперашняга, аб вайне, аб баявых таварышах і нечалавечых пераможаных цяжкасцях, якія цяпер самому здаваліся эпізодамі з нейкай дзіўнай казкі. Ён намагаўся знайсці падабенства таго мінулага з цяперашнім і не мог. Там было страшней, але ясней і прасцей. Вораг — вось ён: ты ведаеш, хто ён такі, чаго ён хоча і што ён будзе рабіць. Пры сустрэчы ў цябе няма іншай мэты, як толькі знішчыць яго. І таму радуецца сэрца, калі бухаюць нашы гарматы і цераз галовы са страшэнным скогатам абурэння, нібы і яны поўны нянавісці, пралятаюць нашы снарады, і там, дзе на гладкай раўніне стэпу мітусяцца шэрыя малюсенькія постаці, узлятаюць ледзь не пад самыя хмары слупы перамешанай з агнём зямлі; калі зататакаюць навыперадкі нашы кулямёты і ломаныя шнуры шэрых маленькіх постацей, якія прыкметна набліжаліся і падрасталі, раптам прыліпаюць да зямлі, а потым усхопліваюцца па адной ужо, хуценька і дробна перабіраюць малюсенькімі ножкамі і зноў раптам прыліпаюць да зямлі, можа, з тым, каб больш ніколі ад яе не адарвацца. Тады падшыбае вясёлы задзёр, тады забываешся, што смерць зумкае ў цябе над самым вухам, як рой нябачных раздражненых пчол, тады моцна прыціскаеш да пляча прыклад, садзіш на мушку малюсенькія мітуслівыя постаці і пускаеш кулю за куляй, аж пакуль не ўзнімецца і не пакоціцца насустрач ворагу, насустрач перамозе ці смерці чалавечая хваля. Мурашкі тады пабягуць па целе і, падхоплены гэтай хваляй, не адчуваеш шпаркасці і цяжкасці бягі па раллі. Рукі моцна сціскаюць прыклад, і з разяўленага насцеж рота вырываецца нескончоны гук, нестрывана жудасны для тых, да каго ён набліжаецца...

Зусім не тое цяпер. І сам, часамі, ашаломішся і заблытаешся паміж двума варожымі лагерамі, або зусім знянацку трапіш у той лагер, супроць якога мерыўся ваяваць. Вось і сёння гаварыў на сходзе, і здавалася, што хоча, каб усім добра было, а выйшла так, што ўсё ж такі ён ідзе разам з Каржакевічам, а Аўдоля і Рыгор Варанец — супраць іх абодвух. Як жа гэта выйшла так? Юзік пачаў успамінаць, як ён прыйшоў да перакանання, што на пасёлкі выходзіць трэба, і выходзіла, што думаць пачынаў ён якраз ад свае, Верамейчыкавай, гаспадаркі. Яму тады

ўяўлялася, як яны з бацькам, працавітым і яшчэ моцным старым, будуць спраўна ўвіхацца каля свайго будынка, што ў іх куплена дваццаць пнёў дзерава і добра б было хату перасыпаць ужо на новым месцы. А там, на пасёлку, на шырокім кавалку (усё ж такі шэсць дзесяцін разам) ніхто не перашкодзіць і шматполку завесці, і кармавыя травы, і буракі альбо турнэпс пасеяць. Ён будзе раіцца з аграномамі, ён будзе чытаць кнігі па сельскай гаспадарцы, і гаспадарка яго будзе самай культурнай у Мядзведзічах, і зямля яго будзе аддаваць усё, што яна можа аддаць, і які гонар будзе яму, калі ён, чвартковы, абгоніць паўвалочнага Грамабоя, які, вядома, не справіцца з ім у апрацоўцы зямлі. І калі ён папрабаваў цяпер усе гэтыя меркаванні прылажыць да Аўдолі і яе гаспадаркі, дык убачыў, што яны туды падыходзяць вельмі ў малой меры альбо і зусім не падыходзяць і што яна гаварыла на сходзе не так сабе, што ў яе гэта моцна набалела. Ды не адна ж Аўдоля гэтакая.

Ён цяпер нават забыўся думаць пра сваю гаспадарку, яго непакоіла адно: як жа яно ўсё-такі павінна быць далей? Прабаваў шукаць іншага выхаду, апрача пасёлка, і не мог знайсці. На думку яму прыходзіла арцель «Чырвоны араты», але злажылася яна амаль цалкам з батракоў, якія аселі на панскай зямлі і якія раней не мелі ніякай свае гаспадаркі. Юзік не ведаў, ці можна зрабіць такую арцель у вёсцы, дзе ў кожнага ёсць свая гаспадарка і гаспадаркі няроўныя, дзе ў кожнага ёсць большая альбо меншая дзялянка зямлі, якую ён таксама лічыць сваёй. Юзік зайшоў у тупік і не ведаў, як з яго выбрацца. Нарэшце ён рашыў не думаць пра гэта і папрабаваў заспакоіць сябе тым, што Бугайнік і Заброддзе, можа, і аддадуць ім, тады бядняцкія надзелы таксама падрастуць. Але думкі пішчом лезлі ў яго разгарачаную галаву і не давалі яму заснуць.

У гэту ноч яшчэ адна разварушаная думкамі галава, чорнавалосая і кучаравая, не знаходзіла сабе месца на падушцы. Шура ўжо некалькі разоў пераварочвала падушку на другі бок, каб знайсці халаднейшую мясціну.

Калі бацька гаварыў на сходзе, што не варта, што для яго пераязджаць на пасёлкі — адна толькі страта, яна тады апускала вочы і старалася быць непрыкметнай,

баялася, каб ніхто на яе не глядзеў. Цяпер яна намагалася разабрацца, чаму гэта ёй сорам было, у чым фальш яе становішча. Можа, гэта яе бацька такое глупства плёў, што аж у яе вушы пачырванелі? Не. Праўда, бацька яе ведаў не так ужо многа, але ў тым, што для яго лепш, а што горш, у гэтым ён разбіраўся добра. І калі гаворка ішла пра якія-небудзь практычныя гаспадарскія справы, дык тут яна бацьку не магла паправіць. У тым-то і ўся загвоздка была для яе, што яна адчувала ўсю праўдзівасць бацькавых слоў на сходзе. А ёй, як камсамолцы (яна так думала), з бацькам не можна было згаджацца, бо бацька гаварыў напоперак прадстаўніку з раёна, прадстаўніку савецкай улады. Аўтарытэт савецкай улады ў яе вачах быў такі вялікі, што яна не дапускала і думкі, каб хто-небудзь з прадстаўнікоў гэтай улады мог памыляцца альбо знарок мог рабіць не так, як гэтага хоча партыя і савецкая ўлада. Загадчыку Земаддзела яна верыла, не адважваючыся крытыкаваць яго довады, а бацьку разумела і сэрцам да яго далучалася. Але як гэта яно так выйшла, што бацька яе, бядняк, ідзе напоперак прадстаўніку савецкай улады, і яна, камсамолка, яму не пярэчыць, больш таго — спачувае і ў думках далучаецца да яго?

— Шура, чаго ты ўсё кідаешся, чаму не спіш?

— Не спіцца нешта.

— Можа, у цябе баліць што?

— Нічога не баліць. Я зараз засну.

Не расказваць жа мацеры пра тое, што турбуе Шуру. Нічога яна не зразумее. Заклапоціцца толькі, на бацьку будзе наракаць — можа, той што лішняе сказаў на сходзе,— а памагчы Шуры нічога не паможа. Сама нездаровая, ледзьве клыпае, а над Шурай дрыжыць, хаця б яна не захварэла. Вінаватай сябе лічыць перад Шурай; летась траха цэлую зіму з пасцелі не ўставала. Праз яе Шура другі год дома, скончыўшы сямігодку. У тэхнікум думала падавацца, ды праз матчыну хваробу дома асталася. Нельга было пакінуць аднаго бацьку з хворую маткаю.

Маці супакоілася, а Шура зноў за сваё: «Дрэнная, мусіць, я камсамолка яшчэ, мала што з палітыкі разумею. Тут мне трэба было выступіць і дапамагчы, а я сама з сабою не магу разабрацца. І чаму гэта Сцёпкі якраз не было на сходзе? Ён жа такі сам гаспадар, напэўна лепш за мяне разбіраецца ў гэтым».

## XI

Праз тыдні два ці тры пасля таго памятнага сходу пра пасёлкі, які на цэлы год нарабіў клопату ўсім Мядзведзічам, адбылося адно здарэнне. Падобна было на тое, што гэта раззлаваны сабака сам сябе за хвост укусіў. Яшчэ смяшней было ад таго, што здарылася гэта з чалавекам, які сам заўсёды гатоў быў з кожнага пакпіць, кожнага палаяць, які ведае, што за граніцамі робіцца і як бы яно трэба ў нас рабіць, «каб на добры лад».

Устаў Сцяпан Варанец яшчэ нацямочку. І патрэбы вялікай не было ўставаць, але прывычка ўжо. Накінуў ён кажух на плечы: «Выйду,— сабе думае,— пагляджу, што за надвор'е сёння». Раніца здаровая — мароз на стрэхах, і зямля аж пабялела. У ногі так і пячэ. Ён гэта завярнуўся ўжо, хацеў у хату ісці, адно ж бачыць — на гародзе з-за хлява нейкі дым ідзе. «Што за ліха! — думае сабе.— Каму там прыспела агонь класці? Яшчэ хлеў запаліць». Выходзіць, глядзіць, ажно ж гэта Сомік. Ён свінню смаліць, а жонка яму памагае: вады цёплай прынесла, мыць збіраецца.

— Дзень добры.

— Дзень добры.

Свінчо невялікае ды худаватае, так пуды на тры, можа.

— Што гэта ты надумаў? Яшчэ Каляды далёка, и ты ўжо кілбас захацеў,— жартуе Сцяпан.

— А маўчы ты,— кажа Сомік.— З нашым народам ды з нашымі парадкамі і ў Піліпаўку навучышся кілбасы есці.

— Што там каго вінаваціць,— асмелілася Сомікава жонка, ведаючы, што пры чужым чалавеку біцца мужык не наважыцца.— Гэта ж трэба гэтакаму шалёнаму быць, каб свінню сваю забіць!

Сомік сярдзіта глянуў на жонку, і агніста-рыжы вус яго заторгаўся. Яна на ўсякі выпадак адступілася крокаў на два.

— Гэта ж адну свінню на племя пусцілі, дык ён і тую ўходаў,— не сунімалася яна.

Ведае Сомік, што сам вінават, а паддацца бабе не хоча. Як гэта, каб яе верх быў?

— Вось пагаўкай яшчэ, дык заробіш ты ў мяне сёння,— вызверыўся ён.— Сама ж і вінавата. Чорт даў табе свінню гэтак рана выпусціць. Цяпер — брашы не брашы, усё роўна ўжо не аджыве.

— Вазьмі лепш нож ды паскрабі трохі каля лапаткі,— памаўчаўшы, дадаў ён спакайней.

Сцяпан пачаў распытвацца, як гэта здарылася.

А было яно так. Скасіў Сомік гарох на Палосках. Нямнога там яго і было — ганачкі, але такі ж удалы гарох! Стручны, белы, чысты — ніводнага стручка чарвівага. Сомік яго скасіў ды сыраваты прыбраў: не было калі сушыць на полі, пад жыта трэба было араць. У чацвярціну яго нельга было класці, дык ён узяў ды зложыў пад страхою: «Няхай дасыхае». Адно ж, як унадзіліся свінні — рады няма. Сомік і платы кругом прыгумення направіў, засаўкі таксама, ш яны ўсё роўна... І такія ж хітрыя: ідуць раненька нацямочку, як яшчэ на прыгуменні нікога няма. Калі ідзе Сомік рана ў гумно, дык яны яшчэ здалёк счуюць. Тады цераз засаўкі — гоц, гоц, як сабакі, і пайшлі.

А найбольш усё, як Сомік заўважае, Наздрэйкава свіння гэткія штукі выробляе.

Убачыў раз Данілу на прыгуменні:

— Зладзюга, свінні ў гарох не пускай, бо ўсё роўна аглядаць ты яе не будзеш.

А той і слухаць не хоча:

— Адстань,— кажа.— Чаго ты чэпішся да мяне? То з канём прыстаў, а цяпер свіння ўжо шкоду робіць. Мая,— кажа,— свіння цераз высокі парог не пералезе, а не тое што каб цераз засаўкі пераскочыць. Ты гэта са злосці,— кажа,— выдумляеш.

А сын выйшаў з гумна з цэпам ды пацвельваецца:

— Наша, кажа, свіння сумленная, чужога гароху есці не будзе. Гэта не тое, што які-небудзь гарадавік, які дарэмна чапляецца да людзей.

Злосць падшыбае Соміка, самі рукі ў кулакі сціскаюцца, ды не сіла яго, яны ўдвух.

Вось і надумаўся тады Сомік. «Пачакай жа,— думае сабе,— я ж табе пакажу, умее твая свіння цераз засаўкі скакаць ці не».

Устаў гэта ён нацямочку, узяў добры дручок ды пайшоў на прыгуменне. Разгарадзіў ён верхнюю засаўку, каб лягчэй было свінні пераскочыць (а то, думае, як не пераскочыць, дык дарэмна ўся турбацыя прападзе), а сам сеў за вуглам ля гароху. Пачакаўшы трохі, чуе — бразнулі засаўкі. Тут ён нарыхтаваўся. Толькі свіння з-за вугла — тыц, а Сомік па лычы — трэсь. Яна вобземлю ды ў піск. А ён яшчэ раз між вушэй, каб яна не пішчала. Праўда, што яна больш і не дрыгнула.

«Вось,— думае Сомік,— няхай ідзе цяпер пацалуе сваю сумленную свінню». Тым часам ужо развідніваецца пачало. Калі прыгледзіцца Сомік, дык свіння не чорная, а рабая.

Ён ніжэй нагнуўся: «Ах, каб цябе воўк!» — дык гэта ж яго свіння. Пакляў Сомік Наздрэйку, патупаў каля свінні ды павалок смаліць.

Стаіць Сцяпан, грэе ногі каля агню, памагае Соміку бедаваць, а сам думае: «Добра, што ты сваю свінню забіў, а не маю».

Бо трэба такі праўду сказаць, што і Сцяпанава свіння любіла паласавацца Сомікавым гарохам.

Таго ж дня ўся вёска як у бубен біла. Вядома, і сам Сцяпан не кепскі язычок меў, а тут яшчэ якраз падскочыў Тодар Пошта.

## X

Снег пад месяцам сінявата-іскрысты мяняецца, мільгаціць. На ім рэзка ляглі цені — маўклівыя, нерухомыя, меланхалічна-задуманыя. Цені ад будынкаў, ад бязлістых, здранцвелых дрэў, калодзежных жураўлёў. Хаты, нібы згорбленыя, скарчанелыя ад холаду бабулькі, насунулі свае белыя, аздобленыя дыяментамі наміткі аж на самыя вочы. Гэтыя цьмяна-жоўтыя, квадратовыя, засланыя марознай павалокай вочы не пасуюць з феерычным бляскам і меланхалічным спакоем вуліцы. Яны то яснеюць, то цямнеюць, у іх нешта трапечацца, нібы скачуць жвавыя, вясёлыя чорцікі. Адна з бабулек, самая маленькая і згорбленая, нібы адапхнутая назад дужэйшымі і маладзейшымі, прысела аж на гародзе за Грамабоевай варыўнёй. Яе шкляныя вочы — застылыя, цёмныя і нерухомыя.

Але вось з-за суседняга будынка крадзецца да згорбленай, ахутанай снегам хаткі нейкая постаць. Прыпадае да сцяны, хвіліну прыслухоўваецца. Адварочваецца ў той бок, адкуль прыйшла, махае рукою:

— Сюды,— шэпча ўпаўголаса.

З цені варыўні вылучаюцца яшчэ чацвёра. Заходзяць ад глухой сцяны, каб не ўбачылі праз акно. Туляцца ўсе да сцяны, заміраюць. З хаты чуваць высокі, малады і надзіва чысты голас:

Ой сама-а я йду
Дый бяду-у вяду.
А бяда-а й не вядзе-цца.
Пад вішняю, пад чарэшняю
Са мной спа-ці кладзе-цца.

Дрыжыць, пераліваецца дзявочы голас. Б'ецца ў песні жанчына з ліхою бядою: ні здужаць яе, ні адчапіцца ад яе,

і ўсюды бяда неразлучна з ёю. І нервы, як струны, нацягваюцца, калі слухаеш гэту скаргу-песню, гарачую і чыстую, як сляза. Хочацца даведацца, як трапіла гэта небарака-дзяўчына ў згрыбелую хатку, чаму яна пакутуе тут папацёмку без агню, хто пакрыўдзіў яе. Хочацца дапамагчы, абараніць яе ад неадчэпнай бяды. Нават гэтыя падшпаркі, якія прыйшлі пад хату зусім не для таго, каб захапляцца мастацтвам, і тыя не смеюць перарваць ачараванне песні, хоць і не першы раз чуюць Марысьчыны спевы.

Але досыць раз глянуць на спявачку повідну, як уся ілюзія дзявочай прыгажосці і маладога тамлення знікае. Толькі ілюзія неадчэпнай бяды і цяжкай нядолі ператвараецца ў страшную рэальнасць, у постаць пажылой жанчыны з васкова-жоўтым худым тварам, як у мерцвяка. Аднастайнасць гэтай мёртвай жаўцізны парушаюць толькі жудасныя вочы, раз'едзеныя застарэлай трахомай. Крывава-чырвоныя, набраклыя павекі зліпліся. Хустка насунута з галавы на твар, каб засланіць ад яркага святла і нястрыванага болю балькі вачэй. Цяжка паверыць, што гэта тая самая Марыська, голас якой дапаўняе цяпер чароўнасць гэтай ночы.

Ад ранейшай прыгажосці ды дзявочай маладосці і засталіся ў яе цяпер толькі гэты голас, чыстаты і маладой звонкасці якога, здаецца, зусім не кранулі гады, ды яшчэ дзявочае яе імя, ласкавае некалі і іранічнае, амаль абразлівае цяпер,— Марыська. Замацавалася гэта імя ў людзей ад яе даўнейшай маладосці, а хутчэй як мянушка, як пародыя. Яна сама нікога іначай не назаве, як толькі ласачкаю: Тодарка, Ганулька, братачка, дзядзечка, цётухна. Свайго мужа і то ні па злосці, ні па дабросці іначай ніколі не назаве, як Янaчка. Нават калі і склясці ёй каго давядзецца, дык і кленічы гэтыя ласкавыя. Падражняцца з ёю дзеці на вуліцы, калецтвам яе ўпікнуць, сляпою назавуць, а яна так лагодна ды зычліва, быццам гаючае лякарства да балькі прыкладае:

— А мае ж вы дзетачкі, а няхай жа бог міленькі дасць, каб мая долечка спаткала вас у маладым веку, каб вы на яснае сонейка не зірнулі, каб вы таткі і мамкі не ўбачылі.

Але дзе пачыналіся Марысьчыны песні, там канчаліся кпінкі з яе і здзекі з яе калецтва, там прыціхалі нават найбольш жорсткія мядзведзіцкія зубаскалы. Песень яна ўмела, можа, больш за сотню і аддавала ім усю сябе да рэшты, адгароджвалася імі ад рэальнага свету, радаснага для іншых і пакутна-цёмнага для яе. Перапяваючы, можа,

у тысячны раз тыя песні, якія спявала дзяўчынай, яна нанава перажывала ў іх сваё дзявоцтва і сваю сінявокую маладосць.

Сядзіць Марыська пад акном на прасніцы, выводзіць нітку за ніткай, такія ж доўгія і тонкія, як і яе песні. Святла ў хаце няма; прадзе яна пад месяц. Ёй усё роўна. Яе няшчасце з'яўляецца разам і крыніцай яе эканоміі: не трэба траціцца на газу ці смаліну. Доўгая практыка з самага маленства і яе калецтва наўчылі яе прасці на памяць. Пры мяккім святле месяца можна яшчэ хоць калі-нікалі праз балючыя шчыліны глянуць у бараду кудзелі; а пры агні яна зусім не можа.

Зашастала запалкавая скрыначка, шэрхнула запалка.

— Яначка, ці не здурнеў ты?! Гэта ж ты зноў сярнічку паліш! Пашукаў бы вугольчыка ў ямцы, яшчэ ж мо жарок не патух. Гэта ж на тым тыдні толькі скрыначку сярнічак узяла, дык ты зараз усе і папаліш.

— Маўчы — ...кашаль забівае, не дае яму выгаварыць...— кошка сляпая,— канчае ён, нарэшце, фразу, перарваную кашлем.— Не пераядай вантроб.

Пад акном пачынаецца хорканне, мяўканне і, нарэшце, дружна:

— Яначка, на радзіны пакліч!

Як толькі асцярожна ляпнула клямка, жэўжыкі пырснулі за вуглы суседніх будынкаў. Уздагон ім ляціць і стукаецца аб вугал здаровы бярозавы аскабалак.

— Каб вам языкі павыпірала! Ото навалач!

Ухапіўся Яначка за вушак і доўга натужна кашляе.

Знаравілі Яначку. Ні па вуліцы прайсці, ні дома на печы спакойна паляжаць. Задражнілі так, што калі хто нават выпадкова ў гутарцы пра радзіны ўспамяне, дык Яначку ўсё здаецца, што гэта яго дражніць хочуць. У сне нават часта вярзецца, што пад акном сабраліся падшпаркі з усяго сяла, скачуць, языкі высоўваюць, на радзіны просяцца. Усхопліваецца Яначка, каб намацаць качалку ці палена ёмкае, разгледзіцца — няма нідзе нікога. Апамятаецца, што гэта яму снілася, пакашляе і зноў лезе пад коўдру. Адзінаццаты год так пацяшаюцца ліхія людзі з яго няшчасця.

Каторы год жывуць Яначка з Марыськай, яны і самі добра не ведаюць — не то васемнаццаты, не то дваццаты. Памятаюць толькі, што Янка тады толькі што вярнуўся з царскай арміі. Шапку без казырка з чырвоным акалышкам насіў, схіліўшы на правае вуха, шынель, хоць стары, але з бліскучымі гузікамі, напашкі. Праўда, і тады

ўжо ўсярэдзіне была нейкая чарвяточынка,— задышка і пакашліваў патроху. Аказвалася царская служба-матуха. Але стараўся падфарсіць перад мядзведзіцкімі дзяўчатамі. У Марыські ж былі тады ружовыя шчокі і сінія зоркія вочы. Праз шынель з бліскучымі гузікамі яна бачыла яшчэ Янкаў трацяк зямлі і «сама сабе гаспадыня ў хаце». Як ні круціў Грамабой, а павінен быў даць Янку трацяк зямлі з надзелу. Бо хоць цяпер, глянуўшы на Янку, і цяжка сказаць, што ён Грамабоеў брат, а яно такі сапраўды так. Два трацякі Грамабой пакінуў сабе, на сябе і на сястру — старую дзеўку. Праўда, хутка яму сястру ўдалося выпхнуць замуж, і ён так і застаўся гаспадаром на двух трацяках. Янка і не дамагаўся вельмі сабе палавіны, ён і з трацяком упраўляўся папалам з бядою. Задышка пры цяжкай рабоце ўсё больш адчувалася, і слабасць нейкая апаноўвала — не то ад хваробы, не то ад дрэннага харчавання. А Марысьцы неўзабаве з вачыма нешта прыключылася. Думала, пабаліць ды сціхне, ажно ж што далей, то болей. І з дзецьмі ім таксама моцна не пашанцавала — бяздзетухаю засталася Марыська. Спачатку думалі, што гэта так, пакуль што. Здараецца, бачыце, што першыя гады не бывае дзяцей, потым і знойдуцца. Але далей — болей, пачалі непакоіцца ды адно на аднаго віну складаць; не ведалі, праз каго гэта ў іх так выходзіць. Пачала Марыська па знахарках ды па шаптухах хадзіць. Той палатна сувойчык, той яечак ці масліца. І гэта ёй нагаворваюць, і тое раяць — не памагае. Аж нарэшце неяк, перад самаю вайною нямецкаю, заўважае Марыська па сваіх жаночых справах, што яна як бы зацяжарала. Надзею і радасць вялікую затаіла ў сабе пакуль што: «а можа, яно так; мала што бывае». Пайшоў другі, трэці месяц — не памылілася Марыська. Нарэшце і стан яе пачаў акругляцца. Суседкі пачалі заўважаць, распытвацца ў яе пачалі ды нашэптваць розныя парады пры сустрэчы. Калі пераваліла на другую палову, Марыська ўжо і не таілася ні ад каго.

А Янку, прыслухоўваючыся да сябе, радасна шаптала:

— Яначка, вось так і чую, як яно там трапечацца, ножачкамі вырабляе. Хаця ж бы бог мілы даў — хлопчык.

І Янка павесялеў. Аж, здаецца, не так моцна горбіцца ходзячы, усміхацца часцей пачаў, перабіраючы пальцамі сваю кучаравую русую бародку. Не трэба будзе яму цяпер турбавацца пра тое, хто яго старасць пашануе; ласкі ў чужых людзей не трэба будзе прасіць. Чаго-чаго, а кусок хлеба дзіця свайму бацьку не пашкадуе.

Збяруцца бабы на прызбе, убачаць Янку на вуліцы, жартуюць каля яго:

— Вось заганарыўся, і ў наш бок не глядзіць. Ды ідзі ты сюды, пагаворым трохі. Можа ж, хутка мы чарку ў цябе ці не вып'ем?

Смяецца Янка, шчэрачы свае дробныя авечыя зубы:

— Ды ўжо ж, суседачкі, толькі каб даў бог усё добра было, а чаркі я не пашкадую.

Калі пачала тая пара падыходзіць, пачаў Янка пра чарку турбавацца. Прыпасціў трохі, палатна сувойчык Марыська дала, завёз на рынак, у брата рублёў колькі пазычыў. А Марыська ўжо толькі шчаслівая часінкі чакае — вось не сёння-заўтра.

Адно ж і тэрмін той мінаецца, і тыдзень і другі праходзіць, а Марыська ўсё ў адной меры. Нешта не падабаецца гэта Янку. Нецярплівасць яго бярэ:

— Ды калі ж яно ўжо будзе? Калі ж ты ўжо нарэшце раскідаешся?

— Яначка, дурненькі, ты толькі не злуй. Вось як бог дасць тую часіну, дык і будзе. Можа, гэта я лічачы памылілася,— супакойвае яго і сама сябе Марыська.

Нарэшце і дзесяты месяц канчаецца, няма таго дзіцяці.

Злосць Янку агортае.

— Ды не кабыла ж ты, даруй мне божа, што год будзеш насіць! І ўсё ў цябе не так, як у людзей. Вось пакараў мяне бог!

Марыська ўжо і не апраўдваецца, слязьмі больш адбывае. Яна ўжо і сама сабе не верыць, не ведае, што тут такое можа быць.

Нарэшце, калі пайшло на адзінаццаты месяц і калі паўната Марысьчына пачала спадаць, усім тут ясна стала: не будзе ў Марыські дзіцяці. Ахнула ўся вёска: ніколі такога ні з кім не здаралася ні ў іх вёсцы, ні навокал. Нават самыя старыя людзі не памяталі такога здарэння. Ахнулі ад здзіўлення, а пасля ад рогату. І пайшлі перабіраць Марысьчыны костачкі, пайшлі перамываць языкамі. Каб хаця ён гэтай гарэлкі ўжо не купляў! Падыдзе другая лепятуха — такая яна ветлівая, такая зычлівая, так шкадуе Марыську, а адвернецца — фартухом рот закрывае, каб моцна не зарагатаць; бяжыць хутчэй суседцы расказаць, што яна яшчэ ад Марыські пра гэта дзіва даведалася.

Доўга не хацела Марыська доктару паказвацца. За сорам і нават за вялікі грэх лічыла гэта. Але нарэшце такі адважылася: пайшла ў мястэчка. Хацелася ведаць, што ж гэта з ёю робіцца такое. Доктар яе агледзеў як мае быць

і сказаў, што ніякай цяжарнасці ў яе і не было, што гэта падманная цяжарнасць. Што гэта вельмі і вельмі рэдка, але бываюць такія выпадкі з жанчынай, якая моцна дзіцяці хоча. Ён яшчэ ёй нешта тлумачыў, але яна амаль нічога не зразумела. Калі Янка пачаў распытвацца дома, дык нічога яму сказаць не магла, адчувала сябе толькі моцна і назаўсёды няшчаснай.

Янка адразу асунуўся і яшчэ горш згорбіўся. Сівізна ў валасах пракідацца стала, хоць тады яму яшчэ і сарака год не было. Вельмі ж яго ўжо кпінкі людскія дапякалі. Марыська дык тая спакайней іх прымала, нават як бы і прымірылася.

— Смейцеся сабе, людцы добрыя, з майго няшчасця. І ваша ж долечка яшчэ наперадзе. Можа, бог дасць з вас яшчэ горш пасмяюцца,— сказала яна раз на вуліцы.

Дык да яе не так прыставалі. А Янка не мог спакойна цярпець насмешкі. З дарослымі ён сварыўся і лаяўся з апошніх слоў, а да меншых, якіх ён мог падужаць, проста біцца кідаўся. А тым толькі гэта і трэба было. Дагнаць ён іх не мог, а падражніцца ды пацешыцца з яго для іх самая лепшая забаўка. Таму і не давалі яны яму ніколі спакою.

Праз гэта і Марыську Янка знелюбіў. Мала таго, што сама сляпая ды няўдалая, дык яшчэ і яму на ўсё жыццё сораму нарабіла. Ніколі да яе цяпер і слова па-людску не скажа, усё з крыкам ды з кленічамі. А яшчэ хвароба гэта за апошнія гады зусім яго надсадзіла. Пакрычыць на жонку, на каня, на курэй, дык, здаецца, і лягчэй зробіцца. А калі на поле выйдзе ці выедзе, дык на ўсім палетку чуваць, дзе ён паварочваецца. Паедуць на сенажаць, пачнуць воз класці. Бярэ Марыська сена тое вобмацкам, не бачыць, як яго лепш падаць. А ён ужо лямантуе на ўвесь луг:

— Як ты падаеш! Спераду падавай, каб табе хваробы бог даў!

Пакуль занясе яна наперад, рукі памлеюць, пярэбірак раскідаецца, зноў бяда:

— Гэта ж толькі з воза злазіць не хочацца, паказаў бы я табе, як падаваць.

— Ціха, Яначка, не смяшы ты людзей,— угаворвае яго Марыська, стараючыся сабраць раскіданае сена.

Асабліва абнядужаў Янка за гэту мінулую восень. Цяпер зімою і работа ж невялікая. У заработкі ён не йдзе. Лапаць які сплесці ці паправіць ды жывёлу дагледзець, а і то яму хапае. Каня прыйдзецца напаіць, дык нату-

заецца як мае быць. Конік яго хоць і невялікі, але рухавы і на яду непераборлівы. Пастаяў, аддыхнуў ад асенняй работы, паправіўся. Возьме яго Янка да вады весці, дык ён тузаецца, падбрыкваць прабуе — гуляць хоча. Закрычыць на яго Янка, закашляецца і павадок з рук выпусціць, то ён і пайшоў па гародах ды па загуменню. То ўжо іншы раз Мікола Грамабоеў падыдзе, накульгваючы:

— Давай, дзядзька, я яго зваджу, напаю.

Возьме за павадок каля цугляў:

— Ну, не дурэй, сівак!

Тузянецца «сівак» разы два, ды бачыць — не ў тыя рукі папаўся.

У апошнія часы Грамабоі сталі ласкавейшымі. І сам часцей загаворыць з Янкам, а яна дык іншы раз малака кіслага збаночак дзяўчынаю прышле (Янкава карова з месяц як запусцілася). Чуе Янка, што гэта не так сабе, што брат трымае нешта сабе наўме. У чым тут справа, добра не ведае, толькі дагадваецца трохі. «Няхай,— думае сабе,— паглядзім. Брат усё ж такі, не хто чужы. Можа, крыўды мае не захоча».

## XI

Сніцца Юзіку, што ён з сваім аддзяленнем у сялянскай хаце на пасланай саломе. Усе толькі што прахапіліся ад нейкага страшэннага крыку, хрыплага і пакутнага. Недзе далей чутно — сігнальная труба кліча паспешна і ўзбуджана-трывожна. Юзік уздзеў набасанож боты, ухапіў вінтоўку, але ніяк папоцемку не знойдзе падсумка з патронамі. Ён прыпаў на каленкі, мацае рукамі па саломе, а труба ўсё кліча адчайна і трывожна, а крык — вось ужо на двары каля хаты: некага рэжуць, з некага цягнуць жылы, і ён заходзіцца перадсмяротным хрыпам, просячы паратунку. Адрокшыся падсумка, Юзік з нарыхтаваным штыком кідаецца ў адчыненае акно, але, саскочыўшы з падаконніка на двор, ляціць у прадонне. Мільгае думка, што зараз расплешчацца на блін. Ён жахаецца і тут ужо сапраўды прачынаецца.

Але, прачнуўшыся, не адразу дагадваецца дзе ён і што з ім. Пакутны, хрыплы нечалавечы крык чуцен недзе тут жа пад бокам. Ён хутка пераварочваецца і глядзіць на хату. Без спадніцы, у адной даўжэзнай кашулі, каля падпечка стаіць на карачках Тадора. Пасмы сівых валасоў звісаюць па баках і закрываюць ёй твар. Леваю рукою яна апіраецца на ток, каб падтрымаць сваё буйное цела,

у зубах у яе доўгая запаленая лучына, якой яна свеціць у дзверцы падпечка, а правай рукой арудуе качаргою і штурхае пад печ. З яе рота праз зубы, якімі яна сціснула канец лучыны, вырываюцца невыразныя, але поўныя помсты словы:

— А во табе! А во табе! А во табе!

З падпечка чуецца хрыплы, пакутны крык перапуджанага і сляпога пры святле лучыны пеўня. Устрывожаныя не ў пару куры керкаюць працяжна і жаласна, а яна ўсё таўчэ.

— Чаго ты ўсхадзілася з гэтымі курамі! Сну табе няма.

Тадора яшчэ разоў са тры таўханула ашалелага пеўня, устала, выняла з зубоў лучыну і тады толькі адказала старому Верамейчыку:

— Я яго заб'ю, каб ён здох! Гэта ж жарты! Чужыя пеўні двума наваратамі прапелі, а ён сабе маўчыць, каб яму горла запухла. Людзі даўно панапрадаліся.

— Чорт іх бяры з людзьмі. На ўвесь век не напрадуць.

— Ды табе ж якая трасца! — перайшла Тадора ў наступ на старога, распальваючы смаліну на камінку.— Твая галава па гэтым не баліць. А нябось, патом, голаю задніцаю свяціць не хочаш. Як што якое, дык дай. Ды яшчэ, калі палатаныя, дык і нос адварочваеш. Бач, патурбавала паноў! Добра, што нявестку сабе пад пару знайшоў; давідна можна спаць, не патрабуе...

— Па табе, дык мне — чорт цябе бяры,— дадала яна памаўчаўшы.— Мне вунь ёсць пра каго думаць. У мяне клопат, каб дзіця голае не хадзіла. Як прыбярэ мяне бог з гэтага свету, дык яму і змяніцца не будзе ў што.

Ведаючы з практыкі, што далей у лес, болей дроў, стары больш не спрачаецца. Ён ведае, што Тадора дарэмна прыкідваецца сіратою. Повен куфар у яе палатна — і зрэбнага, і кужэльнага, усялякага — ды яшчэ паўкубла пашытай адзежы. Міліпку аднаму гэтага дабра да старасці хапіла б. Ды каб на тое прыйшлося, дык і Зося не адмовілася б абмыць ды абшыць хлопца. Але ўжо гэтакая ўдалася Тадора, дасужая ды зайздросная. Праўда, у хату дбае, а не з хаты, дык і няма тут чаго вельмі спрачацца з ёю.

Стары ўстаў з пасцелі і па палу перайшоў на печ. Ён ужо драмаў, лежачы плячамі на цёплай чарэні, а Тадора ўсё яшчэ нешта гаварыла сярдзіта і заклапочана.

— Мусіць, трэба ўставаць,— шапнула Юзіку Зося, якую таксама пабудзіла курыная экзекуцыя.

Юзік, высунуўшы з-пад коўдры руку, зняў з цвічка нікелевы гадзіннік з выгравіраванай на вечку вінтоўкай і з надпісам «За меткую стрельбу» і глянуў:

— Спі, яшчэ толькі другая гадзіна. Пяць гадзін да дня.

— Будзе брахаць па ўсім сяле.

— Усё роўна брэша.

— Пойдзеш сёння?

— Пайду.

— Хто яшчэ?

— Грамабой і Пятрусь Кухар.

— Андрэй не пойдзе?

— Адмовіўся. Кажа, гэта зямля беднаце будзе, дык няхай яна ідзе, на яе больш увагі звернуць.

— А Грамабой жа чаму?

— Выбралі. Кажуць — бойкі, калі што якое, дык не пабаіцца слова сказаць. Нібыта крыкам там нешта зробіш.

— І ён згадзіўся?

— Не хацеў. Казаў — сечку трэба рэзаць. Выбралі яшчэ Тамаша Кірыка і Антося Сталяровых, то тыя згадзіліся лепш ісці да яго сечку рэзаць, а каб ён ішоў туды.

— Не той Грамабой... Ён табе і разу дарэмна не ступіць.

— Ты такі ўстаеш?

— Усё роўна не засну.

— Пабудзіш мяне ў гадзін шэсць.

Тое, што выбраныя на сходзе Юзік і Алесь Галаскок хадзілі па хатах, апытваючы, хто згодзен выйсці на пасёлкі, не дало такіх вынікаў, каб з імі можна было пачаць землеўпарадкаванне ўсяе вёскі. Гаспадарак, якія безумоўна згадзіліся выйсці на пасёлак, набралася не больш за дваццаць працэнтаў. Рэшта альбо адмовіліся, альбо хацелі яшчэ пачакаць, каб нарэшце дакладна даведацца, што ж яны будуць мець, выйшаўшы на пасёлкі. Адмаўлялася ад пасёлкаў наадрэз частка сераднякоў, і трэба сказаць праўду, самая кансерватыўная, людзі даўнейшага складу, у якіх аўтарытэт дзядоў і прадзедаў трымаўся надта высока і якія да ўсяго новага ставіліся вельмі падазрона. Адмовілася ад пасёлкаў і частка беднаты, якая была ўпэўнена, што для іх тут не варта шкурка вырабу, і яшчэ тыя гаспадаркі, у якіх слаба было з рабочай сілай. Частка сераднякоў хацела пачакаць і падумаць. Яны яшчэ не былі ўпэўнены, ці аплацяцца праца і клопаты выгадай ад пасялковай гаспадаркі. Большая частка беднаты не запіс-

валася на пасёлкі, пакуль не ведала дакладна, прырэжуць жа ім зямлі ці не.

— Дык хто ж яго ведае, як яно з гэтым Бугайнікам будзе.

— Каб жа яно ведалася, што Бугайнік і Заброддзе за намі застануцца...

— Калі дасце больш зямлі, дык пішыце.— Такое чулі траха не ў кожнай бядняцкай хаце.

Калі Юзік з Алесем расказалі пра ўсё гэта на адным з чарговых сходаў, якіх у тую восень у Мядзведзічах было даволі-такі шмат, і калі стала пытанне, ці зусім пакінуць думаць пра пасёлкі, ці дабівацца прырэзкі зямлі, дык вялікая большасць сходу, і ў першую чаргу траха не ўся бедната, выказалася за тое, што трэба ісці і дабівацца, каб аддалі Бугайнік і Заброддзе.

Каржакевіч тут з радасцю ўбачыў, што ён тады, на тым першым сходзе, папаў у цэль, што цяпер яго справа будзе рабіцца без яго. Ён адвёў вочы беднаты ад сваіх дваццаці пяці дзесяцін на саўгасную зямлю і цяпер быў смел, што калі прыйдзецца выходзіць на пасёлкі, дык перадзелу вясковай зямлі не будзе і абрэзкай яго не зачэпяць. Ва ўсім гэтым ён яшчэ моцна спадзяваўся на даўганосага. Той напэўна дапаможа Бугайнік адваяваць і яго ў крыўду не папусціць, калі што якое. Цяпер жа ў Каржакевіча намер быў адзін: застацца ўбаку, паказаць, што ён тут нічым не зацікаўлен. Вось чаму, калі пачалі выбіраць дэлегацыю ў саўгас і выставілі яго кандыдатуру, ён адмахнуўся рукамі і нагамі, сказаўшы, што тут усе карты ў рукі беднаце, няхай яна сама для сябе стараецца. Ён нават прабаваў нібы адгаворваць: ці варта гэта, шмат турботы... Ды яшчэ ці выйдзе што. Але гэтым яшчэ падліў масла ў агонь. Нават нехта быў злосна адгукнуўся:

— Добра табе варажыць, калі ў цябе без прырэзкі хапае.

Каржакевіча гэта зусім задаволіла, і ён змоўк.

Грамабой жа згадзіўся ісці дэлегатам у саўгас без усялякай палітыкі далёкага прыцэлу, а проста таму, што пагнаўся на двух дарэмных работнікаў, якія яму будуць сечку рэзаць. А Бугайнік яму самому даўно вочы мазоліць. Калі прыйдзецца, дык патрапіць, што сказаць.

У саўгасе быў самы ранішні розрух. Выразна, часта, але раўнамерна тахкала сэрца паравога млына, і ў такт яму вылятaлі клубкі дыму з невысокага танклявага комі-

на. Каля млына, у павеці, валтузілася чалавек пяць сялян пры лесапільным станку. Прагна грызлі бліскучыя пілы таўсматую, відаць, сырую яшчэ елку і, як белая пена, пырскала з-пад зубоў пілавінне. Непрывычныя да машыновага шуму завозніцкія коні жавалі неспакойна і трывожна, часта падымалі галовы ад пахучага мурагу, натапырвалі вушы, аглядаліся і прыслухоўваліся. Два саўгаскія рабочыя пажарнаю машынаю пампавалі ваду з праламкі, падаючы яе наверх у драўляны жолаб. Па жолабе вада бегла ў велізарнае старасвецкае, выдзеўбанае з дубу карыта. Конюхі вялі і гналі на вадапой чараду саўгаскіх коней. У некаторых — намуляныя хамутамі мясціны на карках і персях пазарасталі белай шэрсцю.

— Добрыя коні ёсць некаторыя,— сказаў Пятрусь Кухар, успамінаючы пра ўкрадзенага каня і пра шэсцьдзесят рублёў пазыкі, якую ён нядаўна ўзяў у пазыковым таварыстве.

— А ўсё таварышы такіх коней не ўмеюць гадаваць, як некалі паны,— адказаў яму Грамабой.— Бывала, Гняцецкі калі прыедзе на чацвёрцы да касцёла, дык усё мястэчка як на дзіва глядзіць. Вось ужо ахвотнік быў да коней!

— Чаму яму было не ездзіць, дарэмна людзі рабілі,— сказаў Юзік.

— Ды рабілі, патом. І пану было, і яшчэ некаму, і сабе, патом, заставалася, не паміралі ж з голаду. А цяпер дык і зусім рабіць не хочуць — ні дарэмна, ні за грошы. Гэта ж каторы год яны ўжо гаспадараць, сеўшы на ўсім гатовым, а што тут вельмі ўжо відаць?

— Якое ж гатовае? Толькі зямля ды будынкі засталіся, а ўсё дабро і жывёлу Гняцеччык паспеў забраць з сабою. А цяпер глядзі — усё ж і коні, і кароў колькі,— пярэчыў Юзік, ведаючы загадзя, што Грамабоя ўсё роўна не пераспрэш.

— У таго, бывала, бугай, дык як звер, падступіцца страшна,— казаў Грамабой сваё, не адказваючы Юзіку.— А то прывёў я надоечы сваю карову сюды. Выпусцілі быка з праварыны, дык хоць ты яго вазьмі ды падсаджвай на тую карову. Ён і рослы, і касці шырокай, але што ж, калі догляду няма. Клубы тыя тарчаць, як ражны.

— Але ж ты ніколі свае каровы да Гняцецкага не вадзіў, а я і пагатоў,— сказаў Кухар.

— Чалавек ты, куды ты паткнешся там з сваёй каровою! Няхай яго воўк, яшчэ скалечыць гатоў, гэтакая веліч.

— Ды не вельмі б ён цябе і дапусціў да свайго быка. Гэта мала, што адрабіць прыйшлося б, дык колькі разоў трэба было б шапку скінуць ды ў руку пацалаваць. А гэты саўгаскі бык цэлы сельсавет цяпер абслужвае. Паглядзі ты, колькі ў нас у Мядзведзічах пайшло цялят па гэтым быку,— даводзіў Юзік, злуючы на тупую Грамабоеву ўпартасць.

Былы панскі дом, мураваны, двухпавярховы, з невялікай каланадай перад парадным ганкам, адгарадзіўся ад абораў, гумнаў ды іншых гаспадарчых будынкаў высокаю сцяною клёнаў і ліп, якія перапляліся здранцвелым цяпер голым галлём. На палянцы пасярод парку, адступіўшы крокаў на паўсотні ад фасада дома, як ганаровая варта, выстраіліся ў рад высокія, стройныя таполі, якія стаялі цяпер маўкліва і нерухома, як па камандзе «зважай».

У доме цяпер змяшчалася кантора і клуб. Тут жа жыў загадчык і некалькі сем'яў рабочых.

Загадчыка дэлегацыя застала ў канторы. Ён сядзеў за сталом над нейкімі паперамі, а высокі і худы чалавек, канторскі работнік, перагнуўся да яго цераз стол і нешта тлумачыў, торкаючы пальцам у паперы. На прывітанне мужчын загадчык адарваў на момант ад папер свой круглы ў рабацінні твар і гасцінна сказаў:

— Сядайце, мужчыны, пасядзіце трошкі, я зараз.

Юзік павёў вачыма, ці няма дзе сапраўды прыперціся, але ў пакоі быў яшчэ толькі адзін стол, ані крэсла, ні заслона ніякага не было відаць.

Управіўшыся з паперамі, якія рахункавод забраў з сабою ў другі пакой, загадчык звярнуўся да дэлегацыі:

— Што ж вы нам скажаце, мужчыны? Здаецца, мядзведзіцкія?

— Але, суседзі, можна сказаць,— адказаў Грамабой.

— Мы да вас, таварыш Ракопчык, па важнай справе,— пачаў Юзік.

— Ага. Ну, давайце.— Загадчык сагнаў ветлівую ўсмешку, і твар яго зрабіўся сур'ёзны і ўважлівы.

— Мы не самі сваім адумам прыйшлі да вас, сход нас выбраў. Гэта ж нашы Мядзведзічы на пасёлкі хочуць выходзіць. Ужо вось колькі сходаў было. Ніяк да згоды не прыйдуць. Некаторыя ісці не хочуць, кажуць, каб зямлі прырэзалі, дык пайшлі б. То мы гэта да вас. Можа б, вы што нам дапамаглі ў гэтым?

— Што ж я тут дапамагу? Угаворваць, каб ішлі на пасёлкі, дык яны ж мяне не паслухаюць. Ды і не ведаю, ці

патрэбна гэта. А зямлі — шукайце самі. Можа, з запаснога фонду вам дадуць, можа, абрэзка якая...

— Няма, здаецца, у нас з каго і рэзаць,— буркнуў Грамабой.

— Пашукайце, можа, і знойдзецца,— параіў загадчык.

— А мы ж гэта думалі, можа б, вы нам Бугайнік аддалі. Зямля гэта ад вас далёка, урабляць яе нязручна. Ды і цераспалосіцы б не было. Гэта ж яна кругом у нашым. Вось якраз малазямельным і было б патроху,— нясмела тлумачыў Юзік.

— Мы ўжо і на сходзе пастанавілі, каб забраць ад вас Бугайнік і Заброддзе,— буркнуў Грамабой. Юзікава залішняя асцярожнасць яму не падабалася.

Загадчык дастаў папяросу, прыкурыў і раздумліва зацягнуўся:

— Нічога з гэтага, браткі, не будзе. Дарэмна вы пастанаўлялі. Хто гэта вам аддасць гэтакі кусок зямлі? Я ж, каб і хацеў, дык не маю права. Мяне ж бы пад суд за гэта аддалі. Ды зноў жа, вам даць, а чым жа іншыя горшыя за вас? Юркавічы выходзяць на пасёлкі, скажуць — і нам дай; Дымаўка будзе выходзіць — таксама захоча сабе ўзяць кусок. Дык я так усю зямлю саўгасную раздам, агарод сабе пакіну дый буду з рабочымі агуркі садзіць.

Юзік маўчаў, не знаходзячы, чым перакрыць простыя загадчыкавы довады. Ён нават нейкую няёмкасць адчуваў, быццам незнарок у чужую кішэнь залез. А Грамабой усё не супакойваўся:

— А як жа цэлыя маёнткі параздавалі, ды нічога, патом, і пад суд ніхто не пайшоў.

— Што раздалі, то раздалі. Трэба ж было беднату зямлёю надзяліць. А тых, што засталіся, раздаваць не будзем. У саўгасах у нас засталося не больш за два працэнты ўсяе зямельнай плошчы, і гэта зямля застанецца за саўгасамі, якія павінны стаць апорнымі пунктамі сацыялістычнай сельскай гаспадаркі. Яны павінны цяпер ужо стаць прыкладамі для сялян, як правільна і культурна весці гаспадарку.

— Нешта яно пакуль што...— не дагаварыў Грамабой.

— Вядома, не ўсё ў нас, як кажуць, на яць. Пачакайце трохі, у пер'е ўбяромся — што вы тады скажаце?

— А калі мы заяву ў зямельны аддзел падамо, таксама нічога не будзе? — спытаўся Кухар, бачачы, што гаворка хіліцца ў другі бок.

— Думаю, што нічога.

— А нам жа таварыш Рахлюк абяцаў, параіў нават сюды да вас схадзіць,— сказаў Юзік.

— Не ведаю, што ён вам абяцаў, але зямлю я буду абараняць.

— Ну [redacted] як жа з цераспалосіцай? — запытаўся Юзік, каб мець адказ на апошняе, не высветленае для яго пытанне.

— Ды вельмі проста,— адказаў загадчык.— Калі яна вельмі перашкаджае нам і вам, дык мы можам замен зрабіць. Як — гэта мы ўжо дагаворымся.

Гаварыць больш не было чаго, загадчык цвёрда стаяў на сваім. Юзік бачыў, што тут і дабівацца няма чаго, ён толькі не ведаў, як жа з прырэзкамі ўсё-такі: ці правільна гэта, што ў бедннаты не хапае зямлі, [redacted] тут такі вялікі саўгас?

Дэлегацыя выйшла з канторы трохі збянтэжаная, а Грамабой нават раззлаваны. Мулялася яму пад бокам саўгаская зямля.

Процi аборы высокі чарнавусы чалавек тлумачыў нешта другому — меншаму і шчуплейшаму, паказваючы на вароты аборы.

— Што гэта тут мядзведзіцкія расхадзіліся? — гукнуў чарнавусы, згледзеўшы дэлегацыю.

— Да паноў да вашых прыходзілі,— адказаў Грамабой, падаючы руку.

— Да паноў? Дык ты ж, глядзі, не ў тым баку іх шукаеш. Табе трэ было падацца туды, пад Нясвіж,— іранічна ўсміхнуўся чарнавусы.

— Ну, а як жа? — не здаваўся Грамабой.— Палацы панскія, зямля панская, гумны, аборы — усё панскае. Толькі што празванне перамянілі — таварышы.

— Вось, на ліха, не папыталіся ў цябе раней,— можа б, яно не трэба было і праганяць Гняцецкага. Усё роўна паны.— Чарнавусы глядзіць кпліва і зняважліва.

— Дык яно ж так выходзіць. Да пана Гняцецкага хадзілі прасіць, каб даў зямлі кавалачак, хоць у арэнду, і да таварыша Пракопчыка таксама вось мы прыйшлі. Толькі не відаць, каб пан Пракопчык быў дабрэйшы за пана Гняцецкага.

— Так, пан Гняцецкі быў добры для цябе. Я памятаю, як ён табе ўсё Заброддзе аддаў на чацвёртую капу, а ты ад сябе сваім жа мядзведзіцкім даваў па кусочку на пятую. Табе дарэмна тады людзі адрыну сена навазілі.

Грамабой адвёў вочы ўбок.

— Як гэта дарэмна? Я ж працаваў. Не хацеў жа Гняцецкі цыркацца, па кусочку раздаваць. Не я, то нехта іншы ўзяў бы. Тады, можа, мядзведзіцкія і ў вочы б не бачылі сенажаці. А мне хіба мала працы было? З панам дагаварыцца ды людзям раздаць.

— А як гэта «праца» па-нашаму завецца? — не адставаў чарнавусы.

— Па-вашаму не ведаю, а па-мойму гэта праца.

— Не ведаеш, дык вось у Петруся папытайся,— кіўнуў чарнавусы на Кухара.— Тады і ён табе з воз сена ці не прывёз.

Пятрусь няёмка ўсміхнуўся і зачарціў палачкаю па снягу.

— Чаго ж ты на каго? Вы ж самі траха не кожны год аддаяце Заброддзе на часць,— зноў узняў галаву Грамабой.

— Здаём ды не ўсім і не на пятую капу. І то гэта пакуль у нас яшчэ рабочай сілы ды коней недахват.

Слухаючы паядынак Грамабоя з чарнавусым, Юзік рад быў, што Грамабой такі нарваўся на свайго. Але яму сорам было, што ён у адной кампаніі з Грамабоем. Чарнавусага — Марціна Шнаркевіча — знаў Юзік, як і ўсе мядзведзіцкія, не першы год. Шнаркевіч яшчэ маладым дзецюком застаўся за парабка да пана Гняцецкага. Зразу ж пасля рэвалюцыі ўступіў у партыю, а калі белапалякі займалі Беларусь, уцёк з былога маёнтка і добраахвотна пайшоў у Чырвоную Армію. Дэмабілізаваўшыся, зноў вярнуўся на старое месца і працаваў цяпер у саўгасе як старшы рабочы. Юзік паважаў яго як партыйца і сумленнага работніка і цяпер баяўся, каб Шнаркевіч і яго не палічыў за Грамабоевага аднадумца. Ён хацеў ужо ўмяшацца ў гаворку, каб растлумачыць, чаго яны прыходзілі, як Шнаркевіч сам памог яму, запытаўшыся:

— А якой гэта зямлі вы ад нас хацелі?

Юзік расказаў яму тое, што нядаўна гаварыў загадчыку.

— Ну дык добра, няхай вось яму наша зямля трэба,— кіўнуў ён на Грамабоя,— а табе, Пятрусь, нашто? — запытаўся Шнаркевіч, калі Юзік скончыў.

— Як гэта нашто? — здзівіўся той.— Неяк ты дзіўна гаворыш. Ты ж ведаеш, колькі ў мяне зямлі.

— Ведаю я, што зямлі ў цябе нямнога, што ты бядняк. І яшчэ я ведаю, што бедната — апора савецкай улады на вёсцы. Але якая ж з цябе будзе апора, калі ты адною

рукою будзеш падпіраць, а другою вырываць цагліны з падмурка таго будынка, які гэта савецкая ўлада будуе.

— Не пад'еўшы, брат, не вельмі падапрэш,— панура адказаў Пятрусь.

— Ды не там жа трэба шукаць зямлі, дзе вы шукаеце. У раёне ў нас нямала такіх, што маюць яе лішку. Вось каго трэба памацаць, дапамагчы савецкай уладзе. А то, па-твойму, выходзіць так: няхай дзяржава раздасць усю зямлю, няхай не чапае, у каго яе лішка, няхай, можа яшчэ, не бярэ падатку. А тады і не агледзішся, як замест пана Гняцецкага з'явіцца пан Жагула альбо бы той самы пан Зязюля, а мне ды табе, а не табе, дык другому, прыйдзецца да іх у парабкі ісці. Тады — зноў пачынай рэвалюцыю спачатку, бо выходзіць — хто каго сапхне: ці савецкая ўлада пана Жагулу, ці пан Жагула савецкую ўладу.

— Каб жа нам так гладка жылося, як табе гаворыцца,— не ўцярпеў Грамабой.

— Ах, як ты збедніўся! — іранічна здзівіўся Шнаркевіч.

— Ды я вось пра людзей кажу.

— Можа, каб ты менш пра іх клапаціўся, дык бы і лепш было.

— Дык нічога з гэтага не будзе,— сказаў Шнаркевіч развітваючыся,— Бугайніка мы вам не дамо.

Юзік ішоў і думаў пра пана Жагулу, які захоча сапхнуць савецкую ўладу. Яму ўявілася, як шырокабароды Жагула, важна гугняючы, садзіцца ў брычку, запрэжаную параю гнядых жарабцоў, як лісліва круціцца каля яго лёкай, шчуплы і вёрткі (Юзіку здавалася, што ён падобен будзе да Тодара Пошты), і як, збегшы з дарогі, зняўшы шапку, з павагай глядзіць у патыліцу Жагулу Сцяпан Варанец, якога Жагула абмінае, нават не кіўнуўшы на яго шапкаванне. У гэтым малюнку больш ярка выступала тое, да чаго ён ужо раз дадумаўся сам, лежачы на пасцелі. Ён тады спужаўся і схаваўся сам ад сябе за прырэзкі беднаце. Ён пабаяўся думаць далей і не дадумаўся да таго, што калі б нават і можна было надзяліць зямлёй да поўнай нормы ўсю мядзведзіцкую беднату, дык усё роўна не ўсе гаспадаркі раслі б раўнамерна; што больш дужы, спрытны і нахрапісты стараўся б пад'ехаць на другім, а пад'ехаўшы на другім, лягчэй мог бы асядлаць трэцяга, і так бы буйнелі, выбіваліся ўгору паасобныя гаспадаркі, падбіраючы пад сябе шмат іншых. Ды апрача гэтага, не адны Мядзведзічы на свеце. Дык няўжо ж такі паны? Ды няўжо ж так заўсёды і будуць ірваць адзін у другога з зубоў, таптаць другога

ў гразь, каб самому вылезці з балота, стаўшы на спіну суседа? Дзе ж выхад? Пра камуну гавораць, пра сацыялізм, але ж папробуй заікніся ў вёсцы пра камуну — вочы выдзеруць, выгаварыць не дадуць. Дый якая гэта камуна, як да яе дайсці — чаму гэта ніхто расказаць не ўмее. У горадзе, там прасцей: вытурылі буржуяў, забралі фабрыкі і заводы, і цяпер толькі ўмей пусціць іх у ход. А тут жа людзей з зямлі не згоніш, і нідзе ты іх не дзенеш, і нікім не заменіш. Праўда, не так лёгка выбіцца на пана: зямлі ж ён каторы цяпер сабе не купіць, а без зямлі не вельмі разбухаецца,— ухапіўся Юзік за думку, якая хоць трохі выратоўвала яго ад пакутнага роздуму.

А Грамабой, раззлаваны адпорам Шнаркевіча, як бы адказваючы на Юзікавы думкі, з'едліва бубніў:

— Усялякая жаба нос дзярэ. Вельмі асэсар ён тут вялікі — не дамо. Ды хто ў цябе пытацца вельмі будзе? Загадаюць, і дасі. Ці даўно перад панам у тры пагібелі гнуўся, ён ужо тут мацыяш. Баіцца, каб паны не нараслі. Ды не зраўнуеш, патом, усіх. Бог лесу не зраўнаваў, а то людзей ты зраўнуеш. Падзялі вось сёння ўсё пораўні, дык на той год зноў перадзельваць давядзецца. Бо адзін будзе рабіць ад цямна да цямна, а другі будзе чэрава грэць пад сонцам. Такую ж хваробу ён і мець будзе: з'есць тое, што яму выдзелілі, ды зноў яму давай.

— Гаворыш ты, Ціхон, аж слухаць няма чаго,— пакрыўдзіўся Кухар.— Ды хіба ж я ляжу, чэрава грэючы, што ў мяне вось ужо хлеб зараз канчаецца?

— Хто табе кажа, што ты ляжыш. Не ты, то мо твой бацька ці дзед ляжаў, што табе ад іх нічога не засталося. Дый сям'я ж у цябе — дзякаваць богу, дзяцёй пяцёра. Не я ж тут вінават.

— Ён на мяне ківае,— зноў уздумаў Грамабой пра Шнаркевіча.— Што ж я ўкраў у каго ці аграбіў каго? Раблю, дык і маю. А калі людзі, бывае, у мяне робяць, дык ці яны ж дарэмна? Бывае, што яшчэ за паўгода наперад заплачана. Прыйдзе каторы вясною: «Дзядзечка, дай пудзік мукі ці бульбы мерку якую». Як ты адкажашся? Не камень жа я, дарма, што на мяне кажуць і злосны, і нягодны, і такі, і гэтакі.

Маўклівы заўсёды Кухар больш Грамабою не адказваў. Юзік заняты быў сваімі думкамі. А Грамабой быў гаваркі сёння, як ніколі. Памаўчыць, памаўчыць ды зноў успамінае Шнаркевіча, каб сказаць пра яго што-небудзь злоснае і абразлівае. І сам усё як бы прабаваў апраўдвацца.

## XII

Мякка і нячутна сцелецца белы пух.

У бляску вакон відаць, як лётаюць, мітусяцца, нібы скачуць нейкі невядомы танец, белыя мухі — кволыя і пяшчотныя. Нібы ўтаміўшыся, яны прысядаюць на шчокі, на нос, не то колюць, не то казычуць, і тут жа паміраюць, пакідаючы халодную вільгаць. Наўкола малочная муць.

У канцы сяла, наводшыбе, пры дарозе прысела старая згорбленая школа і глядзіць не змігне цьмяна-жоўтымі падслепаватымі вачыма на паламаныя жардзіны плота, што тарчаць з-пад снегу, углядаецца ў малочную далечыню, нібы хочучы ўбачыць прывычную цёмную сцяну лесу. А ў сярэдзіне ў школе якраз ідзе гарачая гутарка пра гэты самы лес. Справа ў тым, што цёмная сцяна лесу зусім не такая ўжо цёмная, як яна выглядае здалёк. Шмат цяжкіх хвілін за апошні дзесятак гадоў перажыў стары лес, шмат гора перанёс і палысеў. Моцна палысеў. Шмат яго лягло пад тапарамі ў нямецкую вайну, калі ля Мядзведзіч і скрозь па рацэ Брадзянцы на сотні кіламетраў у даўжыню рыхтавалася адна з тылавых абаронных пазіцый, калі рабіліся цяжкія бліндажы па тры, па чатыры накаты таўшчэзных бярвенняў, рабілася ў шэсць і дзевяць радоў драцяная загарода, калі высціламіся лесам сотні кіламетраў новых дарог, па якіх штодзённа перавозіліся тысячы тон смяротнага металу. Шмат знішчылі лесу паны за акупацыю, чуючы недаўгавечнасць свайго панавання. Шмат пусцілі з дымам самі белапалякі, помсцячы краіне за партызан, якіх гэты лес туліў і грэў. Палажылі пэўны след і вясковыя драпежнікі, што, як і Грамабой, звычайна гаварылі: «Дабро народнае, а народ гэты — мы. Таму, колькі хочам, столькі і бяром».

Кожны мядзведзіцкі гаспадар, хто памятаў гэты лес іншым, з жалем у сэрцы глядзеў на яго шырокія лысіны. Шкада было лесу, і шкада шмат каму з тае прычыны, што нехта пажывіўся, а яму самому нічога не прыйшлося ці прыйшлося вельмі мала.

Часта гулі мядзведзіцкія на сходзе:

— Усякі чорт лысы з усяго свету палошчацца тут, а ты, у лесе жывучы, палена дроў не маеш. Гэта ж парвацца са злосці!

І самі ехалі і секлі. Пляжылі, хто меў сілу і смеласць, у першыя гады рэвалюцыі, сякуць і цяпер. Крадучыся, баючыся, але сякуць. «Палена дроў» у вуснах мядзведзічан — гэта быў толькі паэтычны зварот, які прыкрываў

сабою не адзін празаічны воз першасортных дроў і не адзін кавалак страявога лесу.

Вось пра гэта цяпер і гаварылі ў школе пяць хлопцаў і адна дзяўчына — мядзведзіцкая камсамольская ячэйка. Сакратар ячэйкі, шыракатвары, яшчэ бязвусы хлопец, звычайна вясёлы і жартаўлівы, цяпер, разумеючы ўсю важнасць моманту, раптам стаў сур'ёзным і ўзяў слова.

Пачаў ён з тэорыі і чуць не давёў, што сам Карл Маркс не ўцярпеў бы, гледзячы на такія непарадкі, але праз хвіліну ўсе свае тэарэтычныя абгрунтаванні вычарпаў і перайшоў да практычнай часткі. Сказаўшы, колькі свежых пнёў налічыў ляснік за гэты тыдзень, ён прапанаваў падняць гэта пытанне на першым вясковым сходзе, пераканаць мужчын, што яны самі сабе гэтым шкодзяць, дабіцца, каб пастанавілі больш не красці лесу і наглядаць адзін за другім. Ніхто сакратару не пярэчыў. Шура яшчэ сказала пару гарачых слоў у падтрыманне, пры гэтым бляск яе вачэй і энергічныя ўзмахі кучаравай галавы сказалі больш за яе словы. Маўчаў, спусціўшы вочы, Міхась Суравец, меншы брат таго Сяргея, якога некалі злавіў атрад па барацьбе з дэзерцірствам, аднак пры галасаванні ўстрымацца не адважыўся.

Вышэй за ўсіх падымаў руку бязвусы чарнамазы Якуб Курыльчык. Ён нядаўна толькі паступіў у камсамол і заўсёды стараўся паказаць сваю камсамольскую вытрыманасць і актыўнасць. Ён ужо цяпер бачыў сябе перад вялікім сялянскім сходам. Уважна слухаюць яго вусатыя дзядзькі, люлькі і цыгаркі з рота павымалі. Слухаюць і згаджаюцца: «Праўду кажа Якуб». А калі ён унёс прапанову не красці больш лесу і самім выкрываць самавольцаў,— усе, як адна, падняліся заскарузлыя, мазолістыя рукі. Назаўтра, гледзячы ў зямлю ад сораму, ідуць мядзведзіцкія дзядзькі адзін за адным да Якуба і выкладаюць яму, колькі хто ссек хвоек. Яны каюцца, а ён абяцае нікому пра гэта не казаць, калі яны дакляруюць больш гэтага не рабіць. Нават Грамабой і той з грубаватым жартам вылажыў яму ўсё пра свае зладзейскія ўчынкі.

Ачнуўся ён ад сваіх прыемных думак толькі тады, калі сакратар сказаў, што пытанні ўжо ўсе, і хлопцы пачалі ўставаць з лавак. Якубу тады прыйшло на памяць, што яго яшчэ адна прыемная рэч чакае сёння — зайсці да Змітравых.

А ў Змітравых зырка гарыць на камінку смаліна і пужае дзяўчат, страляючы ім на прыпол. «Гасцінец будзе»,— цешаць яны адна адну.

Самі скачуць на панажах правыя ногі дзяўчат, зліваюцца ў адзін круг спіцы калаўрота, жвава смычуць мокрыя пальцы сівую льняную бараду. Вілачак зусім не відаць: яны ў шалёным захапленні круцяцца наўкол свайго шпяня, ледзь спраўляючыся накручваць на шпулю мокрую нітку.

Даўно пераказалі дзяўчаты ўсе вясковыя навіны, перапелі шмат песень і цяпер трохі прыціхлі. Адна з іх, што бліжэй да камінка, на зэдліку, раз-пораз паглядае цераз плячо на дзверы. Яе сіняя крамная сукенка і русыя, ледзь кучаравыя валасы ёй вельмі да твару. Левая шчака нагрэлася ад камінка — румяная і пульхная. Гэта той магнэс, які цягнуў Якуба да Змітравых.

Прыйшоў Якуб з Максімам Варанцом, Шурыным стрыечным братам. Жартавалі, смяяліся і «памагалі» дзяўчатам прасці, скідаючы з калаўротаў шнуры і закручваючы ў кудзелі вусы.

Але дзяўчатам хутка захацелася спаць. Асабліва той, што ў сіняй сукенцы, ды яшчэ адной, з якой больш за ўсё жартаваў Якубаў сябар. Ім так захацелася раптам спаць, і так заўтра рана трэба было ўставаць, што Якуб хітра падмаргнуў Вольцы (што ў сіняй сукенцы) і ў думках пахваліў дзяўчат за розум і дагадлівасць.

Ідучы дадому, Якуб узяў Вольчыну машыну, а яна — прасніцу. Весела таптаолі белы пух, пакідаючы за сабою дзве пары слядоў. Каля варот Вольчынай хаты Якуб паставіў калаўрот на снег. І ён стаяў нерухома, як вартавы на важным пасту, чутка натапырыўшы адзінае скуранoe вушка. Ціха драмала, прытуліўшыся да вугла, кудзеля, і барада яе з сівай зрабілася белаю, а ім усё яшчэ не хацелася расставацца.

У яе — сняжынкі на брывах і валасах, ціхія і пяшчотныя. Вочы яе, вялікія і цёмныя ў малочным змроку, глядзяць на яго знізу, чаруюць і прыцягваюць.

— Снег ідзе, кудзеля намокне. Можа, пойдзем ужо? — непакоіцца яна час ад часу.

Тады ён нахіляецца да яе, прыцягвае да сябе, і цёмныя вочы на хвіліну заплюшчваюцца, а губы п'юць хмельную цеплату, якая разліваецца па ўсім целе і тумаціць галаву.

— Снег ідзе...— і зноў на хвіліну заплюшчваюцца цёмныя вочы...

Кіслы, цяжкі дух сустрэў Якуба, калі ён пераступіў парог свае хаты. Ён запаліў газоўку і, сеўшы каля печы на палку, пачаў разувацца. На адной пасцелі спала маці з меншым дзіцем, а на другой — бліжэй да печы — трое большых. Бацька не то спаў, не то так ляжаў на печы, яшчэ не разуваючыся.

— Снег ідзе? — запытаў ён, не падымаючы галавы.

— Ідзе.

— Пачакай, не разувайся.

Не адымаючы рук ад нагі, Якуб падняў галаву:

— Чаму?

— У лес трэба з'ездзіць. Я адну хваянку сухую нагледзеў, ды такая ж лоўкая. Усмал уверсе — тыдняў на тры смаліны будзе. А з камля слупкі будуць — трэба ў хляве загараду карове зрабіць. Раскідаецца, зусім слупы пагнілі... Вось якраз добра, што снег ідзе, след закрые за ноч.

Усе Якубавы светлыя думкі разляцеліся, сэрца забілася трывожна і нудліва. Перад вачыма стаялі члены ячэйкі з рашуча паднятымі рукамі.

— Не паеду я... Я не магу красці, я камсамолец,— прагаварыў ён і шпарчэй стаў раскручваць абору.

— Я ж ведаю, што ты не паедзеш. Ты ж камсамолец — цаца вялікая,— дык я да старасці павінен цябе пялегаваць. Табе абы самому смачна з'есці ды хараша схадзіць, а бацьку — чорт яго бяры — няхай адзін душыцца. Я вось сам лапцей людскіх не маю, каб у свята абуць, а табе боты мусіў справіць... Душыўся, начэй недасыпаў за працаю, гадаваў, думаў — хоць пад старасць якая палёгка будзе. Дык не, не дачакацца, мусіць... Пакуль жыў, трэба якнебудзь варушыцца.

Ён злез з печы, апрануўся і ўзяў рукавіцы. Вузкія, згорбленыя плечы ў палатаным кажушку і шалік на шыі надавалі яму нейкі хваравіты выгляд.

Бацька ўзяў з-за лавы сякеру і выйшаў, не сказаўшы больш ні слова, а Якуб усё павальней і павальней раскручваў мокрую анучу. Разуўшы адну нагу, ён спыніўся і стаў задуменна глядзець на проціпечнае акно. Самі пабеглі дзве слязіны, заказыталі каля носа, і адна з іх капнула на руку. Ён патрымаў у руках мокрую анучу, узяў за канцы, чагосьці паглядзеў на яе проці газоўкі і пачаў павольна зноў накручваць на нагу. Абуўшы нагу, ён, не спяшаючыся, апрануўся, змахнуў прусака, які адзінока бегаў па стале, патушыў газоўку і выйшаў. Конь ужо быў запрэжаны ў простыя сані, і бацька, сабраўшы лейцы, рыхтаваўся сесці на воз.

Якуб моўчкі сеў на задні вязок. Сані ціха паплылі па белым моры.

Чым ясней вырысоўвалася ў змроку цёмная сцяна лесу, тым ніжэй прыгінаўся Якуб, седзячы на возе, нібы гэта цёмная сцяна ўсё з большым цяжарам налягала яму на плечы. Калі ўехалі ў лес, ён не сцярпеў:

— Стойце!

Бацька сутрымаў каня і здзіўлена паглядзеў на Якуба:

— Што там?

— Нехта ішоў, здаецца,— зманіў Якуб, каб як-небудзь апраўдаць перад бацькам тое, што ў яго незнарок вырвалася. І тут жа раптам яму ясна стала, што гэта «нехта ішоў» павінна яго выратаваць... хоць гэты раз, а там будзе відаць.

— Дзе там хто ішоў? — абазваўся бацька, не хочучы верыць.— Табе здалося, можа.

— Не, я добра бачыў, як нехта перайшоў цераз дарогу і стуліўся за хвойкаю.

— Які ж тут чорт можа хадзіць гэтакаю парою? — сказаў злосна бацька, але паганяць каня далей не асмельваўся.

— Хто яго ведае, можа, знарок хто пільнуе... Але на чорта нам гэта работа, падумайце вы самі. Не столькі тае нажывы, як абняславіш сябе, калі зловяць; ды заплаціць прыйдзецца.

— У лесе — гэта не ганьба. Не дурны чалавек выдумаў: хто ў лесе не злодзей, той дома не гаспадар.

— Старая прыказка, тата, і старыя людзі яе выдумалі. Цяпер яна нам не падыходзіць: самі ў сябе крадзем.

— Людзі тым часам не глядзяць. Хаты вунь сабе пастаўлялі. Не гэтакія справядлівыя, як мы з табою,— сказаў бацька, ужо заварочваючы каня.

— Кіньце, тата. Слупкі гэтыя самыя мы і з дроў выберам, як будзем сеч, а на газу якую-небудзь залатоўку агораем.

Але больш угаворваць бацьку не трэба было. Цёмная сцяна лесу патроху аддалялася і як бы раставала ў змроку, а разам з гэтым рабілася весялей і на сэрцы Якуба.

Каню таксама весела было. Любіў ён падрамаць, стоячы ў цёплай стайні над ахапкам пахучага сена, і цяпер бадзёра трухаў па мяккай дарозе, весела фыркаючы і паматваючы галавою. Дзівіла яго толькі адно: чаму гэта гаспадары без дай прычыны ўздумалі прагульвацца на ім у лес ды яшчэ ў такую познюю пару?

Назаўтра, прывёўшы пад калодзеж паіць каня, Якуб застаў там Шуру.

— Здароў, начніца,— адказала яна на Якубаў «дзень добры», перадаючы яму калодзежнае вядро.

— Чаму начніца? — сумеўся той.

— Поначы валочышся немаведама дзе.

— Альбо ж ты не ведаеш! Вольку праводзіў, пастаялі трохі каля іх.

— А ў лес гэта ты таксама з Волькаю ездзіў?

Якуб глянуў спалохана і недаверліва:

— Хто табе казаў?

— Хто бачыў, той і казаў. Бацька мой бачыў, як ехалі.

— Нічога не прывезлі.

— На спацыр ездзілі?

— Павер, дальбог не прывезлі. Я нарокам настрашыў бацьку, што нехта пільнуе, дык і вярнуліся.

— А чаго было ехаць?

— Здурнеў, бацькі паслухаў. Згорніўся, крыўдаваць пачаў на мяне, што я не памагаю яму, дык мне неяк шкада стала.

— А каб бацька падгаварыў цябе дзяржаўны склад падпаліць?

— Вось я ж пра гэта і думаю. Нядобра зрабіў, не пакамсамольску. Неяк аж самому сябе сорамна.

— Шура,— памаўчаўшы, нясмела сказаў Якуб.

— Га? — абярнулася тая ўжо з каромыслам на плячах.

— Не кажы Сцёпку.

— А не шкодзіла б табе на ячэйцы лазню даць.

— Не так лазня страшна, як сорам вельмі ж... Не скажаш?

— Падумаю,— адказала тая, асцярожна ступаючы з вёдрамі па лёдзе.

Конь ужо напіўся і два разы нецярпліва пацягнуў повад з Якубавых рук, а ён усё стаяў, гледзячы на носік свайго лапця.

## XIII

Калі Тодара Пошту выклікалі да стала і калі старшыня суда, гледзячы яму проста ў вочы і нават насупіўшы трохі ад вялікай сур'ёзнасці свае рыжаватыя бровы, папярэдзіў, што Пошта павінен гаварыць адну толькі праўду і што за няпраўдзівае сведчанне ён будзе пакараны, Тодар адчуў,

што вочы ўсяе залы ўпіраюцца яму ў спіну, свідруюць яго, дабіраюцца да самых таемных куткоў яго нутра. Ён нічога не адказаў, толькі неяк збянтэжана засмяяўся, ад чаго старшынёвыя бровы яшчэ больш збегліся на пераноссі. Падняўшы вочы, Пошта злева ад старшыні ўбачыў знаёмага дымаўскага хлопца — цяперашняга рабочага саўгаса. «Некалі разам каровы пасвілі, а цяпер гэта і ён тут, мусіць, нейкі суддзя»,— падумаў Тодар і пасмялеў, нават аж павесялеў ад гэтага. Калі старшыня папытаўся ў яго, што ён ведае пра крадзеж коней, Пошта, не раздумліваючы, адказаў:

— Ну, яны пакралі.

— Хто гэта «яны»?

— Ну, Даніла з сынам. Апрача больш няма каму.

— Назавіце іх прозвішча,— дабіваўся дакладнасці старшыня.

— Наздрэйкі.

— Як зваць?

— Мяне?

— Ды тых, што пакралі.

— Ну, Даніла і Мікола,— сказаў Пошта і аж здзівіўся сам, што старшыня не ведае такой вядомай усім рэчы.

Наздрэйкі сядзелі на асобнай лаўцы спераду, злева. Мікола здзіўлена і варожа глядзеў на Пошту, калі той гаварыў, а стары неяк мітусіўся, нібы яго злавілі ў пастку. Вочы яго няўпэўнена бегалі па тварах, калі ён аглядаўся на залу. Здавалася, ён хацеў усіх запрасіць у сведкі: «Паглядзіце, людцы добрыя, што гэта робіцца на свеце. На нявіннага чалавека складаюць».

— Чаму ж вы думаеце, што Наздрэйкі якраз пакралі коні? — дапытваўся старшыня.

— Больш няма каму. Яны і авёс пакралі. Яны ўсё крадуць.

— Які авёс?

— З азярода ў Соміка. Пазалетась гэта было. Аж дзесяць снапоў.

— І гэта было даведзена судом, ці як?

— Нашто там хто, калі я сам бачыў, што след пайшоў ад азярода аж у Наздрэйкаву адрынку.

— Ну, добра. А што ж вы ўсё-такі пра коні можаце сказаць?

— Я ведаю тое, што позна тае ночы ў Наздрэйкавых скрыпнулі дзверы і нехта, крадучыся, падаўся на агарод за вугал.

— І доўга ён там быў на гародзе?

— А хіба ж я яго пільнаваў? — у тон старшыні запытаў Тодар.

— А ці ходзіць у вашай вёсцы яшчэ хто на агарод за вугал? — спытаўся на гэты раз саўгаскі рабочы.

Тодар аж губы адставіў, і вусы яго светлыя натапырыліся ад здзіўлення.

— Вось сказаў! Усе ходзім. Гэта ж мо табе не ў горадзе,— адказаў ён пакрыўджаным голасам.

— І ты ходзіш?

— Ну, а што ж [redacted] — святы? Ці з мяне мышы выносяць?

— Дык гэта ты, можа, і пакраў коні?

У зале засмяяліся. Тодар атарапеў ад нечаканасці і абразы.

— Вот сук...— хацеў ён вылаяцца, але схамянуўся.— Дык я ж, можа, не... Я за сваёю патрэбаю.

— Дык, можа, і Наздрэйка за сваёю патрэбаю ішоў?

— Чорт ім даў, каб абодвум разам прыспічыла,— буркнуў Пошта ўжо сярдзіта.

— Ага. Дык яны ўдвух ішлі на агарод? — спытаўся ўжо старшыня, сагнаўшы з твару ўсмешку.

— Удвух, вядома, удвух. Бацька з сынам. Каб жа адзін, дык няхай бы сабе, я б нічога. А то ўдвух,— узрадаваўся Пошта, што, нарэшце, выкруціўся.

Выклікалі сведку з Наздрэйкавых боку, дымаўскага чалавека. Баязліва аглянуўшыся па баках, ён няўцямна ўтаропіўся на старшыню сіняватымі палінялымі вачыма. Уцяміўшы, нарэшце, пра што ў яго пытаюць, пачаў гаварыць:

— Пра коні я нічога не ведаю. Толькі назаўтра пад вечар дачуўся пра гэта. Але я ведаю пра Данілу Наздрэйку. Тае ночы ён быў у млыне, крупы рабіў. Яшчэ звечара, прыйшоўшы ў млын, я застаў яго. Мы сядзелі там, гаварылі пра сёе, пра тое. Яшчэ там завознікі былі. А потым, можа, гадзін у дзве па поўначы, можа, пазней — надышла мая чарга. Я раней прывёз за Данілу. Пайшоў я крупы рабіць, а ён застаўся. Ён пасля мяне рабіў. Я ад'язджаў, а ён толькі на кош засыпаў. То думаю, што ён мог вярнуцца дадому не раней, як пачало развідніваццa.

Старшыня зноў выклікаў Пошту:

— Вось сведка Відуцкі кажа, што ў тую ноч, калі пакралі коні, Даніла Наздрэйка цэлую ноч быў у млыне. Што вы на гэта скажаце?

— А што мне да таго. Мусіць, патрэба нейкая была.

— Як! — здзівіўся суддзя.— Вы ж толькі што казалі, што вы бачылі, як абодва Наздрэйкі позна ноччу выйшлі з хаты і, крадучыся, пайшлі на агарод.

— Я не казаў, што я бачыў.

— Дык адкуль жа вы ведаеце, што яны выходзілі з хаты?

— Сам гаспадар, у каго каня ўкралі, Сомік гэта бачыў. Ён жа хлусіць не будзе.

У зале зноў засмяяліся. Старшыня таксама іранічна ўсміхнуўся і больш не дапытваўся.

Радзіліся нядоўга. Праз хвілін дваццаць абвясцілі прысуд, паводле якога вінаватасць Наздрэйкаў у крадзяжы коней лічылася недаведзенай. Справу пастаноўлена было спыніць, і судовыя выдаткі ў суме 10 рублёў 12 капеек спагнаць з Соміка.

Калі выйшлі на двор, малады Наздрэйка спыніўся, чакаючы, пакуль будзе праходзіць Сомік.

— Не чапай ты яго, няхай яго сарочка не чапае, гэтага чалавека. Хадзем,— цягнуў бацька Міколу за рукаў.

Даніла баяўся суда і рад быў цяпер, што так яно скончылася. Але Мікола ніяк не мог забыцца ні тых двух тыдняў, калі яны з бацькам сядзелі ў каталажцы, пакуль скончылася следства па гэтай справе, ні таго, як на яго сёння глядзелі ўсе людзі з варожай зацікаўленасцю, як на злодзея, як ён не адважваўся падняць вачэй, каб глянуць на людзей, і як гарэлі яго вушы ад сораму і абурэння. Дачакаўшыся Соміка, ён сабраў свой твар у зняважлівую грымасу:

— Што, выкусіў, сабака рыжы,— кінуў з'едліва.

Той увесь затрымцеў, трацячы розум ад злосці.

— Рад, што злодзей злодзея апраўдаў? — забыўшыся на ўсялякую асцярогу, крыкнуў ён.— Пачакай, ты яшчэ з маіх рук не выкруцішся, знайду я на цябе ўправу. Не дажджэш ты больш красці.

— Паглядзім, хто на каго знойдзе. Я табе яшчэ ўпамянуся, стражніцкая скура,— гразіў услед Мікола.

— Дык садзіся ідзі, дадому паедзем,— паклікаў Пошта Соміка, запрагаючы каня.

— Пайшоў ты к ... Трапло сабачае,— адгыркнуўся той і, насунуўшы кучомку глыбей на вушы, злосна пакрочыў па вуліцы.

Пошта знячэўку засмяяўся, а потым абразіўся:

— Сам рыжы сабака,— пераказаў ён нядаўна чутую Міколаву лаянку, калі ўжо Сомік адышоўся.— Паткнуў кусок здору, дык думае, вельмі я ўжо распінацца буду.

Чорт яго тут і ўнаровіць, як табе сказаць. Сам бачыў, то сам і кажы.

Мінаючы Соміка ўжо за мястэчкам, Пошта на злосць яму пацягнуў каня пугаю ад падсядзёлка да хваста, аж той, спудзіўшыся, узяў галопам, але, разоў два кульнуўшыся, пайшоў зноў трушком, косячы адным вокам на пугу ў Тодаравых руках.

На вуліцы сабраў каля сябе чараду мужчын дзед Агей. Нізенькі і шчуплы, на крывых, выгнутых у каленях ножках, у палатаным падпяразаным вераўчакай кажушку. Стаўбунаватая аблезлая кучомка наехала аж на самыя вочы, і здавалася, што мяцёлка светла-рыжай барады яго расце з самай кучомкі. Ранейшы панскі паплаўнічы, ён і цяпер наймаўся ўлетку вартаваць ад патравы Заброддзе і Бугайнік, а зімою яшчэ сталяркаю трохі займаўся: таму заслон зробіць, таму прасніцу альбо матавіла, а часам і куфэрак які змайструе. Збудаваная за панам халупіна наводшыбе ад Мядзведзіч, на Заброддзі, засталася цяпер Агею ва ўласнасць, ніхто ў яго яе не забіраў. Жыў ён толькі ўдваіх з сваёю бабаю, быў трохі бзікаваты, як большасць старых і адзінокіх людзей, але заўсёды гаваркі і бесклапотны. Цяпер ён быў чамусьці асабліва ўзрушаны.

— Не, не там шукаюць злодзея, не там! — трос ён заўзята барадою.

— А хто гэта ведае, там ці не там?

— Ведае. Той, што там, усё ведае,— паказаў Агей тоўстаю крывуляю ў неба.— Ён усё бачыць.

— Нічога ён не бачыў,— пацвельваецца Алесь Галаскок.— Цёмная ж ноч была тады, а вочы ў яго слабыя, стары ўжо.

— Не бядуй, бачыць ён лепш за цябе, дарма, што ты малады. Бачыць, ды не скора скажа.

— А калі ён ведае злодзея, ды не выказвае, пакрывае, дык ён і сам такі самы злодзей. Вось яго і трэба сплесці за бараду,— не сціхаў Галаскок.

— Маўчы, гіцлю, бо вось як засвячу па тваёй галаве дурной! — падняў раззлаваны Агей палку.

— О-ё-ёй! Дзедачка, не буду! — нарокам спужаўся Алесь, ведаючы, што Агей толькі страшыць.

Мужчыны смяяліся. Стрымлівалі сябе тыя, што баяліся граху. Малыя хлопцы былі ў захапленні ад такога спектакля.

— Ды, праўда, памаўчы ты, Алесь, дай старому сказаць,— умяшаўся стары Верамейчык.

— Пачакайце, выйдзе праўда наверх. Папомніце маё слова, хіба я жыў не буду,— гарачыўся Агей, стукаючы палкаю ў мёрзлы снег.

Так і пайшоў, гаворачы ўжо сам з сабою і грозячы некаму палкаю.

— А можа, ён што і ведае, ды не хоча казаць? — сказаў той самы Галаскок, калі Агей ужо адышоўся.

## XIV

На перавернутым дном угору гаршку пасярод стала цьмее газоўка. Ад кожнага руху святло яе палахліва кідаецца ў бакі, па століі і па сценах мітусяцца невыразныя цені. У процілеглым кутку, у запечку і на печы пануе змрок, і слабасільнае святло газоўкі не здужае яго перамагчы. Недзе ў запечку з кароткімі перадышкамі скрабе мыш.

Пры газоўцы над кнігаю нахіліліся дзве галавы. Адна — бялявая і раскудлачаная. Даўжэйшыя валасы на патыліцы сабраны ў тоненькую коску з чырвоным каснічком на канцы. Як пакруціць галавою, шавеліцца і віляе па плячах коска, як пацучы хвост. А лоб наморшчаны, і міна на твары сведчыць пра сур'ёзнасць моманту.

Твар другой — сухарлявы, абсіveраны і кранугы маршчынамі. У гэты момант на ім відаць велізарная напружанасць і жаданне зразумець, змагчы. Водзячы шурпатым пальцам па радках, Аўдоля з натугаю вымаўляе склады:

— Ку-... ку-ла-кі- на-шы во... вор...во-ра... Вось заўсёды, як дайду да гэтай качаргі, дык і тпру,— скардзіцца Аўдоля.

— От, мама! Якая ж гэта качарга? Гэта ж «г»,— крыўдзіцца Алеська за такую знаёмую ёй літару.— Чаго ж ты ўжо стала? Чытай далей,— падганяе яна матку.— Ну, чытай: во-ра-гі.

— Чакай, дай перадыхнуць. Добра табе, як ты ўмееш,— апраўдваецца маці.— І я некаторыя літары ўжо добра ведаю. Вось гэта, як Каржакевічава брама, гэта «п»; гэта, на жука падобная,— «ж»; абаранак гэты — «о». А вось тая — палачка, кружок ды папярочка паміж імі — я ўжо і не ведаю.

— Гэта «ю»,— аўтарытэтна тлумачыць Алеська.

— Ага, «ю». Гэта круглая — юшка, ды, мусіць, з ручкаю,— дагадваецца Аўдоля.— Цяпер ужо буду ведаць.

— Вот навыдумляла! Нейкую браму, ды жука, ды юшку. Не вучыцца, а толькі балуецца,— і пацучы хвосцік нездаволена вільнуў па плячах.

— Балуецца. Вось дурніца. Мне ж лягчэй так, не так забываюся,— зноў апраўдваецца маці.

— Ну, дык давай далей чытаць, а то заўтра настаўнік як запытаецца ды як не будзеш умець, ото будзе сорам!

— Толькі ж ты мяне не падганяй, бо я хутчэй саб'юся.— І шурпаты палец паўзе зноў пад радком:

— Наш пра-ва-дыр Ле-нін.

— Нехта, мусіць, ідзе да нас,— падняла галаву Алеська.

— Можа, вецер.

— Ды не...

— Каторая ж гэта з вас настаўніца? — прывітаўшыся, пытаецца Зося.

— Ды яна, каторая ж. Яйцо курыцу вучыць. Яшчэ і настаўніца якая! Дыхнуць не дасць. Пакуль тры разы не прачытаю ёй свайго ўрока, дык не адчэпіцца,— скардзіцца Аўдоля, а праз гэту скаргу выразна відаць мацярынскі гонар за дачку.

— Во-о-о гэта цётка! Прыйшла ўжо, дык і будуць з мамаю гаварыць, а чытаць мама і не скончыць,— нездаволена сказала Алеська.

— Дык гэта ты не рада, што я прыйшла? Пачакай жа, не пайду больш да вас,— пакрыўдзілася нарокам Зося.

— Прыходзьце, але тады, калі мама не чытае.

— Дарма. Ты ідзі ўжо лажыся, заўтра ўставаць не будзеш хацець. Мне далей гэта цётка пакажа, калі я не буду ўмець,— супакойвала яе маці.

— Падманеш,— недаверліва глянула Алеська.

— Вось смешная. Якая ж мне карысць цябе падманваць?

Алеська нехаця пачала раздзявацца.

— А ведаеш, я ўжо трохі налажылася,— хвалілася Аўдоля Зосі.— Спачатку гэтак жа цяжка было! Літары трохі ведаю, а ніяк у месца згарнуць не магу, хоць ты плач. Хацела пакідаць ужо. Ды пакінула б, мусіць, каб не тая жанаддзелка, што прыязджала. Вось жа хораша гаворыць! Так бы і слухаў, здаецца, усю ноч.

— Вучаная на тое,— сказала Зося.

— Дармо — вучаная. Другая і вучаная, ды ў яе язык суконны. А гэту здало дык здало... І, скажы ты, ведае ўсё. Гэта ж пачала расказваць пра нейкіх там людзей, што маюць па шмат жонак, а жонкі ў іх купленыя, як наймічкі ўсё роўна; ды яно яшчэ дзіця, вось як мая гэта жабоцька, а яго ўжо замуж аддаюць, дык неяк аж шкада стала тых жанчын, хоць і не ведаеш іх.

— Гэта то яна з кніг вычытала. Мне і Юзік пра гэта нешта казаў,— сказала Зося.— Але яна і нашу жытку добра ведае, мы і самі, здэцца, так не ведаем. Бо ці гэта ж не праўда? Здзекаваліся з усіх нас, мужыкоў, і паны, і буржуі, а жанчына, дык тая і ў сям'і ніякіх правоў не мела. Хто захоча, той яе аблае і надае — мужык не мужык, свёкар не свёкар — нідзе ты на яго ўправу не знойдзеш... А кінуць захочаш, дык ідзі з гаспадаркі з голымі рукамі, хоць у вір галавою... Гэта ж як падумаю, колькі я нядаўна яшчэ нацярпелася ад свае свякрухі,— перайшла Зося на сваё балючае.— Але цяпер не вельмі я яе баюся.

— Дык вось жа і я пра тое. Маем мы цяпер правы, як тая жанаддзелка казала, дык не ўмеем скарыстаць іх. Абыраліся, здэцца, так яно і трэба. Мужчыны і сюды, мужчыны і туды, яны і на сходах, яны і за сходамі, а мы толькі ведаем, што печ ды калыску. Гэта мне вось прыперла, дык я больш дзе бываю, а шмат жа такіх, што і з хаты нідзе не вылазяць. Ды вазьмі ты — у нас жа мужчын непісьменных траха што і няма, толькі старыя катарыя. Там ён пачуе, там сам газетку пачытае, дык і ведае больш за нас, і разумнейшым сябе нясе. А з жанок толькі вось ты ды яшчэ мо пяць ёсць такіх, што пісьменныя. Дзяўчаты падрастаюць, дык гэтыя ўжо не будуць цёмныя. Вось як наслухалася я тады, дык аж да кніжкі большая ахвота падпала. «Ну, думаю, жыва не буду, калі чытаць не навучуся». Ды не ведаю, як яно мне ўдасца.

— Чаму не ўдасца? Ты ж ужо самае цяжкае перабыла, там лягчэй пойдзе. Падвучылася, дык назад няма чаго аглядацца.

— Ды я не аглядаюся, я так... Вось на сход у мястэчка прыйдзецца ісці ў чацвер. Выставіла ты мяне тады дэлегаткай.

— Дык і пойдзеш, што там такое.

— І буду, як баран, вачыма лыпаць.

— Не будзеш лыпаць. Там жа мо не дума якая, пра свае справы будзеце гаварыць,— супакойвала Зося.— Вось

угадай, чаго я да цябе прыйшла,— раптам хітра ўсміхнулася яна.

— А хто ж цябе ведае... Прыйшла ды ўсё, ці гэта ж перщыня. Пагаворым трохі, і нам з Алеськай весялей будзе.

— Не, ніколі не адгадаеш.

— Ты і сама скажаш зараз,— засмяялася Аўдоля.

— Каптур, здэцца, у цябе ёсць. Можа, ты мне дасі на дзён колькі? У свякрухі я не хачу прасіць.

— Каптур? — здзівілася тая.— Нашто ж табе каптур?

— На галаву. Нашто яшчэ?

— А я ведаю нашто, а я ведаю нашто, а я ве-да-ю,— высунуўшы з-пад коўдры галаву, загукала Алеська.

— А-ай, каза! І яна ўжо нешта ведае,— недаверліва засмяялася Зося.

— Бо і ведаю. Спектакль будзеце ставіць.

— Адкуль жа ты ведаеш? — здзівілася Зося.

— Піліпка ваш у школе казаў.

— Вот парасяты. Па ўсім сяле ўжо разнеслі,— засаромелася трохі Зося.

— Дык гэта і ты дзяцініцца будзеш?

— Вось табе і на! Чаму ж гэта дзяцініцца? — трохі як бы пакрыўдзілася Зося.— А калі па гарадах артысткі больш нічым і не займаюцца, як толькі ў тэатры іграюць.

— Дык то па гарадах... І ў нас дзяўчатам ды хлопцам яно яшчэ да твару. Я і сама люблю паглядзець, але ты ж сталая кабета ўжо.

— Сталая? Дык мне ўжо толькі печ ды калыска? Вось табе і правы жаночыя! А пра што мы толькі што гаварылі?

— Дык гэта ты, як той казаў, маім пальцам ды мне ў вока. Ну, добра, на табе каптур, на, толькі не сварыся,— адступала Аўдоля, прыкрываючыся жартам.— Я не шкадую, толькі чорт яго ведае, дзе ён у мяне. Як пашыла к вяселлю, дык ад таго не надзявала ні разу. Мусіць, ці не ў кубле.

— Гэта ж дзяўчаты нашы такія,— пачала апраўдвацца Зося.— Як з хлопцамі па кутках, дык нічагусенька, а як на сцэну, дык сорам ёй каторай. Прыйшла да мяне надоечы Шура Варанцова. Просіць, каб я матку старую на сцэне разыграла. З дзяўчат ніхто не падахвочваецца. Тая саромеецца, тая чытаць не ўмее, а той не гонар, што старую бабу. Усе б хацелі за дачку быць, а дачкою сама Шура будзе. Нельга было яе не паслухаць. Дык я думаю: «Чорт яго бяры, пайду — няхай нашым дзяўчатам сорам будзе».

— А Юзік жа твой нічога не кажа на цябе?

— А што Юзік. Смяецца, кажа: «Як зробішся артысткаю, тады і гаварыць са мною не захочаш, кінуць гатова».

— А на сяле плятуць, што ён цябе думае кідаць. Гэта што з Шураю добра ладзіць.

Лёгкі цень прабег па Зосіным твары, і ўсярэдзіне шавяльнулася тое малое яшчэ, але балючае, што прабавала ўжо шавяліцца некалькі разоў, але пра што Зося яшчэ нічога не гаварыла нават самому Юзіку. І цяпер яна пастаралася перамагчы ў сабе абуджаную падазронасць:

— Няхай ладзяць, а што там такое. Яна не кепская дзяўчына, не дурная.— Нашто ён Шуры,— пачала яна памаўчаўшы.— Яна ж такая яшчэ маладая, харошая, граматы вялікай, ды камсамолка,— яна сабе такога знойдзе, як і сама. Кнігі ён часамі ў яе бярэ, па якіх яна вучылася. А прыйдзе яна да нас, дык гаворкі ўжо ў іх! Усё б яны нешта рабілі ды перараблялі. Як захопяцца, дык, здэцца, яны ўжо ўсім светам арудуюць, забудуцца, што яны і ў Мядзведзічах. А мне таксама добра паслухаць. Часамі і я свае тры грошы ўстаўлю ці пасмяюся з іх... А што плятуць — няхай плятуць. На тое ў людзей языкі доўгія.

— Ды яно ж так. Як сама ведаеш, што нічога, дык бяда вялікая. Пасядзіш ты трошкі без агню, я вазьму газоўку, пайду каптура пашукаю.

— На табе і каптур,— увайшла Аўдоля праз хвілін колькі,— прыбірайся.

— А чырванюткі ж які! Аж мяняецца. Дай хоць пямераю, як ён на мне будзе. Ну як, нішто сабе бабулька? — спыталася, гледзячы ў люстэрка.

— Гэта бабулька! Чорт цябе ведае, і не старэеш ты ніяк,— залюбавалася ёю Аўдоля.— Каторы год замужам, а як дзяўчына ўсё роўна. Якая ж з цябе і старая будзе на тым шпіктаклі?

— Нічога. Трохі сажаю намажуць, маршчын наробяць, валасы пасівяць — добра будзе.

— Калі ж гэта? Хоць бы паглядзець пайсці.

— У красную суботу, перад самым святым Вялікаднем.

— Маніш!

— Праўда.

— Людзі на ўсяночную, а вы на шпіктаклі. Ну і вымеркавалі!

— Знарок і вымеркавалі богу напоперак.

— А граху гэта ты не баішся?

— Грэх у мех, грашаняты ў торбу. Годзе ўжо ўсіх баяцца! Свёкра бойся, папа бойся, бога бойся. Годзе. Няхай яны мяне баяцца,— энергічна сказала Зося, скідаючы каптур.

— Як пагляджу, дык ты зусім бязбожніцаю зрабілася. Я ж і не ведала, што ты такая.

— Трэці год вот ужо да споведзі не іду. Пакуль Юзік не вярнуўся з войска, дык яшчэ трохі трымалася закону. А ён як стаў расказваць мне, як зямля ды месяц ходзіць, колькі ўжо гадоў можа быць зямлі, ды пра неба, ды пра зоры, ды як смешна пра гэта ўсё ў папоўскіх кнігах пішацца, ды пра папоў ды манахаў усялякіх, што яны выраблялі, бывала, дык і мне вочы адчыніліся. Бо ці гэта ж не праўда? Вазьмі ты нашага папа Смаліцкага, што перад гэтым быў. Гэта ж першы бабнік быў на ўсю губерню. Ніводная служанка з яго рук не выйшла. Да споведзі прыйдзеш, дык тут спавядае, а там рукамі каля пазухі шнырыць. А драў жа! Бедны не бедны — давай, и то хрысціць альбо хаваць не будзе... Цяпер дык і пацеры я пазабывалася ўжо. Надоечы Юзік жартуе: «А ну скажы дзесяць запаведзей». Дык я спачатку яшчэ трохі пляла, а як дайшла да вала ды да асла, дык зусім зблыталася, не ведаю, што з імі далей рабіць. А хрысціцца яшчэ толькі нядаўна пакінула: усё свёкра саромелася. Юзік — дык той пад'еў, вылез з-за стала і пайшоў, а я неяк не магу так ад стала адысціся, калі свёкар глядзіць.

— А я, ведаеш, усё ніяк асмеліцца не магу. Наслухаюся вось, як ты кажаш, дык здаецца і праўда — які там бог! А пасля, калі раздумаюся сама сабе, калі набяру ў галаву: «А што, думаю, калі напраўду ёсць бог? Ён жа тады мне ніколі не даруе». Вазьму ды згавару пацеры. «Няхай, думаю, будуць у запасе». Дык ты думаеш, мая гэта жабоцька дасць мне згаварыць па-людску? — глянула Аўдоля на Алеську.— Я гавару, а яна ўслед перадражнівае. Не столькі намолішся, колькі награшыш з ёю. Аднаго дня як завінулася — абразы знімаць. «Мне, кажа, сорам прызнацца настаўніку, што ў нас абразы ў хаце». А тут жа і абразоў гэтых толькі два, ды і тыя маленькія.

— Карысць, думаеш, вялікая, што ў нас поўна сцяна? Толькі павуцінне за імі заводзіцца,— сказала Зося, згортваючы каптур.

Замкнуўшы за Зосяю дзверы, Аўдоля патушыла газоўку і раздумліва сядзела на пасцелі каля Алесі.

— Ты, мусіць, зноў пацеры гаворыш? — запыталася падазрона Алеська.

— А калі і пацеры, табе што?

— А я зноў буду цябе блытаць.

— Ах ты, бязбожніца мая ўпартая! — згрэбла пяшчотна Аўдоля яе за валасы і, абняўшы, першы раз лягла не памаліўшыся.

## XV

Нанач браўся марозік. Разагрэтая за дзень вясновым сонцам зямля пачала тужэць. Месцам каля хлявоў яшчэ прытаіліся кучкі абледзянелага, асмужанага снегу. Каля яго скапычаныя лужынкі зацягваліся цяпер рубчастай, але тонкаю храбусткаю плеўкаю лёду. Сярэдзіна вуліцы падсохла ўжо, і на ёй рэзка намячаліся каляіны, па якіх час ад часу грукаталі колы. Прасакатаў ужо на жалезным хаду Грамабой з Грамабоіхаю з поўнай паўасмінкай у перадку: вяндліна, пірагі, кілбасы, масла ў місачцы, два дзесяткі фарбаваных яец. Пратрухаў на сваім мышастым Сымон Курыльчык з жонкаю. Яна асцярожна трымала ў руках белую хусцінку, у якой таксама везла дзесятак яец і яшчэ нешта на пасвячэнне.

Першы раз такое ў Мядзведзічах, што кожны сваю каробку вязе свяціць да царквы. Тыя гады заўсёды ў вёску папа прывозілі. Ён тут і свяціў, беручы з кожнай каробкі «гасцінца»: пару свежых яец ды яшчэ «за труды», што ўмаўляліся.

А сёлета нібы чорная кошка прабегла паміж мядзведзіцкімі парафіянамі — ніяк да ладу не прыйшлі. Пра пару яец, праўда, не спрачаліся, тут справа ясная: хто прынясе каробку, той і пару яец прынясе, але калі прыйшлося гаварыць, як заплаціць «за труды» два чырвонцы, як прывезці ды адвезці папа, дык тут і не прыйшлі да згоды.

— Што там доўга гаварыць, сабраць з кожнай хаты па дваццаць капеек, дык і хопіць з яго,— запрапанаваў Тодар Пошта.

Але тут Рыгор Варанец так энергічна запратэставаў, што ўвесь Поштаў праект разляцеўся ў пыл.

— Ты будзеш каробку свяціць, а я плаціць за цябе буду? — дадаў Рыгор.

— А ты хіба несвячонае будзеш жраць?! — здзівіўся Пошта.

— А ты баішся, каб мяне не вырвала ад несвячонага? — у сваю чаргу запытаўся Варанец.— Нічагусенька, вось прыйдзі паглядзі заўтра на тую спробу.

Наконт фурманкі важную думку меў Грамабой. Ён сказаў, што гэта «дзела абчэсцвеннае», дык трэба так зрабіць, як яно заўсёды робіцца: няхай член сельсавета назначыць фурманку, каму там чарга.

Ганскі пачаў ужо няўпэўнена аглядацца наўкола,— што на гэта скажуць мужчыны? Некаторыя выказалі сваю думку словамі, у іншых яна была напісана на тварах, чакалі ў сваю чаргу, што скажа сам Ганскі. Але тут парафіянам зноў не пашанцавала.

У бога ён не верыў, каробкі не свяціў і, здаецца, чаго яму было ўмешвацца, як думалі некаторыя. Камсамольскі сакратар Сцёпка, шыракаплечы і шыракатвары, як і Грамабой, толькі шмат маладзейшы за яго, выйшаў на сярэдзіну. Сваё падабенства з Грамабоем ён яшчэ павялічыў знарок, ссунуўшы шапку на патыліцу, як рабіў гэта Грамабой, калі пачынаў гаварыць. Некаторыя зарагаталі, але Сцёпка нават не ўсміхнуўся. Не спяшаючыся, вельмі стала і аўтарытэтна ён растлумачыў, што член сельсавета Язэп Ганскі — гэта савецкая ўлада, а поп Ядрыцкі — гэта рэлігія, якая да савецкай улады ніякага дачынення не мае, а якраз наадварот. Што савецкая ўлада клапоціцца, каб лепш жылося рабочым і сялянам, а рэлігія — гэта папоўскія забабоны, каб лепш было гэтых рабочых і сялян абдзіраць.

— А таму,— скончыў Сцёпка,— калі Ганскі назначыць папу чарговую фурманку, дык мы запытаемся, хто яму гэта права даваў і ці на тое мы яго выбіралі, каб ён вазіў на нашым гарбе папоў.

— Дык халера вашу матару бяры! — зазлаваў Грамабой.— Мне нічые ласкі не трэба, я вось буду ехаць на ўсяночную, сваё — на воз ды пасвячу, а вы як хочаце.

На тым разышліся.

Упярэмешку з рэдкімі фурманкамі мігаліся паўз вокны пешыя. Па двое, па чацвёра, найбольш кабеты ды пажылыя мужчыны. У новых кажухах, у суконных фрэнчах, у тарнатовых і ўлачковых хустках, якія завязваюцца раз ці два на год. Моладзі мала відаць было ідучы. Некаторыя, саромеючыся пападацца на вочы камсамольцам, ішлі агародамі.

Цэлы адвячорак камсамольцы былі на нагах. Сцёпка абладжваў сцэну і адначасна спакойна і без мітусні кіраваў усяею работаю. Шура з усяго сяла, па кім бачачы, збірала посцілкі на заслону і патрэбнае адзенне. Якуб крадкам зняў дома са сцяны два абразы, што патрэбны

былі на сцэне па ходу п'есы, і пад крысом прынёс іх у магазін. Камсамольцам памагалі і некамсамольцы, хлопцы і нават дзяўчаты некаторыя. Галаскок Алесь, трасучы чубам, дацямна майстраваў з сякерао на сцэне і наганяў жах на набожных і цікаўных цётак, што заглядалі ў дзверы магазіна.

Людзей назбіралася траха не поўны магазін. Некаторым не хапіла месца на лаўках, і яны стаялі ля сцен бліжэй да сцэны. Дзяўчаты сядзелі адна ў другой на каленях. Сярод моладзі сям-там відаць былі сталейшыя мужчынскія твары і нават некалькі сталых кабет. Аўдоля сядзела з Алеськай на пярэдняй лаўцы і нешта перагаворвалася з Зосяй, якая, «загрыміраваная» ўжо, высунула нос з-за пасцілкі.

Даклад рабіць прыпала Шуры, як найбольш адукаванай. Не прывычная яшчэ да выступленняў перад такім вялікім натоўпам людзей, яна спачатку хвалявалася, думкі блыталіся, ад гэтага хвалявалася яшчэ больш, нават аж у твары мянялася. Нарэшце патроху супакоілася, павяла вачыма па натоўпе, не спыняючыся асобна ні на адным твары, і як бы запанавала над ім. Думкі пацяклі паслушна і роўна, і яна думала толькі пра адно, каб як мага прасцей і ясней выказаць тое, што вычытала ў кнігах, што засталося ў памяці, калі слухала даклады іншых. Гаварыла, што яшчэ за тысячы гадоў да таго, як з'явілася байка пра Хрыста, пра яго смерць і ўваскрошанне, у іншых старажытных народаў таксама былі багі, у кожнага свае. І гэтыя багі таксама паміралі і на трэці дзень аджывалі. Тлумачыла, нашто патрэбны папам вось гэтакія недарэчныя байкі. Расказвала, як праз усе вякі рэлігія памагала тым, хто жывіўся потам і крывёю працоўных; як сваімі байкамі пра страшны суд, пра той свет, пра пекла рэлігія стрымлівала народнае абурэнне, навучала цярпець здзекі, пераносіць пакуты і жыць у галечы дзеля раю на тым свеце. Расказала, як сама царква мела велізарныя багацці і землі, мела нават свае войска і вяла войны. Расказала пра жахі інквізіцыі, якая адмысловым катаваннем замучвала да смерці тысячы людзей, калі быў хоць цень падазронасці, што гэтыя людзі думаюць не так, як навучае царква.

Шчокі яе палалі ад нервовага ўзбуджэння, калені злёгку дрыжалі. Але калі яна, скончыўшы, глянула на залу, то зразумела, што выйшла добра. Яшчэ з некаторых твараў не сышла зацікаўленасць, і яны глядзелі на сцэну, быццам чакалі працягу даклада.

Калі заслона закрылася, з кутка пайшоў да Шуры Сцёпка. Белая, прывязаная ніткай, пяньковая барада і самаробак-парык з чорнага конскага хваста не вельмі пасавалі сваім колерам, але адмысловая рыза з рабой посцілкі і зроблены з лучыны, абкручаны алавянаю папераю, крыж выразна сведчылі, што гэта не хто іншы, як поп, а прывязаная пад рызай падушка была яскравым довадам яго прагнасці і дармаедства.

— Ну і дала ж ты дыхту нашаму брату! Аж я ўжо хацеў выходзіць ды перад народам ад свайго духоўнага звання адракацца,— жартаваў Сцёпка.— Ідзі прыбірайся, будзем пачынаць, а то і «Хрыстос васкрэсе» хутка запяюць, а мы ўсё будзем кешкацца.

...Ужо наперакор мацеры пабралася дачка-бязбожніца з камсамольцам. Перацягнула ўжо старая папу (Сцёпку) усё сваё палатно і скаромнае, каб ён сваімі малітвамі вярнуў ёй дачку-грэшніцу. Ужо нарыхтаваўся камсамолец выкрыць папа-шкодніка, які схаваў у склепе царкоўнае золата, але...

Па зале прабег трывожны шэпт. Людзі пачалі баязліва аглядацца на дзверы. Даляталі на сцэну асобныя трывожныя, але незразумелыя яшчэ цалкам, словы:

— ...Уладзік...

— ...бомбу...

На сцэну з залы ўскочыў Якуб і ўстрывожана зашаптаў у конскі хвост — Сцёпку на вуха:

— Кажуць, Уладзік Каржакевіч каля магазіна. Хоча бомбу ў магазін кінуць, толькі баіцца, каб Наталькі тут не было.

— Хто яго бачыў?

— Не ведаю.

Раптам у дзверы знадворку нешта ўляцела і моцна грукнула аб падлогу. Страшэнны крык і прарэзлівы жахлівы віск жанчын у зале быў на гэта адказам. Алеська ашчарэпіла Аўдолю за шыю і калацілася, як у ліхаманцы. Юзік, стаўшы на лаўцы пасярод зала, стараўся супакоіць перапужаных людзей.

— Гадаўё, урэзалі-такі штуку! — скрыгануў зубамі Сцёпка і, сарваўшы з сябе «рызу», якая блыталася каля ног, схапіў уцінак дошкі.

З разгону ўскочыў на сцэну Галаскок, схапіў у кутку сякеру, якую пакінуў тут на змярканні, і пачаў церабіць елкі, што стаялі ля паповай хаты і павінны былі азначаць прысады.

— Хлопцы, у руж'ё! — крыкнуў ён, адсякаючы дручкі.

Праз хвіліну чалавек шэсць узброеных хто чым папала стуліліся паабапал дзвярэй. Трымаючы ў адной руцэ сякеру, Галаскок расчыніў дзверы насцеж і адскочыў убок. У той жа момант нешта круглае гухнула аб падлогу і пакацілася пад лаўку. Віск і крык яшчэ страшнейшы, як першы раз, разлёгся па зале. Людзі лезлі на лаўку, прабавалі бегчы паверсі, уцякаючы ад страшнага месца, і валіліся другім на плечы, на галовы, Юзік, ухапіўшы з-пад лаўкі кінуты камень, узняў яго ўгору і стараўся перакрычаць натоўп, каб супакоіць яго.

— Ура! — услед за Сцёпкам хлопцы з дручкамі рынуліся на двор.

Зразу ў цемры нельга было нічога разгледзець, а калі праз хвіліну вочы прывыклі, відаць было, як ад бульбяных ям цераз поле да гумён беглі, прыгнуўшыся, дзве постаці.

— Дзяржы іх! — крыкнуў Галаскок і кінуўся за імі, але праз пяць крокаў зачапіўся за мяжу і выцягнуўся поперак загона. Яго абагнаў Сцёпка з дошкаю ў руках. Пяньковая барада яго недзе ўжо адарвалася, але парык трымаўся на галаве. Валасня навісала на вочы і засланяла сцежку, а ён усё не дагадваўся яго сарваць.

— Стой, халера, не ўцячэш! — крыкнуў ён, паддаючы ходу, і адлегласць паміж ім і постацямі відавочна змяншалася. Не адстаючы ад яго, моцна сапучы яму ў правае вуха, бег Юзік.

Ужо відаць было, як задняя постаць, прыпадаючы на адну нагу, бярэ на ўсе жылы. Ужо чуваць было, што сапе чалавек цяжка, як кавальскі мех, і паветра з шумам і свістам вырываецца з лёгкіх.

— Стой! — крыкнуў Сцёпка, траха не наступаючы таму на пяты, і ва ўсю шырыню дошкі пацягнуў яго па плячах.

Той паляцеў потырч, і Сцёпка, не стрымаўшы імпэту, упаў на яго і моцна ўхапіў за рукі, заламаўшы іх назад.

Юзік шыбануў дручком на таго, што бег уперадзе: залавіў, мусіць, па нагах, бо той скапыціўся, але ўтрымаўся на нагах і праз момант кульнуўся цераз плот на прыгуменне.

— Дайце мне яго! — падбег з сякераю Галаскок.

— Пачакай,— узяў яго Юзік за руку.

— Братачкі, даруйце! Гэта мы пажартавалі,— прасіўся той, што ляжаў пад Сцёпкам.

— А, папаўся, Міколка, сукін сын! — пазнаў Галаскок па голасе Грамабоевага Міколу.

Пад моцным канвоем дручкоў павялі Міколу назад у магазін.

З магазіна, напружаная здарэннем, большасць людзей ужо разышлася. Толькі чалавек з дваццаць чакалі вынікаў пагоні. Мікола ўвайшоў і спусціў у падлогу абадраны аб зямлю нос. Папрабаваў усміхнуцца, але ўсмешка выйшла фальшывая. Варожая маўклівасць натоўпу была на яе адказам.

— Вось, таварышы,— пачаў спакойна-ўрачыстым голасам Сцёпка,— гэта той самы класавы вораг, пра якога сёння казала Шура, што ён абараняе папоў, а папы яго. Папытайцеся ў яго, нашто яму трэба было якраз сёння сарваць наш спектакль. Але тут і пытацца шмат не трэба. Вы яго добра ведаеце, ведаеце, чый ён сынок і чым ён дыша.

— Гад печаны! Дзяўчына счарнела з крыку, каб ты дзень і ноч крычаў — не сціхаў. Цьфу! — вось табе мая суседская пашана,— плюнула Аўдоля хулігану ў твар.— Няхай толькі што з дзяўчынаю станецца, табе яшчэ не гэта будзе,— пагразіла яна кулаком.

Грамабойчык моўчкі абцёрся рукавом.

— Кажы, хто другі з табою быў? — звярнуўся да яго Сцёпка.

— Сяргей Сураўцоў.

— А, сябры даўнейшыя, разам у лесе туляліся. А хто чутку пусціў пра Уладзіка?

— Не ведаю.

— Не ведаеш ты... У міліцыю б вас, хуліганаў.

— Даруйце, браткі! Мы проста жартуючы, дзяўчат папужаць хацелі,— прасіўся зноў Мікола, не выклікаючы ні ў кім спачування.

Перад адыходам Сцёпка падышоў да Сураўцовага Міхася:

— А з табою нам прыйдзецца на ячэйцы пагаварыць,— сказаў ён упаўголаса, але важка.— Не верыцца нешта мне, каб ты пра гэту штуку нічога не ведаў.

Той насупіўся, зачырванеўся і мармытнуў нешта невыразнае.

## XVI

Пачынаючы ўжо з паловы сакавіка, кожную раніцу аж разлягаўся жаваранак, упарта напамінаючы, што вясна такі — вось яна. А там і кнігаўкі, і гусі, і жоравы — усе

б'юць у адно. І пачалі мядзведзіцкія гаспадары жмурыць вочы і задзіраць бароды на сонца: як яно, сур'ёзна ўзялося, ці прабуе толькі? Белая зімовая вопратка зямлі падралася перш за ўсё на ўзгорках, як тая старая світка на локцях, а потым стала разлазіцца ўсё больш і больш, і пачала зямля адаграваць пад сонцам свае голыя, скарчанелыя за зіму бакі. Руплівыя гаспадары пачалі аглядацца ўжо каля снасці, каля вупражы: збіраюцца па тры, па чатыры ля кузні: таму колы перацягнуць трэба, таму нарог падвастрыць. Ад цямна да цямна ў кузні вясёлы звон на ўсё сяло. Лукаш Суравец (Сяргееў бацька) не крыўдзіцца на тое, што ў яго ў кузні работы шмат. Цяпер яго пара. То скардзіцца, бывае, што нядуж стаў, рукі млеюць, а цяпер, калі ён і спіць, здаецца,— звоніць і звоніць. Сухі, чорны, а цягавіты.

Стары Верамейчык каторы дзень паглядае ўжо на свой плуг. Пастаіць, за ручкі возьме, паставіць, зноў паложыць набок, бараду пачухае, пойдзе. Нарог тупы і паліца прашаравалася — латаць трэба, ды дорага бярэ Лукаш. Адзін каваль на ўсё сяло: што хоча, тое і лупіць. Прыйдзецца нейкага рубля ці збожжа пуд выкінуць. Шкада, ды нічога не зробіш. Але чакае стары, пакуль Юзік пра гэта скажа. Тады і пакрычаць можна на Юзіка, што дабра не шануе, раскідае дарэмна, дзе папала, быццам лёгка яно прыходзіцца. А пакрычаўшы, стары ўсё роўна аддасць пуд, але тады на сэрцы неяк лягчэй: не ён, галоўнае, тут вінават.

А Юзік нешта вялы ходзіць ды задуманы. І чаго здаецца, яму тут вельмі думаць? Ён жа ніякі не камісар, каб яго галава пра гэта балела. Няхай бы тут Наркамзем і разбіраўся. Дык не, думаецца. Ды каб жа толькі пра сябе, а то пра іншых, пра Аўдолю, пра Рыгора, пра Грамабоя. А падумае пра іх, дык і Марціна Шнаркевіча ўспамяне. Урэзаліся Марцінавы словы Юзіку ў памяць. З тае пары дык і ўся гэта справа з пасёлкамі неяк не то што абрыдла, але як бы пацьмянела, стала нецікавай, нават прыкрай. Калі быў сход, на якім зноў (каторы раз ужо) гаварылі пра гэтыя пасёлкі, дык і не пайшоў нават, каб не выбралі зноў у якую-небудзь камісію ці дэлегацыю. Дачуўся назаўтра, што на сходзе пастанавілі пісаць заяву ў земаддзел пра Бугайнік і Заброддзе, а пакуль не дадуць ім гэтай зямлі, на пасёлкі не выходзіць. Заяву складаў Алесь Галаскок і прыносіў паказваць Юзіку. Яна была мала абдуманая і трохі разухабістая, як Алесеў характар, але

там разбяруць, чаго трэба Мядзведзічам, і нешта ж такі вырашаць. А яму ўсё думаецца невядома чаго.

Юзіку пра чужыя гаспадаркі клопат, а Craft Яначку пра сваю — большы. Калі зімою часта турбавала яго гэта думка, дык ён стараўся адагнаць: «Ат, неяк жа яно будзе. Вясна яшчэ далёка». А цяпер прыперла Яначку вясна — ніяк не выкруцішся. Трэба нешта рабіць — альбо сёе, альбо тое. Выйдзе Яначка на вуліцу (на вольным паветры лягчэй дыхаецца і думаецца), задзярэ бародку ўгору, аж зубы свае дробныя авечыя шчэрыць на сонца. Цёпла, самы раз бы ў кажушку на прызбе пасядзець. Згледзіць Яначка на вуліцы гурму дзяцей (са школы ідуць, ці што?) і не сядзе на прызбе (няхай на іх звод, дражніцца яшчэ будуць) — возьме ды пойдзе ў хлеў, нібы за патрэбаю, пакуль пяройдуць. Адчыніць вароты — сівы адным вокам аглядаецца, вушы траха столі кранаюць, гною вазоў з пятнаццаць настаяў. Радавацца б тут Яначку, але як падумае, што ўвесь гэты гной прыйдзецца яму сахаром уздзерці ды на воз перакідаць, страх бярэ. Не сіла яго на гэту работу: ногі дрыжаць, рукі млеюць і кашаль забівае, жыць не дае. А яшчэ ж як уздумае: увесь яравы палетак прыйдзецца пераараць, цэлую вясну тузацца з плугам, крычаць на ўсё поле, праклінаючы страшнымі кленічамі не вінаватага ні ў чым сівага, садзіцца ў баразне і па паўгадзіны заходзіцца ў сутаргах, пакуль адляжа кашаль. Няма каму ні падмяніць, ні памагчы, а жыць трэба. Хоць бы не слепата гэта Марысьчына! А то прыйдзецца бульбу садзіць, і таго не можа: там густа ў баразну накідае, а там лапіны голыя.

Выйдзе Яначка з хлява — і сонца, здаецца, пахмурнела, і певень знарок дражніць Яначку, дзеручы горла і выхваляючыся: вось які я фарсісты ды забіяцкі, як мне весела жыць на свеце і як мяне кахае вось гэта чарада курэй!

Возьме Яначка пакалак: «Кыш, каб вы павыдыхалі! Пазбіраліся, навалач!» — і ляцяць ад Яначкавага пошвырку ўрассыпную куры і парасяты. Сам ідзе ў хату, лезе на печ і лажыцца плячыма на чарэнь — там не так дапякае яму вясна з сваім клопатам.

Глядзіць Грамабой, як нудзіцца Яначка... Глядзіць, але як быццам нічога не бачыць і не ведае. Сустрэнецца, дзень добры дасць, пра надвор'е пагаворыць,— морда лагодная такая. Няхай панудзіцца Яначка, лягчэй тады Грамабою будзе ўзяць яго сваімі заграбастымі рукамі. Не так трапятацца будзе.

Надышла, нарэшце, такая пара, што самы раз з Яначкам гаварыць: дзень святы — Вялікдзень і сяўба на носе. Паслалі дзяўчо:

— Тата і мама прасілі, каб вы з цёткаю да нас прыйшлі.

— Хто ж у вас ёсць?

— Нікога няма, адно нашы.

Нешта ж нейкае. Ніколі раней Грамабой не запрашаў Яначку ў госці, хіба ўжо банкет які. Ці не гаварыць, пра што думае?

— Добра, зараз прыйдзем.

— Ты ж глядзі, Яначка,— просіць Марыська, калі зачыніліся за дзяўчынаю дзверы.— Можа, што пра зямлю гаварыць будзе ці пра што, дык не ашукайся, глядзі, каб чаго кепскага не выйшла!

— Хаця ты мяне наўчы! — агрызаецца Яначка, а самому боязна. Ведае, што прыйдзецца пра гэта гаварыць. Сам пачне, калі што якое. Калі не паможа, дык хоць параіць, можа, што, брат жа ўсё-такі.

У Грамабоя было, як той казаў, і паранага, і варанага, і так кускамі, ■ над усім красавалася бутэлька першакусамагону.

Лыкнуў Яначка чарку і аж вочы вырачыў з непрывычкі, дух заняло, насілу адхліпнуў. Марыська аж напужалася, не дабачыўшы: ёй здалося, што ён зусім заходзіцца.

— Але ж ты, Яначка, як малы. Няхай жа ж бы ты памаленьку, дык ён куляе налапам,— упікнула яна.

Хацеў Яначка са злосці адказаць ёй, ды яшчэ слова не мог выгаварыць. А тут Грамабоіха ноздры растапырыла, рот шырокі ў ветлівую ўсмешку крывіць.

— Нічога. Закусі вазьмі, дык яно і пройдзе. Бяры цяляціну ці кумпяка прабуй.

— Ну як, дзядзька? Нішто мацак удаўся? — ржэ Мікола.

— Гэта вось малады майстар рабіў,— наставіў ён палец сабе ў грудзі.

А Яначку нібы жыгалам прапякло наскрозь. Ад сярэдзіны пачало цяпло па жылах расцякацца, пачало абмякаць цела.

Слабы ён на выпіўку. У галаве ад першай чаркі лёгкі туман. І лёгка стала гаварыць пра тое, пра што раней ніяк не мог загаварыць, не ведаў, з чаго пачаць.

— ...Каму ж я паскарджуся больш, як не табе? Няма ж у мяне на свеце больш нікога ні роднага, ні блізкага. Скрыўдзіў нас бог: здароўе ў мяне адабраў, ёй вочы засла-

ніў. І людзі нас пакінулі. Хоць ты пакаціся, нікому ніякага дзела да цябе. Вось хоць бы падатак гэты... Прасіў жа колькі разоў: «Язэпка, такі ж ты там у сельсавеце, закінь слова, можа, што скінуць на наша калецтва». Абяцаў... Абяцанка-цацанка, як той казаў, а тым часам падатак аддай... Два ж едакі ўсяго лічыцца. А таго не ведаюць, што толькі едакі, а не работнікі. Проста скажу табе, як брату роднаму: ну не сіла мая. Крапіўся, крапіўся, ды годзе сказаў. Парай, што рабіць, памажы...

— Сам я колькі разоў гаварыў,— гудзе Грамабой.— Вось няхай яна скажа. «Шкада, кажу, Янкі. Біўся, біўся, ды з сілы выбіўся. Трэба, кажу, памагчы, бо ніхто ж чужы не паможа». Дык каб жа ведаў, што ў чалавека наўме. Хочаш яму як найлепей зрабіць, а ён падумае, што на яго дабро квапішся. А цяпер, калі да ўзгавору прыйшлося, я табе хачу параіць, як роднаму. Праўду кажаш, што не сіла твая, сам бачу. Дык нашто табе канечне ўжо так мучыцца? Або мне, гледзячы на цябе? Ты думаеш, маё сэрца не баліць па табе? Або думаеш, што ў мяне хлеба на вас дваіх не хопіць? Колькі там чалавеку трэба — абы не галодны ды не голы. А з работнікамі ў нас не бяда. Сам я, дзякаваць богу, яшчэ ў сіле. Дзеці падрастаюць. Вось і Паўліку гэта ж ужо семнаццаты год, работнік — чаго ты хочаш? Міколу сёлета ажэнім — яшчэ работнік прыбавіцца. Не выскаляйся, годзе табе па ігрышчах ды па вяселлях лётаць, пара за розум брацца. А свае сілы не хопіць, людзі памогуць. Людзі мяне яшчэ, дзякаваць богу, не цураюцца, хоць таварышам гэта і не ў нос. Конь твой не кепскі, дарма што невялікі. З нашым у пару дык ім жа гэту зямлю ўрабіць — пусцяковіна. А баранаваць і жаробку будзем запрагаць, няхай прывыкае. Карова будзе з нашымі пасвіцца, гэта не тое, патом, што ў гурце. Падатак — гэта мой ужо клопат. А рабіць — я ж цябе прымушаць не буду. Зробіш што, твая ласка, не зробіш, без цябе ўправімся. Тое самае і Марыся. А жыць: хочаш — да мяне пераходзь, не хочаш — жыві ў сваёй хаце. Можа, у мяне цесна будзе. Я ж кажу, поўную андынару даю табе. А можа, я раней памру за цябе, дык вось жа Мікола застанецца. Калі ён не згодзен з бацькам, няхай цяпер у вочы кажа.

— Не бойся, дзядзька, так зажывём, адно дзяржыся! Будзеш сам за старога каля дому тупаць, а мы, маладзейшыя, будзем рабіць,— падбадзёрыў Мікола.

Уцяміла, нарэшце, Марыська, куды яно хіліцца. І рукі закалаціліся, і яда тая ў рот не лезе.

— Дык як жа гэта яно, Ціхонка, будзе? Гэта ж, мусіць, і конік будзе ўжо не мой і кароўка будзе не мая?

— Як на мой розум, дык што там лічыцца — маё ці тваё. Свае людзі, памірымся. Вось таварышы ў камуну хочуць сагнаць, а мы возьмем ды сваю камуну зробім. А ўрэшце, як сабе хочаце. Я ж вас сілаю не цягну. Я хацеў, каб яно для вас лепш было. Кажыце, калі што якое, тут жа саромецца няма чаго.

— А слухай ты, што дурная баба пляце! — насілу варочае языком Яначка.— Я табе брат ці не?

— Брат.

— Ну і ты мне брат. Свая справа, свая і рада. Што мы з табою скажам, тое і будзе, ніхто тут не паправіць.

— Вось я пра гэта і кажу. Не трэба сюды чужых людзей мяшаць. Не трэба нават, каб хто вельмі ведаў. У людзей языкі доўгія: скажуць — Яначка зямлі адрокся. У фонд зямлю забяруць. А хлеба ж табе фонд не дасць. Гаспадарка як лічылася твая, дык няхай і лічыцца, а мы сабе будзем жыць як адна сям'я.

Не слухаюць Яначкі ногі, адна за адну чапляюцца, за зямлю грабуць, выкрутасы вырабляюць. Галава на вялай шыі матляецца. У Міколы на руцэ абвіс Яначка.

— Кажы... дзядзька я табе ці не?

— Уга! Дзіва што дзядзька! Яшчэ і які! — кпіць Мікола.

— Не... брэшаш... Бацька я табе, во хто... Няма ў мяне сына... І дачкі няма... Бог не даў мне... Кошка сляпая не прывяла. Ты мой сын... Памру я... Памру я ці не?

— Пажывеш яшчэ, дзядзька. Памерці заўсёды паспееш.

— Брэшаш... памру... Табе застанецца... Конь табе... Кароўка табе... Хатка табе... Гуменца табе... Зямелька табе... Сын жа ты мой! А ты мяне пахаваеш... Хо-ораша пахавай... Я абы-як не хачу...

Аберуч ашчарэпіла Марыська канёву шыю. З конскаю грываю пераплялiся яе распушчаныя пасівелыя валасы. Поўную волю дала слязам і свайму незвычайнаму маладому голасу. Людзі, ідучы па вуліцы, прыпыняюцца. Аж сцішна робіцца, як па нябожчыку галосіць Марыська, прыказваючы:

— А мой коні-і-к, а мой сі-вы-ы. А чаму ж на-а-ас разлучы-лі? А ці мы ж цябе-е-э-э пра-да-лі-ы? А ці мы ж цябе-э-э прапі-лі-ы-ы? А мы ж цябе-э-э нізавошта аддалі-ы-ы. А ўцеха ж ма-я-а-а-а апошняя-я-а-а. А і тую ж ад мяне-э-э ада-бра-лі-ы-ы.

Балуецца сівы, ласкава глэмзае мяккімі губамі Марыську за плячо. І ад гэтай яго ласкі яшчэ горшы жаль апаноўвае Марыську.

## XVII

Зося апалола адзін бок грады і ўстала, каб трохі выпрастаць стан і ногі, стомленыя ад доўгай седні ў разоры. Асцярожна, адваротным бокам далоні, каб не папэцкаць пальцамі твару, яна запраўляла пад хустку бялявую пасму валасоў і ўжо хацела заходзіць на другі бок грады, як з-за садка паказалася Шура і накіравалася проста да яе.

Шура была заклапочаная і ўстрывожаная.

— Я да цябе на параду,— сказала яна, не прывітаўшыся нават.— Давай сядзем.

Шурына трывога адразу перадалася Зосі. Моўчкі ўслед за Шурай яна села на ўзмежку каля шчыкет, чакаючы, што тая ёй скажа.

— Шкада дзяўчыны, гатова прапасці... Каб хоць параіцца з кім спрактыкаваным, дык і гаварыць абы-каму пра гэта няма як. Можа, ты мне што параіш.

— Якая дзяўчына? Я ж нічога не ведаю.

— Волька Баранкова загрубела. Ужо чацвёрты месяц.

— Што ты кажаш! — здзівілася Зося.— Вот дзятва! А мне ж і няўцям. Гуляюць-гуляюць, мала што...

— Дык ніхто ж не ведаў, нават і маці яшчэ нічога не ведае. Гэта мне таварышка яе Наста пад вялікім сакрэтам са страху сёння сказала. Баіцца, каб што з Волькаю не сталася. Тая прасіла, адыходзячы, калі што якое, каб мне сказалі.

— А што з ёю можа стацца? Куды яна пайшла?

— Дзіця хоча скінуць. Дык — ці гэта ж не дурная? — да Піперманіхі пайшла. Хацела, каб як сваім спосабам. Зёлкі нейкія піла, падымала цяжкае, але нічога не выйшла. А гэты дурань пусціў яе да Піперманіхі. Яшчэ і камсамолец!

— Ведаеш, у мяне дык аж сэрца калоціцца, гэтак мне яе шкада. Я па сабе ведаю, як гэта кепска без дапамогі. Але ж я хоць не баялася нікога і не саромелася. Што ж гэта цяпер рабіць?

— Запозна я даведалася,— пашкадавала Шура.— Ужо з гадзіну, як пайшла. Каб гэта я раней уведала, усё роўна ж бы не пусціла, пастрашыла б, што ўсім скажу, угавары-

ла б, каб да доктара ішла. А цяпер хоць бы даведацца, як яна там маецца.

— Можа, мне схадзіць? — спытала Зося.

— Не, табе не выпадае; падумае, што ўжо ўсё сяло ведае, перапалохаецца ды яшчэ горш гатова быць... Я думаю, няхай сам гэты смаркаты бацька ідзе. Нарабіў бяды дзяўчыне, дык цяпер няма чаго туляцца. Трэ было б яго сюды паклікаць. Мне самой да яго ісці не хочацца.

— Пачакай, я хлопца папрашу,— устала Зося.— Пі-ліп! — гукнула яна праз шчыкеты ў садок.— Падыдзі сюды.

Хлопец уваткнуў рыдлёўку ў зямлю і падышоў да шчыкет — белагаловы і без шапкі.

— Збегай ты, братка, да Курыльчыка. Скажы, каб Якуб сюды прыйшоў,— папрасіла Зося.

— Чаму няма. Юзік сказаў, каб яблыню абкапаў. А я тады не скончу да полудня,— запрацівіўся той.

— Дармо, я табе памагу, калі не скончыш. Збегай, братка, гэта ж блізенька.

— Скажы, што яго Сцёпка клікаў. Але няхай ён раней сюды зойдзе, я яму нешта скажу,— дадала Шура.

Якуб падышоў невясёлы і збянтэжаны. Адразу па твары было відаць, што сам ён тут, а думкі недзе ў другім месцы.

— Сядай, Якубе, з намі,— запрасіла Зося.

— Чаму няма. Кажы, што ты хацела, ды я пайду. Сцёпка чакае,— звярнуўся ён да Шуры.

— Сцёпка не чакае. Гэта я падманула, каб ты хаця прыйшоў.

— Нашто я табе?

— Каб сказаць, што ты сволач,— глянула яна яму проста ў вочы.

— Лаецца чорт ведае чаго,— адвярнуўся Якуб.

— Не віляй, ведаеш чаго. Дзяўчына праз цябе гіне, а ты ў халадку аціраешся! Ты думаеш, ніхто ўжо і не ведае?

Якуб зразу пачырванеў аж да вушэй і дробна заморгаў вачыма.

— А яшчэ і камсамолец! Як табе не сорам! Да душа-губкі да гэтай дзяўчыну паслаў, доктара знайшоў! — сарамаціла яго Шура.

— А што ж мне было рабіць? Да доктара пасаромелася ісці, языкоў пабаялася.

— Мусіць, не так яна, як ты. Чаго ж ёй саромецца? Яна ж твая жонка.

— Скажы гэта пайдзі майму бацьку.

— А ты бацькі спужаўся, дык няхай дзяўчына гіне праз цябе. Можа, памірае там дзе.

Якуб памаўчаў, прыпёршыся да шчыкет:

— А мне, думаеш... не шкада? — насілу выгаварыў ён праз плач.

— Пайшоў бы вось даведаўся лепш, што меў плакаць тут стоячы,— мякчэй ужо сказала Шура.

— Але, варта б схадзіць,— падтрымала яе Зося.

Якуб адышоўся ад шчыкет і панура пайшоў па сцежцы на поплаў. Што далей, ён усё прыбаўляў кроку, а выйшаўшы на поплаў, подбегам пусціўся паўз агароды на другі канец вёскі, дзе жыла Піперманіха. Падбегшы да дзвярэй, ён націснуў на клямку. Дзверы былі замкнёны. Пастукаў кулаком у дзверы — з сярэдзіны не чуваць было ні гуку. Гэта ў дзесяць разоў павялічвала яго трывогу і нецярплівасць. Ён схапіў калодку, што стаяла ля вушака, і грымнуў ёю ў дзверы. Замок адскочыў, дзверы расчыніліся насцеж, а за імі, растапырыўшы рукі, стаяла Піперманіха — буйная, сівая, у шэрай паркалёвай, старамоднага крою сукенцы.

— Не мошна! Не мошна! — старалася яна затрымаць Якуба. Ад вялікага хвалявання мяшала словы — беларускія, рускія, нямецкія.

Не слухаючы, Якуб адштурхнуў яе локцем і ўбег у хату.

— Сволач, падавай сюды Вольку! — крыкнуў ён, не заўважыўшы ў першую хвіліну нікога ў хаце.

На палу пад лахманамі нешта заварушылася. Якуб адным махам змахнуў лахманы і зморшчыўся, нібы ад вялікага болю ці ад яркага святла. Выцягнуўшыся на ўвесь рост, ляжала Волька. Шчокі яе ліхаманкава гарэлі, і губы пасмаглі.

— Якубка, ратуй як можаш. Крывёю сплыла,— прагаварыла яна.

— Ты пачакай, пакрапіся, я зараз,— сказаў ён, сам яшчэ не ведаючы, што ён зараз зробіць. Пастаяўшы яшчэ хвіліну, спужаны і збянтэжаны, ён ірвануўся з хаты. Бег, не зважаючы на тое, што людзі спыняюцца і здзіўлена глядзяць яму ўслед.

Зося з Шураю, яшчэ здалёк згледзеўшы, як бяжыць Якуб, пазналі, што з Волькаю нядобра. Чакалі моўчкі, не спускаючы вачэй з Якуба, які з поплаву звярнуў ужо на сцежку.

— У бальніцу!.. У бальніцу хутчэй! — крыкнуў ён, засопшыся на бягу.

— Што? Што там такое? — усхапіліся абедзве разам.

— Памірае,— выгаварыў Якуб, цяжка сапучы.

— Дык чаму ж ты каня не запрагаеш? Мы ж яе на руках не панясём. Кіжлай ты няшчасны! — крыкнула Шура на Якуба, сама ўжо ледзь не плачучы.

— Не дасць бацька каня,— нібы сам сабе сказаў Якуб, спахмурнеўшы.— Вазьму. Усё роўна вазьму! Сілаю адбяру, калі не будзе даваць,— усё больш узбуджаючыся, цвёрда сказаў ён.

— А ну вас к чорту! — са злосцю крыкнула Шура.— Пакуль вы там будзеце тузацца, дзяўчына памерці гатова. Зося, можа, ваш конь дома? Папрасі Юзіка, няхай запражэ.

— Няма, Юзік скародзіць паехаў.

— Што ж нам рабіць?

— Вось што я думаю... Аўдоля з паўгадзіны таму ехала з поля. Збегаю я да яе, яна павінна паслухаць.

І Зося подбегам падалася да Аўдолінай хаты, абціраючы на хаду рукі аб спадніцу.

— Ты яе бачыў? Што з ёю робіцца? — спыталася Шура, застаўшыся з Якубам.

— Бачыў. Памірае. Ратунку просіць,— адказаў Якуб вінавата і жаласна.

Стрымліваючы абурэнне, Шура адвярнулася.

Праз хвілін колькі на вуліцы загрукалі колы і сціхлі каля Верамейчыкавай брамы.

— Гэй, дзе ты там, дзіця горкае?! — гукнула Аўдоля, ідучы па надворку з пугай у руках.

На яе голас з-за садка выйшлі Шура з Якубам.

— Гэта ж каб цябе, сукінага сына, адхвастаў вось гэтай пугай, дык бы ты ведаў другі раз,— хвасянула Аўдоля яго па лытках.— Садзіся, паедзем. Адна ж я не вынесу яе,— сказала яна, падыходзячы да вымашчанага саломаю воза.

Везла Аўдоля Вольку па загуменню, накрыўшы коўдраю, а твар прыкрыла хусткаю, зняўшы яе з свае галавы. Сама яна спрытна ліпела на біле драбінак і па раўнейшай дарозе старанна падганяла свайго мышастага. Калі хто пытаўся, куды яна едзе, адказвала, што дзяўчына нешта моцна захварэла, да доктара вязе.

Памеркаваўшы, Зося з Шураю ўгаварыліся, што Вольчынай мацеры пра ўсё раскажа Зося: яна сталейшая, і, можа, ёй лягчэй будзе да тае падступіцца.

Застала Зося старую за кроснамі:

— Дзе ж гэта ваша Волька, што вы самі кросны тчаце?

— Паляцела недзе.— У голасе старой не чуваць было ніякай трывогі.— Думаеш, ёй кросны наўме? Ці цяперсе пайшла, дык і няма. Можа, ты на сяле яе дзе бачыла?

— Гэта ж я, цётачка, знарок папыталася, думала, можа, вы што ведаеце. Да Піперманіхі ж ваша Волька пайшла.

— Ці не ашалела ты, Зоська?! Што гэта ты хлябешчаш! Чаго ж яна не бачыла ў Піперманіхі? — вырачылася на Зосю старая, гатовая кіпцюрамі абараняць гонар свае дачкі.

— Грубая ж была ваша Волька.

— Што ты пляцеш!.. Вочы ж мае яшчэ не павылазілі. Няўжо ж бы я не бачыла?!

— Не злуйце, цётачка. Гэтага ўсё роўна ўжо не вернеш. Трэба падумаць...

— Калі ж гэта, барані божачка, ды праўда,— перабіла яе старая,— дык няхай яна лепш і не вернецца. Я ж яе, гадаўку, і ў хату не пушчу. Выганю, як суку, няхай ідзе куды хоча,— вар'явалася старая.

— Не кляніце, цётка, яе. Яна і так, небарака, пакутуе.

— Дык чаго ж ты цягнеш душу з мяне? Кажы мне ўсё, каб я ведала,— напала старая на Зосю.

— Я ж, цётачка, за тым і прыйшла, ды не адважуся, бо ведаю, як гэта матцы цяжка. Вашу ж Вольку ў бальніцу павезлі,— выгаварыла, нарэшце, Зося самае галоўнае.

Твар старой перакрывіла сутарга. Яна заламала рукі за галаву і прыпала тварам на прысесць. Яе худыя плечы з вытарклымі лапаткамі затрэсліся ад нячутнага плачу, а пасля жудасная песня-галашэнне напоўніла хату.

Зося сядзела, злажыўшы рукі на каленях, і моўчкі спачувала, чакаючы, пакуль у старой спадзе першая хваля гора. Праз некалькі хвілін старая падняла галаву:

— Хто ж яе павёз, Зоська? — спытала яна, выціраючы фартухом вочы.

— Аўдоля павезла на сваім кані.

— А маё дзіцятка, пакутніца мая, хаця ж бы яе адратавалі. А я ж са злосці гэтак дурна скляла яе,— ціха бедавала яна.— Пайду я, Зоська,— устала старая, памаўчаўшы.— Не магу я, не ўцерплю. На свае вочы хачу ўсё бачыць. А ты, родненькая, пабудзь трошкі ў нас. Зараз павінен мой вярнуцца, дык скажы, што мы з Волькаю ў Дымаўку пайшлі, калі вернемся — не ведаеш. Калі

ёй лепш будзе, дык я, можа, яшчэ нанач і дадому прыйду, сама яму ўсё раскажу.

Яна зноў старанна выцерла слёзы, каб не кідаліся ў вочы цікаўным людзям, апранулася і выйшла, яшчэ раз папрасіўшы Зосю, каб тая нічога не казала «яму».

## XVIII

Чаму Мядзведзічам канечне прыспела святкаваць Барыса і Глеба, ніхто б гэтага на ўсім сяле не сказаў. Якое, скажам, дачыненне меў князёк Барыс да царкоўнага саветніка Васіля Крываношкі, які так услугоўвае папу, носячы збан са «святою» вадою, у якую поп мачае крапіла? Альбо якім прыцелепкам прыходзіцца князь Глеб сляпой Марысьцы, што нарыхтавала ўжо булку хлеба і кусок кужалю, якога хапіла б «велікамучаніку» на добрыя штаны? Не цікавіліся ніколі гэтым у Мядзведзічах. Усе цяперашнія мядзведзіцкія людзі памятаюць толькі, што іх бацькі таксама святкавалі гэта свята і ніколі не казалі ім, адкуль яно ўзялося. І святкуюць гэта свята Мядзведзічы не абы-як — гэта ў іх гадавое свята. Царквы ў Мядзведзічах няма, толькі на могілках ёсць невялікая, струхлелая ўжо, капліччка, дзе поп і адпраўляе кожны год малебен па «ўбіенным». Аднак пакуль дойдзе да капліччкі, ён абыдзе ўсе хаты з малітваю і абразом «велікамучанікаў», беручы ў кожнай хаце пэўную «мзду».

Але ўчора, калі зайшла гутарка пра тое, ці патрэбна сёлета запрашаць у сяло Барыса з Глебам ды іх упаўнаважанага па справах папа Ядрыцкага, дык некаторыя, нават і не бязбожнікі, здаецца, запыталіся, а ці не можна абысціся без гэтага. Выказалі нават жаданне, каб хто хоць расказаў, што гэта за Барыс такі і якое ён мае поўнае права ацірацца ў Мядзведзічах кожны год. Царкоўны саветнік Крываношка нічога пра гэта не ведаў і нічым не мог давесці правы велікамучаніка Барыса. Ён азіраўся збянтэжана па баках, ці не паможа яму хто. Выйшла так, што найбольш дасведчаным у гэтай справе быў усё той самы Сцёпка, камсамольскі сакратар. Перад святам ён знарок прачытаў гісторыю пра Барыса з Глебам і цяпер ахвотна падручыўся выратаваць Крываношку з бяды.

— Гадоў каля тысячы таму назад,— пачаў ён жарцікамі,— калі, мусіць, і дзеда Крываношкі яшчэ на свеце не было, панавалі князі. Займаліся яны толькі тым, што ваявалі адзін з другім і адбіралі адзін у другога зямлю.

Зямля ім патрэбна была не на тое, каб яе ўрабляць, а на тое, каб аграбляць, бо на зямлі жылі людзі, з якіх гэтыя князі бралі даніну для сябе і свайго войска. Чым больш зямлі каторы князь награбе, тым больш людзей на ёй, а чым больш людзей, тым больш даніны ён з іх дзярэ. А плодныя ж яны былі, як трусы! Вось у аднаго князя было аж цэлых дванаццаць сыноў. Дачок дык ён і не лічыў. Як памёр той князь, дык і ўзяліся тыя сыны за чубкі, усё роўна, як у нас Тамаш Кірык з Тодарам Поштай. Такая каша выйшла, што сам чорт нагу зломіць. Умяшаліся ў гэту кашу і гэтыя самыя Барыс з Глебам, якіх вы заўтра думаеце да сябе запрашаць. А старэйшы брат Святаполк быў дзёрзкі, не раўнуючы, як наш Грамабой. Ён іх і прыстукнуў абодвух. Вось папы і залічылі іх у штаты святых. Папам, вядома,— чым больш святых, тым больш прыбытку. А прасцей кажучы, выйшла гэта так: разбойнікі награбілі дабра ды пабіліся, дзелячы. А мы вось і святкуем забітых грабежнікаў ды плацім за гэта даніну жывому грабежніку — папу, бо вядома — ці хто родзіцца, ці ўмірае, поп нікога не мінае — падай госпадзі!

Сцёпкава апавяданне спадабалася і падмацавала тых, што не хацелі фэсту, але былі і такія, якіх Сцёпка не пераканаў, а толькі раздражніў. Уперліся яны, намагліся-такі запрасіць папа з абразом. А каб поп не блытаўся, не ведаючы, у якую хату заходзіць, а якую мінаць, угаварыліся, каб кожны, хто хоча ў сябе бачыць Барыса з Глебам, паставіў каля свае хаты саламяную вяху — пучок саломы на высокай палцы.

Абраз прымацаваны да знарочыстых насілак з чатырма канцамі і чатырма кароценькімі ножкамі пад імі. Пачынаючы з аднаго канца вёскі, яго праносілі па ўсёй вёсцы, заносячы на кожны двор. Насільшчыкі заставаліся на двары, а поп з дзяком і саветнікам заходзілі ў хату. За абразом услед ішоў стракаты натоўп мужчын, кабет, моладзі, а найбольш дзятвы. Пасярод вуліцы ехалі фурманкі, на якія ссыпалі збожжа і складалі печаны хлеб. Палатно вешалі проста на абраз, на стрэшку, пад якой сядзелі святыя ўгоднікі. Абраз неслі ўчацвярых. У кожнай хаце, куды заходзіў поп, павінны былі даваць чалавека, які пераносіў абраз праз некалькі хат. Ад навешанага на абраз палатна ён рабіўся страшэнна цяжкім, і пранасіць цэлы дзень без змены яго было немагчыма. Выконвалі гэту работу звычайна дзяўчаты. Некалі дык проста за гонар лічылі далей пранесці абраз.

Сягоння поп Ядрыцкі быў не ў гуморы. Рудога воласу, прысадзісты, кароткашыі, ён ішоў, насупіўшыся, уперадзе стракатага натоўпу і касавурыўся на бакі. За ім ледзь паспяваў рыжабароды заморак-дзячок. Уваходзячы ў хату, поп яшчэ з-за парога пачынаў малітву, прысвечаную Барысу і Глебу. Не то гаварыў, не то пеў яе, але лапатаў так хутка і невыразна, што нельга было разабраць ні слова. Дзячок стараўся падцягнуць яму, але ніяк не мог прыладзіцца да паповых тэмпаў і толькі падвываў, беручы то вышэйшыя, то ніжэйшыя ноты і нават не прабуючы выгаворваць якія-небудзь словы. Увесь надворны выгляд папа казаў: «Вам, свалачам, лепш і не варта маліцца, і гэта аж занадта».

Прычыны паповай злосці відаць былі ўсім. Далёка не ля кожных варот стаяла вяха, якая азначала, што папа тут чакаюць. Часамі прыходзілася прамінаць па тры, па чатыры хаты.

Айцец Ядрыцкі палагаднеў толькі тады, калі зайшоў на полудзень да царкоўнага саветніка. Спасылаючыся на вяселле ў Кане Галілейскай, дзе сам Хрыстос старанна апаражняў «сасуды», ён таксама добрасумленна куляў кожны паднесены яму «сасуд». «Сасуд», праўда, быў мо крыху меншы за Хрыстоў, але што да мацунку, дык тут Крываношка мог смела ручацца, што Хрысту такога градуса і нюхаць не даводзілася.

У Мядзведзічах было сёння трохі чужога народу з суседніх вёсак. Гэта найбольш былі браты, сваты, швагры, зяці і іншыя катэгорыі сваяцтва. Шмат якія з іх былі такія аматары, што смела пра сябе маглі сказаць: дзе фэст, там і ■ ест. Ды ўсіх цікавіла не так набажэнства, як тое, што бывае пасля набажэнства,— добрая пачостка ў сваякоў. Былі яшчэ і ніякія не сваякі. Гэта хлопцы і дзяўчаты з блізкіх сёл, якія прыйшлі па сваіх інтымных справах — людзей паглядзець і сябе паказаць,— а ну ж трапіцца неблагое знаёмства, а там і пажаніхацца не штука. Старэйшыя сядзелі на мураве ў халадку пад кучаравымі бярозамі і шумлівымі хвоямі. Маладзейшым не сядзелася. Хадзілі па вёсцы дзяўчаты цэлымі ланцугамі, пабраўшыся за рукі,— наіўна-фанабэрыстыя і баязліва-гарэзныя. Выдыгалі каля іх хлопцы — у картовых пакамечаных галіфэ, у тоўстых саматканых суконных фрэнчах з шасцьма кішэнямі; некаторыя з чубамі, як у Алеся Галаскока.

Мікола Грамабойчык вадзіў пад руку Жагулаву Маньку. У Мядзведзічах такога «панскага» звычаю не было. Міколу з Манькаю доўга праводзілі вачыма, а пасля

хіхікалі і кпілі. Самому Міколу з непрывычкі нязручна было хадзіць. Ён не патрапляў з ёю ў нагу, не ведаў, дзе яму дзець другую руку, а тая, якою ён трымаў пад самай пахай Маньку, была мокрая ад Маньчынага поту. Сустракаючыся з знаёмымі хлопцамі, ён падморгваў і канфузліва ўсміхаўся. Але Манька была шляхтаватага заводу, і Мікола хацеў паказаць сябе перад ёю далікатным кавалерам. А яна перавальвалася з нагі на нагу, як адкормленая гусь. Ружовая, відаць, дарагая, але няўдала пашытая сукенка непрыемна абліпала гладкі азадак. Раз-поразу яна смяялася і кожны раз закрывала рот хустачкаю, саромеючыся паказаць няроўныя і шырокія, быццам конскія, зубы.

Даўно ўжо гаварылі, што Мікола з Манькаю хочуць пабрацца і што гэта патрэбна не так ім самім, як іх бацькам. Мікола, відаць па ўсім, не вельмі быў закаханы ў Маньку — непаваротлівую і цельпукаватую. А ёй зноў не гонар было, што ідзе за «простага мужыка». Але Жагулу паганяць панства цяпер не было куды: баяўся, што зямлю ў яго калі-небудзь ды адбяруць, чуў, як гэта ў іншых месцах робіцца. Надумаўся — няхай лепш зяцю і дачцэ застанецца, што мелі раскашавацца на маім добрым беспарточнікі. А Грамабою якраз гэта і трэба было. Тую зямлю, што ў яго цяпер ёсць, ён меркаваў пакінуць малодшаму сыну, а Міколу выселіць «на пасёлак» на жагулаўшчыну. «Чорт яго бяры, мажа, яшчэ не адбяруць. А будуць адбіраць, тады будзем бачыць»,— разважаў Грамабой. Казалі нават, што і пра вяселле і пра пасаг ужо згаварыліся, але бацькі адлажылі вяселле на восень, нібы для таго, каб Мікола з Манькаю больш пазнаёміліся і прывыклі адно да другога. А напраўду, дык быццам Жагула чакаў яшчэ, ці не будзе якой перамены. Казалі яшчэ, што разоў колькі зямельнае начальства ў Жагулы балявала і што Жагула спадзяецца такую паперу дастаць, што яго не наважыцца ніхто і пальцам крануць. Тады на чорта яму будзе і Грамабойчык. А Грамабою карцела, каб хутчэй, і Мікола цяпер асабліва налягаў на Маньчыны дзявочыя пачуцці.

Волька першы раз сёння паказалася на вуліцы пасля хваробы. Ужо тыдні са два, як яна ўстала з пасцелі, хадзіла дома па хаце, выходзіла і на двор, але яшчэ на людзі не паказвалася — больш ад сораму, як ад нядужасці. Перад тым як сёння выйсці на вуліцу, яна доўга прычэсвала валасы, папраўляла колькі разоў сукенку, якая за хваробу шмат параскашнела, і колькі разоў глядзелася ў люстэрка — намагалася ўспомніць, як яна выглядала да хваробы,

ці шмат змянілася. Думала, як сёння ўсе будуць глядзець на яе і дзівіцца, што так паблажэла. Маці таксама трывожылася за дачку, але старалася не выказваць гэтага.

— Ды ідзі ты ўжо, ідзі. Будзе табе выглядацца,— супакойліва гаварыла яна.

Нарэшце Шура ледзь не сілаю выцягнула Вольку з хаты.

Сядзела Волька на прызбе ля свае хаты, накінуўшы на плечы квяцістую хустку (здавалася, што не так будуць пранізваць позіркі людскіх вачэй). Твар яе пабялеў, больш завастрыўся. Сінякі пад вачыма рабілі яго кволым і хваравітым. Яна хуталася ў хустку і тулілася бліжэй да Шуры кожны раз, калі па вуліцы набліжаліся мядзведзіцкія хлопцы ці дзяўчаты.

Волька з Шураю пасябравалі за час Вольчынай хваробы. Раней яны не былі блізкімі таварышкамі. Шура мела Вольку за простую, шчырую і добрую дзяўчыну, але не знаходзіла таго агульнага, што магло б іх пасябраваць. Кола тых інтарэсаў, якімі жыла Шура, для Волькі было чужое і малацікавае. Волька ж па прастаце сваёй думала пра Шуру, што тая дурыцца: з камсамольцамі сябруе, справы нібы там нейкія робіць, каб паказаць — што то я, не такая, як усе,— і таму Волька трошкі іранічна ставілася да Шуры. Але за час Вольчынай хваробы гэтыя іх адносіны грунтоўна змяніліся. Шура разумела ўвесь цяжар Вольчынага становішча. Яна бачыла, што фізічная пакута ў Волькі ў некалькі разоў павялічваецца яе маральнымі мукамі. Шура бачыла, што, апрача Зосі, Аўдолі ды яшчэ вельмі мала каго, мядзведзіцкія не даруюць Вольцы такога ўчынку, будуць перамываць языкамі на розныя спосабы, разнясуць славу на пяць міль кругом. Самае лепшае для Волькі — прыняць выклік, не хавацца, а проста глянуць у вочы вясковай грамадскай думцы, стаць вышэй усялякіх гаворак. Але Шура ведала, што сама Волька зрабіць гэтага не здолее, не знойдзе ў сабе тых довадаў, якія б апраўдалі яе перш за ўсё перад ёю самою, а тым самым і перад усёй вёскай. Вольцы патрэбна была моцная апора, а гэтай апоры яна не мела нават у сваёй сям'і. Маці і тая не знайшла ў сабе досыць сілы, каб апраўдаць дачку. Пакуль Волька была моцна хворая, матчын клопат быў толькі пра адно — хаця б яна ачуняла. А калі Волька пачала папраўляцца, старая ўсё больш задумвалася, глядзела на яе, як бы ўзважваючы ўвесь цяжар Вольчынага ўчынку. За гэтай заклапочанай задуменнасцю адчувалася матчына крыўда, якая недзе глыбока захавана, але пасля

некалі выйдзе наверх. Волька гэта бачыла і горш яшчэ мучылася. Шура бачыла, што нікому, як ёй, прыйдзецца Вольцы дапамагаць. Яна нават крышачку ганарылася гэтым, як выдатны доктар, якому выпала лячыць цяжкахворага: іншыя дактары не маглі яму даць рады, а ён адзін упэўнен, што з хваробаю справіцца.

Моцна ўхапілася Волька за Шурыну дапамогу. Гэта чарнявая, шчуплая, малодшая за Вольку на два гады дзяўчынка значна вырасла ў яе вачах, стала для яе як бы старэйшаю сястрою і моцнаю апораю. Волька, яшчэ не ўразумеўшы ўсяго таго, што ёй гаварыла Шура, адчувала, што ў Шуры ёсць нейкая свая асаблівая праўда, якою яна зможа засланіць Вольку ад людскіх насмешак і пагарды. Седзячы на прызбе, Волька з радасцю думала пра тое, што ёй не так сорам, як яна таго баялася, што калі яе не цураецца перад людзьмі такая дзяўчына, як Шура, дык, можа, яна і сапраўды нічога надта кепскага не зрабіла, можа, пройдзе некалькі дзён, і яна ўжо смела будзе глядзець людзям у вочы.

Падышоў Якуб — вінаваты і радасны. Ад таго, як бачыў Вольку ў Піперманіхі, ён яшчэ ні разу з ёю не сустракаўся, толькі разы два бачыў праз акно, праходзячы па вуліцы. Цяпер не ведаў, ці няма ў яе крыўды на яго. Колькі разоў ён хацеў зайсці даведацца да Баранковых, але Шура адгаварыла, баючыся, каб не выйшла сваркі з Вольчынымі бацькамі, якая б яшчэ больш знервавала Вольку. Маці Вольчына ўсё яшчэ ніяк не магла яму дараваць.

Калі Якуб падаў Вольцы руку, яна трохі засмучана яму ўсміхнулася і не спяшалася адняць назад свае рукі. Ён сеў і ад вялікага шкадавання і любасці да яе не ведаў, з чаго пачаць гаворку. Глядзеў ёй у твар, ціха і вінавата ўсміхаючыся.

Не паспеў поп пасля полудня абысці і пяці хат, як у тым канцы, з якога пачыналі рана насіць абраз, паваліў чорны густы дым. У гэтым канцы нельга было здалёк разабраць, дзе гарыць — у вёсцы ці за вёскаю. Зазванілі ў чыгунную плітку, падвешаную каля пажарнай павеці. Праз хвіліну, стоячы ў перадку, імчаўся Юзік Верамейчык з новенькаю пажарнаю машынаю, якая рэзала вочы яскравасцю чырвонай фарбы і бляскам начышчаных масянджовых частак. Ззаду, насцёбваючы каня, намагаўся дагнаць яго з бочкаю Алесь Галаскок. Людзі беглі з вёдрамі,

з трывожнымі выкрыкамі і здагадкамі, дзе гарыць. Двое прабеглі з бусакамі, у некаторых былі рыдлёўкі, а найбольш беглі так, з голымі рукамі. Дзе-нідзе бабы прабавалі галасіць.

Ад папа раптам усе адшунулі і рынуліся на пажар. Пакінуты абраз стаяў пасярод вуліцы белай палатнянаю гарою, і здавалася, што Барыс і Глеб аж увагнуліся пад цяжарам награбленага імі палатна і ніяк не могуць скрануць яго з месца. Поп стаяў каля абраза і то глядзеў у той бок, куды бег народ, то шукаў вачыма, каго б паклікаць сабе на дапамогу ды занесці абраз хоць у двор. Заморакдзячок сеў на прызбу і, здавалася, рад быў адпачынку.

Дабегшы ў канец вёскі, пярэднія ўбачылі, што гарыць за вёскай пад самым лесам. Некаторыя варочаліся вясёлаўзбуджаныя пасля пераж ытага страху, угаворвалі варочацца тых, што яшчэ не дабеглі ў канец. Іншыя пайшлі паглядзець, што гарыць.

А там, ля вялікага лаўжа, зложанага з сухога пырніку, галля і сырых хваёвых лапак, упраўлялася пажарная каманда: заўзята пампавалі ўчатырох, а Галаскок накіроўваў напорны струмень вады ў найбольш зыркія языкі полымя, час-часом адвільваючы і, нібы незнарок, абліваючы вадою тых, хто трапляў у сферу яго дзеяння.

— Каб не пагарэлі,— адказваў ён на іх лаянку.

Агонь патроху згасаў, і ад вогнішча ўзнімаліся белыя клубкі пары і дыму. Пажарнікі бусакамі чаплялі буйнейшыя галавешкі, расцягвалі ў бакі, а там іх засыпалі зямлёй тыя, што прыйшлі з рыдлёўкамі.

Мужчыны, што падышлі з вёдрамі да вогнішча, раззлаваныя, што гэтулькі перапуду нарабілі на ўсю вёску, гатовы былі даць дыхту вінаватаму. На запытанне, хто устроіў такую штуку, пажарнікі адказвалі, што, мусіць, пастушкі, каровы пасучы, гэта зрабілі. Сцёпка ўсміхаўся сам сабе, а Галаскок ужо трос сваім чубам перад мужчынамі:

— Ну як, хутка выехалі на трывогу? За пяць хвілін як перуном спалілі. А помпа, бачыш, як дае! На самы вяршок гэтай хвоі дастае.

У натоўпе чуліся галасы, што гэта няйначай пажарнікі самі так зрабілі для практыкі ці камсамольцы падстроілі, каб дапячы папу.

Яно траха што так і было. Паўгода ваявалі камсамольцы на сходах, каб дабіцца ад старых гаспадароў самааблажэння на пажарны інвентар, і толькі вясною, калі ў суседняй вёсцы згарэла хата і два хлявы, гаспадары

трохі раскашэліліся. Сабралі з усяе вёскі дзвесце пяцьдзесят рублёў, а рэшту камсамольцы сабралі, паставіўшы два платныя спектаклі і запрасіўшы для большага поспеху аркестр мястэчковай пажарнай каманды. Пажарную машыну і бочкі толькі на тым тыдні прывезлі. Яны яшчэ ні разу не былі ў рабоце, і сёння брандмайстар Алесь Галаскок прыйшоў да Сцёпкі з прапановай наладзіць пробную трывогу, каб праверыць, як хутка збяруцца пажарнікі, і каб паказаць сваім і чужым людзям свае дасягненні ў выглядзе новенькай помпы і пары чырвоных бочак. Ён загадзя цешыўся думкаю, уяўляючы, як ён хвацка паедзе па вуліцы, ведучы ўсю пажарную каманду. Пра тое, каб зрабіць прыкрасць папу, ён нават і не думаў, гэта яно само так выйшла.

Рыхтаваўся апошні акт мядзведзіцкага набажэнства. Прынеслі доўгую і тоўстую дошку, палажылі яе канцамі на шулы над весніцамі ў канцы вёскі і прыбілі цвікамі. Царкоўны саветнік сядзеў ужо вярхом на дошцы і чакаў сабе напарніка. Тыя гады з імі трымаў абраз Мікола Наздрэйка, але сёлета ён ад гэтага гонару адмовіўся. Патрэбен быў дужы мужчына, які мог бы ўтрымаць абраз на дошцы. Замяніць Наздрэйку, нарэшце, згадзіўся Мікола Грамабойчык. Прыставілі да дошкі драбіны і падалі знізу абраз, апрастаны ўжо ад палатнянай гары. Крываношка і Грамабойчык моцна ўзялі яго за ручкі і, лепш усеўшыся на дошцы вярхом, сашчапілі пад ёю ногі.

Поп стаяў ля шула і нарыхтаваў крапіла. Чарада авец, прыпёртая ззаду ўзбуджаным натоўпам, збілася ў кучу перад весніцамі і не хацела скрануцца з месца. Нарэшце пастух сплёў за воўну вялікую сівую авечку і павёў яе ў весніцы. За ёю, пужліва азіраючыся і ціснучыся адно да другога, пайшла ўся чарада. Выпушчаная з рук пастуха сівая падскочыла ў весніцах ледзь не да самых Крываношкавых ног і рванула па вуліцы. За ёю рынулася ў весніцы ўся чарада, і кожная лічыла сваім абавязкам падскочыць не ніжэй за пярэднюю. Малых ягнят збівалі з ног, яны паадбіваліся ад матак і жаласна бляялі. Поп спяшаўся махаць крапілам, каб хоць на дзесятую трапіла капля «святой» вады.

За авечкамі пагналі кароў. Першым, пагардліва адвесіўшы падгруднік, прайшоў Каржакевічаў рыжы бугай. Калі поп марсьکануў крапілам, ён толькі трохі прыплюшчыў вочы і скрывіў кароткую галаву. Далей, растрывожаная і знерваваная, пайшла ўся чарада. У весніцах збіліся ў кучу, падганялі адна адну, прыпіралі да плота

і шулаў, ад чаго пакрыўджаныя нема раўлі, а на баках у іх заставаліся доўгія пісагі, з якіх выступала кроў. Шулы дрыжалі, дошка трэслася, Крываношку і Грамабойчыку пагражала небяспека зляцець разам з святымі ўгоднікамі на спіны і на рогі чарады.

Калі праз весніцы праходзілі апошнія жывёлы, найбольш нядужыя, а таму і спакайнейшыя, да папа падышоў Андрэй Каржакевіч — у суконным крамным палітончыку, з прыгладжанымі па-святочнаму вусамі.

— Змарыліся, айцец Палікарп? — угодліва запытаўся.

— Адчуваецца, Андрэй Ануфрэевіч. Дзянёк цяпер — дзякаваць богу, і спёка стаіць. Вось, можа, бог малітву пачуе, дожджыку ці не пашле.

— Проша да мяне на хвіліну. Адпачняце, падмацуецеся.

— Нам пара б і дадому... Як вы, айцец дыякан? — звярнуўся поп да дзячка.

— Заедзем памаленьку, айцец Палікарп,— адказаў той, і гэты сціплы адказ азначаў: «Брэшаш, баця. Не зможаш ты адмовіцца ад такой благадаці. Не такі ты дурны, як прыкідваешся».

Відаць было, што ў Каржакевіча гэта была чысцейшая палавіна. Варыстай печы не было, у кутку стаяла выбеленая мелам «галанка». Пад вокнамі і на вокнах стаялі фікусы, мірты і бальзаміны. Ля глухой сцяны стаяў новы, не памаляваны яшчэ, ложак. На ім — засланая саматканаю коўдраю пасцель з пірамідай падушак. Побач — памаляваны на зялёнае і акаваны жалезам вялікі куфар.

Каржакевіч дастаў з шафы і паставіў на стол бутэльку падсаладжанай вішнёвым сокам гарэлкі і бутэльку віна. Каржакевічыха, носячы цераз сенцы з другой хаты, пачала ўстаўляць стол закускай. Наталля, малодшая Андрэева сястра, паставіла перад кожным па чарцы, прынесла па талерцы і па нажу з відэльцамі.

Каржакевічавы вочы весела бегалі, пераскакваючы з сястры на папа, быццам хацелі пахваліцца: «Глядзіце, як мы разумеем абыходжанне!» Аднак ні сама Каржакевічыха, ні Наталля за стол не селі і талерак на іх долю на стале не было.

— А што ж гаспадыня пагарджае намі? — запытаўся поп.

— А не зважайце, яна яшчэ занята. Пакуль уходзіцца...— адказаў Каржакевіч.

— Што добрае на свеце чуваць, айцец Палікарп? — запытаўся Каржакевіч, калі ўжо выпілі па другой.

— Ды як табе сказаць, Андрэй Ануфрэевіч,— адказаў поп, пражоўваючы цяляціну,— усялякае чуваць. Ды бог літасцівы, не папусціць нас у крыўду антыхрысту. Вось, на бога народ стаў забывацца, ад царквы адбівацца. Камсамол-багахульнік кашчунствуе, над верай Хрыстовай насміхаецца, сану духоўнага не паважае, усёй моладзі дрэнны прыклад падае. Вось і ў вас сёння мне прыкрасць учынілі, хай пакарае іх бог. Але павінен вам сказаць, што ёсць з'явы і адваротнага парадку. Праўда, не шмат іх, але вельмі характэрныя і знамянальныя. Ёсць такія людзі, што спачатку паддаліся д'ябальскаму навучанню, і пасля паглядзелі, што бог голадам, вайной міжусобнай карае народ, і вярнуліся зноў ва ўлонне святой царквы. У маёй парафіі чалавек пяць ёсць такіх. Людзі простыя, але працавітыя, гаспадарлівыя і разумныя. Я пра іх цяпер асабліва і клапачуся. Кожны з іх для мяне — гэта блудны сын, які памёр і аджыў, прапаў і знайшоўся,— як жа мне не радавацца і не весяліцца?

Каржакевіч адчуваў, што гэтыя словы поп прыстасоўвае больш да яго, як да каго іншага. Сам Каржакевіч быў не дурны. Пацёршыся трохі каля вясковай інтэлігенцыі яшчэ да рэвалюцыі, ён злавіў некалькі антырэлігійных выказванняў і довадаў, якія капельку пахіснулі яго веру ў бога. Антырэлігійная агітацыя пасля рэвалюцыі значна паглыбіла гэту работу. У часы, калі яго асабліва часта турбавалі праз Уладзіка, ён хацеў падкрэсліць сваю лаяльнасць да савецкай улады і, калі ў яго радзіўся першы сын, не панёс яго хрысціць. Але Каржакевіч тут зразу адчуў, што зрабіў нешта неўласцівае яму і яго стану. Яго знаёмыя, людзі аднаго з ім грамадскага стану, іранічна глядзелі на яго такі ўчынак і нават часамі злёгку кпілі: «Ці не ў камсамол ты думаеш падацца?» Калі ДПУ трохі забылася пра яго, дык ён рашыў, што яму выстаўляць сябе бязбожнікам зусім не да твару, і, калі праз два гады пасля першага нарадзілася ў яго другое дзіця, запрасіў да сябе папа і перахрысціў разам абое. Вось якраз гэты выпадак і падобны да яго поп Ядрыцкі меў на ўвазе, гаворачы пра людзей, што вярнуліся ва ўлонне царквы.

— Святая праўда, айцец Палікарп,— сказаў Каржакевіч.— Сам жа я, як вам вядома, гэта на сабе паспытаў. А вось ці не чулі, што заграніцаю пра нас гавораць? Ці не думаюць умяшацца ў нашы справы іншыя дзяржавы?

— Ды заграніцай, ведаеце, галовы — не нашым раўня. Наскрозь бачаць, што ў нас робіцца. Бачаць і вывады робяць. Кроў людскую праліваць і траціцца на вайну ім

цяпер няма патрэбы, яны і так могуць зрабіць што захочуць. Бачаць — паскакалі, пагулялі таварышы ды назад. У пустым шынку без грошай не вельмі разгуляешся, як гаворыць народ. Заводы і фабрыкі забралі, а пусціць і не могуць: і казна пустая, і спецыялістаў няма. Вось і прыходзіцца кланяцца той жа заграніцы, каб памагла. А заграніца памагчы можа, хопіць у яе, ды толькі наладзь парадак такі, каб можна было справы весці. Вось і гандаль, вось і канцэсіі замежныя, вось і заводы пачалі ў арэнду здаваць. А тым часам, што бальшавікі ступяць крок назад, то яно і лягчэй народу дыхаецца. Цяпер і мужычкоў, глядзі, не так прыціскаюць, як з развёрсткай бывала. Вось толькі і надзея наша на тое, што яно перамелецца — мука будзе, іначай кажучы, будзе такі лад, як і ў іншых культурных дзяржавах. А так хоць ты і на свеце не жыві, даруй, божа, цяжкі грэх.

— Дай жа божа! Я бо гляджу — не можа быць, каб яны самі па добрай волі такую палёгку далі людзям. Каторы год і прадаць і купіць можна. А ў гарадах, кажуць, што тавару ў магазінах! Як да вайны ўсё роўна. Дык гэта заграніца, значыць, націскае... Я думаю, айцец Палікарп,— падаўся Каржакевіч да папа і загаварыў цішэй,— можа, і на зямлю ўласнасць вернецца? Можна будзе самому распарадзіцца ёю як хочаш.

— Бог яго святы ведае. Упартыя антыхрысты,— адказаў поп, страсаючы сырныя крошкі з барады.

— Як жа сам цяпер пажываеш, Андрэй Ануфрэевіч? — запытаўся поп, закусваючы пасля новай чаркі.

— Вашымі малітвамі, айцец Палікарп. Жыву памаленьку. Хваліцца асабліва няма чым, але яшчэ галодныя пакуль што не сядзім. Разгарнуцца ж цяпер, самі ведаеце, вельмі не разгорнешся. То падаткам прыціснуць, кожны, шануючы вас, хвост падлічаць ды запішуць, то самааблажэнне выдумалі нейкае — зноў з нашага брата.

Дзячок, які акуратна выпіваў кожную чарку і старанна закусваў, амаль што не ўмешваючыся ў гутарку, цяпер прыціх зусім і памаленьку торкаў носам над талеркаю.

— Крыўдна, айцец Палікарп,— скардзіўся далей Каржакевіч,— што той самы апошні абадранец у вёсцы гатоў цябе зараз дагнаць. Ход ім даюць. Падатку ён не плаціць, самааблажэння не знае, ільготы ўсялякія — яму. Знарок так палітыку строяць, каб на свой бок перацягнуць, каб у вёсцы паміж сялянамі грызня ішла. Тады ім упраўляцца лягчэй. А то ж каб увесь народ за адно стаяў, дык не вельмі б яны так арудавалі.

— Разумныя твае словы, Андрэй Ануфрэевіч,— згадзіўся поп.

— Ёсць у нас, айцец Палікарп, такія, што ён зроду і гаспадаром не лічыўся, ніколі каровы добрай не меў, а цяпер ён мае на дзвюх дзесяцінах каня ды карову, ды яшчэ цялушку ці другую карову. А я на дваццаці пяці дзесяцінах маю пару коней ды пяць штук гавяд. Ці ж бы ён на сваім гэта пратрымаў? Паша агульная, сенакосу кожны год яму прыразаюць — чаго яму больш трэба?

— Я чуў, на пасёлкі выходзіце?

— Невядома яшчэ. Саўгас зямлі не хоча даць на прырэзкі.

— А табе, я думаю, на хутарок бы лепш за ўсё, Андрэй Ануфрэевіч. Пагляджу я на Жагулу — добра жыве чалавек. Сам сабе гаспадар, ніхто яму не перашкаджае. Сядзіба ў яго — рай зямны.

— Думаў я пра гэта, айцец Палікарп, ды не выходзіць. Жагула таксама — жыве ды аглядаецца. Гэта ў нас яшчэ ціха пакуль што, а па іншых месцах норму пакідаюць, а то адбіраюць зямлю. Вось і ў мяне невялікая лішка ёсць паводле нормы. Пакуль разам у вёсцы, не так у вочы кідаецца, а вылучыся адзін — зразу ўбачаць.

— А на пасёлкі хіба выгадней табе?

— Тут, бачыце, яны за саўгаскую зямлю ўчапіліся, адвярнуў ім бог вочы ад мяне ў другі бок.

— А як з работай? Сваёй сям'ёй упраўляешся?

— Рад бы парабка наняць, дык цяпер жа нельга. Запішы яго ў саюзе ды заплаці, што ён хоча, і ў саюз за яго заплаці. Ды яшчэ эксплуататарам будуць лічыць. Самому прыходзіцца ўпраўляцца. Толькі пастушка трымаю, ды і то асцерагаючыся. На палявую работу — жаць ці там бульбу капаць — падзённа наймаю. А то ўсё самі.

— Так, так... Цяжкія часы паслаў бог,— уздыхнуў поп.— Нічога, Андрэй Ануфрэевіч, не нудзіся. А ну ж ён пачуе нашы малітвы і ўстановіць на зямлі мір і супакой ды ў чэловецэх благоволеніе. Айцец дыякан! А айцец дыякан! Што ты, брат, акунёў вудзіць пачаў? — крануў ён таго за плячо.— Давай памаленечку дамоў будзем брацца. Там адпачнём.

Юзік стаяў у варотах, паўкладаўшы рукі ў кішэні штаноў. Пасля дзённай спёкі прыемна было акунуцца ў змрок шэрай гадзіны і падставіць галаву пад лёгкі ветрык. У хаце было душна і не хацелася туды ісці. Думкі,

не накіраваныя ў пэўную каляіну, беглі самапасам, хутка змянялі адна другую, не ўразаючыся глыбока ў свядомасць. Паміж імі, здавалася, страцілася ўнутраная сувязь, і кожная з іх паасобку выклікалася знадворнымі з'явамі. Загуў жук, з размаху стукнуўся аб шуло і адкінуўся. Недзе далёка ў канцы вёскі хлопцы пад гармонік пелі вясёлыя прыпеўкі. У другім канцы два п'яныя галасы — хто ў лес, хто па дровы — дралі песню:

Я й кра-сіва, я й бядн-а-а,
Я плох-а-а й адзе-та,
Ніхто замуж ні біро-ць
Дзевіцу-у за гэ-та-а...

Выйшла Зося:

— А гэта ж! Я гляджу, дзе ён дзеўся. Пакінуў гасцей у хаце ды ўцёк. Гневацца будуць.

— А ну яго к чорту! Агорк мне сёння гэты пан Хвалідубскі з сваім недарэчным плявузганнем,— адказаў спакойна Юзік.

— Дык канечне табе слухаць, што ён пляце? Ты з Кацярынаю хоць бы пагаварыў, сястра ж такі,— гады ў рады бачыцеся.

Кацярына, старэйшая Юзікава сястра, яшчэ перад вайною зайшла замуж далёка ад Мядзведзіч, у засценак Воўчы Хвост. Гаварылі, што багаты, валоку зямлі мае, адзін сын у бацькі. А ён — маленькі, нехлямяжы, толькі нос той гарбаты, як склюд. Адно лгаць ды хваліцца здало. Ды і салгаць гладка не патрапіць. Як загаворыцца, дык такога навярзе, аж вушы вянуць. Юзік яго цярпець не мог і нават крыўдаваў трохі на сястру, што яна, паслухаўшы бацькі ды пагнаўшыся на хвалёнае багацце, удружыла яму такога швагра. А яна як быццам нічога. Не то прывыкла, не то абцярпелася,— ніколі не скардзілася бацькам на сваё жыццё. Сама апусцілася трохі і стала куды больш скупою і зайздроснаю, чым была дзяўчынаю. Бацькаў характар і бацькава выхаванне для Юзіка тут былі відавочны. Прыехала сёння з малым дзіцём. Пялёнкі тыя — з радна, што мяшкі шыюць, чорныя, аж пакарэлі. Пачне грудзей даваць дзіцяці — кашуля з суравога дрэнна выбеленага палатна, грубая і, здаецца, не зусім чыстая. Прыкра Юзіку і крыўдна: няўжо яна не знайшла б кусок мяккага кужалю на пялёнкі дзіцяці? Ёсць жа ў яе, толькі шкадуе, у паклад складае.

А пан Хвалідубскі ходзіць па хаце, рукі назад залажыўшы. Сіняя шляхоцкая шапачка на патыліцу ссунута, чупрына рудая злямчаная на лоб звісла:

— Кулак, кажуць на мяне нашы засцянкоўцы. Чорт вас бяры, кажу: хоць гаршком заві, адно ў печ не стаўляй. У кулаку, кажу, можа, што-небудзь затрымаецца, а растапырыш пальцы — усё рассыплецца, між пальцаў паплыве. Я, кажу, усіх вас мог бы купіць разам з вашымі патрахамі. Дык не любяць. А ў мяне, вядома, гаспадарка — дзякаваць богу. Дык ім коле ў вока. Гэта ж у мяне адзін жарабец, дык я б на ўсе іх коні не памяняў. Карціна проста! Вашаму пану Гняцецкаму наўрад ці даводзілася ездзіць на такіх. Ці паверыце — удвух на кантары не ўтрымаць.

— Вось ужо і схлусіў! — не сцярпела Кацярына.— Ат, нішто сабе жарабя, дагледжанае, дык і выгляд мае. А то ўжо ўдвух не ўтрымаць.

— А што, забылася, як ён быў раз панёс мяне?

— Альбо ж шмат трэба, каб цябе панесці? А вось я вазьму выведу, завяду і нічагусенька.

— Ат, што з табою гаварыць! Ты заўсёды мне напоперак,— махнуў ён рукою, зазлаваўшы, што не дала схлусіць.

Успаміналася ўсё гэта Юзіку і не хацелася ісці з чыстага паветра ў духату ды садзіцца за стол з непрыемным для яго чалавекам.

— Ну хадзем, хадзем,— узяла яго Зося за плечы,— вячэру ўжо на стол паставілі, не будуць жа чакаць на цябе аднаго.

— Вячэрайце, я не хачу.

— Яшчэ што выдумай! — яна, дурэючы, павярнула яго і, упіраючыся рукамі ў плечы, пхнула да дзвярэй.

## XIX

Нібы сотні схаваных у траве конікаў, застукалі ў дварах малаткі касцоў. У парожніх яшчэ адрынах і гумнах гаспадарыла рэха, падхапляла гэты заклапочана-паспешны стукат, трансфармавала на тысячу адценняў, запаўняла ружовую раніцу. Скакалі заўзята кляўцы па бабках, адцягваючы вострыя языкі кос. Надышоў той першы дзень касьбы, пасля якога так смыляць далоні, раніцою назаўтра ў плячах «сядзіць мядзведзь», а ў паясніцы нібы завесы заржавелі — не разагнуцца. Але пацягнешся моцна, да хрусту касцей, лінеш на твар халоднай вады, пройдзеш разы два па хаце — і сціхне патроху нудны боль у плячах і паясніцы, застаецца ў цягліцах толькі нешта такое пругкае і гужаватае. І, здаецца, падужэў удвайне пасля

ўчарашняга, і ў плячах пашырэў, і на зямлі стаіш мацней. Рукі страцілі меру націску, і, беручы далікатную рэч, баішся, каб не раздушыць.

Храбусцела пад тапаром тонкая паплеціна — на тычкі. Набіралі ля калодзежа халодную ваду ў глякі і бачуркі — каб хапіла да вечара. Заглядваў сусед да суседа цераз паркан:

— Пайшлі?

— Вось канчаю кляпаць.

Меркавалі мядзведзіцкія сёння Прыдаткі скасіць, а выйшла яно трохі не так.

Павёў Пошта каня на выган. Глянуў і атарапеў. З-за алешніку на Заброддзе выйшла стракатая чарада касцоў. Як маланкі пад яркім сонцам паблісквалі косы. Па сцежцы ад Дымаўкі да сенажаці спяшаліся па адным, па два тыя, што асталіся ад гурту.

— Вось табе і прырэзкі! — услых сказаў Пошта і амаль бягом з аброццю на руцэ пусціўся ў вёску. Бег і аглядаўся на Заброддзе, дзе на фоне цёмнай зелені алешніку і травы бялелі кашулі распраненых ужо касцоў.

— Глянь, Андрэй! Што гэта робіцца?

— Ці ты ж не бачыш? — наўмысне спакойна адказаў Каржакевіч, глянуўшы на Заброддзе.— Косяць людзі.

— Якое ж яны маюць права? Гэта ж, казалі, наша ўжо,— і белыя Поштавы вусы ад узбуджэння натапырыліся больш, як звычайна.

— Вось як скосяць, то будзе і іх. З адрыны ты ў яго не забярэш. Глядзі толькі ды маўчы, дык яны і Прыдаткі скосяць, а не толькі што.

— Дык што ж гэта рабіць будзем?

— Адкуль я ведаю. Мая справа тут дзесятая, не мне з гэтага прырэзкі будуць... У нашым канцы мужчыны праганяць ісці збіраюцца, я чуў, ці што,— як бы між іншым сказаў Каржакевіч, хоць ён сам толькі цяпер убачыў касцоў і ніякай гаворкі пра Заброддзе сёння дагэтуль не чуў.

— Трэба ісці, усім ісці! Даць, каб другі раз не палезлі,— выразна выказаў Пошта Каржакевічаў намёк і шпарка падаўся далей па вуліцы.

— Мужчыны, чаго вы стаіце! Вунь дымаўцы Заброддзе наша косяць,— крычаў ён ужо на сярэдзіне вёскі.

— Што ты кажаш?

— Паглядзіце, калі не верыце. У тым канцы мужчыны ўжо косы пабралі. Кажуць, даць трэба, каб больш не квапіліся.

Выходзілі на агарод, прыкладвалі рукі брылем да вачэй:
— Косяць, сволачы!
— Смаляць проста ад рэчкі ў плот.
— А вунь там мераюць яшчэ.
— У гарод зараз прыйдуць, і маўчы.
— Даць!
— Гнаць к чортавай мацеры!
— Даць!
— Усім ісці, каб ні горшых, ні лепшых не было!
— Даць! Даць! Даць!!!
Забразгаў Галаскок мянташкай аб касу. Падхапілі іншыя. Разлягаецца па вёсцы баявы лёскат.
— Выходзь, каму сена трэба!
— На бурвалку збірацца.
— Не даць сена, хто не пойдзе!
Бушуе натоўп каля Піперманіхі на бурвалку. Грозна мігацяць косы пад ваяўнічыя выкрыкі. Трымціць рыжы Сомік ад злосці, і яго тонкі прарэзлівы голас вылучаецца з глухога гуду:
— Даць!..
— Мужчыны... Муж-чы-ны! Сціхніце трошкі.
— Зноў казань?
— Хачу казань казаць. Можа, вы мяне і паслухаеце.
Цяжка сёння быць спакойным і жартаўлівым камсамольскаму сакратару.
— Чулі!
— Хай гаворыць, мо што і добрае.
— Сып, Сцёпка!
«Толькі каб як найкарацей і наймацней, а то прапала»,— думае Сцёпка.
— Хто хоча бядняцкай крыві, падымі руку! — кінуў ён у натоўп.
На момант запанавала цішыня.
— Вось сказаў!
— Кінь заліваць!
— А чаго іх чорт гоніць на наша?
— Хто вам сказаў, што наша?
— Зараз год, як кажуць, а ты не чуў.
— У саўгасе былі?
— Былі.
— Што там сказалі?
— Фігу выставілі.
— Ото ж. Заяву ў раён падалі?
— Казалі ж, што па заяве за намі засталося.

— Брэшуць, яшчэ невядома.

— Пяць год там вырашаць будуць, а ты чакай.

— Дык трэба падварушыць справу, а не разбоем ісці.

— Пакуль ты падварушышся, дык дымаўцы вунь, глядзі, як варушаць.

— Будзе!

— Злазь з амбоні!

— К чорту!

— Яму сена не трэба, дык ён няхай варушыць языком.

— Ну, кот жа сена не есць.— (Гэта Грамабой наконт таго, што ў Сцёпкі адна карова.)

— Ды сціхніце вы! Паразяўлялі горлы! Не дадуць слова сказаць чалавеку. Вот бо дзе прорва ўжо!

— Сказаў ужо! Досыць!

— Хто на Заброддзе не пойдзе, таму і на Прыдатках не даць: ім не трэба.

Аўдоля круціць папяросу, і рукі яе нервова дрыжаць.

— Мужчыны, дык вы і мне мо загадаеце ісці біцца з дымаўцамі, а іначай на Прыдатках не дасце,— стараецца яна гаварыць спакойна.

— Мы табе гатовенькае на сподку паднясём,— кпіць Грамабой.

— А я ў цябе не пытаюся. Глытун зненавідны! — ускіпела Аўдоля.— Табе тут чаго трэба, каб хто спытаў? Пажыву счуў? Ты хаця Янаўкава з'еш.

— А ты не сунь свайго носа, куды цябе не просяць, бо дастанеш,— пацьмянеў Грамабой.

— Крані толькі, як трымаю касу, дык і ўсаджу ў тваё гэта горла ненаеднае.

— Дзын-дзын-дзын-дзын...— гэта зноў з вясёлым задзёрам Алесь Галаскок мянташкай аб касу.

— Годзе круціць вала за хвост! Пайшлі!

— Падыма-а-йся!

— Ой, глядзіце, мужчыны, дрэнна будзе,— папярэджвае Юзік, стоячы ў сярэдзіне рухавага натоўпу.

— Што, уторы аслабелі? — выскаляецца нахабна Грамабойчык.

— Дзезярцір няшчасны! — абураецца Юзік.— Я не туляўся па лесе, калі трэба было савецкую ўладу абараняць.

— Ну, альбо ідзі, альбо з дарогі саступі. Блытаецца пад нагамі...

Застаўшыся на месцы са жменькай мужчын, Сцёпка нерухома глядзеў услед натоўпу. Ён адчуваў нудлівы боль і злосць — не то на іх, не то на сабе, што не здолеў угаварыць, не дагледзеў, як толькі пачыналася.

Аўдоля апошні раз моцна зацягнулася і далёка адшпурнула акурак:

— Што ж мы будзем тут стаяць? Хадзем на Падгор'е хіба. На Прыдатках сёння работы не будзе, як відаць.

А тыя з грозным бразгатаннем і мігценнем кос ішлі шумліва ўзбуджаныя нацянькі цераз куп'істы выган. Узышоўшы на сенажаць, тралявалі шырокі гасцінец па густой траве проста на дымаўскіх касцоў. Дымаўцы спыніліся ў пракосах, глядзелі, меркавалі: што гэта мае значыць? Дальшыя падыходзілі бліжэй да пярэдніх.

— Калі што якое, касою не рэж, запатылкам бі, а то з вамі бяды яшчэ набярэшся,— перасцерагаў на хаду Сцяпан Варанец.

Дымаўцы яшчэ здалёк пачулі пагрозныя крыкі:

— Вон!

— Вон з нашай сенажаці!

— Гнаць іх у венікі!

Дымаўцы трывожна загаварылі паміж сабою, але біцца, відавочна, не рыхтаваліся. Высокі, русабароды паджылы касец, што ішоў уперадзе, палажыўшы касу на пракос, выйшаў нават крокаў на пяць у траву насустрач мядзведзіцкім.

— Што вы, суседзі, надумалі? Цэлаю вайною на нас ідзяце. Што ж мы, самавольнікі якія, ці што? Мы па закону, сілаю не бяром. Аддаў саўгас на часць, дык мы і косім. А калі тут спрэчка якая з вашага боку, дык мы можам і прыпыніць касьбу на час. Хадзем разам у саўгас, там і дагаворымся.

Мядзведзіцкія спыніліся на момант і панура маўчалі. Больш міралюбівыя гатовы былі ўжо і згадзіцца на прапанову русабародага.

Плячысты дымаўскі дзяцюк, што ішоў у пракосе ўслед за русабародым, уваткнуўшы кассё ў зямлю, дастаў капшук і рыхтаваўся закурыць, думаючы, мусіць, што справа развяжацца мірным спосабам. І тут Пошта папсаваў усю справу. Нават ніхто не чакаў ад яго такога выбрыку.

— На, патрымай,— перадаў ён сваю касу некаму з мужчын.— Я пагляджу, ці гэта каса добра косіць?

Ён узяў дзецюкову касу і, разы тры махнуўшы для прыклепу па траве, з усяе сілы жахнуў яе аб купіну. Каса ў шыйцы хруснула і засталася ў купіне.

— Га... нямоцная,— сказаў Пошта, кінуўшы кассё ў лужыну.

Дзяцюк, доўга не думаючы, схапіў Пошту адной рукой за карак і зырнуў яго носам у лужыну ўслед за кассём.

— Лупі іх! — крыкнуў нехта з мядзведзіцкіх, і нечае кассё пераляцела напалам на плячах дымаўскага дзецюка. Русабароды адступаўся задам, наставіўшы рукі і закрываючы імі галаву ад удараў, аж пакуль не зачапіўся за купіну і не паляцеў дагары. А далей — узлёты кос, узмахі коссяў, урыўкі лаянкі, крыкі — усё змяшалася на момант у крывавую завіруху. Дымаўскія пачалі адыходзіць, адмахваючыся косамі, і, нарэшце, кінуліся бегчы да алешніку. Мядзведзіцкія з пераможным ровам гналіся за імі аж да самых кустоў, падбіваючы, каго маглі дагнаць.

Варочаліся да пракосаў, разагрэтыя бойкай, узбуджаныя выглядам крыві і п'яныя ад перамогі. Але што больш астывалі, то ўсё больш цьмянела задаваленне ад перамогі. Тыя, што атрымалі здачы ад дымаўцаў, адчувалі боль на баках і плячах, у некаторых сінякі былі на тварах.

У свядомасць некаторых ледзь прыкметна пачало пракрадвацца раскаянне і страх, што прыйдзецца адказваць.

На месцы бойкі засталося трое. Адзін дымаўскі, ашаломлены ўдарам па галаве, цяпер толькі ачухаўся. Абапёршыся на локаць, ён мацаў рукою пабітае месца і глядзеў на запэцканыя ў кроў пальцы. Другі скавытаў цягуча і жаласна, седзячы на траве і рытмічна хістаючыся ўзад і ўперад,— ён не знаходзіў месца параненай руцэ. Ніжэй локця вісела шмаццё скрываўленай кашулі і саструганага з касці мяса; жудасна бялела лакцявая косць. Мядзведзіцкім стала ніякава. Адварочваліся, каб не глядзець на параненага.

— Вось брыда нейкая чалавека акалечыла. А казаў жа — асцярожна з косамі,— сказаў Сцяпан Варанец пры агульным маўчанні.

— Чорт яго не возьме, не здохне,— агрызнуўся Сомік.

— Вот азіят! — не сцярпеў нехта.

Сцяпан Варанец падышоў да параненага і, разадраўшы на ім кашулю, пачаў перавязваць.

Над лужынай сядзеў Пятрусь Кухар, набіраў у жменю вады і мачыў нос. Лужына была ўжо чырвоная, а ён усё ніяк не мог суняць крыві, што цурком лілася з разбітага кассём носа. І тое, што якраз з ім, найбольш ціхім, незадзірлівым чалавекам так здарылася, яшчэ больш падкрэслівала ўсю недарэчнасць і прыкрасць таго, што адбылося.

— Ухадзіліся, дык мо цяпер і дадому ўжо можна ісці,— недарэчы пажартаваў нехта.

Абурыліся, зыкнулі на яго, і той паспяшыў знікнуць у натоўпе. Непрыемна было, што ён сваім жартам трапіў

якраз у балючае месца, падкрэсліваючы прыкрасць становішча.

Касілі моўчкі, панура, з рэдкімі перапынкамі для закурвання, з рэдкімі словамі скупой гаворкі. За гадзіны дзве да заходу сонца ўсе сорак пяць дзесяцін Заброддзя ляжалі ў пракосах.

Фурманкі прыехалі ўсе разам. Размяркоўвалі сена на вока, і кожны стараўся мацней утаптаць воз, каб ён выдаваў меншым. Спрачаліся за тое, каму браць на грудку, а каму ў лагчыне. Нахвоствалі пугамі коней, каб паспець другі і трэці раз, і коні выпроствалі спіны і шчоўкалі капытамі, вырываючы іх з вохкае глебы ў лагчынах.

Апошнія вазы забіралі ўжо пры святле месяца. Прыйшлося па тры настрамкі сырой травы на кожнага касца.

А Верамейчыкі праз гэта самае сена ноч сабе растрэслі: калатні была поўна хата. Яшчэ ўдзень нехта сказаў старому, што Юзік на Падгор'і косіць, на сваім, а на Заброддзе не пайшоў. «Усё мудруе, усё яму трэба не так, як людзі робяць! Нейкі воз сена ўтраціў, не дадуць цяпер»,— думаў стары. Аж да самага адвячорка грызла яго гэта адчуванне ўтраты. Цэлы дзень хадзіў ён, не знаходзячы сабе месца. Колькі разоў пачынаў крычаць на нявестку, нават на старую — усё яму было не пад густ. А калі надышоў адвячорак і пасыпаліся фурманкі на Заброддзе, не сцярпеў Верамейчык: ушчаміў кабылу ў аглоблі і па хвасце — услед за людзьмі.

Падоўгу дапытліва спыняюцца на ім вочы аднавяскоўцаў, а ён як быццам і не разумее нічога. «А мо і ўдасца»,— думае сабе.

— Мужчыны, дзе ж мне скажаце браць? — запытаўся ён, пад'ехаўшы да таго месца, дзе распарадкавалі фурманкі.

Галаскок адвярнуўся ў другі бок. Іншыя як бы і не чулі.

— Я пытаюся, мне дзе браць?

— Дзе?..— Сомік назваў тут такое месца, ад якога стары і нос адвярнуў.— Чорт стары, прыехаў на гатовенькае! А як лоб трэ было падстаўляць, дык у кусты.

— А хіба ж гэта Юзік не быў тут?

— Едзь дадому, то лепей будзе. Бач, злосныя сёння ўсе,— параіў яму па-сяброўску Сцяпан Варанец.

— А хто вас тут ведае. Я ж думаў, што Юзік тут касіў,— сказаў Верамейчык, нехаця заварочваючы кабылу.

Пакуль прыехаў Верамейчык дадому, злосці было роўна з берагамі.

— Дзе ж тваё сена? — з'едліва запыталася старая.

— Ідзі ты к чортавай матары ад мяне. Яшчэ яна мне лезе ў вочы! — наваліўся на яе Верамейчык.

— Падзякуй свайму сыну разумнаму,— падбухторвала тая.— Людзі дурныя, дык пайшлі скасілі ды тое самае. А твой сын разумнейшы за ўсіх, то ты вот глядзі, як людзі сена возяць.

Зося стрэла Юзіка яшчэ на вуліцы:

— Хіба ж ты і ў хату не ідзі. Бацька вунь, як гад, злосны ходзіць — чаму на Заброддзе не ішоў. Як жа бо: паехаў па сена, ды прагналі, мусіць: назад улегцы прыехаў.

— Зайздросна, дык няхай бы сам ішоў. Мо б хто рэбры палічыў, тады б ведаў, якое смачнае гэта сена.

— А я ж вельмі баялася, каб ты не пайшоў.

— Я яшчэ проці савецкай улады не бунтаваўся і не думаю. Гэта ж сапраўдны бунт, самавольны захват.

А за вячэраю ўзгарэлася тое, што назбіралася за цэлы дзень. Трэслася Верамейчыкава хата ад лаянкі і кленічаў. Панура і з выгляду спакойна адказваў Юзік на бацькавы дакоры і з'едлівыя рэплікі старой. Баязліва высоўвалася з-пад коўдры белая Піліпкава галава, і кусала губы, стрымліваючы слёзы, Зося.

Людзі спыняліся пад вокнамі, падоўгу слухалі і адыходзіліся:

— Зноў Верамейчыкі грызуцца.

## XX

Двое сялян у канцы калідора курылі і паплёўвалі на падлогу, паглядаючы на суседнія дзверы, куды толькі што зайшоў трэці. Ва ўстанове незвычайна бязлюдна. Гэта ў Жагулы такая важная справа, што ён у гарачую пару пакінуў гаспадарку на парабка. Яго боты цяжка грукочуць па гулкім калідоры, і грукат гэты адгукваецца рэхам у суседніх пакоях.

Жагула прыпыніўся перад дзвярыма, прачытаў на дзвярах «старшыня райвыканкома» і, дастаўшы з кішэні хустачку, згорнутую пакетам, павольна стаў развертаць. Развярцеўшы, хустачку схаваў у кішэнь, паперку разгарнуў, узяў абедзвюма рукамі за краі і прачытаў сам сабе, мыляючы губамі. Тады прачыніў дзверы, спачатку прасунуў сваю квадратовую бараду, а за ёю і сам прасунуўся

ў пакой і напоўніў яго густым пахам разагрэтага сонцам дзёгцю. У маршчынах юхтовых перадоў дзёгаць аж прасочваўся наверх праз тоўсты слой пылу.

Старшыня райвыканкома пакінуў праглядаць газету і глядзеў на Жагулу, спакойна чакаючы, што той скажа.

— Дарэмна хацелі вы мяне пакрыўдзіць,— зразу прыступіў да справы Жагула.

— Пакрыўдзіць? Чым жа гэта? Хто вы такі?

— Я — Жагула, калі чулі пра такога.

Мяркуючы па тым, з якой варожай зацікаўленасцю глянуў старшыня, Жагула дагадаўся, што той пра яго «чуў». Жагула насілу мог схаваць пад знадворнай пакорлівасцю і нават як бы баязлівасцю з'едлівую ўсмешку, радасць перамогі. Сіла паперкі, якую ён трымаў у руцэ, давала яму ўпэўненасць, падбухторвала на задзёр, на кпінкі.

— Падаваў я заяву тыдні два таму назад, каб вы мне падатку трохі знялі,— спакойненька сказаў ён.

— Ну? — насцеражыўся старшыня.

— Ну, дык вы адмовілі.

— Дык далей што?

— А далей — вось прачытайце.

Трымаючы зноў паперку за краі, толькі ўжо літарамі ад сябе, Жагула нахабна сунуў ёю старшыні ледзь не ў самы нос.

«Дадзена гэта Жагулу Вінцэсю Кастусёваму ў тым, што яго гаспадарка з'яўляецца культурнай.

В-каму Райвыканкому прапануецца зняць падатак, накладзены на грамадзяніна Жагулу, і ў далейшым не рабіць яму перашкод у развіцці яго гаспадаркі.

Загадчык АкрЗУ Старнацкі.

Сакратар...» (Нечытэльна вільнуў хвосцікам.)

Старшыня працягнуў руку, каб узяць паперку і лепш разгледзець.

— Э, не, таварыш старшыня! — і Жагула хуценька схаваў паперку ў кішэнь.

— Што гэта значыць? — пачырванеў старшыня.

— Яна мне самому трэба,— спакойна сказаў Жагула, не вымаючы рукі з кішэні.

— Я вам загадваю аддаць мне зараз гэту паперу.

— Вы ж чыталі. Зрабіце, што тут напісана, і ўсё.

У старшыні калаціліся рукі, і полымя запалкі дробна дрыжала, калі ён прыкурваў папяросу. Абурэнне яго патра-

бавала выхаду, але ён яшчэ не ведаў, што будзе рабіць з гэтым нахабным дзядзькам. Прайшоўшы разы два па пакоі, старшыня шпурнуў недакураную папяросу.

— Кладзі! — сказаў ён ціха, але так, што Жагула аж збялеў у твары. Скамечаную паперку ён палажыў на стол, а сам адступаўся задам у кут, не спускаючы вачэй са старшыні.

Старшыня разгладзіў паперку, прачытаў і схаваў у кішэнь.

— Культурная гаспадарка! — іранічна скрывіў ён губы.— Самагон, мусіць, культурны гоніш?

Жагула маўчаў. Старшыня ўстаў і шырока адчыніў дзверы. Той выйшаў моўчкі, асцярожна шкробаючы ботамі.

Яшчэ не астыўшы ад узбуджэння, старшыня райвыканкома выйшаў з памяшкання і накіраваўся на процілеглы бок местачковага пляца да дома з высокім ганкам і белымі аканіцамі. Калі ён увайшоў у пакой, той, што сядзеў за сталом,— з чорнай кучаравай галавою, у гімнасцёрцы вайсковага крою,— не адрываючыся ад паперы, падаў яму левую руку. (У правай ён трымаў завостраны з абодвух канцоў чырвона-сіні аловак.)

— Бачыў, што робяць? — палажыў старшыня перад ім паперку.

— Зараз,— сказаў той і спяшаўся дачытаць падкрэсленую дзе-нідзе чырвоным алоўкам паперу.

— Дрэнь-паперы,— сказаў ён праз хвіліну, адкладваючы паперу ўбок.

— Ты гэта пра што?

— Ды пра дымаўскую скаргу. Нікога там не ўхаўтурылі?

— Двух у бальніцу палажылі. Будуць жыць, здаецца.

— А я сёння знаёміўся з заяваю, што мядзведзіцкія яшчэ ў сакавіку падалі ў земаддзел. Людзі просяць, каб ім для беднаты прырэзалі зямлі, хочуць на пасёлкі выходзіць. Цікава, што, шукаючы прырэзкі, яны ўпарта б'юцца ў адно месца — у саўгас. З заявы відаць, што і Рахлюк ім абяцаў нешта ў гэтым сэнсе.

— Гэты Рахлюк наробіць нам, што і не расхлёбаем.

— Ты ж яго абараняў калісьці.

— Чорт яго зразу разбярэ. Мне паказалася...

— Справы ў яго, між іншым, страшэнна запушчаны. Вось і гэта мядзведзіцкая заява валяецца пяты месяц. І нічога б такога не было, каб своечасова яе разгледзець ды растлумачыць людзям як належыць. Я думаю паставіць

яго справаздачу на бюро. Мусіць, прыйдзецца пашукаць другога на яго месца.

— Не, ты пачытай вось гэта! — падсунуў старшыня прынесеную паперку.

— Ну як табе? Не пахне самагонам? — спытаўся ён, калі той прабег вачыма паперку.— Гэта без Рахлюка таксама не абышлося.

— Я пакуль што нічога не разумею. Дзе ты гэта ўзяў?

— Адабраў у Жагулы.

— Як гэта адабраў?

— Ды вельмі проста. Прынёс — тыц мне пад нос, а з рук не пускае. Кажу: «Дай сюды», а ён у кішэнь. Калі ўбачыў, што я жартаваць не збіраюся, нехаця аддаў.

— А што там у яго за культура такая?

— Апрача самагону, ніякай, наколькі мне вядома. Звычайная кулацкая гаспадарка. Але, як я надоечы даведаўся, у яго не раз выпіваў Рахлюк, а з ім часамі і працаўнікі з АкрЗУ. А вынік — у цябе ў руках.

— А я нічога не ведаў пра гэта,— з лёгкім дакорам сказаў кучаравы.

— Я таксама толькі заўчора даведаўся. Але калі нават адкінуць гэты выпадак з п'янкай, дык павінен табе прызнацца, што я наогул не зусім разумею, што ў нас робіцца ў галіне зямельнай палітыкі. Повен раён кулачча. Пахаваліся за ахоўныя граматы, за максімальныя нормы і жывуць сабе, як у Хрыста за пазухай. Вынесеш пастанову аб высяленні якога-небудзь былога панка, што мае дзесяцін шэсцьдзесят-восемдзесят, а ён табе праз два тыдні тыц у нос ахоўную грамату: не чапай яго, ён культурны гаспадар. Адгарадзіліся кругом наркамземаўскімі законамі — укалупні яго папрабуй. Часта нават зямельнай плошчы цалкам выявіць не ўдаецца. Нашы сельсавецкія працаўнікі часамі мераюць гэту плошчу на вока, вераць, што ім скажуць, альбо і свядома пакрываюць кулака. Вось і выходзіць, што бедната адно другому насы скусваюць за зямлю, а ў раёне яе лішкі ёсць.

Кучаравы закурыў і разоў два моўчкі прайшоў па пакоі, пра нешта думаючы.

— Прызнацца табе, сам я не раз думаў пра гэта. Чамусьці калі мне прыходзіцца гаварыць на гэту тэму, дык я адчуваю сябе няёмка, апынаюся ў нейкім фальшывым становішчы. Падумаўшы, я знайшоў прычыну гэтага. Гэта проста таму, што шмат у чым я не згодзен з загадамі Наркамзема. І, нягледзячы на гэта, павінен цярпець праводзенне гэтых загадаў у сваім раёне. Больш таго, я паві-

нен забяспечваць на месцы хутчэйшае правядзенне ў жыццё пастаноў і загадаў Наркамзема. І тут я вымушан ісці на кампраміс з самім сабою. Вось чаму ў мяне заўсёды паршывае адчуванне, калі я сутыкаюся з гэтым пытаннем. Можа, там, у цэнтры, і не так відаць ненармальнасць, проста, я б сказаў, шкоднасць гэтых загадаў, але тут, на месцы, дзе гэтыя загады ператвараюцца ў сапраўднасць, дзе яны з'яўляюцца перад намі ў выглядзе жывых людзей і іх учынкаў, ды калі іх праводзяць у жыццё такія стараннныя працаўнікі, як твой Рахлюк (старшыня пры гэтым паморшчыўся), гэта ненармальнасць асабліва кідаецца ў вочы. Я прабаваў гаварыць пра гэта з некаторымі партыйнымі працаўнікамі іншых раёнаў. У некаторых такія ж самыя думкі. І, вядома, як член партыі, як адказны працаўнік за правядзенне лініі партыі ў раёне, я не магу, не маю права маўчаць пра гэта. І я буду гаварыць пра гэта ў акругкоме. Няхай мне дапамогуць разабрацца ў гэтым. Калі я памыляюся, няхай мне растлумачаць; калі памыляецца Наркамзем, трэба гэту памылку выправіць.

— Гэта ўсё правільна. Тут я зусім з табою згодзен, апрача таго, што Рахлюка ты назаўсёды лічыш маім.

Кучаравы засмяяўся:

— Я ў тым сэнсе, што ён загадчык аднаго з тваіх аддзелаў.

— Добра. Але ж, пакуль будуць рэальныя вынікі, можа працягнуцца добры кавалак часу. Мы не можам увесь гэты час сядзець злажыўшы рукі ды глядзець, як яно само будзе рабіцца. Мы павінны нешта рабіць, а не выпускаць лейцы з сваіх рук, каб іх падабраў нехта іншы. Але, каб рабіць, мы павінны мець нейкую пэўную лінію. І пра гэту лінію мы павінны з табою дагаварцца, каб паміж намі не было ніякіх непаразуменняў.

— Вось я ж пра гэта сёння сам хацеў з табой пагаварыць. Гэта мядзведзіцкая справа гаворыць, што пэўны самацёк у нас тут ёсць, і самацёк вельмі небяспечны. Памойму, так: калі мы з табою думаем, што некаторыя наркамземаўскія пастановы няправільныя, дык мы павінны паклапаціцца пра тое, каб як найменш шкоды яны нам зрабілі. Адгэтуль: з хутарызацыяй ні ў якім разе не спяшацца. Землеўпарадкаванне вёсак, якія выходзяць на хутары, праводзіць у апошнюю чаргу. Нягледзячы на пярэчанне АкрЗУ, больш націснуць на высяленне былых панкоў. Ніякага патурання кулаку. Трэба прыняць усе меры, каб выявіць утоеную імі зямельную плошчу. Знойдзеныя лішкі неадкладна абрэзаць, і вызваленую такім чынам

зямлю раздаць малазямельным. Максімальную норму для кулакоў можна рэальна значна знізіць, пакідаючы ім у лік нормы зямлю няўдобную, а найбольш удобную адводзіць беднаце, каб малую колькасць намагчы якасцю. Праўда, гэту нашу лінію могуць расцаніць як сабатаж на практыцы загадаў Наркамзема, і калі б выявілася, што мы тут памыляемся, то тады б нас па галоўцы не пагладзілі. Але мы павінны мець адвагу, праявіць тут сваю ініцыятыву і ўзяць за яе адказнасць. Тут мне прыходзіць на памяць вайсковы статут. Там гаворыцца, што кожны вайсковец абавязан праяўляць сваю ініцыятыву з мэтай выканання пастаўленай перад ім баявой задачы. Калі ён такой ініцыятывы ў патрэбны момант не праявіць і тым пашкодзіць справе, тады ён адказвае па ўсёй строгасці вайсковага закону, але калі ён і праявіць ініцыятыву, ды не так, як трэба, дык ён зноў за гэта адказвае. Гэта каб чалавек не стаў пешкай, сляпым выканаўцам загаду, а каб меў смеласць думаць пра тое, што ён робіць, і рабіць належныя вывады. Я думаю, што гэта правіла вайсковага статута для нас у даным выпадку цалкам падыходзіць. Праўда, зрабіць тое, пра што я кажу, мы ўдвух з табою не зможам. Трэба, каб у самай гушчы вясковай быў актыў беднаты, на які б мы смела маглі абаперціся. Трэба, каб у склад сельсаветаў не пралазілі людзі, якія ходзяць на павадку ў кулака. І таму нам да перавыбарчай кампаніі трэба падрыхтавацца як мае быць.

— Так... Дык што ж мы з Мядзведзічамі думаем рабіць?

— Мядзведзічы мы з табою проста прамаргалі. У гэтым трэба адкрыта прызнацца. Жыве вёска? Жыве. Спакойна ўсё знадворку, дык і добра, а вось чым яна дыша, гэтым не пацікавіліся. І твой старшыня сельсавета, як відаць, ходзіць — язык на плячо.

— Сам ён хлопец, сказаць, не дрэнны, але склад сельсавета нікуды не варты. Сам ён мне скардзіўся... У цябе ж там у Мядзведзічах, здаецца, ячэйка была?

— Якая там ячэйка. Ніводнага партыйца. Ёсць, праўда, камсамольская ячэйка, нядрэнная, наколькі мне вядома, ды ў такой абстаноўцы не так лёгка разабрацца. І наогул наш камсамол яшчэ мала аддае ўвагі гаспадарчым пытанням.

— Прыйдзецца нам каму-небудзь паехаць туды.

— Так, трэба паехаць.

— Можа, мы Шулейку пашлём?

— Гарачы ён надта для такіх выпадкаў. Накрычыць, натупае, толькі нездавальненне выкліча. Ведаеш, я думаю сам паехаць. Як ты глядзіш на гэта?

— Добра зробіш. Там па дарозе, можа, у сельсавет заглянеш?

— Абавязкова. Я яго з сабою пацягну. Няхай там пасвеціць вачыма.

## XXI

Трывожна было гэтыя дні ў Мядзведзічах. Прагрукацяць колы па вуліцы, усе кідаюцца да акон — ці не едуць ужо? Яшчэ толькі з лесу на дарогу фурманка пакажацца — падоўгу ўглядаюцца, зрабіўшы руку паветкаю, пазнаюць, аж пакуль у вёску не ўедзе,— ці не з раёна гэта?

Тодар Пошта бегаў па хатах жвавей, як звычайна. Сам ад страху млеў і другім пуду паддаваў:

— Дымаўцы ў Мінск ездзілі скардзіцца. Кажуць, цэлую роту чырвонаармейцаў прышлюць. Усю вёску перавяжуць, на вазы, і — гайда.

— Гэта ж усё праз цябе. Нябось будзе табе цяпер! — страшыць яго Галаскок.

— Як гэта праз мяне? — тапырыцца Тодар.

— Вядома, праз цябе. А хто ж першы бойку пачаў, калі не ты? Хто касу дымаўскаму хлопцу парваў?

— Во! Дык я ж незнарок.

— Каго ты дурыш! Быццам ніхто і не ведае.

— А што за гэта можа быць? — зразу прыціхшы, пытаецца Тодар.

— Расстраляць гатовы, што ты думаеш,— робіць яшчэ больш сур'ёзную міну Алесь.

— Ну? — дзівіцца ўстрывожаны Тодар, заміраючы на момант. Твар яго бялее і рукі калоцяцца.

Бяжыць з пуду ў другую хату:

— Прыедуць! Сёння ці заўтра непрыменна прыедуць... Я дык баюся, каб мяне не расстралялі. Скажуць — ты першы пачаў. І адгаварыцца няма як — хіба ж гэта ніхто не ведае?

Прыязджала міліцыя. Напісалі доўгі пратакол, дапыталі з дзесятак сведак. Зачытвалі паказанні дымаўцаў, каб спрытней выкрыць хлусню некаторых сведак. Але справа заставалася ўсё ж вельмі няяснай. Вінаватага цяжка было знайсці. Дымаўцы сведчылі, што бойку пачаў шчуплы белавусы мядзведзіцкі чалавек, якога Поштай дражняць,

але ніхто не бачыў, каб ён каго-небудзь выцяў. Тодар не таіўся, што ён парваў касу, але казаў, што зрабіў гэта незнарок: хацеў папрабаваць, ці добра косіць, ды не заўважыў у траве купіны. Мядзведзіцкія ўсе сведчылі, што першым згроб за карак Тодара дымаўскі хлопец. Хацела міліцыя высветліць, хто вёў мядзведзіцкіх на Заброддзе, але выходзіла, што ніхто не вёў, усё самі ішлі. Першага, хто падаў голас, каб ісці дымаўцаў праганяць, таксама не было. Тодар сведчыў, што першыя пабралі косы мужчыны «з таго канца». Ён бажыўся, што сам на свае вочы гэта бачыў, як звычайна, забыўшыся, што яму намякнуў пра гэта Каржакевіч. А мужчыны з таго канца казалі, што яны нават не ведалі нічога, пакуль не падышлі да іх мужчыны з другога канца і не паклікалі.

Хто рэзнуў дымаўскаму чалавеку па руцэ, таксама ніхто не мог сказаць. Гэтага не ведаў нават і сам паранены. Праўда, некаторыя мядзведзіцкія цішком гаварылі, што ў Соміка была запэцкана каса ў кроў, але пэўна ніхто нічога не ведаў, бо Сомік і сам парэзаў трохі руку, схапіўшыся за нечую касу,— мог такім чынам і сваю касу папэцкаць у сваю кроў.

Міліцыя паехала, але трывога не ўціхла. Не верылася, каб гэта яно так абышлося, думалася, што гэта яшчэ не ўсё, што самае страшнае яшчэ наперадзе.

Смяецца аж захліпаецца Алеська на Шурыных каленях. Нагамі перабірае, твар і шыю рукамі стараецца закрыць,— так нясцерпна казычацца травінка, якою водзіць Шура ля вуха. Перастане — у Алеські твар закрыты яшчэ рукамі, але яна хітра глядзіць праз шчылінку між пальцаў. Шура ўжо забылася на яе, гаворыць нешта з яе маткаю. Алеська зноў пераходзіць у наступ: туліць твар да пругкага дзявочага Шурынага жывата, мерыцца ўкусіць, аж пакуль зноў травінка не прымусіць яе хаваць твар і трапятацца ад рогату. Радасна Алесьцы ад шчодрых сонечных праменняў, ад цёплай Шурынай ласкі і яшчэ ўдвайне ад таго, што маці шые ёй такую прыгожую спаднічку: палоскі — чорная, зялёная, бурачковая. Дыхнуць не дала мацеры, пакуль тая не ўзялася за даўно абяцаную спаднічку.

Цяпер, пакуль насохне сена, Аўдоля збірае складкі ў паясніцы ў прыгожы гармонік.

— Ах, ну і пагода, пане ты мой! — падыходзіць Сцяпан Варанец да Грамабоевага воза.— Проста як дым. Гэта ж свежыя пракосы разбіў я ля рэчкі, дык увачавідкі млее трава.

— Шанцуе сёлета на сена пакуль што. Бог ведае, як далей будзе,— млява гаворыць Грамабой, лежачы дагары на пакошы і засланіўшы шапкаю вочы ад сонца.

Яначка задзірае на сонца кучаравую русую бародку. Шавеліць за пазухай рукою і думае нешта сваё. Твар яго худы і воскава-жоўты.

— Аўдоля! — гукае Сцяпан.— Ідзі, брат, закуры! Што ты ў гэту работу вельмі ўбіваешся?

— Зараз трэба сена варочаць.

— Няхай насыхае, яшчэ рана.

Добра было Аўдолі закурыць у гаваркога Сцяпана жоўтага мацаку бесарабскага, паслухаць якую-небудзь байку ці пра якое-небудзь здарэнне, якіх у Сцяпана заўсёды шмат у запасе, але не хоча яна ісці да Грамабоевага воза. Пасля таго як плюнула ў магазіне Міколу ў твар ды яшчэ як пасварылася за бурвалку з самім Грамабоем, яна зусім з ім не гаворыць.

Насунуўшы нізка хустку на вочы, ледзь разбіраючы праз балючыя шчыліны сцежку пад нагамі, пайшла на Аўдолін голас Марыська.

— Дзе ты тут, Аўдолька?

— Сюды, цётка Марыся, сюды.

— Дык гэта ж ты тут і не адна, гэта ж, здаецца, Шура Рыгорава з табою? А я чую, што з некім ты гамоніш, але не пазнала, добра не чуваць адтуль... Маё ты дзіцятка, дай жа я хоць разок гляну на цябе, гэтак жа даўно я цябе бачыла,— нагнулася яна да самага Шурынага твару.— А засіверала ж, загарэла! Чорненькая, як цыганачка ўсё роўна. Няхай табе бог дасць здаровейка. ...Як мне ўжо, мае родненькія, пакута! Ніхто не ведае,— скардзіцца Марыська.— Сонейка, дзякаваць богу, так ясна свеціць, дык я нічагусенька не бачу. А боль жа — стрываць нельга.

— Чаго вам, цётка Марыся, было сюды ехаць? Вы ж бы дома ў цяньку там што зрабілі. Мусіць жа, Ціхон вашу зямлю ўзяў урабляць? — пытаецца Шура.

— А маё ты дзіцятка! Хто яго ведае, як яно тут выходзіць. Як той казаў, кось-кось, пакуль у аглоблі,— прыцішыла Марыська голас.— Як угаворваліся, дык усё добра было: і рабіць мы нічога не будзем, і глядзець яны нас будуць. А цяпер кажа: «Калі вы на поле не будзеце выходзіць, дык падумаюць, што я зусім вашу зямлю сабе забраў ды яшчэ ў фонд адбяруць». А нам — хто яго ведае — усяляк думаецца. «Едзьце, кажа, хоць пасядзіце ля воза». Гэта ж праўда! Нехта будзе рабіць, а я ля воза буду сядзець! На мяне ж бы, здаецца, усе людзі пальцамі

паказвалі. «Я, кажа, гэта толькі памагаю вам, як брат родны». А тут хто яго ведае, як яно выходзіць. Конікам нашым робіць, кароўку нашу доіць, парсючка ў свой хлеў перагнаў, і мы ў яго як бы на ласкавым хлебе. Надоечы іду я па двары, а яны ў адрыне ўдвух, не бачаць мяне. Сын і пытаецца: «А як жа яны, пойдуць на сена ці дома няхай?» Гэта пра нас з Яначкам. А бацька адказвае: «А што ж, дарэмна хлеб будуць есці?» А мы ж хлеба яго яшчэ і не каштавалі, у нас жа, дзякаваць богу, свой хлябок дагэтуль быў.

Рада Марыська, што хоць знайшла каму сваю крыўду выказаць, што яе слухаюць і шкадуюць.

— ...А то з вясны яшчэ... Запрог сын каня. «Садзіцеся, кажа, дзядзька з цёткаю, да доктара павязу».— «А мой ты, кажу, Міколка! Карысці, кажу, што ты павязеш. Былі ж не раз ужо. Што яны за помач гэтыя дактары?» — «Не, кажа, цяпер вельмі важны доктар у мястэчку. Я папрашу, дык ён вас добра агледзіць. Павінен памагчы». Паехалі мы, родненькія. Праўда, агледзеў ён нас, выслухаў, усё як мае быць, а лякарства ніякага не даў. Так і паехалі мы дадому, не ведаючы, чаго і прыязджалі. Адно ж, родненькія мае, дачуваемся мы ад людзей, што гэта ён нас на агляд толькі вазіў, каб доктар паперку даў, што мы рабіць не можам. Па гэтай паперцы і падатак жа знялі, што на нашу зямлю прыпадаў. А мы ж і не ведалі раней, што на гэта ўвагу могуць мець, ды кожны год плацілі. Каб не гэты падатак, дык мы ж бы сёлета, можа, самі рабілі. А то ж ён падручыўся быў і падатак за нас плаціць...

Раз-поразу паглядае Сцяпан у той бок, дзе спынілася фурманка і сабралася ля воза кучка людзей. Аж зарадаваўся, калі падышоў Галаскок з граблямі на плячы,— ёсць у каго запытацца.

— Што гэта, Алесь, там за фурманка?

— З раёна прыехалі.

Сумятліва прабягае Ганскі поперак палос ад воза да воза.

— Мужчынкі! Можа б, вы падышлі вунь да тае фурманкі, што на маёй палосе? Чалавек пагаварыць хоча.

— Сама што цяпер і гаварыць,— іранізуюць «мужчынкі».— Прыспічала яму якраз, а сена няхай непрыбранае будзе.

— Што ж ты, братка, зробіш? На вечар адкласці, дык пакуль папрыязджаюць ды ўходзяцца, то і ноч агорне.

Калі ж той сход збіраць? Гэта нядоўга, на паўгадзінкі, не больш. Пакуль сена браць, дык і ўходзімся.

Заўсёды ўгодлівы, ён і цяпер баіцца, хаця б на яго не пакрыўдзіліся, што адрывае ад работы. Гэтак ва ўсіх сельсавецкіх справах ён заўсёды баяўся, хаця б каго не пакрыўдзіць. Саромеўся сказаць чалавеку праўду ў вочы, адмовіць у чым-небудзь. Карысталіся людзі з яго дабраты, але не паважалі, падсмейваліся цішком. А колькі зямлі ды жывёлы ўтаілі ад абкладання! Колькі даведак ад сельсавета дасталі пра беднасць нават і зусім не бедныя!

— Дык не марудзьце ж, мужчынкі. Самі сябе затрымліваеце.

Кучаравы ў вайсковай гімнасцёрцы сядзіць на біле, звесіўшы ногі, і чакае, пакусваючы каліва мятліцы. Няўцішаная яшчэ трывога і незвычайныя абставіны сходу на сенажаці, куды прыехала начальства, падштурхоўваюць мядзведзіцкіх. Каля воза натоўп усё расце і гусцее. Ціха гутараць, закурваюць, паглядаюць крадкам на кучаравага сакратара райкома — адны дапытліва, другія недаверліва. Побач з сакратаром — невысокі, чарнамазы стаяў з пап-каю пад пахай — старшыня сельсавета. Ён паглядаў на мядзведзіцкіх строга і дакорліва: «Што ж вы тут, сукіны сыны, нарабілі без мяне!»

Сакратар райкома не меў на ўвазе дабівацца ад мядзведзіцкіх якой-небудзь пэўнай пастановы. Ён проста хацеў ім растлумачыць, адкрыць ім вочы на тое, што ў іх робіцца, а разам з гэтым паглядзець, «чым яны дышуць», і, можа, намацаць тыя сілы, якія штурхнулі вёску на няправільны шлях. А таму ён палічыў за лепшае фармальнага сходу не наладжваць, а правесці лепш гутарку, каб сяляне адчувалі сябе вальней і смялей.

— Ну, я прыехаў, каб трохі пагаварыць з вамі,— сказаў ён, седзячы на біле па-ранейшаму.

— Давайце пагаворым, таварыш сакратар.

— Дык пра што ж мы будзем гаварыць?

— Пра што хочаце. Вам лепш відаць,— адказалі з натоўпу.

— А я думаю, што вы добра ведаеце, пра што я хачу гаварыць.

Апусцілі вочы, каб не сустрэцца з дакорлівым позіркам сакратара.

— Ну вот я ў вас, дзядзька, хачу запытацца...

Пятрусь Кухар аж сеў раўней, нарыхтаваўшыся адказаць на запытанне.

— Чаму гэта ў вас нос завязаны?

Нехта хіхікнуў. Пятрусь збянтэжана мацнуў за нос:

— Нейкая балячка села... Скула ці якое ліха,— зачырванеўся ён.

— Чаго ўжо хлусіш? Прызнаўся б нечага,— параіў нехта з мужчын.

— Гэта яму ад дымаўцаў гасцінец невялікі,— адказаў за Петруся Сцёпка.

— Колькі ж вы хаця сена наваявалі?

— Ай, ці ёсць пра што гаварыць. Коп са тры асакі няшчаснай.

Петрусю нестрывана крыўдна было і за тое, што ён у бойку ўмяшаўся, і за разбіты нос, і за гэтыя тры капы асакі, калі іншыя па добрым возе мурагу ўзялі.

— Дык хіба ж гэта мы адбіралі зямлю ў паноў, на франтах за яе гінулі дзеля таго, каб зноў за яе біцца паміж сабою? Ці, можа, гэты дымаўскі, якому вы руку пакалечылі, можа, ён пан які недабіты ды вы надумаліся яго дабіць?

— Пан! Гэтакі, як я княгіня,— адказала за ўсіх Аўдоля.— Адну карову мае і тую за хвост падымае. Хацеў сена гэтай карове накасіць, дык яму і касянулі. У іх жа з сенакосам яшчэ цяжэй, чым у нас.

— Але, скажы ты, гэта ж трэба было ісці біцца?! Як чорт падаткнуў усё роўна,— каяўся Сцяпан Варанец.

— А каб вы папрабавалі пашукаць гэтага чорта між вас? Я думаю, што ён тутэйшы, свойскі.

— Шукалі. Міліцыя прыязджала. Нікога і вінаватага няма.

— Мне вось цікава — хто ж гэта першы надумаўся зямлю ў саўгаса адбіраць?

— Адбіраць ніхто не збіраўся.

— Спадзяваліся, што па-добраму аддадуць.

— Ці не Андрэй гэта першы намякнуў пра гэту зямлю?

— Во! Дзіва што я ні ў якія справы не хачу ўмешвацца. І тут я вінават! Памятаеце, калі дэлегацыю ў саўгас выбіралі, ды я казаў, што з гэтага нічога не будзе, што трэба пакінуць і думаць пра гэта? Дык жа не паслухалі мяне.

Рудыя вочкі бегалі па баках, баючыся глянуць кучараваму проста ў твар. А той глядзеў на Каржакевіча, не мігаючы, быццам хацеў наскрозь праняць сваім позіркам.

— Праўда, казаў ты гэтак,— пацвердзіў Сцяпан Варанец.

Юзік сядзеў, абхапіўшы калені рукамі, і рубчыкі яго вушэй гарэлі. Прыемна было, што ён адкаснуўся ад пасёл-

ка і ад гэтай зямлі, што адзін з нямногіх не пайшоў на Заброддзе, але недзе падыспадам, пад гэтым прыемным адчуваннем, ныла раскаянне, што ён адразу ґорача быў узяўся за гэту справу, нават збіраў подпісы па хатах і хадзіў дэлегатам у саўгас:

— Я даўно казаў: каб гэту зямлю, што ў саўгасе, ды раздалі на гаспадароў, дык дзяржаве куды больш карысці было б. Аднаго падатку колькі можна было б сабраць. А саўгас — што ён вельмі дае? Парабак парабкам, па-том,— не вырабіць таго, што гаспадар.

Сказаў гэта Грамабой нібы сам сабе, але знарок так, каб чуў сакратар райкома.

— Чулі мы гэтакія гутаркі, дзядзька,— падхапіў той.— Чулі яшчэ і такія, што заводы і фабрыкі дзяржаўныя нікуды не варты, што каб яны ў гаспадароў былі, дык бы куды больш тавараў выраблялі. Ведаем мы, што гэтыя гутаркі азначаюць. Гэта значыць: падзялі, савецкая ўлада, саўгасную зямлю паміж «добрымі» гаспадарамі, аддай фабрыкі ды заводы зноў жа прыватным гаспадарам (ста-рым ці новым — гэта ўсё роўна) і застаніся сама з голымі рукамі. А тады гэты самы гаспадар убярэцца ў пер'е ды скажа: «Пайшла ты, савецкая ўлада, к чортавай матары, ты мне толькі перашкаджаеш». І гэта зразумела, бо гаспа-дар жа без эксплуатацыі рабочых не можа абысціся, а савецкая ўлада зусім хоча знішчыць усялякую эксплуа-тацыю разам з эксплуатататарамі. Каб савецкая ўлада раз-дала зямлю і фабрыкі гаспадарам, што ж бы сказалі на гэта рабочыя ды батракі? Вы не дагадваецеся часамі? Саўгасаў мы не думаем аслабляць. Наадварот, усялякімі спосабамі стараемся іх умацаваць, даць ім машыны, памаг-чы стаць ім цвёрда на ногі, каб яны давалі прыклад і сяля-нам, як трэба на зямлі гаспадарыць.

— То на пасёлак гоняць, то ўжо кепска, што зямлі людзі патрабуюць. Ты, калі гоніш, дык дай жа, каб было на чым разгарнуць гэты пасёлак,— бурчаў нехта ў натоў-пе, схаваўшыся за плечы.

— Вось, як я чую тут адным вухам, нехта там кажа, што савецкая ўлада вас на пасёлкі гоніць,— падхапіў рэпліку сакратар.— Ці праўда гэта?

— А траха што і праўда.

— Вядома, праўда. Што ж тут у хованкі гуляць,— вылучыўся звонкі голас Соміка.

— Ды прыязджаў жа тут і з раёна, і вось старшыня наш не раз ганяў нас...

— Каб гналі, дык бы загналі, а вы ж не на пасёлках,— сярдзіта буркнуў старшыня сельсавета.

— Дык я вам вось што скажу на гэта, мужчыны.— Сакратароў спакойны голас адразу ўтаймаваў завіруху ўзбуджаных выкрыкаў.— Не растлумачылі вам як мае быць гэтай справы. Вы, мусіць, чулі прыказку: загадай дурню богу маліцца, дык ён і лоб разаб'е. Калі сапраўды вас хто-небудзь гнаў на пасёлкі, дык да яго гэта прыказка вельмі падыходзіць. Ад іхніх малітваў часамі і на нашым ілбе гузы нахапляюцца. А для савецкай улады зусім не канечне, каб былі пасёлкі. Для нас цяпер найважнейшая справа — падняць нашу гаспадарку. Вы ж ведаеце, што засталося нам пасля вайны, пасля немцаў, белапалякаў ды ўсялякіх бандытаў. Гаварыць вам пра гэта доўга не трэба. Зямля спустошана, заводы і фабрыкі сталі, шмат якія разбураны. Цяпер мы патрошку пускаем іх у ход, бо працоўным патрэбны тавары, вы гэта добра па сабе ведаеце. Але для заводаў і фабрык патрэбен сырэц, а шмат які сырэц можа даць толькі сельская гаспадарка: лён, пянька, бульба — усяго не пералічыш. Зноў жа: для заводаў патрэбны рабочыя рукі, а яны ж хочуць есці. Хто ім дасць хлеб, калі не сельская гаспадарка? А вам тавары трэба купляць? Трэба. А за што вы іх будзеце купляць, калі ў вас не будзе лішкаў? Скажыце ж, трэба нам падымаць сельскую гаспадарку?

— Дык хто ж гэта кажа, што не.

— Вось савецкая ўлада і дае ўсе магчымасці, каб падняць гэту гаспадарку. Адгэтуль і пасёлкі бяруцца. Бывае, бачыце, часам так: вёска вялізная, палос па дваццаць нарэзана, ды вузенечкіх, ды знаходзяцца некаторыя за некалькі вёрст. Вось ты і ўрабі тут зямлю як мае быць. Альбо бывае, што частка гаспадароў хоча засеяць папар, а другая хоча пасвіць свінні на папары, адны хочуць сеяць канюшыну, сырадэлю, садзіць буракі на полі, а другія не хочуць гэтага; адны хочуць, прасцей кажучы, падымаць гаспадарку, а другія трымаюць іх за ногі. Не можа савецкая ўлада трымаць іх разам за чубы, калі яны хочуць разысціся на пасёлкі. Але калі можна і без пасёлка абысціся, то яшчэ і лепш. Я ж кажу: у савецкай улады самае галоўнае цяпер — падняць гаспадарку.

— На чым ты яе тут вельмі падымеш, тую гаспадарку? Абы гаварыць...

— Дарэмна ты стогнеш, дзядзька Васіль.— Крыўдна было Юзіку, што Крываношка лічыць пустою гаворкаю тое, што ён з такім захапленнем слухаў.

— Нічога я не стагну, гэта як праўда.

— А вось скажы, колькі вазоў канюшыны ты сёлета ўзяў?

— Што ты маю лічыш! Сваю палічы,— абразіўся той.

— Я палічыў, пяць разоў прывёз.

— Ну, а я на раз болей, дык пры чым тут што?

— Як пры чым што? А раней ты шмат накошваў?

— Вось вярзе чалавек! Як жа я мог накошваць, калі і не сеяў яе ніколі?

Галаскок зарагатаў:

— Дык пра гэта ж, дзядзька, і гаворка ідзе. Гэтаю ж канюшынаю ты лішнюю штуку зімою прахарчуеш. Вось табе і падняцце гаспадаркі.

— А на Доўгіх за дарогаю колькі ты жыта нажнеш сёлета? — не адставаў Юзік.

— Колькі захачу, а табе што за дзела! — да рэшты раззлаваўся Крываношка.

— Коп чатыры нажнеш, я думаю. А пакуль лубіну не сеяў, пуставала скрозь. А ці мала ў каго была спустошана зямля, пакуль на вайне былі? Паглядзі, патрошку папраўляюцца патом жа.

Сакратар закурыў і з цікавасцю слухаў Юзікаву спрэчку з Крываношкам. «Даходзіць патроху»,— здаволена падумаў ён.

— Яшчэ я ў вас, таварыш, хацеў запытацца,— гарачы яшчэ ад спрэчкі з Крываношкам, звярнуўся Юзік да сакратара.— Добра, паднімем мы гаспадарку, пойдуць заводы і фабрыкі. А далей што? Ці гэта вёска так і застанецца, як цяпер, ці як інакай будзе?

— Не, не можа яна так застацца. Тады мы і вёску будзем перабудоўваць на сацыялістычны лад, а пакуль ёсць свая ўласная гаспадарка, датуль не будзе сацыялізму, датуль мы не знішчым эксплуатацыі.

— Дык нашто гэта адкладаць надоўга? Зразу б і гаспадарку падымалі і сацыялізм на вёсцы заводзілі,— сказаў Алесь.

— А вось запытайцеся, хто з тых, што тут сабраліся, згодзен заўтра ў камуну ісці? Давайце на тую спробу. Хто згодзен заўтра ў камуну, няхай падыме руку.

— Я першы,— падняў высока руку Алесь.

Мужчыны некаторыя сярдзіта адвярнуліся, другія паглядалі збянтэжана адзін на аднаго, не ведаючы, напраўду гэта ці жартам.

— Ну, што, аднагалосна? — засмяяўся сакратар.

— Не хочуць,— пачухаў патыліцу Алесь.

— А гэта значыць, што ў нас з вамі яшчэ не ўсё гатова для таго, каб масы сялян у камуну пайшлі. Трэба, каб тыя камуны і арцелі, якія ўжо ёсць, так гаспадарку наладзілі, каб кожны бядняк і серадняк на свае вочы ўбачыў, што ў камуне жыць лягчэй і выгадней. Ды зноў жа нас не можа задаволіць такая камуна, у якой бы мы аралі сахою, баранавалі дзеравянаю бараною, малацілі цапамі. Перабудова вёскі на сацыялістычны лад пойдзе шпарчэй і з большым поспехам, калі ў нас будзе высокая машынная тэхніка. Патрэбны трактары, сеялкі, веялкі, жняяркі, камбайны, касілкі — сотні тысяч. А ў нас іх яшчэ вельмі мала. Трэба, каб усе гэтыя машыны нашы заводы далі, трэба, як кажуць, падвесці пад сельскую гаспадарку індустрыяльную базу.

— Доўгая гэта музыка,— пакруціў галавою Алесь.

— Вядома, адным махам не зробіш. Пастунова будзе рабіцца.

— А, цікава, якім спосабам усё ж вёска будзе перабудоўвацца? Зразу ў камуну ці як? — дапытваўся Юзік. Яго даўно турбавалі ўсе гэтыя пытанні. Сам ён блытаўся ў іх, падоўгу думаў, і ўсё ж яны для яго былі вельмі туманныя.

—' Я і сам яшчэ цяпер дакладна адказаць не магу, як яно якраз будзе. Але ў асноўным гэта павінна пайсці праз кааперацыю. Чулі вы, напрыклад, што ў Піліцы ёсць малочная арцель; у вас, казаў мне сёння ваш член сельсавета, збіраюцца машыннае таварыства арганізаваць. Вось гэта і ёсць маленькі пачатак вялікай справы — пераводу сельскай гаспадаркі на сацыялістычныя рэйкі. Я ўжо не кажу пра камуну ў Гадлеўшчыне, якую вы самі добра ведаеце.

Гэты адказ яшчэ не цалкам здаволіў Юзіка. Ён яшчэ не ўяўляў канкрэтна, як гэта будзе рабіцца, але сённяшняя гутарка з сакратаром райкома адкрыла яму выхад з таго тупіка, у якім ён апынуўся, калі пачалася справа з пасёлкамі, асабліва пасля наведвання дэлегацыяй саўгаса. Цяпер ён хоць бачыў той агульны кірунак, у якім накіроўвала вёску цвёрдая і разумная воля бальшавікоў.

— А як жа ўсё-такі з Бугайнікам і Заброддзем будзе? Гэта нам так і не дадуць зямлі? — у голасе Курыльчыка боль і смага згаладалага па зямлі чалавека. Дзесяткі вачэй глядзяць не змігнуць, чакаюць адказу. Кучаравы адказвае не адразу. За гэтым напружаным чаканнем ён наперад угадвае нездаваленне яго адказам.

— Вас проста тут абдурылі,— гаворыць ён знарок рэзка, каб ні ў кога надзеі на саўгасаўскія прырэзкі не

заставалася,— няйначай, як кулацкая рука накіравала вас на саўгаскую зямлю. У раёне нямала ёсць гаспадарак, што маюць лішкі зямлі. А колькі яе яшчэ ўтоена! А мядзведзіцкія бednякі разбіваюць дымаўскім беднякам галовы за саўгаскую зямлю. Такіх прыкрых здарэнняў у нас не будзе, калі бедната і серадпякі не будуць хадзіць у кулака на павадку. Вы павінны дапамагчы сельсавету выявіць усю ўтоеную зямлю, падлічыць усе лішкі. Я ўпэўнен, што, абрэзаўшы іх, хопіць надзяліць зямлёю малазямельных. А туліць пад крылом кулака і адбіраць зямлю ў саўгаса — гэтага мы ніяк не можам. Гэта вы самі павінны разумець.

Разыходзіліся кучкамі ў розныя бакі на свае палосы, абмяркоўвалі на скорую руку толькі што чутае. Заброддзе і Бугайнік — як вырваныя стрэмкі, пасля якіх застаўся шчымлівы след. У некаторых ныла думка пра далейшае: «Гэта не канец яшчэ. Не дадуць спакойна пажыць людзям».

Галаскок з Юзікам пералічвалі ўжо хутаранцаў навакол Мядзведзіч і Дымаўкі, падлічвалі, колькі ў каго з іх лішняй зямлі.

— Тут у вас, здаецца, рэчка недалёка павінна быць? — запытаўся сакратар.

— А вунь, дзе тыя кусцікі.

— Не шкодзіла б пакупацца.

— Хадзем, я пакажу вам добрае месца,— падахвоціўся Сцёпка.

Песціць сонца вызваленае з-пад адзежы сасмаглае цела, жмурыцца сакратар ад яркага святла і сонечнай ласкі, пацірае касматую грудзіну.

— ...Ёсць у вас нядрэнныя хлопцы. Можна актыў згуртаваць... Камсамольцы нашы не прывыклі яшчэ гаспадарчымі справамі займацца. Спектакль наладзіць — гэта іх справа, а гаспадарку наладжваць — няхай тата робіць. А кулаку гэта і лафа — вальней без камсамолу бедняка апутаць... Член сельсавета ў вас размазня. Няўжо лепшага не знайшлі?.. Не праспіце перавыбараў. Абмяркуйце загадзя кандыдатуры. Згуртуйце вакол ячэйкі беднату, моладзь... Не папускайце серадняка пад кулацкі ўплыў, цягніце на свой бок...

І неяк дзіўна не пасавалі гэтыя сур'ёзныя, амаль дырэктыўныя парады з яго шчуплым голым целам, што песцілася ў сонечных праменнях. Здаравяк Сцёпка слухаў з павагай сакратаровы парады і чуў у іх сабе дакор, што ячэйка шмат чаго не зрабіла, што кулакі з сваімі хітрыка-

мі на чыстую ваду не выведзены, што здарылася бойка з дымаўцамі.

— Плаваць умееш?

— Пры рацэ жывучы ды каб не ўмець! — узрадаваўся Сцёпка, што скончылася напаўафіцыйная размова.

— Давай навыперадкі на той бок і назад.

Разлятаюцца, мільгацяць дыяментавыя пырскі, ускалыхваюцца да самага пескавога дна светлыя хвалі Брадзянкі, і дзве галавы — адна чорная і кучаравая, другая светлая і стрыжаная, гухкаючы, фыркаючы, набліжаюцца да кусціка аеру на тым баку.

## XXII

Булькоча вада каля каменя. Круціцца, віруе над чорнай ямінай за каменем. Пескавыя жоўтыя бакі яміны трацяцца ў цёмным дне пад вадзяною тоўшчаю, якой не можа праняць вока. Сядзіць дзед Агей без шапкі на камені. На такім камені яму, малому, і прылегчы можна б было. Ды дзе там! Сядзіць і не дыша. Не мігаючы, глядзіць на плавок, на галачку хлеба, што гойдаецца на кручку ля самага дна. З цёмнага прадоння яміны падплываюць часам на водмель галаўні — таўстаспінныя, тупарылыя, з чырвонымі, як жар, пёркамі. Вось-вось каўтане дзедаву галачку, і дзед загадзя адчувае ў далоні жывое трапятанне вудзільна. Ого, няма дурных! Нібы знарок, на прыкрасць дзеду, праплывае каля самай галачкі і нават носа не заверне. Яшчэ быццам дражніцца: хвастом зняважліва кране галачку і далей плыве — паважна, ганарліва. Але толькі шавяльне дзед вудаю, дзе ў яго тая і паважнасць дзенецца — так вільне, толькі ты яго і бачыў.

У дзеда ўжо аж спіна апруцянела і рука анямела, не ктатаючыся. Плюнуў, нарэшце, у самую яміну:

— А хоць вы павыпруджвайцеся! Трасцу, начаплю чарвяка, няхай акунь альбо пячкур есць, а вы аблізвайцеся.

Прыгравае сонца дзеду ў плечы. Намагаецца ён трымаць вочы расплюшчанымі, а павекі ўсё мацней зліпаюцца, плавок, як у тумане, плаўна гойдаецца на хвалях і зусім знікае. Вярзецца — не то сніцца, не то думаецца Агею пра тое страшнае, што здарылася з ім у асеннюю раніцу, калі ўсе Мядзведзічы ўзбуджаны былі пакражаю чацвярых коней. Як ён выйшаў тады з хаты раніцою і заўважыў, што на траве абагнаны іней і конскія сляды

пайшлі ад купкі алешніку на сенажаці проста ў вароты яго хлевушка. Як ён адчыніў хлевушок і адразу ўпёрся ў азадак Баранковага каня. Усе чацвёра коней былі папрывязваны да загарады, ледзь змясціўшыся ў яго маленькім хлевушку. Агей стаяў атрупянелы і не ведаў, што яму падумаць.

— Што, асалапеў? — крыкнулі недзе зверху.

Лыпнуў тады Агей угору, а з вышак звешваюцца чаравікі з жоўтымі крагамі, далей — шчуплы стан і твар Уладзіка. Побач з ім — няголены, шчарбаты, са шрамам на шчацэ, ляжыць жыватом на дошках яшчэ нехта. Звесіўшы галаву ўніз, ён сіпіць вясёлым з'едлівым смехам. Агей з пуду перахрысціўся і стаў адступацца задам з хлевушка. Але Уладзік спрытна саскочыў з вышак, схапіў дзеда загрудкі і паднёс рулю нагана пад самы нос:

— А вось гэта бачыў?

Дзед зразу асеў і зажмурыў вочы, чакаючы наглай смерці.

— Памятай: калі ты толькі каму-небудзь пікнеш, што бачыў тут коні або мяне, тады вось гэтага табе ўсё роўна не мінуць.— Уладзік пастукаў злёгку халоднаю сталлю дзеду ў лоб.

Уночы коні з хлевушка зніклі, праскочыўшы ў намацаную на граніцы дзірку, а дзед Агей усё яшчэ адчуваў халодны дотык сталі да лба, як дотык самой смерці. З таго дня яго бесперастанку мучылі нявыказаная таямніца і страх за сваё жыццё. Колькі разоў ён памыкаўся сказаць, нават намякаў, але на памяць усплывалі з'едлівы шчарбаты смех і дотык халоднай рулі, і Агей адразу прыкусваў язык.

Цяпер, прадзіраючы на момант вочы, Агей бачыў плаўнае пагушкванне плаўка, сонечнае мільгаценне на хвалях, чуў вясёлае булькатанне пад каменем. Не было ні асенняй раніцы з інеем на траве, ні халоднай рулі, ні з'едлівага сіпення шчарбатага гнілазубага рота: не было каго ўжо баяцца і не трэба было насіць у сабе цяжар вымушанага сакрэту. Вусны дзедавы складаліся ў ледзь значную ўсмешку задавалення, павекі зноў зліпаліся, і нос пачынаў торкаць, як плавок ад пяшкурынай валтузні з чарвяком. Ён не бачыў перамены ў рацэ навокал сябе, не чуў, што хвалі пад каменем булькочуць па-іншаму — мацней і зласней.

— Дзед!

— Дзед!!

— Дзед!!!

— Цягні, павяла! — крычаць з таго берага, і дзеда злёгку ўражаюць іх вясёлыя галасы і звонкі смех. Але раптам сам страпянуўся ўвесь:

— Сынку, лаві! Вуду лаві! Вунь на бервяне паплыла! Бусаком, бусаком яе! Эх, недарэка! Трэба было за бервяно чапляць.

У сумятлівасці абярнуў бляшанку з чарвямі, і яны, ружовыя і патанчэлыя, выцягваюцца ў струны, распаўзаюцца ў розныя бакі па гарачым камені, шукаючы сабе халадку і вільгаці. Брадзянка набухла і пацямнела. Закруціліся вадзяныя віхры. Імклівае і заклапочана, як на трывогу, бягуць па ёй таўсматыя камлістыя яліны, стройныя стрынгаляватыя красуні-хвоі, паблісквываючы мокраю і чырвонаю карою. Стукаюцца, як сляпыя, галовамі ў зацягнутыя ля берагоў адкосы, адхінаюцца на сярэдзіну, імчацца далей, падштурхваючы, падганяючы адна адну. Схлупяцца ў цесным месцы на заломе, стануць шчыльна ціснуцца бок да боку, аж пакуль не падбягуць плытнікі і не разарвуць залом бусакамі.

Вада плюскоча і віруе ля самых дзедавых ног. Адгарадзіла яму выхад на бераг. Ён, лаючыся, скідае порткі, задзірае кашулю і, аж па самыя худыя рэбры акунуўшыся ў імклівую прахалоду, брыдзе на бераг. Не ведаў, што сёння будуць прапускаць лес і ў саўгасе адчыняць заставкі.

— Дзед, злавіў акуня?

— З каня...

— А мо плотку?

— Хрэн табе ў глотку!

Плытнікі знарок дражняцца, ведаючы Агееў нораў. Цяпер ён на кожнае іх запытанне пра рыбу будзе адказваць трапнай рыфмаванай і нерыфмаванай пахабшчынай.

— Дзед, давай закурым!

— Табачок ваш, а бумажкі даш,— адказвае Агей, зразу палагаднеўшы.— Вось, сынку, казаў я тады — выйдзе праўда наверх,— лагодна пыхкае Агей цыгаркаю.— Вось яна і выйшла, на маім стала... Цяпер гэтага нашага рыжага — бяры поплiску ды лупі, як таго сабаку. Дарэмна людзей нявінных няславіў ды па судах цягаў...

Агей кожнаму сустрэчнаму ахвотна расказвае гэту радасную для яго навіну, пра якую гаварылі ўжо ў кожнай мядзведзіцкай хаце і якая вандравала па ўсім раёне, дзе Уладзіка даволі знал і даволі пра яго чулі. Затое Андрэй хадзіў як прышыблены, стараўся на вочы людзям не паказвацца, у гурт да мужчын не ішоў, каб часамі ніхто не

ўзняў гаворкі пра гэта. Калі хто пра кабылу папытаецца, адказ падрыхтаваў: «Злосны быў Уладзік, што з гаспадаркі яму нічога не прыйшлося. Сам з ім не бачыўся ні разу з дваццатага года».

Вестка пра тое, што Уладзіка злавілі, прыйшла невядома адкуль. Казалі, што чалавек з прымежнай вёскі сам на свае вочы бачыў і гаварыў пра гэта ў мястэчку на кірмашы. Хто чуў гэта на кірмашы ад чалавека, невядома, але чуткам паверылі зразу. Вестка гэта асабліва нікога не здзівіла і не ўстрывожыла: усе даўно чакалі, што ён калі-небудзь пападзецца-такі. Адзін Агей асцерагаўся яшчэ нейкі час, але калі пачалі ўсе гаварыць пра гэта і ні ў кога ніякага сумнення не было, тады і ён асмеліўся: расказаў пра коні, як яно што было.

Гаворкі ж у Мядзведзічах пра коні было шмат. Найбольш дзівіла тое, што ўкрадзена была і Каржакевічава кабыла. Некаторыя хацелі адмахнуцца ад гэтага, казалі, што Агей ужо здзяцінеў на старасць і сам не ведае, што пляце, але такіх было нямнога. Агей расказваў з такімі падрабязнасцямі і так хваляваўся, што не паверыць яму было цяжка. Успомнілі, што і тады, пасля суда Соміка з Наздрэйкамі, ён усё на штосьці намякаў, кажучы, што злодзея шукаюць не там і што праўда наверх выйдзе. Ведаючы Андрэеву спрытнасць і хітрасць, шмат хто думаў, што без яго ведама гэта не абышлося, але што ён з гэтага выгадаў — чорт яго ведае. Затое пра Соміка думка была больш пэўная: гад, дарэмна людзей валаводзіў. А ён ляскаў зубамі, як зацкаваны воўк, і агрызаўся на кожны напамінак пра гэту справу.

А з Уладзікам у прымежнай вёсцы было не зусім так ці, праўдзівей кажучы, зусім не так, як пра гэта дайшлі чуткі да Мядзведзіч. Невядома, ці наўмысна хто перайначыў, пусціўшы гэтыя чуткі, ці мо, пакуль дайшло да Мядзведзіч, яно неўзаметку так змянілася, што жаданае выдавалася за сапраўднае. Не так яно было якраз у самым галоўным...

Гналі пастушкі каровы на раніцу — трое хлопцаў. Вёска стаяла ў лагчыне, і калі яны выйшлі з каровамі на ўзгорак, убачылі, што там, дзе новая шаша перакрыжоўваецца з чыгункай, сядзіць чалавек. У яго ў руках нешта белае — няйначай папера. Але як толькі ён пачуў каровін рык і хлапецкі гоман, паперу зараз жа схаваў і дастаў з кішэні нешта другое. Пастушкі знарок прыгналі-

ся з каровамі каля самага гэтага месца, каб паглядзець, што за ён. Чалавек сядзеў на крушні камення, апранены ў палатаны, зрудзелы ад старасці, некалі шэры палітон. На галаве была старая, з зашмальцаваным аколышкам, чырвонаармейская шапка, лапці былі мокрыя ад расы. Каля яго ляжала аброць, а сам ён паволі жаваў аржаную скарынку.

З узгорка далёка відаць было жоўтае пескавое палатно шашы, роўнае, як струна. У лагчыне яно працінала наскрозь невялікі лясок, а далей узнімалася на суседні ўзгорак. Месцам кускі дарогі былі замошчаны, а найбольш па баках ляжалі крушні бітага камення.

Чалавек першы загаварыў да пастушкоў.

— Ці не чулі вы, хлопцы, можа, тут конь які прыблудзіўся? Ці, можа, бег па дарозе — гнеды з лысінкаю на лбе.

— Не бачылі,— косячыся на чужога чалавека, адказалі пастушкі.

— Другі дзень шукаю. Нядаўна я купіў яго на кірмашы ў чалавека з гэтага боку...

Пастушкі з каровамі схаваліся ў кусты, мо за паўкіламетра ад таго месца. Іх цюкнула, чаму гэта чалавек паперу схаваў, убачыўшы іх. Пачалі з-за кустоў цікаваць, што ён будзе рабіць далей.

Той устаў, паглядзеў у бок вёскі, агляну́ўся кругом, зноў сеў і, дастаўшы, разгарнуў паперу.

На здымку з двухвярстовай тапаграфічнай карты сінявятым алоўкам была адзначана новая шаша на працягу мо пятнаццаці кіламетраў. Паабапал было нанесена ўсё, што магло мець ваеннае значэнне і чаго не было на двухвярстоўцы: пасёлкі, што з'явіліся пасля рэвалюцыі (нават лічбай адзначана колькасць хат), новая цагельня, збудаваная толькі ў мінулым годзе, асушанае балота, што на двухвярстоўцы адзначана як непраходнае, нават асобныя дрэвы сярод поля і іншыя рэчы, якія могуць служыць арыенцірамі. Адным словам, усё тое, што так ці іначай можа спрыяць альбо перашкаджаць вайсковай аперацыі ў гэтай мясцовасці.

Правізаваўшы на рог лесу, ён хацеў нанесці яшчэ нейкую дэталь, як заўважыў: то хаваючыся ў лес, то паказваючыся з лесу (мусіць, там, дзе хвойнік быў занадта густы), у кірунку да вёскі бег хлапчук з торбачкаю на плячах. Сочачы вачыма за хлапчуком, Уладзік згарнуў не спяшаючыся карту і палажыў за пазуху. Пасля ўстаў і падаўся ў лес па вузкай дарожцы.Ісці ён таксама не

спяшаўся: пастушку да вёскі бегчы заставалася кіламетра паўтара, у вёсцы тэлефона няма, а да пагранічнай заставы кіламетры чатыры. Калі самі пачнуць яго даганяць, ды яшчэ ў лесе, дык не вельмі ён і спужаўся. Так ацаніў Уладзік становішча і ішоў сабе, насвістваючы нейкі неадчэпны матыўчык. Нават калі неўзабаве пачуўся лёскат кол, дык гэта яго не вельмі ўстурбавала: ведаў, што ў гэтай мясцовасці яго ў твар ніхто не знае.

З-за дрэў паказалася фурманка. Удвух сядзелі пораўні. У вясковым адзенні — тузаў лейцамі, падахвочваючы бегчы лядаштую цвілую каняжыну, а другі, у кепцы і крамным запыленым палітончыку, драмаў, лыпаючы вачыма, калі трэсла на карэнні. Уладзік, заўважыўшы на сабе пільны погляд фурмана, прыпыніўся:

— Ці не чулі, можа, тут дзе конь прыблудзіўся?

Той, што драмаў, зразу прачнуўся і ўтаропіўся вачыма Уладзіку ў твар, а рука яго без яго ведама сціскала моцна фурманова калена. Ніводзін не адказаў. Цяпер толькі Уладзік уважліва глянуў у твар таму другому і, ледзь усміхнуўшыся, пайшоў ад воза. Перад ім, як жывы, стаяў вучань гарадскога вучылішча Хмялевіч — вуграваты асмуглы твар, белазорыя ўважлівыя вочы. Гады яго вельмі мала перамянілі. А той разоў са тры абарочваўся ўслед Уладзіку, а потым узяў з рук фурмана пугу і пачаў старанна падбадзёрваць каняжыну.

Уладзік звярнуў з дарогі ў лес.

Гэты вуграваты і быў адзіным чалавекам, які (больш па голасе, як з выгляду) пазнаў Уладзіка ў прымежнай вёсцы. Першы ж чалавек, каму ён сказаў пра гэта, быў начальнік заставы.

## XXIII

Ідучы на поле, Якуб сустрэў на дарозе меншага свайго брата Косціка. Той вёз снапы на Каржакевічавым гнедым. Гнедага кусалі мухі і авадні, што роем віліся каля яго, бзыкалі каля самай мысы, забіраліся пад чэрава, сядзелі кучаю на самым кволым месцы, дзе нельга было дастаць абагнацца. Гнеды заўзята махаў галавою, церабіўся хвастом і нагамі і ўсё прыбаўляў ходу, пераходзячы ледзь не на бег. Воз гайдала па карэнні і выбоінах, і ён кожную хвіліну гатоў быў перакуліцца. Косцік напінаў лейцы ў сваіх малых руках, упіраючыся босымі, патрэсканымі ад закарэлай гразі нагамі ў гарачы пясок, але конь быў не

закілзаны і мала зважаў на Косцікава тпруканне. Якуб узяў каня за аброць і прыпыніў:

— Чаму гэта ты снапы вязеш?

— Гаспадар наклаў ды сказаў везці.

— А каровы дзе?

— У гурт пайшлі.

— Чаму?

— Ён кажа, што цяпер, як пайшлі па пакошы, і ў гурце пад'ядуць.

— Ты ж у яго за пастушка наймаўся.

— Ну дык што?

— А чаму ж ён прымушае цябе парабоцкую работу рабіць?

— Ён не прымушае, я сам захацеў. Вунь Казіку таксама чатырнаццаць год, а ён з бацькам усюды ездзіць: на сена і на снапы.

— Дурное ты... Каню рады не дасць, а падручаецца. Аж засопся, зараз бы плакаў.

— Дзіва што! Хаця б не заплакаў! — У Косціку загаварыў гонар, той самы, які падштурхоўваў яго ездзіць з гаспадаром на сена і на поле. Праўда, што Каржакевіч не прымушаў Косціка ехаць на поле, але Косцік не расказаў Якубу, як гэта так выйшла, што ён падахвоціўся ісці на цяжкую работу.

Аднаго дня ў Каржакевіча павінны былі жаць шэсць чужых жней. Жнеі былі ўжо «заробленыя», аджыналі за вінаватае: таму бульбы паўасмінкі даў вясною, таму мукі на хлеб — і цяпер Каржакевіч мог узяць іх, калі сам хацеў. Сваё пакідалі асыпацца, а да яго мусілі ісці, каб ласкі не страціць. Параіўшыся з жонкаю, Андрэй надумаўся разбіць жней на дзве партыі: так спарней работа, думаў ён, будзе ісці, а то ў вялікім гурце больш гаворкі будзе ды замінаць будуць адна адной. З аднаею партыяй павінна была ісці Андрэіха, а з другой Наталля.

— Калі пакінуць чужых жней адных, дык як захочуць, так і жаць будуць, а пры гаспадыні нябось пасаромеюцца,— сказаў Каржакевіч.

Але ў Каржакевіча і сена было яшчэ ў адным месцы на вазоў чатыры, трэба было падсушыць ды забраць. Вось тут і пад'ехаў Андрэй да Косціка са сваімі хітрыкамі.

— Куды гэта ты збіраешся? — запытаўся ён, калі Косцік узяўся за нож, каб адрэзаць сабе хлеба ў торбу.

Косцік глянуў яму ў вочы няўцямна: кожны дзень ён рэзаў хлеб, і гаспадар сам добра ведаў, куды ён цяпер збіраецца.

— Я ж каровы ў гурт выпусціў,— растлумачыў гаспадар.

Яшчэ больш здзіўлены, Косцік глядзеў Каржакевічу ў вочы, апусціўшы руку з нажом.

— Цяпер ім хопіць травы і ў статку,— адказаў гаспадар на здзіўлены Косцікаў погляд.

— А мне што рабіць?

— Што хочаш. Гуляй сабе, калі хочаш. Парсюку тут замяшаеш, курэй з ячменю паганяеш ды мяшай сабе кашку з маленькімі дзеткамі.

Косціка моцна абразіла гэта гаспадарова прапанова, асабліва пра кашу з маленькімі дзеткамі. Ён стаяў, насупленьі, ля акна і вадзіў пальцам па шкле, гатовы заплакаць.

— Казючок вунь, равеснік твой, на сена з бацькам ездзіць. Бацька падае, а ён калі выверпіыць воз, дык аж любата,— сказала Наталля.

— Дык то Казючок. Куды яму да Казючка. Той жа дужы хлопец,— падражніў гаспадар.

— Я вашага Казючка адною рукою жмякну,— адказаў Косцік, не адварочваючыся ад акна.— І на сене спраўлюся з ім.

— Ты толькі хвалішся. Сена ж ты і грэбці, мусіць, не ўмееш, а не то што воз таптаць.

— Вазьміце ж мяне сёння на сена, дык паглядзіцё.

— Яшчэ бацьку скажаш, што я цябе прымушаю,— закінуў Каржакевіч.— Але калі ты ўжо так намогся, дык едзь сабе са мною на сена. Парсюку я сам замяшаю, як прывязу сена ўдзень.

Дні праз тры хлапчо нацешылася з работы і рада б было аддыхнуць за каровамі. Цяпер пасвіць не цяжка: прыпусціў дзе на ржэўнік на добрую траву ды сядзі сабе.

— Нешта нашы каровы галодныя прыйшлі,— сказаў ён вечарам.— У Пралескі дык аж бакі паўпадалі. У пастуха, патом, не так пад'ядаюць. Можа, каб заўтра зноў асобна пагнаў?

— А ці я не казаў, што з Казючком табе не справіцца? Вось і нацешыўся ўжо з работы, а прасіўся — вазьмі мяне з сабою. Скардзіўся вясною, што пасвіць цяжка. Работу, брат, рабіць яшчэ цяжэй,— укалоў яго гаспадар.

Косцік зачырванеўся:

— Дык хіба я што! Я гэта пра каровы клапачуся. А ад работы я і заўтра не адказваюся.

Каржакевіч не першы год так робіць. Згодзіць падлетка за пастушка, той пасе ўсю вясну, пакуль пачнуць касіць

ды жаць, тады да самай восені робіць у Андрэя на сенакосе і на полі, як сталы парабак.

Якуб ішоў і думаў пра Косціка. Шкада было брата, што той мардуецца на рабоце не па яго сіле, але шкадаванне гэта было не самым моцным з цяперашніх яго пачуццяў. Яно перакрывалася шчымліваю крыўдаю, быццам з яго самога хто-небудзь наздзекаваўся, і ён не павінен гэтага дараваць. Не ўпершыню яму было тое, што Косцік наймаецца да людзей,— ён ужо трэцяе лета не дома; не ўпершыню і тое, што Каржакевіч наймае пастушкоў ды пасылае на іншую работу, але дагэтуль Якубу гэта ў вочы не кідалася. Цяпер раптоўная сустрэча з братам абудзіла ў ім вострае адчуванне крыўды і злосці. Тое малазразумелае яму слова — «эксплуатацыя», якое ён сустракаў у падручніку палітграматы і чуў зрэдку ў дакладах, цяпер упершыню набыло ў яго свядомасці свае яскравыя канкрэтныя формы ў выглядзе Косціка з патрэсканымі, босымі нагамі, з напятымі ў нядужых руках лейцамі, у выглядзе трох пудоў жыта, за якія згадзіў Каржакевіч Косціка на цэлае лета. Якуб адчуваў, што ён тут нешта павінен рабіць, што, апрача яго крыўды, тут справа кранае і яго самога як камсамольца, але што і як ён будзе рабіць, гэтага яшчэ выразна не ведаў. «Вось каб Сцёпка ці Шура, тыя б зразу ведалі, што тут зрабіць»,— думаў ён і хацеў сустрэць дзе-небудзь Сцёпку, каб пагаварыць з ім, але да вечара таго нідзе не сустрэў.

Вечарам у хаце для ўсяе сям'і была прыемная навіна. Учора бацька прывёз з млына мяшок мукі з новага жыта, і сёння на стале быў мяккі, свежы, пахучы хлеб. Маці ў градах знайшла тры агуркі, папрасіла ў суседкі конаўку квасу, пакрышыла ў квас агуркі і прыправіла калівам кропу. Сям'я дружна акучыла міску з квасам. Спрытна хадзілі лыжкі. Хлеб кусалі папоўніцы і, моцна сёрбаючы, праганялі яго квасам. Віцік з Манькаю аж траха не пабіліся ўжо. У місцы заставалася крышаноў з пяць агурка, і Віцік намерыўся зачэрпаць самы большы крышан — носік. Але, пакуль ён справіўся, носік апынуўся ўжо ў Маньчынай лыжцы. Віцік штурхануў яе локцем пад бок, а калі яна адказала тым самым, адвёў быў ужо лыжку, каб трэснуць па лбе. Маці якраз тут умяшалася, скубянуўшы яго за валасы.

Хлеб увачавідкі раставаў. Нават малое, седзячы на руках у маткі, сусліла скарыначку і яшчэ выцягвала ручку да хлеба.

— Вось паўбаханкі як і не было,— пашкадавала маці. Ёй ніхто нічога не адказаў.

— Віцька, годзе ўжо! — нарэшце крыкнула яна злосна.— Колькі таго хлопца, а есць як не ў сябе. Лопнеш яшчэ.

— Няможна нанач так наядацца,— сказала яна ўжо лагадней, бачачы, што ў яго навярцеліся слёзы.

— Няхай есць, усё роўна ўжо...— сказаў бацька, кладучы лыжку.

Якуб сам еў ужо чацвёрты кусок. Яму было балюча і сорам за гэту галодную прагавітасць усяе сям'і і самога. На памяць зноў прыйшла сустрэча з Косцікам.

— Я сёння Косціка бачыў,— сказаў ён ні да кога.— Дурны: каровы ў статак пусціў, а сам снапы возіць.

— Ён жа ці цеперся ўжо. На сена ж ездзіў,— адказала невыразна маці.

— А што ж, няхай патроху прывучаецца да работы. Вельмі, думаеш, ён там увярэдзіцца? — Бацька адчуваў тут сябе вінаватым і гэтым хацеў апраўдацца.

— Тузаецца, рады каню не дасць, аж ледзь не плача. Паблажэў нават за лета, толькі вочы блішчаць.

— Вядома ж не сваё, што гэта гаварыць! Ці гэта ж яму там догляд, думаеш? — пашкадавала маці.

— Прывучаецца... Дзякуй яму за такую навуку,— не сунімаўся Якуб.— Тры пуды на лета — дзе ж гэта відана? Ды яшчэ работу ўсялякую рабі яму, як сталы парабак.

— Добра і хлеба дома не есць, а тры пуды таксама нідзе не валяюцца. Хто б табе вельмі даў больш ды яшчэ наперад? Глядзі, якая подпірка была. Гэта ты аб адной цыбулі касіў бы, каб не гэтыя тры пуды?

Маці маўчала. Розумам яна далучалася да бацькі, але ёй шкада было Косціка.

— Ён мо налета пуд табе дасць, дык ты і на гэта згодзішся? Чаму ён у саюз не ішоў умову рабіць, што б яму там сказалі?

— Які гэта яшчэ саюз?

— Ёсць такі, што глядзіць, каб гэтакія Каржакевічы нас не абдурвалі.

— Дык ён і ў саюз у твой не пойдзе, і пастушка наймаць не будзе. Абыдзецца і без пастушка.

— А мы без яго таксама абыдземся.

— Языком. Ты разумны вельмі за бацькавым клопатам. Дык што ж я, па-твойму, рабіць цяпер павінен? — у гэтым распачлівым бацькавым выкрыку чулася і прызнанне Якубавай праўды, што сапраўды Косціку цяжка

ў Каржакевіча, і з платаю Каржакевіч іх крыўдзіць, і жаданне абараніць сваю праўду, што іншага спосабу няма, каб пракарміць сям'ю.

— Па-мойму, Косціка трэба сыскаць, а з Каржакевіча праз суд спагнаць тое, што ён па закону павінен заплаціць.

— Гэта праўда, зажыўлюся я вельмі! Буду паскудзіцца з чалавекам, а на весну прыпрэ, дык ідзі зноў да яго прасіць, у сабакі вачэй пазычыўшы. У каго ж ты вельмі ўхопіш? Табе абы языком хлебястаць.

— У камітэце ўзаемадапамогі возьмем, калі што якое.

— Ухопіш ты там.

— Як вы сабе хочаце, а на Каржакевіча я ўсё роўна заяўлю,— сказаў Якуб.

— Хіба ж ты сам і гаспадаром ужо думаеш быць? — спытаўся бацька.

— Нашто мне гаспадаром. Я толькі не хачу, каб нас абдурваў кожны, каму захочацца.

— А я ж таксама гэтак не хачу. Адна каманда павінна быць, а не сто. Калі ты ўжо бярэшся камандаваць, дык камандуй, кіруй усяею гаспадаркаю. Няхай і каманда твая будзе і клопат. Мяне ўжо можна хоць на сметнік выкінуць.

— Якуб, пакінь ты, не пераядай бацьку вантроб, яму і без цябе хапае,— умяшалася, нарэшце, маці.— Выдумаў чорт ведае што! Вельмі ты гэтым запаможашся! Не мы першыя, не мы апошнія. Неяк перагаруем лета, не так шмат ужо засталося.

— Не, няхай возьмецца, няхай папрабуе! Я хацеў бы, каб ён хоць год пакіраваў гаспадаркаю, як гэта лёгка. Што ж ён яшчэ бачыў? Хіба ён ведае, як з людзьмі жыць? Вось жыве за бацькаваю галавою ды выдумляе трасцу з хваробаю. Там яму нагавораць, падвучаць, а ён, дурны, і гатоў ужо. Я вось зараз век зжыву, ды нікому вока не запарушыў, а ён вельмі бярэцца замалада. Ты чалавеку цяпер прыкрасць зробіш, а прыйдзе яго пара, дык ён табе ў дзесяць столак адплаціць.

Бачыў Якуб, што бацька ўжо не скора сціхне. Пакрыўдзіўся, што Якуб быццам лічыць яго за няздатнага гаспадара, які не ўмее весці гаспадарку і дзяцей сваіх не шкадуе ды аддае на здзек. З практыкі Якуб ведаў, што гэта самае балючае месца ў бацькі, што ён цяпер доўга будзе скардзіцца, будзе гаварыць жаласныя словы, ад якіх і злосць, што бацька не так яго разумее, і плакаць хочацца, бо шкада бацькі, хваравітага і змучанага жыццём. Каб не чуць усяго гэтага, Якуб ускінуў на плечы бравэрку

і выйшаў з хаты. Начлежнікаў яшчэ не чуваць было едучы. Ён зняў ля дзвярэй пута з калка, якое павесіў рана, каб прасохла, выйшаў на вуліцу і сеў на прызбе.

У хаце чуваць была ціхая гамонка. Гаварыў больш бацька, а маці толькі калі-нікалі ўстаўляла некалькі слоў. Не разабраць было, што гавораць, але Якуб ведаў, што гэта гавораць пра яго нячуласць, што ён не спагадае бацьку і яшчэ гатоў нарабіць клопату, заняўшыся з Карбакевічам. Жаль падкрадваўся ціха да Якуба. На хвіліну нават выплыла нешта накшталт раскаяння: а мо не варта было бацьку гнявіць? А калі Косціка сарвеш ды з Каржакевіча нічога не спагоніш, тады на бацькава выйдзе і заўсёды прыйдзецца слухаць упікі. І чаму гэта так? Нават сын з бацькам неаднакава думаюць.

Яму прыйшоў на памяць зімовы выпадак, калі ён не ўстаяў проціў бацькі, пашкадаваў яго і паехаў у лес красці хвойку. А назаўтра, ля калодзежа, як яму сорамна было перад Шураю! Тады ён у думках дзякаваў Шуры, што яна не сказала Сцёпку, што не разбіралі гэтай справы на ячэйцы. Але калі другі раз ён скапыціўся, пусціўшы Вольку да Піперманіхі, тады Шура першая падняла гэта пытанне на ячэйцы і першая галасавала за суровую вымову. А што ж бы цяпер Сцёпка з Шураю сказалі пра яго сённяшнюю гаворку з бацькам? Бясспрэчна, яны б былі за яго, а не за бацьку. Значыць, ён правільна надумаўся рабіць, як і трэба камсамольцу. А калі ён яшчэ цвёрда не вырашыў, дык гэта толькі таму, што яму шкада бацькі — старога, хворага, запужанага змалку бедака. Гэта пупавіна цягне яго ў другі бок ад Сцёпкі з Шураю, ад ячэйкі, ад сваіх уласных перакананняў. Калі падавацца за ёю, дык ён заўсёды будзе ў супярэчнасці з самім сабою, будзе блытацца ў самых простых пытаннях і ніколі не будзе добрым камсамольцам, якім ён шчыра хоча быць. Ён зайздросціў у гэту хвіліну Сцёпку. Мяркуючы па тым, як Сцёпка заўсёды гаворыць і робіць усё цвёрда і ўпэўнена, Якуб думаў, што ў таго ніколі такіх хістанняў не бывае.

А з хаты ўпярэмешку з плачам малога ўсё яшчэ чуваць быў развярэджаны хваравіты бацькаў голас, які нудлівым болем адгукваўся ў Якуба недзе пад сэрцам.

У канцы вёскі пачуліся, спачатку невыразныя, галасы, якія, што далей, усё мацнелі і множыліся. Заржаў нечы конь. Некалькі галасоў нясмела завялі песню:

Арабі-арабінушка,
арабі-арабінушка,
раскудравае дзераўца...

Галасы смялелі і гучнелі, песня мацнела і разлягалася па вёсцы, пакрываючы рып жураўлёў і заклапочанае ноканне. Гэтыя гукі прыспяшылі канец Якубавага роздуму. «Усё роўна ж не паддамся Каржакевічу»,— падумаў ён, апрануў бравэрку ў рукавы і пайшоў у хлеў браць каня.

## XXIV

Шапка Юзікава ссунута на патыліцу. З-пад яе выбіліся на лоб вільготныя пасмы валасоў. На іх густа асядае пыл. Рухі Юзікавы заложныя і рытмічныя, прынароўленыя да доўгай і цяжкай работы. Мерна ўзлятае над галавой цэп, мерна апускаецца на пасад снапоў. Але біч не дае моцнага гуку, пасад толькі што пасаджан, і біч толькі шастае, падаючы на сухія натапыраныя гарашыны. З разлузаных пад бічом струкоў скачуць гарашыны, стукаючы ў сцены, у застаронак, раскочваюцца па таку — буйныя, жаўтавата-белыя.

Не любіць Юзік гэтай работы. Не таму толькі, што яна вельмі цяжкая: няспорная надта. За пусцяковыя вынікі траціцца чорт што сілы і часу. Гваздом сядзіць гэта думка ў Юзікавай галаве і яшчэ горш адбівае ахвоту ад гэтай работы. Але як пераможа сябе, раскалышацца, разагрэецца трохі, дык і гопкае, аж пакуль зноў які-небудзь перапынак.

Прайшоў раз па пасадзе з канца ў канец, шчыльна кладучы на гарашынах удар каля ўдару, прайшоў другі раз назад, б'ючы таксама шчыльна, але накрыж з першым разам, пайшоў трэці — і тады ж пачаў даваць біч глухі гук, прыбіваючы да току абмятыя гарашыны. Ад гэтага трохі лягчэй стала. Перавярнуў на другі бок, разоў пяць ударыў, і раптам лёгка стала ў руках: біч адляцеў ад цапільна, узляцеў высока над галавой і бразнуўся на ток. Узяў Юзік біч, пакруціў у руках і паставіў у кутох разам з цапільнам. Ускінуў на плечы палітон і на хвіліну задумаўся.

Парвалася сырамятная прывязка, трэба было ісці ў хату па нож, каб прарэзаць пяцельку. Палуднаваць было яшчэ трохі ранавата, але ісці ў хату, а потым ізноў у гумно, а там пасад які збі ды на полудзень...

Зачыніў гумно і па загуменню падаўся на канец вёскі, дзе гула малатарня. Гэты гул з самага ранку турбаваў яго, яшчэ горш уцінаў яму рукі. Яго цягнула пайсці пагля-

дзець, як ідзе сёлета Каржакевічава малатарня, глянуць ёй у сталёвыя зубы барабана, узяць на пробу некалькі каласкоў саломы, пацерці на далоні — ці не пакідае зярнят. А разам з гэтым трошкі пахваляваца і памарыць.

Ці цеперся носіцца Юзік са сваім намерам. Хоць бы малатарню пакуль што ды арфу. Летась яшчэ з'явілася ў яго гэта думка пра машыннае таварыства. На сваёй скуры выведаў усю невыгоднасць малацьбы цэпам. Аж да Каляд летась гопаў (калі адзін, калі з бацькам удвух), пакуль памалацілі. А малатарняю — за тры дні можна было ўхадзіцца. Асабліва акалот даўся ў знакі. Добра папабіраўшы, змалоціш капу за дзень, а жыта, калі чыста выкалачана, і пуда не намалоціш. Змалоцяць колькі коп, звеюць, памераюць — тады Юзік падлічвае, колькі выходзіць жыта на кожны рабочы дзень. Фунтаў каля дваццаці пяці, не больш выходзіла. У лес пайшоўшы, куды больш можна б было зарабіць. Але ж шкада пакідаць немалочанае... ды людзі б смяяліся... ды мышы б салому ўсю сцерабілі. Не хацелася наймаць у Каржакевіча малатарню, але намякнуў быў раз бацьку. Ну, той — ні блізка. «Аддай гэтулькі за малатарню, а потым сам без работы хадзі. Неяк памалоціцца пакрысе». Прабаваў падбіваць сяго-таго на таварыства, ды позна агледзеўся: некаторыя Каржакевічаваю малатарняю памалацілі, некаторыя цэпам да палавіны ўгопаліся — траха што і не знайшлося ахвотнікаў. Затое сёлета ўзяўся яшчэ загадзя. Прыходзіў то да таго, то да другога, пачынаў здалёк, пераводзіў гутарку на малацьбу і тады пускаў у ход дваццаць пяць фунтаў жыта, што летась прыйшліся яму на кожны рабочы дзень малацьбы, і падлічваў бюджэт часу і вырабатку таго, з кім гаварыў, падлічваў, што заробіць Каржакевіч за зіму з малатарняю. Чалавек некалькі згадзілася. Некаторыя яшчэ думалі, але ў Юзіка была ўжо ўпэўненасць, што таварыства будзе. Цешыла яго і тое, што сёлета і Сцёпка ўзяўся за гэту справу. Летась ён неяк мала і ўвагі аддаваў гэтаму. Трохі саромеўся, што багацейшыя будуць зубы скаліць (колькі тае малацьбы, а і ён малатарню хоча купляць!»), а трохі таму, што яму не так і цяжка было перабіць за зіму сваю крыху. Але сёлета ён іначай глянуў на гэту справу. Ён скеміў, што гэта падарвала б моц Каржакевіча, вызваліла б шмат каго ад яго ўплыву і паставіла б нават напоперак Каржакевічу тых сераднякоў, якіх удасца ўцягнуць у таварыства. Вось чаму Сцёпка, асабліва пасля прыезду ў Мядзведзічы сакратара райкома, узяўся за гэту справу не горш за Юзіка. Прабаваў нават на ячэйцы гэта пытанне ставіць,

каб мабілізаваць камсамольцаў, але вынікі ад гэтага былі пакуль што не вельмі вялікія. Справа ў тым, што самі камсамольцы непасрэдна ўзяць удзел у арганізацыі таварыства не маглі. З іх адзін толькі Сцёпка і быў самастойным гаспадаром, у якога дома была толькі старая маці ды брат, малодшы за яго на два гады. Самае большае, што маглі зрабіць камсамольцы, гэта агітаваць за таварыства, але не заўсёды гэта агітацыя мела поспех, часамі прыходзілася пераносіць кпінкі і насмешкі.

У Юзіка і самога было яшчэ далёка не ўсё гладка. Дагэтуль ён яшчэ не ўламаў бацьку згадзіцца на таварыства. У таго быў свой погляд на гэту справу. Пра тое, што малаціць цэпам — не варта шкурка вырабу, стары і слухаць не хацеў. «А што ж будзеш рабіць цэлую зіму?» — такое чуў Юзік кожны раз на свае довады. Але, калі ён пачынаў падлічваць, колькі Каржакевіч бярэ за зіму хлеба за малатарню, у старога гарэлі вочы незадаволенай прагнасцю, і ён з гэтага рабіў свой вывад:

— Во, каб жа сабраўся ды купіў адзін, дык я ведаю. А гуртам хіба яе глядзець будуць, як сам гаспадар? Там стукне, там грукне, папсуе, зломіць і вінаватага не знойдзеш. Ды што гэта за выгранка вельмі? Калі б і зарабіў што, раскінеш на гурт — колькі там чаго прыйдзецца?

Ведае Юзік, што ніколі таго не будзе, не купіць бацька адзін малатарні. Калі б нават і ўдалося выціснуць з гаспадаркі патрэбныя для гэтага сто восемдзесят рублёў, дык ніколі не хопіць у старога адвагі аддаць зараз гэтакую кучу грошай. Але яму люба пра гэта памарыць і пагаварыць, і яго зусім не цягне ў «хвалёнае Юзікава» таварыства. Таму Юзік ведае, што на пай грошы ў бацькі цяжка будзе выдраць. І хоць ён першым запісаўся ў члены таварыства, не ведае яшчэ, дзе дастане патрэбныя грошы. У пазыкі ісці прыйдзецца да каго-небудзь, ды не вельмі ў каго і ўхопіш.

«Утраціў аднаго пайшчыка»,— падумаў Юзік, калі падышоў бліжэй і пазнаў, што малатарняю малоціць Баранок. Колькі разоў ён прабаваў сватаць Баранка. Той як бы крыху падаваўся нават, і раптам вось...

Нязмораныя яшчэ коні ідуць зладжана і мерна, як гадзіннік. За дышлем прыводу хлапчук-паганяты памахвае на іх доўгімі рукавамі бацькавай світкі. Машына пераходзіць на высокія ноты, патрабуе злосным і праразлівым гудам, калі Тодар мала дае ў яе зубатую пражэрную зяпу, і прыглушана прагна мармыча, калі дасць ёй папоўніцы. Белыя Тодаравы вусы сталі зусім чорнымі ад пылу.

Пыл навіс на брывах, на вейках, у ноздрах — хоць ты камінара запрашай. Вочы чырвоныя, параз'яданыя пылам. Пошта спрытна хапае пададзены Волькай на стол развязаны сноп, прывычным рухам разгортвае яго на стале і стараецца даваць у цапы раўнамерна, каб машына не давала перабояў.

— Сто-о-ой! — камандуе ён паганятаму, тармозячы машыну снопам ячменю.

Перапынак, сцірта скончана.

— Закурвай!

Тодар адхарквае і плюе густою чорнаю слінаю. У Волькі толькі вочы блішчаць, рот і нават нос завязаны хусткаю. Яна спяшаецца на прыгумень, каб вольна падыхаць паветрам.

— Нямнога ўжо ячменю, капы паўтары засталося,— падбадзёрвае Баранок, выграбаючы амецце.— Палуднаваць пойдзем ці будзем канчаць? Як машыніст скажа?

— Ды ўжо ж трэба скончыць. Папалуднаваўшы, ячмень зберацe з тока, ды яшчэ аўса ўмалоцім трохі сёння.

«Машыніст» — гэта Тодар Пошта. Да яго сёння — павага і паслушэнства. І «пустым млыном» ніхто не абзывае. Ён сёння — галоўны. Невялікая, праўда, спецыяльнасць у цапы падаваць, але ж на яго гаспадар малатарню давярае.

Не любіць сам Каржакевіч пыл глытаць. Малатарню ў заработкі пускае, але з нанятым «машыністам», якому плаціць падзённа.

— Колькі за малатарню ўзяў? — пытаецца Юзік, даючы Баранку прыкурваць.

— Пяць пудоў сказаў.

— За два дні ўходзіцеся?

— Дзе бачыў, тры дні зойме.

— Пятнаццаць пудзікаў,— падлічыў Юзік.

— Што ж ты зробіш,— апраўдваецца Баранок.

— А я вам раіў, як зрабіць. Да гэтых пятнаццаці пудоў трохі прыкінуўшы, дык і свая малатарня была б.

— Я падумаў — пакуль яно што будзе, а тут пагода сухая, добра і змалаціць за пагоду... Ды і страх мяне нешта апанаваў. Каб адно малатарню, дык бы такая справа, а то ж вы і яшчэ нейкія машыны думаеце купляць — сеялкі, веялкі. Улезеш у даўгі, тады і гаспадаркаю не аплацішся.

— Збаяўся, дзядзька! А мы ж думаем заўтра сход склікаць, а ў аўторак у Мінск па малатарню ехаць.

— Едзьце здаровы! Калі ў вас добра пойдзе, дык і я, можа, потым далучуся.

— А колькі табе Андрэй плаціць? — запытаўся Юзік у Пошты.

— У мяне мера і вера: пуд у дзень давай,— пахваліўся Пошта.

— Не такая ўжо і вялікая мера,— засмяяўся Юзік.

— Дай жа большую.

— А што ты думаеш, мы больш бы далі. Ідзі вось да нас у таварыства, дык плата платаю, а на пай яшчэ нешта прыпадзе.

— Э? — недаверліва глянуў Тодар.— А што ж, каб узяў ды пайшоў. Сход у вас заўтра, кажаш, будзе? Прыйду паслухаю... Вось Андрэю не ў нос будзе! — Тодара пачынала захапляць перспектыва лепшага заработку і навізна справы.

— Грамабой жа збіраўся сёлета купляць, здаецца? — спытаўся Баранок.

— Я чуў, што не будзе,— адказаў Тодар.— Таварыства спужаўся. Купі, кажа, ды будзеш стаяць без работы.

— Давайце малаціць, а то есці хочацца,— увайшла Волька.

— А, прагаладалася!.. Вось зараз як фукнем, дык і ўсё будзе,— паабяцаў Тодар, становячыся да стала.

Ідучы дадому, Юзік убачыў у адчыненыя насцеж вароты Аўдолю. Перакінуў нагу цераз плот, падышоў.

— Памагай бог!

— Казаў бог, каб і ты памог,— у тон яму адказвае Аўдоля, не пакідаючы малаціць.

— Што табе памагаць. Ты і сама, як малатарня тая. Капы з паўтары выбіла сёння?

— Вось сказануў! — смяецца тая.— Карове няма чым падаслаць, дык снапоў з дзесяць на салому збіла.

— Колькі там у цябе малацьбы, а на паўзімы хопіць з цябе. Малатарняю б — за адзін дзень.

— Няхай ён згарыць! Не бачылася я пяць пудоў яму даваць!

— Ты да нас у хаўрус ідзі, дык мы дарэмна табе змалоцім,— закінуў Юзік вуду.

— Прымі без грошай, дык пайду.

— Без грошай, бач, малатарні не даюць.

— Дык залажы за мяне.

— Я сам не ведаю, дзе ўзяць грошай на пай. Бацька ж не дае.

— Што твой за бацька гэтакі! Узяў бы ты яго за бараду ды скалануў добра,— жартуючы раіць Аўдоля.

— Калаці не калаці, грошай усё роўна не выкалаціш. Табе дык і ў пазыковым таварыстве дадуць... Ты ж сама гаспадар. Гэта мне без бацькі не дадуць.

— Баюся ў даўгі залазіць.

— Прыходзь заўтра на сход, можа, ты яшчэ за ноч абдумаешся,— запрашае Юзік на ўсялякі выпадак.

## XXV

Прыйшоўшы дадому, Юзік застаў у хаце Шуру. Яны былі толькі ўдзвюх з Зосяю. Старыя яшчэ зранку паехалі ў мястэчка. Серада сёння, кірмашовы дзень: старая павезла місачку масла і пару куранят, стары ўскінуў жыта з асміну. Што купляць будуць, не казалі, але Юзік дагадваўся, што старой на чаравікі будуць набіраць. Ён падумаў, што ў Зосі таксама палатаныя чаравікі, зараз зусім разлезуцца, але без вайны з бацькам зрабіць іх ніяк нельга было, а пачынаць цяпер вайну за чаравікі яму не хацелася. Спадзяваўся, што зімою ў лесе здарыцца зарабіць.

Зося нешта шыла, а Шура сядзела з другога канца стала. Яна абы-што гаварыла з Зосяю, гартала газету, нібы прабавала чытаць, але ёй не чыталася.

Уся яна свяцілася з нутра ціхай радасцю, якая ёй не давала ні на чым спыніцца. Яна знарок чакала Юзіка, каб з ім развітацца і падзяліцца сваёю радасцю. Прычыну для прыклепу выдумала:

— Насілу я цябе дачакалася. Запрацаваўся вельмі,— сустрэла яна Юзіка.

— А я сёння больш гуляў, як рабіў,— адказаў Юзік.— Што ж у цябе за патрэба такая пільная да мяне?

— Можа, ты мае кнігі прачытаў?

— Адну прачытаў, а другую толькі пачаў яшчэ.

— Ну дык тая няхай застаецца, а другую я з сабою вазьму, можа, яна там мне спатрэбіцца.

— А куды ж гэта ты збіраешся?

— Заўтра ў Мінск еду. Учора ж мне паведамленне прыслалі, што прынялі ў тэхнікум.

— Я бо гляджу, што дзяўчына, як сонца, ззяе,— аж у хаце святлей стала.

— Гэта ж ад Зосі, мусіць. Ад мяне пацямнець павінна, я ж чорная.

— Ці гэта ж твая маці папраўілася ўжо? — спыталася Зося. Яна знарок загаварыла пра другое.

— Як яна папраўілася! Ходзіць трохі, не так, як летась. Шкада мне яе пакідаць адну, але і чакаць няма куды. І так год утраціла. Зараз бабуляю стану, дык і вучэнне не наўме будзе.

Юзік крадком глядзіць на жонку і на Шуру, мімаволі параўноўвае ў думках. Ловіць сябе на думцы, што, каб прыйшлося выбіраць між дзвюх, дык невядома яшчэ, каторую выбраў бы. Яму хочацца чуць Шурын голас, хочацца, каб яна глянула на яго.

— Вазьмі ж сваю кніжку, каб не забылася,— дастае ён з трамы.— А можа, і тую аддаць?

— Няхай тая застаецца. Калі-небудзь перашлеш, як прачытаеш.

— Ды я і сам неўзабаве ў Мінску буду, то магу прывезці.

Зося ловіць яго доўгі погляд на Шурыным твары, хмурнее і ўстае з лавы:

— Абшэвак няма з чаго зрабіць. Трэба пайсці пашукаць,— і выходзіць у сенцы.

Юзік глядзіць на Шуру з сумнаватаю ўсмешкай:

— Значыцца, пакідаеш нас назаўсёды?

— Як гэта назаўсёды? Мне ж чатыры гады вучыцца. Кожнае лета буду прыязджаць, памагаць вам вёску катурхаць.

— Заўсёды так: толькі з'явіцца чалавек, які сам штонебудзь разумее і другіх можа павесці за сабой, як яго ўжо і няма ў вёсцы. Пырх і вылецеў.

— Вось правадыра знайшоў! — засмяялася Шура.— Ты так бядуеш, як быццам і сапраўды тут без мяне нікога не застанецца. А Сцёпка, а Якуб, а ты, а ячэйка ўся, а сельсавет? Уцягвайце больш людзей у работу, штурхайце Мядзведзічы пад бакі, каб яны не спалі.

— Жанчыны нашы сіротамі застануцца. Хто цяпер цябе тут заменіць?

— А чаму б і Зосі не ўзяцца лепш за гэту работу? Я ёй сёння казала пра гэта. Няхай удзвюх з Аўдоляю. Тая баба не дурная, каб большай граматы... Ну, мяне ж дома чакаюць... Бывай здароў! — падала яна руку.

Юзік затрымаў яе руку ў сваёй, глянуў зблізку ў самыя вочы.

А яна глядзела яму ў твар проста і даверліва, чакаючы, можа, ён яшчэ што скажа.

Насілу перамог сябе, каб не прыцягнуць да сябе і не пацалаваць яе даверлівую ўсмешку. Напэўна, здзівілася б, нават спужалася б, можа, замкнулася б у халоднай непрыступнасці. А можа, палічыла б за звычайнае цёплае развітанне?

Нехаця выпусціў руку:

— Жадаю табе... чаго ты сама сабе жадаеш,— і пайшоў у сенцы ўслед за ёю.

Зося стаяла над адчыненым куфрам і перабірала кусочкі паркалю.

— Ну, Зоська, будзем жывы,— падышла да яе Шура.— Можа, не давядзецца ўбачыцца да ад'езду, заўтра ж мы ранелька выязджаем. Не забудзься ж, што я табе казала.

Узяла Зосіну руку і шчыра пацалавала ў вусны. Спынілася на момант вачыма на Зосіным стане.

— Глядзі, каб напісала... акцябрыць прыеду,— дадала з цёплай, трохі сарамлівай усмешкай і выйшла, мільгаючы загарэлымі стройнымі нагамі.

З Юзікавага твару яшчэ не сышла развітальная ветлівая ўсмешка.

— Ну, я ж палуднаваць прыйшоў,— падышоў ён да Зосі.

— Чаму ж ты хоць не пацалаваўся на развітанне? — спыталася яна, не адказваючы на яго словы.

— Чаму ты так кажаш?

— Так сабе. Заўсёды ж, развітваючыся, цалуюцца.

— Не так сабе. Бачу, што ты ўжо гневаешся за Шуру. Смешная ты, выдумала невядома што.

— Я не сляпая, брат, бачыла, як ты ласа глядзеў на яе.

Юзік трохі збянтэжыўся:

— А ты хочаш, каб я воўкам глядзеў на яе ці мо каб зусім не глядзеў?

— Ну прызнайся, Юзічак, любіш ты яе трошкі?

Ён абняў яе за плечы:

— Дурненькая, глянь жа ты мне ў вочы, што яны табе кажуць?

— Брэшуць,— сказала яна, ужо смеючыся.

— А што ж, можа, ты мяне і не любіш ужо,— пачала яна памаўчаўшы.— Я ж вунь якая стала, як капа. На твары плямы нейкія з'явіліся. Куды мне да Шуры!

— Але што ты да мяне з гэтай Шурай прычапілася! Што ж я такое зрабіў або сказаў? Хіба я ўжо і гаварыць з ёю не павінен, што яна харошая дзяўчына?

Зося хвіліну падумала:

— Хто яго ведае, ці гэта я адна такая дурная, ці яно так і трэба. Сама ж я бачу, што і харошая яна, і разумная.

Як падумаеш, чаму ж яе не палюбіць, хоць бы, скажам, і табе? Каб я хлопцам была, дык больш, здаецца, ніколі б і не кахала, як яе. Але гэта толькі як падумаеш, а на тую пару дзе тыя і думкі дзенуцца! Найлепшай прыяцельцы вочы выдрала б. Калі тут, як ты кажаш, нічога ж і не было такога, а і то кальнула.

— Дык, можа, адлягло ўжо трохі? — засмяяўся Юзік.

— Дай руку! Скоранька! Паслухай, што яно выраб-ляе,— прылажыла яна яго руку да жывата.— Гэта, брат, мая падмога: удваіх мы Шуру перасілім, патом, быць не можа!

— А пакінь ты ўжо пра Шуру.

— Зайздрошчу я ёй. Маладая, вясёлая, вучыцца едзе. Усё ў яе наперадзе. А тут жыві ды бойся, хадзі ды аглядайся, як між звар'я між якога.

— Раскісла ты зусім. Можа, табе нездаровіцца?

— Страх мяне бярэ, як падумаю, што мне зноў прыйдзецца перацярпець. Яна ж бы з'ела мяне, каб прымела. Баіцца ўсё, хаця б гаспадаркі ў Піліпкі не адабралі. А па мне няхай бы яно згарэла тут усё. Вочы б мае не глядзелі.

— Не набірай сабе ў галаву. Цяпер жа не дваццаты год. Я ж з табою цяпер, у крыўду не папусцімся.

— Баюся, Юзічак. Вельмі ж мне зняверылася з першым дзіцем. Гатовы зноў управіць. Так і не агледзішся, як штуку ўстроіць. Ды апрыкрала ўсё. Яшчэ як не ведала, што можна і лепш жыць, дык думалася, так яно і трэба. А як наслухалася тваіх ды Шурыных гаворак пра новае ды пра лепшае, дык ніводнай хвіліны, здаецца, не жыла б тут. Выцягні ты куды-небудзь мяне з гэтага пекла, а то я не вытрымаю.

— Куды ж цябе выцягнуць? На лепшае, на гатовае? А хто ж яго нам нагатаваў? Тут самім трэба рабіць лепшае, у гэтым пекле. Само пекла перарабіць так, каб яно не было больш пеклам, каб нам не прыходзілася хапацца зубамі за кожны лахман, жыць у вечным страху і клопатах — а што ж будзе з нашым дзіцем, калі мы памром. Ці не прыйдзецца яму жабраваць ісці? Чым больш мы будзем самі рабіць, тым хутчэй мы можам спадзявацца на гэта лепшае.

— А як ты яго пераробіш вельмі? Гэта сказаць толькі лёгка.

— Навучаць, пакажуць, накіруюць, толькі самім не трэба рукі апускаць. Калі толькі нудзіцца па лепшым, а не рабіць яго, дык з гэтага нічога не будзе.

— Зрабі, папрабуй. Вось упёрся бацька, не хоча хаўруснай малатарні, і што ж ты яму зрабіш?

— Зраблю. Калі наважыў, дык на сваім пастаўлю. Гэта з табой нешта нейкае стала. Ніколі ж гэтага не было. Мусіць, што Шура ад'язджае. Думаеш, ёй без клопату ды без турботы само ўсё даецца? Не сумуй, і наша яшчэ ўсё наперадзе,— прытуліў ён яе да сябе.

— Глядзі, добрыя табе з гэтага абшэўкі будуць? — глянула яна цераз плячо яму ў вочы, паказваючы кусок паркалю. Востры сум, выкліканы непакоем за тое, што яна насіла пад сэрцам, і Шурыным ад'ездам, патроху раставаў ад бадзёрых Юзікавых слоў, ад цеплаты і дужасці яго грудзей, да якіх яна прытулілася. Яна зноў варочалася да штодзённых дробных клопатаў, а разам з гэтым варочалася ёй звычайная для яе раўнавага і бадзёрасць.

— Добра будзе,— адказаў Юзік, не ўглядаючыся вельмі ў тое, што яна паказвала.— Зачыняй куфар ды будзем палуднаваць.

## XXVI

Выгадная прызба ў Сцяпана Варанца. Хоць патраціў чуць не цэлы дзень (праўда, у той дзень іншай работы ў Сцяпана траха што і не было), але прызба выйшла — над усю вёску. Не тое, што ў другіх, каб сесці, дык трэба ў тры пагібелі сагнуцца, а калені аж у бараду ўпіраюцца. Аполкі паложаны ўгору пілаваным бокам ды яшчэ пагабляваны, каб стрэмкі часамі непрыемнасці каму не нарабілі.

Любіць Сцяпан пасядзець на прызбе, пасмактаць люльку ды папляваць у пясок перад прызбай. А тут само плыве на памяць, як ён дзе быў некалі, што рабіў, што з кім цікавае здаралася. Калі здарэнне было так сабе, не вельмі што, дык і падхлусіць можна што-небудзь, абы яно яскравей ды цікавей выходзіла. І не стараецца вельмі Сцяпан, не моршчыць лоб, каб выдумаць што-небудзь,— само вярзецца. Толькі каб было каму слухаць ды аддзякаваць Сцяпану вясёлым смехам захаплення.

Толькі выняў Сцяпан капшук, каб закурыць, пачаў прачышчаць цыбук прывязаным да капшука драцяным протарам, як спыніўся каля яго Баранок.

— А няхай яго паралюш! Колькі таго, здаецца, плуга, а ўсё плячо адмуляў,— паскардзіўся ён, ставячы плуг каля прызбы.

— У каваля быў?

— Але, нарог падвостраваў, пута падкараціў трохі.



Кандрат Крапіва пасля заканчэння Гатчынскай школы прапаршчыкаў. 1916 г.



Алена Канстанцінаўна з дзецьмі ў эвакуацыі.
г. Уральск, студзень, 1942 г.



Жонка
Алена Канстанцінаўна.
1942 г.



Кандрат Крапіва
з жонкай і дзецьмі.
1945 г.



Школа, дзе вучыўся Кандрат Крапіва.
в. Узда, 1965 г.



З Пятром Глебкам.
Ждановічы, 1962 г.



На дачы.
Ждановічы, 1963 г.



Кандрат Крапіва са сватамі.
Ждановічы, 1971 г.

Сцяпан натоптвае люльку і моўчкі перадае капшук Баранку, пакуль той вымае з кішэні пакамечаную газеціну.

Неўзабаве падышоў Пошта. Натапырыўшы вусы, уважліва агледзеў плуг.

— Ні к чорту не варты гэтыя плугі. Вось, бывала, Міхась-каваль калі зробіць плуг!..

— Ты ж ці памятаеш добра Міхася-каваля? — недаверліва пытаецца Сцяпан.

Убачыўшы трох мужчын разам ды яшчэ плуг каля іх, рэдка хто мог уцярпець, каб не падысці і не пацікавіцца. А падышоўшы, уцягваўся неўзаметку ў гутарку і садзіўся, невыразна адчуваючы, што яму яшчэ муляе нейкая невялікая работа, якую трэба зрабіць да вечара.

— ...А то было раз, як я за краўца яшчэ вучыўся, чаляднікам быў у гэтага Банадыся дымаўскага. А ён жа, дарма шо касавокі — другі і відушчы таго не дакажа...

Сцяпан, пасмоктваючы люльку, лагодна глядзіць на паркан цераз вуліцу і, здаецца, бачыць праз яго таго самага дымаўскага Банадыся.

— ...Шылі мы разам вунь аж у Міждуб'і. А было гэта неяк у мясаед па Калядах. Гаспадар парсюка закалоў. Сала, пане ты мой, цэлы кубел наскладаў, мяса... А гаспадыня ўсё нас бульбай з кіслым малаком душыць. Пачакай жа, трасца тваёй матары. Паехаў гаспадар аднаго разу ў лес, гаспадыня пачала кілбасы рабіць. Мяса пакрышанае, прыпраўленае, пане ты мой, кропам, часнаком ды ўсялякай усячынаю, падагрэлася ў печы. Дух ад яго на ўсю хату, аж мы толькі сліну глытаем. Робіць яна кілбасы, а мой Банадысь адным вокам на аўчыны глядзіць (кажух шыў), а другое на кілбасы ўтаропілася. Нічога, пане ты мой, не зробіш — касавокі. Бачыць — поўныя начоўкі гэтых кілбас накруціла, за апошнюю ўзялася, а яшчэ не лічаныя. Вось ён і пытаецца: «Ці няма ў вашым сяле краўца якога, хоць лядаштага?» — «Ды ёсць, кажа, толькі мала ён шые, самавук».— «Можа б, ты, гаспадынька, збегала да яго, ці няма ў яго торгала, я сваё дома забыўся». Глядзіць баба — ніколі не чула пра такі струмант. «Хаця ж бы, кажа, не забыцца, як яно завецца». А мяне смех душыць, аж я стрымацца не магу...

Сонца аглядае развітальным позіркам вострыя спіны стрэх на другім баку вуліцы, залоціць да бляску і так жоўтую дробную лістоту на бярэзіне, апошні раз прыпыняецца на момант на кончыку калодзежнага жураўля. У перадвячорным спакоі рэзка вылучаецца маркотнае курлыканне жураваў.

— А ляцяць як нізка!

— Зіма блізка,— напамінае Сцяпан вядомую ўсім прыкмету.

— Маўчы ты з зімою! — пужаецца Баранок.— Яшчэ ж Пакровы далёка.

— Чаго вам баяцца зімы? Сена панакошвалі...

Усе хвіліну маўчаць. Ведаюць, што стары Верамейчык гэта на Заброддзе намякае. З вялікай зайздрасці ён яшчэ ўсё пра гэта забыцца не можа.

— Вось і тое самае. А тады дык страху толькі было,— абзываецца, нарэшце, Пошта.

— Ты ж сам і калаціўся больш за ўсіх,— іранічна цэдзіць Грамабой, які толькі што падышоў і ўцяміў, нарэшце, пра што ідзе гутарка.

— Гэта табе толькі тое самае, а таго ж загадчыка земаддзела, што летась прыязджаў да нас, няма ўжо. Другі на яго месцы,— адказвае Пошту Алесь Галаскок.

— Добра кажа, тое, ды не тое,— падтрымаў Алеся Баранок.— А ўчора дзе гэта ты быў? — нечакана запытаўся ён у Пошты.

— Калі?

— Ды ўвечар.

— На сходзе беднаты быў.

— Ото то ж,— з націскам сказаў Баранок.— А раней ты часта хадзіў на такія сходы?

— Дык раней жа і сходаў такіх не было.

— А я ж пра што і кажу?

— Мы на сходзе пра сена нічога і не ўспаміналі,— апраўдваўся Тодар.

— Дарма, што не ўспаміналі. А на Прыдаткі (памятаеш?) прыязджаў, казаў, што праз кулакоў гэта ўсё выйшла. Вось яно, знацца, і навучаюць вас, каб кулакоў не слухалі. Ты думаеш, ён тады Сцёпку не нашпігаваў? Альбо сельсавету дыхту не даў? Паглядзі, старшыня пасля таго: сюд-тут ды ў Мядзведзічах.

Калі падышоў Юзік, на прызбе месца ўжо не было. Ён сеў на камені пры вугле і моўчкі слухаў, як Баранок метадычна ўтлумачвае Тодару сваю думку. Яму нават трохі неспадзявана было, што Баранок — такі просты і, здавалася, неглыбокі чалавек, так разумее сутнасць таго, што робіцца ў вёсцы, хоць па яго рэпліках нельга было зразумець, добра гэта ці кепска, што навучаюць беднату, каб кулакоў не слухалі. Разам з гэтым Юзік адчуваў нейкую крыўду. Ён толькі цяпер даведаўся, што ўчора быў сход беднаты. Значыць, яго не лічаць сваім. Нават не

сказаў ніхто, што сход будзе; мусіць, баяліся, каб сам не прыйшоў. Успомніў учарашняе развітанне з Шурай. Яна ж ведала пра сход, чаму не сказала? А чаму, калі пералічвала тых, хто павінен штурхаць вёску, і яго ўлічыла? Можа, кпіла ў вочы, а ён і не дагадаўся. Юзіку крыўдна стала, і закрадвалася злосць на Шуру, але ўспомніў просты і адкрыты позірк, шчырасць голасу і супакоіўся. Падумаўшы, не было чаго і крыўдзіцца: сам ён не лічыў сваю гаспадарку бядняцкаю, і таму зусім нармальна, калі яго не паклікалі на сход беднаты. Але ён упершыню выразна адчуў, што паміж ім — з аднаго боку, Сцёпкам, Шурай, Петрусём Кухарам, Якубам і яшчэ шмат кім — з другога, ёсць нейкая перагародка, якая аддзяляе яго ад іх, нават калі ён хоча рабіць тую ж самую справу, што і яны. Разам з гэтым ён не мог сябе далучыць і да Баранка са Сцяпанам Варанцом і ўжо ні ў якім разе да Грамабоя. Юзіку хацелася падумаць, разабрацца, якое ж яго сапраўднае месца паміж усіх гэтых людзей, а разабрацца было не так лёгка, ды перашкаджала цяпер гаворка на прызбе, да якой ён адным вухам прыслухоўваўся.

— Што ж вы нас, небеднату, цяпер жывымі есці будзеце ці саліць думаеце? — з'едліва запытаўся ў Тодара Грамабой.

«Сволач, куды гне!» — падумаў Юзік. Яго кальнуў гэты злосны выпад Грамабоя. Відаць было, што гэтым Грамабой хоча перацягнуць на свой бок «небеднату» і звесці ў рожкі з Тодарам і з усёю бядняцкаю часткаю вёскі.

— Ды пра цябе то там гаварылі,— засмяяўся Тодар.

— Я ж ведаю, што вы на мяне не забудзецеся. Смачны жабе арэх...

— Дык расказаў бы ты нам, Тодар, што там было на сходзе. Ці табе, можа, загадалі, каб ты нікому не казаў? — пад'ехаў Галаскок.

— Што ж там было... Старшыня сельсавета гаварыў, што шмат зямлі ды жывёлы ад падатку паўтойвалі, каб бедната памагала сельсавету выкрыць, у каго ўтоена.

— А ты ж усё справядліва папісаў? — спытаўся Грамабой.

— А што ж у мяне пісаць? Конь, карова ды авечка адна.

— А можа, дзве, не адна?

— Другая ж маладая яшчэ.

— Табе равесніца. Сам утойвае, а яшчэ некага збіраецца выкрываць.

— Але цябе нешта клопат узяў? Каб гэта паглядзець, колькі ў самога запісана.

— Глядзі. Так [redacted] цябе і спужаўся!

— Дык вы толькі пра гэта і гаварылі ўвесь вечар? — дапытваўся Алесь.

— Ну, яшчэ Сцёпка пра перавыбары гаварыў.

— Каго ж вы там выбралі?

— Нікога мы не выбралі, выбіраць жа ўсе будзем тыдні праз два.

— Пра некага ж, патом, гаварылі?

— Пра Ганскага гаварылі, што парадку не глядзіць. Куды яго хто паверне, туды ён і вернецца — і нашым і вашым.

— Чаго, ён не такі ўжо кепскі чалавек,— сказаў Сцяпан.

— Ануча, а не чалавек,— засупярэчыў Галаскок.— Хто што хоча, тое і робіць. Ці гэта ж парадак у вёсцы, каб ад гэтай пары коні па жыце хадзілі? Змясілі ўсё жыта, карэннямі наверх папераварочвалі.

Тодар, смеючыся, глянуў на Юзіка і падмаргнуў у бок Грамабоя, які глядзеў некуды ў адну кропку.

— А нечую палоску ў тым канцы дык свінні зрылі ўшчэнт, як паворана ўсё роўна, мусіць, на бульбянішчы пасеена.

— Але, выган зрабілі на пасеве,— згадзіўся Баранок.

Хвіліну маўчалі. Ні ў кога не было ахвоты пярэчыць і хваліць вясковыя парадкі.

— А вось за каго б ты сам галасаваў, каб прыйшлося? — не сціхаў Алесь.

— Там гаварылі, што не шкодзіла б Рыгора выбраць.

— Ну і выбралі ж! — зняважліва кінуў Грамабой.

— А чым кепска? — здзівіўся Юзік.

— Сугней! Ідзе дык і на чалавека не глядзіць. Як воўк той усё роўна,— сказаў стары Верамейчык.

— Нябось гляне, куды трэба будзе,— адказаў Юзік бацьку.

— Гаспадара трэба выбіраць,— сказаў Грамабой.— Навыбіраюць вось такіх, а тады адказвай за іх. Ці мала ж было так, што ўкрадзе альбо растрату зробіць, а прыйдзецца, дык і спагнаць няма з каго. Тады на ўсіх раскладваюць, у падатак улічваюць.

— Шмат жа ты плаціў за Рыгораву растрату? — пакрыўдзіўся Сцяпан.

— А ты думаеш, што твой сваяк, дык ён і святы? Цяперашнім светам самому сабе не вер, а не то што...

Усім было трохі няёмка ад гэтай спрэчкі. Прабавалі загаварыць пра другое. Тым больш што з цыгаркай на губе падыходзіў сам Рыгор.

— Дык, можа, гэта нам і на перавыбары ісці не трэба будзе? Вы такія моцныя, што і без нас управіцеся,— знарок перад Рыгорам закінуў Грамабой, спадзеючыся зноў жа такі на падтрыманне «небеднаты».

— Клопат мне вялікі, пойдзеш ты на перавыбары ці не. Хто захоча, дык пойдзе, а ты не пойдзеш, то як-небудзь абыдзецца і без цябе,— адказаў Пошта.

Рыгору ледзь кранула губы ўсмешка. Ён моўчкі прыпёрся да шула, пакуль што не ўмешваючыся ў гэту гаворку.

Падбегла Грамабоева дзяўчына.

— Тата, мама казала, каб вы дадому ішлі. Скоранька! Мікола вас чакае.

Грамабой моўчкі ўстаў і пайшоў за дзяўчынаю. Мужчыны правялі яго вачыма да суседняй сядзібы.

Пошта засмяяўся і крутнуў галавою:

— Вот яму нясмачна! Вельмі ж Рыгора ён не любіць.

— А я ж яго страшэнна люблю,— усміхнуўся Рыгор.

Грукаючы босымі пятамі аб сухую зямлю, прайшоў малады Наздрэйка.

— Пагуляй з намі, Мікола! — гукнуў яму Алесь.

— Няма часу,— адказаў той не аглядаючыся.

— Вось сабе, як камлюк, хлопец,— залюбаваўся Баранок.

— Соміку ўсё грозіць,— сказаў Пошта.— Учора казаў, што толькі з работаю ўходзіцца, тады паедзе туды, дзе той стражнікам быў, і пра ўсё разведае.

— То цяпер жа вядома ўсім, што не ён коні краў.

— Мала што. Крыўда чалавеку. Гэтулькі сораму пацярпеў!

— Што ж ён, ведае, куды ехаць?

— Ведае, як тое мястэчка завецца.

Гаворку мужчын раптам перарвала бразгатанне шамкоў і лёскат жалезных восей з Грамабоевага надворка. Падбадзёраны шамкамі, што перасыпаліся дробным звонам каля самых вушэй, буланы фарсіста выгінаў галаву і нервова жаваў цуглі, просячы повада. Мікола, заламаўшы на патыліцу шыракаверхую шапку, трымаў напятыя плеценыя лейцы. Пад'язджаючы пад мужчын, папусціў лейцы, цмокнуў і пасакатаў па вуліцы, падымаючы пылок.

— Ці не ў сваты гэта? — дагадаўся Баранок.

— А ўжо ж, бачыш,— згадзіўся Сцяпан.— Але чаму ён адзін?

— Андрэй за свата будзе,— тлумачыў Пошта.— Учора сам Грамабой хадзіў прасіць. Абы якога ж свата ўзяць не

выпадае. Жагула яшчэ заганарыцца ды гаварыць не захоча.

— Няўжо такі сядзе Грамабойчык на Жагулаўшчыне? — услых выказаў стары Верамейчык сваю няўпэўненасць.

— Ды ўжо ж, мусіць... Так бы не паехаў, не дагаварыўшыся наперад,— зазначыў Баранок.

— Гэта яшчэ як пашанцуе: альбо сядзе, альбо і не,— сказаў Алесь.— Я нешта чуў — гатовы дабрацца зараз да Жагулы.

— Каб не села яму скула, пакуль ён там сядзе,— завяршыў гэту гаворку Рыгор.

У канцы вёскі ўзнялася хмара пылу і шпарка набліжалася. Перад ёю выбягалі на сярэдзіну вуліцы жанчыны, дзеці, радзей мужчыны, шырока расстаўлялі ногі, растапырвалі рукі, кідаліся з аднаго боку вуліцы на другі. Хутка пачулася рознагалосае бляянне, і з дробным тупатам прамчаўся парад авечай чарады. Малыя ягняты, чорныя і кучаравыя, адбіўшыся ад матак, на момант спыняліся, жаласна бляялі і кідаліся ўперад ці назад у пошукі. Уперамешку з авечкамі беглі людзі.

Жанчыны хапаліся рукамі за грудзі і зяхалі разяўленым ротам, як рыба на беразе; мужчыны распускалі ногі на ўвесь цыркуль, імчаліся навыперадкі з крутарогімі маркачамі.

— Тата, лавіце барана!

Баранок усхапіўся з прызбы, з нечаканым для яго спрытам схапіў барана за воўну, і той з разгону павіс у паветры на яго прудкіх руках.

Падбегла растрэханая, распараная ад бягі Волька, узяла барана за рогі, перакінула, як кавалерыст, адну нагу яму цераз спіну і, заціснуўшы між кален, павяла назад у той бок, адкуль ён толькі што бег.

— А няхай яго... забалакаўся ды прасядзеў цэлы адвячорак,— сказаў Баранок, беручы плуг на плячо.

— Вось каб ускінуў Міколу на воз, дык ён бы і падвёз,— пажартаваў Галаскок.

— Дзе там цяпер плуг наўме! Таму крукам галавы не дастаць,— адказаў за Баранка Сцяпан.

## XXVII

Вастраклубы, схудзелы за лета конь пяўся, цягнучы воз бульбы па пескавых каляінах. Рудая скалдуненая грыва махалася ў такт яго кроку. З-пад скуры выразна

вытыркалі рабрыны, аж іх можна было peралічыць, і чорная шэрсць на іх парудзела ад худзізны. Конь раз-пораз спыняўся, каб перадыхнуць. Аглянуўшыся на гаспадара, ён адстаўляў заднія ногі, робячы выгляд, што спыніўся за сваёю конскаю малою патрэбаю.

— Но, каб цябе... А-ах, гультаіна! — замахваўся на яго Ганскі, і конь, вільнуўшы хвастом ад абурэння, што гаспадар выкрыў яго хітрыкі, зноў напінаўся, каб праз дваццаць — трыццаць крокаў на чарговым прыпынку зрабіць тое ж самае.

На возе, насыпаным бульбай роўна з біламі, ляжаў яшчэ мяшок з дробнай (свіной) бульбай і плуг. Прыпёршыся да мяшка, захутаны ў лахманы, сядзеў хлопец. Язэпіха ішла збоку, несучы на руцэ лазовы кош. Чуваць было, як ззаду, даганяючы іх, сапе Яначкаў сівы і як падбадзёрвае яго Грамабой.

Конь выцягнуў воз на цвярдзейшую дарогу і пайшоў раўней, не спыняючыся. Ганскі закінуў лейцы на ручку плуга і на хаду пачаў круціць цыгарку. Сказаўшы жонцы, каб тая наглядала за малым, Ганскі адвярнуўся ад ветру.

Пакуль ён, хаваючы ў прыгаршчы запалку, прыкурыў, пад'ехаў Грамабой. Ганскі пайшоў пораўні. Тытунь быў сыраваты, не хацеў гарэць, і ён нейкі час старанна пыхкаў цыгаркаю.

— Мо скончыў? — спытаўся Грамабой.

— Яшчэ за мастком вазоў на тры будзе.

Зноў памаўчалі.

— Дык гэта цябе з сельсавета збакалі ўжо? — запытаў Грамабой.

— Ліха іх бяры! Не вельмі я ганяюся за гэтым.

— Ці гэта Рыгор большы бядняк за цябе, ці што?

— Няхай і ён пакаштуе, што за смак. Я не ўнаравіў, можа, ён лепш унаровіць. Хочаш з людзьмі добра жыць, дык начальству кепскі будзеш.

— Гэта ж і Аўдолю выбралі?

— Выбралі.

Грамабой зноў пачаў пра Рыгора:

— Ты вунь колькі быў членам, а ніколі ў хлеў да мяне не прыходзіў. А гэты ж прыходзіў ужо. Чаму бо я толькі дзве каровы запісаў? А ты ж сам памятаеш, я табе яшчэ з вясны казаў, што буду прадаваць рабую, дык чаму бо я не прадаў? А табе што за дзела! Ты раскажаш мне, калі прадаваць? Як трэба будзе, дык прадам без твайго папытання. А гэту ж, рыжанькую, хіба ж можна за карову лічыць? Яна ж першым цялём яшчэ, якое там з яе малако.

Не варта за харч, што зглуміць за зіму. Прыстаў — чаму свіней не папісаў? Пішы, няхай на табе чэрці скуру спішуць!

Хвіліну ён ішоў моўчкі, перажываючы нанава абурэнне на Рыгора.

— Яшчэ і гэты... Сцёпка разам з ім. Нейкае ім дзела, як я з братам жыву! Як хачу, так і жыву. Брат сам не маленькі, скажа, калі яму крыўда будзе. Гэта толькі займацца не хацелася: каб узяў поплiску ды зырнуў з хаты, то другі раз ведаў бы, як утыкаць нос не ў сваё.

— Мусіць жа, і ў Соміка ці не былі?

— Ды ў каго яны не былі? Паўвёскі аблазілі. Агледзеліся, што мала садралі з людзей, дык нанава па хлявах пайшлі.

— Я бо чуў, што Сомік нешта крычаў на ўвесь двор. Нейкую карову ўспамінаў усё таксама. Казалі, хацеў біцца з Рыгорам.

— А не шкодзіла б. Ніякай спогадзі няма да чалавека. Таго з канём гэтак падсадзілі, што і дагэтуль яшчэ акрыяць не можа, а ён ужо лезе — карову ўтаіў. Знак там казне, як пугаю па вадзе, ці заплаціць Сомік за карову, ці не? А яму ўсё ж бы рублёў колькі ў кішэні засталося... Альбо ж ты не ведаў пра гэту карову, калі пісаў вясною? — звярнуўся Грамабой да Ганскага.

— Як гэта я мог не ведаць, у адной вёсцы жывучы? Ды і суседзі траха што. Але ці гэта ж хочацца з чалавекам настырацца? Зноў жа з канём з гэтым, як ты кажаш...

— А з Андрэем, глядзі ты, якую штуку яны ўрэзалі! — напамянуў Грамабой.

Гэтым «яны» Грамабой хацеў ахапіць шмат каго. Перш за ўсё тых, што там недзе ў раёне, што назначалі перавыбарчую камісію, а разам з тымі і камсамольскую ячэйку, і новых членаў сельсавета — Рыгора ды Аўдолю, і ўсіх тых, што падавалі голас за Рыгора. Гэтым «яны» хацеў Грамабой адгарадзіць ад «іх» Ганскага і перацягнуць на свой бок.

Ганскі адчувае некаторую палёгку ад таго, што з яго спалі абавязкі члена сельсавета, якія яго, нерашучага і мяккацелага, заўсёды трохі прыгняталі. Часта ён нерашуча таптаўся перад выкананнем таго ці іншага абавязку, і абавязак часцей за ўсё так і заставаўся нявыкананым. Засвоенае Ганскім здаўных правіла, што з людзьмі трэба жыць у згодзе, заўсёды стаяла яму поперак дарогі, калі трэба было зрабіць той ці іншы цвёрды крок. Ад гэтага ў яго было шмат прыкрасцей і разладу з самім сабою. Але

цяпер недзе ў глыбіні шчымела крыўда, што яго ўсё ж такі з сельсавета «збакалі». Тое, што Грамабой хваліў яго за добрасуседскае абыходжанне, казытала трохі Язэпаў гонар і як бы ўзнімала яго вышэй над Рыгорам, але калі Грамабой вельмі ўжо востра нападаў на «іх», Ганскі змаўкаў. Ён не згаджаўся з думкай Грамабоя, але ў яго не хапала адвагі пярэчыць.

— Гэта ж, кажуць, гэты сапляк Якуб заявіў на Каржакевіча. Бацька б гэтага не зрабіў,— сказаў на адыходак Грамабой, калі Ганскі звярнуў з дарогі на сваю сцежку.

Ніякай асаблівай штукі з Каржакевічам не «ўрэзалі». Яго проста ўнеслі, нарэшце, у спісы пазбаўленых права выбарчага голасу. Толькі зрабілі гэта дадаткова ўжо, у дзень самых перавыбараў. І гэта не таму, што тут былі якія-небудзь махінацыі, як хацеў абмаляваць справу Грамабой, а проста так выйшла. Падняў гэту справу сёлета Якуб. Ён такі не паслухаў бацькі і заявіў у саюз на Каржакевіча. Справу перадалі ў суд. Яна была вырашана перад самымі перавыбарамі.

Напярэдадні перавыбараў Якуб зайшоў да Сцёпкі і паказаў копію судовай пастановы. Апрача штрафу, яму прысудзілі заплаціць Косціку па дзесяць рублёў у месяц за той час, калі Косцік пасвіў каровы, і па дваццаць пяць рублёў за тры летнія месяцы, калі Косцік рабіў на сенажаці і на полі.

— Вось гэта нам заўтра спатрэбіцца,— сказаў Сцёпка, стукнуўшы рукою па разложанай на стале паперы.

Якуб глянуў яму ў вочы.

— Ты дай яе мне на заўтра,— павярнуўся Сцёпка да Якуба.

— Бяры, калі трэба. Але ж ты мне аддасі?

— Аддам.

Якуб чакаў, ведаючы, што Сцёпка зараз растлумачыць.

— Я толькі ўчора пераглядзеў спісы пазбаўленых голасу па нашым сельсавеце. Каржакевіча там чамусьці няма. Ці не Ганскага гэта работа. Я хацеў сёння заявіць у выбарчую камісію, але калі так, дык няхай заўтра на перавыбарах, гэта яшчэ і лепш — кулакі не паспеюць згаварыцца і намеціць новага кандыдата, нашым лягчэй будзе прайсці.

— А хіба Каржакевіча хто думае выбіраць?

— Я чуў, што думаюць,— сказаў Сцёпка, хаваючы паперу ў старыя вокладкі.

Каржакевічаву кандыдатуру сапраўды выставілі на перавыбарах. Агітацыя Грамабоя, каб выбіралі такога, які за сваю работу мог бы адказваць сваёю гаспадаркаю, знайшла-такі некаторых прыхільнікаў у Мядзведзічах. Сярод бліжэйшых хутаранцаў Каржакевіч быў досыць папулярны яшчэ з дарэвалюцыйнага часу. У Дымаўцы таксама знайшліся такія, што лічылі Каржакевіча за разумнага чалавека і добрага гаспадара і гатовы былі падаць за яго свае галасы. Тым больш што ён не быў у бойцы з дымаўцамі, і нехта знарок паклапаціўся напамянуць пра гэта дымаўцам.

Такім чынам, нельга было сказаць, што ў Каржакевіча не было ніякіх шансаў быць выбраным у сельсавет.

Але якраз здарылася тое, чаго Каржакевіч больш за ўсё баяўся, ідучы на перавыбары. Як толькі надышла чарга ставіць на галасаванне яго кандыдатуру, старшыня выбарчай камісіі ўстаў, трымаючы ў руках аркуш паперы:

— Наступная кандыдатура грамадзяніна Каржакевіча, але ставіць на галасаванне яе нам не прыходзіцца. Мы лічым, што толькі дзякуючы нашаму недагляду грамадзянін Каржакевіч не трапіў у спісы лішэнцаў. Як высветлілася, ён увесь час карыстаўся наймовай працай і, абыходзячы савецкія законы, злосна эксплуатаваў падросткаў, якіх наймаў за пастушкоў. Шмат хто з вас самі гэта ведаюць, а хто не ведае, для тых я прачытаю вось гэты дакумент.

Каржакевіч, мітусліва аглянуўшыся па баках, упёрся вачыма ў падлогу. Сход прыціх, слухаючы пастанову суда па справе Каржакевіча.

— Прэзідыум лічыць, што гэтага зусім досыць для таго, каб пазбавіць грамадзяніна права выбарчага голасу.

Каржакевіч праціскаўся да дзвярэй праз густы натоўп, і яму хацелася ў той момант быць яшчэ меншым, чым ён ёсць.

Па зале прабег здаволены гоман, перамешваючыся з рэдкімі выкрыкамі нездаволення. Але другога кандыдата на месца Каржакевіча выстаўляць было позна. Галасы яго прыхільнікаў разбіліся: у выніку былі выбраны ўсе кандыдаты, выстаўленыя фракцыяй камуністаў, а ў тым ліку Рыгор Варанец і Аўдоля.

Пра гэта і напамінаў Ганскаму Грамабой, калі казаў, што з Каржакевічам штуку ўрэзалі.

## XXVIII

Вяселле было назначана на заўтра. Ад самага ранку з коміна віўся сіняваты дымок. Кудлаты пануры Джэк і танклявая рыжая Мальва, прывязаныя на ланцугу, вадзі-

лі носам у паветры, сутаргава глыталі сліну. Розныя блізкія мясныя пахі іх так дапякалі, што яны прагавіта і жаласна падскавытвалі, аблізваючыся тонкімі ружовымі языкамі, і то ўставалі, то зноў садзіліся.

Прыемна заклапочаны, Жагула хадзіў з хаты ў адрыну, з адрыны ў павець альбо ў гумно, падоўгу кешкаўся ў свірне. Часамі спыняўся сярод двара. Трымаючы адну руку ў барадзе, другою разважаў у паветры, пасля паварочваўся і ішоў зноў туды, адкуль толькі што выйшаў.

Манька каторы раз прымярала ўжо сваё шлюбнае ўбранне. Надзявала белую бацістаўую сукенку з ружоваю стужкаю ў поясе, вянок з фатою і станавілася перад люстэркам так, як яна думала стаяць пад вянцом, з насоўкаю ў правай руцэ. Стану свайго яна не бачыла, і ёй думалася, што ў гэтым убранні яна павінна здавацца танклявай, стройнай і лёгкай. Ківала галавою, як бы ў адказ на прывітанне, і ледзь усміхалася. Але тут з-за тоўстых сочных губ паказваліся вялікія конскія зубы, і яна хутчэй замыльвалася, каб як-небудзь схаваць тое, што ўсе ўжо даўно бачылі.

Джэк і Мальва ўзялі разам, як у дуэце добра зладжаная пара спевакоў. Хрыплы Джэкаў бас, як у былога протадыякана, што да рэшты прапіў свой голас, і звонкі Мальвін альт пад акампанемент бразгання двух ланцугоў адарвалі Маньку ад люстэрка. Яна глянула ў акно і, спяшаючыся, пачала адколваць з валасоў вянок і сцягваць цераз галаву сукенку, не зважаючы, што яна камечыцца.

— Тата, мужчыны да нас ідуць! — крыкнула яна, хаваючы ў шафу ўбранне.

— Якія яшчэ мужчыны? — выйшаў той з бакоўкі, дзе пра нешта радзіўся з Жагуліхаю.

— Здаецца, мядзведзіцкія.

Жагула выйшаў на ганак, калі мужчыны ўзыходзілі ўжо на двор. Ён стаяў, пануры і нерухомы, не зыходзячы з ганка і адчуваючы, што тут нешта нядобрае. Яго квадратовая барада здавалася фундаментам пад чырвоным, даволі буйным носам.

— Дзень добры вам! — крыкнуў Алесь, і па тым, як храбра ён гэта сказаў, знаць было, што гэтым выкрыкам ён хоча прыкрыць сваю няёмкасць перад Жагулам.

Джэк гайсаў на ланцугу, уставаў на заднія лапы і кідаўся на мужчын з такою сілай, што, здавалася, ланцуг не вытрымае; спыняўся на момант, каб набраць паветра ў лёгкія, і ўцягваў яго з хрыпатою, якая адна сведчыла аб нязмернай злосці і заядласці.

За брэхам сабак цяжка было разабраць, што хто гаворыць.

Жагула паглядзеў на афіцыйна строгі Рыгораў твар, на папку ў яго пад пахай, на вялікую, збітую з паплеціны, літару «А», якую пакручваў Сцёпка ў руках, і зразумеў:

— Грабіць мяне прыйшлі? — сказаў ён, не адказваючы на прывітанне.

— Граб награбленае,— сказаў Галаскок Сцёпку, ведаючы, што за брэхам сабак Жагула не пачуе яго слоў.

— Зямлю трэба памераць,— адказаў Рыгор.— У спісах толькі дваццаць пяць дзесяцін стаіць, а тут яе шмат больш. Хадзем разам, а то скажаш яшчэ, што лішняй намералі.

— Няма чаго мне мераць, даўно памерана ўжо.— Ад ганарлівага абурэння Жагула глядзеў некуды ўбок.— Дваццаць пяць год мераю. Тысячу разоў перамераў удоўж і ўпоперак, ходзячы за плугам ды за бараною. Кожны каменьчык рукамі вот гэтымі перабраў. Чаму тады не прыходзілі мераць, як я пасеку панскую карчаваў? Чаму не прыходзілі грошай лічыць, як я Гняцецкаму за гэту зямлю плаціў?

— Карчаваў ты, гэта праўда... А яго бацька гэтай пасекі не карчаваў? — паказаў Рыгор пальцам на Якуба.— А Сцёпкаў бацька-нябожчык не карчаваў? Што ж яны мелі за гэта? Ды мая баба не раз гнула спіну над тваім жытам. Мо таму і высахла на шчэпку, што за чужою работаю свету не бачыла.

Маўчалі. Пераконваць адзін другога — лішняе. Кожны да канца пераконаны ў сваім.

— Не пойдзеш?

— Не пайду.

— Без цябе памераем.

— Вось і ўся гаворка.— Жагула павярнуўся і з прыціскам зачыніў за сабою дзверы.

— А, ваўкарэзіна! — Алесь падняў камень і кінуў ім у Джэка. Камень пакаціўся па мураве пад свіран. Джэк адным скокам дагнаў яго і гыркаў, ляскаючы зубамі аб камень.

— Пойдзем, хлопцы! — скамандаваў Рыгор.

Зачыніўшы за сабою дзверы, Жагула стаяў за вушаком у сенцах і праз маленькае акенца цікаваў, што будуць рабіць мужчыны. Тыя пайшлі па сцежцы да лесу ў той бок, адкуль нядаўна прыйшлі.

«А можа, адумаліся ды дадому пайшлі?»

Дайшоўшы да лесу, мужчыны спыніліся. Па ўсім відаць было, што закурвалі. Пасля Сцёпка падняў з зямлі літару «А» і пайшоў, куляючы ўздоўж сцяны лесу. Упёршыся ў свежую пасеку, што бялела акоранымі пнямі, павярнуў пад простым кутам направа. Іншыя ішлі за Сцёпкам і, відавочна, таксама лічылі.

«Мераюць...— думаў Жагула.— Можа, не трэба было так гаварыць з імі. Можа, трэба было мякчэй... у хату запрасіць. Пачаставаць якраз ёсць чым». Але ўявіў сабе афіцыйны Рыгораў твар, сур'ёзны і спакойны Сцёпкаў позірк, кплівую і трохі сарамлівую ўсмешку Галаскока. «А яшчэ сукінага сына шкадаваў, калі дубеў, як сабака, у лесе»,— успомніў, як разам з Грамабойчыкам і Сураўцом Алесь спаў у яго ў хаце на саломе. «Не, гэтых не прырахманіш, не Ганскі,— думаў пра Рыгора і Сцёпку.— Ты яго маслам маж, а ён дзёгцем смярдзіць».

Якуб мала памагаў мужчынам мераць і лічыць. Яго цалкам захапілі думкі пра тое, што ён пачуў, ідучы сюды ад Рыгора. Ён не раз абводзіў вачыма раўніну Жагулавага поля, абкружанага з усіх бакоў высокай сцяною бору, і стараўся ўгадаць, з якога боку адрэжуць у Жагулы лішні кусок зямлі, дзе давядзецца Якубу забудавацца. Што скажа бацька на гэта? А Волька? Гэта ўзрадуецца. Цяпер бацькам ужо не будзе чым адгаварыцца. Ды, урэшце, у бацькоў яны цяпер і пытацца не будуць. Вось каб, здаецца, забудавацца ў тым рагу пад Мядзведзічы! Месца там вясёлае, і да вёскі бліжэй. Цікава, хто яшчэ пераедзе на Жагулаўшчыну, з кім давядзецца суседзямі быць?

Вестка пра тое, што Жагулу «рэзаць» будуць, разнеслася ўвечар па ўсёй вёсцы. Казалі, што ў раёне пастанова ўжо такая ёсць, толькі яшчэ невядома было дакладна, колькі ў Жагулы ўсяе зямлі і колькі яе абрэзаць прыйдзецца. Таму і загадалі Рыгору памераць сёння Жагулаву зямлю. Казалі, што сам Рыгор першы і ўзняў гэту справу.

Як толькі Грамабой пачуў пра гэта, у той жа дзень склікана была сямейная нарада, на якую запрасілі і свата — Андрэя Каржакевіча. Каржакевіч спачуваў Грамабою, і сам на яго месцы не лепшы быў бы. Але яму прыкра было і за сябе: сорам будзе цяпер Жагулу ў вочы глянуць.

Грамабоіха нават прабавала слязу выціснуць, а Грамабой чухаў патыліцу і лаяўся. Як жа не злосць! — з зубоў, можна сказаць, кусок вырвалі.

— Як сабе хочаце, сват, параіць я вам тут нічога не магу,— сказаў Каржакевіч.— Як той кажа, людзей слухай, ды свой розум май.

Грамабой такі і меў «свой розум». Як толькі Рыгора ў сельсавет выбралі, ён пачаў апасацца, што пачатая за старым сельсаветам так добра справа можа лопнуць. А цяпер, калі за справу ўзяўся Рыгор і камсамольская ячэйка, не бачыць Грамабою гэтай зямлі. А калі так, дзеля чаго і агарод гарадзіць? Калі Жагулу пакінуць зямлі на чатыры яго душы, дык гэта ўжо не той Жагула будзе. Сын і раней не ахвоцен быў браць Маньку, а цяпер — не сілаю ж яго прымушаць. Такім чынам, Грамабой і сам ведаў, што яму рабіць: яшчэ да сямейнай нарады цішком пераказаў некаторым з радні: няхай не турбуюцца, вяселля заўтра не будзе. Калі запрасілі на нараду Каржакевіча, дык толькі каб ён моцна не пакрыўдзіўся, што яму такую прыкрасць зрабілі.

Зараз жа пасля нарады Грамабой разаслаў пасланцоў — дзяўчыну, жонку, Міколу. Нават Яначка і той схадзіў на хутар да Грамабоевага швагра. Трэба было наказаць усім, хто меўся прыехаць заўтра на вяселле. Але некаторыя з радні былі за дваццаць, за трыццаць вёрст. Гэтыя выбраліся нанач. Дзве фурманкі прыехалі, як толькі пачало змяркацца. Вось чаму ў вёсцы не хацелі верыць чуткам, што вяселле раскідаецца.

Назаўтра рана яшчэ ўсе чакалі. Але не чуваць было ні скрыпкі, ні бубна, не відаць было зухаватых «братоў», пралятаючых з форсам, з бразготкамі на падбадзёраным цуглямі і пугай кані. Нарэшце Міколаў дзядзька, матчын брат, які прыехаў нанач, вывеў пад калодзеж сівую ў яблыкі кабылу. Яна была ў хамуце і паўшорах. Чакалі, што зараз павінна ўсё высветліцца. І сапраўды: праз чвэрць гадзіны Міколаў дзядзька выехаў з двара і падаўся зусім не ў той бок, куды трэба было ехаць — да Жагулы ці да вянца,— ён паехаў дадому.

Рэдка так здараецца, каб людзі елі папоўніцы варанае, печанае, смажанае, мяса, кілбасы, пірагі ды праклiналі таго, праз чыю ласку яны гэта робяць. А Грамабоя такі не мала папаклінала ўся яго радня, завіхаючыся есці тое, што нарыхтавана было на вяселле. Наказ яго дайшоў па часе, калі ўсё ўжо было гатова. Некаторыя старэйшыя нават упікалі Грамабоя, што ён звёў, казалі, што сорам так рабіць. Грамабой досыць лагодна на гэты раз ім адказваў, што сорам не дым, вачэй не выесць, а завязаць хлопцу свет немаведама за што — на гэта ён не згодзен.

Міколу таксама не давалі быту доўгі час, асабліва дзяўчаты. Не-не, ды запытаецца каторая:

— Калі ж тваё вяселле будзе? Манька ўжо даўно прачакалася.

Мікола адказваў на гэта не так разумна, як груба:

— На чорта яна мне, кабыла зубатая.

На гэтым гутарка пра вяселле звычайна канчалася.

Да Жагулы Грамабой не пасылаў пасланца. Ды наўрад ці знайшоўся б такі адважны з Грамабоевай радні, каб пайсці да Жагулы з такою весткаю. Слушна разважалі некаторыя, што са злосці Жагула гатоў бы яшчэ сабак з ланцуга спусціць.

На вяселле да Жагулы з'ехаліся ўсе, каму быць належала. Народ усё шляхтаваты, на чужую пачостку сквапны, да банкетаў вялікі ахвотнік, а таму ў такіх выпадках заўсёды акуратны. Пад павеццю відаць былі сінія, зялёныя, жоўтыя задкі маляваных брычак. Далёкі Жагулаў сваяк Зыгмусь Яснотка выдыгаў каля маладой, гаварыў ёй кампліменты, якія гаварыў мо на сотні вяселляў раней, на якіх ён перабываў за свой доўгі век застарэлага кавалера.

Апаражніліся першыя бутэлькі і першыя талеркі. Госці рыхтаваліся сустрэць маладога ў вясёлым гуморы. Жвавей заматляліся языкі, шумней стала ў пакоі, і яскравей пачаў выступаць наверх шляхечы гонар.

Меркавалася зрабіць так, каб за снеданнем дачакацца маладога, але снеданне цягнулася мо гадзін ужо тры. Жагула насіў, насіў бутэлькі ды годзе сказаў, а маладога ўсё яшчэ не было. Манька раз-пораз выбягала на двор і ўглядалася ў той куток лесу, адкуль павінен быў выехаць абоз маладога. Жагула пачынаў злаваць, і хмель яго не браў.

Зыгмусь Яснотка, занадта перагружаны снеданнем, выйшаў з хаты. На двары стаяла Манька, і ён накіраваўся ў лес.

— Куды ж вы, пане Яснотка? — спыталася тая.

— Люблю, ведаеце, адзіноту. А ў вас тут такі прыгожы лес, што так і цягне мяне.

Задаволіўшыся адзінотаю, ён ужо варочаўся ў двор, як раптам напаткаў вясковых дзяўчат.

— Ці не з Мядзведзіч будзеце, дзяўчаткі? — запытаўся Зыгмусь.

— З Мядзведзіч,— адказалі дзяўчаты, з цікавасцю аглядаючы яго.

— А ці хутка адтуль малады ваш выберацца? Нешта ён збіраецца жаніцца, як назаўтра трэба.

Дзяўчаты глянулі адна па адну і ўсміхнуліся:
— Гэта вы на вяселле да Жагулы прыехалі?
— Але. Я ў Манькі за шафера.
— Дык гэта вы ўсё маладога чакаеце?
— Ды вы самі, здаровенькі, ведаеце, што без маладога вяселля не бывае.

Дзяўчаты зарагаталі смялей і мацней. Зыгмусь таксама задаволена загігікаў, думаючы, што дзяўчат развесяліў яго дасціпны адказ.

— Не дачакацца ж вам маладога,— сказала сур'ёзна адна з дзяўчат.

— Жартуеш, паненка, хе-хе-хе! Напужаць нас хочаш.— Зыгмусь падышоў і абняў дзяўчыну. Тая спакойна адвяла яго руку.

— Праўду кажу. Ніякага вяселля ў нас не чуваць. Грамабойчык і не думае ехаць. Дзве фурманкі прыехалі былі на вяселле, ды і тыя сёння рана паехалі дадому.

— Няўжо праўда! — спужаўся Зыгмусь.

Усе ўтрох пабажыліся, што гэта шчырая праўда, а калі Жагулавы госці гэтаму не вераць, няхай пачакаюць сабе да вечара, яны ад гэтага нічога не страцяць.

Не даслухаўшы нават да канца, Зыгмусь подбегам пусціўся да Жагулавай сядзібы.

— Пане гаспадару, на адно славечка,— паківаў ён Жагулу пальцам. А калі той, пакінуўшы кампанію, падышоў, усхваляваны Зыгмусь расказаў, што ён пачуў толькі што ад дзяўчат.

— Лапаць мядзведзіцкі! Хамула! — закрычаў абураны Жагула.— Вось і займіся з мужыком!

Госці ўстрывожыліся, схлупіліся ў кучу, пачалі распытвацца. Манька, даведаўшыся пра ўсё ад таго ж Ясноткі, кінулася ў бакоўку, а там — галавою ў падушку. Адзін з гасцей параіў быў праз суд спагнаць з Грамабойчыка ўтратнае.

Але Жагула хацеў сваю крыўду і абразу хоць зверху прыкрыць сваім гонарам. Ён з пагардай адхіліў прапанову:

— Што вы гэта кажаце, пане Свідэрскі! Як малы ўсё роўна! Буду я з мужыком па судах цягацца, сябе сарамаціць! У мяне, дзякаваць богу, хопіць яшчэ дзесяць такіх вяселляў справіць...

— Проша, госцікі, да стала. Папіць гарэлкі мы і без мужыка патрапім,— з адчайнай рашучасцю запрасіў Жагула.

Усё, што нарыхтавана было на цэлае вяселле, прынесена было ў хату. Што не змясцілася на стале ў бутэльках,

стаяла ў гляках і ў бачурках пад сталом напагатове, каб не прыйшлося лазіць у склеп, калі адмовяцца служыць ногі.

— Проша не саромецца. Колькі чыя душа прымае! — заклікаў Жагула і сам тут жа даводзіў, што яго душа сёння не пляцецца ў хвасце.

Праз гадзіну з хаты праз адчыненыя вокны патыхала, як з бровара, а ў лесе рэха перадражнівала дзікія, п'яныя спевы. Пад вечар усё сціхла, толькі зрэдку чулася невыразнае мармытанне, соннае чвяканне губамі альбо стагноты. Нібы мерцвякі валяліся па адным на мураве ў двары, на ганку, на ўзмежку каля раллі. Па хаце сноўдалася панурая Жагуліха, пераступаючы цераз ногі і галовы.

## XXIX

Старая Мядзведзіцкая «школа» дажывала апошні год. Некалі, гадоў дваццаць назад, калі засноўвалася ў Мядзведзічах царкоўнапрыходская школа, у Крываношкі Антося, Васілёвага брата, што выбіраўся тады на куплёную зямлю недзе за Пухавічы, адкупілі хату і перанеслі яе ў канец вёскі на пустыр, дзе мядзведзіцкія капалі пясок на ўсялякія хатнія патрэбы. Ад старасці і ад таго, што роблена была на тандэт, будыніна стала нязграбнай і апусклівай: адзін вугал моцна асеў, вушакі пакасіліся, бярвенне ля акон пагніло. Уся будыніна нагадвала старога нядужага чалавека, які не можа сябе дагледзець. Вецер, калі яму зажадаецца, гуляў непрычэсанаю на страсе саломаю. Вясною і ўвосень, пакуль зямля мяккая, свінні падрываліся пад гнілыя падрубы і праз дзіркі ў падлозе падобным на тытунёвы ліст вухам стараліся пераняць што-небудзь з комплекснага метаду. Часамі з-пад падлогі прасоўваўся ў дзірку лыч і лагодным рохканнем згаджаўся з заўвагаю настаўніка ці з адказам вучня. Такое выступленне заўсёды шумна віталі ўсім школьным калектывам, хто як мог і чым папала: гучным смехам, выкрыкам захаплення, вокладкамі лемантара, жалезнаю качаргою, калі яна траплялася пад руку. Для настаўніка гэта быў моцны аргумент за пабудову новага будынка, і, сустрэўшыся з загадчыкам райана, ён патрабаваў: альбо новы будынак, альбо капітальны рамонт. Але капітальны рамонт рабіць не было сэнсу, паколькі трэба было будаваць новы будынак, а новыя будынкі трэба было будаваць у першую чаргу ў тых вёсках, дзе ўпершыню адчыняліся школы. Такіх у раёне

было шмат. Настаўніку прапанавалася дзіркі ў падлозе заштукаваць, падрубы абсыпаць і трошкі пачакаць, пакуль будынак мядзведзіцкай школы будзе ўнесены ў план будаўніцтва.

Сёлета настаўнік у сваіх дамаганнях атрымаў значную дапамогу ад камсамольскай ячэйкі і ад сельсавета новага складу. Дапамога гэта была больш як упору, бо, апрача свае старэчай нядужасці, школьны будынак меў яшчэ і тую загану, што сёлета нават на дзве змены ён не мог умясціць усіх мядзведзіцкіх дзяцей, што хацелі вучыцца. Націснулі што называецца на ўсе кнопкі, застукалі ва ўсе дзверы. Ячэйка дабілася на сходзе пастановы, што Мядзведзічы падручаюцца дапамагчы рабочай сілай: высеч і вывезці лес і зрубіць сцены. Цяпер настаўнік павёў атаку на райана ў саюзе з Сцёпкам і з пастановай агульнага сходу ў руках. Гэты раз райана абаранялася слаба.

Барсукова Гара, дзе вызначана было чатырыста пнёў лесу на школу, маўклівая і па-зімоваму сумная, аднае раніцы абудзілася вясёлым гоманам. Захрабусцела пад лапцямі нечапаная скарынка снегавой цаліны, застукалі наўзахваткі сякеры, распырскваючы жаўтавата-белыя трэскі, дваццаць піл заядла ўгрызаліся ў смольныя, сырыя хваёвыя пні. Выносныя стромкія хвоі са стогнам хіліліся зялёнавалосай аснежанай галавой і, як абамлелыя, выпросталіся на снягу, упіраючыся ў мёрзлую зямлю жоўтымі вілаватымі рукамі. Часамі каторая прыхілялася да грудзей суседкі, павісала на яе тоўстым галлі і на момант замірала, чакаючы далейшага лёсу.

А гоман шырыўся і мацнеў. На падмогу лесарубам прыехалі вазакі, і першыя гатовыя кавалкі, ускінутыя камлём на сані, пакідалі за сабой глыбокі след і, віляючы паміж дрэў, выкіроўваліся на дарогу.

Зразу за работу ўзяліся дружна, і за тры дні большая палавіна дзерава ляжала ў канцы вёскі на пляцы, дзе меліся будаваць новую школу. Але знайшлося ў вёсцы некалькі чалавек, што на работу яшчэ зусім не выходзілі і не выязджалі. Калі трэ было сеч, яны адмаўляліся, што лепш паедуць вазіць, а калі прыйшлося вазіць, дык у таго «сані лядашчыя», у другога «конь малады», а той «сам нездароў». Тады і тыя, што спачатку ахвотна выйшлі, адмовіліся:

— Што нам — больш за ўсіх трэба?

Цэлую раніцу хадзіў Рыгор па вёсцы, сярдзіты і неадступны, пакуль выправіў у лес сабатажнікаў. Памагло, калі пагразіў, што зложыць спіс і падасць у раён тых, хто

зрывае вывазку лесу. Зноў не абышлося без лаянкі. Зноў прыйшлося ламаць звяглівае ўпорства Соміка, які адмаўляўся, што ў яго конь малады, у цяжкім возе ніколі не хадзіў, а каню было ўжо чатыры гады.

Сомік хадзіў, як у папечанай скуры. Ад кожнага дотыку, здавалася, адчуваў ён пякучы боль, курчыўся, сыкаў злосцю і, як раздражненая гадзіна, гатоў быў кінуцца на кожнага, хто першы яго зачэпіць. Тое, што яго больш за ўсё непакоіла, але што ён лічыў надзейна схаваным, пачынала выплываць наверх. А тут яшчэ часта пачалі турбаваць яго, напамінаючы пра абавязкі савецкага грамадзяніна: прыйшлося заплаціць падатак за другую карову ды яшчэ і штраф за тое, што ўтаіў; прыходзіцца ехаць у лес, выконваць загад таго, каго ён рад бы бачыць на ражне. За апошні час яму заўсёды нешта рупіла, нешта яго прыгнятала, кожны дзень ён чакаў нейкай для сябе непрыемнасці. Лёгшы спаць, ён доўга не мог заснуць, а рана ўставаў, зморaны горш, як быў у вечар, калі лажыўся. Жонка баялася аказацца да яго. Калі казала яму не пад нораў, ён узгарваўся, як порах, і кідаўся да яе з куламі. Дзеці, пакуль ён быў у хаце, сядзелі дзе-небудзь у кутку і шапацелі ціха, як прусакі. Для спрактыкаванага псіхіятра цікава б было наглядаць, як шпарка даспявае ён для злачынства ці вар'яцкага дому.

Сёння якраз была прычына, ад якой увесь час ярка палала Сомікава злосць, і быў чалавек, які ахвотна падтрымліваў гэты агонь і ўмеў раздзьмухаць, калі ён пачынаў згасаць.

— Гэта ж Данілаў таўкач, кажуць, паехаў-такі ў Бабруйск. Пад цябе падкопваецца.— Грамабой сядзіць на канцы свайго кавалка і абцасам пастуквае па галоўцы полаза, калі каркі хочуць збегчы ўбок з наезджанага следу. Густая пара з ноздраў Сомікава каня, што ідзе ўслед за Грамабоевымі саньмі, асядае шэранню на гнедых персях і на грыве. Грамабой выцягвае сваю галаву з-за канёвай і, наставіўшы вуха, прыслухоўваецца. Сомік недалёка ідзе за сваім кавалкам у кароценькім кажусе і рудой кучомцы. Ён разяўляе рот, стараецца перамагчы вецер, і да Грамабоя далятае канец фразы:

— ...жыватом ездзіць.

Грамабой задаволена рагоча:

— Няма ўжо на іх апрэглае ніякай! — пасылае ён з ветрам.

— Дачакаюцца...— ляціць проці ветру да Грамабоя, і ён закрывае каўняром выстаўленае на мароз вуха.

Рыгор стаяў каля шліхтаў бярвення і гаварыў нешта з фурманамі, якія толькі што скінулі і збіраліся ад'язджаць.

— Гэта ў пільню пойдзе, сюды вязіце! — крыкнуў ён Грамабою і Соміку, згледзеўшы, якія кавалкі ў іх на возе.

Сомікаў кавалак заганялі на самы верх шліхты: Грамабой прытрымліваў верх, а Сомік і Рыгор, набіраючы патрошку каламі, змяняючыся раз за разам, пядзь за пяддзю, заганялі камель. Сомік быў з самага канца, Рыгор трохі пад сярэдзіну.

— Прытрымай, я змянюся,— сказаў Рыгор і выняў кол, каб залажыць яго трошкі вышэй за наступны кавалак.

«Пусціць,— падумаў Сомік, чырвоны ад натугі.— Не ўтрымаў, хто тут вінават». І яму яскрава ўявілася, як рушыцца ўніз грузны кавалак, падбірае, камечыць і трушчыць пад сабою Рыгора. Хмель помсты туманіць яму свядомасць, на момант нават уваччу пацямнела, і цела пачало абмякаць, падавацца пад цяжарам. Але Рыгор ужо справіўся і падпёр кол плячом.

— Ну, рразам! Яшчэ разок! Яшчэ разок! Вось тут яму і месца. Прытрымай яшчэ, а я пабягу Ціхону памагу.

Верх, падагнаны Рыгоравым і Грамабоевым каламі, пайшоў шпарка ўгору. Соміку пад камлём рабілася ўсё лягчэй. Нарэшце кавалак паслушна лёг на вызначанае яму месца на версе шліхты. Мужчыны разагнулі натруджаныя спіны і крыху адсапліся. Рыгорава плячо шчымела, націснутае калом.

— Яшчэ вам па два разы прывезці,— сказаў ён.

Тыя маўчалі, і Рыгор ведаў, што яны думаюць. Злезлі з шліхты. Рыгор сеў на ніжнім кавалку, дастаў запісную кніжку і аловак, каб адзначыць прывезеныя кавалкі.

— Ідзі сюды ў зацішак,— паклікаў Грамабой Соміка і пайшоў у прагалак паміж шліхтамі.

— А кавалак наш не моцна ляжыць. На горб лёг, ледзь толькі ліпіць.

— Чорт яго не возьме, будзе ляжаць,— адказаў Сомік Грамабою, не падымаючы вачэй на кавалак.

— Будзе ляжаць, калі ніхто не зачэпіць. А каб толькі хто крануў...

Сомік глянуў на Грамабоя і зразумеў. Ён падняў кол і, залажыўшы між кавалкаў, злёгку павярнуў. Кавалак паслушна падаўся, перакруціўшыся цераз горб, і рынуўся ўніз па шліхце. Грамабой і Сомік прытуліліся да шліхты, на момант замерлі.

Пачуўшы немы крык, Сомік устрапянуўся:

— Жыў гад! — прасіпеў ён. Шалёная злосць засланіла яснасць думкі. Сціснуўшы ў руках кол, ён ірвануўся з выразным намерам прыкончыць Рыгора, які курчыўся пад кавалкам. Але з другога боку падбягалі ўжо ўдвух, кінуўшы свае вазы.

— Стой! Ашалеў!

— Што тут робіцца?!

Сомік ускочыў на сані, хвасянуў знячэўку каня, і той, ірвануўшы з месца галопам, панёс яго праз вёску, кідаючы сані на ўхабы. Прыскочыўшы ў лес, Сомік пакінуў каня на тым месцы, дзе браў нядаўна кавалак, а сам нібыта пайшоў наглядаць сабе другі. У лесе спакойна накладвалі вазы чалавек з восем — ніхто нічога не ведаў.

Конь Сомікаў стаяў доўга, глэмаў снег, пераступаў з нагі на нагу, а калі пачало вечарэць і ў лесе не было больш ніводнай фурманкі, ён моцна тузануўся. Маленькая хваінка, на якую закінуты былі лейцы, нагнулася, і конь падаўся дадому без гаспадара.

Соміка ў вёсцы больш не бачылі.

Грамабой выткнуўся аж з-за чацвёртай шліхты, каля якой стаяў яго конь. Ля Рыгора ўвіхаліся Баранок і Сцяпан Варанец. Упіраючыся рукамі ў снег, з перакрыўленым ад болю тварам, Рыгор то ўзнімаў галаву, то зноў прыпадаў ёю на снег. Моцна сціснутыя зубы скрыгіталі. Камель кавалка ляжаў у яго на нагах. Відавочна, калі пачуўся за плячыма грукат, Рыгор кінуўся ўцякаць, ды не паспеў.

Скочваць кавалак з ног нельга было, можна было яшчэ больш патрушчыць ногі. Сцяпан з Баранком, адзін з аднаго боку, другі — з другога, падлажылі калы пад канец кавалка і паднялі яго, як на козлах. Але Рыгор сам не мог крануцца, каб выпаўзці з-пад кавалка.

— Што гэта тут нарабілася? — падышоў Грамабой, быццам нічога не ведаючы.

— Памажы вось хутчэй,— адказаў яму Сцяпан.

Грамабой узяў Рыгора за плечы, засунуў рукі пад пахі і асцярожна пацягнуў з-пад кавалка. Той застагнаў і змоўк, страціўшы прытомнасць.

— Каб трошачкі не паспелі, дык ён бы яго тут зусім прыкончыў,— сказаў Баранок.— Кол падняў ужо...

— Што яму за трасца! — дзівіўся Грамабой.— Мы ж толькі што разам з ім закурвалі за шліхтаю. Я пайшоў да свайго каня, а ён застаўся. Раптам чую — крычыць нехта не сваім голасам.

Сцяпан скінуў кавалак са сваіх саней і пад'ехаў да Рыгора. Зняўшы з сябе кажух, паслаў на сані. Але кажух правальваўся ў прагалкі паміж вазоў, і прыйшлося раней перакрыць іх лапкамі. Рыгора асцярожна палажылі на воз, і Сцяпан пагнаў каня ў вёску.

## XXX

Сомік выйшаў з лесу і пайшоў нацянькі па цаліне, мінаючы вёску. Сыпаўся дробны сняжок. Прасторы былі белаватыя, каламутныя і непраглядныя. Не відаць было ні вёскі, якую Сомік хацеў абмінуць, і нічога іншага, на чым магло б спыніцца вока. Ён ступаў па пульхным пласту свежага снегу, пад якім намацвалася нагамі цвёрдая скарынка. Часам яна праломлівалася пад асцярожным Сомікавым крокам, і тады ён западаў глыбока, аж па калена. Другою нагою мацней апіраўся, каб узняцца, і тая праваьвалася. Ішоў тады некалькі крокаў, з хрустам ломячы скарынку, аж пакуль зноў не ўдавалася затрымацца на паверхні.

Соміка праняў пот, ён ссунуў кучомку з ілба на патыліцу і расшпіліў кажух. Нарэшце ў белай каламуці намецілася шырокая пляма не то хмара, якая з кожным крокам рабілася ўсё выразнейшаю і цямнейшаю.

Задаволены, што трапіў якраз туды, куды, выйшаўшы з лесу, намерыўся, Сомік пайшоў спакайней. Перад ім намячаліся ўжо невыразныя абрысы бліжэйшых дрэў. На другім баку могілак была дарога, на якую яму трэба было выйсці.

Засыпаная снегам капліца здавалася хутчэй гурбаю, а не будынінай. Сомік падышоў і сеў на яе струхлелым парозе, каб крыху перадыхнуць і яшчэ раз перадумаць.

Ад капліцы праз рэдкія дрэвы відаць быў край могілак, дзе праходзіла дарога. На дарозе ад Мядзведзіч паказаліся дзве фурманкі, чуваць была гаворка. Сомік цясней прыту-

ліўся да дзвярэй капліцы і не варушыўся, каб не ўбачылі з дарогі. Адначасна ён прыслухоўваўся, каб пачуць, пра што гавораць,— можа, нават знаёмыя галасы. Але да фурманак было з паўганок, а гаварылі не вельмі моцна.

Пачакаўшы хвілін дзесяць, Сомік выйшаў на дарогу і пайшоў працёртым свежым следам.

Дзесяты раз думаў ён сёння пра сваё становішча і з кожным разам усё больш пераконваў сябе, што яму трэба рабіць якраз тое, на што ён адважыўся. У вушах яшчэ стаяў крык абурэння, якім перапынілі яго Баранок і Сцяпан, калі ён кінуўся з калом да Рыгора. Яны адразу скемілі, што ён намерыўся рабіць. Калі б нават яны і не пасведчылі яму на згубу, калі б і нельга было давесці, што Сомік знарок падстроіў, каб кавалак скаціўся на Рыгора, дык усё роўна: другі дзень, як выехаў Мікола Наздрэйка. Усе кажуць, што паехаў шукаць Сомікавых даўнейшых слядоў. У тым мястэчку добра памятаюць гэту справу, а ў самой вёсцы Кармянцы яшчэ не паўміралі тыя, што носяць на целе пісагі ад стражнікоўскіх плётак. Хутчэй за ўсё Мікола вернецца не з пустымі рукамі. А тады хто ў цэлым свеце паверыць, што Сомік не хацеў забіць Рыгора, што кавалак сам скаціўся з шліхты? Варочацца ў вёску — гэта аддацца самому ў рукі, сесці за краты, а можа, і быць расстраляным. А Грамабой — што ён цяпер скажа? Ён рад, што ёсць на каго скласці ўсю віну. Усё роўна, як пад руку таркануў, а сам і не лыс... Адзін паратунак — туды. Пан Вальвацкі, напэўна, яго пазнае і не абыдзе сваёю ласкаю, дапаможа працу знайсці, а можа, і кусок зямлі дасць. Не мог жа ён забыцца пра гэта памятнае здарэнне.

Перад Сомікавымі вачамі, як жывы, устаў малюнак...

Даўно ўжо да мястэчка даходзілі чуткі, што кармянчане ваююць з панам за «сервітут». Яны не ведалі дакладна, што азначае гэта мудронае слова, яны толькі ведалі адно, з панам яшчэ не зусім размежаваны ад часоў паншчыны: гэты поплаў, куп’істы і гразкі, заўсёды быў пашаю для кармянскіх кароў. Часамі і скарбовы пастух прыпускаў свае каровы, ды ў пана была лепшая паша для кароў, і такія выпадкі былі рэдка. Але пан Вальвацкі, прагуляўшы за сваю бурную маладосць усё, што маглі даць яму некалькі маёнткаў пры жахлівай эксплуатацыі парабкаў

і падзённікаў з навакольных вёсак і пры дзедаўскіх спосабах гаспадарання, успомніў пра тое, што ў Даніі, у Нямеччыне, у Амерыцы гаспадарка дае ў некалькі разоў больш прыбытку. Ён нават меў пару знаёмых паноў, якія ў сябе прабавалі наладзіць гаспадарку па-замежнаму. Сам пан Вальвацкі нічога ў гаспадарцы не разумеў, займацца самому сур'ёзна гэтай справай яму не хацелася, бо прыйшлося б прамяняць сталічныя салоны і клубы на правінцыяльную адзіноту, на стайні і аборы. Пан Вальвацкі зрабіў так, як рабіў не адзін пан, заводзячы культурную гаспадарку. Ён выпісаў немца-спецыяліста і здаў на яго рукі ўсю гаспадарку, патрабуючы аднаго — як мага больш прыбытку. Швэнцар (так звалі новага кіраўніка) узяўся за справу. Завёў замест трохпалёўкі сяміпольны севазварот, выпісаў патрэбныя машыны, рацыяналізаваў працу. Эксплуатацыя ад гэтага ні капелькі не паменшала, дабрабыт парабкаў не палепшаў, але справа пана Вальвацкага пачала патрошку папраўляцца. Наязджаючы зрэдку ў маёнтак, пан Вальвацкі задаволена ляпаў Швэнцара па плечуку і згаджаўся з усімі яго планамі, калі яны не патрабавалі шмат грошай. Гаспадарская пахвала ласкатала Швэнцараў гонар спецыяліста, і ён яшчэ больш стараўся, хоць не раз зняважліва ўсміхаўся, гледзячы на чалавека, які больш нічога не ўмее рабіць, як толькі прагульваць тое, што зроблена іншымі. Аднаго разу вясною Швэнцару ўдалося вывезці пана Вальвацкага ў поле, каб агледзець палеткі і паказаць, дзе і што ён мяркуе рабіць. Праязджалі паўз лес. Справа, на вялізным зялёным абшары куп'істага лугу, рассыпалася стракатая чарада кармянецкіх кароў, што лавілі шурпатымі языкамі рэдкую маладую асочку. Швэнцар быў абражан у сваіх пачуццях спецыяліста і дзівіўся з варварскага спосабу скарыстання лугу. Блытаючы расійскую марфалогію і сінтаксіс, дабаўляючы значную порцыю нямецкіх слоў, Швэнцар горача даводзіў пану Вальвацкаму, што гэты луг, калі за яго добра ўзяцца, можа даць трыста пудоў з дзесяціны найлепшага сена. Пан Вальвацкі лагодна пасмейваўся з Швэнцаравай ламанай гаворкі і з яго энтузіязму, але, вярнуўшыся дадому, зараз жа загадаў парабкам сагнаць з лугу кармянецкіх кароў. Загад быў выкананы: праз гадзіну, грузнучы па чэрава ў лагчынах, чарада валам валіла з лугу да поля. Пастушкі з перапуду пабеглі ў вёску скардзіцца бацькам, а каровы разышліся па палетку, шукаючы сабе спажывы на межах і на палосках ранняга пасеву, якія паспелі ўжо

зазелянець. Назаўтра пастушкі зноў пагналі кароў на луг, але за імі назіркам ішлі бацькі з дручкамі. Некаторыя паглядалі з дому, з-за вугла свірна альбо варыўні. Як толькі пасланыя панам парабкі пачалі займаць чараду, кармянчане густа пасыпалі на луг: хто з поля, хто з лесу, хто з вёскі. Парабкам зусім не хацелася падстаўляць свае галовы пад кармянецкія дручкі. Яны пакінулі каровы і, адышоўшыся да лесу, паглядалі, што будзе далей, бо ля чарады застаўся адзін панскі падлізнік і падбрэхіч. Ён пачаў агрызацца і лаяцца з кармянчанамі. Ад лесу парабкі бачылі, як замітусіліся і звіліся ў клубок мужчыны, а пасля пачалі паволі разыходзіцца. Вярнуўшыся, парабкі знайшлі падбрэхіча з пераламанай рабрынаю і без двух пярэдніх зубоў.

Пан Вальвацкі запрасіў каморніка і загадаў яму адмераць і аслупаваць луг, адзначыць такім чынам мяжу, каб пасля можна было судзіць кармянчан за самаўпраўства і за парушэнне мяжы. Лінія вызначалася новымі хваёвымі слупкамі і прайшла каля самых кармянецкіх палос па лагчыне, дзе некалі была пракопана канава для асушкі. Цяпер гэта канава заплыла гразёю, скупа зарасла зверху травою, і не раз прыходзілася кармянчанам выцягваць з яе вяроўкамі сваіх кароў.

Кармянчане панура і маўкліва паглядалі на каморнікаву работу. З «казённым» чалавекам займацца не хацелі, але за ноч усе слупкі былі вырваны і пашчапаны на друзачкі: не хацелі кармянчане прызнаваць ніякай мяжы, бо лічылі, што гэты луг належыць ім здавён. Вось тады і звярнуўся пан Вальвацкі да валаснога начальства, да станавога, да спраўніка, каб памаглі супакоіць «бунтаўшчыкоў».

А кармянчане, каб лепш замацаваць за сабою луг, надумаліся грэблю зрабіць цераз гразкі роў, каб не цягаць з яго вяроўкамі сваіх кароў, каб на луг можна было і коней завесці.

Калі прыехалі восем конных стражнікаў і з імі Сомік (усё, чым мясцовае начальства магло дапамагчы пану Вальвацкаму), пан Вальвацкі сядзеў на краі лесу і пакручваў у руках дубальтоўку, паставіўшы паміж кален прыкладам на мох. Воддаль слуга трымаў за павады пару асядланых коней. Нягледзячы на цёплае надвор'е, пан Вальвацкі быў у каўказскай кучомцы і ў бурцы. Ён час ад часу абыякава паглядаў на кармянчан, якія мітусіліся з рыдлёўкамі і сякерамі каля рова, дзе мелася быць грэб-

ля. Усіх было чалавек дваццаць. Бабы з высока падаткнутымі падаламі, мужчыны з падкасанымі калошамі. Там ляжала ўжо вазоў са тры яловых лапак, некалькі няпоўстых бярвенняў; прывезлі тры вазы пяску: работа толькі што пачыналася. Па тым, як пан Вальвацкі пагледаў на кармянчан, можна было падумаць, што гэта яго зусім не абыходзіць, што, можа, ён нават сам наняў сялян на гэту работу і цяпер толькі наглядае, каб не ленаваліся.

Калі пад'ехалі стражнікі, пан Вальвацкі таксама абыякава глянуў на іх. Старшы, прылажыўшы руку да казырка, адрапартаваў. Сомік бачыў, як пан Вальвацкі шавяльнуў губамі і кіўнуў на кармянчан, якія стаялі цяпер на тым баку рова і з варожай цікавасцю пaглядалі на стражнікаў. Старшы скамандаваў і сам прышпорыў рыжага гладкага жарабца, накіраваўшы на кармянчан... За ім, нарыхтаваўшы плёткі, памкнуліся ўсе стражнікі. Старшы хацеў з маху перамкнуць цераз роў, але жарабец пад ім залапатаў і сеў у гразі. Старшы саскочыў і збянтэжана пачаў торгаць за павады. Конь яшчэ раз добрасумленна папяўся, каб змяніць ногі, але заехаў яшчэ глыбей. Тады больш і не турбаваўся, толькі задзіраў галаву, каб засцерагчы мысу ад гразі, і пачаў нават згрызаць асочку, калівы якой тырчалі перад самай яго храпай. Старшы аглянуўся на стражнікаў. З іх ніхто не адважыўся ехаць у роў. Пачалі злазіць з коней. Кармянчане стаялі моўчкі і зларадна пасміхаліся.

Трэба было ратаваць жарабца, але нікому са стражнікаў не хацелася разувацца і лезці пэцкацца ў гразь. Ад гэтага яшчэ большая злосць была на тых, што варожым натоўпам стаялі на тым баку рова.

— Што зубы скаліце! — затрымцеў Сомік, сціскаючы ў руцэ плётку.— Марш каня цягаць!

Ніхто за ровам не зварухнуўся, не аказаўся, толькі ўсіх погляды накіраваліся на яго.

— А, вы так!..— Ён перадаў каня свайго другому і, балансуючы ў паветры рукамі (у адной была плётка), пайшоў цераз роў па аслізлай ад гразі жардзіне. На тым баку ўсе маўчалі і не краталіся, толькі пераводзілі позіркі то на глянсаваныя Сомікавы боты, што асцярожна ступалі па жардзіне, то на плётку, якая з кожным рухам матлялася ў далёка адстаўленай Сомікавай руцэ. Калі Соміку заставалася крокаў тры да другога берага, сухарлявая чорнавалосая жанчына моўчкі схапіла ў прыгаршчы рэдкай гразі і ляпнула Соміку ў твар. Ляпнула яна так спрыт-

на, што заляпіла левае вока, усю шчаку і нос. Страціўшы раўнавагу, Сомік шабулдыхнуўся ў калатушку і ўехаў аж па пояс. Пачаў праціраць вока і яшчэ горш размазаў гразь па твары.

У пана Вальвацкага даўно знікла з твару міна абыякавасці. Калі Сомік, прамываючы ў лужынцы заляпанае вока, глянуў другім на пана, той аж ледзь не да слёз рагатаў, гледзячы на Соміка. Старшы ўсё яшчэ трымаў повад свайго жарабца і, паглядаючы то на Соміка, то на пана, збянтэжана ўсміхаўся, не разумеючы, чаго пан рагоча, калі трэба абурацца.

Ад сораму і злосці кроў зашумела ў Сомікавай галаве. Яшчэ добра не прамаргаўшыся, ён вылез з рова на той бок і, сашчапіўшы зубы, моўчкі пайшоў на чорнавалосую жанчыну. Яна адступалася задам, наставіўшы запэцканыя ў гразь рукі. Раптам Сомік скочыў, схапіў яе леваю рукою за хустку разам з валасамі і пачаў паласаваць плёткай. З перакрыўленым ад болю тварам жанчына курчылася, выгіналася і круцілася вакол Соміка, а ззаду ў яго з плачам мітусілася дзесяцігадовая дзяўчынка. Яна трымала паднятую ўгору рыдлёўку і ўсё забягала, каб выцяць ёю Соміка. Але Сомік круціўся разам з жанчынаю, і дзяўчынка не магла добра нацэліцца. Барадаты шыракаплечы дзядзька раптам адлучыўся ад маўклівага натоўпу і падаўся да Соміка з паднятай сякерай. Пан Вальвацкі ўскінуў да пляча дубальтоўку і, не ўстаючы з пня, стрэліў. Сякера выпала з рук. Барадаты замахаў у паветры рукою, схапіў у рот прастрэленыя шротам пальцы і зноў замахаў у паветры. Сомік выпусціў жанчыніны валасы і абярнуўся на стрэл. Тады, нарэшце, дзяўчынка стукнула яму рыдлёўкай па галаве.

Слабы быў дзіцячы ўдар, але Сомік схапіўся за галаву і прысеў. Кроў пацякла па патыліцы і капала на ўсё яшчэ бялюткі на плячах кіцель.

А там, па накіданых наспех яловых лапках, перабіраліся цераз роў іншыя стражнікі, стралялі на бягу ў паветра. Крайнія з натоўпу пачалі аступацца і ціснуцца. Над імі засвісталі плёткі. Натоўп рынуўся ў роў з лаянкай і праклёнамі. Выбраўшыся з гразі на другі бок, рассыпаліся па полі, бегучы нацянькі да вёскі. Стражнікі кінуліся на той бок па тых самых яловых лапках і ўскочылі на коней. Сомік не адставаў, нягледзячы на больку. Ускочыўшы ў сядло, ён бязлітасна ціскануў каня шпорамі, і той вынес яго на самы перад.

Толькі цяпер пан Вальвацкі ўстаў з пня і зрабіў шпаркіх пятнаццаць крокаў, каб лепш відаць было, што робіцца на полі.

З-пад конскіх капытоў высока ўзляталі камякі сырой зямлі з зялёнымі ўсходамі. Стражнікі нагналі ўжо кармянчан і, нагінаючыся з сядла, апускалі плёткі на сялянскія спіны. Жанчыны падалі з разбегу ў мяккую раллю, мужчыны прысядалі і хапаліся за балючае, рассечанае плёткай месца.

Здаволеная ўсмешка кранула губы пана Вальвацкага. Ён адышоўся, зноў сеў на пень і загадаў слузе прыгатаваць коней.

Калі стражнікі вярнуліся, пан Вальвацкі сядзеў ужо на вараным жарабцы, які перабіраў нагамі і прасіў повада. Пан Вальвацкі паківаў пальцам, падзываючы Соміка. Той пад'ехаў, перапэцканы ў гразь. Па патыліцы яшчэ цяклі павольна рагі густой і ліпкай крыві. Згусткі яе спякліся ў скарэлых валасах.

— Маладзец, добра працуеш! — пахваліў пан Вальвацкі.

— Рад старацца, ваша светласць,— прылажыў Сомік руку да лба, забыўшыся, што ён без шапкі.

— Вось маеш на гарбату,— пан Вальвацкі дастаў з кашалька новую траскучую дзесяцірублёўку.

— Пакорна благадарым, ваша светласць! — гаркнуў Сомік і замёр у сядле.

Пан Вальвацкі крануў шпорай вараны жарабцоў бок і ўзяў з месца галопам па лясной дарожцы.

Перад Сомікавымі вачыма ва ўсёй яскравасці ўставаў гэты малюнак і каларытная постаць пана Вальвацкага. Ён уяўляў, што і цяпер убачыць пана Вальвацкага такім самым маладым, з маленькімі чорненькімі вусікамі, у каўказскім убранні. Той, можа, рыхтуючыся на паляванне, будзе пакручваць у руках дубальтоўку, як тады, седзячы на пні. Ён убачыць стомленага Соміка, спачатку не пазнае і насупіцца, а потым успамяне, твар яго пасвятлее, і ён пачне распытвацца. Пашле на кухню і загадае, каб накармілі. Скажа пакуль што аддыхаць. Вярнуўшыся з палявання, паклапоціцца даць яму работу. Мо пакіне ў сябе, ці яшчэ лепш — прыстроіць у горадзе.

За гэтымі сваімі марамі Сомік не заўважыў, як прайшло шмат часу, не чуў, што нудліва ныюць стомленыя ногі, што ломіць у каленях. Ён нават здзівіўся, калі заўважыў перад сабою невыразныя абрысы стрэх. Ад гэтай вёскі да мяжы ўсяго чатыры кіламетры.

Сомік у вёску ўвайсці пабаяўся. Ён успомніў, што цераз лес наўкасы была дарога. Па гэтай дарозе ў дваццатым годзе Сомік уцякаў з чырвонаармейскага абозу, звярнуўшы ноччу з воза ў роў скрынкі з штабнымі паперамі.

Ён звярнуў у хвойнік. Дарогі там не знайшоў і пайшоў па цаліне ўздоўж хвойніку, пакідаючы вёску справа і трымаючыся так, каб відаць было поле. Страціў да рэшты адчуванне часу, не ведаў, ці ідзе ён ля хвойніку ўжо некалькі гадзін, ці толькі пяць хвілін. На мяжы ні разу раней не быў і не ведаў добра, якая яна. Ведаў толькі, што там павінны быць слупы. Думаў, што гэтыя слупы ён убачыць яшчэ здалёк, што паміж слупамі ёсць яшчэ, напэўна, глыбокі роў ці якая-небудзь загарада. Ён яшчэ добра сабе не ўяўляў, як будзе цераз такую мяжу перабірацца. І раптам зусім нечакана здрыгануўся:

— Лажыся!

Зразу нават і не паверыў, што гэта ўжо і ёсць тое, самае страшнае. Усё кругом было да недарэчнасці звычайным: той самы хвойнічак, поле, а там далей — нейкая будыніна...

Ашаломлены, на момант спыніўся. У прагаліну паміж хвоек убачыў двух з вінтоўкамі. Тады зразумеў. Ірвануўся цераз поле, западаючы глыбока ў снег. Ведаў, што недзе тут мяжа, можа, толькі пятнаццаць — дваццаць крокаў яму трэба прабегчы. Мераў вокам адлегласць да тых, што беглі яму наперарэз. Чакаў — вось-вось грымне стрэл, адчуваў нават мясціну на левым баку, куды трапіць куля, і ўсё-такі бег далей.

Куля зыкнула перад самым носам, аж Сомік інстынктыўна матнуў галавою, як конь ад заедзі. Зрабіў яшчэ тры крокі, і ў наступны момант торкнуўся ў пульхны снег агністым шчаціннем барады.

## XXXI

Павольна зрасталіся патрушчаныя Рыгоравы косці. Зіма ўжо на другую палову перабралася, а ён усё ляжаў у лубках і бінтах. Першыя дні, як палажылі ў бальніцу, быў зусім слабы, нічым навакольным не цікавіўся, і погляд яго быў такі, нібы ён сабе ў нутро глядзіць. Пры ім начавала першую ноч, а пасля часта наведвала жонка. Марыля гаварыла, ціха і журботна скардзячыся. Слёзы беглі па яе яшчэ больш схудзелым твары, тады яна змаўкала і старан-

на ўціралася фартухом. А ён доўга і сур'ёзна глядзеў ёй у твар, пасля адварочваўся і пачынаў драмаць. Нават калі на чацвёрты ці на пяты дзень замест Марылі прыйшла Шура, ён не здзівіўся і асабліва не зацікавіўся. Не папытаўся нават, як яна прыехала з вучобы — на некалькі дзён ці, можа, зусім. Калі сама яна сказала, што ўзяла водпуск на год і паедзе зноў вучыцца налета ўвосень, дык ён толькі галавой кіўнуў, і нельга было пазнаць, ці гэта яго здаволіла, ці ён гэтым толькі паказвае, што чуў Шурыны словы.

Пра стан бацькавага здароўя Шура распытала ў доктара, а ў хворага асабліва не распытвалася, каб не турбаваць. Яна толькі трохі адкрыла коўдру і глянула. Бацькавы забінтаваныя ногі ляжалі тоўстыя, як бярвенні. Бровы яе збегліся на пераноссі, і ўвесь твар сабраўся ў жаласлівы камяк.

— Баліць? — спыталася накрываючы.

Ён зноў толькі ледзь кіўнуў галавою.

Разы са два прыходзіў нейкі з партфелем, шастаў белымі аркушамі паперы, і па ёй, услед за Рыгоравымі словамі, жвава скакаў аловак. Рыгор гаварыў цераз сілу, з натугай, быццам адпіхаў ад сябе нешта грузнае і неадчэпнае.

З усяго, што тады здарылася, ён яскрава помніў два моманты: як Грамабой паклікаў Соміка за шліхту закурваць і як неўзабаве загрукатаў зверху кавалак. А таго, як падбег Сцяпан з Баранком і як, выйшаўшы аж з-за чацвёртай шліхты, цягнуў яго з-пад кавалка Грамабой, ён не памятаў. Калі загрукатаў кавалак, ён ірвануўся, каб уцячы. Тады маланкаю ўрэзалася ў свядомасць адчуванне немінучай бяды і ўпэўненасць, што гэта — яны ўдвух. Цяпер ён усё гэта пераказваў следчаму і ўпэўнена гаварыў, што Грамабой з Сомікам скацілі на яго кавалак.

Аднаго дня Шура сказала, што Грамабоя арыштавалі. Рыгор успрыняў гэта як нешта немінучае і даўно для яго вырашанае, нібы гэта Шура сказала, што на двары пайшоў дождж, калі ён сам бачыў, што нахмарылася, і чакаў гэтага дажджу. Так ён упэўнены быў у вінаватасці Грамабоя.

— А той як? — пашавяліў губамі.

— А той так і не вярнуўся. Дагэтуль яшчэ не знайшлі.

— Гад,— і губы яго перакрывіліся злосцю.

Разам з тым як патроху сціхаў боль і варочаліся сілы, ён усё больш цікавіўся тым, што робіцца дома ў хаце, у вёсцы. Сам прабаваў распытвацца.

Ахватней гаварыў з Шурай. Яна мацней трымалася, не бедавала і не плакала перад ім, і яму з ёю лягчэй было. Калі ж прыходзіла Марыля, ён гаварыў куды менш, старанна абыходзячы самае балючае. Калі яна пачынала хліпаць і выціраць вочы, насупліваўся і адварочваўся.

Праз тры дні ніхто не прыходзіў даведацца. Рыгор пачынаў непакоіцца, каб дома чаго не здарылася. На чацвёрты дзень прыйшла Марыля. Ён дапытліва глянуў ёй у твар і заўважыў, што сёння яна шмат весялейшая. Тады супакоіўся і чакаў, чым яна пахваліцца.

— Ляжыш вось, а мы і малацьбу без цябе змалацілі,— не ўтрывала яна доўга.

— Як жа гэта вы ўправіліся? — здзівіўся і відавочна ўзрадаваўся ён. Увосень за школаю ды за іншымі справамі ён толькі жыта на насенне акалаціў ды на хлеб крыху, і цяпер яго турбавала думка пра малацьбу, толькі не хацеў жанкам казаць пра гэта, бачыў, што ім і так крута.

— Юзік, дай яму бог здароўя, з малатарняю падскочыў. Некаторыя хаўруснікі, чуваць было, трохі крывіліся, але Сцёпка за Юзіка ўзяўся. Аўдоля памагала, Сцёпка, Якуб. За два дні памаленьку і ўхадзіліся. Першы дзень жыта змалацілі, а назаўтра ярыну... Я і сама памагала трохі, коні паганяла.

— Дзе ж вы каня другога дасталі?

— Сцяпан свайго даў. Я хацела ўжо ў Аўдолі прасіць, дык ён пачуў, што малаціць будзем, сам сказаў.

— І рабая ж наша ўчора ацялілася. Цялушку прывяла, ды такая ж зграбная,— памаўчаўшы, пахвалілася Марыля. Яна бачыла па твары, што яму прыемна чуць гэтыя навіны, і перабірала ў думках, чым бы такім яшчэ яго парадаваць.

Узбуджанаму прыемнымі навінамі і павесялеламу Рыгору захацелася нават сесці і пагаварыць. Ён апёрся абедзвюма рукамі і папрабаваў устаць, але охнуў і кінуўся зноў на падушку.

Юзік не толькі малацьбой памог Рыгоравай сям'і. Ці, можа, таму, што па-суседску Шура часта была ў Верамейчыкаў і Юзік ведаў яе і матчыны клопаты, ці, можа, сама Шура была тут прычынаю, у чым Юзік не асмельваўся сам сабе прызнацца, але ён часцей і ахватней за іншых памагаў ім у патрэбны момант. Ён бачыў, што Шура крэпіцца і стараецца трымацца бадзёра, успамінаў, з якою радасцю яна ўвосень сустрэла паведамленне аб тым, што залічана ў тэхнікум, і разумеў, чаго ёй каштавала цяпер

так трымацца. Можа, таму так уважна, хоць неўзаметку, углядаўся ёй у твар, лавіў новыя ноткі ў яе голасе. Ідучы пад калодзеж аднаго разу, убачыў — Шура сані выцягнула, рубель кладзе на воз, вілкі, вяроўкі. Падышоў, глядзіць з усмешкай, як на малое дзіця, якое пераймае работу дарослых.

— Куды гэта ты рыхтуешся?

— Сена ўсё выйшла. На балоце стажок асакі стаіць, паеду прывязу.

— Адна і паедзеш?

— Адна.

— Што ж ты там узложыш адна? Капу сена.

— Колькі ўзлажу. Буду ездзіць штодня, пакуль не перавязу.

— Папрасіла б каго.

— Папросіш, ды не паслухае, дык толькі сорам будзе. Сцёпка, ведаю, не адмовіўся б, дык ён у лес ходзіць у заработкі. Я не хачу, каб праз мяне ён дзень траціў. Якуб паслухаў бы, дык таму і свае работы цяпер па горла — дзерава на пасёлак возіць. А больш я не ведаю, каго і прасіць.

— А ты б мяне папрасіла, то я б табе і памог.

— Дык давай, можа, я цябе папрашу,— засмяялася Шура.

— А я і не адмоўлюся.

Прыйшоўшы дадому, ля дзвярэй Зосю стрэў з ражкаю, свінні несла.

— Шура просіць, каб памог ёй сена прывезці,— з наўмыснай абыякавасцю адвёў вочы ўбок, чакаючы адказу.

— Дык, можа ж, работы пільнай няма, паедзь памажы,— а сама вокам кінула неўзаметку. Здалося, павесялелі трохі Юзікавы вочы.

Не распранаючыся, сёрбаў гарачую зацірку, каб Шура не прачакалася. На балоце, кладучы воз, любаваўся, як яна, стоячы на стозе, уздзірае вілкамі пласты сена і кідае яму на воз, як ад работы і ад марозу разружавеўся яе твар і як рэзка лягла на ім, выбіўшыся з-пад хусткі, пасма чорных валасоў. Лавіў яе погляд і тады ўсміхаўся без прычыны, а яна быццам не заўважала і зноў нагіналася над сенам. Калі дома скідалі сена ў адрынку, не ўцярпеў, набраў велізарны ахапак і, быццам незнарок, закідаў ім Шуру, збіўшы з ног. Яна смяялася, валтузілася ў сене, стараючыся вылезці, а ён прасіў прабачэння, спяшаўся быццам памагчы і яшчэ больш закідваў яе сенам. Нарэшце

яна вырабілася і, выбіраючы сена з валасоў, паргразіла яму пальцам:

— Ой, раздурэўся нешта дзядзька! Нябось скажу цётцы.

— Гэта я дзядзька?! — здзівіўся Юзік.

— А ты ж за мяне гадоў на дзесяць, мусіць, старэйшы. Якраз бы мне цябе дзядзькам зваць.

Юзік памкнуўся да яе з выразным намерам злавіць і пакараць, але яна спрытна крутнулася паўз яго і апынулася на двары.

Юзік думаў, што Зося, занятая дзіцем, не заўважае яго прыхільнасці да Шуры: не ўспамінала яму ніколі з таго разу, як Шура прыходзіла развітацца, ды і не зрабіў ён нічога такога, што магло б кінуцца ў вочы. Тым больш збянтэжыўся ён, калі аднаго разу, не то жартам, не то напраўду, папікнула яна Шурай. Старых не было ў хаце. Малы гуў нешта сам сабе ў калысцы, размахваючы кулачанятамі, лавіў неспадзеўкі сваю ўласную нагу і цягнуў яе ў рот. Юзік нагнуўся над калыскаю пазабаўляць. Малы, кінуўшы сваю нагу, уплёўся аберуч Юзіку ў валасы.

— Ай, жулік! Дык гэта ты бацьку за валасы?! — скрывіўся Юзік.

— Маладзец, Аркадзік, трымай яго, каб да Шуры не ўцёк,— адгукнулася Зося ад печы.

— Дурная ты, скажы, мама. Што ты на тату плёткі ўзводзіш,— і Юзік знарок не адхінаўся ад калыскі, каб Зося не заўважыла збянтэжанасці на яго твары. І ён думаў, што сапраўды тут, мусіць, нешта ёсць, калі ён не адважваецца глянуць Зосі ў вочы. Хацеў разабрацца, якое месца займае ў яго думках Шура, ці адсунула яна хоць на макулінку Зосю ў яго пачуццях. Здавалася, што не. Наадварот: з таго часу, як нарадзілася дзіця, Зося яму стала яшчэ бліжэйшаю. Але ў Шуры ён бачыў тое, чаго не хапала Зосі. Тое, што ён хацеў бы мець у адной жанчыне, тут падзелена было паміж дзвюма.

Раптам ён злавіў сябе на тым, што думае пра каханне. Гэта вельмі падобна на тое, што ён некалі чытаў у адной кніжцы. Там людзі кахаліся, кахалі разам па двух і думалі пра гэта цэлымі месяцамі ці нават гадамі і больш нічога не рабілі. Ды ім і рабіць не было чаго. Праўдзівей — патрэбы не было рабіць. Ім заўсёды было і паслана, і прыбрана, і на стол пададзена. Яны нават не ведалі, не хацелі ведаць, адкуль гэта ўсё бярэцца. Ім усяго і клопату было, каб чым-небудзь заняць вольны час, якога ў іх было — цэлае

жыццё. Ён параўноўваў сябе з тымі людзьмі і сам засмяяўся. Зараз жа апрануўся і выйшаў за нейкаю работаю.

Юзіку сапраўды не было калі думаць пра свае пачуцці. У яго была яшчэ адна ўлюбёная, пра якую ён найбольш думаў і клапаціўся ўсю восень і палову зімы,— малатарня.

Цяжка было пераканаць мужчын, перамагчы іх недаверлівасць, боязнасць, што іх тут ашукаюць і тады прападуць набытыя мазалямі рублі. Яшчэ цяжэй было самому вырваць у бацькі грошы, патрэбныя на пай. Думаў спачатку на старане дзе-небудзь шукаць, у чужых людзей, у суседзей, ды не было ў каго вельмі прасіць. У каго былі, дык Юзік ведаў, што той яму не дасць, а хто даў бы, у таго ў самога лішніх не было. Падумаў пра тое, што ён таксама мае правы на гаспадарку, што ён дамагаецца грошай на карысную справу і карысную не толькі для сябе, і намерыўся ісці да канца — цераз бацькаў аўтарытэт, праз агіду сваркі, крыкаў і кленічаў. І цяпер яшчэ прыкра і агідна ўспамінаць пра тое. Праз два дні, не сціхаючы, калацілася Верамейчыкава хата. Бацька патраціў ужо ўвесь запас сваіх кленічаў, змогся мацюкаючыся і плюючы, і падрэшт, збялелы, схапіў палена з-пад прыпечка. Ды тут Пілілка з плачам павіс у яго на руцэ, і людзі чужыя, счуўшы немы хлопцаў крык, прыбеглі разбараняць. Зося рада была адрачыся ўсяго і сысці куды-небудзь у свет, каб і вушы яе не чулі гэтага пекла, а Юзік усё стаяў на сваім: «Давай грошы, а не — усю частку, што мне з гаспадаркі належыць». Бацька так заеўся, што гатоў быў хутчэй на падзел згадзіцца, а не ўступіць Юзіку. Але старая, відаць, адгаварыла яго ад гэтага. Яна ўсё яшчэ не траціла надзеі, што Юзік, нарэшце, куды-небудзь выкруціцца і тады ўся гаспадарка Пілілку застанецца. На трэці дзень бацька кінуў перад Юзікам на стол дваццаць рублёў.

— На, душыся.

Юзік крыва ўсміхнуўся, хаваючы грошы ў кішэнь.

Затое з якой гаспадарскай зацікаўленасцю пераходзіў ён ад аднае малатарні да другой у Мінску на складзе, пакуль не перабраў па тры разы ўсе да аднае! З якой уважлівасцю перамацаў кожную шрубу і кожны зуб на барабане! З якой асцярогаю памагаў класці на воз і везці дадому.

Але самы яскравы момант, які надоўга застанецца ў памяці тых, хто быў пры гэтым, гэта калі сталі дзве малатарні адна супроць другой, як батарэі двух варожых армій. Знарок так уладзілі: да Аўдолі пайшлі малаціць

у той дзень, калі Грамабой узяў Каржакевічаву малатарню. А гумны іх — вароты проці варот. Бачылі, як нервова сам Каржакевіч падаваў у цапы, як некалькі разоў спыняў малатарню і нешта ў ёй падкручваў, як Грамабой хадзіў насуплены і гразіў вілкамі меншаму сыну. Пасміхаліся члены таварыства, і яшчэ большая ахвота брала да работы. А ў перапынках Пошта, сам член таварыства і «машыніст», адхаркваючы густую і чорную ад пылу сліну, ківаў галавою ў бок Каржакевіча:

— О, няхай цяпер сам паглытае пылу, пакаштуе, што за смак.

Па паўдні Каржакевіч не выцерпеў. Прыйшоў да Аўдоліных варот, калі хлопцы пачалі закурваць. Абышоў кругом, агледзеў, кола пакруціў, у барабан глянуў:

— Ну, як яна?

— Куды, твая і блізка не стаяла каля яе,— хваліць Пошта.

— Аднае ж фабрыкі, здаецца,— кажа Каржакевіч.

— Дармо. Твая ўжо старая, зубы пазлізваліся, каласы цэлыя пускае.

— Ну, малаціце здаровы. І маёй лягчэй будзе, а то адна на ўсю вёску была,— рудыя вочкі бегаюць, проста ў твар глянуць не могуць.

— Цяпер ваша спакойна можа адпачыць,— круцячы цыгарку, нібыта зусім сур'ёзна гаворыць Сцёпка. Усе разумеюць іронію Сцёпкавых слоў і адводзяць погляд, хаваючы ўсмешку.

Адпачыць Каржакевічавай малатарні сапраўды прыйшлося гэту зіму. Хаўруснікі зразу пачалі браць за сваю чатыры рублі ў дзень, а хто хацеў, мог і жытам плаціць. А тады і Каржакевіч спусціў цану на чатыры пуды, а пасля і зусім на тры. Але ўсё радзей ішоў ён цяпер з малатарняю: ранейшых заработкаў не было, а другога «машыніста» на месца Пошты, якога перацягнула да сябе таварыства, таксама не знайшоў яшчэ.

З таго часу, як Рыгор лёг у бальніцу, усе абавязкі члена сельсавета па Мядзведзічах прыйшлося выконваць адной Аўдолі. Прыехаў хто-небудзь з раёна, перш-наперш да Аўдолі: так і так, трэба сход склікаць. Устае Аўдоля з прасніцы або з-за красён, кажушок на плечы, палку ў рукі і пайшла па падаконню. Паб'ецца брат з братам альбо мужык з жонкаю, зноў, пакуль суд ды справа, Аўдолю клічуць. Не надта хочацца ёй умешвацца ва ўнутраныя справы, падлічваць, хто каму больш сінякоў

насаджаў, ды нічога не зробіш — улада. Спачатку саромелася трохі, не магла прывыкнуць, што гэта яна таксама начальства. Прыйдзе чалавек з бядою да яе, а ёй здаецца, што гэта ён нарокам, дзеля прыклепу, а напраўду — за нішто яе лічыць. А потым прывыкла патроху, перастала саромецца і нават ганарылася, што і мужчыны па яе дапамогу прыходзяць. Сваю работу кіне, а калі па сельсадавецкай справе што трэба — зробіць не марудзячы. З сельсавета паперка якая каму ці лісток на пошце возьме, калі ў мястэчку бывае,— сама на двор прынясе, а там абавязкова яшчэ раз прачытае ўвесь адрас на канверце — няхай ведаюць, што яна таксама пісьменная. Бывае, даручыць ёй старшыня сельсавета сход правесці ў Мядзведзічах, газету дасць ёй з пастановаю ўрада ці інструкцыю якую райвыканкомаўскую, то яна, прыйшоўшы дадому, разоў два яе прачытае сама сабе. Чаго не зразумее, да Шуры пойдзе, каб тая растлумачыла. Будзе па некалькі разоў перапытвацца, хаця б добра ўцяміць, што да чаго. Бываюць словы такія, што яна і не чула раней ніколі і выгаварыць іх — язык не слухае. То будзе пераказваць, практыкавацца датуль, аж пакуль гладка не пойдзе. Затое на сходзе тады чытае, як рэпу грызе, толькі дзівяцца мядзведзіцкія, калі яна ўспела так навучыцца!

Прыйшла аднаго разу Аўдоля да Шуры з нейкай паперкаю. Пра справу гаворыць, а тут відаць, што самой карціць нешта. Шура заўважыла гэта па твары, чакала, пакуль Аўдоля сама пачне, але, бачачы, што тая не адважваецца, запыталася:

— Ты, мусіць, нешта мне сказаць хочаш?

— Па чым жа ты пазнала?

— Відаць, што пра адно гаворыш, а пра другое думаеш.

— Думаю ад ранку ўжо і надумацца не магу,— такую мне задачу задалі. Раяць мне ў партыю падавацца.

— Дык ты што?

— Бачыш жа, што — хаджу ды думаю. Гэта ж я пайшла сёння ў сельсавет, а там Шнаркевіч: «Хадзем, кажа, на сход у мястэчка».— «Мяне, кажу, там не прымуць. Гэта ж, кажу, у вас партыйны сход сёння?» — «А ты, кажа, гэта беспартыйная?» — а сам жа ведае. Думала, пакпіць з мяне хоча, а ён, кінуўшы жарты, ды напраўду: «Прынось, кажа, заяву да нас у ячэйку».

— А праўда, чаму табе і не падацца ў партыю? — сур'ёзна глянула ёй у твар Шура.

— А як не прымуць?

— Такую, як ты, прымуць,— упэўнена сказала Шура.

— Дык што ж я за камуністка буду! Дурная, як авечка.

— Вучыцца будзеш. На сходы будзеш хадзіць. Кніжкі чытаць.

— А, пакінь ты,— замахала яна рукамі на Шуру.— Быццам гэта лепшых за мяне не знойдзецца. Давай вось лепш памажы мне паперку разабраць.

А праз некалькі хвілін, падняўшы галаву ад паперы, запыталася:

— Заяву гэта пісаную трэба падаваць? На словах нельга?

Шура не адразу дагадалася, што гэта яна зноў пра партыю.

— Пісаную. Давай вось зараз напішам, калі хочаш.

— Не, пачакай, дай мне падумаць яшчэ,— адмовілася Аўдоля.

Прыйшла яна зноў да Шуры толькі праз два дні.

— Ну, дык давай напішам,— гукнула яна яшчэ з парога.

Гаварыла мацней, чым звычайна, хацела гэтым прыкрыць сваё хваляванне.

— Садзіся пішы, а я падпішуся. Можа, гэтак добра будзе? — спыталася ў Шуры. А калі Шура палажыла на стале чысты аркуш паперы і, памачыўшы пяро, нарыхтавалася пісаць, Аўдоля перапыніла яе:

— Не, гэтак нядобра будзе. Падумаюць, што я толькі распісацца і ўмею, пазнаюць, што не тая рука пісала. Давай лепш я сама буду пісаць, а ты мне кажы што.

Старанна выводзіла кожную літару, баялася, хаця б не сапсаваць. Ад гэтага літары выходзілі яшчэ крывейшыя. На трэцім слове зрабіла памылку, вярнулася назад, хацела паправіць і размазала пальцам цэлае слова. Прыйшлося папрасіць у Шуры чысты аркуш паперы.

Напісаўшы, уздыхнула з палёгкай, быццам гоні жыта зжала. Сядзела, чакала, пакуль засохне, а тады асцярожна злажыла аркуш у чатыры столкі і палажыла за пазуху (быццам ніколі іначай папер не насіла).

Рыгор мог ужо сядзець. Калі не варушыў нагамі, яму здавалася, што мог бы ўжо ўстаць і пайсці як мае быць. Ён асцярожна спускаў ногі з ложка і прабаваў, як яны слу-

жаць. Левая, разбінтаваная ўжо з тыдзень, лёгка згіналася ў калене; прабаваў паварушыць пальцам і ўсім ступянём — таксама нічога. Правая яшчэ ўся была ўвязана. Болю ў ёй Рыгор не адчуваў, і доктар абяцаў, што хутка развяжа і гэту, дазволіць яму хадзіць, але Рыгору здавалася, што нага не будзе гнуцца ў калене.

Шура, ціхутка адчыніўшы дзверы палаты, спынілася ў парозе. Бацька, заняты сваімі практыкаваннямі, нават не пачуў, калі яна ўвайшла. Узяўшыся абеируч за ложак, ён памаленьку прысядаў, стоячы на адной левай назе, а праву́ю, забінтаваную і простую, як дудку, адстаўляў далёка ўперад. Пасля ён выпрастаўся і асцярожна абапёрся аб падлогу праваю нагою. Шура ўстрывожылася, каб не зрабіў сабе горш.

— Скажу я доктару, што ж вы гэта робіце! — ціха сказала яна з парога.

Бацька хуценька лёг на ложак і накрыўся. З-пад коўдры вытыркаў толькі яго твар — шырокі падбародак зарос цёмна-русаю барадою. Рыгор вінавата ўсміхнуўся, як дураслівы школьнік, якога настаўніца злавіла на месцы злачынства. Гэта ўсмешка на заўсёды сур'ёзным і нават панурым бацькавым твары траха не да слёз расчуліла Шуру.

— Няможна ж гэтак, вы ж можаце зноў пашкодзіць яе,— угаворвала яна, як малога.

— Я памаленьку, папрабаваць толькі,— апраўдваўся Рыгор.

Тое, што Аўдоля падалася ў партыю, здзівіла Рыгора сваёю нечаканасцю. Раней жа ў яе, здаецца, ніколі і намеру такога не было. Хіба яна цяпер так змянілася за гэты час? «Баба выперадзіла,— падумаў ён, горка ўсміхнуўшыся.— А ўсё калецтва гэта нарабіла». У яго з'явілася лёгкае пачуццё крыўды і нездаволенасці сабою, падобнае да таго, калі, бывала, на полі ці на сенакосе выпярэджвалі яго дужэйшыя суседзі. І сапраўды, чаму яму самому ў галаву не прыйшло падумаць пра гэта?

Шура пайшла, а Аўдолін учынак усё не выходзіў у яго з галавы. І да вечара і назаўтра, аж пакуль новая навіна не ўсхвалявала яго нанава і яшчэ мацней. З-пад арышту выпусцілі Грамабоя.

— Жульніцтва! Подкуп! — абурыўся Рыгор.— Шкада, што мае ногі яшчэ не служаць, сам бы пайшоў.

Але Шура была ўжо ў пракурора і даведалася пра ўсе прычыны і пра стан усяе справы. На допыце Грамабой

сказаў, што ён з Сомікам закурыў і пайшоў, курачы, да свайго каня, які стаяў аж ля чацвёртай шліхты. А калі ён, пачуўшы крык, выйшаў з-за шліхты, дык Сомік ужо ўскочыў на сані і хвастаў каня, а Рыгор ляжаў, прыдушаны кавалкам, і каля яго ўвіхаліся Сцяпан Варанец з Баранком. Тады ён і падышоў памагчы ім. Сцяпан жа з Баранком сведчылі, што, толькі выехаўшы з весніц, яны ўбачылі, як з шліхты каціўся кавалак, як Рыгор ірвануўся, каб уцячы, і як кавалак яго нагнаў і падабраў. Пасля выскачыў з-за шліхты Сомік і замахнуўся калом, каб прыкончыць Рыгора, але, пачуўшы іх крык і ўбачыўшы саміх, ускочыў на сані і памчаўся ў вёску. Пра Грамабоя яны пасведчылі, што ён сапраўды выйшаў аж з-за чацвёртай шліхты, дзе стаяў яго конь, і, падышоўшы, памог ім дастаць Рыгора з-пад кавалка. Супроць Грамабоя ніякіх довадаў больш не было, апрача таго, што ён закурваў разам з Сомікам за шліхтаю, але ж ён і сам зразу пра гэта сказаў. Тая ж акалічнасць, што Сомік збег адзін, гаварыла быццам за тое, што адзін ён і вінават у гэтай справе. Разгляд справы быў адложан да таго часу, калі будзе злоўлен Сомік. А калі Сомікаў канец стаў вядомы, справу пра замах на Рыгора зусім спынілі.

Нягледзячы на тое, што фармальна Грамабоя нельга было абвінаваціць і Рыгор гэта сам бачыў, калі даведаўся дакладна пра ўсе акалічнасці справы, ён усё ж не мог пагадзіцца з думкаю, што Грамабой тут не вінават. Тая варожасць між імі, якая не раз раней выяўлялася ў дробных сутычках, пасля выпадку з кавалкам павялічылася ў некалькі столак і вырасла ва ўпэўненасць, што Грамабой з Сомікам змовіліся звесці яго з свету. А калі следства не можа выкрыць Грамабоевага злачынства, дык толькі па сваёй няздольнасці ці нядбайнасці. І бальніцу ён пакідаў, а гэта пераканане ў яго не слабела.

Ехалі моўчкі траха што ўсю дарогу, занятыя кожнае сваімі мыслямі. Конь ішоў ступою. Размякчаны адлігаю снег хліпка шуршэў пад палазамі, сані плаўна пакалыхваліся, і ад гэтага думкі, цягучыя, як гэты імжысты туман, яшчэ больш ахутвалі галаву. Адвыкшы ад свежага паветра, Рыгор зябка хутаўся ў каўнер кажуха, але вочы яго, стомленыя чатырма сценамі бальнічнага пакоя, прыемна аддыхалі, праймаючы снегавыя прасторы аж да цёмна-сіняй стужкі ахутанага імжыстым туманам лесу.

Шура час ад часу нокала на каня, торгала лейцамі і замахвалася пугаю. Конь, амаль не прыбаўляючы ходу, баязліва аглядаўся назад. Яна супакойвалася, і ён таксама супакойваўся і ішоў далей маруднаю мернаю ступою, заняты, мусіць, таксама сваімі, яму аднаму вядомымі, думкамі.

Шура крадком паглядала на бацьку і на новую мыліцу, да якой яна ніяк не магла прывыкнуць. З маленства яшчэ застаўся ў яе не то страх, не то нейкая грэблівасць да мыліцы. У сувязі з мыліцай у свядомасці яе ўсплывала ўсё жабрацтва і калецтва: людзі страшныя і няшчасныя, бязрукія і бязногія, з белымі сляпымі вачыма, гарбатыя, бязносыя; людзі, якія жывуць пакутуючы, абы як дажыць свой век, ад якіх яна дзяўчынкаю хавалася ў павець, на вышкі альбо замыкалася ў хаце, залазіла ў кут пад лаву. Гэтыя ўражанні маленства, мусіць, былі прычынаю таго, што бацькава мыліца сёння так яе ўразіла. Яна бачыла, як бацька насілу ходзіць, няўмела яшчэ апіраючыся на мыліцу, як цяжка яму было сесці на воз, і яе ўсю дарогу не пакідала думка — а што з бацькам будзе далей? Доктар, праўда, супакойваў: казаў, што бацька праз нейкі час будзе хадзіць без мыліцы, хоць будзе накульгваць, але яна баялася горшага. Думала пра тое, што вясною бацька, напэўна, не здолее рабіць на полі — і што тады з імі будзе? Сама Шура ні араць, ні сеяць, ні касіць не ўмее, маці нядужая,— ці гэта ў арэнду каму здаваць, ці як яно будзе? Паглядаючы на бацьку, яна дагадвалася, што і ён думае пра тое самае, што, можа, у яго які-небудзь і намер пэўны ёсць, ды вось маўчыць, не гаворыць пра самае важнае. Такі ўжо ў бацькі характар, ці мо гэта ён Шуру малою яшчэ лічыць, што пра важныя справы з ёю не гаворыць. Думае адзін, а калі надумаецца, тады ўжо скажа, як трэба рабіць у гаспадарцы.

Яшчэ не даязджаючы да мядзведзіцкіх могілак, Рыгор убачыў, што з весніц выходзіць працэсія. Папа з дзякам і Васіля Крываношку з крыжам ён пазнаў яшчэ здалёк. За імі на дрэўках матляліся пратэсы.

— Ці не памёр гэта хто? — спытаўся Рыгор, стараючыся разгледзець, хто ідзе за пратэсамі.

— Гэта ж я забылася вам сказаць: Яначка памёр.

— Адкашляў сваё на гэтым свеце,— не то спачуваючы, не то іранічна сказаў Рыгор.

Неўзабаве выразна разгледзеў: Яначкаў сівы конь, на

возе ўрачыста бялее труна. За возам, трымаючыся за задок развалак, з насуненай на вочы хусткай ідзе Марыська. Не пазнаць — не то яна плача, не то так працірае балючыя вочы. Грамабой без шапкі, паважны і строгі, ідзе побач з труной. Размінаючыся з Рыгорам, першы схіляе галаву з засмучанай ветлівасцю, такою штучнаю на яго грубым твары. Рыгор глядзеў яму ў твар жорстка, не мігаючы і не адказваючы на прывітанне. Тады той хуценька адвярнуўся, і жалобная маска змянілася грымасай нянавісці.

— Гад, ой гад! — сказаў, размінуўшыся, Рыгор.— Морда — хоць ты яго жывога на неба бяры, а сам рад, што брата хавае. Цяпер ён гэту Марыську знарок уморыць, каб хутчэй усё падгрэбці.

— Мы ўжо на ячэйцы гаварылі пра гэта і ў сельсавеце гаварылі,— адказала Шура.— Дзён пяць таму назад, калі Яначка ўжо зусім аслабеў, Марыля з Сцёпкам пайшлі і апісалі ўсю Яначкаву маёмасць, каб Грамабой пасля не ашукаў яе. Яна, мусіць, ці не да брата свайго пойдзе, а калі не, дык трэба будзе падумаць, як далей быць.

Нага патроху папраўлялася, але ступаць ёю як мае быць Рыгор яшчэ не мог. Апіраючыся рукамі аб лаву, ён пракульгаў з полу да стала. Адчыніўшы шуфляду, дастаў ручку з пяром і бутэлечку з чарнілам.

— Пашукай мне кусок чыстай паперы,— закамандаваў Шуры.

Шура трохі здзіўлена глянула на бацьку, але не наважылася папытацца, што ён надумаўся пісаць. Дастала аркуш лінеенай паперы і падала яму.

Рыгор разгладзіў паперу на стале і пачаў пісаць каструбаватымі буйнымі літарамі, прыпыняючыся і думаючы ледзь не над кожным словам:

«У КАМУНІСЦІЧАСКУЮ ПАРЦІЮ

ЗАЯВА

Прашу прыняць мяне ў камунісцічаскую парцію, як я ёсць мядзведзіцкі бядняк і акціўны алямент. Гады і кулакі паламалі мне ногі, а я хачу зламаць ім карак. Дык няхай мяне камунісцічаская парція навучыць, як ямчэй гэта зрабіць. Адзін гад споўз, не дапоўз, куды хацеў, ды здох. Але ў нас у Мядзведзічах і навокал яшчэ ёсць такія гады, што мяне і савецкую ўладу хацелі б на ражне бачыць. Парцейнаму не дазволена ў бога верыць і папоў

слухаць, дык я з папом даўно ўжо гішэфту не маю, а пра бога як мае быць яшчэ не думаў, гэтымі днямі падумаю, у чым і распісваюся

*Рыгор Варанец*

*і член Дымаўскага сельсавета».*

Адчыняючы шуфляду быццам за нейкаю патрэбаю, Шура скасіла вокам на паперу і паспяшыла адысціся, каб не паказаць радаснага ўзрушэння, якое яе ахапіла. Мыліца, якая адзінока ляжала на палу, цяпер здавалася ёй зусім недарэчнай і непатрэбнай такому моцнаму і дужаму яе бацьку.

*1932*

# КАНЕЦ ДРУЖБЫ

*П'еса ў чатырох актах, пятнаццаці карцінах*

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

Лютынскі Антон Мітрафанавіч — намеснік наркома.
Наталля — яго жонка, настаўніца.
Юрка — іх сын, 8 год.
Стары Лютынскі — Антонаў бацька, 60 год.
Карнейчык — дырэктар завода.
Насця — работніца механічнага цэха, ударніца.
Пяньkоўскі — загадчык аддзела забеспячэння.
Нодэльман — сакратар парткалектыву.
Шыбер — начальнік механічнага цэха.
Цётка Ульяна, 45 год.
Капрал.
Камендант.
Два жаўнеры.
Доктар.
Шура — прыбіральшчыца ў Наркамземе.
Напорка — працаўнік Наркамзема.
Сапляк — кулак.
Паўліна — яго жонка.
Зося — калгасніца-камсамолка.
Алесь — калгаснік-камсамолец.
Старшыня сельсавета.
Гаспадыня (калгасніца).
1-я калгасніца.
2-я калгасніца.
Аднаасобніца.
Касабуцкі — бракароб.
Зуй — цёмная асоба.
Мандрыкін — працаўнік Наркамзема.
Старшыня камісіі.
Першы член камісіі.
Другі член камісіі.
Стары рабочы.
1-шы хлапец.
2-гі хлапец.
Старая сялянка.
«Барада».
Сяляне, калгаснікі, рабочыя і іншыя.

## АКТ ПЕРШЫ

Адбываецца ў Беларусі ў часы белапольскай акупацыі.

### Карціна першая

Вясковая вуліца. У канцы — школа.

1-шы хлапец *(прыкладвае руку брылём да вачэй і глядзіць уздоўж вуліцы).* Міхась!

2-гі хлапец. Чаго?

1-шы хлапец. Бяжы сюды!

2-гі хлапец. Чаго?

1-шы хлапец. Святая Барбара ідзе, давай падражнімся.

2-гі хлапец. Іду!

Паўза.

*(Вытыкае з-за шула галаву на другім баку вуліцы.)* Дзе яна?

1-шы хлапец. Хавайся!

Хлопцы хаваюцца за платы. На вуліцы паказваецца Карнейчык — абшарпаны, на дзеравянай назе, накрыж цераз плечы дзве торбы, апіраецца на мыліцу.

1-шы і 2-гі хлапцы паказваюць галовы, дражняцца.

Скачы, скачы на мыліцы,
Лаві вошы ў патыліцы.

Карнейчык *(не аглядаючыся).* Не я скачу — няволя. Застаўляюць панове.

Садзіцца на прызбе з правага боку вуліцы. Заводзіць жабрацкую песню на матыў лазара. Хлопцы ўслухоўваюцца.

Святая Барбара па шкле хадзіла,
Святога Міколу за ручку вадзіла.

Святому Міколу ў ножкі колецца,
Святая Барбара богу моліцца.

Падарыце няшчаснаму калеку.

Над галавой у Карнейчыка адчыняецца акно, і высоўваецца «Б а р а д а».

«Б а р а д а». Вось я цябе падару... качаргою па спіне.

Карнейчык, спужаны, усхопліваецца.

І адкуль яны бяруцца, дармаеды? А паспрабуй на работу наняць, дык такую цану запяе, што і не пералезеш.

Акно зачыняецца. Карнейчык кульгае на другі бок вуліцы.

1-шы і 2-гі хлапцы *(пяюць).*

Святая Барбара,
Пачынай з канца.
Святому Міколу...

Карнейчык *(раптам паварочваецца і робіць страшную міну).* Ламца-дрыца-гоца-ца.

Хлопцы рагочуць і ўцякаюць.

*(Садзіцца на прызбе другой хаты і просіць нараспеў.)* Дайце кусочак сланінкі, каб радзіў бог падсвінкі. Дайце мукі на галушкі, каб радзілі быкі і цялушкі. Дайце чатыры яечкі, каб вяліся авечкі. Падарыце, матачка, бязногаму няшчаснаму калеку.

Старая *(адчыняе акно, голасна).* На, мой саколік, хоць хлеба кусочак. На скаромнае выбачай. *(Ціха.)* Масла фунцік сабрала — хоць пакаштаваць вам. Як жа там Сымонка маецца?

Карнейчык. Дзякуй табе, гаспадынька, няхай цябе бог надорыць усім, чым ты сама хочаш. *(Ціха.)* Паклон перадаваў. Пытаецца, як бацька, ці паправіўся.

Старая *(моцна).* Не рана ўжо, саколік. Можа, паначуеш у нас? *(Ціха.)* Папраўляецца крыху, хадзіць пачынае. Збілі ж былі на горкі яблык: ні сесці, ні павярнуцца не мог. Дапытваліся, дзе сын.

Карнейчык. Дзякую, матачка! Памаленьку пайду. Падначую дзе-небудзь на мураўцы з начлежнікамі. Дыхаць там лягчэй на вольным паветры. Зоры свецяць на небе.

Старая. Шчаслівага табе падарожжа. *(Ціха.)* Каб хутчэй, мае вы сынкі, пратурылі ўжо гэтых халераў, каб вольна можна было дадому вярнуцца.

**Карнейчык** *(ідзе да школьнага ганка, садзіцца на прыступак, заводзіць песню).*

Святая Барбара
Па шкле хадзіла,
Святога Міколу
За ручку...

**Лютынскі** *(адчыняе дзверы, выходзіць на ганак).* А, Святая Барбара! Як маешся, браток? Хваліся, якія навіны.

**Карнейчык.** Чакай! Хадзі сюды, каб не кожны сляпы бачыў. *(Заходзіць за ганак, каб не відаць было з боку вуліцы, дастае з торбы скрутак паперы.)* У горадзе быў, таварышаў з галоўнага штаба бачыў. На, пачытай сам і раздай, па кім бачачы.

**Лютынскі** *(бярэ скрутак і хавае за пазуху).* А, гэта добра! Хлопцы пыталіся ўжо, ці няма чаго свежанькага пачытаць.

**Карнейчык.** Казалі ў горадзе, што панам пара пяткі падмазваць, нашы наступаць пачалі. Шапні тут надзейным хлопцам, няхай нарыхтуюцца. А мы ў лесе ўжо напагатове будзем. Трэба арганізаваць так, каб паны пры адступленні ніводнага каня ў вёсцы не заспелі — усіх у лес...

**Лютынскі.** Каб хутчэй дачакацца гэтага свята.

**Карнейчык.** Чакаць — мала: трэба прыспяшыць гэта свята. Трэба больш трывожыць пана ззаду — дзе шылам, а дзе хоць і шпількаю. Шпілька — яна, здаецца, рэч невялічкая, а панская задніца, ох, не любіць яе. Торкнеш добра, дык нябось ойкне ды аглянецца. А як аглянецца, тады і на фронце лягчэй па галаве яму лупянуць.

**Лютынскі.** А во! Чуць не забыўся. Заўтра ж паны думаюць атрад карны пасылаць у Залужжа. Там не хочуць мяса аддаваць. Гэта я сёння ў мястэчку чуў ад сваіх людзей. Толькі не ведаю, у які час яны будуць праязджаць.

**Карнейчык.** Добра, што сказаў. Мы з хлопцамі памяркуем, прыгатуем гасцінца. Можа, і пачаставаць паноў прыйдзецца. Ну, трэба ісці мне памаленьку,— пакуль завалакуся з торбамі...

**Лютынскі.** Крыху назбіраў?

**Карнейчык.** Тры вёскі абышоў, адкуль найбольш нашы хлопцы. Там жонцы паклон перадаў, там пра здароўе маці даведаўся,— усё весялей будзе хлопцам у лесе. А тым часам і скаромнага паўпудзіка сабраў.

**Лютынскі.** Кудэю ж ты пойдзеш?

Карнейчык. Цераз плот ды ў жыта. А там — мяжою аж да хвойніку. Я, брат, дарогу тут ведаю, заплюшчыўшы вочы магу патрапіць.

Чуваць галасы, крык, лямант.

Голас капрала. Чэго ту зэбралі се, холера? Марш до дому!

Голас цёткі Ульяны. Паночак! Галубочак! Парсючок мой...

Карнейчык. Эге! Паны не забываюцца на нас. *(Хутка адвязвае дзеравяную нагу.)* Ну, Святая Барбара, цяпер на табе далёка не заедзеш. Як зловяць паны, дык і будзеш тады лазара пець. *(Хавае нагу ў торбу. Да Лютынскага.)* Бывай, браток! Калі што якое,— перадавай, як і раней. *(Пераскаквае цераз плот і знікае.)*

Лютынскі. Шчаслівай дарогі! *(Ідзе ў школу.)*

З'яўляюцца: капрал, цётка Ульяна, натоўп сялян.

Ульяна. Паночак, даражэнькі. Пашкадуй ты мяне, няшчасную ўдаву.

Капрал. Ты нешчэнсна вдова?

Ульяна *(з надзеяй)*. Але, паночак: чалавек жа мой памёр.

Капрал. То чэго ты хцэш? А жэбы я ожэніл се з тобон?

Ульяна. Не, паночак. Няхай пан загадае сваім жаўнерам, каб яны мне майго падсвінячка аддалі. Гэта ж апошні ў мяне.

Капрал. То ніц: он бэндзе такі смачны, як і першы.

Ульяна *(спыняецца)*. А каб табе, мой ты паночак, язык аблез, каб ты ніякага смаку не пачуў!

Капрал *(грозна паварочваецца)*. Мільч, холера!

Ульяна змаўкае, капрал ідзе далей.

Ульяна. Памятай, панок: праз бок табе вылезе гэты мой падсвінячак.

Капрал *(абарочваецца)*. Застшэле, пся крэв, большэвічка!

Ульяна *(нагінаецца і шлёпае сябе па азадку)*. На, страляй! Хваробу пападзеш. Гэтакі бо стралец.

Капрал *(здымае з пляча карабін і ляскае замком)*.

Натоўп з крыкам разбягаецца ў розныя бакі. Ульяна хутка хаваецца за вугал.

Ото пшэклента баба! *(Бярэ на рэмень карабін і ідзе далей.)*

### Карціна другая

Школьнае памяшканне. Лютынскі ходзіць па класе задуманы. Падыходзіць да акна, стукае ў шыбу.

Лютынскі. Насця, куды ты?

Голас Насці. На выган. Пагляджу, дзе конь ходзіць.

Лютынскі. Хадзі сюды. *(Адчыняе акно. У акне з вуліцы паказваецца Насціна галава.)* Ты, мусіць, даўно ўжо ў ягадах не была?

Насця. Пазаўчора.

Лютынскі. А мне, ведаеш, вельмі ягад чырвоных захацелася. Можа б, ты ў лес схадзіла?

Насця *(аглядаецца назад, на вуліцу; прыцішаным голасам).* Сёння ўночы тата сам прыйдзе дадому. Цяпер ноч відная, дык тата будзе грэчку сеяць, а заўтра мы з мамаю забаронуем.

Лютынскі. А можа, Настулька, ты сёння ўсё-такі збегаеш у лес? Скажаш маме, што я цябе паслаў. Добра?

Насця. Добра.

Лютынскі. Як убачыш тату ці яшчэ каго з нашых хлопцаў, дык скажаш, што паны на Залужжа гасцінцам не пойдуць праз нашу вёску і няхай хлопцы асцерагаюцца. Скажы, што камендант у нашай вёсцы. Не забудзешся?

Насця. Не.

Лютынскі. Дык ты ж, галубка, хуценька!

Насця. Я толькі збегаю кошык вазьму.

Насціна галава хаваецца. Лютынскі зачыняе акно, ідзе да шафы, адчыняе і порацца ў кнігах. У дзвярах з'яўляецца камендант. Лютынскі паварочваецца і моўчкі глядзіць на яго.

Камендант ходзіць па класе, сцёбае хлыстом па халяве, разглядае на сценах карты і карціны.

Камендант. Пан ест научыце́лем?

Лютынскі. Так, пане камендант.

Камендант. А іле пан дзеці учы?

Лютынскі. Чалавек шэсцьдзесят набярэцца.

Камендант. О, пожондне! І вшысцы большэвіцы?

Лютынскі. Якія ж яны, пане камендант, бальшавікі? Другі, шануючы пана, соплі сабе не ўмее яшчэ выцерці. Дзятва.

Камендант. Пшэце ж пан іх учы? Ежэлі научыцель большэвік, то і учнёве большэвіцы.

Лютынскі. Я, пане камендант, не бальшавік, ні да якой партыі не належу.

Камендант. Хцялбым пану вежыць.

Лютынскі. Няхай пан верыць, як самому сабе.

Камендант. А па-польску пан учы дзецi?

Лютынскі. Не, пане. Тут ніводнага паляка няма.

Камендант. Мушон быць.

Лютынскі. Дзе ж іх узяць, пане камендант?

Камендант. Гдзе взёнць? Зробіць тшэба. Чэго се пан смее? Пан ве, жэ тутай Польска?

Лютынскі збянтэжана маўчыць.

Венц повінен учыць дзеці по-польску, а жэбы з ніх выховаць пожондных обыватэлі Польскі Велькей.

Лютынскі. Я, пане, і сам ні чытаць, ні пісаць папольску не ўмею.

Камендант. То альбо пан се научы чытаць і пісаць по-польску, альбо научыцелем не бэндзе. Цу ж то за научыцель, ктуры не зна ензыка паньствовэго? *(Спыняецца перад геаграфічнай картай Расійскай імперыі.)* О, у пана ешчэ Росыйска імпэр'я?

Лютынскі. Іншых карт няма, пане камендант.

Камендант. А жэ Польска ест, пан хыба жэ ве?

Лютынскі. Ведаю, пане.

Камендант. А для чэго ж пан ту не одзначыл? *(Паказвае на карту.)*

Лютынскі. Не ведаю, дзе мяжа будзе.

Камендант. Встыд, пане! Пшэце ж пан ве, жэ мы заенлі тэрытор'е до Оршы. Але то ешчэ не вшыстко. Пан слышал, жэ Польска бэндзе од можа до можа?

Лютынскі. Дык то можа, але ж яшчэ невядома.

Камендант *(абураны)*. Як то невядомо? Цо пан плеце? Од Балтыцкего можа до Чарнэго.

Лютынскі. Ах, ад мора да мора? Я ж пану казаў, што слаба па-польску разумею.

Камендант. Граніца повінна ісць о так... Нех пан патшы тутай: затока Рыска, Дзвіна Заходня... *(Адзначае на карце чырвоным алоўкам.)* Нэвэль, Вітэбск... Орша... і далей по Днепшэ до самэго Чарнэго... *(Чуваць перастрэлка. Камендант прыслухоўваецца.)* Цо то? Стшэляён?

Лютынскі. Так, пане, недзе страляюць.

Ціха дзвынкнула шкло. Чуваць ціхі трэск па дрэву.

Камендант. Кулі лятаён! *(Хаваецца за печ з левага боку.)* Цо то ма значыць?

Лютынскі *(стуліўшыся за шалёўку, глядзіць у акно і энергічна махае рукой да сябе)*. Я хіба на двор выйду, там лепш будзе відаць.

Лютынскі адчыняе дзверы ў калідор. Адначасна ў калідор адчыняюцца вонкавыя дзверы. Лютынскі трасе пальцам і прыкладвае яго да вуснаў, даючы знак маўчаць. Уваходзіць Карнейчык са стрэльбай на плячы; знясілены, прыпіраецца да сцяны. Левая рука яго мёртва звісае ўніз. Лютынскі адчыняе дзверы ў кладоўку, што насупраць дзвярэй у клас, прапускае туды Карнейчыка і замыкае. Засоўвае на жалезную засаўку вонкавыя дзверы і ўваходзіць у клас.

Камендант. Цо там такего?

Лютынскі. Нічога не відаць, пане.

Камендант. Не стшэляён юж?

Лютынскі. Не чуваць.

Камендант *(выходзіць з-за печы)*. А пан, напэвно, бардзо пшэстрашыл се?

Лютынскі. Мне, пане, цывільнаму чалавеку, дык яно такі і страшна.

Камендант *(ляпае яго па плячы)*. О, нех се пан не боі, ежэлі я тутай.

Моцны грукат у вонкавыя дзверы.

Кто там стука?

Лютынскі *(адчыняе дзверы ў калідор)*. Хто там?

Голас. Одэмкні, холера!

Лютынскі. А што ж вам трэба?

Голас. О пся крэв, ешчэ пыта се!

Грукаціць прыкладамі ў дзверы.

Лютынскі. Ды, калі ласка, я адамкну. *(Адмыкае. Уваходзіць у клас. За ім — два жаўнеры.)*

Першы жаўнер. Гдзе сховал большэвіка?

Лютынскі. Якога бальшавіка? Я і ў вочы нікога не бачыў.

Другі жаўнер. Не відзял, большэвіцка холера? Зараз зобачыш! *(Хапае Лютынскага загрудкі. Першы жаўнер замахваецца шомпалам.)*

Камендант *(якога жаўнеры дагэтуль не заўважалі)*. А цо вы тут робіце?

Жаўнеры выцягваюцца ў струнку, бяруць пад казырок і заміраюць.

Кто там стшэлял тэраз?

Першы жаўнер. То мы, пане капітане, большэвіка лапалі. Гдзесь уцек.

Камендант. То вы мыслелісьце, жэ я ту большэвіка ховам? О, галганы! Прэч до д'ябла!

Жаўнеры адначасна паварочваюцца кругом, стукаюць абцасамі, накіроўваюцца да дзвярэй.

Вруцьце се назад!

Жаўнеры варочаюцца і зноў выцягваюцца перад камендантам.

А гдзе ест поручнік Гжэбецкі?

Першы жаўнер. До старосты пошэд, пане капітане.

Камендант. Запровадзьце мне до него.

Жаўнеры і камендант выходзяць. Лютынскі сочыць за імі праз акно, пасля выходзіць у калідор, замыкае вонкавыя дзверы на засаўку і адмыкае дзверы ў кладоўку.

Лютынскі. Ну, як ты?..

Чуваць прыглушаны стогн.

І крыві ж з цябе вылілася! Прыйдзецца як-небудзь на відное выйсці ды перавязаць. Ану, паспрабуем устаць!

Чуваць моцны стогн.

Нічога, пацярпі хвілінку. *(Вядзе Карнейчыка пад правую руку з кладоўкі ў клас.)* Эх, Святая Барбара. Звяла, брат, ты зусім. Сядзь, я зараз пашукаю, чым перавязаць. *(Саджае Карнейчыка на лаўку, бяжыць у свой пакой, выносіць бутэльку з ёдам, нажніцы, кашулю, якую дзярэ на хаду.)* Цяпер мы возьмемся за цябе як мае быць. Можа, паспрабуем распрануцца? Падымі сваю лапку! *(Бярэцца за рукаў і прабуе сцягнуць.)*

Карнейчык. О-ё-ёй!

Лютынскі. Гм. Прыйдзецца рукаў распорваць. Вось так! Во! *(Арудуе нажніцамі.)* Яшчэ хвілінку. Гатова! *(Аглядае раны.)* Раскавялілі здорава! Як гэта яны цябе залавілі? *(Перавязвае.)*

Карнейчык. Дзяўчынка Данілава прыбегла.

Лютынскі. Маладзец, Насця! Папярэдзіла, значыць?

Карнейчык. Я — сюды ў разведку. У жыце яны мяне змецілі... Утрох. Адзін на месцы застаўся.

Лютынскі. Добра, што хоць недарэмна гэты гасцінец атрымаў.

Карнейчык. А тыя два ляглі і шпараць па мне... А там, бачу, цэлы ўзвод. Я — ходу... Па жыце... Тут мне і папала.

Лютынскі. Яны бачылі, як ты ў школу бег?

Карнейчык. Дагадваліся. На бога бралі.

Лютынскі. Шчасце наша, што гэты бліскучы асталоп, камендант, якраз тут быў... Гатова... Перавязаць-то перавязаў, а што там глыбей робіцца, не ведаю. Тут канечне доктар патрэбен. Але дзе нам узяць яго?

Карнейчык. Мо каб у горад?

Лютынскі. Кінь ты — у горад! Зловяць як піць даць. У мястэчка ў бальніцу цябе завезці — зноў нельга: зараз жа паны даведаюцца. Доктара сюды запрасіць — няма такога надзейнага... Ёсць, праўда... сябар мой, можна сказаць. Недалёка ад мае роднае вёскі. Але гэта вёрст восемдзесят будзе. Прыйдзецца, мусіць, свайго чалавека паслаць, запрасіць сябра ў госці... Ды што я, дурніца, нуды табе паддаю! Усё ўладзім: і доктар будзе, і ўсё будзе. А там, глядзіш, і бальшавікі прыйдуць. Ідзі, брат, цяпер адпачывай і ні пра вошта не думай.

Карнейчык. А можа, я ў лес?.. Да хлопцаў?

Лютынскі. Кінь глупства! Цераз хату не можа перайсці,— у лес ён пойдзе. Дождж, сырасць, трэба туляцца, пераходзіць з месца на месца... Ідзі лепш у кладоўку ды лажыся. Гэта будзе твая палата, а я — галоўны доктар, і ты павінен мяне слухаць. Я зараз пасцялю там. *(Бярэ Карнейчыка за руку і падымае з крэсла. Карнейчык ціха стогне.)* Баліць?

Карнейчык. Страшэнна.

Лютынскі. А стагнаць усё-такі не трэба. Крапіся, браток, бо як накрыюць, тут нам і капут. А калі табе вельмі пастагнаць прыспічыць, цярплівасці не хопіць, дык ты галаву падушкаю накрый і пастагні сабе крышку. *(Выходзіць.)*

## Карціна трэцяя

Пакой Лютынскага. Доктар выцірае рукі аб ручнік.

Лютынскі. Што ты скажаш?

Доктар. Надта парадаваць цябе не магу.

Лютынскі. Значыць, дрэнь справа?

Доктар. Не то што зусім дрэнь, а з рукою твайму бальшавіку прыйдзецца развітацца.

Лютынскі. Няўжо адрэжаш?

Доктар. Іначай нічога зрабіць нельга: выразныя адзнакі заражэння крыві.

Лютынскі. Шкада — хлопец вельмі слаўны... малады зусім.

Доктар. Таму і рэзаць прыходзіцца, што шкада. Не адрэжаш — зусім прапаў.

Лютынскі. Дрэнь-паперы. А начынне ж хоць узяў ты з сабою?

Доктар *(паказвае на саквояж)*. Вось яно. Крыху падмацуемся і возьмемся за работу... *(Садзіцца за стол.)* Спірытусу ў цябе няма, вядома?

Лютынскі. Выпіць хочаш?

Доктар. Начынне трэба было б памачыць.

Лютынскі. Няма, брат.

Доктар. Прыйдзецца ў гарачай вадзе.

Ляпнулі дзверы ў сенцах.

Лютынскі. Старожка ідзе; я скажу, каб самавар паставіла.

Уваходзіць Ульяна.

Ульяна. Можа, малачка яшчэ свежанькага? *(Ставіць збанок на стол.)*

Лютынскі. Давай і малачко. Маладзец, цётка Ульяна. Старайся, каб госць не галадаў, а то прыедзе дадому ў сваю школу ды і абгаворыць нас: скажа, што есці шкадавалі.

Ульяна. А я ж, панічок, і сама ведаю, што госцю трэба наравіць.

Лютынскі. Ізноў панічок! *(Да доктара.)* Ніяк адвучыць не магу: панічок ды панічок.

Доктар. Мусіць, цётка вельмі паноў любіць, што і нас панамі называе?

Ульяна. Каб яны так хлеб любілі!

Доктар. Чаму ж цётка такая сярдзітая на іх?

Ульяна. Як жа! Астатняга парсючка ўзялі, каб іх жывот узяў. Яшчэ і страляць мерыцца, гад!

Лютынскі. Але ж цётка яму і мішэнь добрую выставіла.

Ульяна *(засаромеўшыся)*. Няўжо і паніч бачыў?

Лютынскі. Мне праз акно ўсё відаць.

Ульяна *(хоча ісці)*. Можа, я вам і непатрэбна ўжо?

Лютынскі. Яшчэ самаварчык пастаў ды ідзі сабе.

Ульяна. Вой! Такой гарачынёй ды чай піць.

Лютынскі. А мы клін клінам выбіваць будзем!

Ульяна. Мне не цяжка — піце на здароўе. *(Бярэ вядро і выходзіць.)*

Лютынскі. Што там у нашых краях чуваць?

Доктар. Тое, што і тут. Хто бальшавікоў не счакаецца, а хто з панамі дружбу круціць.

Лютынскі. І тут жа круцяць. І адкуль іх, здаецца, набралася — усялякіх паноў ды падпанкаў? Яшчэ больш, як раней было. Пані расфуфыраныя, у капелюшах, з сабачкамі на ланцужках; паны — з ганчакамі. Што ні пан,

то і сабака. Глядзіш на ўсё гэта і думаеш сабе: о то як бальшавікі вернуцца — аж пыл пойдзе ад гэтага панства.

Доктар. А ты, бачу, зусім бальшавіком зрабіўся?

Лютынскі. Не тое што бальшавіком, а так... духу іхняга набраўся. Бывала, глядзіш на ўсіх гэтых дармаедаў і — нічога; здаецца, так і трэба. А цяпер глядзець не магу на іх морды пыхлівыя. Думалася — канец ім ужо. Не, зноў вярнуліся. І ўсё на гэтага мужыка няшчаснага. А ён, як той вол рахманы: хто на карак ні сядзе, таго і цягне.

Доктар. І рабочым цяпер не соладка.

Лютынскі. У іх, брат, іначай: згуртаванасць, арганізацыя, ёсць каму пакіраваць. А мужык — кожны сам сабе. Мужыку трэба цяпер за рабочага трымацца. Без яго не прагнаць гэтай поскудзі. Значыць, і зямлі не мець. А мужыку што важней за ўсё? Зямлю ў свае рукі забраць. А там — рабочы на заводзе, мужык — на зямлі: кожны раскашаецца, як сам хоча. *(Паўза.)* Як там бацька мой? Не бачыў часам?

Доктар. От... жыве. Зямлю адабралі. Ты ж, мусіць, ведаеш?

Лютынскі. Чуў.

Доктар. Папацягалі яго за гэту зямлю.

Лютынскі. Цяпер мо не чапаюць ужо?

Доктар. Цялушку ўзялі на тым тыдні.

Лютынскі. От гадаўё! Я б ім, здаецца, горла пераграз за гэту цялушку. Галандскай пароды. Сам з бацькам купляць ездзіў вунь аж у Камяное.

Доктар. Нудзіцца стары. «Ці перажывём мы, кажа, калі гэту напасць?»

Лютынскі. Што ж ты думаеш. Чалавек толькі за гаспадарку ўзяўся як мае быць. Зямлі прыбавілі,— вось, думаў, пажыву! На́ табе: зноў гніся на чатырох дзесяцінках... Убачыш — падвесялі яго крыху. Няхай не маркоціцца дужа. Мінецца гэта ліха, быць не можа. Скажы, што я яму яшчэ такую цялушку дастану, якой і ў пана Гняцецкага не было.

Ульяна ўваходзіць з вядром, спужана.

Ульяна. Вой, панічок! Хто ж гэта ў кладоўцы ў нас стогне?

Лютынскі. Перахрысціся, цётка Ульяна! Хто там можа стагнаць?

Ульяна. Не ведаю, але ж я добра чула... Не раўнуючы, як жанчына раджае.

Лютынскі (*штучна смяецца*). Ці не думаеш ты, што я ўпотайкі акушэрствам займаюся патрошку?

Ульяна. Смейцеся сабе, але ж хіба мае вушы мяне падманваюць.

Лютынскі. А мы зараз паслухаем. (*Устае, адчыняе дзверы, наўмысля моцна.*) Дзе ж тут хто стогне, цётка Ульяна?

Ульяна (*прыслухоўваецца*). Не чуваць. Няўжо гэта мне здалося?

Лютынскі. Можа, свіння дзе на двары рохкала.

Ульяна. Хай яе воўк, калі гэта свіння! Аж рукі мае калоцяцца.

Лютынскі. Ну, можаш сабе ісці ўжо. Мы самі тут управімся.

Ульяна. Вядома. А то я вам і пагаварыць не даю.

Лютынскі. Мы тут і пагаворым. Можа, госць і ляжа адпачне крыху.

Ульяна выходзіць.

Доктар. Так можна і ўлопацца калі-небудзь.

Лютынскі. Нічога, другі раз не будзе гэтага.

Доктар. Што, калі б паны злавілі?

Лютынскі. Кокнулі б, вядома.

Доктар. І ты не баішся?

Лютынскі. Думаю, што не зловяць. А пачнуць лавіць, то будзем уцякаць. (*Прыслухоўваецца.*) Самавар, здаецца, закіпеў. Давай сюды свае струманты.

Доктар дастае з саквояжа інструменты, кладзе ў таз. Лютынскі бярэ таз і выходзіць за дзверы. Доктар падрыхтоўвае перавязачны матэрыял. Лютынскі адчыняе дзверы.

Гатоў.

Доктар. Пайшлі.

Ідуць у кладоўку. У кладоўцы на падлозе на сенніку ляжыць Карнейчык.

(*Нагінаецца над Карнейчыкам.*) Здаецца, спіць.

Лютынскі (*таксама нагінаецца*). Шкада будзіць: яму так рэдка ўдаецца заснуць.

Карнейчык (*не расплюшчваючы вачэй*). Не сплю я.

Доктар. Мы прыйшлі, таварыш. Прыгатуйся: прыйдзецца табе некалькі непрыемных хвілін перажыць. Прывязаць бы цябе не шкодзіла, ды тут няма як.

Карнейчык. Не трэба. Антоша, патрымаеш мяне.

Лютынскі *(укленчвае і нагінаецца над Карнейчыкам).* Пацярпі хвілін пяць. Збяры ўсе свае сілы. Перацярпі, і будзеш тады папраўляцца.

Карнейчык. Заткні мне рот... Не выцерплю... Пачуюць.

Лютынскі *(бярэ кусок марлі).* На, братка. Гэта чысценькая. *(Затыкае яму рот.)*

Доктар. Ну, я пачынаю. *(Пачынае аперацыю.)*

Лютынскі кладзецца на Карнейчыка, абнімае правай рукой за шыю, а левай пад правае плячо. Карнейчык пад ім сударгава выгінаецца і бесперапынна стогне.

Лютынскі. Крапіся, братка, крапіся!.. Бедная Барбара!.. Пакутніца няшчасная!.. Мацней абнімі мяне!.. Цісні!.. Шчыплі!.. Вось так! Не глядзі туды... *(Цалуе Карнейчыка ў шчаку.)* Зараз, братка, зараз... Яшчэ адну хвілінку... Вось і ўжо... Толькі перавяжа, і ўсё...

Доктар. Гатова!

Лютынскі *(выцірае Карнейчыку твар).* Аж потам абліўся... Дай жа мне марлю сюды. *(Адтыкае рот. Карнейчык стогне.)*

Карнейчык. Піць.

Лютынскі. Зараз нясу. *(Выбягае.)*

Доктар. Цяпер, таварыш, будзеш папраўляцца. Я Антону Мітрафанавічу медыкаментаў пакіну і раскажу, як каля раны хадзіць. Тыдні праз тры зажыве. Будзеш у нашых краях, заходзь да мяне. Запытаешся, дзе жыве доктар Барташэвіч. Кожны скажа. Альбо ў бальніцу заходзь. Проста ў прыёмную. Не бойся, не выдам. Мы з Антонам Мітрафанавічам — блізкія сябры.

Лютынскі *(уваходзіць са шклянкай вады, прытрымлівае Карнейчыкаву галаву).* На, браток!

Доктар. Добра было б, каб заснуў цяпер.

Лютынскі. Ты ідзі сабе адпачывай: здарожыўся. Я пабуду пры ім.

Доктар. Прыбраць бы тут... Чыстата павінна быць ідэальная.

Лютынскі. Я сам усё зраблю.

Доктар *(бярэ Карнейчыкаву руку, мацае пульс і адначасна развітваецца).* Ну, папраўляйся, прыяцель!

Карнейчык слаба ківае галавою. Доктар выходзіць. Лютынскі сядзіць на кукішках і ўглядаецца Карнейчыку ў твар.

## Карціна чацвёртая

Лютынскі *(глядзіць у акно).* О, падняў хламіду, чорт кудлаты! *(Ідзе ў калідор, адмыкае і адчыняе дзверы кладоўкі.)* Ну, Святая Барбара! Станавіся, брат, на камісію. Прыйдзецца цябе выпісаць са шпіталя.

Карнейчык *(паказваецца ў дзвярах з пустым левым рукавом).* Даўно цябе прашу.

Лютынскі. Сёння, каб ты і не прасіў, дык я цябе сам праганю.

Карнейчык. У цябе тут нешта здарылася? Нейкі грукат, гоман, крык — што такое?

Лютынскі. Папа чорт прынёс. Бачу — да чаркі дагарваецца. Ну, я і адлучыўся на хвілінку, а шафу адамкнёную пакінуў. Зусім забыўся пра літаратуру, што ты тады прынёс. Прыходжу, а ён ужо ў руках трымае. І проста — асою ў вочы. Я так, я і гэтак загаварваю — не бярэ. «Данясу!» — крычыць. Ах, данясеш? Я, брат, за каўнер ды калі зырнуў! Думаў, што галавою дзверы выламіць ды да цябе ў кладоўку ўляціць.

Карнейчык. Шкада, што не ўляцеў. Я па-свойму яго благаславіў бы.

Лютынскі. Даўгагрывы дурань! Ад злосці забыўся нават пра тое, што праз тыдзень, можа, і даносіць не будзе каму.

Карнейчык. А данясе? Як ты думаеш?

Лютынскі. І думаць няма чаго. Сёння ж камендант будзе ведаць.

Карнейчык. Прыйдуць нашы, прапішам мы яму іжыцу.

Лютынскі. Куды пойдзеш цяпер?

Карнейчык. У лес, да сваіх.

Лютынскі. А рука?

Карнейчык. Што ж рука? З аднаею буду жыць.

Лютынскі. Як болька, хацеў я запытаць?

Карнейчык. Нічога. Траха што і зажыла ўжо. Гарачая пара — няма калі вылежвацца...

Лютынскі. Мяркуй сам. Да вечара недалёка, жандары не паспеюць. Як толькі змеркнецца, дык ты праз акно ды ў жыта. А там — сцежкі табе вядомыя.

Карнейчык. А ты?

Лютынскі. Я зараз — ходу і замкну дзверы знадворку, каб да вечара ніхто цябе не патрывожыў.

Карнейчык. Куды надумаўся?

Л ю т ы н с к і. Да чырвоных. Дні праз два да фронту дабяруся, а там паны, здаецца, рушылі адступаць, і перабрацца цераз фронт мне няцяжка будзе. *(Паўза.)* Як ты думаеш, Мікола, сустрэнемся яшчэ мы з табой?

К а р н е й ч ы к. Э, брат, яшчэ і як сустрэнемся!

Л ю т ы н с к і. А калі заб'юць цябе ці мяне?..

К а р н е й ч ы к. На вайне, вядома, у зубы не глядзяць. Але нашто, каб канечне нас білі? Давай лепш мы будзем біць.

Л ю т ы н с к і. Давай, так і быць.

К а р н е й ч ы к. Калі пашанцуе, то сустрэцца з табою мы можам і праз некалькі дзён.

Л ю т ы н с к і. А можа, і праз дзесяткі год.

К а р н е й ч ы к. І гэта можа быць. Уяўляю, якім ты будзеш: салідны, з барадою, і сыны ў цябе вялікія...

Л ю т ы н с к і *(у тон яму)*. А ў цябе дочкі, і мы іх жаніць будзем.

К а р н е й ч ы к. Хто за мяне пойдзе? *(Ківае на пусты рукаў.)*

Л ю т ы н с к і. Пойдзе, брат, аж пабяжыць. Другая рука ёсць, ногі ёсць, галава ёсць.

К а р н е й ч ы к. Правільна, Антоша! Сам я ёсць — вось што самае галоўнае. І мы з табою яшчэ пажывём ды папрацуем на карысць Радзімы. *(Памаўчаўшы.)* А каб не ты, Антоша, не было ж бы мяне на свеце: прэў бы я ў зямлі, і чэрві б спраўлялі баль у маім чэрапе. Бр-р-р!

Л ю т ы н с к і *(устае)*. Давай лепш... пацалуемся на развітанне.

К а р н е й ч ы к. А я табе на развітанне хачу сказаць... ведаеш што?

Л ю т ы н с к і. Што?

К а р н е й ч ы к. Калі ў цябе будзе ў жыцці самы небяспечны момант, самае цяжкае становішча, я хацеў бы тады быць з табою, хоць бы гэта мне самому пагражала смерцю.

Л ю т ы н с к і *(з цёплай усмешкай)*. Паспрабаваў бы ты лепш голас свой: ці выйдзе цяпер «Святая Барбара». Можа, яшчэ спатрэбіцца.

К а р н е й ч ы к *(весела)*. А што ты думаеш! Зараз паспрабуем. *(Зажмурвае вочы і крывіць твар.)*

Святая Барбара па шкле хадзіла,
Святога Міколу за ручку вадзіла.
Святому Міколу ў ножкі колецца,
Святая Барбара богу моліцца.

Л ю т ы н с к і *(ляпае яго па плячы)*. Дасканала! Рыпіш, як кола нямазанае. *(Смяюцца.)* Ну...

Карнейчык. Бывай, браток! *(Цалуюцца.)* Перадай там, што мы не сядзім тут злажыўшы рукі.

Лютынскі. Добра. Чакай мяне хутка ў чырвонаармейскім шлеме і са стрэльбай.

Заслона

## АКТ ДРУГІ

Адбываецца ў 1932 годзе.

### Карціна пятая

Двор машынабудаўнічага завода. Выстаўка браку. Ля дошкі Насця і Касабуцкі. Па двары праходзяць рабочыя і знікаюць у дзвярах цэха.

Касабуцкі. Рада, што чалавека на смех выставіла?

Насця. Радасць мне невялікая. Калі такой радасці ты будзеш даваць пабольш, дык усю брыгаду на чорную дошку пасадзіш.

Касабуцкі. Кожны сам за сябе адказвае: мой брак, з мяне ж і вылічаць за гэта.

Насця. Не, брат! Тут крыху далей трэба глянуць. Дэталь важная, а ты яе запароў. Вось аднае жняяркі і недадалі. А праз гэта, можа, колькі хлеба на полі папсуецца.

Касабуцкі. Ты вельмі далёка глядзіш, а пад носам не бачыш. Станок ні к чорту матары не варт, рамонту просіць.

Стары рабочы *(праходзячы, ляпае Касабуцкага па плячы).* Што, дасягненні свае выставіў?

Касабуцкі *(агрызаецца).* Каціся ты... на лёгкім кацеры! Цябе яшчэ тут не было!

Насця. Пра станок дагэтуль ты нічога не казаў. Самому трэба сумленна рабіць, дык і станок лепшы будзе.

Касабуцкі. Як сабаку кормяць, так сабака і брэша.

Насця. Вось яно, шкурніцтва! Жыўцом з цябе прэ. Цябе горш за ўсіх кормяць? Прыйдзецца пра цябе ў заўкоме пагаварыць.

Касабуцкі. Пляваў я з пятага паверха на твой заўком і на цябе разам! *(Убачыў, што падыходзіць Карнейчык, падаўся ўбок.)* Пачакай, я табе гэта ўспамяну яшчэ некалі!

Карнейчык. Што ў вас тут такое?

Насця. Токар з нашай брыгады... Брак зрабіў дый лаецца яшчэ, што ў вітрыну выставілі...

Карнейчык. А начальнік цэха ведае?

Насця. Што начальнік! Запісаў вымову, а ён і вухам не вядзе.

Карнейчык. Як яго прозвішча?

Насця. Касабуцкі.

Карнейчык *(запісвае на паперы).* Я пагавару з начальнікам цэха.

Насця. Ён адзін усю брыгаду падводзіць. *(Пайшла.)*

Карнейчык глядзіць ёй услед — любуецца.

Нодэльман *(падыходзіць ззаду).* Глядзі, не закахайся.

Карнейчык. Злачынства невялікае.

Нодэльман. Я не супярэчу, калі гэта прамфінплану не пашкодзіць. У закаханай кухаркі, кажуць, няўдалая страва выходзіць, а што выйдзе ў закаханага дырэктара, гэта для мяне яшчэ не ясна.

Карнейчык. Не бойся: выйдзе ўсё тое, што і ў людзей выходзіць.

Нодэльман. Чаму табе і сапраўды не закахацца ўжо? Гадкоў табе нямала. Не іначай прыйдзецца мне жаніць цябе ў парадку партдысцыпліны.

Карнейчык. Калі ж гэтым займацца? Пахадайнічай хіба, каб мне водпуск далі месяцы на тры, тады, можа, што і выйдзе.

Нодэльман. Не, брат, ты паспрабуй пераключыся на хаду...

Карнейчык. А яна слаўная дзяўчына.

Нодэльман. Што й казаць, дзяўчына — што трэба. Герой першай пяцігодкі. І тым прыямней, што самі ж мы яе выгадавалі. З вёскі прыйшла: заморачак такі, нясмелая, ля станка прайсці баялася...

Карнейчык. Памятаеш, як на вытворчай нарадзе яна выступала?.. Пачне гаварыць, шчокі запалымнеюць...

Нодэльман. Ды ты, бачу я!.. Хоць мне і вельмі непрыемна, але прыйдзецца цябе крыху астудзіць. Ты ведаеш, што нам рыхтуецца вымова?

Карнейчык. Якая? За што?

Нодэльман. За запасныя часткі. Нехта з Наркамзема паскардзіўся, што заказу не выконваем.

Карнейчык. Ды што за чорт! Недарэчнасць нейкая. *(Падыходзіць да адчыненага акна канторы.)* Дайце мне трубку. *(У тэлефонную трубку.)* Наркамзем?.. Хто пры тэлефоне? Каго-небудзь з адказных працаўнікоў... Давайце члена калегіі... Гэта гаворыць дырэктар завода імя Калініна... Хто ў вас там бегаў плакаць у ЦК?.. Наконт заказаў... Вы? Глупства вы там нагаварылі... Ды не па нашай жа віне... А чарцяжы вы нам далі? Ды вашы ж работнікі... Вы новы працаўнік, дык я за вас вымовы павінен атрымліваць?.. То трэба разабрацца, а не гаварыць глупства... Вядома... Няма чаго звальваць з хворай галавы на здаровую... Ну, вось там і пагаворым... Так, так!.. За вас вымовы атрымліваць я не хачу. *(Аддае трубку ў акно.)* Бюракраты няшчасныя!

## Карціна шостая

Пакой перад кабінетам сакратара ЦК. Лютынскі сядзіць на крэсле, трымаючы на каленях партфель, і перабірае паперы. Сядзяць яшчэ два з партфелямі. Уваходзіць Карнейчык.

Карнейчык *(кіўнуўшы галавой на дзверы)*. Там нехта ёсць?

Наведвальнік. Двое.

Карнейчык дастае крэсла з-за стала. Партфель Лютынскага ляціць на падлогу.

Карнейчык. Выбачайце!

Лютынскі *(глянуў злосна, потым твар яго мяняецца і выражае прыемнае здзіўленне)*. Пачакай!.. Няўжо гэта ты?

Карнейчык *(не пазнае)*. Не, гэта, мусіць, не я. Вы памыліліся *(нерашуча бярэ руку, якую падае Лютынскі)*.

Лютынскі. Ды як жа не ты? Святая Барбара! Ты ж у мяне ў «шпіталі» ляжаў?

Карнейчык *(узрадаваны, трасе руку Лютынскага)*. А! Тады гэта я! А цябе, брат, і не пазнаць: капялюш... барада. Адкуль гэта ўсё?

Лютынскі. Капялюш купіў, а барада сама вырасла. За дванаццаць год можна набыць і тое, і другое... Пара нам патроху культурны выгляд набываць.

К а р н е й ч ы к. І праўда, дванаццаць год... Як гэта мы не сустрэліся дзе-небудзь? Я ўжо другі год тут.

Л ю т ы н с к і. А я — другі месяц.

К а р н е й ч ы к. Ты прафесарам, можа, ужо стаў?

Л ю т ы н с к і. А ведаеш, да таго хілілася. Аспірантам быў пры сельскагаспадарчай акадэміі. Потым сарвалі і кінулі сюды.

К а р н е й ч ы к. Ты, значыць, па сельскай гаспадарцы пайшоў?

Л ю т ы н с к і. Накшталт гэтага.

К а р н е й ч ы к. А мне, брат, так і не ўдалося павучыцца. Усё на вытворчасці...

Паўза.

Л ю т ы н с к і. Да начальства прыйшоў?

К а р н е й ч ы к. Па адной каверзнай справе. Нейкі пляткар з Наркамзема паскардзіўся, што я заказ марыную...

Л ю т ы н с к і. Дык гэта ты дырэктар завода імя Калініна?

К а р н е й ч ы к. Адкуль ты ведаеш?

Л ю т ы н с к і. Як жа не ведаць? Гэтак крыў мяне ўчора па тэлефоне.

К а р н е й ч ы к. Цябе?

Л ю т ы н с к і. Ну, мяне. Бач, той самы пляткар з Наркамзема...

К а р н е й ч ы к. Ты?

Л ю т ы н с к і. Выходзіць — я.

К а р н е й ч ы к. Ну, брат! Шчасце тваё, што ты мой друг, а так не ведаю, што з табой зрабіў бы.

Л ю т ы н с к і. Адпусці душу на пакаянне. І Наркамзем сіратою не пакінь.

К а р н е й ч ы к. Што ж ты там... сектарам якім загадваеш?

Л ю т ы н с к і. Падымай вышэй — намеснік наркома.

К а р н е й ч ы к. О-о-о! Раскажы хоць, як ты дайшоў да гэтага.

Л ю т ы н с к і. Тут, брат, сам не дойдзеш — людзі падпіхнуць. Пакажы толькі, што працаваць умееш,— на руках падымуць, на вышэйшую ступеньку пасадзяць,— толькі працуй, калі ласка. І нідзе не дзенешся — будзеш працаваць як міленькі! Так і я... Вярнуўся з арміі, думаў, буду і надалей толькі з малышамі ў школе справу мець. Куды там! На кавалкі разрываюць: вучы, памагай, арганізуй. Праз два гады членам райвыканкома выбралі, загад-

чыкам райземаддзела назначылі. А тады ж — ведаеш? — паднящце сельскай гаспадаркі і ўсё такое... Тут я папрацаваў як мае быць. Шматполле, травасеянне, караняплоды... У галіне жывёлагадоўлі шмат было зроблена. Глядзіш — у некаторых і свінні йаркшырскія завяліся, і каровы лепшай пароды. А ў бацькі дык цэлую паказальную гаспадарку наладзіў. Прэміі атрымліваў. У газетах пісалі пра яго. Раз нават фатаграфію змясцілі. З паўгода стары любаваўся ёю.

К а р н е й ч ы к. Жыў яшчэ бацька?

Л ю т ы н с к і. Жыве... У калгасе цяпер.

К а р н е й ч ы к. Не маркотна яму там... пасля паказальнай гаспадаркі?

Л ю т ы н с к і. Прывыкне. Дзе ён дзенецца?.. Дык вось... Працаваў ■ так, аж пакуль пачаліся ў мяне непаразуменні з сакратаром райкома. Тады я і адпрасіўся на вучобу.

К а р н е й ч ы к. Якая ж твая работа ў Наркамземе?

Л ю т ы н с к і. А ў кожны сектар прыходзіцца нос утыкаць. Але найбольш мяне цікавіць землеўпарадкаванне. Пакуль зямельная плошча ў нас не будзе прыведзена ў парадак, датуль мы не будзем мець ні ўстойлівага землекарыстання, ні правільнага севазвароту, ні належнага ўліку працы.

К а р н е й ч ы к. І ты ўжо добра гэту справу ведаеш? Авалодаў тэхнікай?

Л ю т ы н с к і. Крыху кумекаю. Дый спецыялісты ж у мяне сядзяць на гэтай справе. Ёсць у мяне такі Далеўскі, дырэктар зямтрэста,— галава! Паглядзіш, праз год у мяне па ўсёй рэспубліцы парадак будзе! Усё роўна як на шахматнай дошцы.

К а р н е й ч ы к. Глядзі толькі, каб мат не быў.

Л ю т ы н с к і. Ну, брат! Усім рэспублікам нос уватру. Перш за ўсё выжыву саматужніцтва ў справе ўліку працы. Брыгадзіру ці паляводу не трэба будзе кожны раз бегаць ды абмерваць — а колькі засеяна? Колькі заарана? Зямля будзе памерана раз і назаўсёды. Уся плошча будзе падзелена на правільныя геаметрычныя клеткі, каб ніводнага беспрытульнага кусочка не засталося. Засеялі, скажам, клетку № 20, а брыгадзір ужо і ведае, колькі гектараў засеялі. Севазварот будуецца таксама толькі на строгім і правільным чаргаванні клетак. Адгэтуль і сістэма ўгнаення штучнага і натуральнага. У выніку — ураджай, якога і Данія ніколі не сніла. Мы і тут ставім сабе задачу дагнаць і перагнаць буржуазныя краіны. А ўяві сабе такое

поле летам, калі кожная клетка зацвіце, зазелянее, зажаўцее сваёй культурай. Гэта ж будзе не поле, а жывы дыван, вытканы рукою мастака! Адзін выгляд такога поля будзе паказваць, што значыць план, сістэма, сацыялізм.

Карнейчык. Ну, ну, давай! Я тут мала што разумею. Выведзеш рэспубліку на першае месца, наркомам зробім...

З кабінета выходзіць наведвальнік.

Пайшлі!

Лютынскі. Што ж, будзем далей з табою лаяцца?

Карнейчык. Давай лепш — не трэба. А ўрэшце... паслухаем, што ты будзеш гаварыць.

Карнейчык і Лютынскі ідуць у кабінет.

## Карціна сёмая

Кватэра Лютынскага.

Юрка *(муштруецца з катом, які не хоча гуляць з матузом).* Лаві, кіса! Ну, цоп! Дык ты не хочаш? От, бюракрат! Вочы зажмурыў, вушы натапырыў і глядзець не хоча! На, лаві! Вось апартуніст няшчасны! Пачакай, я ж табе зараз!.. *(Хапае шчотку і імчыцца на ката.)* Ж-жж-ах! А, даў драла!

Наталля *(з суседняга пакоя).* Нашто ты ката б'еш?

Юрка. Ён апартуніст і бюракрат.

Наталля. Гэта ж ці не бацьку твайго так называлі?

Юрка. О! Мой бацька сапраўдны камуніст і аварган... Як, мама?

Наталля. Авангард.

Юрка *(круціцца па хаце, гуляе).* Авангард, аварганд, аваграндзе... *(Глянуўшы ў акно.)* Валодзька! Куды ты? Купацца? *(Адварочваецца.)* Мама, я пайду купацца.

Наталля. Я не пушчу цябе з Валодзькам, яшчэ ўтопішся.

Юрка. Мы тут, блізенька.

Наталля. Тут вада брудная.

Юрка. Ну, хадзем з табою.

Наталля. Мне часу няма.

Юрка. А я купацца хачу.

Наталля. Вось да дзеда паедзем. Там будзеш купацца колькі ўлезе.

Юрка. Давай заўтра паедзем.

Наталля. Заўтра яшчэ не паедзем.

Юрка. А калі?

Наталля. Бацька паслаў дзеду ліст. Калі дзед напіша, што ўсё гатова, тады мы паедзем.

Юрка. А як мы паедзем?

Наталля. Поездам.

Юрка. Аж у самую дзедаву хату?

Наталля. Не, на станцыі злезем. А там дзед на кані прыедзе — мы сядзем і паедзем.

Юрка. Дзед дасць мне лейцы, і я так: но, каб цябе! *(Хвошча вяровачкай па крэсле.)* Тпру, стой! Прыехалі! *(Падыходзіць да акна і стукае ў шыбку.)* Валодзька! Сып адзін, я ў дзеда буду купацца. *(Адварочваецца.)* Мама, авангард ідзе.

Наталля. Які авангард?

Юрка. Ну, наш бацька. І з ім яшчэ нехта.

Наталля ўваходзіць у пакой, глядзіць у акно, папраўляе на сабе сукенку. Уваходзяць Лютынскі і Карнейчык.

Карнейчык. Добры дзень!

Наталля. Добры дзень!

Лютынскі. Знаёмцеся: гэта мая жонка, а гэта... Святая Барбара.

Наталля *(здзіўлена глядзіць на Лютынскага, а потым успамінае)*. А! Гэта таварыш Карнейчык? Дык я ж з вамі знаёма, хоць і не бачыла ні разу...

Карнейчык *(ківае на Лютынскага)*. Ён, мусіць, ужо наплёў пра мяне?

Наталля. Абы нічога дрэннага... Сядайце.

Карнейчык садзіцца і аглядае пакой. Юрка тым часам абыходзіць кругом яго і глядзіць на пусты рукаў.

Як гэта вы спаткаліся?

Карнейчык. У адной аўтарытэтнай установе. Ён на мяне прыбег скардзіцца, а я на яго. А як разгледзеліся, дык абодва вінаваты, бо і скардзіцца не было чаго, а проста трэба было справу рабіць.

Лютынскі. Што ты ўжо скромнічаеш! Мне ж усыпалі, а не табе, значыць, я і вінават.

Карнейчык. Я таксама крыху вінават, што не насядаў. А ад цябе я проста не чакаў.

Лютынскі. Што зробіш! Такая ўжо натура чалавечая, што кожны на другім рад выехаць, калі пры гэтым можна яшчэ і героем сябе выставіць. Але тут якраз на друга наляцеў.

К а р н е й ч ы к. А друг, кажаш, такі свінаваты, што не захацеў, каб ты на ім выехаў.

Л ю т ы н с к і. Яшчэ і апартуністам мяне назваў.

Ю р к а. Ага! Вот і апартуніст!

Л ю т ы н с к і *(да Карнейчыка).* Ты тут, вядома, праў, я не крыўджуся. Не падумай, што я ўжо такі безнадзейны ачкаўціpацель.

К а р н е й ч ы к. Ды я цябе, здаецца, крыху ведаю... прынамсі, ведаў некалі. *(Падыходзіць да паліцы з кнігамі.)* Кніг у цябе багата. Дай ты мне што-небудзь пачытаць.

Л ю т ы н с к і. Выбірай, што табе падабаецца.

Карнейчык перабірае кнігі, бярэ з паліцы, прачытвае загалоўкі, зноў ставіць. Некаторыя адкладвае.

Ведаеш, Мікола, я хачу да якой-небудзь вытворчай ячэйкі прымацавацца.

К а р н е й ч ы к. Баішся ад мас адарвацца? Што ж, ідзі да нас. У нас работы хопіць. Сакратар парткалектыву хлопец такі, што з ім можна працаваць...

Ю р к а *(кранае пальцамі пусты рукаў).* А дзе ваша рука?

К а р н е й ч ы к. Няма, брат, у мяне рукі: паны адбілі.

Ю р к а. А як яны адбілі?

Н а т а л л я. Юрка, не лезь да дзядзькі. Ты ж перашкаджаеш.

К а р н е й ч ы к. Нічога, яму ж цікава. Прастрэлілі мне руку, а потым доктар адрэзаў, бо яна пачала гнісці.

Ю р к а. А чаму вы ў іх не стралялі?

К а р н е й ч ы к. І я страляў, але іх больш было.

Ю р к а. Вось каб у мяне тады стрэльба была, я іх усіх пастраляў бы.

Н а т а л л я. Ах ты, ваяка гэтакі! Цябе ж тады яшчэ і на свеце не было.

Ю р к а. Бацька, а ты быў тады на свеце?

Л ю т ы н с к і. Быў.

Ю р к а. А чаму ты не страляў у паноў?

Л ю т ы н с к і. І я страляў.

К а р н е й ч ы к. Твой бацька маладзец. Каб не ён, дык бы мяне паны зусім забілі.

Ю р к а. Праўда, бацька, ты маладзец?

Л ю т ы н с к і. Не ведаю. Гэты дзядзька кажа, што маладзец.

Ю р к а *(пяшчотна).* А я думаў, што ты апартуніст.

Н а т а л л я *(глянуўшы ў акно).* Лістаносец ідзе. Мусіць, ліст нам. *(Выходзіць у суседні пакой, Юрка бяжыць за ёю.)*

Ю р к а. Каму, мама?

Н а т а л л я. Антону Мітрафанавічу...

Ю р к а. Авангарду... *(Бяжыць да Лютынскага і паказвае пальцам.)* Гэтаму, во!.. Мама, гэта ад дзеда ліст?

Н а т а л л я. Ад дзеда, сын, ад дзеда. Бацька зараз прачытае.

Л ю т ы н с к і *(бярэ ліст і раздзірае канверт).* А ведаеш што, Мікола... Калі ты думаеш у адпачынак ісці?

К а р н е й ч ы к. Трэба гэту самую гарачую работу зрабіць — запасныя часткі. Думаю, што ў жніўні... Можа, так з 15-га.

Л ю т ы н с к і. Вось і добра. Давай паедзем разам да майго старога. Там — лес, рака... Куток у яго знойдзецца...

К а р н е й ч ы к. З вялікаю ахвотаю, калі толькі ўдасца. Я ж забыўся ўжо, калі ў лесе быў. Трэці год працую без адпачынку.

Ю р к а *(тармосіць бацьку за рукаў).* Чытай хутчэй, што дзед піша.

Лютынскі вымае ліст і пачынае чытаць. На твары спачатку здзіўленне, потым твар хмурнее. Лютынскі прыкусвае губу.

Н а т а л л я. А там жа грыбоў у іх!

Ю р к а. Памятаеш, мама, як я баравіка знайшоў? Вялізнага, як мая шапка.

Наталля занепакоена аглядаецца на Лютынскага, які нервова скамячыў ліст і сунуў у кішэнь.

Ю р к а. Ну, што? Дзед чакае нас?

Л ю т ы н с к і. Гэта дзядзька адзін піша.

Ю р к а. Вот дзед-гнед! Чаму ж ён ліста не прыслаў?

К а р н е й ч ы к. Дык я вазьму ў цябе гэтыя кнігі?

Н а т а л л я. Пасядзіце. Што ж вы так хутка?

К а р н е й ч ы к *(глядзіць на гадзіннік).* Праз пятнаццаць хвілін мне трэба быць на адной нарадзе. Зайду другім разам. *(Да Лютынскага.)* А твая прапанова мне вельмі падабаецца.

Лютынскі збянтэжана і крыва ўсміхаецца, паціскаючы Карнейчыку руку.

Ю р к а *(забягае Карнейчыку наперад).* А ў мяне трусы ёсць і трусяняткі маленькія.

К а р н е й ч ы к. Ого, брат. Дзе ж яны ў цябе?

Юрка. Хадзем пакажу.

Карнейчык і Юрка выходзяць.

Наталля. Што там здарылася?

Лютынскі *(з саркастычнай усмешкай)*. Навіны для нас вельмі прыемныя. *(Дастае пакамечаны ліст і разгладжвае.)* Слухай, што за лірыка. *(Чытае.)*

— «Сынок мой дарагі і нявестачка мая любая. Вы пытаецеся, ці можна вам прыехаць да мяне. Прыязджайце, дзеткі мае. Усё гатова, усё вам будзе. Жыву я, сынок, цяпер у такім палацы, у якім ніколі не жыў ні дзед твой, ні прадзед і ніхто з радні нашай. Прасі, сынок, бога (хоць ты і адрокся ад яго), каб і табе ў такім палацы не давялося жыць. А палац гэты добра табе вядомы — варыўенька Цімохава, што за нашым хлявом стаіць».

Наталля. Пачакай! Дык што ж гэта такое?

Лютынскі. Ты слухай! *(Чытае.)*

«Дзякую табе, сынок мой, што ты дапамог мне, што ты абараніў мяне, бо ты ж камуніст: сілу маеш, з вялікім начальствам знаешся. Чакаў я подпіркі на старасць, вось і падперлі мяне... Так падперлі, што мне з старою прыходзіцца ў чужым кутку смерці чакаць, гледзячы, як чорт лысы дабро наша спажывае...» *(Горка ўсміхнуўшыся.)* Дастукаўся!

Наталля. Што ж ты рабіць цяпер думаеш?

Лютынскі. Спета наша песенька — вось што.

Наталля. Я цябе не разумею, Антоша.

Лютынскі. А наогул ты што-небудзь разумееш? Камуніст я ці не?

Наталля. Думаю, што ты ім і застанешся.

Лютынскі. Агент класавага ворага ў радах партыі — ты чуеш, як гэта прыгожа гучыць? Прытварацца? Біць сябе ў грудзі? Камячыць кулакі, абураючыся на двурушнікаў і апартуністаў? Жыць вечна пад страхам, што пра цябе ўведаюць усю праўду і пагоняць з партыі і з працы... з трэскам, са скандалам на ўсю рэспубліку, на ўвесь Саюз? Жыць і аглядацца, ці зараз цябе схопяць за каўнер? Не, дзякую табе за параду!

Наталля. Ты, Антоша, мяне не зразумеў. Я табе зусім не гэта раіла. Я думала, што ты пойдзеш і ўсё раскажаш каму трэба, прызнаешся ва ўсім.

Лютынскі. Прызнаешся... А ты ведаеш, што гэта значыць — прызнацца? Гэта значыць — плюнуць бацьку ў яго сівую бараду, узяць старога за горла вось гэтымі

сваімі рукамі. Гэта будзе падзяка бацьку за тое, што ён мяне маленькага на руках насіў, начэй недасыпаў над маёю калыскаю, што ён пяўся з усіх жыл, вучыў мяне, каб я не застаўся такім цёмным, як ён сам. А хто ж яму акула-чыцца памог? А цяпер за горла? Уласнымі рукамі? І ты думаеш, паможа мне гэта? «А дзе ты,— скажуць,— грамадзянін Лютынскі, раней быў? Твайго бацьку ў сельсавеце кулаком не лічылі? А сам ты не бачыў гэтага? Ты за столькі год прабывання ў партыі не знайшоў часу, каб расказаць пра гэта партыі? Ты ўгаварваў бацьку ў калгас ісці, спадзеючыся, што кулак сапраўды-такі можа ўрасці ў сацыялізм? Дудкі, грамадзянін Лютынскі. Не пройдзе нумар!»

Н а т а л л я. Ты мяне пужаеш, Антоша.

Л ю т ы н с к і *(не адказваючы, лажыцца на канапу, залажыўшы рукі за галаву)*. Антон Мітрафанавіч Лютынскі — беспартыйны... Ды што беспартыйны! Здраднік партыі! Дэзерцір! Перабежчык! І калі будуць гаварыць і пісаць пра слаўную кагорту бальшавікоў, якая грудзьмі пракладвае дарогу ўсяму чалавецтву, ведай, Антон Мітрафанавіч, што гэта не пра цябе. Ніводзін прамень славы іх не ўпадзе на тваю галаву. На сметніку гісторыі, у кампаніі з агіднымі пазадкамі чалавецтва, побач з смярдзючаю здыхляцінаю з гэтага часу месца твае. І казак пра цябе не раскажуць, і песень пра цябе не спяюць... І здохнеш ты, Антон Мітрафанавіч, не пакінуўшы ніякага следу... Урэшце, след будзе. Ён застанецца ў памяці твайго сына. Але... лепш бы яго не было.

Н а т а л л я. Антоша, любы! Няўжо ж і выхаду няма? Няхай бы ты хоць з Карнейчыкам параіўся. Сябар твой усё ж такі.

Л ю т ы н с к і. О не! *(Устае.)* Ён мне тут не паможа. Сам разблытаю гэты вузел. *(Закурвае і нервова ходзіць па пакоі.)* На сметнік я яшчэ не збіраюся! Бацька мой кулаком не павінен быць.

Н а т а л л я. І Карнейчыка баішся? А сам жа колькі разоў гаварыў мне пра яго як пра найлепшага сябра. Ты, мусіць, нядобрае нешта задумаў?.. Памятай, Антон: я зусім не хацела б, каб ты наш агульны дабрабыт выратоўваў якім-небудзь нядобрым спосабам...

Л ю т ы н с к і. Па-твойму, я цяпер павінен выйсці на вуліцу і крычаць: глядзіце на мяне ўсе, майго бацьку раскулачылі! А ты ведаеш, што як адказны працаўнік я не маю ніякага права кампраметаваць сябе без пары. Дурніца!

Н а т а л л я. Няхай сабе дурніца, але скажы, што ты хочаш рабіць?

Л ю т ы н с к і. Галавацяпы там сядзяць — вось што! Асталопы бязглуздыя! Савецкая ўлада надзяліла майго бацьку зямлёй...

Н а т а л л я. А хто яму нарэзаў?

Л ю т ы н с к і. Не важна, хто асабіста — Лютынскі, Сідараў, Пятроў — зямельныя органы нарэзалі. Пры савецкай уладзе мой бацька культурную гаспадарку завёў, і ніхто не мае права абыходзіцца з ім, як з кулаком. Ты хочаш, каб праз нечае галавацяпства я ахвяраваў партыйным білетам, службовым аўтарытэтам, добрым імем савецкага грамадзяніна? Я не з'яўляюся непраціўленцам злу: міндальнічаць і гуляць у шляхетнасць не буду. Ён, прахвост каторы, загнуў, дык няхай сам і спажывае гэта.

Н а т а л л я. А я прашу цябе, падумай добра, што ты робіш. Можа, твой бацька...

Л ю т ы н с к і. Што мой бацька? Дурында! І яна туды ж! Прашу цябе — прытрымай язык пакуль што, калі нічога не разумееш. Ён у цябе ля вушэй матляецца.

## Карціна восьмая

Кабінет Карнейчыка. К а р н е й ч ы к углыбіўся ў нейкія паперы. Сядзіць задумаўшыся і не заўважае, што ўвайшоў Ш ы б е р.

К а р н е й ч ы к *(чухае патыліцу)*. Гм! Чапуха выходзіць.

Ш ы б е р. Запарыўся, таварыш Карнейчык?

К а р н е й ч ы к. Запарышся з вамі.

Ш ы б е р. Чаму гэта якраз з намі?

К а р н е й ч ы к. Якраз з табой. Твой цэх прамфінплан выконвае?

Ш ы б е р. І запасныя часткі звыш плана, і прамфінплан — як жа я ўпраўлюся?

К а р н е й ч ы к. Паспрабуй не ўправіцца!

Ш ы б е р. Цераз сілу і конь не цягне.

К а р н е й ч ы к. А як ты гэту сілу скарыстоўваеш?

Ш ы б е р. Не ведаю, мне здаецца...

К а р н е й ч ы к. Я табе зараз скажу, калі не ведаеш... Вылучаны ў цябе пэўныя станкі на запасныя часткі?

Ш ы б е р. Яшчэ не вылучыў.

К а р н е й ч ы к. О то-то ж — не вылучыў... Параскідаў па ўсіх станках. Станок № 16 зусім беспрытульны, за

пэўнымі людзьмі не замацаваны, увесь брудам зарос. Лодар Касабуцкі ходзіць у часе працы па цэху і практыкуецца ў боксе. Што ж ты скажаш на гэта?

Шыбер. Што тут казаць... Крый ужо да канца.

Уваходзіць Пянькоўскі, за ім Насця, якая садзіцца на крэсла ў кутку.

Карнейчык. Вядома, што тут казаць? Зрабіць трэба.

Шыбер. А чаго клікаў?

Карнейчык. Таго і клікаў. Заўтра далажыш мне, што ты цалкам гатоў да выканання заказу па запчастках. План — само сабою... *(Да Пянькоўскага.)* Гэта не памож а. *(Адсоўвае папку, якую Пянькоўскі палажыў на стол.)*

Пянькоўскі. Чаму?

Карнейчык. Таму, што аддзел забеспячэння павінен забяспечваць завод матэрыяламі, а не дырэктара паперкамі.

Пянькоўскі. Я забяспечваю.

Карнейчык. Кацельнага жалеза шмат у цябе ёсць?

Пянькоўскі. На тыдзень хопіць.

Карнейчык. А начальнік цэха сказаў, што ўсяго на тры дні.

Пянькоўскі. Жалеза нам даўно адгружана. Вось і накладная. *(Падае паперку. Карнейчык, не гледзячы, адсоўвае рукой.)*

Карнейчык. Жалеза давай!

Пянькоўскі. Вагон недзе ў дарозе затрымаўся. Я ўжо тры тэлеграмы даў. Вось копіі, калі не верыш.

Карнейчык *(адсоўвае рукою)*. Перадай іх у кацельны цэх.

Пянькоўскі. Нашто?

Карнейчык. Няхай з тваіх тэлеграм катлы клепаюць.

Пянькоўскі. Чалавека хіба паслаць, каб пашукаў, дзе гэты вагон дзеўся?

Карнейчык. Справа твая. Памятай, што калі праз тваю ласку работа ў цэху стане, дык мала табе не будзе.

Пянькоўскі, збянтэжаны, збірае ў папку паперы.

Шыбер *(ляпае яго па плячы)*. Хадзем, таварыш Пянькоўскі, пакуль нам больш не ўляцела. *(Выходзяць.)*

Карнейчык *(жартаўліва да Насці)*. У цябе што? Мо таксама тэлеграмы?

Насця. У мяне толькі заява. *(Падае).*

Карнейчык чытае. Уваходзіць Лютынскі.

Карнейчык. А-а-а! Ці не бог цябе прынёс да нас?

Лютынскі. Траха што ён... Толькі па прапанове таварыша Нодэльмана.

Карнейчык. Што, у работу бярэ?

Лютынскі. Прапанаваў гурток марксізму-ленінізму весці ў вас.

Карнейчык. Гэта я параіў яму. Ты, думаю, не будзеш крыўдзіцца на мяне?

Насця *(якая ўвесь час углядалася ў Лютынскага)*. А ці не хочацца вам чырвоных ягад, таварыш Лютынскі?

Лютынскі. Ягад?! Якіх ягад?

Насця. Не пазнаяце?

Лютынскі. Ах! Ягад чырвоных?.. Правільна... Вялікая ж ты вырасла, Насця. Як гадуешся? *(Падае руку.)*

Насця. Ці не пара ж вырасці?

Карнейчык. Адкуль вы ведаеце адно аднаго?

Лютынскі. Гэта ж мая вучаніца. Ты яе хіба не ведаеш?

Карнейчык. Добры б я дырэктар быў, каб сваіх лепшых ударнікаў не ведаў?

Лютынскі. Не, раней?.. Бацьку ж яе, Данілу Бохана, ты ведаў добра?

Карнейчык. А як жа. Памятаю, як і яна ў лес прыбягала... Вось такая была тады. *(Паказвае рукою.)*

Лютынскі. Як жа бацька маецца?

Насця. У зямлі даўно наляжаўся.

Карнейчык. Злавілі, брат, яго ўскорасці, як ты ўцёк... Закатавалі, гады... *(Паўза.)* Эх, браткі мае! Чэрці паласатыя! Давайце збяромся калі-небудзь... Ну хоць бы ў мяне. Пагаворым, спяём што-небудзь. Мы некалі часта пелі... Ноч цёмная... Лес шуміць маркотна, нібы скардзіцца на каго. Мы пры агні збяромся. Хто-небудзь казку расказвае ці так пра якое здарэнне. А Даніла ляжыць дагары на мху на мяккім,— рукі пад галаву заложаны, вочы ў зорным небе блукаюць,— і сам сабе ціхутка песню заводзіць. Да яго неўзаметку далучыцца адзін, другі. Песня расце, мацнее, шырыцца на ўвесь лес. Сам апавядальнік абарве недаказаную казку і падхопіць высокім тэнарам. Хораша выходзіла... *(Паўза.)* Не журыся, Настасся Данілаўна! Твае песні яшчэ ўсе наперадзе. Дарэчы, ты ўмееш пець?

Насця. Круху ўмею.

Карнейчык. Вось і добра... Цягні з сабою яшчэ пару спевакоў. Згода?

Насця. Не ведаю, ці зручна гэта будзе.

Карнейчык. Кінь цырымоніі! Ты ж дачка майго сябра, а мы з табою толькі і гаворым што на вытворчых нарадах, калі ты мяне крыеш.

Насця. Ну, не так ужо моцна.

Карнейчык. Хоць бы і моцна — гэта ўсё на карысць. Я пра тое, што чаму нам і бліжэй не пазнаёміцца? Дык згода, Настасся Данілаўна?

Насця. Згода, таварыш Карнейчык.

Карнейчык. Дай пяць!

Насця дае руку, ласкава ўсміхаючыся.

*(Да Лютынскага).* Цябе, я думаю, угаварваць не трэба? Прыходзь з Наталляй Міхайлаўнай... Урэшце, я сам яе ўбачу...

Лютынскі. Пастараюся... Не ведаю, як час выдарыцца.

Карнейчык. Э, кінь! Чалавек ты, праўда, заняты: усялякія там рэшткі прышчэпаўшчыны і ўсё такое. Але адзін вечар знойдзеш як-небудзь.

Лютынскі. Пастараюся.

Карнейчык. Я разумею: у цябе жонка, сямейная ўтульнасць... А мне, ведаеш, чалавеку адзінокаму... Урэшце — сам ты ўсё разумееш.

Лютынскі. Я не адмаўляюся. Што ты, брат!.. *(Глядзіць на гадзіннік.)* Там павінны сабрацца ўжо. *(Устае.)* Ты не будзеш?

Карнейчык. Зараз прыйду.

Лютынскі выходзіць.

*(Да Насці.)* Пра тваю справу я з таварышам Нодэльманам пагавару. Думаю, што ён пярэчыць не будзе.

Насця *(устае).* Добра. Я заўтра зайду. *(Хоча ісці.)*

Карнейчык. Ты ў цэх цяпер?

Насця. Ага. На другой змене сягоння.

Карнейчык. Як ты там з Касабуцкім ваюеш?

Насця. Ану яго к чорту!

Карнейчык. Бузіць?

Насця. Прыйдзецца аб ім у заўкоме сур'ёзна пагаварыць. Сягоння зноў спазніўся на работу. З пахмелля, відаць.

Карнейчык. Паспрабуй яшчэ раз. А не — дык і развітацца можна. А то ён і другіх можа павесці па сваёй дарожцы.

Насця. Хоць бы з ім гаварыць можна было як з чалавекам! Што ні скажы — морду скрывіць, утаропіцца: «Ах, эти черные глаза...»

Карнейчык *(глядзіць ёй у вочы).* А брэша ж ён: вочы ў цябе зусім не чорныя.

Насця *(крыху засаромеўшыся).* Не прыглядайся. Яшчэ закахаешся. *(Выходзіць.)*

Карнейчык *(адзін).* Паспрабуй тут не прыглядацца.

## Карціна дзевятая

Кабінет Лютынскага ва ўстанове. Шура прыбірае пакой, выцірае пыл мокрай анучаю.

Шура *(пяе).*

Зялёны дубочак,
Шырокі лісточак,—
Куды вецер вее,
Туды голля гнуцца.
Куды вецер вее,
Туды голля гнуцца,
Па ветру да мілай
Ўсе весці нясуцца.

Лютынскі *(уваходзіць, кідае партфель на стол, распранаецца, вешае паліто і капялюш на стаячую вешалку).* Пяеш усё, Шура?

Шура. А што мне?

Лютынскі. І марозу на цябе няма.

Шура. У роце ў мяне цёпла, язык не адубеў.

Лютынскі. Наогул, ты, відаць, дзяўчына цёплая.

Шура. Адкуль жа вы гэта ведаеце?

Лютынскі. Так і чую, як ад цябе цяплом патыхае.

Шура. Выдумляеце ўсё.

Лютынскі. Ідзі вытры тут крыху.

Шура. Таксама выдумляеце: толькі што выцірала.

Лютынскі *(праводзіць пальцам па стале і глядзіць).* Я ж бачу.

Шура *(падыходзіць і выцірае стол).* Наце вам яшчэ раз.

Лютынскі. Эх, Шура! Зайздрошчу я табе. *(Абнімае яе стан адной рукою. Шура хоча вываслізнуць.)*

Шура. Во! Чаго ж гэта?

Лютынскі. Вясёлая ты заўсёды, як вясновы дзень. Усё перад табою ясна. Ніводнай хмурынкі на гарызонце.

Шура. А ў вас не ясна?

Лютынскі. Усяк бывае. Часамі цэлыя хмары навальнічныя.

Шура. А цяпер як?

Лютынскі. А так, ведаеш, нібы туман густы перад вачыма: за дзесяць крокаў бачу, а далей і не відаць нічога.

Ш у р а. Гэта вашы вокны запацелі, дайце я іх пратру. *(Трэ мокраю анучаю па акулярах.)*

Л ю т ы н с к і. Стой! Стой! *(Хапаецца за акуляры.)*

Шура адбягае і рагоча.

Л ю т ы н с к і *(выцірае акуляры хустачкаю).* Пачакай жа, нягодніца.

Ш у р а. Але цяпер ясна відаць? *(Зноў рагоча.)*

Прачыняюцца дзверы, паказваецца галава М а н д р ы к і н а. Дзверы зноў хутка зачыняюцца.

Л ю т ы н с к і. Заходзьце, таварыш Мандрыкін! Чаго вы спужаліся?

М а н д р ы к і н *(уваходзіць з папкаю).* Я думаў, вы заняты.

Л ю т ы н с к і. Не вельмі, акуляры выціраю.

Ш у р а, смеючыся, выходзіць.

М а н д р ы к і н *(ківае галавою ўслед Шуры).* Дзяўчына, як суніца... *(Падае паперы.)* Калі ласка, падпішыце.

Л ю т ы н с к і. Не на нашы старэчыя зубы. *(Адкладвае паперы ўбок.)* Гэта трэба яшчэ высветліць.

М а н д р ы к і н. Што вы за стары, Антон Мітрафанавіч! У самай сіле, можна сказаць. *(Паказвае на паперку.)* Гэта Мар'я Антонаўна сама праверыла.

Л ю т ы н с к і. Куды мне ўжо! *(Углядаючыся ў паперу.)* Прыйдзецца з гэтымі трыццацю свінаматкамі ўладзіць справу.

М а н д р ы к і н. Даручана было Прахарэню, ну, ён нічога не зрабіў. Самому ўсё прыходзіцца. *(Збірае падпісаныя паперы ў папку.)* Работнік, трэба сказаць, нікуды не варты. А як што якое, дык яшчэ крытыкаваць лезе: і тое не гэтак, і гэта не так. Надоечы пра вас казаў, што вы быццам у свінагадоўлі нічога не разумееце.

Л ю т ы н с к і. Што ж, справа для мяне новая, можа, я чаго і не ведаю...

М а н д р ы к і н. Слухайце вы яго! У нас яшчэ ніводнага працаўніка не было, які б мог так у дробязі ўваходзіць, як вы. Яму абы трапацца. Наогул, мне здаецца, ён няпэўны элемент. Можа, які сынок кулацкі...

Л ю т ы н с к і. Трэба будзе праверыць.

М а н д р ы к і н. Ага! Чуць не забыўся. Учора, як вы пайшлі, званілі вам з ЦК. Сказалі, каб вы сёння туды пазванілі, як прыйдзеце.

М а н д р ы к і н збірае ў папку паперы і выходзіць. Лютынскі бярэцца за тэлефонную трубку. У дзвярах з'яўляецца Н а п о р к а з планам у руках.

Напорка. Антон Мітрафанавіч! Я не разумею, што ў нас у зямтрэсце робіцца?

Лютынскі. Вы ж там працуеце.

Напорка. Працую і не разумею.

Лютынскі. Хто ж тут вінават? Звярніцеся да свайго непасрэднага начальніка, да дырэктара, ён вам растлумачыць.

Напорка. Тлумачэнне таварыша Далеўскага мяне не задавальняе.

Лютынскі. А ў чым справа?

Напорка. Ды клеткі гэтыя... Недарэчнасць нейкая. *(Разгортвае план.)* Паглядзіце самі. Клінок у паўгектара на тым баку рэчкі — абавязкова да гэтай клеткі павінен належаць, а не да другой. І такіх выпадкаў шмат.

Лютынскі. Ну і што ж?

Напорка. Лаяцца будуць людзі. Ганяй коні дарэмна, траць час дзеля гэтага шматка. Мосцік вунь аж дзе. Глядзіце, кіламетраў за тры. Чаму гэты клінок не далучыць да клетак, што на тым баку?

Лютынскі. Гэта пытанне таварыш Далеўскі ўзгадніў са мною: правільныя геаметрычныя клеткі, і ніякіх адхіленняў. Вы ж самі кажаце, што такіх выпадкаў шмат. Калі мы ў адным месцы адарвём паўгектара, а ў другім прыпусцім паўтара, дык зноў ніякай стройнасці, ніякай сістэмы не будзе, і мерапрыемства не дасягне мэты.

Напорка. Для мяне гэта мэта — «темна вода во облацех». Усю плошчу на клеткі парэзалі, а для чаго, і самі не ведаем.

Лютынскі. Мэтазгоднасць клетак тэарэтычна абгрунтавана працаўнікамі даследчага інстытута. Вы ж, здаецца, былі на дакладзе?

Напорка. На жаль, Антон Мітрафанавіч, ад гэтага даклада ў маёй галаве ясней не стала.

Лютынскі. То, можа, тут галава вінавата?

Напорка. З раёнаў людзі прыязджаюць і таксама кажуць, што ад гэтых клетак ніякай карысці няма. Для ўліку працы яны ніякага практычнага значэння не маюць... Толькі слупкі замінаюць на полі.

Лютынскі. Калі слухаць усялякія гаворкі адсталых элементаў, дык мы ніводнага мерапрыемства не правядзём. Гэта ж хвасцізм, таварыш Напорка. Форменны хвасцізм. Мы ж павінны паказваць больш культурныя і рацыянальныя спосабы карыстання зямлёй. Прывыклі мы да расійскага «ляп-ляп», дык нам усякая культурная навіна чортам здаецца.

Напорка. Калі гэта для ўліку працы, дык чаму

ж клеткі не ўсюды роўныя? У адным месцы па пяць гектараў, а ў другім па дваццаць.

Лютынскі. А гэта, відавочна, у залежнасці ад масіву. Запытайцеся ў таварыша Далеўскага, ён вам усё растлумачыць. І давайце ўмовімся, што больш гэтым пытаннем вы мяне турбаваць не будзеце.

Напорка. А я думаю, Антон Мітрафанавіч, ці не хаваецца ў гэтых клетках якое-небудзь злачынства?

Лютынскі. Ну вось! Я так і ведаў! Чалавек больш за нас ведае, значыць, ён і злачынец. Глупства, таварыш Напорка! Спецаедствам займаецеся.

Напорка. А я раіў бы вам усё ж такі звярнуць на гэта ўвагу.

Лютынскі *(зазлаваўшы)*. Кіньце вы навучаць мяне класавай пільнасці. За дванаццаць год у партыі я крыху навучыўся. Замест таго каб прышываць людзям ярлыкі, вы б лепш вывучылі гэта пытанне. Авалодаць тэхнікай свае справы — гэта задача для кожнага з нас, камуністаў... У тым ліку і для кандыдатаў партыі, якім вы з'яўляецеся, таварыш Напорка.

Напорка *(заўзята)*. Я вывучу гэта пытанне, таварыш Лютынскі.

Лютынскі. Абавязкова вывучыце, таварыш Напорка.

Напорка. Абавязкова вывучу, таварыш Лютынскі!

Лютынскі. І добра зробіце, таварыш Напорка! Тады і вашы парады будуць чаго-небудзь варты. А цяпер нічога каштоўнага вы сказаць не можаце, апрача напамінкаў пра класавую пільнасць. А ў гэтым у мяне якраз і няма патрэбы. *(Напорка выходзіць. Лютынскі — уздагон зняважліва.)* Хлапчук! *(Бярэ тэлефонную трубку.)* Таварыш Рызманік? Ты перадаваў, каб я пазваніў... Ага, Лютынскі. Што ты прыемнае скажаш мне?.. На хлебанарыхтоўкі?.. Надоўга?.. Я ж не магу, у мяне работа... А калі я давяду, што няма як?.. Нічога не будзе? Ды я ведаю, ён жартаваць не любіць... Ну і ўдружыў ты мне... Самы паршывы раён. Пуцёўку?.. Зараз іду. *(Кладзе трубку. З сарказмам.)* Вось табе, Антон Мітрафанавіч, і выпадак паказаць сваю класавую непрымірымасць. А спосаб табе вядомы і выпрабаваны людзьмі ў тваім становішчы. Спосаб гэты вельмі просты: бяры і трасі, пакуль з яго збожжа не высыплецца. Душу з цела вытрасеш? Не бяда. Хто цвёрдакаменным хоча быць, той на такія дробязі ўвагі не звяртае. *(Апранаецца і выходзіць.)*

Заслона

## АКТ ТРЭЦІ

### Карціна дзесятая

Вясковая хата. Зося шые. Гаспадыня робіць панчоху. Аднаасобніца, 1-я калгасніца, 2-я калгасніца — прадуць. Усе пяюць.

Ці свет, ці світае,
Ці на зоры займае,
А мой міленькі,
Голуб сівенькі,
Коніка сядлае.

Сядлай, мілы, каня,
Каня вараненькага,
Прыязджай, мілы,
Не кідай, мілы,
Мяне, маладзеньку.

Чырвона каліна
Дый у лузе стаяла,
Несуверная
Ты, дзяўчынка,
Мне свет завязала.

Сапляк *(уваходзіць з конскаю торбаю)*. Добры вечар!

Гаспадыня. Добры вечар.

1-я калгасніца. Добра білі, добра енчыў.

Сапляк. Яшчэ не білі пакуль што, хіба мо будуць.

Аднаасобніца. Думаеш даслужыцца?

Сапляк. А цяпер гэта скора: не так ступіш, не так слова скажаш... Дзе ж гаспадар?

Гаспадыня. На сходзе недзе.

Сапляк. Вось жа ваша торба, што рана браў.

Гаспадыня. Ці не з аўсом ты і прынёс?

Сапляк. Гэта не авёс.

Зося. Дзядзька Сапляк, можа, чаго смачнага прынёс нам у торбе?

Сапляк. На, пакаштуй. Коні ядуць, можа, і табе спадабаецца. *(Падае Зосі торбу.)*

Зося *(мацае рукою ў торбе.)* Або! Што ж гэта? *(Дастае жменю.)* Нейкі хворост пасечаны?

Сапляк *(рагоча)*. Гэта ж я ў швагра быў, вунь аж у Прыямным, дык там гэтым коні кормяць. Паедуць у лес, бярозавага галля нарэжуць, праз сячкарню перапусцяць і даюць.

Аднаасобніца. Ну і коні, мусіць, дужыя?

С а п л я к. Дзіва што дужыя. Як ляжа, дык учатырох не падымеш. *(Ідзе да дзвярэй.)*

2 - я к а л г а с н і ц а. Мусіць, жаночкі, і нам прыйдзецца гэтакую сечку есці.

С а п л я к. А што думаеш! Каб наварыў ды малаком крыху прыбяліў, дык усё роўна як панцак. *(Выходзіць.)*

1 - я к а л г а с н і ц а. Чаго там плакаць загадзя? Як будзеш рабіць, так будзеш і есці. Нашы ж коні хворасту не ядуць яшчэ: сена дзве адрыны напакавана.

А д н а а с о б н і ц а. Пачакай, да вясны яшчэ што запяеш.

1 - я к а л г а с н і ц а. А цябе нешта клопат узяў пра калгасны харч. Ты ж не ў калгасе.

А д н а а с о б н і ц а. Чаго я там не бачыла?

1 - я к а л г а с н і ц а. Глядзі, каб не папрасілася.

А д н а а с о б н і ц а. І не думаю. Хіба мне сечкі бярозавай захочацца?

2 - я к а л г а с н і ц а. Вот праўду кажаш! Гэта я толькі здурнела, паслухала свайго.

З о с я. Паддаў табе Сапляк страху. А знарок жа, гад, устроіў. Недзе ўсю дарогу думаў, як запужаць дурняў гэтаю сечкаю. Не ведаеш Сапляка?

2 - я к а л г а с н і ц а. Вядома, што ж ты будзеш казаць? Ты ж камсамолка, то табе трэба як-небудзь апраўдацца. Хоць і кепска, дык скажаш — добра. А я не хачу больш і аднаго дня быць. Я гэтаму свайму дурню быту не дам. Уссяду — з карка не злезу: буду грызці, аж пакуль не выпішацца.

З о с я. Я цябе хіба ўгаварваю? Сама хіба ты сляпая? Не бачыш, хто такі Сапляк і чаго ён хоча?

2 - я к а л г а с н і ц а. А што ж Сапляк? Жыве і не здрастуе нікога. Не прынялі ў калгас, дык дзякуй сказаў. Вунь калгас нарыхтоўкі да аднаго зярняці здаў, бо трэба ж перад паказаць, а Сапляк і не думае: няма, дый усё. А я ж добра ведаю, што ў яго яшчэ леташняе жыта ёсць.

Г а с п а д ы н я. Дабяруцца і да Сапляка. Вунь з цэнтра прыехаў нейкі на нарыхтоўкі. Старшыня ходзіць ды патыліцу чухае: просіць, каб хутчэй здавалі.

2 - я к а л г а с н і ц а. Прыехаў, то на цябе ж яшчэ наложаць, а Сапляк як не даваў, так і не дасць.

З о с я. А не дажджэ! Не я буду, калі ён не аддасць усё да фунціка.

2 - я к а л г а с н і ц а *(са злосцю.)* Кінь ты, Зося, плявузгаць! Такая бо асэсарка! Баіцца ён цябе!

З о с я. Вось пабачыш.

2 - я  к а л г а с н і ц а. Бачыла ўжо. Пайдзі сама паглядзі. *(Збіраецца.)*

Г а с п а д ы н я. Ты ўжо дадому?

2 - я  к а л г а с н і ц а. Пайду гнаць свайго са сходу. Меле там языком, пакуль мне бярозавай сечкі не прынясе. *(Выходзіць, стукаючы моцна дзвярыма.)*

Г а с п а д ы н я. Здрок бабу ўкусіў.

З о с я. Цяпер яна гэту сечку на ўвесь сельсавет разнясе... на радасць Сапляку. Толькі радасць гэта, мне здаецца, будзе недаўгавечнай.

## Карціна адзінаццатая

У Сапляковай хаце. На стале стаіць газоўка. С а п л я к сядзіць на ложку і раздумліва чухае грудзіну. Уваходзіць П а ў л і н а.

П а ў л і н а. Хавайся!

С а п л я к *(спужаны, усхопліваецца)*. Што?

П а ў л і н а. Ідуць!

С а п л я к. Хто?

П а ў л і н а. Чорт іх ведае. Мусіць, хлеба шукаць. Старшыня чуваць і Зосін голас... Цябе ўспаміналa.

С а п л я к *(зняўшы, садзіцца на ложак)*. Усё роўна ўжо... Што гэта паможа, калі бачылі.

П а ў л і н а. Хавайся, кажу, ёлапень. Я буду ведаць, што адказаць.

С а п л я к *(зноў усхопліваецца)*. На печ? *(Накіроўваецца да печы.)*

П а ў л і н а. Куды ты, убачаць!

С а п л я к. Пад печ? *(Нагінаецца і мерыцца лезці под печ.)*

П а ў л і н а. Курэй перапудзіш, крык падымуць!

С а п л я к. Дык куды ж?

П а ў л і н а. Ляж у калыску.

С а п л я к. Дзіця...

П а ў л і н а. Я на ложак перанясу. *(Тушыць газоўку.)*

У хаце паўзмрок. На падлозе пляма месячнага святла. Паўліна ўвіхаецца з дзіцем, потым падбягае да акна.

Ідуць.

На пальчыках падыходзіць да дзвярэй. Чуцен стук у дзверы. Галасы.

Г о л а с  с т а р ш ы н і. Ну і ўкалыхаліся!

Стукаюць мацней.

Алесеў голас. Вось хіба я іх! *(Моцны стук у дзверы.)* Грамадзянін Сапляк! Годзе табе дрыхнуць!

Паўліна *(злосным шэптам).* Уклаўся ты там ці не?

Сапляк. Няхай яно згарыць тут! Ног няма дзе дзець.

Паўліна. Уй, аздобіна!

Знадворку з усяе сілы, не іначай ботамі, грукаюць у дзверы.

Алесеў голас. Падыму, быць не можа!

Паўліна *(нібы сонным голасам).* Хто там?

Голас старшыні. Адчыні!

Паўліна. А хто ж вы будзеце?

Голас старшыні. Вось табе і на! Не пазнала! Ды мой голас тут ужо кожны сабака ведае.

Паўліна. Здаецца, старшыня?

Голас старшыні. Ён самы.

Паўліна. Дык чаго ж вам трэба сярод ночы?

Голас старшыні. Адчыні, пагаворым.

Паўліна. Як жа я адчыню, кабетаю быўшы, адна ў хаце?

Голас старшыні. Ты што? Думаеш, нанач да цябе прыйшоў?

Паўліна. Бог вас ведае, што ў вас на думках.

Голас старшыні *(строга).* Ну, годзе валаводзіць! Адчыняй па-добраму, а то кепска будзе!

Дзверы адчыняюцца. Усе ўваходзяць у хату.

Паўліна *(здзіўленая).* А колькі ж вас тут!

Алесь. Нічога, цётка, усе людзі савецкія.

Паўліна *(шкробаецца).* На тое ліха і запалкі чорт ухапіў.

Лютынскі. У мяне ёсць. *(Шэргае запалкай. Алесь бярэ газоўку і запальвае.)*

Паўліна *(нагінаецца над калыскай, якая вісіць ля ложка, ахінутая па вяровачках посцілкаю).* Спі, спі, дачушка.

Лютынскі. Мы толькі дзіця вам пабудзілі.

Паўліна. Але, пакуль я пачула, дык яно ўжо і гатова.

Алесь. Нічога, выспіцца, часу яму хопіць.

Старшыня. А дзе ваш гаспадар?

Паўліна *(чэкае калыску нагой).* Я б вам сказала, дык і сама не ведаю. Як пайшоў па абедзе, то і яшчэ вось няма. Прыціснулі вы гэтак яго з хлебам, дык яму і ночы няма. Пайшоў, мо дзе хоць пазычыць крыху ды аддасць.

Трэба ж, як той казаў, і рабочым нешта есці... На ўсё то выбачайце: нічога не будзе.

Старшыня. А кажуць жа, што вы схавалі жыта.

Паўліна *(збянтэжана).* Што ты, братка! Смяешся ці дарогі пытаеш?

Старшыня. Чаго там пытаць. Дарогу ў ваша гумно мы й самі знойдзем.

Паўліна. Шукайце ідзіце, калі не верыце.

Старшыня. Пойдзем разам, а то яшчэ скажаш, што пакралі.

Паўліна. Як жа я... дзіця адно кіну? *(Падумаўшы.)* І ключа ж няма, з сабой забраў. Ламіце замок, калі маеце права... Пасля адвячаць каб не прыйшлося.

Алесь прайшоў па хаце, заглянуў адным вокам на ложак. Падышоў да Зосі і шэпча ёй нешта на вуха, яна дзівіцца, але разумее.

Зося. Колькі гэта ўжо вашай дзяўчынцы?

Паўліна. На Каляды год будзе.

Зося. Вялікая ўжо, мусіць? Даўно я не бачыла.

Паўліна. Расце, дзякаваць богу. Дзеўка ўжо. Зараз у калыску не ўмесціцца.

Зося. Дайце хоць я разок гляну на яе. *(Падыходзіць да калыскі.)*

Паўліна. Не, Зоська! Яна ж ужо дрэмле, пабудзіш.

Зося. Я ціхенечка.

Паўліна. Не, не, Зоська, любая! Яна ж вельмі вачэй баіцца: абы хто чужы гляну, тады бяда з ёю.

Зося. Мае вочы не паганыя. *(Спрытна хапае за рог посцілкі і адкрывае калыску.)*

Сапляк ляжыць дагары, не расплюшчваючы вачэй. Паўліна збянтэжана адварочваецца.

Алесь. Як жа яно хораша спіць!

Старшыня. Каб ты выдах, гэтакі чалавек! Схаваўся ў жонкі пад цыцкаю, і дома яго няма.

Сапляк спужана пралуплівае вочы, нязграбна вылазіць з калыскі, часта моргае, калені дрыжаць.

Чаго ты залез туды?

Сапляк. А я, братачка, баяўся: думаў, вы мяне браць прыйшлі.

Старшыня. Мусіць, вінават, калі баішся.

Алесь. Знае кошка, чыё сала з'ела.

Сапляк. Братачкі, дальбог жа, не вінават!

Лютынскі. А жыта нашто хаваў?

Сапляк. Не хаваў, братка-таварыш. Што я, не дай божа, непрыяцель які савецкай уладзе, ці што?

Зося. А я ж бачыла, вы мяшкі на саначках вазілі.

Сапляк. Вазіў мяшкі, гэта праўда. Я ж і не таюся: што вазіў, то вазіў. З свайго ж свірна ды ў сваё гумно перавёз.

Старшыня. От гад печаны! А плакаў жа, бажыўся, што толькі тры пудзікі на хлеб пакінуў.

Сапляк. Але каб хто папытаўся, што я вазіў.

Алесь. Ну я папытаюся: што ты вазіў?

Сапляк. Мякіну вазіў.

Алесь. Каб ты так жыў!

Сапляк. Дальбог, мякіну! Каб я з гэтага месца не сышоў!

Зося. Адкуль жа ў вас гэтулькі мякіны?

Сапляк. Леташняй трошкі, пазалеташняй трошкі. Мякіны ж у нарыхтоўкі не бяруць, ты сама, здаровенькая, ведаеш. Мякіна мне застаецца.

Старшыня. Пайшлі ў гумно. Паглядзім, што ў яго там за мякіна.

Лютынскі. Добра ж глядзіце.

Сапляк апранае кажушок, і ўсе выходзяць, апрача Лютынскага і Паўліны.

Паўліна. Згубіць нас наважыў гэты чалавек.

Лютынскі. Старшыня?

Паўліна. Не, Алеська гэты. Хоць ты жывы ў зямлю лезь ад яго. Яшчэ сакратара парцейнага паджыгне, ды ўдвух.

Лютынскі. Дзяржаве ж хлеб трэба здаць. Дарэмна вы на яго крыўдзіцеся.

Паўліна. Дзе ж яго ўзяць, калі мы не сеялі.

Лютынскі. Як не сеялі?

Паўліна. Толькі што ў гародзе. Больш нідзе і каліва не ўкінулі.

Лютынскі. Чаму ж вам сорак пяць пудоў вызначылі?

Паўліна. Усё праз яго, праз гэтага Алеську. Гэта ж мой раз нешта проці яго на сходзе сказаў. Сказаў, што ў калгасе непарадкі. А ён жа ў калгасе нейкі ўправіцель. Дык калі ўз'еўся! Усё роўна, кажа, я цябе зжыву адгэтуль. Не цяпер, дык у чацвер. Я, кажа, знайду прычыну.

Лютынскі. Не можа быць, каб ён за гэта.

Паўліна. Каб я так сваё дзіця аглядала. *(Плача і выцірае нос фартухом.)* Згубіць ён нас, чуе маё сэрца. Што хочаце выдумае.

Лютынскі. Не будзеце вінаваты, то нічога да вас не прыстане.

Паўліна. Яму ж паверацъ, а не мне. У нас жа, калі хто адзін сказаў, што кулак, дык і кулак, і веры табе нідзе няма. Мы ж цяпер так рады, што такі вялікі чалавек да нас прыехаў! Паглядзіце хоць на нашы парадкі.

Лютынскі. А вы хіба не лічыце сябе кулакамі?

Паўліна. Якія ж мы кулакі? Так сабе мужыкі, як і ўсе. Беларусы няшчасныя.

Лютынскі. А колькі ў вас зямлі было?

Паўліна. Зямлі-то было крыху. Хутары як наразалі, дык і нам нарэзалі. *(Нясмела.)* Ці не самі ж вы тады зямельным аддзелам былі?

Лютынскі. Я ў вашым раёне не быў.

Паўліна. Нашы хутары пасля да гэтага раёна далучылі.

Лютынскі. У суседнім раёне я быў, праўда.

Паўліна. Я вас па гаворцы пазнала, але маўчала: яшчэ, думаю, загневаецеся.

Лютынскі. Не варта ўспамінаць, што калі было.

Паўліна. Пры вас мы і абжывацца пачалі. І гаспадарка была нішто: культурнаю лічылася. Тады і гонар быў нам. А цяпер зямля пад калгас пайшла, жывёла змарнавалася, і нас кулакамі робяць. Сядзім і не дышам.

Лютынскі. Чаго ж вам баяцца, калі вы не кулакі?

Паўліна. Як жа нам не баяцца? Ад нас жа сем гаспадароў ужо выслалі.

Лютынскі. Бо яны, мусіць, былі кулакі.

Паўліна. Ніводнага кулака не было. Усё культурныя, от як і мы.

Уваходзяць Сапляк, старшыня, Алесь і Зося.

Лютынскі. Ну, што?

Старшыня. Ляжыць там нейкая мякіна. Больш нічога не знайшлі.

Лютынскі *(да Зосі)*. Дарэмна ты бузу падняла.

Алесь. Не дарэмна. Ёсць у яго хлеб, ды не так хутка знойдзеш.

Сапляк. Я ж яго за губу не залажыў. Вазьмі, калі ёсць. Я табе ўсё адчыняю.

Лютынскі. Гаспадыня ж казала, што і не сеялі нават.

Алесь. А хто яму не даваў сеяць?

С а п л я к. Ты не даваў! Дзе ж я, на печы пасею? Зямлю ўсю пад сябе падабраў, а мне вунь аж у чортавых зубах пустэчы нейкай даў, што зроду не аралася.

А л е с ь. Тут ты знарок не сеяў. Сеяў вунь чорт ведае дзе, аж у Прыямным, у швагра.

С а п л я к. Праўда, памагаў я швагру сеяць. Ён жа хворы ляжаў.

Л ю т ы н с к і *(да старшыні)*. Сеяў ён дзе?

С т а р ш ы н я. Тут не сеяў, а там — хто яго ведае, што ён рабіў.

Л ю т ы н с к і *(да Сапляка)*. Што ж мне з табою рабіць?

С а п л я к. Воля ваша.

Л ю т ы н с к і. Скажы па праўдзе, колькі ты можаш здаць?

С а п л я к. Пудоў сем, можа, як і наскрабу.

Л ю т ы н с к і. Як ты ўжо не сеяў,— пятнаццаць пудоў здай пакуль што. Рэшту — паглядзім.

А л е с ь *(стукае кулаком па стале)*. Я не згодзен!

Л ю т ы н с к і *(павярнуўшыся да яго)*. Я ведаю, што ты не згодзен. Але спаганяць на ім сваю крыўду і кампраметаваць мерапрыемствы савецкай улады я табе не дазволю!

А л е с ь. Кулака па галоўцы гладзіць! За тое, што ён не сеяў і другіх падбухторваў?

Л ю т ы н с к і *(з пагрозай)*. Супакойся! Пагаворым з табою пасля. *(Да Сапляка.)* Даю табе тры дні тэрміну.

С а п л я к. Не здужаю, таварыш.

Л ю т ы н с к і. Не здасі, судзіць буду.

С а п л я к. Не ўступіце, то што ж рабіць? Хоць сам пагаладаю... У людзей пазычу...

Л ю т ы н с к і і с т а р ш ы н я выходзяць.

А л е с ь *(зрывае шапку і кідае на падлогу)*. Халера на вас з вашай работай! *(Да Зосі.)* Ці чула ты гэта?

З о с я. Чатыры вокі мае, ды трасцу бачыць... *(Выходзіць.)*

А л е с ь. Ён у Саплячыхі слязу ўбачыў. *(Падымае шапку і ідзе да дзвярэй.)*

П а ў л і н а. Няхай табе заслепіць, мой ты Алеська.

А л е с ь *(паварочваецца і тупае нагой)*. Маўчы, гадаўка! *(Раптам свіснуў працягла і здагадліва. Тупае яшчэ і яшчэ раз, прыслухоўваецца.)* Вось яно дзе.

Сапляк і Паўліна мнагазначна пераглянуліся. У абаіх выгляд злоўленага звера.

Сапляк. Што ж ты там знайшоў?

Алесь. Падай сякеру, пакажу.

Сапляк. На... На табе сякеру... *(Дастае з-пад ложка сякеру.)* На, глядзі...

Алесь *(нагнуўшыся, разглядае ля сцяны падлогу).* Гладка, гладка зроблена!.. Але не зусім.

Сапляк ідзе да Алеся з сякерай. Рукі яго калоцяцца, ён не можа перасіліць у сабе жаданне секануць Алеся па галаве.

*(Заўважыўшы ўзнятую сякеру, адскочыў да дзвярэй.)* Што! *(Крычыць у дзверы.)* Гэй, сюды! Старшыня! Таварыш Лютынскі!

Сапляк *(спужаўшыся).* Братка, што табе здалося? На табе сякеру, ты ж прасіў.

Уваходзіць Зося, з ёю Лютынскі і старшыня.

Зося. Чаго ты крычаў?

Лютынскі. Што тут яшчэ такое?

Алесь. Засеч хацеў, гад.

Паўліна *(кідаецца перад Лютынскім на калені, хапае і цалуе яго рукі).* Таварыш, братачка, родненькі! Ратуй жа нас ад гэтага чалавека. Знайшоў-такі ён прычэпку, каб згубіць нас.

Лютынскі хавае рукі за спіну. Паўліна прыпадае да яго ног і галосіць.

Лютынскі. Устаньце. Зараз разбяром.

Старшыня. І чалавек, здаецца, спакойны, ніколі ні з кім не біўся.

Сапляк. Слухайце ж, таварыш, як было! Папрасіў у мяне на невашта сякеру. Ну, я і падаю. А ён крык падняў, чорт ведае што выдумаў.

Лютынскі дапытліва і недаверліва глядзіць на Алеся.

Алесь. Што ж, сведак у мяне няма... Хіба толькі што тут. *(Паказвае на падлогу, тупае.)* Чуеце?

Старшыня і Зося няўцямна глядзяць на Алеся.

Лютынскі. Нічога не чую.

Алесь. То зараз убачыце! *(Хапае сякеру, адрывае ля сцяны ліштвы, уздзірае падлогу.)*

Зося і старшыня глядзяць пад падлогу, дзівяцца. Лютынскі насуплівае бровы.

Алесь. Што вы цяпер скажаце, таварыш Лютынскі?

Лютынскі паварочваецца да Сапляка і ўпіваецца ў яго грозным дапытлівым поглядам. Алесь уздзірае падлогу далей.

Сапляк *(становіцца на калені, плаксіва).* Змілуйцеся! Дзіцяняці пашкадуйце. Ніколі больш не буду і дзесятаму закажу.

Лютынскі *(грэбліва).* Устань! Чалавек ты ці не?

Сапляк *(устае).* Які я, братка, чалавек? Лапаць вясковы.

Алесь і старшыня дастаюць з-пад падлогі мяшкі.

Лютынскі. А ты ведаеш, што робяць з тым, хто ашуквае дзяржаву?

Сапляк. Даруйце гэты раз цёмнаму мужыку! Баяўся з голаду памерці. *(Паказвае на мяшкі.)* Гэта ж усё, што я маю. Пудзікаў дваццаць усяго.

Лютынскі. Аддасі цяпер дваццаць, калі не хацеў пятнаццаць. Старшыня, забяры ў яго гэты хлеб.

Алесь. Ха-ха-ха! Вось дык пакаралі вы яго!

Лютынскі. А ты чаго хацеў?

Алесь. Судзіць гада трэба, а не цацкацца з ім!

Лютынскі *(з прыціскам).* Я тут упаўнаважаны ці ты? Надта актыўны стаў! Дагэтуль у шапку спалі, масавай работы ніякай не вялі, а цяпер хочаце адным Сапляком усе вашы грашкі прыкрыць? Лягчэй, вядома, каго другога на Салаўкі загнаць, як самому спагнанне панесці. І не з дабра чалавек у калыску палез. Але я не дазволю асабістыя рахункі зводзіць і серадняка ў падполле заганяць. Гэта ты зарубі сабе на носе!

Алесь *(кідае сякеру на падлогу).* Хадзем, Зося! Няхай яны тут цалуюцца. Мы знойдзем, куды звярнуцца. *(Алесь і Зося выходзяць.)*

Старшыня. Дык я пайду па фурманку. *(Выходзіць.)*

За ім Лютынскі. Сапляк праводзіць і зачыняе за імі дзверы.

Паўліна *(укленчыла і сашчапіла рукі).* Божухна, бацюхна! Збавіцель высокі! Дай божачка, каб вам наша дабро праз бок вылезла! Каб вам дваццаць скул у горла, ды вы яго праглынуць не маглі! А няма на вас пагібелі якой! Каб вас з гэтага свету спаласкала, як вы нашу гаспадарку дашчэнту спаласкалі... *(Да Сапляка, які вярнуўся ў хату.)* Дурніла! Не ўмеў схаваць па-людску.

Сапляк. Сама зараза! Трэба было не агрызацца. Падзякуй богу, што яшчэ так абышлося.

Паўліна. Глядзі, каб і таго не знайшлі.

Сапляк. Няўжо іх нячыстая сіла на могілкі панясе?

Паўліна. Пад хлявом жа, ты казаў...

Сапляк. Не даждалі. Не першы ж раз робіцца.

## Карціна дванаццатая

Кватэра Карнейчыка. **Карнейчык** сядзіць за пісьмовым сталом, рашае тэхнічную задачу і адначасова практыкуецца ў нямецкай мове. Уважліва прачытвае ў падручніку адпаведнае месца. Думае. Бярэ лінейку, прыкладвае да паперы, ставіць на лінейку рабром адмысловую дошчачку і прыціскае падбародкам, праводзіць алоўкам лінію. Узнімае галаву, углядаецца.

**Карнейчык.** Я, я. Ахцыг мілімэтэр. Рыхтыг! *(Бярэ цыркуль і чэрціць пару кружкоў.)* Гут! Я, я. Дас іст... гатова. Як жа гэта будзе — гатова? *(Разгортвае слоўнік, чытае.)* Фертыг. Дас іст фертыг. Я, я. А мы яшчэ разок праверым. *(Глядзіць у падручнік, прамервае цыркулем, вылічвае. Круціць галавою.)* Дас іст ніхт рыхтыг. Дас іст шлехт. Зээр шлехт! *(Камячыць паперу і кідае ў куток. Бярэ другі аркуш і прыколвае кнопкамі да стала.)* Што ж, пачнём зноў. *(Ранейшым спосабам прыкладвае лінейку да паперы і прыціскае падбародкам. Пачуўшы стук у дзверы, не падымаючы галавы, крычыць.)* Я, я! *(Убачыўшы ў дзвярах Насцю.)* Бітэ, бітэ, майнэ фрау. *(Праводзіць лінію.)*

**Насця.** Біта, можа, і не буду, а лаяць-то будзеш, што спазнілася. *(Здымае галёшы і паліто.)*

**Карнейчык** *(прыкідваецца сярдзітым).* Ух, буду лаяць!

**Насця.** Як жа ты будзеш лаяць?

**Карнейчык.** Усяляк магу... Па-беларуску, па-руску, па-ўкраінску, па-польску, па-нямецку, выбірай як табе лепш.

**Насця.** Давай мо па-нямецку, а то прыйдзецца табе там, за граніцай, лаяцца, а ты і ўмець не будзеш.

**Карнейчык** *(робіць сярдзітую міну і крычыць, нібы лаецца).* Ду майн лібэс мэдхен! Ду майнэ шэцунг! Іх віль кюсэн дых!

**Насця** *(смяецца).* Кусацца будзеш? Уй, як страшна!

**Карнейчык** *(па-ранейшаму, грозна).* Іх віль... іх віль... Пачакай, чаго ж гэта я віль? *(Думае.)* Такі важны тэхнічны тэрмін, і забыўся.

**Насця.** Слабы ты яшчэ немец.

**Карнейчык.** Чакай, чакай! Зараз! *(Гартае слоўнік.)* Віль... віль... віль...

**Насця.** А ты не віляй, проста кажы. *(Падыходзіць да яго, вітаецца.)* Як гадуешся?

Карнейчык *(бярэ яе за руку)*. Проста? *(Затрымлівае на хвіліну ў сваёй.)* Эх! *(Не адважваецца.)* Ну, ладна, *(Пускае руку.)*

Насця. Ладна, дык ладна. Давай возьмемся за задачы, каб заўтра сорам не было перад настаўнікам. *(Садзіцца за стол і бярэ ў рукі чарцяжы.)* Ты ўжо зрабіў колькі!

Карнейчык. Дзве зрабіў, а трэцяя не даецца.

Насця. Што ж мне табе памагчы?

Карнейчык. Чарціць ты ўмееш? Вучаць вас у тэхнікуме?

Насця. Крыху ўмею.

Карнейчык. Дык ты, калі ласка, вось гэта перачарці чысценька, а то ў мяне тут алоўкам і не зусім акуратна. Я падумаю яшчэ над гэтай ауфгабэ.

Насця бярэ гатавальню і пачынае чарціць. Карнейчык учытваецца ў падручнік, думае, робіць вылічэнні. Пэўны час кожны заняты сваёй работай.

Карнейчык *(адхіляецца ад работы і глядзіць на Насцю)*. Вайст ду ніхт?

Насця *(чэрцячы)*. Нічога не ведаю, што ты кажаш.

Карнейчык. Ум-гу... *(Зноў бярэцца за работу. Праз хвіліну.)* Дык ты так нічога і не ведаеш?

Насця. Не.

Карнейчык. Дрэнна... *(Праз хвіліну.)* І чаму мне пацалаваць цябе хочацца, таксама не ведаеш?

Насця *(смеючыся)*. Не, не ведаю.

Карнейчык. Гэта ж, мусіць, я люблю цябе.

Насця. Разбярыся добра. Можа, ты памыляешся.

Карнейчык. Я разбяруся... пасля. *(Нясмела абнімае Насцю, хоча пацалаваць.)*

Насця *(левай рукой прытрымлівае лінейку на паперы і настаўляе локаць правай рукі, у якой трымае рэйсфедэр)*. Стой, стой! Ты мне ўсю музыку тут папсуеш!

Чуваць стук у дзверы.

Карнейчык *(збянтэжаны)*. Я, я! Бітэ, бітэ, майнэ фраў! *(Садзіцца на ранейшае месца. Насця папраўляе валасы.)*

Нодэльман *(з парога)*. Ого, якія тут немцы завяліся!

Насця. А што з яго будзе, як за граніцу з'ездзіць?

Нодэльман. Бяда толькі, што гэты немец яшчэ гера ад фраў не адрозніць.

К а р н е й ч ы к. Ах... *(Успамінае.)* Фэр... фэр... Не, брат, прыйдзецца табе так і застацца фрау,— забыўся, як па-нямецку прабачэння прасіць.

Н а с ц я. Ён жа тут як стаў сыпаць мне па-нямецку за тое, што спазнілася! Злаяў ушчэнт: «Я цябе, кажа, віль кусэн».

Н о д э л ь м а н. Ну? От шэльма! Га!

Н а с ц я. Гэта, мусіць, нешта страшнае «кусэн»?

Н о д э л ь м а н. Не сказаць, каб вельмі... Тэрмін такі тэхнічны. Але няхай ён сам табе растлумачыць. Ён больш спец у гэтай галіне.

К а р н е й ч ы к. Ох, і дыпламат ты, Арон Яфімавіч!

Н о д э л ь м а н *(падыходзіць да стала).* А ты што?.. Тэхнікай авалодваеш?

К а р н е й ч ы к. Бяру ва ўсе лапаткі. Хачу галоўнага інжынера дагнаць і перагнаць.

Н о д э л ь м а н. Ого! Блізка відаць, ды далёка дыбаць.

К а р н е й ч ы к. А мы з Насцяй удваіх. Праўда, Насця?

Н а с ц я *(чэрцячы, пераймае Карнейчыка).* Я, я!

К а р н е й ч ы к. Во! Чуў?

Н о д э л ь м а н. Што ж, ногі ў вас маладыя. Чаму і не перагнаць?

Н а с ц я. Вы нас абражаеце, таварыш Нодэльман. Мы не нагамі думаем пераганяць.

Н о д э л ь м а н. Ха-ха! Пакрыўдзілася? Нічога, хутчэй даганяць будзеш.

К а р н е й ч ы к. Распранайся, садзіся.

Н о д э л ь м а н. Я ненадоўга, па дарозе. Хачу спытацца ў цябе пра адну рэч.

К а р н е й ч ы к. Бітэ, фраген зі!

Н о д э л ь м а н. Скажы, ты Лютынскага добра ведаеш?

К а р н е й ч ы к. Спытайся, ці ведаю я самога сябе.

Н о д э л ь м а н. Ага, гэта лепш.

К а р н е й ч ы к. Ён жа некалі мяне ад смерці выратаваў.

Н о д э л ь м а н. Праўда, ты мне расказваў пра гэта.

К а р н е й ч ы к. А чаму ты пытаешся?

Н о д э л ь м а н. Ліст атрымаў.

К а р н е й ч ы к. Ад яго?

Н о д э л ь м а н. Не. З падшэфнага калгаса пішуць. Ён там нарыхтоўкі праводзіць.

К а р н е й ч ы к. Што? Цісне надта?

Н о д э л ь м а н. Наадварот. Пішуць, што ў яго вельмі мяккае сэрца.

Карнейчык. Глупства, напэўна. Я не сказаў бы, што ён надта жаласлівы.

Нодэльман. Камсамолец піша так. Чаму ты думаеш, што не?

Карнейчык. Сярод камсамольцаў таксама бываюць загібшчыкі.

Нодэльман. Ці не занадта ты ўпэўнены ў ім?

Карнейчык. Я ж яго ведаю не цяпер.

Нодэльман. Яно, бач... не шкодзіць, ведаць цяпер.

Карнейчык. Кінь ты! Гэта ж мой найлепшы друг.

Нодэльман. «Блажен, аще кто и душу свою положит за други своя». Гэта адкуль? Здаецца, з Евангелля?

Карнейчык. Здаецца. Я ў Святым Пісанні слаба падкаваны.

Нодэльман. От бач! А я ведаю. Метафізіка тут.

Карнейчык. Дарэмна ты клапоцішся. Я па Евангеллю не жыву.

Нодэльман. У дачыненні да друга ў цябе крыху метафізікі ёсць.

Карнейчык. Чаго ты ад мяне хочаш? Каб праз нейкі ліст я адвярнуўся ад Лютынскага і плюнуў на нашу дружбу?..

Нодэльман. Плюнуць не трэба. Дружба — добрая рэч, але нельга ёю ўсяго апраўдваць. Трэба, каб сама дружба была апраўдана.

Карнейчык. Як гэта?

Нодэльман. Няправільна будзе, калі я скажу: ён мой друг, а таму ён усё добра робіць; трэба сказаць: ён усё добра робіць — і таму ён мой друг. І калі яшчэ дагаварыцца аб тым, што разумець пад словам «добра», дык будзе ўсё ясна.

Карнейчык. Наша дружба апраўдана крывёй.

Нодэльман. Я гэта ведаю. Але для тэарэтычнага абгрунтавання дружбы тут ёсць адна няяснасць. Якой крывёй?

Карнейчык. Сказаць табе па-кніжнаму? Гэта кроў пралівалася на фронце грамадзянскай вайны за нашу супольную справу, за справу пралетарыяту. Досыць з цябе?

Нодэльман. О! Цяпер дакладна — за нашу супольную справу. Так пачынаецца дружба камуніста.

Карнейчык. Калі ты стаў такім педантам?

Н о д э л ь м а н. Ты ж, вывучаючы тэхніку, ведаеш, што праз недакладнасць бываюць аварыі. А ў гэтым пытанні дакладнасць для мяне асабліва важна, таму адкажы мне яшчэ на адно пытанне: а што, калі гэта супольная справа перастае быць супольнай? Што мне тады з дружбай рабіць?

К а р н е й ч ы к. Выкінь яе свінням.

Н о д э л ь м а н. Правільна — выкінуць свінням, толькі есці не будуць.

Н а с ц я *(да Карнейчыка)*. Прыпёр цябе к плоту таварыш Нодэльман.

К а р н е й ч ы к. Гэта я і без яго разумею.

Н о д э л ь м а н. Ты разумееш наогул, абстрактна, а трэба разумець канкрэтна.

К а р н е й ч ы к. Але пры чым жа тут Лютынскі? Што ты да яго маеш?

Н о д э л ь м а н. Я быў бы рад, каб ён быў ні пры чым. Я маю да яго факт.

К а р н е й ч ы к. Гэты факт яшчэ не факт.

Н о д э л ь м а н. Праверым, і будзе факт.

К а р н е й ч ы к. Няхай там і была якая-небудзь памылка, дык ці ж праз гэта ўжо і ў твар плюнуць чалавеку? Паможам — выправіцца. Я вельмі высока цаню нашу дружбу, каб аднаею памылкаю можна было перакрыць яе.

Н о д э л ь м а н. Цані, калі ласка, толькі не заплюшчыўшы вочы, а то можаш пераплаціць.

Н а с ц я. Я зараз таксама буду сварыцца з вамі за Лютынскага, таварыш Нодэльман. Гэта ж мой былы настаўнік.

К а р н е й ч ы к. Давай, Насця, яго паб'ём. Нам усё роўна не згаварыцца.

Н о д э л ь м а н. Нашто біць? Я і сам пайду. *(Збіраецца.)*

К а р н е й ч ы к. Пачакай! Куды ты?.. Зрабіў замах на маю дружбу ды ходу?

Н о д э л ь м а н *(у дзвярах)*. Ты сваю дружбу ўсё-такі памацай. Можа, ад яе толькі футляр застаўся? *(Выходзіць.)*

К а р н е й ч ы к. Вось і пагавары з ім!

Н а с ц я. Узяў ён нас у пераплёт.

К а р н е й ч ы к *(прайшоўшы разы два па пакоі)*. Прыйшоў, набузіў і пайшоў...

## Карціна трынаццатая

Кватэра Лютынскага. Н а т а л л я папраўляе вучнёўскія сшыткі.

Ю р к а *(у ложку)*. Мама, калі бацька вернецца?

Н а т а л л я. Як хлебанарыхтоўкі выканае.

Ю р к а. А чаму ён гэтак доўга канае?

Н а т а л л я. «Выконвае» трэба казаць... Некаторыя дзядзькі не хочуць здаваць хлеба.

Ю р к а. Гэта кулакі падвучваюць. Нам настаўніца казала.

Н а т а л л я. І кулакі.

Ю р к а. І ты сваім вучням так скажы.

Н а т а л л я. Ужо сказала.

Ю р к а. А чаму бацька не арыштуе кулакоў?

Н а т а л л я. Можа, ён і арыштоўвае.

Ю р к а. Уй, апартуніст няшчасны! Цэлую зіму арыштоўвае. Каб ён мяне ўзяў, дык я б — раз-раз, і ўсё.

Н а т а л л я. Як жа ж бы ты іх пазнаў?

Ю р к а. А яны ж у сініх штанах, і зубы вялізныя ў іх.

Н а т а л л я. Спі ўжо. Чаго ты ўсё балбочаш?

Ю р к а. А я хачу.

Паўза. Юрка пазяхае.

Мама... А ты мне заўтра... снягуркі купіш?

Н а т а л л я. Куплю.

Юрка засынае.

Чуваць званок. Н а т а л л я выходзіць за дзверы і ўваходзіць разам з К а р н е й ч ы к а м.

К а р н е й ч ы к *(знімае паліто)*. Нічога, што я так позна?

Н а т а л л я. Не так і позна. Юрка толькі што заснуў.

К а р н е й ч ы к. Думаў не заходзіць, ды не ўцярпеў.

Н а т а л л я. А чаго цярпець? Чаю хочаце? Яшчэ цёплы.

К а р н е й ч ы к. Хачу.

Наталля налівае і падае чай.

Не пабуду дзён колькі ў вас, дык і цягне, як чаго не хапае.

Н а т а л л я. Вас цягне, а вы ўпіраецеся. Вось табе і друг дома!

К а р н е й ч ы к. І друг можа нарэшце надакучыць.

Н а т а л л я. Каб я гэтага больш не чула, а то за вушы накручу!

К а р н е й ч ы к. Круціце, пакуль не позна.

Наталля. Чаму? Можа быць позна?

Карнейчык. А нашто мне заўсёды бегаць да вас, калі мае вушы засвярбяць? Трэба, каб дома было каму круціць.

Наталля. Ану, ну! Няхай бог памагае!

Карнейчык. Як па-вашаму — Насця не кепская дзяўчына?

Наталля. Калі вам падабаецца, значыць — добрая.

Карнейчык. Без жартаў — як яна вам?

Наталля. Я ж яе толькі разы два і сустракала. Тады на вечары яна мне вельмі спадабалася. Слаўная такая. Песню партызанскую як заспявалі, дык у яе і слёзы навярнуліся... Добрая жонка будзе.

Карнейчык. Ці будзе яшчэ?

Наталля. Хіба ж вы не дагаварыліся?

Карнейчык. Ніяк не асмелюся. Ніколі трусам не быў, а тут страшна. Раптам адмовіць? Можа, нават пакрыўдзіцца, спужаецца. Застанецца мне толькі адзінокай старасці чакаць. Вы тады, Наталля Міхайлаўна, не праганяйце мяне,— я кожны дзень да вас буду прыходзіць.

Наталля. Які ж вы песіміст! Вось чаго я не чакала! Я прывыкла вас бачыць зусім не такім.

Карнейчык. Без ласкі знудзіўся, Наталля Міхайлаўна. Змалку не ведаў яе. Маці памерла, калі я яшчэ маленькі быў. Бацьку, на сухоты хворага, з завода выкінулі, і мне, падшпарку, прыйшлося заступаць яго месца. Пасля — рэвалюцыя, падполле,— тут ужо не да ласкі было. Пасля работа, закасаўшы рукавы. І калі нарэшце агляну ўся я на сваё асабістае жыццё, дык у мяне тут паўнейшы прарыў, і валасы сівыя на галаве пракідаюцца. Калі гляну я кругом, дык людзі ж упраўляюцца і сацыялізм будаваць, і дзетак гадаваць, і памнажаць адну радасць на другую. Схамянуўся я тады і пачаў да жанчын прыглядацца. Ды, бачу, нічога ў мяне тут не выходзіць. І глядзіць каторая на мяне ласкава, і ўсміхаецца міла, а мне ўсё здаецца, што яна баязліва на мой пусты рукаў паглядае. І не магу я сказаць ёй якраз таго самага патрэбнага, што кажуць жанчыне.

Наталля. Вы ж з Насцяй, здаецца, так здружыліся... Няўжо і тут не ўпэўнены?

Карнейчык. Хто яго ведае. Іншы раз мне здаецца, што яна мяне сапраўды кахае, а другі раз думаю: нашто я ёй? Можа, яна толькі шкадуе мяне як калеку; можа, таму такая добрая са мною, што я з бацькам з яе дружыў?

Н а т а л л я. Вы страшэнна мніцельны і выдумляеце сабе ўсялякія страхі.

К а р н е й ч ы к. Вы праўду кажаце? Знарок, мусіць, каб мяне ўцешыць.

Н а т а л л я. Вядома ж, маленькі! Цешыць я яго буду!

К а р н е й ч ы к. Выходзіць, што і мяне жанчына можа пакахаць?

Н а т а л л я. Дурненькі. Я ж сама вас крышку кахаю.

К а р н е й ч ы к. Вось дзякую вам! Вы так мяне падвесялілі, што вас проста расцалаваць варта за гэта.

Н а т а л л я. Куды вам, баязлівец!

К а р н е й ч ы к. Не дражніце, а то я і давесці магу.

Н а т а л л я. Вы яшчэ не даслужыліся. Вось калі пажэніцеся з Насцяй, тады я сама вас пацалую.

К а р н е й ч ы к *(устае і выцірае губы. На твары радасць, якой ён далей не можа хаваць).* Ну, дык цалуйце ж, калі так!

Н а т а л л я *(недаверліва).* Ужо?!

К а р н е й ч ы к *(упэўнена).* Ужо.

Н а т а л л я *(у захапленні).* Хлус?!

Ад крыку Юрка расплюшчвае вочы і глядзіць на іх.

К а р н е й ч ы к. Чэснае слова!

Н а т а л л я. Ну дык трымайся, галубок! *(Цалуе Карнейчыка ў губы.)*

Ю р к а *(сонным голасам).* Апартуністы няшчасныя... Цалуюцца.

Н а т а л л я. Тсс!

Карнейчык і Наталля бязгучна смяюцца. Юрка дрэмле.

К а р н е й ч ы к *(садзіцца і п'е чай).* Вось яно, каханне, да чаго даводзіць.

Н а т а л л я. А што?

К а р н е й ч ы к. Чай астыў.

Н а т а л л я. Падагрэйце яго сваім гарачым каханнем ды піце моўчкі — самі вінаваты.

К а р н е й ч ы к. Закаханыя, між іншым, заўсёды вельмі многа гавораць. І ўсё пра сябе. Я ж ішоў толькі на хвілінку да вас, запытацца, што ад Антона чуваць. А прыйшоў, дык і не ўспамянуў пра яго.

Н а т а л л я. Ужо дзён дзесяць, як ліста не было.

К а р н е й ч ы к. Яму цяпер там работы ёсць. Чыталі? Яго ж раён на чорную дошку занеслі.

Н а т а л л я. Што вы кажаце? Бедны Антоша. Гэта вельмі дрэнна для яго.

Карнейчык. Добрага тут мала, вядома. Але ж ён хлопец напорысты — злезе.

Наталля. Не ведаю, нешта я за яго баюся. Настрой у яго ў апошнія часы такі дрэнны...

Карнейчык. Там няма калі да настрояў прыслухоўвацца: возьме сябе ў рукі і будзе працаваць.

Наталля. У яго вялікая непрыемнасць.

Карнейчык. А што такое?

Наталля. Ён вам нічога не казаў?

Карнейчык. Не.

Наталля. Цяжка яму гаварыць пра гэта.

Карнейчык. Дзівак! Ад каго ж ён хаваецца?

Наталля. Прыедзе, дык вы з ім пагаварыце. Няхай лепш сам усё раскажа.

Карнейчык. Я яго вазьму ў работу.

Наталля. Я вельмі б рада была, каб вы яму дапамаглі.

Карнейчык *(апранаючыся)*. Хаця... што ў яго можа быць. Пусцяковіна якая-небудзь.

Адчыняюцца дзверы, уваходзіць Лютынскі.

А-а! Вось ён і сам!

Наталля. А мы толькі што цябе ўспаміналі. *(Падыходзіць і цалуе Лютынскага ў шчаку, якую той нехаця падстаўляе. Глянуўшы ў твар.)* Нешта ж ты... кіслы надта.

Лютынскі. А ты салодкага хацела?

Наталля. Я хацела весялейшым цябе сустрэць.

Лютынскі *(вітаючыся з Карнейчыкам)*. Чакай, зараз упрысядкі пайду.

Наталля. А што ж ты думаеш? І пойдзеш. Карнейчык жа жэніцца. Як ты глядзіш на гэта?

Лютынскі. На здароўе, я нічога супроць не маю.

Карнейчык. Усяго толькі?

Наталля. Прывітаў бы хоць. З Насцяю ж жэніцца.

Лютынскі. Таксама не супярэчу. У Насці ёсць усе даныя, каб з ёю жаніцца.

Наталля. Я думала, ты інакшым вернешся, адно ж такая насупа, як і быў.

Карнейчык. Не хочаш вітаць — чорт з табой! Раскажы, як у цябе там на вёсцы справа?

Лютынскі. Як справа, так і злева — кругом дрэнь.

Карнейчык. Нарыхтоўкі ж ты скончыў?

Лютынскі. Мяне скончылі.

Карнейчык. Няўжо адклікалі?

Лютынскі. Яшчэ і як! З усімі атрыбутамі.

Карнейчык. З вымоваю?

Лютынскі. І з папярэджаннем.

Наталля. Антон! Няўжо гэта праўда?

Лютынскі. Так, мая стопрацэнтная. Муж твой апартуніст і кулацкі патурала. Закляймі яго ганьбай, адмяжуйся, пакуль не позна, і вазьмі назад свой пацалунак.

Наталля. Гэтага я і баялася ўвесь час.

Лютынскі. З якога ж гэта часу ты стала баяцца за мяне?

Наталля. А з таго самага... з якога ты ведаеш. У цябе цяпер адно ў галаве.

Лютынскі. Чапуху гародзіш, мілая! Леташні снег успамінаеш, а яго і сёлетняга хапае.

Карнейчык. Што там за снег такі, што нарыхтоўкам мог пашкодзіць?

Лютынскі. Ат, глупства! Ліст ад аднае асобы, які быццам пагражае нашаму сямейнаму шчасцю і супружаскай вернасці.

Карнейчык. Пры чым жа тут нарыхтоўкі?

Лютынскі. А вось зразумей ты бабскую логіку! Выходзіць, што мая галава толькі гэтым і забіта.

Наталля. Што гэта? Выклік? Я і прыняць магу.

Лютынскі. Прымі, калі ласка! Высцебай сама сябе. Адной унтэр-афіцэрскай удавой больш будзе.

Карнейчык. Што вы! Што вы! Таварышы! Тут чалавек жаніцца нарыхтаваўся, а вы перад ім сямейныя сцэны разыгрываеце. Так вы ўсякую ахвоту адбіць можаце.

Лютынскі. А ведаеш што. Можа б, ты мне чаю якога-небудзь прыгатавала? Пакуль чай нагрэецца, ты крыху астынеш, і ўсё добра будзе.

Наталля выходзіць.

Карнейчык. Як жа гэта ты так? Га? А мы тут спадзяваліся на цябе.

Лютынскі. Спадзявацца яно лягчэй, вядома.

Карнейчык. А ў дваццатым годзе... памятаеш? Хіба нам лёгка было?

Лютынскі. Справа не ў гэтым. Скажы ты мне па шчырасці: табе не прыходзіла ў галаву такая думка: а што, калі мы не тое робім, што трэба?

Карнейчык. Хто гэта — мы?

Лютынскі. Не мы з табой, вядома. Я бяру вышэй.

Карнейчык. Прыходзіла.

Лютынскі. Вось бачыш! Значыць, не адзін я такі. Мы толькі баімся ў гэтым прызнацца адзін другому.

Карнейчык. Са мной гэта, ведаеш, калі было? Як нэп абвясцілі. Месца сабе не знаходзіў. Плакаў ад крыўды. «Здрэйфілі,— думаю сабе.— Паспрабавалі, не выходзіць гладка,— і назад. А мне зноў падстаўляй карак пад ярмо. І ніякага табе прасвету». Даходзіла да таго, што білет кідаў на стол.

Лютынскі. А цяпер?

Карнейчык. Цяпер бачу, якім я тады блазнюком быў.

Лютынскі. Страшна бывае, як падумаеш. Мы ж адказваем за нашы ўчынкі перад усім чалавецтвам. Кожны няправільна зроблены намі крок сурова асудзіць гісторыя.

Карнейчык. Якраз таму, што наша партыя нясе адказнасць за лёс усяго чалавецтва, кожны крок яе строга абдуманы, тэарэтычна ўгрунтаваны, цвёрды і ўпэўнены.

Лютынскі. Гэта лёгка так разважаць. Паглядзеў бы ты, што робіцца на вёсцы.

Карнейчык. Я ведаю. Там мы цяпер вядзём заўзяты бой з прыватнай уласнасцю ў апошнім яе прытулку.

Лютынскі. Уласнасць — гэта абстракцыя. Людзі бяруць за горла людзей жывых, якія ўмеюць і плакаць, і прасіць, і на каленях поўзаць, і рукі цалаваць.

Карнейчык. Кажы дакладней: кулакоў жывых мы бяром за горла. Гэтых апошніх і найбольш заядлых рыцараў прыватнай уласнасці.

Лютынскі. Я разумею кулака з ашчэранымі зубамі. Але калі ці быў ён кулаком, ці не быў, а цяпер ходзіць цішэй вады, ніжэй травы, страціў годнасць чалавечую да таго, што са страху лезе ў калыску хавацца,— выбачай, у мяне тады не хапае столькі класавай нянавісці, каб раздушыць яго за які-небудзь пуд хлеба. Хіба ён вінаваты, што яго змалку прывучылі дрыжаць над кожным сваім зернем, над кожным лахманом?

Карнейчык. Выбачай за шчырасць, але мне здаецца, што ў табе самім, недзе ў цёмным кутку твайго нутра, сядзіць яшчэ кусок мужыка. Самага такога закаранелага ўласніка. Пакуль другіх калашмацілі, ён маўчаў ды пасміхваўся, а калі да яго самога прыйшлося, тут ён і запеў лазара. Адгэтуль і жаль да людзей, і трывога за лёс чалавецтва. Можа, адгэтуль і правал на нарыхтоўках.

Лютынскі. Удружыў! Дзякуй табе за камплімент! Мы заўсёды так: скажа чалавек слова шчырае, зараз яму

якім-небудзь жупелам тыц у нос — уласнік, гуманіст, гнілы ліберал. Усякае жывое пачуццё — каханне, дружба, любасць да бацькоў, простае спачуванне чалавеку ў бядзе — бярэцца пад кантроль, асмейваецца як нешта няварта сапраўднага бальшавіка. І ходзіць чалавек, як флюс, з адной гіпертрафіраванай класавай нянавісцю.

Карнейчык. Хлусіш ты, Антон. Гэта ў цябе ад злосці сягоння. Ніколі яшчэ чалавечыя пачуцці не дасягалі такой сілы і велічы, як пачуцці бальшавіка. Ніколі яны не мелі такога водгуку. Нашы пачуцці не абмяжоўваюцца ні спальняй, ні сям'ёй, ні добрым суседствам. Павешаны на Лукішках бядняк-селянін, расстраляны на вуліцах Ведынга рабочы-металіст, лінчаваны ў Амерыцы працоўны негр — хіба яны не браты нам з табой? Хіба мы не сціскаем кулакоў, не калоцімся ад абурэння і гневу на катаў, якія іх замучылі? І наадварот — мая і твая радасць знаходзіць сабе водгук і ў лонданскіх сутарэннях, і на рысавых плантацыях Японіі, і ў рудніках Паўднёвай Аўстраліі.

Лютынскі. Замілаванне цераз акіян — гэта, можа, рэч і нядрэнная, але тут, вакол нас, часамі холад і казённы аптымізм...

Карнейчык. І тут ты паклёп узводзіш на бальшавікоў, а перш за ўсё на сябе і на сваю сям'ю. У цябе ж вунь сын — слаўны малыш. Шкада, што ён не чуе твае гаворкі. Напэўна назваў бы цябе «няшчасным апартуністам». У цябе ёсць жонка — сімпатычная і чулая жанчына, якую ты, мне здаецца, не ўмееш цаніць. Нарэшце, ты ж і мяне крыўдзіш. Няўжо наша з табою дружба ні капелькі цябе не грэе? Я ж пра цябе, чорта, увесь час думаў. Чуць не штодня прыбягаў да Наталлі Міхайлаўны распытвацца.

Лютынскі. Я табе вельмі ўдзячны за твае пачуцці, хоць... людзі і кажуць, што дружба пазнаецца ў няшчасці.

Карнейчык. Не давяраеш? Можа, я ў чым-небудзь вінаваты перад табой? Я сам заўважаю, што ты як быццам перамяніўся.

Лютынскі. Гэта табе так здаецца. Я сказаў наогул пра дружбу.

Карнейчык. Не кажы, ты нешта хаваеш ад мяне. Точыць цябе нейкі чарвяк. Пра гэта і Наталля Міхайлаўна намякала.

Лютынскі. Дурніца яна.

Карнейчык. Гэтым не адбудзеш. Давай лепш сюды твайго чарвячка. Мы яго разам і заморым.

Лютынскі. Палітграматай?

К а р н е й ч ы к. Ты наважыў сёння пакрыўдзіць мяне? Нічога не выйдзе, я не з гняўлівых.

Н а т а л л я ўваходзіць са шклянкай чаю, хлебам і масленіцай.

Л ю т ы н с к і *(беручы шклянку)*. Чапуха! Якія там чарвячкі! Давай лепш чай піць.

К а р н е й ч ы к. Мяне ўжо Наталля Міхайлаўна напаіла.

Н а т а л л я. А мо наліць?

К а р н е й ч ы к. Не хачу я з ім чаю піць. Ён мяне тут і палітграматай і як толькі ні называў. Такі злы, што ўвесь свет гатоў абразіць.

Н а т а л л я. Гэта з ім не навіна.

К а р н е й ч ы к *(збіраючыся адыходзіць)*. Нічога, возьмеш сябе ў рукі, сядзеш зноў на свайго ўлюбёнага канька, на землеўпарадкаванне...

Л ю т ы н с к і. «И уселся на хребет, только задом наперед».

К а р н е й ч ы к. Што? І там няладна?

Л ю т ы н с к і. Я так сабе... Іванушку-дурачка ўспомніў.

К а р н е й ч ы к *(надзеючы галёшы)*. Сімпатычны хлапчына быў.

Л ю т ы н с к і. А на каня ж садзіўся зусім не па палітграмаце.

К а р н е й ч ы к. Ладна, ладна! Чарвячка твайго я ўсё-такі выкалупну! *(Выходзіць.)*

Л ю т ы н с к і *(наўздагон)*. Пакалупай у сябе.

Н а т а л л я. Што гэта за чарвячок?

Л ю т ы н с к і. Той, што мяне точыць. Ты ж сама ў вушы ўвяла. Нешта вельмі цябе страх узяў за мяне.

Н а т а л л я. Баюся, Антоша. За кожны твой крок баюся, быццам ты моцна хворы. Здаецца, вось-вось упадзеш.

Л ю т ы н с к і. Дык ты ж падымеш.

Н а т а л л я. Хто цябе падыме, калі сам не захочаш.

Л ю т ы н с к і. Ну, разам будзем падаць. З мілым, кажуць, у шалашы рай.

Н а т а л л я. А можа, я і не захачу яшчэ падаць з табою.

Л ю т ы н с к і. Ого, якія мы сталі! Што ж, у такім разе... налі мне яшчэ шклянку чаю.

Н а т а л л я глядзіць на яго доўгім дакорлівым поглядам, бярэ шклянку і выходзіць.

З а с л о н а

## АКТ ЧАЦВЁРТЫ

### Карціна чатырнаццатая

Гарадскі сад. Касабуцкі і Зуй ідуць п'яныя, абняўшыся.

Касабуцкі. Ну і гадаўка.
Зуй. Зануда!
Касабуцкі. Ох і скула!
Зуй. Зараза несусветная!
Касабуцкі. Але мы яе спорам. Спорам ці не?
Зуй. Каб я так здароў быў! Толькі — з цябе барыш.
Касабуцкі. Браток! Слова — свята!
Зуй. Значыць, гульнём *(запявае).*

Тпрунды, баба, тпрунды, дзед,
Пабіліся за абед,
Баба дзеда Васіля...

Касабуцкі прытупвае, прабуе скакаць. Абодва хістаюцца ў бакі і шлёпаюцца на лаўку. Здзіўлена глядзяць адзін аднаму ў вочы.

Касабуцкі. Ну й сволачы! На самай дарозе лаўку паставілі.

Зуй. Гэта ўсё нам на злосць.

Касабуцкі. А мы возьмем дый пасядзім.

Зуй. І закурым; вось і халера іх бяры!

Касабуцкі. І трасца ім у бок!

Непаслухмянымі рукамі круцяць цыгаркі і закурваюць.

Паверыш, браток? Жыцця няма ад яе. Надоечы за расцэнкі завяліся. Я — павысіць, а яна — панізіць. А нашы дурні і слухаюць яе. Я — матам, а яна — у заўком. Траха не вышыблі, насілу адбрыкаўся.

Зуй. Ось, мы яе... шыбанём!

Касабуцкі. Будзь другам!

Зуй. Знацца, яе вёска — Асаўцы?

Касабуцкі. А твая Тхароўшчына. І Данілу, бацьку яе, ты знаў. Расстралялі яго, значыцца, не палякі, а чырвоныя. Не забудзешся?

Зуй. Ага!

Касабуцкі. А што не знаюць цябе ў нас — нічога. Ліцейны падумае, што ты з механічнага, а механічны — што з кацельнага. Тысячы ж народу, браток мой! Хіба ж можна ўсіх знаць?

Зуй *(прыкурыўшы).* Пайшлі-паехалі!

Устаюць і, абняўшыся, ідуць далей. Насустрач ім, стараючыся іх абысці, ідзе Лютынскі.

Тпрунды, баба, тпрунды, дзед,
Пабіліся за...

Касабуцкі *(сутыкнуўшыся носам к носу з Лютынскім, прыкладвае растапыраныя пальцы да вуха).* Здрасце, пажалста.

Лютынскі абыходзіць бокам.

Не хочаш — не трэба. Каціся... Ну, ты ведаеш куды.

Лютынскі. Папрашу не хуліганіць!

Касабуцкі. Ах, пшэпрашам, пане Свінтухайла!

Зуй *(знімае шапку і адкланьваецца).* Давідзэння, пане Падсвінацкі!

Зуй і Касабуцкі ідуць далей. Лютынскі садзіцца на лаўку.

Касабуцкі *(раптам спыняецца).* Эх, забыўся сукінаму сыну ў морду даць!

Зуй. І варта было.

Касабуцкі. Дык я вярнуся.

Зуй *(трымае яго за кішэнь).* Пачакай! А я?

Касабуцкі. І ты вярніся.

Зуй. Хадзем лепш да мяне, зробім па чарцы. Мы яму дамо, назад ідучы.

Касабуцкі. Дык ён жа, гад, чакаць не будзе.

Зуй. Пачакае, чорт яго не возьме.

Касабуцкі. Ну, ліха з ім, пайшлі! *(Ідуць зноў, абняўшыся.)*

Зуй. Тпрунды, баба, тпрунды, дзед,
Пабіліся за абед,
Баба дзеда Васіля
Палонікам зацяла.

Касабуцкі тупае ў такт прыпеўкі. Лютынскі-бацька ідзе, апіраючыся палкаю, спыняецца за пяць крокаў ад лаўкі і моўчкі глядзіць на Лютынскага-сына.

Лютынскі-сын. Зноў ты прыйшоў?

Лютынскі-бацька. У цябе быў... Замкнёна... Прытуліцца няма дзе.

Садзіцца на канец лаўкі. Лютынскі-сын адсоўваецца на процілеглы канец. Кожны раз, калі хто праходзіць, яны перапыняюць гутарку і сядзяць, нібы чужыя. Лютынскі-сын нават штосьці насвіствае.

Лютынскі-сын. Не трэба табе да мяне заходзіць. А найлепш зусім нам не сустракацца... пакуль што.

Лютынскі-бацька. Цураешся? Запэцкацца баішся аб кулака?

Лютынскі-сын. Дзіця неразумнае! Ён яшчэ крыўдзіцца! Няўжо ты не разумееш, што можаш так і мне і сабе пашкодзіць?

Лютынскі-бацька *(махнуўшы рукой)*. А-а... Мне ўжо адна трасца.

Лютынскі-сын. Барнатовіч табе нічога не памог? Я пісаў яму.

Лютынскі-бацька. Гэты, што з зямельнага аддзела?

Лютынскі-сын. Але.

Лютынскі-бацька. Дзе бачыў. Самога вычысцілі. Старшыня ж наш і падкусіў яго. І мяне ўспамінаў... Мусіць жа, гаворка была нейкая паміж імі.

Лютынскі-сын *(устрывожана)*. І пра ліст мо гаварылі... на чыстцы?

Лютынскі-бацька. Не чуваць было. Людзі б сказалі, каб што гаварылася.

Лютынскі-сын. Вось і заступіся за цябе...

Лютынскі-бацька. Сам сябе баішся... Божухна-бацюхна! І што гэта робіцца на свеце? І што з гэтага ўсяго будзе?

Лютынскі-сын. Думаеш, я ведаю? Іншы раз мне здаецца, што мы ўвесь свет вядзём за сабою. А як паглядзіш, як гэта ўсё робіцца... Колькі людзей пакутуе...

Лютынскі-бацька. Глумяць людзей, глумяць! І ніхто слова не скажа. За што яны мяне агалечылі? Малатарню меў? Жарабцом народ эксплаціраваў? Дык хіба ж я гвалтам цябе каторага эксплаціраваў? Прасіліся ж: «Дзядзечка, зрабі ласку!» А цяпер за гэту ласку ды мяне за горла? Каб я гэта ведаў, няхай бы яны паздыхалі з жарабцамі, і з кнырамі, і з бугаямі завадскімі. Справіў ты мне, сынок, культурную гаспадарку... Чорту лысаму, а не мне... Высока падняў, ды знізу не падпёр.

Лютынскі-сын. Час тады такі быў.

Лютынскі-бацька. А цяпер час другі, дык няхай гіне бацька? А сам і хвастом накрыўся.

Лютынскі-сын. Я ж табе кажу, што пісаў Барнатовічу. Што я мог яшчэ зрабіць?

Лютынскі-бацька. Пісаў ты... Памагла мне твая пісаніна, як кашаль хваробе. Ты ж такі камуніст... І начальнік, кажуць, не малы, няхай жа ж бы ты тут дзе пагаварыў. Што гэта за парадкі такія?

З глыбіні сцэны выходзяць Карнейчык і Насця. Насця, убачыўшы Лютынскага, хоча пажартаваць, яна паказвае Карнейчыку, што падкрадзецца і закрые Лютынскаму вочы. Падкрадваецца.

Лютынскі-сын. Не слухаюць бо мяне.

Лютынскі-бацька. На чорта ж было ісці ў такую партыю, дзе цябе ніхто не слухае?

Лютынскі-сын. Каб жа мне хто тады сказаў, што гэтак будзе.

Лютынскі-бацька. Ці гэта ж думаў я калі, што на старасць жабраваць давядзецца?

Насця здзіўлена. Яна спыняецца і не ведае, што ёй рабіць.

Лютынскі-сын. Я не дапушчу, каб ты жабраваў. *(Дастае і дае грошы.)* На вось, пакуль што.

Лютынскі-бацька *(хаваючы грошы)*. Эх, здэцца, каб прымеў!.. Няхай бы яно ўсё тут агнём пайшло і я разам!

Лютынскі-сын. Перацярпі. Не ты адзін такі. І прашу цябе: дзеля людзей — ты мне не бацька, а я табе не сын. І табе, і мне лепш будзе.

Лютынскі-бацька *(змеціўшы Насцю)*. Гм! Гм! *(Адварочваецца.)*

Лютынскі-сын. А, Насця! Куды ідзеш?

Лютынскі-бацька ўстае і адыходзіць.

Насця. У кіно ідзём... Хацелі вас запрасіць...

Лютынскі. Добрае запрашэнне! Падкралася, як злодзей.

Падыходзіць Карнейчык.

Насця. З кім гэта вы гаварылі?

Лютынскі. А ты ж, мусіць, чула?

Насця. Чула... Незнарок.

Карнейчык. А хто гэта?

Лютынскі. Бацька мой... раскулачаны. Той чарвячок, які мяне точыць і якім ты так цікавіўся.

Карнейчык. Здаровы рабак! Што ты толькі рабіць з ім будзеш?

Лютынскі. Няправільна раскулачылі.

Карнейчык. А заўтра ж, можа, цябе і чысціць будуць.

Лютынскі. Ты думаеш — трэба сказаць?

Карнейчык. А ты як думаеш?

Лютынскі. Які мне сэнс ганьбіць сябе і якая карысць ад гэтага партыі? Тут — памылка мясцовых органаў. Высветліцца, і ўсё ўладзіцца. А скажу — вычысцяць: чаму раней не сказаў? Пачнуць капацца, чорт ведае чаго навыдумляюць. А па сутнасці — я ж той самы Лютынскі, што і быў, і для партыі магу яшчэ зрабіць нямала.

Карнейчык. Ох ці той, глядзі!

Лютынскі. Не верыш? *(З сарказмам.)* Ну, што ж. Для цябе тут вельмі зручны выпадак паказаць сваю класавую непрымірымасць: лепшага друга не пашкадаваў! Сумленне будзе мучыць? Плюнь на яго. Буржуазныя забабоны... гнілы лібералізм. *(Адыходзіць пакрыўджаны.)*

Карнейчык. Антон! *(Лютынскі абарочваецца.)* А пра бацьку ты ўсё-такі раскажаш.

Лютынскі. Памятаеш, Мікола, як мы з табой развіталіся ў школе?

Карнейчык. Памятаю.

Лютынскі. Дык ведай жа, Святая Барбара, што самы небяспечны для мяне момант гэта цяпер. *(Пайшоў).*

Карнейчык хвіліну глядзіць задуменна яму ўслед.

Карнейчык. Антон! *(Лютынскі не чуе.)* І шкада ж мне цябе, сукінага сына! *(Садзіцца на лаўку і думае.)* Друг гіне, Насця! Што мы з ім рабіць будзем?

Насця *(садзіцца побач з Карнейчыкам).* Давай падумаем. Памагчы яму трэба, калі гэта праўда.

## Карціна пятнаццатая

Зала рабочага клуба. Старшыня праверкома звоніць. У залу ўваходзяць рабочыя; схлупіліся ў дзвярах, з шоргатам садзяцца на крэслы.

Алесь *(уваходзіць і аглядаецца, шукаючы вачыма каго-небудзь знаёмага. Бачыць Насцю, якая гаворыць з Карнейчыкам, і, узрадаваны, накіроўваецца да яе).* А, здарова, шэф!

Насця. Здароў, падшэфны!

Алесь. А я зноў да цябе.

Насця. Упору паспеў: мяне чысцяць якраз,— можаш выступіць і раскрытыкаваць.

Алесь. Ты мне раней слесара дай дні на два.

Насця. Ці варта яшчэ? Пахваліся, як ты там гаспадарыў?

Алесь. А так, як савецкая ўлада кажа. Саплякоў усіх вытурылі, дык цяпер у нас работа ідзе.

Насця. На полі не пагнаіў?

Алесь. Захапіў быў дождж гектараў са два аўса. Дзень лье, другі лье, і канца яму няма. Я, брат, давай шавяліць хлопцаў! Паехалі, мокры забралі, пад стрэхамі парасстаўлялі — так і выратавалі. Цяпер малоцім, ды якраз малатарня папсавалася.

Насця. А хлебанарыхтоўкі як?

Алесь. Гэта-то я даўно выканаў. Смела будзь, без хлеба сядзець не будзеш.

Насця. Тады, мусіць, прыйдзецца табе слесара даць. Заўтра я пастаўлю гэта пытанне на ячэйцы.

Алесь. Пагавары, братка! Вось маладзец будзеш!

Старшыня камісіі *(званіць).* Ну, таварыш Бохан, давай будзем працягваць.

Насця ідзе на сцэну.

Алесь *(наўздагон ёй).* Дзякуюць табе калгаснікі за кавалёў.

Насця. Добра! Пасля пагаворым.

Алесь *(да Карнейчыка).* Лоўкая дзяўчына! Каб мне такую жонку, дык я другой і не хацеў бы.

Карнейчык *(смеючыся).* Пасватайся.

Старшыня камісіі. Хто яшчэ хоча сказаць пра таварышку Бохан?

Уздымаецца рука.

Голас. Дайце мне.

Старшыня. Хваліць будзеш?

Голас. Лаяць няма за што.

Старшыня. І так ужо шмат хвалілі. Баюся, што зусім захваліце: сапсуецца дзяўчына. Калі адмоўнага ніхто нічога не ведае, дык мы спынім выказванні.

Зуй. Пра бацьку яна тут... крыху схлусіла.

Старшыня. Давай, кажы праўду.

Зуй *(выходзіць наперад).* Пра бацьку яна тут сказала... Партызан ён быў, гэта праўда. Ды толькі з якога боку? Сам жа я з суседняй вёскі, Тхароўшчыны. Яе-то не ведаю — малая была, а бацьку яе, Данілу Бохана, добра знаў. Партызаніў ён тады, як Чырвоная Армія з-пад Варшавы адступала. Калі пакапацца ля Воўчай гары, дык і цяпер бы знайшоў косці не аднаго чырвонаармейца, якога ён загубіў.

Насця *(усхвалявана).* Што гэта за чалавек? Што ён вярзе?

Старшыня. Супакойся, не перашкаджай.

Зуй. Дабра армейскага колькі нагроб! З нашай вёскі двух праз яго загінула: палякам выдаў. І расстралялі яго не палякі. Бальшавікі кокнулі, калі зноў вярнуліся. Ударніца яна тут, а на каго працуе — яшчэ невядома. Можа, толькі, каб вочы засланіць сваім ударніцтвам. Сям'я ж яе там, за мяжою. Я думаю, лепш, каб такіх элементаў у партыі не было. *(Ідзе і садзіцца ля дзвярэй.)*

С т а р ш ы н я. Хто яшчэ ведае пра бацьку таварышкі Бохан?

К а р н е й ч ы к. Дайце мне!

С т а р ш ы н я. Ты ёй ці не родным мужам прыходзішся? Няхай хто-небудзь чужы спачатку.

Л ю т ы н с к і. Я магу сказаць.

С т а р ш ы н я. Давайце.

Л ю т ы н с к і выходзіць.

А л е с ь. Во! Той самы!

Старшыня звоніць. Алесь нешта шэпча Карнейчыку, паказваючы на Лютынскага.

Л ю т ы н с к і. Насцю Бохан я ведаю з таго часу, калі ёй было яшчэ гадоў 10—12. Я быў настаўнікам у Асаўцах — гэта яе вёска,— і яна была маёй лепшай вучаніцай. Бацьку яе ведаў і я, і таварыш Карнейчык, які разам з ім партызаніў у часе белапольскай акупацыі. Сама Насця дапамагала партызанам: я не раз пасылаў яе ў лес, калі трэба было перадаць важныя весткі. І гэта хлусня, што бацьку яе расстралялі бальшавікі. Яго закатавалі белапалякі перад самым сваім адступленнем. Мяне тады, праўда, у Асаўцах ужо не было, але таварыш Карнейчык гэта добра ведае. А такога грамадзяніна, які толькі што выступаў, я ў Тхароўшчыне не памятаю, хоць быў там настаўнікам два гады. Затое бачыў яго ўчора ў гарадскім садзе вось з гэтым таварышам... *(Паказвае на Касабуцкага.)*

К а с а б у ц к і. Я яго і знаць не знаю!

Л ю т ы н с к і. Знаеце ці не, гэтага я не ведаю, але вы ішлі ў абнімку абодва п'яныя.

З у й ціпіком выслізнуў за дзверы.

*(Ідучы на месца.)* Цікава было б ведаць, дзе гэты грамадзянін працуе і як яго прозвішча.

С т а р ш ы н я. Ды ён, напэўна, скажа нам сваё прозвішча. Дзе той таварыш?

Г а л а с ы. Няма!

— Змыўся недзе!

— Драла даў!

С т а р ы р а б о ч ы. Я скажу пару слоў.

С т а р ш ы н я. Калі ласка.

С т а р ы р а б о ч ы *(устае)*. Гэта, Касабуцкі, не іначай, твае штучкі. Не дае яна табе ў брыгадзе разгуляцца, як сам хочаш, вось ты і падкопваешся. Ды яшчэ гэтага рыжага аднекуль прывалок. Не іначай з вуліцы: на заводзе такога я нешта не бачыў. Хацелі табе пяро ўставіць

і дарэмна не ўставілі. Пашкадавалі, думалі — паправішся. А ты вунь у які бок папраўляешся! Зловяць цябе, як таго ката паганага, натаўкуць мордаю, а ты зноў за сваё. Ой, глядзі! *(Да камісіі.)* А дзяўчына, я вам скажу, проста золата. На што я спрактыкаванае вока маю, а не заўсёды ўбачу тое, што яна ўбачыць у цэху. Другі і ўбачыць, ды прамаўчыць, а яна зараз жа ў работу бярэ: няма ў яе ні кума, ні свата. Гультаю гэта, вядома, не да густу. *(Сарамліва ўсміхаецца.)* Была раз і ў мяне справа з ёю. Абмішуліўся я, гэта праўда. Ну, яна далікатна, але, бачу, бярэ мяне ў абарот. Я і незалюбіў быў тады: яйцо курыцу вучыць. А потым як раздумаўся — дык чаго ж ты, стары чорт, крыўдзішся, калі дзяўчына праўду кажа? Хацеў ужо і прабачэння папрасіць, дык неяк так яно і засталося. А цяпер скажу: і заўсёды так рабі! Не глядзі, што стары гневаецца. Дрэнна робіць, дык і бяры ў работу. Ён яшчэ больш любіць цябе будзе за гэта. *(Садзіцца.)*

Старшыня. Ну, таварышы, я думаю, справа ясная. Гаварыць больш няма патрэбы.

Галасы. Досыць!

— Усё ясна!

Старшыня. Тваё слова, таварыш Бохан.

Насця. Маё слова кароткае. Тут сказалі, што працавала я нядрэнна. Даю слова працаваць яшчэ лепш. Я абяцаюся не толькі ля станка быць ударніцай, я даю слова актыўна змагацца з нашымі ворагамі, якія перашкаджаюць нам будаваць лепшае жыццё без драпежнікаў і крывасмокаў... і без гэтай поскудзі, якая нядаўна спрабавала тут апаганіць імя майго бацькі, чырвонага партызана Данілы Бохана. *(Пад воплескі ўсяе залы ідзе на месца.)*

Старшыня. Таварыш Лютынскі.

Лютынскі, пакінуўшы капялюш на крэсле, выходзіць на трыбуну.

Лютынскі *(сваё хваляванне стараецца прыкрыць штучнай развязнасцю)*. Нарадзіўся я ў 1894 годзе, у вёсцы Ясяні Слуцкага раёна. У 1914 годзе скончыў настаўніцкую семінарыю і ўскорасці быў узяты ў армію. Служыў увесь час у 38-м запасным батальёне штабным пісарам. Дэмабілізаваўся ў канцы 1917 года. Працаваў настаўнікам тры гады. У 1919 і 1920 годзе прымаў удзел у партызанскім руху, памагаў партызанам. Калі стала крута, перайшоў фронт і падаўся ў Чырвоную Армію. Прымаў удзел у наступленні на Варшаву. Пад Беластокам быў паранены і выбыў са строю. З Чырвонай Арміі дэмабілізаваўся ў 1922 годзе. Зноў два гады працаваў настаўнікам.

Пасля два гады быў загадчыкам райземаддзела. У 1926 годзе паступіў у сельскагаспадарчую акадэмію. Па сканчэнні мяне пакінулі аспірантам. У мінулым годзе накіравалі на работу ў Наркамзем, дзе я працую і цяпер у якасці намесніка наркома. У партыю ўступіў у 1921 годзе. З таго часу па меры маіх сіл стараюся праводзіць у сваёй рабоце генеральную лінію партыі. Памылак вялікіх не меў. Хоць і кажуць, што на памылках мы вучымся, але я лічу, што лепш вучыцца на чужых памылках, чым рабіць свае. А ў гэтым годзе прыйшлося і на сваёй павучыцца. Гэта было зімою, калі партыя паслала мяне ўпаўнаважаным па нарыхтоўках. Я з гэтай задачай не справіўся і атрымаў вымову.

Старшыня *(гледзячы ў картку)*. З папярэджаннем.

Лютынскі. Так, з папярэджаннем... Ну, у першыя часы працы мае ў наркамаце я сустрэўся з вялікімі цяжкасцямі. Перш за ўсё трэба было авалодаць тэхнікай справы, досыць-такі складанай і спецыфічнай. Але ж бальшавікі цяжкасцей не баяцца, калі толькі яны сапраўдныя бальшавікі. Прыйшлося папрацаваць. Часта дня не хапала, прыходзілася ночы прыточваць. Так прыточваць, што глянеш часамі ў акно, а на дварэ ўжо віднее. Ну і сярод працаўнікоў настроі ўсякія былі. Хоць яўных прышчэпаўцаў ужо і не было, а душок гэты ў некаторых яшчэ трымаўся. Некаторымі практыкаваўся метад ціхага сабатажу: а паглядзім, што ён без нас зробіць. Прыйшлося ўдарыць, па кім трэба было. Не абышлося, праўда, і без памылак. Узяць хоць бы справу з Далеўскім. Недагледзеў, прызнаюся. Сам не ткнуў носа, даверыўся спецу, а ён мне чапухі нарабіў. Прыйшлося зняць. Трэ было раней гэта зрабіць, але... лепш позна, чым ніколі. Думаю, што больш такіх памылак у мяне не будзе.

Старшыня. Вы больш пра сябе нічога не скажаце?

Лютынскі. Як быццам усё.

Старшыня. Ну добра... Скажыце, як вы ў галіне планавання змагаецеся з тым шкодніцтвам, якое там было? Скажам, у давядзенні планаў веснавой сяўбы?

Лютынскі. Гэта мая асноўная работа. Я найбольш увагі аддаю цяпер якраз гэтаму сектару.

Старшыня. А вось цяпер у раёнах судзяць за сустрэчныя хлебанарыхтоўкі. Ці не ёсць тут доля і вашай віны?

Лютынскі. Калі і ёсць, дык самая нязначная. Ужо адзін той факт, што судзяць не мяне, а іх, сведчыць аб тым, што вінаваты-такі яны.

1-шы член камісіі. Як вы думаеце: па тых планах, якія ваш планавы сектар спускаў у гэтым годзе ў шмат якія раёны, можна правільна будаваць сацыялістычную гаспадарку?

Лютынскі. Хто ўмее, таму можна. Ёсць у нас у некаторых раёнах такія работнічкі, што ім ніякія планы не памогуць.

Старшыня. Дык вы так-такі і ні пры чым?

Лютынскі. Я не кажу. Былі памылкі і ў планавым сектары. Таму ж я і ўзяўся за яго цяпер.

Старшыня. У каго яшчэ будуць пытанні?

Голас. Вы казалі, што памагалі партызанам? Як вы ім памагалі?

Лютынскі. Памагаў, чым мог. Пасылаў весткі аб тым, дзе белапалякі паварочваюцца, папярэджваў, калі пагражала небяспека. З падпольнымі работнікамі быў звязаны — распаўсюджваў літаратуру. Ну, і яшчэ... была дапамога. Пра маю работу добра ведае таварыш Карнейчык. Я думаю, ён дапоўніць, калі я што-небудзь прапусціў.

Голас. Што вы рабілі з васемнаццатага па дваццаты год, пакуль не пайшлі ў Чырвоную Армію?

Лютынскі. Я ж казаў: працаваў у школе, выхоўваў маладое пакаленне. І вам адну ўдарніцу выхаваў. Насця Бохан — гэта мая былая вучаніца.

Насця. Вы, таварыш Лютынскі, пра сваіх бацькоў нічога не сказалі.

Лютынскі. Ты ж, здаецца, ведаеш пра маіх бацькоў?

Насця. Другія не ведаюць.

Старшыня. Праўда, вы чамусьці забыліся сказаць пра гэта.

Лютынскі. Бацька мой селянін... серадняк. Да рэвалюцыі гнуўся на чатырох дзесяцінах. Меў каняжыну сякую-такую. Карова калі была, калі не. Савецкая ўлада прыбавіла яму крыху зямлі. Тады стала лягчэй.

Стары рабочы. Дзе жывуць бацькі цяпер і што яны робяць?

Лютынскі. Жывуць там, дзе і жылі. А што робяць?.. Спяць, напэўна: ужо дванаццатая гадзіна.

Старшыня. Жарты вашы тут зусім недарэчы. Адказвайце сур'ёзна!

Лютынскі. Што ж робяць? Аруць, сеюць, сена косяць.

Голас. У калгасе бацька?

Лютынскі. Тры гады як уступіў.

Голас. Можа, заможным стаў ужо?

Лютынскі. Не ведаю, даўно не бачыўся.

Голас. Лісты ж, можа, піша?

Лютынскі. Непісьменны ён.

Старшыня. А вы?

Лютынскі. Я пісьменны, вядома, але ў мяне столькі ўсялякай работы, што і на роднага бацьку забудзешся.

Старшыня. Пытанняў больш няма? Хто хоча выказацца?

Напорка. Дайце мне.

Старшыня. Калі ласка.

Напорка. Я таварыша Лютынскага крыху ведаю, бо працую з ім у адной установе. Таварыш Лютынскі пра Далеўскага тут выказаўся так, што гэта, бачыце, «і я не я, і кабыла не мая». А кабыла-то якраз ваша, таварыш Лютынскі, якраз землеўпарадкаванне было вашым улюбёным каньком. Вы памятаеце, як я вас яшчэ папярэджваў? Я казаў, што трэба праверыць, ці не хаваецца за гэтымі клеткамі якое-небудзь шкодніцтва. Вы мне што тады сказалі? Вы сказалі, што я сцецаедствам займаюся, і параілі лепш вывучыць гэту справу і прасякнуцца да Далеўскага належнаю павагаю. Вы мне моцна тады параілі, і таксама моцна абяцаў я вам вывучыць гэту справу. Сягоння я гэта сваё абяцанне выканаў. Таварыш Лютынскі тут лёганька адмахнуўся ад гэтай справы, сказаўшы, што Далеўскі нарабіў чапухі і ён, Лютынскі, яго зняў. Зняты быў Далеўскі, між іншым, пад напорам, калі ўжо выкрыты быў як шкоднік. Можа, таварыш Лютынскі і не ведаў, што Далеўскі шкоднік, што ён працаваў з разлікам на інтэрвенцыю. Але такая слепата і тое, што Лютынскі так горача заступаўся за Далеўскага, шмат аб чым гаворыць. Таварыш Лютынскі казаў, што ён змагаўся з прышчэпаўшчынай, а на самай справе пад выглядам гэтага змагання звальняў з працы лепшых работнікаў.

Лютынскі. Каго, напрыклад?

Напорка. Напрыклад, Прахарэню, які асмельваўся крытыкаваць вашу работу. А сапраўднай самакрытыкі ад таварыша Лютынскага мы яшчэ не чулі. Хацелася б пачуць яе хоць у канцы. *(Ідзе на месца.)*

Старшыня *(трымаючы запіску)*. Слова мае таварыш Мандрыкін.

Мандрыкін *(выходзіць)*. «Ум человеческий ловок и гибок»,— сказаў адзін вядомы паэт. І гэта ён пра вас сказаў, таварыш Напорка! Пра ваша выступленне. Спрытны вы чалавек, таварыш Напорка! Сам быў на паслугах

у Далеўскага, сам наразаў гэтыя самыя клеткі, а цяпер, калі прыйшлося, што самога зараз возьмуць за шкірку, «он украдкою кивает на Петра», гэта значыць на Антона Мітрафанавіча. Адным стрэлам хоча трох зайцаў забіць: каб і самому выйсці сухім з вады, і нялюбага яму чалавека ўтапіць, і яшчэ нажыць сякі-такі капітал.

Старшыня. Гаварыце пра Лютынскага, а не пра Напорку.

Мандрыкін. Вось жа і я хачу сказаць, што Антон Мітрафанавіч тут ні пры чым. Чалавек новы, толькі што да нас застаўся, нікога не ведаў. А ліха вас ведае, каторы з вас шкоднік! Чаму абавязкова Далеўскі, а чаму не Напорка? Хіба табе, катораму, у душу залезеш? А што паміж Напоркам і Лютынскім скрозь былі нелады, дык гэта ж усім вядома. І што сягоння Напорка скарыстаў трыбуну чысткі, каб скампраметаваць Лютынскага, гэта таксама ясна. Шкодніцтва прышпіліў, контррэвалюцыю, інтэрвенцыю, інфлюэнцыю... Такіх дзівосаў наплёў, як у той казцы:

У лукоморья дуб зеленый,
Златая цепь на дубе том.
И днем и ночью кот ученый
Все ходит по цепи кругом;
Идет направо — песнь заводит,
Налево — сказку говорит...

Так і Напорка: ішоў направа — заводзіў песню разам з Далеўскім, а сягоння ідзе налева — і расказвае нам казкі пра інтэрвенцыю. А між тым не заўважыў, што з гэтых казак тарчаць яго ўласныя вушы. Выходзіць, таварыш Напорка, што самі вы даўно прымірыліся з думкай пра інтэрвенцыю. Вы не верыце ў абараназдольнасць нашай краіны і ў сілу нашай слаўнай Чырвонай Арміі. Вы не верыце ў тое, што ўсе працоўныя як адзін стануць са зброяй у руках на абарону сваёй вялікай Бацькаўшчыны. Вы ўжо і пагадзіліся з тым, што прыйдуць і забяруць і кулакоў насаджаюць, і маёнткі панам аддадуць. Вось як чалавек часамі можа выдаць самыя патаемныя свае думкі і надзеі!

Старшыня *(звоніць)*. Яшчэ раз напамінаю вам, што чыстку праходзіць Лютынскі.

Мандрыкін. Ага, добра... Антона Мітрафанавіча я ведаю не так даўно, з таго часу, як ён у нашым наркамаце працуе, але ведаю добра. Антон Мітрафанавіч надзвычайна добры працаўнік. Парадак любіць, аўтарытэтам

карыстаецца і справу ведае. Як толькі ён прыйшоў яшчэ першы раз ва ўстанову, я адразу падумаў — во, гэта гаспадар! Разам з тым Антон Мітрафанавіч і найлепшы чалавек. Ён і пагаворыць, і пажартуе, і нікога не пакрыўдзіць. Напорка тут крыўдзіўся, што Антон Мітрафанавіч Прахарэню звольніў. Вядома, таварышу Напорку крыўда вялікая, бо гэтыя ж захаваны прышчэпавец быў яго блізкім сябрам.

Старшыня. Я вас прасіў больш пра Напорку не гаварыць.

Мандрыкін. Выбачайце... Ну, Антону Мітрафанавічу рабілі яшчэ закід у тым, што ў галіне планавання не ўсё гладка. Дык тут, таварышы, у палажэнне трэба ўвайсці. Не заўсёды гэта, бачыце, удаецца, каб, як напісаў у плане, так яно і выйшла ў сапраўднасці. Неяк раз мы з Антонам Мітрафанавічам гаварылі пра гэта. Прынёс я да яго план падпісваць па свінагадоўлі. І ўсё ў мяне так гладка па клетачках распісана: столькі вось свінаматак, кожная апаросіцца два разы, кожны раз — дзесяцера парасят. А ўсяго за год столькі вось. Антон Мітрафанавіч падпісаў дый смяецца: «А што ты, кажа, ёй зробіш, калі яна не дзесяцера, а чацвёра прывядзе?» Я падумаў — і праўда: хіба ёй загадаеш? А калі яна толькі раз апаросіцца, а другі раз не захоча? Вось табе твой план і лопнуў. Пры чым жа тут тады таварыш Лютынскі? Я, вядома, не супроць плана. Усюды план, няхай і ў нас будзе план. Але ж тут, я кажу, у палажэнне трэба ўвайсці... *(Сыходзіць з трыбуны.)* Я за тое, каб Антона Мітрафанавіча ў партыі пакінуць.

Карнейчык. Дайце мне слова.

Старшыня. Давай.

Карнейчык *(выходзіць)*. Я, таварышы, ведаю Лютынскага не цяпер. Мы з ім пазналіся і падружыліся яшчэ ў дваццатым годзе. Тады ён быў вясковым настаўнікам і шчырым хлопцам. Раз мы з ім былі абняліся так шчыра, што на нашым целе пазаставаліся сінякі ад пальцаў. Гэта было тады, калі мне адрэзалі вось гэту руку, якой у мяне няма. Тады, ратуючы мяне ад белапалякаў, Лютынскі сам зблізку глянуў у вочы смерці і не спалохаўся яе. А калі гэта смерць падступілася да самага парога, ён перабраўся цераз фронт і падаўся ў Чырвоную Армію. Тады, развітваючыся, я даў яму партызанскае слова, што ў самы небяспечны для яго момант буду з ім і не пакіну яго, хоць бы мне самому гразіла смерць.

Так вырасла наша дружба, таварышы. Я гэту дружбу трынаццаць год насіў у сваіх грудзях, не растраціўшы ні каплі. І вось сягоння, калі гэты небяспечны момант для Лютынскага настаў, я не выступаю і не ратую яго. Я не стрымаў свайго партызанскага слова. Я здрадзіў Лютынскаму! Як жа гэта выйшла, таварышы, што я стаў здраднікам? Да гэтага я дайшоў праз доўгія і пакутныя развагі, праз бяссонныя ночы. Я стаў філосафам. Я не мог заснуць, я ляжаў з расплюшчанымі вачыма і думаў пра дружбу. Што такое дружба? Ці ёсць яна вечная, пра якую я чытаў некалі ў раманах? На чым яна трымаецца? Ці маю я маральнае права пераступіць цераз нашу дружбу з Лютынскім? Мне ўспаміналася наша размова з таварышам Нодэльманам, калі мы прыйшлі да вываду, што дружба трымаецца на супольнасці класавых інтарэсаў. Але, калі я пачынаў думаць пра нашу дружбу з Лютынскім, усё выходзіла так, што ён выратаваў мяне ад смерці, а я за гэта павінен яго ўтапіць. Балюча мне было ад гэтай думкі, а адагнаць яе не было чым. І вот, калі, можа, дваццаты раз я пачаў думаць зноў пра нашу дружбу, перад вачыма ў мяне стала тая абстаноўка, у якой гэта дружба пачыналася. Ляжаў я тады ў кладоўцы з параненай рукой. І мне вельмі шкада было рукі мае. Не хацелася маладому хлопцу калекаю заставацца. І жах мяне апаноўваў, калі я думаў пра тое, які страшэнны боль прыйдзецца мне выцерпець. І, нягледзячы на гэта, я даў адрэзаць сабе руку. Я нават сам прасіў, каб яе хутчэй адрэзалі, бо ў ёй пачалася гангрэна, якая пагражала ўсяму арганізму... Я цяпер усвядоміў, што і з Лютынскім сталася тое самае, што было з маёй рукой. Што вывад мне прыйдзецца рабіць такі ж самы. Засталося толькі яшчэ пераканацца, што друг мой згніў дашчэнту і няма ніякай надзеі выратаваць яго. Я стаў больш прыглядацца да яго і правяраць факты. І вось перш за ўсё выявілася, што і дружбы ніякай у нас даўно няма. Што няма яе перш за ўсё з боку Лютынскага.

Лютынскі. А змагаўся я хіба не разам з табой?

Карнейчык. Змагаліся мы супроць нашага супольнага ворага, але змагаліся, выходзіць, не за адну справу. Ты змагаўся за тое, каб прагнаць пана і даць поўную волю і выгаду расці кулаку. Я тады не ўмеў заглянуць табе глыбока ў душу і не заўважыў, што недзе ў самым цёмным кутку яе сядзіць маленькая, але прагавітая звярушка. Я не бачыў у табе закаранелага ўласніка. Ты пайшоў у Чырвоную Армію, а звярушка грэлася ў цябе пад шынялём. Ты

ўступіў у партыю і прыкрыў звярушку партыйным білетам. Гэта звярушка была прычынай, што ты не аддаўся ўвесь рэвалюцыі, а прымасціўся толькі ў яе на запятках, каб саскочыць на першым павароце. І гэтым паваротам быў нэп. Тут звярушка вылезла на свет божы, знайшла сабе спажыву, пачала расці і тлусцець. Яе бліскучую шэрсць пагладжвала рука Прышчэпава. А сам ты, з яго благаславення, старанна ўзяўся за хутарызацыю, пачаў будаваць катухі для гэтых звярушак. Але хутка павеяў свежы вецер, звярушка счула небяспеку і прытаілася. Тут бы табе з ёю развітацца, але ты не адумаўся, не вытруціў звярушкі з свайго нутра, і яна цябе з'ела як камуніста.

Лютынскі *(абураны)*. Гэта дэмагогія!

Карнейчык. Фактаў хочаш? Фактаў у мяне хопіць. Ты захапіўся землеўпарадкаваннем, хваліўся, што ўсім рэспублікам нос уватрэш. А што з гэтага выйшла? Контррэвалюцыянер скарыстаў тваю палітычную слепату, а сляпым цябе зрабіла звярушка. Зімою ў часе хлебанарыхтовак ты ўціраў слёзы кулаку. Сам пачаў хныкаць разам з ім і наракаць, што партыя няправільна робіць, ліквідуючы кулацтва. Кулацкая скарга табе так засланіла вушы і вочы, што ты не чуеш стогнаў працоўных у фашыстоўскіх турмах, ты не бачыш, што дзесяткі мільёнаў беспрацоўных заходзяцца з голаду і замярзаюць на вуліцах шыкарных еўрапейскіх сталіц. Ты сваімі ўчынкамі аддаляеш іх паратунак. Ты не здолеў перарваць пупавіны, што звязала цябе з тваім бацькам-кулаком, якому, між іншым, сам дапамог акулачыцца. Ты ж потым дапамог яму пралезці ў калгас і схавацца там ад раскулачвання. А калі яго нарэшце ўсё ж такі раскулачылі, у цябе не хапіла адвагі расказаць пра гэта партыі. Ты нават ад мяне стаіўся, ад свайго друга! Дзён дзесяць таму назад, калі я ўбачыў цябе з бацькам на скверы, ты стараўся ўпэўніць, што бацьку твайго раскулачылі няправільна. Але на гэты раз я табе не паверыў. Мы з таварышам Нодэльманам праверылі гэту справу. Бацьку твайго раскулачылі год таму назад, і раскулачылі правільна. А ты стаў абараняць яго ад савецкай улады. Напісаў свайму сябру, загадчыку райзямаддзела Барнатовічу, цэлую інструкцыю аб тым, як прыбраць з пасады старшыню сельсавета і вярнуць бацьку маёмасць. Ты абвясціў вайну савецкай уладзе. Хто ж з нас двух здраднік? *(Да аўдыторыі.)* Лютынскі, таварышы, здрадзіў не толькі мне, ён здрадзіў усім вам, ён здрадзіў усяму рабочаму класу і яго партыі. *(Да Лютынскага.)* А як жа мне агідна было слухаць тваю хлусню, калі ў цябе

запыталіся пра бацьку! Як вуж, ты выкручваўся. Нахабна лгаў, думаў, што я і Насця падтрымаем цябе. Ты паспадзяваўся на нашу дружбу. Думаў, што гэта досыць моцная прывязка, каб пацягнуць і мяне ў балота разам з сабою. Не, дружок! Парвалася прывязка, і каціся ў балота ты адзін. Раскусіў я цябе, друг! Раскусіў і — выплюнуў. Не хацеў ты ісці ў радах слаўных, дагнівай на сметніку разам з пазадкамі. І казак пра цябе не раскажуць, і песень пра цябе не спяюць. І ў партыі табе, грамадзянін Лютынскі, даўно не месца. *(Ідзе на месца.)*

Н а т а л л я *(устае).* Вот і ўпаў ты, Антон Мітрафанавіч! Так упаў, што ні сам не ўстанеш, ні я цябе не падыму. А падавала я табе руку, прасіла — падумай, ці добра ты робіш? Слова выгаварыць не даў, накрычаў, злаяў. І мяне з толку збіў, і сам сябе ўпэўніў, што бацька не кулак. Я ганарылася табою, што ты такі выдатны і карысны для савецкай улады работнік. Ты ж героем быў у маіх вачах. Я думала, што на фронце ты змагаўся за нашу справу. А цяпер... што я чую! Сын вось сядзіць, плача... Пытаецца, чаму дзядзька Карнейчык на тату сварыцца. Што я яму скажу? Што ты кулакоў абараняў ад савецкай улады? Што ты яму скажаш? Ці асмелішся ты глянуць яму ў вочы? А што ён пра цябе скажа, як падрасце? Як жа мы з табой цяпер жыць будзем? Эх!.. Адабраў ты ў мяне мужа-камуніста, грамадзянін Лютынскі! *(Садзіцца.)*

Калі Наталля пачынае гаварыць, Лютынскі ўстае, хвіліну глядзіць на яе, не бачачы, пакідае трыбуну, без капелюша, са скамянелым тварам ідзе паміж радамі крэслаў да дзвярэй. Яго праводзяць варожыя погляды напружана заціхшай залы. Калі Лютынскі параўноўваецца з крэслам Юркі, той хапае яго за крысо і з баязлівай надзеяй заглядае ў скамянелы твар.

Ю р к а. Бацька! Праўда, ты не абараняў кулакоў?

Лютынскі ні словам, ні рухам яму не адказвае і ідзе далей. Юрка хвіліну намагаецца ўтрымаць яго крысо, але не здужае і валіцца з крэсла.

С т а р ш ы н я *(устаўшы).* Вораг не вытрымаў, збег. Я думаю, што плакаць па ім мы не будзем.

Апладысменты перапыняюць яго прамову.

К а н е ц

*1933*

# ПАРТЫЗАНЫ

*П'еса ў чатырох актах,*
*дзевяці карцінах*

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

Даніла — начальнік партызанскага атрада.
Данілава маці.
Марылька — Данілава сястра, 14 год.
Рыгор — Данілаў сябар.
Дзед Бадыль.
Настуля — яго ўнучка, 20 год.
Батура — паляк, бежанец, 40 год, гаворыць з акцэнтам.
Тадора Куксёнак.
Кастусь — малады партызан.
Халімон, Міхаль, Антон — партызаны.
Скіба — падпольны работнік, ваенком дывізіі.
Начдыў.
Кулагін — камандзір палка.
Пані Яндрыхоўская — памешчыца.
Пан Яндрыхоўскі — яе сын, начальнік павета.
Маргун — кулак.
Кацярына — яго дачка, Рыгорава каханая.
Шмігельскі — шляхціц, Кацярынін жаніх.
Ксёндз.
Сяржант.
Пасыльны.
Жанчына з клункам.
Хлопцы, дзяўчаты, партызаны, жаўнеры.

## АКТ ПЕРШЫ

### Карціна першая

Дзея адбываецца ў часы белапольскай акупацыі ў БССР. Вясковая вуліца. На прызбе свае хаты, самай крайняй у вёсцы, сядзіць Рыгор. Побач стаіць Даніла, прыкурвае ад Рыгоравай папяросы.

Даніла *(праводзіць вачыма Маргуна, які праходзіць па вуліцы).* Задраў нос і дзень добры не скажа.

Рыгор. Перамену чуе.

Даніла. А быў жа такі мякенькі, хоць ты яго да раны прыкладай!

Рыгор. Гарматы цэлую ноч гулі недзе. На начлезе я быў; як ляжаш ды прыложыш вуха да зямлі, дык аж страшна.

Даніла. Няўжо такі нашы не ўтрымаюцца?

Рыгор. Цяжка — босым ды галодным. Палякаў дык француз, кажуць, корміць і адзявае.

Даніла. Шкада пакідаць матку з Марылькай, а, мусіць, прыйдзецца.

Маргун *(углядаецца некуды далёка, потым гукае).* Каця! *(Махае рукой да сябе.)*

Рыгор. Табе-то нельга аставацца, калі што якое. Як даведаюцца, што камітэтчыкам быў...

Даніла. А ты — смел?

Рыгор. Да мяне не прычэпяцца, я нікуды вельмі не ўмешваўся.

Даніла. Зямлю панскую араў?

Рыгор. Я ж не сам яе браў.

Даніла. Ты хочаш сказаць, што твая хата з краю?

Рыгор. З краю не з краю, але ўсё ж мне зацішней, як табе.

Даніла. Думаеш у зацішку прасядзець?

Рыгор. Кажуць, што і палякі зямлю будуць даваць.

Даніла. Тры аршыны... Гэта, мусіць, цесць твой казаў табе? *(Ківае на Маргуна, які ідзе назад.)*

**Р ы г о р.** Які ж ён мой цесць? Ён мяне на ражне бачыў бы. Я табе як найлепшаму сябру, а ты кпінкі строіш.

**Д а н і л а.** А хто цябе ведае, ты ж круцішся з ёю.

**Р ы г о р.** Яна ўсё круціць. Сяджу вось і пільную, хачу пагаварыць. Няхай бы сказала ўжо альбо гэта, альбо тое.

**Д а н і л а.** Укляпаўся чорт ведае ў што. Людзі свет пераварочваюць, а яму бабская спадніца ўсё засланіла.

**Р ы г о р.** Паспагадаў бы, дык ён яшчэ лаецца.

**Д а н і л а.** І буду лаяцца, бо мне злосць. Каб я цябе не ведаў, а то разам жа гадаваліся. Быў хлопец як хлопец, а тут чорт ведае што...

**Р ы г о р.** Што ж я дрэннае раблю? Люблю дзяўчыну, хачу з ёй пажаніцца, хачу зямлі кусочак, каб было на чым з ёю жыць спакойна і шчасліва. Хіба гэта грэх вялікі? Крыўды ж я нічые на хачу.

**Д а н і л а.** Зямлі кусочак! Далі ж табе зямлю, толькі яе абараняць трэба. Пажыць хочаш спакойна ды шчасліва? Гэта за панамі? А ў парабкі да пана ты не ласкаў? А ў салдаты — галаву палажыць за таўстапузых — ты не ласкаў?.. І гэта каханая твая паглядзіць на цябе, галетніка, ды нос адверне. Яна толькі забаўляецца з табою, як кошка з жабай,— гадка з'есці і шкада кінуць.

**Р ы г о р.** Ціха, братка, вунь яна ідзе.

**Д а н і л а** *(махае рукой).* Прапаў чалавек. *(Адыходзіць.)*

**Р ы г о р.** Можа, яшчэ і не прапаў, дарэмна ты мяне адпяваеш. *(Адзін.)* Як кошка з жабай... Выходзіць, што я — жаба. Трэба з ёй сур'ёзна пагаварыць. Калі я — жаба, дык пайшла яна к чорту!

Ідзе **К а ц я р ы н а.** Яна хоча прайсці міма, нібыта не заўважаючы Рыгора.

Дзень добры, Каця! І прывітацца ўжо не хочаш.

**К а ц я р ы н а.** Я задумалася ды не бачу.

**Р ы г о р.** Пра што ж ты задумалася?

**К а ц я р ы н а.** Пра гусей думаю. Хаця б яны ў шкоду не ўлезлі.

**Р ы г о р.** Можа, пра гусака пра якога?

**К а ц я р ы н а.** І пра гусака. Без гусака і гусь прапашчая.

**Р ы г о р.** То сядзь, пасядзі крыху, пагаворым. *(Устае, бярэ яе за руку і садзіць на прызбу.)*

**К а ц я р ы н а.** Бацька гукаў.

**Р ы г о р.** Вытрывае.

**К а ц я р ы н а.** Скажуць людзі — сама да хлопца прыйшла.

Р ы г о р. Ніхто і не бачыць, з вуліцы не відаць.

К а ц я р ы н а. Дык што ты мне скажаш?

Р ы г о р *(бярэ яе за руку і перабірае пальцы).* Люблю я цябе вельмі.

К а ц я р ы н а *(смяецца).* Я гэта ўжо ведаю.

Р ы г о р. Жыць без цябе не магу.

К а ц я р ы н а. Ты яшчэ зімой гэта казаў і ўсё жывеш.

Р ы г о р. Табе жартачкі, а я, можа, і не жыў бы, каб не спадзяваўся.

К а ц я р ы н а. Што ж зрабіць, каб ты жыў?

Р ы г о р. Я табе казаў ужо.

К а ц я р ы н а. Куды ж ты мяне прывядзеш? У гэты хлевушок? *(Паказвае на хату.)*

Р ы г о р. Жыву ж я тут з маткаю.

К а ц я р ы н а. Дык ты век лепшага не бачыў.

Р ы г о р. Абжывёмся. Некалі новую паставім.

К а ц я р ы н а. На чым жа гэта ты абжывешся? На дзвюх дзесяцінах?

Р ы г о р. Калі бальшавікі ўтрымаюцца, то і зямля будзе.

К а ц я р ы н а. Утрымаюцца... Чакай Пятра, сыр з'ясі.

Р ы г о р. Не буду ж я галетнікам цэлы век.

К а ц я р ы н а. Хто гэта ведае, што некалі будзе. А цяпер — сёння свята вось, а ты босы сядзіш, абуцца няма ў што. Порткі палатаныя.

Р ы г о р. Табе порткі важней за чалавека.

К а ц я р ы н а. Усё добра, калі яно адно да другога. Падумай жа ты сам: прыйдзе гадавое свята, паз'язджаецца бацькава радня да яго ў госці — у брычках, на стаенніках, самі разадзетыя. А ты прыйдзеш — вахлак вахлаком. І за стол з табою сорам будзе сесці.

Р ы г о р. Багатага будзеш шукаць?

К а ц я р ы н а. Хачу знайсці такога, каб ён мне падабаўся гэтак, як ты, і каб быў багаты, ну... хаця як Шмігельскі.

Р ы г о р. Я-то яшчэ багатым магу быць, а Шмігельскі прыгожым — трасцу з хваробаю.

К а ц я р ы н а. Як жа ты можаш быць?

Р ы г о р. Я яшчэ не ведаю... зарэзаць хіба каго... Вернуцца паны, зарэжу якога-небудзь тысячніка...

К а ц я р ы н а. Тады цябе з магілай пажэняць.

Р ы г о р *(трацячы цярплівасць).* Дык чаго ж ты ад мяне хочаш?

К а ц я р ы н а. Нічога я ад цябе не хачу. Гэта ж ты ад мяне хочаш.

**Рыгор.** Чаго ты мучыш мяне?! Не любіш, дык не дражніся, скажы проста. Нечага ўжо — адзін канец.

**Кацярына.** Чаго б я з табойваждалася, каб не любіла. Можа, гэта мае першыя і апошнія любошчы. Невядома, з кім жыць прыйдзецца.

**Рыгор.** Людзі праўды шукаюць, людзі свет пераварочваюць, а я хаджу, як tручаны таракан. Ты мне свет засланіла. Праз цябе я нічога не бачу.

**Кацярына** *(пакрыўджаная)*. Засланіла? Дык я магу адсланіць. *(Парываецца ісці.)*

*Рыгор (хапае Кацярыну за руку)*. Чакай, Каця! Даруй, я сам не ў сабе. Іншы раз такая злосць падшыбае, што я гатоў смерць зрабіць.

**Кацярына.** Каму?

**Рыгор.** Табе альбо сабе.

Падыходзіць **Скіба** з вінтоўкай, у моцна паношаным летнім чырвонаармейскім абмундзіраванні.

**Скіба.** Полк тут даўно прайшоў?

**Рыгор.** Ніякі полк тут не праходзіў. Мы не бачылі.

**Скіба.** То гэта я не на тую дарогу трапіў, мусіць? *(Здымае шапку і выцірае пот рукавом гімнасцёркі.)* Кваску б глынуць, у роце перасохла.

**Рыгор** *(устае)*. Зараз прынясу.

**Скіба.** І хлеба кусочак... за адным махам.

**Рыгор** ідзе ў хату.

*(Стомлены, садзіцца на прызбу і ставіць каля сябе вінтоўку.)* Шукай яго цяпер.

**Кацярына.** Што?

**Скіба.** Я кажу — полк... Два дні цяпер будзеш шукаць.

**Кацярына.** А як жа гэта вы?..

**Скіба.** У лесе, у дазоры быў... Сарокін, чорт, падвёў.

**Маргуноў голас.** Каця!

**Кацярына.** Чаго?

**Маргун** *(з'яўляецца)*. Што ты тут робіш? Калі-та зваў... У печы выгарала.

**Кацярына.** Я тут затрымалася... Салдат дарогі пытае. *(Адыходзіць.)*

**Маргун.** Якой яму дарогі?

**Скіба.** Полк даганяю. Не бачылі, не праходзіў тут?

**Маргун.** Які полк?

**Скіба.** Абы-які... Часць якая-небудзь не праходзіла?

**Маргун.** Дома ўжо твой полк.

С к і б а. Як дома?

М а р г у н. Бачыў я на бальшаку... адвячоркам учора. Без стрэльбаў. «Куды вы?» — пытаюся. «Годзе,— кажуць,— наваяваліся! Дома жонкі з дзецьмі без хлеба сядзяць».

С к і б а. Гэта не нашы, відаць.

М а р г у н. Вашы... Прыйдзеш дадому, якраз іх застанеш.

Скіба маўчыць.

А гэту замінку мне пакінь. *(Паказвае на вінтоўку.)* Лягчэй ісці будзе... Я фунты два сала дам на дарогу.

С к і б а. Нашто яна табе?

М а р г у н. Зайцоў пужаць... каб саду не псавалі.

С к і б а. Гэта не на зайцоў.

М а р г у н. Нічога, добра будзе.

С к і б а. Гэта на свалачэй.

М а р г у н *(нібы гэта не пра яго сказана).* Яна, мусіць жа, і не вельмі цяжкая. *(Працягвае руку да вінтоўкі.)*

С к і б а. Ну, ну!.. *(Бярэ вінтоўку.)* Яна кусаецца.

М а р г у н *(ступае крок назад).* Я паглядзець толькі.

Р ы г о р выносіць кубак квасу і кавалак хлеба і дае Скібу. Скіба прагна п'е, потым бярэцца за хлеб.

Г а л а с ы. Ён сюды ішоў.

З'яўляюцца: Д а н і л а, я г о м а ц і, Х а л і м о н, Т а д о р а, д з е д Б а д ы л ь, Б а т у р а, вымазаны ў гліну, з кельняй у руцэ.

Д а н і л а. Добры дзень, таварыш.

С к і б а. Добры дзень.

Д а н і л а. Можа, за якою патрэбаю да нас?

С к і б а. Полк даганяю.

М а р г у н. Дэзерцір, відаць.

С к і б а. Яшчэ што выдумаў! Сам птушка добрая.

Д а н і л а. А дакументы ёсць?

С к і б а. А ты хто такі будзеш?

Д з е д Б а д ы л ь. Гэта наша савецкая ўлада... камітэт.

Скіба дастае з кішэні дакументы, загорнутыя ў брудную насоўку, і дае Данілу. Даніла разглядае дакументы, іншыя моўчкі глядзяць, як Скіба есць хлеб.

Д а н і л а в а м а ц і. Небарака, сухі хлеб есць.

С к і б а. Малака б кубачак, то ён і не быў бы сухі.

Д а н і л а *(падаючы Скібу дакументы).* Паглядзі там, мама, можа, ёсць крыху.

Д а н і л а в а м а ц і адыходзіць.

Дзед Бадыль *(спагадліва)*. Выгаладаўся.

Скіба. Ад учарашняга абеду не кусаў нічога.

Дзед Бадыль. Як жа гэта ты так, сынку?

Скіба. Адстаў. У лесе мы былі. Сарокін, расцяпа, падвёў мяне.

Дзед Бадыль. Сам, сынку, варонай не будзь, дык і сарока не падвядзе.

Тадора. А палякі ці далёка?

Скіба. Недалёка... Раніцой ледзь мяне не сцапалі.

Тадора. А не чулі, як яны?..

Дзед Бадыль. Можа, не вельмі здзекуюцца з народа?

Скіба. Здзекуюцца... да смерці забіваюць.

Тадора. Забіваюць?

Маргун. Не ўсіх жа, мусіць! Гэта толькі хто зарабіў.

Скіба. Жывёлу забіраюць, хлеб... што на вока трапіць, тое і грабуць.

Тадора. Божа мой, божа! Што ж гэта будзе?

Дзед Бадыль. Што ж, бяда будзе.

Халімон. І з поля ж мы, таварыш, не ўсё сабралі. Аўсы яшчэ, гарохі зялёныя.

Скіба. Збірайце хоць зялёнае.

Данілава маці выходзіць са збанком малака і дае яго чырвонаармейцу.

Дзякую, цётачка.

Даніла. Дык не стойце, мужчыны. Бярыце косы, граблі, запрагайце коні.

Усе паспешна разыходзяцца.

Маргун. А, пашыліся мышы ў норы. *(Да Батуры, які таксама занепакоіўся.)* А табе ж чаго баяцца? Гэта ж вашы... Ты ж паляк, здаецца?

Батура *(загадкава падміргвае)*. Не пазналі сваіх нашы, бярозавай далі кашы. *(Адыходзіць. За ім павbooажна адыходзіць і Маргун.)*

Скіба *(услед Данілу)*. Таварыш старшыня!

Даніла *(спыняецца)*. Што?

Скіба. Пакажыце ж мне дарогу. *(Калі Даніла вярнуўся.)* Не пазнаеш мяне, таварыш Дрыль?

Даніла *(углядаецца)*. Твар як бы знаёмы, а прыпомніць не магу.

Скіба. А я цябе помню. Мы ў валасным камітэце сустракаліся.

Д а н і л а. А, гэта вы да нас з горада прыязджалі! Таварыш Кудзін, здаецца. Але ж у дакументах...

С к і б а. Я ўжо не Кудзін, я Скіба... разумееш?

Д а н і л а. У вайсковым адзенні і не пазнаць... У армію падаліся?

С к і б а. Так мне зручней. Забяжыш адзін у вёску, і адразу відаць, хто чым дыша: хто малаком поіць, а хто мяркуе, каб вінтоўку з рук вырваць. І з сваімі людзьмі трэба сувязь наладзіць. Трэба сказаць каму-нікаму з камуністаў, каб не спяшаліся выязджаць адгэтуль.

Д а н і л а. А як жа?

С к і б а. А так, што пакінуць народ у няшчасці без дапамогі, без кіраўніцтва мы не можам. Народ ужо ведае, што такое свабода, што такое савецкая ўлада. Ён ужо не захоча цярпець панскіх здзекаў, не захоча ісці зноў у ярмо і падымецца на акупантаў. Весці яго ў бой павінны будзем мы, камуністы, каб не павёў хто іншы. І мы павінны быць уперадзе, павінны быць гатовы на пакуты і на смерць за інтарэсы працоўных, інакш народ за намі не пойдзе. Так робіць таварыш Ленін і ўсе лепшыя людзі нашай партыі. Ты гатоў на гэта, не збаішся?

Д а н і л а. Збаяцца-то не збаюся, але ці патраплю?

С к і б а. Памагаць будзем. Сувязь я сам з табой наладжу, назаві толькі вернага чалавека, які будзе ведаць, дзе ты знаходзішся.

Д а н і л а. Каго ж бы тут?.. Каб не засыпацца.

Д а н і л а в а м а ц і *(падыходзіць)*. Сынок, што ж ты сабе думаеш! Усе людзі аж разрываюцца, каб прыхаваць хоць што збольшага, а табе і не ў галаве.

Д а н і л а. Зараз, мама, вось толькі чырвонаармейца на дарогу накірую.

С к і б а *(ківае на Данілаву маці)*. А можа, яна?

Д а н і л а *(крыху падумаўшы)*. Мама, паглядзі на гэтага чалавека.

Д а н і л а в а м а ц і. Я ж яго бачыла ўжо.

Д а н і л а. Добра паглядзі — гэта свой чалавек. Можа, ён калі і пра мяне будзе пытацца — кажы яму ўсё.

М а ц і *(углядаецца)*. Як жа яго зваць хаця?

Д а н і л а. Скіба. Толькі глядзі, мама, нікому ні слова, ані-ні.

М а ц і. Сама разумею, не малая.

С к і б а. Глядзі, маці, добра, каб пазнала. У мяне да таго часу і вусы могуць падрасці, і барада.

М а ц і. Па вачах пазнаю, вачэй не пераменіш. Вунь якія яны... Калючыя ды хітрыя.

Марылька *(падбягае)*. Мамачка, вайна! Вайна ідзе! Палякі на гасцінцы. Я адна баюся дома быць.

Скіба. Ну, аставайцеся здаровы! *(Бярэ вінтоўку і адыходзіць.)*

Маці *(Данілу)*. А як жа ты, сынок? Дадому ж табе нельга ісці?

Даніла. Нельга, мама.

Маці. А куды ж ты?

Марылька. Можа, зноў на вайну, а нас з мамаю пакінеш?

Даніла. Перачакаю хоць у лесе, а тады буду бачыць.

Данілава маці. Але ты з бальшавіцкім войскам не пойдзеш?

Даніла. Сказалі, што і мне тут работа будзе.

Данілава маці. Хто сказаў?

Даніла. Таварышы, што кіруюць.

Данілава маці. Тут яшчэ страшней, як зловяць.

Даніла. Гэта навала ненадоўга.

Данілава маці. Каб жыта як пасеяць... Без хлеба будзем.

Даніла. Я буду прыходзіць час-часом. Няхай крыху ўляжацца.

Данілава маці. Гадавала я вас — гаравала, думала, хоць старасць спакойная будзе. Тады над малым калацілася, начэй недасыпала, а цяпер... *(Выцірае вочы рагом хусткі.)*

Даніла. Што зробіш? Пагаруем яшчэ крыху. Даб'ёмся яшчэ і лепшага.

Данілава маці. А мой ты сынок! Заб'юць, дык будзе табе лепшае.

Даніла. А заб'юць, дык не наракайце на мяне, што пакінуў вас адных. Не здуру загінуў. За такую справу гінулі і не такія, як я. *(Да Марылькі.)* Не плач, Марылька. Гэта я так сабе. Мы яшчэ з табой будзем жыта сеяць... Ну, аставайцеся здаровы! *(Паварочваецца і шпарка крочыць.)*

Данілава маці *(хрысціць яго наўздагон)*. Шчасліва табе, сынок!

Даніла *(паварочваецца)*. Марылька, есці мне прынясеш у лес, на Барсукову гару. А ты, мама, вінтоўку схавай... У страху заткні. Я пасля забяру. *(Пайшоў.)*

## Карціна другая

Восень. Веранда панскага дома.

Пан Яндрыхоўскі *(сяржанту)*. Жаўнераў з флігеля не выпускаць. У вёсцы не павінны ведаць, што тут атрад,— трэба захапіць іх знянацку.

Сяржант. Слухаю пана капітана. *(Казырае і адыходзіць.)*

Пан Яндрыхоўскі ходзіць па верандзе, суровы і рашучы.

Маргун *(падыходзіць да веранды, несучы пад пахай закручаны ў прасціну партрэт)*. Добры дзень, панок! Як шчасліва вярнуліся?

Пан Яндрыхоўскі не адказвае.

Прыйшоў даведацца, можа, памагчы што трэба. У пана ж цяпер і слуг мала.

Пан Яндрыхоўскі. Учора грабіў, а сёння памагаць прыйшоў.

Маргун. Дальбог жа, панок, нічога і пальцам не крануў. Што я — пустадомак які, каб на панскае квапіцца? Вы, можа, мяне не ведаеце, бо рэдка ў маёнтку былі, а мама ваша добра мяне ведае.

Пан Яндрыхоўскі. А гэта што ў цябе?

Маргун. Партрэт вашага таты-нябожчыка. Зайшоў гэта я ў палац, калі пачалі бальшавікі распараджацца. Бачу — валяецца. Божа мой літасцівы! Гэтакі здзек! Я ціхенька пад паху ды занёс дадому. Схаваю, думаю сабе. Пані дзякуй скажа.

Пан Яндрыхоўскі *(бярэ партрэт)*. За партрэт дзякую, але калі ты таксама грабіў, дык гэта цябе ад кары не выратуе.

Маргун. Божачка!.. *(Да пані Яндрыхоўскай, якая ўваходзіць з ксяндзом.)* Панечка даражэнькая, закіньце хоць вы слова за мяне! Паніч кажа, што я грабіў вас.

Пані Яндрыхоўская. Не, Маргун не такі чалавек. *(Убачыўшы партрэт.)* Партрэт Вацлава! Ах, як я рада! Я так засмучона была гэтай стратай. *(Глядзіць на партрэт.)* Любы Вацлаве! Памёр ты ў цяжкую часіну. Які жаль, што табе не давялося парадавацца разам з намі.

Маргун. Няхай бы мне рукі пагнула, калі б я хоць пальцам крануў. Праўда, бралі некаторыя... і з двара валаклі і лес секлі. Дык вось жа яны ў мяне ўсе і запісаны. *(Дастае паперу.)*

Пан Яндрыхоўскі. Покаж.

Маргун *(дае паперу)*. Толькі, панок, каб яны не ведалі.

Пані Яндрыхоўская. Баязлівец! А як жа я не баюся, кабета?

Маргун. У пані варта моцная, у пані сын — начальнік вялікі. Чаго пані баяцца?

Пан Яндрыхоўскі *(глядзіць у спіс)*. Халімон Калядка — гэта хто?

Маргун. Дрэва на хату з панскага лесу.

Пан Яндрыхоўскі. Колькі?

Маргун. Пнёў трыццаць.

Пан Яндрыхоўскі *(адзначае ў спісе і чытае далей)*. Мікола Бадыль?

Маргун. Зямлю панскую араў.

Пан Яндрыхоўскі. Тадора Куксёнак?

Маргун. Хату перасыпала — дваццаць пнёў.

Пан Яндрыхоўскі. Даніла Дрыль?

Маргун. О, гэта птушка! Камітэтчыкам быў, зямлю панскую дзяліў, лес раздаваў. Ды і ў доме ж у панскім распараджаўся: што пад школу, а што сабе пад канцылярыю забраў.

Пан Яндрыхоўскі. Дзе ён цяпер?

Маргун. У лесе туляецца.

Пан Яндрыхоўскі. А злавіць яго можна?

Маргун. Ад дому ён далёка не адыходзіцца — я дасачыў яго. Сягоння досвіткам жыта сеяў на сваёй палосцы. Але ж голымі рукамі яго не возьмеш. Каб на гэты час ды жаўнеры.

Пан Яндрыхоўскі *(дае свісток. Да Маргуна)*. Тваю паслугу я буду помніць.

Сяржант *(прыйшоўшы на свісток, казырае)*. Што пан капітан загадае?

Пан Яндрыхоўскі. Вось спіс. Даставіць усіх мне ў павет.

Сяржант. Слухаю пана.

Пан Яндрыхоўскі. Таго Дрыля мусіш дастаць мне з-пад зямлі.

Сяржант. Слухаю пана.

Пан Яндрыхоўскі *(паказваючы на Маргуна)*. Гэты чалавек можа быць табе карысным.

Маргун. Дазволіце ісці?

Пан Яндрыхоўскі. Ідзі.

Маргун, не надзеючы шапкі, сыходзіць з ганка.

Старастам будзеш.

Маргун *(павярнуўшыся, нізка кланяецца).* Шчыра дзякую, панок.

Пан Яндрыхоўскі. Гм... Значыць, тут распараджаўся нейкі Даніла Дрыль.

Маргун. Бацька гэтага Дрыля ў астрозе памёр, і сын шыбеніцы варты.

Маргун і сяржант выходзяць.

Пан Яндрыхоўскі. Хацеў бы я мець яго ў сваіх руках. Гэты хам распараджаўся ў маім доме, як у сваім хляве. У тую залу, якая бачыла цвет польскай арыстакратыі, ён пусціў чараду мужыцкіх дзяцей, каб іх тут навучалі камунізму. Партрэты продкаў маіх выкінулі ў смецце і на іх месца павесілі партрэты бальшавіцкіх камісараў.

Ксёндз. Гэта абраза ўсяму старадаўняму роду Яндрыхоўскіх.

Пан Яндрыхоўскі. Я не супакоюся, пакуль не змыю гэту абразу кроўю нягодніка.

Ксёндз. Пазнаю ў пану рыцара, патомка слаўнага роду Яндрыхоўскіх. Свой шляхетны гонар і славу айчызны продкі пана ставілі вышэй за ўсё.

Пані Яндрыхоўская. Але не варта праз якогасьці хлопа траціць столькі сваіх нерваў. Хлоп атрымае тое, што ён заслужыў, а ў цябе ёсць дзяржаўныя справы.

Пан Яндрыхоўскі. Дзякую маме за напамінак. Сапраўды, мяне чакаюць у павеце справы важныя і неадкладныя.

Ксёндз. Каб яны не былі важныя, то не ўзялі б афіцэра з фронту і не прызначылі б на гэту пасаду.

Пан Яндрыхоўскі. Назначыўшы мяне начальнікам павета, вышэйшая ўлада ўсклала на мяне адказнасць за ўціхаміранне павета, і я не пашкадую на гэта сваіх сіл, я выб'ю з іх гэты бальшавіцкі дух. Я навучу іх шанаваць бога, пана і польскую ўладу. Буду вучыць іх пакорлівасці, аж пакуль яны не будуць цалаваць мае пантофлі, як цалавалі айцу майму.

Ксёндз. Чэрнь узбуджана і разбэшчана бульшавікамі. Ці хопіць у нас сілы ўціхамірыць яе?

Пан Яндрыхоўскі. Сіла ў нас вялікая, і мы не адны: нас падтрымліваюць нашы прыяцелі — Францыя і Англія. Нашы саюзнікі — голад і разбурэнне ў Савецкай Расіі. Пакуль што мы ставім сабе мэтай — аднаўленне Жэчы Паспалітай Польскай у межах 1772 года, а там — хто ведае?!

Ксёндз. Калі пан бог дапаможа, дык самыя нязбытачныя мары здзейсняцца.

Пан Яндрыхоўскі. Ну, мамуся, як ні прыемна мне ў родным доме, пад тваім крылом, але мушу ехаць. *(Падыходзіць і развітваецца.)*

Пані Яндрыхоўская *(абнімаючы сына)*. Болесь, дзецко мое! Не забывай пра мяне.

Пан Яндрыхоўскі. Варту ў маёнтку я пакідаю — няхай мама жыве спакойна. А тых арыштаваных няхай вядуць да мяне ў павет.

Пані Яндрыхоўская. Я мушу з імі пагаварыць.

Пан Яндрыхоўскі. Нашто мамусі той клопат? Я сам імі займуся

Пані Яндрыхоўская. Ты зоймешся імі як урадовец, а я хачу пагаварыць як гаспадыня маёнтка, які яны разграбілі.

Пан Яндрыхоўскі. Як сабе мама хоча, але я прасіў бы шанаваць сваё здароўе. У мамы нервы слабыя і сэрца мяккае. А я абяцаю пагаварыць з імі і за маму таксама. *(Да ксяндза.)* Пакідаю пад апеку свентэго ойца матку сваю. Маю надзею, што ў набожных размовах яна пазбудзецца смутку ад разлукі са мной.

Ксёндз. Зраблю ўсё, што толькі ў маёй сіле, каб пані Разалія не смуткавала.

Пан Яндрыхоўскі. Довідзэня, мамуся! *(Цалуе руку.)* Я буду наведвацца. *(Выходзіць.)*

Пані Яндрыхоўская *(услед сыну)*. Няхай пан бог дасць яму розум і сілу выканаць місію, якую ўсклала на яго айчызна. Няхай найсвентшая матка боска будзе заступніцай роду Яндрыхоўскіх і ўзвялічыць яго ва ўсёй славе.

Ксёндз. Амэн. Як пані здрове? Учора пані скардзілася, што ў плячах коле.

Пані Яндрыхоўская. Дзякую, ойча. Цэлую ноч не спала і цяпер яшчэ не дужа добра сябе адчуваю.

Ксёндз. Я пані лякарства прывёз. Рад буду, калі яно зменшыць пакуты пані.

Пані Яндрыхоўская. А што за лякарства?

Ксёндз. Такое шмараванне з розных зёлак і тлушчу, зробленае паводле рэцэпта аднаго выдатнага доктара, майго знаёмага. Няхай пані нанач нашмаруецца ды ўкрыецца добра, дык з ласкі пана бога да раніцы ўсё як рукой зніме.

Пані Яндрыхоўская. Дзякую, ойча, паспрабую.

**Ксёндз.** Пані Разалія хацела, здаецца, імшу адслужыць?

**Пані Яндрыхоўская.** Так... За тое, што шчасліва вярнулася, і за поспех зброі войска нашага.

**Ксёндз.** Калі пані загадае?

**Пані Яндрыхоўская.** А проша, ойча, да сталовай, там за шклянкай кавы мы і дамовімся.

Выходзяць.

Чуваць гоман, галашэнне і паасобныя выкрыкі жаўнераў. Неўзабаве з'яўляюцца, абкружаныя жаўнерамі, арыштаваныя Міхаль, Халімон, Тадора Куксёнак, дзед Бадыль, Рыгор. За імі натоўп сваякоў і знаёмых. Сяржант, які камандуе канвоем, бяжыць у палац і варочаецца з паняй Яндрыхоўскай.

*(Выходзіць з палаца.)* А той Дрыль?

Сяржант шэпча пані нешта на вуха.

**Пані Яндрыхоўская.** Напэўна?

**Сяржант.** Маю надзею.

**Пані Яндрыхоўская** *(Да арыштаваных сялян).* Слухайце, вы!.. Я запрасіла вас сюды не ў госці. Я мушу пакараць бунтаўшчыкоў, што паднялі руку на маё дабро. Хто хоча сабе палёгкі, няхай выйдзе і скажа ўсю праўду, як перад богам, хто яго падбухторваў на нядобрую справу. *(Усе маўчаць.)*

**Сяржант.** Пан капітан загадаў мне даставіць іх у павет сягоння ж.

**Пані Яндрыхоўская.** То нічога. Болесь прабачыць пану за спазненне. *(Да дзеда Бадыля.)* Ну, вось ты, стары... падыдзі бліжэй.

Дзед Бадыль падыходзіць.

Як цябе зваць?

**Дзед Бадыль.** Міколам людзі дражняць, а па прозвішчу Бадыль.

**Пані Яндрыхоўская** *(глядзіць у спіс).* Чаму ты маю зямлю араў?

**Дзед Бадыль.** Бо свае не меў.

**Пані Яндрыхоўская.** Хто цябе навучыў гэта рабіць?

**Дзед Бадыль.** Зямлю араць? *(Горка засмяяўшыся.)* Калі яшчэ падлеткам быў, дык свёкар твой на стайні лазой вучыў. А потым і сама пані вучыла. А як пані да Аршавы выехала, то я і падумаў: дай паспрабую, можа, як і без вучыцеляў патраплю сабе хлеба нарабіць.

**Пані Яндрыхоўская.** Ты, стары пёс, павінен бы маладых навучаць.

Дзед Бадыль. Навучаў, як умеў. Што вы, блазнота, сабе думаеце, казаў я ім. Гэта ж грэх, каб зямля пуставала. Яна павінна хлеб людзям даваць.

Пані Яндрыхоўская. Мала цябе, відаць, вучыў мой свёкар. Прыходзіцца мне давучваць на той самай стайні.

Дзед Бадыль. Інакшай ласкі я і не чакаў. Так спрадвеку было: дзе панская сіла, там мужыцкая спіна. Не хочацца мне, да сівых валасоў дажыўшы, пад твае бізуны класціся, але твой верх цяпер.

Пані Яндрыхоўская. Я на тваю старасць не забываюся. Старая скура цвёрдая — загадаю бізуноў дзесяць лішніх дабавіць.

Дзед Бадыль. Няхай табе, панечка, бог заплаціць за тваю дабрату. *(Павольна адыходзіць пад штуршкамі жаўнераў.)*

Батура *(з натоўпу)*. На бога спадзявайся, ды сам не давайся.

Пані Яндрыхоўская *(недачуўшы)*. Што там яшчэ?

Батура. Я кажу, панечка, што мы заўсёды на бога спадзяёмся.

Пані Яндрыхоўская. Галган!

Галасы ў натоўпе. Данілу злавілі! Данілу вядуць!

Два жаўнеры з вінтоўкамі напагатове вядуць Данілу. Ён у падранай кашулі, на твары запечаная кроў, за ім ідуць заплаканыя Данілава маці і Марылька. Маці трымае ў руках Данілаву світку.

Сяржант *(дакладвае пані)*. Вось ён, проша пані.

Пані Яндрыхоўская *(разглядвае Данілу ў ларнет)*. Вось ты які!

Даніла. Як і ўсе добрыя людзі.

Пані Яндрыхоўская. Пра тваю дабрату я чула. Гэта ты з вялікай дабраты пачаў маё дабро раздаваць?

Даніла. Дабро народнае, і народ мяне выбраў на гэта.

Пані Яндрыхоўская. Маўчы, хаме!.. Народ... Быдла драпежнае, якому ўдалося на момант загараду разламаць. Але ў пачцівага грамадства ёсць досыць добрых пастухоў, якія загоняць быдла зноў на месца.

Даніла. Чуеце, людзі! Вы не людзі! Вы — быдла. Пані выпусціла ўжо на вас сваіх сабак, якія загоняць вас у стайню. І зямля, якую вы аралі,— гэта яе зямля, гэта пані палівала гэту зямлю потам і слязьмі, гэта яе галоднае дзіця заходзілася з плачу, у разоры лежачы. І лес яе. Але

пані сягоння ласкавая. Яна сама сягоння дзеліць свой лес, надзяляе, не шкадуючы,— па дваццаць пяць, па пяцьдзесят дубцоў, абы ваша спіна магла знесці. Дзякуйце ж пані, кланяйцеся ў ногі.

У натоўпе рух і абурэнне.

Пані Яндрыхоўская. Тут не бальшавіцкі мітынг. Спыніць!!!

Жаўнеры кідаюцца на Данілу, штурхаюць прыкладамі, адводзяць да дзеда Бадыля.

Данілава маці *(накідвае на Данілу світку, якую ўвесь час трымала ў руках).* Апраніся, сынок, прастынеш.

Пані Яндрыхоўская. Слухайце, быдла! Я кабета. Я маю ў сабе сэрца і маю ў сэрцы бога. Бог вучыць нас быць літасцівымі і да жывёлы. Я хацела многа вам дараваць. Але вы — быдла дзікае і драпежнае. Шкадаваць вас — гэта пладзіць грэх і злачынства. Літасці мае вам не будзе. Хто збудаваў з майго лесу хату, той разбярэ яе сваімі рукамі і дрэва прывязе мне ў маёнтак; хто сабраў з майго поля збожжа, той ссыпле яго ў мой свіран. *(Да Данілы.)* А з табою, хлопе, размова будзе сваім парадкам.

У натоўпе ўзрушаныя галасы і галашэнне жанчын.

Тадора *(падае на калені і, сашчапіўшы рукі, падпаўзае бліжэй да пані).* Панечка, даражэнькая, злітуйся над беднаю ўдавою!

Пані Яндрыхоўская. Чаго хочаш, няшчасная? Кажы віну сваю.

Тадора. Лесу... дваццаць пянёчкаў высекла... хатка зусім спарахнела.

Пані Яндрыхоўская. Будзеш мець дваццаць бізуноў.

Тадора. Богам прашу, панечка, змілуйся, хаткі не раскідай. Сіроты малыя... супроць зімы.

Пані Яндрыхоўская. Што ж, загадаеш мне тваіх шчанят гадаваць?

Тадора ўпала ніц і ляжыць нейкі час нерухома. Яе адцягваюць жаўнеры.

Даніла *(да дзеда Базыля).* Эх, дзед! Давай хіба закурым з гора.

Даніла бярэ ў дзеда Бадыля капшук, павольна развязвае і глядзіць на жаўнера, які з-за плячэй падазрона сочыць за яго рухамі. У Данілы адразу выспявае намер: ён сыпле ў вочы жаўнеру жменю махоркі і кідаецца наўцёкі. Другі жаўнер мерыцца ў яго з вінтоўкі, але Данілава маці забягае жаўнеру наперад, засланяючы Данілу.

Данілава маці *(махаючы рукамі, як на раз'юшанага быка).* Куды ты мерышся, гад?! Куды?!

Жаўнер робіць два крокі ўбок, каб бачыць цэль, але маці зноў забягае яму наперад. Жаўнер страляе — Данілава маці падае, распасцёршы рукі. Марылька кідаецца да маткі з жахлівым крыкам: «Мама! Мама!» Некаторыя жаўнеры кідаюцца наўздагон за Данілам, астатнія гоняць у стайню арыштаваных. Бачачы, што жаўнеры мерацца страляць, натоўп разбягаецца. Пані Яндрыхоўская ўцякла ў палац яшчэ пры першым стрэле. На сцэне застаецца толькі Марылька. Яна прыпала да матчыных грудзей, плечы яе ўздрыгваюць ад рыдання.

Марылька *(глядзіць некуды ўдалячынь, уцірае слёзы рукавом саматканай світкі, якая на яе занадта доўгая, і галосіць).*

А мамачка, зязюлечка,
Чым я цябе так угневала,
Што ты маўчыш, не акажашся?
Вусны твае знямелыя,
Грудзі твае халодныя.
А братачка мой родненькі,
Ужо ж мы з табой сіротачкі.
Давай, братка, парадзімся,
Як мамку нам назад вярнуць.
Мо мы слязьмі гарачымі
Сагрэем грудзі мамчыны,
Загоім раны страшныя,
Адгонім смерць паганую.

Зноў заходзіцца з плачу і прыпадае да матчыных грудзей.

Заслона

## АКТ ДРУГІ

### Карціна трэцяя

Хата дзеда Бадыля. Налева — печ. У процілеглым куце — стол пад абразамі. Дзед Бадыль стаіць ля печы, успёршыся локцямі на прымурак, кашляе. Настуля шые і спявае.

Пятрова ночка невялічка,
Ды не выспалася дзевачка.
Ягадкі брала — драмала,
Села перабіраць — заснула. *(2 разы)*

Наехаў Іванка — не чула.
Махнуў ён пужкай — не дамахнуў,
Пакаціў пярсцёнкам — не дакаціў, *(2 разы)*
Распрануў сурдуцік дый накрыў.
Спі, мая дзевачка, высыпайся.

Не к татухну едзеш — к свёкарку, *(2 разы)*
Не к матухне едзеш — к свякроўцы.
Яны шкадаваці не будуць,
Яны цябе раненька пабудзяць.

Дзед Бадыль. Кінь, дзеткі. Годзе табе сляпіцца, цёмна ўжо.

Настуля. Хацела табе кашулю скончыць дацямна!

Дзед Бадыль. Скончыш заўтра. Можа, не памру яшчэ за гэту ноч.

Настуля. Я не на смерць табе шыю.

Дзед Бадыль. А яно, дзеткі, няхай будзе чыстая. Дыхаць нешта цяжка стала. Нядуж я ўжо.

Настуля. Не гавары так, дзядуля, не наганяй мне смутку.

Дзед Бадыль. Добра, што цябе крыху падгадаваў.

Настуля. Загоіцца спіна, паправішся ды пажывеш яшчэ гадкоў дзесяць. На маім вяселлі тупнеш яшчэ.

Дзед Бадыль. Ды яно дай божа. Некалі як яшчэ і тупаў!

Настуля. Ціха! *(Прыслухоўваецца.)* Нехта з бразготкамі едзе. *(Глядзіць у акно.)* Дзядулечка, да нас у двор заязджаюць!

Дзед Бадыль. Хто заязджае?

Настуля. А хто іх ведае.

Дзед Бадыль. Мо жандары зноў?

Настуля. Ды не, так нейкія... Адзін пажылы, а другі малады.

Дзед Бадыль. То ці не сваты, глядзі?

Настуля. Што ты, дзядуля! Да каго ж яны маюць быць?

Дзед Бадыль. Ды ўжо няйначай, як да мяне.

Настуля. Няўжо да мяне? Дзедачка, што ж мне рабіць? Адзета ж я абы-як.

Дзед Бадыль. Пазнаюць нашу дачку і ў андарачку.

Заходзяць Скіба і Антон.

Скіба. Добры вечар вам, ці рады вы нам? Калі рады, прывітайце нас, а не рады — адсылайце нас.

Дзед Бадыль. Добры вечар... Мы ж яшчэ не ведаем, што вы за людзі, каб радавацца.

Скіба. Людзі мы ліхія, прыехалі грабіць старога.

Дзед Бадыль. Спазніліся крыху. Знайшліся такія, што раней за вас управіліся. Цяпер, як той казаў, голаму разбой не страшан.

Скіба. У саміх яшчэ вялікі скарб захаваўся.

Дзед Бадыль. Гаворыце вы ўсё загадкамі, што мне, старому, і адгадаць цяжка. Няхай хіба ўжо ўнучка адгадвае.

Настуля сарамліва апускае вочы.

Сядайце, мабыць, здарожыліся.

Скіба. А такі здарожыліся.

Скіба і Антон садзяцца ля стала на лаве.

Дзед Бадыль. Адкуль жа самі будзеце?

Скіба. Здалёк, з-пад самага горада.

Дзед Бадыль. Вунь як!

Скіба. Добра, што ў маладога конь добры. Каб які, то прыстаў бы ў гэтакай дарозе.

Дзед Бадыль. Пад горадам, мусіць, людзі лепш жывуць, як у нас.

Скіба. Гэта як хто. Малады вунь не скардзіцца: хлеба ёсць, дзякаваць богу, і да хлеба.

Антон. Толькі едакоў малавата, дык прыехалі, можа, у вас ці не раздабудзем.

Дзед Бадыль. Мяне ж ты, хлопча, не возьмеш, ядок я слабы, два зубы ў роце асталіся... Хоць і тым, сказаць, работы няма.

Антон. А мы возьмем едака з маладымі зубамі.

Скіба. То сядайце і вы з намі, бацька, бо нам усё здаецца, што вы хочаце нас хутчэй выправадзіць.

Дзед Бадыль. І рад бы, чалавеча, сесці, ды не магу.

Скіба *(спагадліва)*. Ага... Застудзіліся недзе. Гэтыя ж скулы як апануюць, дык няма горшага ліха.

Дзед Бадыль. Скулы, чалавеча, скулы... Не трэба горшай скулы на мужыцкае цела, як пан.

Антон. Дык гэта вас...

Дзед Бадыль. Схвасталі, сынок, усяго, жывога месца не пакінулі. Ляжу на жываце, а павярнуцца не магу. Стану вось так, пастаю, успёршыся, ды зноў кладуся. Цяпер-то ўжо зажываць пачало.

Скіба. За што ж яны вас?

Дзед Бадыль. Каго за лес, каго за зямлю, а каго проста для пастраху. Удаву Дрыліху дык тую зусім застрэлілі.

Скіба. За што ж яны?

Дзед Бадыль. Ды нізавошта. У сына мерыўся жаўнер, а яна забегла наперад, дык ён і бахнуў.

Скіба. А сын дзе ж?

Дзед Бадыль. Не захацеў здзекаў цярпець. Сарганізаваў, чуваць, такіх малайцоў, як сам, ды дае панам дыхту. Хіба ж вы не чулі? Даніла Дрыль — пра яго ж на сотні вёрст чуваць.

Скіба. Чулі крыху... Дык гэта ён, значыць, з вашай вёскі?

Дзед Бадыль. Але... *(Да Настулі.)* Запалі, унучка, газоўку ды накрый стол... Будзе лад ці не будзе, а пачаставаць людзей трэба.

Настуля завешвае фіранкамі вокны, запальвае газоўку і накрывае стол.

Ці паверыце, і частаваць вельмі няма чым. Збожжа ўсё забралі, у панскі свіран завезлі. Падсвінка думаў карміць, дык жаўнеры былі панаязджалі — вывалаклі з хлява і тут жа, на маіх вачах, распатрашылі і — у кацёл. Бульбай жывімся. Схадзі хіба, Настулька, пазыч у каго-небудзь крышан сала.

Скіба. Ды вы не турбуйцеся, мы ў дарогу без прыпасу не едзем. У нас і сала, як вы кажаце, крышан ёсць, і нават чарка знойдзецца. *(Да Антона.)* Ідзі, Антон, вазьмі там у возе.

Антон выходзіць.

Дзед Бадыль *(нібы апраўдваючыся)*. Сватам гэта і не даспадобы, вядома, што ў голую хату трапілі, але я хлусіць не ўмею — што няма, то няма. Дзеўка — золата, а на пасаг выбачайце.

Скіба. Пра гэта мы яшчэ пагаворым. Няхай маладыя абзнаёмяцца.

Дзед Бадыль. Пакутуем, чалавеча. Проста гінем і не ведаем, адкуль паратунку чакаць.

Скіба. То, мусіць, з вашай вёскі не адзін гэты Дрыль у лес пайшоў?

Дзед Бадыль. Дзе бачылі! Народ у нашай вёсцы спакойны, баязлівы. Усяго і злосці ў нашага чалавека, што скляне ад шчырага сэрца, зачыніўшыся ў хаце. Дык каму гэта баліць? Як тая прыказка кажа — пана клянуць, а пан тлусцее. Бальшавікі былі — о, гэта баявы народ! З тымі да трох не гавары.

Скіба. А пра бальшавікоў і ў вас успамінаюць часамі?

Дзед Бадыль. Чаму не! Каб ім, кажуць, так ды гэтак.

Скіба *(спахмурнеўшы)*. За што ж гэта? Зямлю ж, можа, яны давалі?

Дзед Бадыль. Тады яны давалі, а цяпер, калі нам крута, дык ніводзін і носа не пакажа. Няхай жа бы прыехаў каторы ды сказаў, што рабіць.

Уваходзіць Антон з бутэлькай і торбачкай. Настуля ставіць на стол талерку і чарку. Антон наразае сала. Настуля рэжа хлеб.

Скіба. Небяспечна ім паказвацца. Прыйшоў ён, скажам, да вас, а вы ўзялі ды жандарам на яго падказалі.

Дзед Бадыль *(пакрыўджана)*. Гэта ты ўжо, чалавеча, не туды загнуў. Я табе не падбрэхіч які-небудзь панскі.

Скіба *(налівае і падносіць дзеду чарку)*. То вып'ем, бацька... за бальшавікоў.

Дзед Бадыль *(насцярожана)*. За якіх бальшавікоў?

Скіба. Ну ды за гэтых самых.

Дзед Бадыль. За якіх — за гэтых? Нешта я не цямлю.

Скіба. Ну, за такіх, як ваш Даніла.

Дзед Бадыль. Ды ўжо ж, калі так наважылі. *(П'е.)* Падай, унучка, чым душу заткнуць.

Настуля падае закусіць.

Скіба. Бачу я, стары, што ад цябе няма чаго хавацца. Праўду мне казалі, што чалавек ты свой.

Дзед Бадыль. Як, дык хіба ты?..

Скіба. Выбачайце, што мы вас крыху ашукалі. Прыехалі мы не ў сваты, а з народам пагаварыць.

Дзед Бадыль *(нездаволены)*. То ты сват, то ты не сват, а ўрэшце хто цябе ведае, што ты за чалавек. Можа, знарок выпытваеш у мяне?

Скіба. Хіба я падобны да такога?

Дзед Бадыль. Бог цябе ведае. Хто табе мог пра мяне гаварыць?

Скіба. Даніла. І сваты гэтыя ён выдумаў.

Дзед Бадыль. А, ён-то можа выдумаць. Дык вы з ім бачыліся?

Скіба. Бачыўся. Вось і чалавек з яго атрада. *(Паказвае на Антона.)* Не дасць салгаць.

Дзед Бадыль. Як жа ён там?

Антон. Нічога. Паклон вам перадаваў. Пра сястру, пра Марыльку, прасіў даведацца.

Дзед Бадыль. Жыве сірата. Баіцца адна ў хаце, дык у людзей жыве. Гуртам неяк мы яе дагледзім ужо.

Скіба. Няхай і ўнучка не гневаецца, што падманулі.

Настуля. Я і рада, што так выйшла. Не наўме цяпер вяселле. І дзед нядужы, як жа ж бы я яго пакінула?.. Толькі па падаконню людзей назбіралася — сватоў прыйшлі глядзець. Як уведаюць...

Скіба. А не трэба, каб яны і ведалі. Мы вось і будзем сабе барыш піць,— няхай думаюць, што ў нас усё на лад ідзе. А людзі няхай у хату ідуць. Там і з гармонікам чуваць нехта.

Дзед Бадыль. Ты, чалавеча, асцярожна. Да нас часцяком палякі наведваюцца. І сягоння, здаецца, ці не тут яны.

Скіба. Трэба, каб пасля гулянкі сабраліся людзі пэўныя. Вы мне паможаце ў гэтым.

Дзед Бадыль. Шапні, унучка, Батуру. Няхай Халімон прыйдзе, Міхаль, з маладых, можа, хто.

Настуля *(углядаючыся ў акно)*. Дзядзька Батура! Ідзіце ў хату. Няхай усе ідуць.

Дзед Бадыль лезе на печ. У хату ўваходзяць Батура з гармонікам, за ім чарада хлопцаў і дзяўчат. Батура з-за парога грае вяселле.

Дзед Бадыль. Зарана, пане музыканце, зарана. Можа, яшчэ і вяселля не будзе.

Батура. Што, ганьбу дзеўцы даюць?

Дзед Бадыль. Пасаг вялікі загарадзілі.

Батура. Чулі, дзяўчаты, як з вашага брата здзекуюцца? Заспявайце сватам, каб аж ім моташна стала. *(Грае.)*

Дзяўчаты *(пяюць)*.

Ласы сватка, ласы,
Яго губы, як кілбасы,
Абручамі галава збіта,
Саломаю барада сшыта.

Скіба. Вось мы і хацелі хоць на абручы на гэтыя ўтаргаваць што-небудзь.

Дзяўчаты *(пяюць)*.

Калі сват прыехаў па грошы,
Каб табе выезд харошы,
Каб ты калёсы паламаў
Ды на спіцы вочы павымаў.

Скіба. Вось даюць! І ўсё свату, а малады сядзіць сабе, як у бога за плячыма. Гэта ж ён жэніцца, а не я. Што вы да мяне маеце?

Д з я ў ч а т ы *(пяюць).*

Гонар, гонар маладому —
Пасе качкі каля дому,
Паіць водзіць на рэчку,
Палыгаўшы на вуздэчку,
Каторая падыхае,
Тую ззаду папіхае,
Каторая нежывая,
На вячэру спажывае.

А н т о н *(да Скібы).* Вось і мне перапала! Давай хіба міру прасіць.

С к і б а. Дзяўчаткі! Мы людзі памяркоўныя, давайце памірымся.

Б а т у р а. Ага, памякчэлі!

Д з я ў ч а т ы *(пяюць).*

А ў нашага свата
Вясёлая хата:
Бычкі ў смычкі граюць,
Падцёлкі ў свісцёлкі,
Бараны ў арганы,
А конікі ды ў гармонікі.

С к і б а. Гэта ўжо крыху лепш.

Д з я ў ч а т ы *(пяюць).*

А ў нашага свата
Святліца — не хата,
Печ яго пабялёная,
Чэсць яго ухвалёная.

Д з е д  Б а д ы л ь. Вось бач, сваток: хто нам слова добрае, дык мы таму два.

С к і б а. Але ж пра маладую забыліся. Яна сядзіць зусім маркотная.

Д з я ў ч а т ы *(пяюць).*

За гарою бяроза вецце гне,
Там наша Настачка вянкі ўе, *(2 разы)*
За ёю дзедухна паслы шле.
— Пакінь, Настачка, вянкі віць,
Хадзі са мною мёду піць.
— Не пакіну, дзедухна, вянкі віць,
Не пайду з табою мёду піць.
А мне вянкі віць — любата,
А мне мёду піць — сухата.

Пакуль дзяўчаты пяюць, Настуля садзіцца ля Батуры і шэпча нешта яму ў вуха. Ён, відаць, прыемна здзіўлены, крадком паглядае на Скібу і адказвае нешта Настулі. Яна кіўком падзывае К а с т у с я і шэпча яму. Той неўзаметку выходзіць з хаты.

Знаць, табе, Настачка,
Замуж хочацца,
Што ў цябе слёзачкі
Дый не коцяцца.
Хоць бы ты, Настачка,
У гарод пайшла,
Хоць бы ты, Настачка,
Цыбульку з'ела.

Настуля *(пяе ў адказ).*

Каса ж мая, косачка, каса русая!
Часала я косачку дзевятнаццаць год, *(2 разы)*
Прайграла я косачку ў адзін вечарок.
Наехалі купчыкі, дружкі-баяры,
Раздзялілі косачку дый на дзве касы, *(2 разы)*
Абматалі косачку вакол галавы,
Надзелі на косачку шаўковы чапец,
Ды ўжо таго чэпчыка павек не скідаць.

Батура раптам урэзаў польку. Пары закруціліся ў танцы. Антон танцуе з Настуляй, Скіба таксама знайшоў пару — пажылую вясёлую кабету.

Батура *(грае і прыпявае ўперамежку).*

Дзяўчыначка, кохам цебе,
Не еш хлеба — вазьму цебе;
Не еш хлеба, не пі воды,
Вазьму цябе для выгоды.

Ішоў Тодар з Тадораю,
Знайшлі лапаць з абораю,
Ох, я Тодар, ты Тадора,
Табе лапаць — мне абора.
Табе лапаць — абувацца,
Мне абора — разжывацца.

Скачы, скачы, хлопча, смела,
Пакуль твая скура цэла!
Не сягоння — заўтра рана
Будзе твая скура драна.
Будзе драна бізунамі,
Што не ўмееш жыць з панамі.

Уваходзяць два жандары. Танцоры застываюць у чаканні.

Жандар. Хто тут прыезджы?

Скіба. Я, пане, ды вось гэты хлопец. *(Паказвае на Антона.)*

Жандар. Дакументы!

С к і б а. Якія ж, пане, дакументы ў свата? Вось мой дакумент. *(Паказвае на Антона.)* Дзеўцы хлопца добрага трэба, а не дакумент.

Б а т у р а. Ну, пану свату сваё, а пану сяржанту сваё: такі яго абавязак — дакументаў пытаць. Гэта мы ўсе ведаем, што ты за чалавек, а пан сяржант не ведае.

С к і б а. Ды пашукаю, можа, які заваляўся. *(Дастае кашалёк і доўга поркаецца.)* Вось няхай пан сам разбярэцца, каторы тут, я непісьменны. *(Падае паперкі жандару. Той доўга разглядае.)*

Б а т у р а. То свуй чловек, пане, гжэчны католік.

Ж а н д а р. А пан цо — поляк?

Б а т у р а. Так, пане. Од немцув уцеклэм. Взенлэм тутай собе кобетэ... Правдзівей, она мне взенла.

Ж а н д а р. А для чэго ж додому не вруціл се?

Б а т у р а. Чэкалэм паньства. Сподзевалэм се, жэ ойчызна пшыйдзе тутай. Пшэце ж цо кольвек слышалэм о намярах пана Пілсудскего.

Ж а н д а р. Доскonале! Так і стало се. *(Да Скібы.)* Ну, маш. *(Аддае паперы.)* Больш я веру чловеку *(ківае на Батуру)*, як тваім тым паперам. *(Да Антона.)* А ты што, жаніх?

А н т о н. Так, пане.

Ж а н д а р. Чаго захацеў! Мы ваюем, а ён жэніцца.

С к і б а. Цяпер жа толькі і жаніцца, бо за бальшавікамі ж і гарэлкі не было, не было як вяселле гуляць. *(Наліває чарку і падносіць жандару.)* Проша!

Ж а н д а р *(адхіляючы чарку рукой)*. Не п’ю.

Ж а н д а р ы выходзяць. Батура зноў грае польку, але танцы ўжо не ладзяцца.

Б а т у р а *(скончыўшы граць)*. Ну, сваты, мусіць, здарожыліся. Трэба ім спакой даць.

Д з я ў ч а т ы *(пяюць)*.

Дадому, госцікі, дадому,
Паелі конікі салому.

Батура грае марш. Х л о п ц ы і д з я ў ч а т ы выходзяць. Б а т у р а ў дзвярах падморгвае Скібу і выходзіць таксама.

Н а с т у л я *(калі ўсе выйшлі)*. Зараз прыйдуць. Я Кастуся раней паслала.

С к і б а. Толькі каб ніхто лішні не зайшоў.

Н а с т у л я. Я пайду пастаю ля варот. Калі што якое — у акно пастукаю. *(Выходзіць.)*

Д з е д Б а д ы л ь. А скажы, таварыш, бальшавіцкае войска ці далёка?

Скіба. Мястэчка Гневань чулі?

Дзед Бадыль. Уга! Дзіва што! Колькі разоў быў там.

Скіба. Вёрст, мусіць, семдзесят будзе.

Дзед Бадыль. Гэта калі кругом, па бальшаку. А лясамі, нацянькі, і палавіны не будзе.

Скіба. Дык жа балота.

Дзед Бадыль. Гэта хто не ведае, а я ў гэтым лесе, як у сваім гародзе,— кожную сцяжынку ведаю.

Скіба. Ну, прайсці, можа, і можна.

Дзед Бадыль. Ездзілі некалі. І цяпер, каб грэблю дзе-нідзе падправіў ды буралом расчысціў... Што ж, гаспадара няма...

Уваходзяць Міхаль і Халімон, моўчкі вітаюцца са Скібам за руку і садзяцца.

Скіба *(круціць цыгарку, пасля перадае кісет мужчынам)*. Закурвайце.

Уваходзяць Батура, Рыгор і Кастусь.

Батура. Вось, здаецца, і ўсе нашы.

Кастусь. Больш не будзе. Некаторых дома няма.

Скіба. Ну, добра... Будзем знаёміцца. Зваць мяне — Скіба. А гэта вось — партызан, Данілаў таварыш. Дакументаў я вам не пакажу, бо пры сабе іх не трымаю, а запісачка ад Данілы ёсць. *(Дастае паперу.)* Можа, хто пазнае яго почырк?

Халімон. Хіба Рыгор вось, сябар яго. З вайны ж яму Даніла пісаў не раз.

Рыгор *(узяўшы паперку)*. Праўда, яго рука.

Батура. Ну, то чытай, што ён там піша.

Рыгор *(чытае)*. «Паклон вам, цітвянцы. Чакаю вас да сябе ў госці, ды ніяк дачакацца не магу. Мусіць, вам бізуны панскія вельмі да смаку прыйшліся?»

Халімон *(штурхнуўшы локцем Міхаля)*. Чуў ты! Гэта дык паклон!

Дзед Бадыль. Такі зарабілі, няма чаго крыўдаваць.

Скіба. Наздзекаваліся з вас тут, я чуў.

Халімон. Бачылі ж, можа, едучы... Толькі каміны тарчаць, як пасля пажару, а хатамі нашымі пані свой паравічок апальвае.

Скіба. А як жа людзі жывуць?

Халімон. Вось у Міхаля хлеб забралі, а ў мяне хату, дык я прыйшоў да яго ды кажу: «Мой хлеб, а твая хата — давай разам жыць». Так і жывём прыпяваючы... трынаццаць душ у адной хаце.

Скіба. І надоўга вам гэтага хлеба хопіць?

Халімон. Хопіць на месяц. А там паначэпліваем торбы ды пойдзем з дзецьмі па падаконню: «Падарыце, калі ласачка». Трынаццаць душ — трынаццаць торбаў і торбачак — за адзін раз колькі назбіраеш.

Скіба. Жарты твае невясёлыя, чалавеча. Ад іх мурашкі па целе бягуць.

Халімон. Плакаць прабавалі — не памагае, дык мы давай жартаваць.

Скіба. Ну і як жа вы ўсё-такі думаеце жыць?

Міхаль. Думаем, таварыш, што, можа, хутка перамена якая будзе.

Скіба. А хто гэту перамену зробіць?

Міхаль. Можа, чырвоныя паноў прагоняць.

Скіба. Чырвоныя... А вы ж якія? Белыя?

Міхаль. Мы так сабе... ніякія.

Скіба. Вось гэта ж і дрэнна, што ніякія. Я разумею: ваяваць — гэта цяжка, гэта нават страшна, але ж у Чырвонай Арміі хіба не такія людзі, як і вы? Ім таксама паміраць не хочацца. І жонкі ў іх ёсць, якія без іх гаруюць, і дзеткі, якіх яны любяць і шкадуюць. Дык чаму ж яны могуць ваяваць, а вы не? Чаму вы чакаеце, каб яны вам свабоду на талерцы паднеслі?

Дзед Бадыль. Праўду, чалавеча, кажаш! Эх, мужчынкі, каб мне вашы гады! Не ляжаў бы я на печы, не падстаўляў бы азадка пад панскія бізуны.

Халімон. Вы, таварыш, няправільна гаворыце.

Скіба. Чаму ж няправільна?

Халімон. Таму, што армія — гэта вялікая сіла, а нас тут — жменька. Паспрабуй сунуцца супроць паноў.

Дзед Бадыль. Жменька... Вазьмі жменьку ды сыпні ў вочы, як той Даніла.

Скіба. Вас жменька ды ў суседняй вёсцы жменька — вось і прыгаршчы. А колькі ў нас такіх вёсак! І ў кожнай знойдуцца людзі, у якіх на сэрцы накіпела. Я ўжо не гавару пра горад.

Міхаль. І вам, гарадскім, крута цяпер прыйшлося.

Скіба. Клопат у нас з вамі адзін — выратавацца ад белапанскай погані і ўзяць назад зямлю і фабрыкі. А хіба горад без вас можа з гэтым справіцца? А вы без горада? Вы скардзіцеся, што на вас забыліся, што вам ніхто не дапамагае, але як жа можна таму памагчы, хто сам нічога не робіць? Варушыцеся, не давайце сябе ў крыўду, не забывайцеся, што вы — людзі.

Дзед Бадыль. Пані іначай не называе нас як быдлам.

Скіба. І абыходзіцца з вамі, як з быдлам. А вы пастаўце сябе так, каб ніхто не асмеліўся вас пальцам крануць. Біце ў зубы. Няхай кожная сволач ведае, што здзекі ёй так не пройдуць. Вось Даніла — гэта маладзец. Варушыцеся, і вам памогуць. Памогуць рабочыя, паможа бальшавіцкая партыя, якая мяне і да вас сюды прыслала. А бальшавіцкая партыя — гэта вялікая сіла, гэта лепшыя рабочыя Петраграда, Масквы і ўсёй Савецкай Расіі, гэта вялікі розум Леніна.

Дзед Бадыль. А скажы, таварыш, ці праўда гэта, што Леніна забіць хацелі?

Скіба. Праўда. Стралялі ў яго га́ды ў прошлым годзе і паранілі. Але гэта яго не магло запужаць. Ні царскія турмы і ссылкі, ні кулі контррэвалюцыянераў не запужалі яго.

Дзед Бадыль. Дык цяпер ён здаровы?

Скіба. Здаровы.

Дзед Бадыль. Таму ў яго і стралялі гады, што ён цвёрда стаіць за народ.

Скіба. Нават калі ў пасцелі ляжаў паранены, ён кожную хвіліну думаў пра народ, пра рабочых і сялян.

Дзед Бадыль. Вось каб мы ўсе за сябе так стаялі, як ён за нас, дык бы гэтых паноў тут і духу не было.

Скіба. Я ж пра гэта і кажу. Пад кіраўніцтвам Леніна і яго памочнікаў наша Чырвоная Армія разбіла Калчака і Дзянікіна. Яна разаб'е і белапалякаў. Чырвоная Армія б'е пана ў лоб, а вы біце яго ў патыліцу. Чым мацней будзем біць, тым хутчэй наша зямля і нашы заводы будуць зноў нашымі. Вось што я хацеў вам сказаць. Сягоння вы, можа, са мной не згодзіцеся, а заўтра падумаеце і перакапаецеся, што гэты Скіба не брахаў.

Міхаль. Загадаў ты нам, таварыш, загадку.

Скіба. Загадку гэту няцяжка адгадаць. Трэба толькі выбраць, што лепш: начапіць на плечы торбу ці ўзяць вінтоўку. Па-мойму, калі нават і памерці прыйдзецца, дык лепш з вінтоўкай у руках, як пад панскімі бізунамі.

Халімон. Ну дык як, Міхаль?.. Торбы начэпім?

Міхаль *(панура)*. К чортавай матары!

Халімон. А ты, бежанец, што скажаш?

Скіба. Што, хіба не тутэйшы?

Батура. Радзіўся я ў Брэсце, каб торбамі трэсці, сюды ўцёк, адно ж і тут чую — торбы ды торбы.

Кастусь. Мусіць, прыйдзецца дзядзьку гармонік убок адлажыць.

Скіба. А нашто? Я заўважыў, што апрача гармоніка, ён яшчэ і язык востры мае, і па людзях, напэўна, з ім ходзіць. А добры язык ды яшчэ пры гармоніку — гэта многа значыць.

Халімон. Ён заўсёды на людзях... і з гармонікам, і печы людзям робіць.

Дзед Бадыль. Вось толькі я, мусіць, вам непатрэбны?

Скіба. Для вас, бацька, ёсць вельмі важная работа: калі зробіце, проста героем будзеце. А толькі трэба мне гэта ў штабе абмеркаваць, а вы тым часам папраўляйцеся. Я накажу вам тады.

Дзед Бадыль. Паміраць збіраўся, а калі так, то прыйдзецца адлажыць на потым.

Батура. Што ж ты, Рыгор, маўчыш?

Рыгор. А што ж мне казаць?

Батура. Скажы, пойдзеш з намі ці...

Рыгор. Падумаю.

Батура. То, можа, мы памыліліся, што паклікалі цябе сюды?

Скіба *(насцярожана)*. А што такое?

Дзед Бадыль. З старасцянкаю знюхаўся, а яна яго з панталыку збівае. Глядзі, сынок, каб ты праз яе сабакам не стаў!

Рыгор *(са злосцю)*. Ды адчапіцеся вы ад мяне! Што вам да таго, старасцянка ці не старасцянка. Яна нікому вока не запарушыла.

Скіба *(да Рыгора)*. Вось што, хлопча! Кахай сабе там каго хочаш, толькі язык трымай за зубамі. Памятай, калі што якое, дык мы жартаваць не любім. *(Да Антона.)* Ну, Антон, паехалі. *(Да сялян.)* Бывайце здаровы! Што вы надумаеце, я ўведаю праз Данілу.

Дзед Бадыль. Едзьце здаровенькі. Дзякуй за навуку.

Скіба. Пасля будзем дзякаваць адзін аднаму, як справу зробім.

Скіба і Антон выходзяць.

## Карціна чацвёртая

Ноч. Лес. Пасярэдзіне сцэны будан з яловых лапак. Крыху ўбаку, пры агні, два партызаны — адзін з перавязанай рукой, другі з мыліцай.

1-шы партызан. Хутка і ноч канчаецца, а іх усё няма.

2-гі партызан. Колькі цяпер тае ночы.

1-шы партызан. Хопіць, каб чалавеку памерці.

2-гі партызан. Яны каля моста ў алешніку будуць падпільноўваць, каб знянацку...

1-шы партызан *(кладзецца дагары на мох).* Эх, мама, мама... *(Гледзячы ў неба.)* Некаму суджана апошні раз сёння глядзець на гэтыя зоркі.

2-гі партызан. Таму ўжо не да зорак будзе. Шмат вельмі ты зоркамі любаваўся, калі табе нагу прастрэлілі.

1-шы партызан. Ну, так гаворыцца.

Паўза.

А лес як маркотна шуміць! Нібы галосіць па кім.

2-гі партызан. На тое ён і лес, каб шумець.

1-шы партызан запявае, 2-гі падхоплівае. Пяюць спачатку вельмі ціха, пад канец на ўвесь голас.

Ты, дуброва, дуброва,
Дубровачка зялёная!
Ах, і што ж ты, дуброва,
Не радзіла нам нічога?
Не радзіла, дуброва,
Ані хмелю, ні ячменю,
А зрадзіла, дуброва,
Густы ельнік ды бярэзнік.
А па ельнічку частым
Там два брацікі гулялі, *(2 разы)*
Шчасце-долю здабывалі.
Браты долю здабывалі,
Ў ланцугі іх закавалі,
Закавалі, пасадзілі,
Каб па свеце не хадзілі, *(2 разы)*
Каб народу не будзілі.
Ой, скажы ж мне, любы браце,
Як цяпер нам распазнаці,
Калі дзянёк, калі ночка,
Калі зіма, калі лета.
Па тым лета пазнавалі,
Што зязюлі кукавалі,
Па тым зіму пазнавалі,
Што жалезы прыстывалі.

Канец песні пяецца пад акампанемент гармоніка, хоць нікога не відаць.

1-шы партызан *(хутка садзіцца, бярэ ў руку вінтоўку).* Хто ідзе?

2-гі партызан. Гэта, мусіць, бежанец.

Падыходзяць Батура з гармонікам і дзед Бадыль з торбай на плячах і парай запасных лапцей.

1-шы партызан. О, дзядзька Батура ваяку нам прывёў яшчэ аднаго.

Батура *(вітаючыся за руку).* А чым не ваяка?

2-гі партызан. Ляжаў бы ты, дзед, лепш на печы.

Дзед Бадыль. Ляжаў, сынок, ды прыпякло вельмі, не ўлежаў.

2-гі партызан. Што ж ты ў нас рабіць будзеш?

Дзед Бадыль. А гэта начальства ведае, нашто я патрэбен.

Батура. Дзе ж вашы сокалы?

2-гі партызан. Паляцелі сокалы на здабычу.

Батура. А вы, як падбітыя жураўлі, сядзіце ды курлыкаеце.

1-шы партызан. Чакаем, павінны былі б вярнуцца ўжо.

Батура. Мусіць, ці не ідуць. Мы чулі нейкія галасы ў лесе.

Усе прыслухоўваюцца.

2-гі партызан. З песнямі, значыцца, усё добра.

Чуваць далёкая песня многіх мужчынскіх галасоў. Яна паступова набліжаецца і мацнее. Батура падыгрывае, партызаны пры агні падцягваюць.

Гляну, гляну я ў аконца
Супроць яснага сонца,
Супроць яснага сонца,
Ці не ўбачу чарнаморца.
Чарнаморац з вайны едзе,
Ён сямёра коней вядзе.
— Выйдзі, выйдзі, мая міла,
Калі верна ты любіла.

Падыходзяць партызаны. Яны нясуць адбітыя ў белапалякаў скрынкі з патронамі і карабіны.

Даніла *(падыходзіць).* А госці! Як здаровенькі? *(Вітаецца за руку з дзедам і Батурам.)*

Дзед Бадыль. Здароў, сынок! Што гэта твае хлопцы такія вясёлыя? Ці не грошы ў гэтых скрынках?

Даніла. Не, гэта арэхі, дзед.

Дзед Бадыль. Арэхі?

Даніла. Але. Паноў частаваць будзем.

Дзед Бадыль. То гэта, можа, гэтыя самыя... кулі ці як іх?

Даніла. Але, патроны.

Дзед Бадыль. Дзе ж вы іх узялі?

Даніла. У іх жа. Падпільнавалі на дарозе і адабралі.

Дзед Бадыль. Ай, малайцы! *(Смяецца.)* Значыць, іх пальцам ды ім жа ў вока.

Даніла. У самае вока. *(Да 1-га партызана.)* Антон з сваімі хлопцамі не вярнуўся?

1-шы партызан. Не.

Дзед Бадыль. Ці не той гэта Антон, што да мае ўнучкі сватаўся?

Даніла. Той самы.

Дзед Бадыль. Ах, каб ён здароў быў! Дзе ж ён, хоць бы пабачыць.

Даніла. Таксама ў арэхі пайшоў, толькі на другую дарогу. А яшчэ, калі ўдасца, дык хлопцы сягоння такога звера прывязуць, што дзед толькі ахне.

Галасы. Глядзі, бежанец тут!

— Урэж што-небудзь, дзядзька Батура, нам сягоння весела!

Батура. А паможаце?

Галасы. Давай!

Батура грае, партызаны танцуюць.

Даніла *(да партызан)*. Досыць, хлопцы! Ідзіце гатуйце вячэру, каб хапіла на ўсіх. Людзі прыйдуць галодныя, а можа, і параненыя будуць.

Партызаны разыходзяцца; праз нейкі час на заднім плане відаць агні.

Ну, дзядзька Батура, як ты дзе паварочваешся?

Батура. Па вёсках хаджу, людзям праўду кажу, дзе прыпеўкаю, а дзе жартам з дзеўкаю.

Даніла. А людзі што кажуць?

Батура. Паноў клянуць ды цябе хваляць.

Даніла. Не ўсе, мусіць, хваляць.

Батура. Ёсць такія, што і цябе клянуць, але ж я тых за людзей не лічу.

Даніла. Ну, а як там хлопцы? Рыгор як маецца? Не збіраецца да нас? Нешта Скіба крывіўся, гаворачы пра яго.

Батура. Як жа маецца... За спадніцу трымаецца.

Даніла. У Маргунішкі?

Батура. Як той клешч. А яна хвастом круціць. Рыгор-то ёй, відаць, даспадобы, але каб да яго твару ды Шмігельскага хутар.

Даніла. То, мусіць, хутар перацягне?

Батура. Вядома, Маргун не дачакаецца, калі Шмігельскі ў сваты прыйдзе.

Даніла. Скіба нават апасаўся, каб ён чаго ёй не выказаў пра нас. Але я сказаў, што ведаю Рыгора з малых год.

Батура. Ды ён-то наш, каб толькі ад яе адарваць.

Даніла. А як там Марылька?

Дзед Бадыль. Мы яе не пакідаем... Па матцы нудзіцца, небарака.

Батура. Плакала вельмі, калі хавалі.

Даніла, засмучаны, садзіцца на скрынку з патронамі.

Але нябожчыца не будзе на нас крыўдзіцца — хораша мы яе пахавалі. Усім сялом праводзілі на могілкі. Ельнікам зялёным дарогу ўслалі ад вёскі аж да самай магілы.

Даніла. Дзякуй добрым людзям за клопаты ды спагаду.

Дзед Бадыль. Як тут не спагадаць! У нежывога б сэрца зайшлося, гледзячы.

Даніла. Можа, хоць нядоўга мучылася?

Дзед Бадыль. Не, сынок. Адразу, як даў у грудзі, дык і слоўца не вымавіла.

Даніла. Нашто ёй было кідацца ратаваць мяне!

Дзед Бадыль. А нашто ж маці?.. Хіба яна магла спакойна глядзець, як сына забіваюць?

Даніла. А мне не верыцца, што яе няма. Здаецца, прыйду дадому, і яна зноў, узрадаваная, будзе завіхацца каля печы, а пасля сядзе ля стала і не адрываючыся будзе глядзець на мяне, пакуль я буду вячэраць. *(Паўза.)* Убачыш Марыльку, дзядзька Батура, дык падвесялі яе, скажы, няхай яна не нудзіцца, скажы, што я хутка прыеду дадому... Хочацца мне самому пабачыць яе... Баюся, каб з ёю чаго-небудзь не зрабіла гэта гадаўё.

Дзед Бадыль. Ты толькі асцярожна, сынку, калі думаеш у вёску прыходзіць. Там жа гэтыя гіцлі і шныраць заўсёды. Яны так і думаюць, што ты не ўцерпіш ды прыйдзеш даведацца.

Даніла. Я гэта ведаю.

Батура. Мо што добрае чуваць з таго боку?

Даніла. Ёсць весткі, і не благія... Панам нядоўга панаваць засталося.

Батура. А як нядоўга?

Даніла. Месяц ці два — гэтага я сказаць не магу, а толькі таварыш Скіба перадаваў, каб мы былі напагато-

ве, Чырвоная Армія чакае ад нас дапамогі. Рыхтуй хлопцаў.

Батура. Хлопцы гатовы. З пяці вёсак, дзе я бываю, чалавек сорак знойдзецца. Але зброі ў іх няма. Вінтовак чатыры, не больш.

Даніла. У нас цяпер польскіх крыху ёсць. А калі не хопіць, таварыш Скіба абяцаў нам падкінуць. Як толькі заварушацца паны адступаць, трэба перасцерагчы па вёсках, няхай людзі коней у лес хаваюць, бо забіраць будуць.

Дзед Бадыль. А мне што за работу дасі? Мусіць жа, не так сабе клікаў?

Даніла. А дзед ужо сабраўся як мае быць?

Дзед Бадыль. Наказваў жа ты, што ў вялікую дарогу.

Даніла. Дарога не малая, і работа важная. *(Чуваць працяглы далёкі свіст.)* Вось і госця, мусіць, едзе. Халімонаў свіст чуваць. Дзядзька Батура, ты можаш знайсці такога чалавека, які б даставіў адну пісульку начальніку павета пану Яндрыхоўскаму? Трэба зрабіць так, каб яна неўзаметку ў яго на стале апынулася.

Батура. А калі гэта трэба?

Даніла. Заўтра. Як мага хутчэй, а то мы спазніцца можам.

Батура. Ёсць у мяне адна жанчына.

Даніла. Вось і добра.

Халімон *(шпарка падыходзіць да Данілы)*. Так што даставілі ў спраўнасці, начальнік.

Даніла. Давайце сюды.

Халімон. Міхаль, каб ты спруцянеў, што ты там марудзіш?

Міхаль *(з цемры густым басам)*. Ісці не можа ад страху.

Халімон. То нясі.

Міхаль. Нясу. *(Праз хвіліну, абхапіўшы ўпол, нясе паню Яндрыхоўскую. У яе звязаны назад рукі, а рот заткнёны канцом шаля.)*

Даніла. Нашто рот заткнулі?

Міхаль. Вішчэла, як свіння ў плоце.

Даніла. А рукі?

Халімон. Дзярэцца, каб яна папрэла.

Даніла. Развяжыце.

Міхаль развязвае рукі, папружкай падвязвае сабе штаны. Халімон вымае з рота шаль.

Пані Яндрыхоўская. В іме ойца і сына і свентэго духа, амэн. Матка боска, дзе ж гэта я?

Даніла. У мяне ў гасцях.

Пані Яндрыхоўская. А вы — начальнік?

Даніла. Начальнік.

Пані Яндрыхоўская. Ваш твар... я вас недзе бачыла, але цяпер... нічога не памятаю.

Даніла. Завуць мяне Даніла Дрыль. Мы, здаецца, знаёмы.

Пані Яндрыхоўская абамлела.

Дзед Бадыль. Хе-хе. Відаць, што знаёмы.

Халімон. Міхаль, давай дзікалону, пані выпрудзілася.

Міхаль. Дзе я табе вазьму?

Халімон. Пад вываратам... Цэлая лужына. *(Міхаль пайшоў.)*

Халімон *(прыкладае вуха да грудзей пані)*. Жывая, сэрца дрыгае.

Міхаль прыносіць у шапцы ваду. Халімон мачае руку і пырскае пані ў твар. Яна лыпае вачыма і павольна садзіцца.

Дзед Бадыль. Папырскаць бы яе, гадаўку, як яна нас пырскала.

Пані Яндрыхоўская *(становіцца на калені і сашчэплівае рукі)*. Божа літасцівы! Малюся табе, як сын твой маліўся ў садзе Гефсіманскім. Калі можна, хай абміне мяне келіх пакуты гэтай. Нашлі агонь нябесны, хай грымне пёрун і спапяліць ушчэнт нягоднікаў, што паднялі руку на верную служку тваю.

Дзед Бадыль *(замахваецца кіем)*. Ах, поскудзь! Вось як трахну, дык будзе табе і пёрун!

Даніла. Чакай, дзед. Мы ўсё зробім па парадку.

Пані Яндрыхоўская. Болесь, дзецко мое. Бывай навекі!

Даніла. Не памірай, пані, ты нам патрэбна.

Пані Яндрыхоўская. На здзекі? Лепш смерць.

Даніла. Мы караем, але не здзекуемся... Болесь — гэта ваш сын, начальнік павета?

Пані Яндрыхоўская. Мой сын.

Даніла. Гэта тое ваша дзецко, ад якога ўвесь павет стогне? *(Пані Яндрыхоўская маўчыць.)* Вы ведаеце, што ад яго ўвесь павет стогне?

Пані Яндрыхоўская. Мой сын выконвае тую місію, якую ўсклала на яго айчызна.

Дзед Бадыль. Пачакай, мы яшчэ патаўком яму гэту мысію.

Даніла. А на паню таксама айчызна ўсклала місію — народ катаваць?

Пані Яндрыхоўская. Я слабая кабета, я не магу нікога катаваць.

Халімон. Ах, каб ты папрэла, слабая! Міхаль, пакажы ёй, як яна цябе размалявала.

Міхаль *(з сур'ёзным выглядам распяразвае папружку. Гледзячы на Данілу).* Паказаць?

Даніла. Не трэба. Пані і так добра памятае.

Дзед Бадыль. Сама ж на стайні была, здаецца.

Даніла. А без хлеба і без прытулку пані людзей пакінула, з торбамі пусціла — гэта таксама ад слабасці ды ад вялікай дабраты?

Пані Яндрыхоўская маўчыць.

А ў турмы пазасаджвала... Дык вось што, пані... За здзекі з людзей, за катаванне я вас... асуджваю на смерць.

Пані Яндрыхоўская закрывае твар рукамі, ногі яе слабеюць.

Халімон *(падтрымліваючы паню).* Стой, каб ты папрэла, чаго валішся без пары!

Даніла. Але я дарую вам жыццё, калі вы зробіце адну рэч.

Пані Яндрыхоўская. Калі гэта ў маіх сілах.

Дзед Бадыль *(Данілу, узрушаны).* Як гэта ты даруеш? А калі я не дарую? А калі твая маці, нябожчыца, не даруе?

Даніла. Не гарачыся, дзед, даслухай да канца. Я кажу так не таму, што шкадую гэту гадзіну, а таму, што хачу выратаваць людзей, якіх чакае смерць. *(Да пані.)* У лапах вашага сына знаходзяцца тры мае партызаны. Іх чакае расстрэл. Дык напішыце сыну свайму, гэтаму сукінаму сыну, начальніку павета пану Яндрыхоўскаму, каб ён іх зараз жа выпусціў. Напішыце таксама, каб ён выпусціў тых сялян, якіх вы засадзілі ў турму, і вярнуў ім усе страты. Не забывайцеся, што з вамі будзе, калі я не выратую гэтых людзей.

Пані Яндрыхоўская. Але ж гэта справа дзяржаўная, сын можа мяне і не паслухаць.

Даніла. Пішыце так, каб паслухаў. Слязу пусціце. Вы гэта ўмееце, вучыць вас не трэба. Вось вам папера і аловак. *(Бярэ ў будане паперу і аловак і падае пані Яндрыхоўскай.)*

Халімон. Проша, пані, да стала. *(Бярэ Яндрыхоўскую пад руку, падводзіць да пня і садзіць на купіну.)* Крэсла хоць крыху занізкае, але мяккае.

Даніла. Пішыце, я чакаю.

Пані Яндрыхоўская прабуе пісаць, але рукі яе калоцяцца, аловак скача па паперы, нічога не выходзіць.

Халімон. Пані пісаць не можа. Яна моцна здарожылася.

Даніла. Няхай пасядзіць, адпачне. Падаглядай яе тут... *(Да Батуры і дзеда Бадыля.)* А мы тым часам пагаворым, што трэба рабіць.

Лезе ў будан. За ім Батура і дзед. Там яны ціха размаўляюць паміж сабою. Пані Яндрыхоўская, як скамянелая, сядзіць каля пня. Каля пані ўвіхаецца Халімон.

Халімон. Выбачай, пані! Я і забыўся, што праз нас ты не павячэрала сягоння. А дарога вялікая — па каменні, па карэнні... пані вымерхалася. Міхаль, там хлопцы бульбу варылі, нясі сюды. Ды хлеба пабольш.

Міхаль. Нясу. *(Пайшоў.)*

Пані Яндрыхоўская. Я не хачу есці.

Халімон. Не хачу, а сама на нагах стаяць не можа. Алоўка і то не ўтрымае ў руках.

Пані Яндрыхоўская. Я не буду есці.

Халімон. Не пляці, пані, глупства! Ты мо знарок хочаш з голаду памерці, каб нашых хлопцаў расстралялі?

Міхаль прыносіць кацялок бульбы і вялізную лусту хлеба.

Еш, пані, не саромейся.

Міхаль. Увесь век наша ела і не саромелася.

Пані Яндрыхоўская. Я не магу.

Халімон. Чаго там — не магу! Выменці гэты кацялок бульбы, то яно нідзе дзенецца. І ногі прутчэйшыя стануць, і рукамі павалодаеш. Каб толькі як пісьмо напісала, а там хоць і ў рот нічога не бяры.

Пані Яндрыхоўская. Дай мне спокуй, чалавеча.

Халімон *(расчаравана)*. Спокуй, бачыш ты! Мусіць, пані нашай стравы не густуе?

Міхаль. Вядома, яна да пшыкаладу прывыкшы. *(Падсоўвае да сябе кацялок і з апетытам есць.)*

Пані Яндрыхоўская моцна ўздыхнула і пачала пісаць.

Халімон *(Міхалю таямніча)*. Піша. Глядзі, глядзі, як выкручвае!

Пані Яндрыхоўская *(напісаўшы ямчэ крыху, згортвае паперку ў дзве столкі і падае Халімону)*. Аддайце свайму начальніку.

Халімон *(разглядаючы паперку)*. Накруціла пасвойму. Нічога не разабраць. *(Гукае.)* Начальнік, гатова!

Даніла, дзед Бадыль і Батура вылазяць з будана.

Даніла. Давай сюды. *(Бярэ паперку, разглядае, а по-*

*тым перадае Батуру.)* Па-польску. Ты што-небудзь тут разбярэш?

Батура *(узяўшы паперку).* Каб друкаванае, то яшчэ б сяк-так.

Даніла. Чорт яго ведае, што яна тут напісала.

Батура. То што будзем рабіць?

Даніла. Што ж, падвядзе, дык сама сябе. Панясеш гэта. А каб мацней было, прыпішам ад сябе. *(Да Халімона.)* Халімон, кладзі паню спаць. Падсцялі ёй што-небудзь. *(Садзіцца да пня і піша.)*

Халімон. Проша, пані, у люлю бай. *(Бярэ паню Яндрыхоўскую пад руку. Да Міхаля.)* Ідзі надзяры крыху моху пад бок.

Міхаль. Скулу ёй пад бок.

Халімон. Ідзі. Скула ёй і без твае ласкі сядзе.

Міхаль і Халімон з паняй Яндрыхоўскай адыходзяць.

Даніла *(да Батуры).* Вось якую ноту я яму напісаў. *(Чытае.)* «Пані Яндрыхоўскі! Калі ты, сабачая твая душа, заўтра ж не выпусціш маіх трох хлопцаў і ўсіх сялян, дык мамашы тваёй будзе капут. А табе самому я ўсё роўна прадрылюю некалі дзірку ў лобе. Гэта піша табе Даніла Дрыль». *(Да Батуры.)* Хопіць?

Батура. Дзіркі ў лобе? Хопіць аднае.

Даніла. Пісаць ці хопіць?

Батура. Па-мойму, ясна.

Даніла. Дык даставіш?

Батура. Заўтра раненька будзе там. *(Згортвае паперку і кладзе ў шапку.)*

Даніла *(дзеду Бадылю).* А цябе, дзед Мікола, ведаеш, хто сюды запатрабаваў?

Дзед Бадыль. Ну, мусіць жа, ты?

Даніла. Той, што ў сваты прыязджаў зімою.

Дзед Бадыль. Таварыш Луста?

Даніла. Але. Скіба.

Дзед Бадыль. А ён тут?

Даніла. Не, яго тут ужо няма, але ты хваліўся тады, што добра ведаеш гэты лес і дарогу аж да Гневані.

Дзед Бадыль. Я не хваліўся, я такі і ведаю.

Даніла. Дык вось табе работа: прайсці таею дарогаю, якую ты ведаеш, праз гэты лес да самай Гневані.

Дзед Бадыль. Усяго?

Даніла. Усяго.

Дзед Бадыль. Дык што ж гэта за работа! Ён, мусіць, жарцікі з мяне строіць.

Даніла. Гэта не жарцікі. Там ты зойдзеш у штаб дывізіі, знойдзеш Скібу і раскажаш, кудэю ты ішоў і якая дарога. Толькі падрабязна: дзе можна прайсці, дзе праехаць конна, дзе з возам, а дзе толькі ўлегцы; дзе гразка і сцежка завалена буралом; дзе брод цераз рэчку і як глыбока — па пояс табе ці аж па бараду.

Дзед Бадыль. Ага, разумею. Дык гэта бальшавіцкае войска будзе ісці сюдэю?

Даніла. Паны лічаць, што праз гэты лес і балота войска прайсці не можа.

Дзед Бадыль. Няхай яны сабе лічаць па-свойму, а мы па-свойму палічым.

Даніла. У іх уся сіла на бальшаку, там яны думаюць сустрэць нашых.

Дзед Бадыль. А ім адгэтуль па баку.

Даніла. Па баку. Толькі, дзед, глядзі не прагаварыся як-небудзь. Гэтым ты можаш шмат людзей загубіць.

Дзед Бадыль. Што я, блазан? Ды хто да мяне, старога, прычэпіцца?

Даніла. А калі затрымаюць паны?

Дзед Бадыль. Дык патраплю, што сказаць. Свята надыходзіць, Ушэсце. У Гневані заўсёды фэст вялікі быў. Колькі ўсякіх старцоў ды багамольцаў збіралася! Скажу — на багамолле іду. Смерць блізка, дык ахвяраваўся цудатворнаму вобразу памаліцца. Дні за тры і затупаю памаленьку.

Даніла. Спяшацца не трэба. Пройдзеш аднаею сцежкаю, убачыш, што гразка, нельга праехаць,— вярніся назад, прайдзі другою, паглядзі.

Дзед Бадыль. Яно ж так — старцу міля не круг.

Даніла. Можа, прыйдзецца там і месяц, і больш прабыць. А назад — дадуць табе каня і будзеш ехаць уперадзе з камандзірам, паказваць дарогу. У вёску ў сваю ўедзеш — не пазнаюць.

Дзед Бадыль. Як Курапаткін...

Воддаль чуваць галасы партызан: «Антона... забілі... забілі!» Даніла спахмурнеў. На імправізаваных насілках прыносяць забітага і кладуць перад буданом. Зараз жа збіраюцца партызаны: і тыя, што вярнуліся з паходу,— са зброяй, панурыя, стомленыя, і тыя, што гатавалі вячэру. Даніла павольна знімае з галавы шапку. За ім усе партызаны. Глыбокае маўчанне.

Вось і ажаніўся ты, сынок, з сырою зямелькаю.

Даніла. Загінуў яшчэ адзін баявы наш таварыш. Загінуў ён за сваю радзіму, за свой народ, за новае жыццё,

за савецкае. Я бачу слёзы на вашых вачах. Шкада нам Антона, і яшчэ большы гнеў кіпіць у нашым сэрцы. Няхай жа гэты гнеў паліць нам грудзі, каб мы не ведалі спакою, пакуль наш народ стогне ў няволі, каб мы не скарыліся і не пайшлі зноў у ярмо. За гвалты, за катаванні і здзекі — смерць белапанскай сволачы!

Партызаны *(уздымаючы зброю)*. Смерць!!!

Даніла. За смерць нашых таварышаў!

Партызаны. Смерць!!!

Даніла. За слёзы ўдоў і сірот!

Партызаны. Смерць!!!

Даніла. І калі хто з нас пусціцца ў сабачую скуру і перакінецца на бок ворага — няхай пральецца яго чорная кроў і няхай ваўкі расцягаюць яго паганае мяса!

Партызаны. Смерць!!!

Даніла. Пахавайце яго на ўзгорку пад трыма хвоямі, дзе ляжаць ужо два нашых таварышы. *(Да Батуры, які збіраецца адыходзіць.)* Лёгкія табе ногі, дзядзька Батура! Спяшайся з запіскай, каб мы не спазніліся. І табе, дзед Мікола, шчасліва назад вярнуцца!

Партызаны падымаюць насілкі з забітым. Батура і Бадыль адыходзяць.

Заслона

## АКТ ТРЭЦІ

### Карціна пятая

Дэкарацыя першай карціны. Хлопцы, дзяўчаты і Батура з гармонікам сядзяць на прызбе Рыгоравай хаты.

Настуля. А пані што? Напісала?

Батура. А то дзе ж яна дзенецца?

Настуля. А далей што?

Батура. А далей панеслі гэту пісульку пану Яндрыхоўскаму.

Настуля. Самому Яндрыхоўскаму?

Батура. Самому Яндрыхоўскаму.

Настуля. У самыя рукі?

Батура. Яшчэ чаго захацела! Добра, што ў канцылярыю.

Н а с т у л я. Ну і што?

Б а т у р а. Ну, і ў дзесяць гадзін раніцы ён гэту пісульку ўжо ў руках трымаў.

Н а с т у л я. Чытаў?

Б а т у р а. Яшчэ і як чытаў.

Н а с т у л я. Узлаваўся, мусіць?

Б а т у р а. Кажуць, са злосці сам сябе ледзь за гэта самае не ўкусіў.

Н а с т у л я *(задаволена рагоча)*. Так яму і трэба. А далей што?

Б а т у р а. Вось назола! Адкуль я ведаю, што далей?

Н а с т у л я. Адкуль жа дзядзька гэта ведае, што расказаў?

Б а т у р а. Сарока на хвасце прынесла.

Н а с т у л я. То няхай бы яна ўсё прынесла.

Б а т у р а. Хвост малы, усё не змясцілася. Як прыляціць другі раз, то будзеш і ведаць.

Р ы г о р. Цікава, выпусціць ён партызан ці не?

Н а с т у л я. Выпусціць. Дзіва што выпусціць.

К а с т у с ь. Чорт яго ведае. Можа, такі заядлы гад, што і маткі адшкадуе.

Р ы г о р. Ну, будзем жа чуць.

Б а т у р а. Я так думаю, што выпусціць. *(Перабірае галасы гармоніка.)*

К а с т у с ь *(падахвочвае.)* Ну, ну, дзядзька!

Б а т у р а *(грае, прытупвае і пяе)*.

Як вылезу з заканурка,
Як выскачу з хаты —
Паглядзіце, дзяўчатачкі,
Які я багаты!
І гумно ў мяне,
І жупан на мне,
Як пайду я па вуліцы,
Не чапай мяне.
Гумно з хатаю,
Світка з латаю —
Сцеражыцеся, дзяўчаткі,
Бо пасватаю.
Ёсць у мяне ў хаце
Месца парасяці
І кароўка стаіць —
Будзе блізка даіць.

Н а с т у л я. Цяпер за дзядзьку любая пойдзе.

К а с т у с ь. А як жа! Уся выгода ў хаце — карова, парасяты, куры.

Батура *(падыгрывае і спявае).*

Былі куры у Батуры,
Ды паны паелі.
Каб яны ж павыдыхалі
Да гэтай нядзелі.

Рыгор. Не падохнуць, пад'еўшы курацiны.

Батура. Самі не падохнуць, дык трэба ім дапамагчы ў гэтым.

Рыгор. Як ты ім дапаможаш?

Батура. А так, як Даніла дапамагае... Але ж і ўз'еліся цяпер паны на яго. Яндрыхоўскі ўвесь павет падняў на ногі.

Рыгор. Загіне ён некалі.

Настуля *(запявае, іншыя падхопліваюць. Батура падыгрывае).*

У гародзе на градзе
Вырасла вяргіня,
Хто за Леніным ідзе,
Дык той не загіне.

Кастусь.

А я пану капітану
Ў ногі кланяцца не стану,
Вазьму ў рукі кулямёт,
Праб'ю пана навылёт.

Батура *(грае і спявае).*

Былі куры у Батуры,
А цяпер на кухні;
Будуць есці паноў дзвесце,
Каб яны папухлі.

*(Схамянуўшыся.)* Ой, старасцянка ідзе!

Кастусь. Няхай ідзе, а мы будзем сабе спяваць. Хіба і паспяваць ужо няможна? *(Запявае.)*

Што за губы ў мае любы —
Чырвоныя вішні:
Двух мілуе,
Трох цалуе,
А я ў яе лішні.

Пакуль пяюцца частушкі, падыходзіць Кацярына і садзіцца на прызбе. Да яе падсоўваецца Рыгор і нясмела бярэ руку. Яна не адымае рукі, але не вельмі ласкавая з ім.

Батура *(запявае).*

Мая люба, як галуба,
Сівая, рабая —
Маладога палюбіла,

Пра мяне не дбае.
А я, стары, не сцярплю
Дый Настульку палюблю.

Абнімае і цалуе Настульку, якая сядзіць побач з ім.

Настуля *(бароніцца)*. Ой, дзядзька, барада колецца.

Батура *(правёўшы рукой па густой шчотцы барады)*. Якая там барада! Першы пушок паказаўся.

Усе смяюцца. Батура грае.

Настуля *(пяе)*.

На вуліцы весяло,
Аж рагоча ўсё сяло;
Ліпне дзядзя з барадой
Да дзяўчыны маладой.

Батура. Ах, вы смяяцца з мяне! Не буду граць, спявайце насуха.

Настуля. Дзядзечка, грай, я ўжо хораша спяю.

Батура. Ну, паглядзім. *(Грае.)*

Настуля *(пяе)*.

На вуліцы гармонь грае,
Мяне маці не пускае;
Пусці, маці, паглядзець,
Там Батура маладзец.

Батура. Во! Гэта мне, як маслам па душы. *(Грае.)*

Кацярына *(запявае. Яе ніхто не падтрымлівае)*.

Стол дубовы сярод хаты,
На ім абрус чысты,
Мяне сватае багаты
Кавалер фарсісты.

Кастусь *(ёй у тон)*.

Чорная, насатая,
Чорт цябе пасватае.

Усе рагочуць.

Кацярына *(пакрыўджана)*. Добра, што ты... бязносы.

Кастусь. Не гневайся, панна старастоўна, з песні слова не выкінеш.

Настуля. Пан Шмігельскі ідзе.

Усе глядзяць у той бок, адкуль ідзе Шмігельскі. На ім фрэнч колеру хакі, сіняя шляхецкая шапка і бліскучыя боты. Кацярына адымае ў Рыгора руку і крыху адсоўваецца. Рыгор сядзіць насуплены.

Пан Шмігельскі *(толькі да Кацярыны, не зважаючы на іншых)*. Добры дзень, панна Катажына!

У с е *(з перабольшанай ветлівасцю).* Добры дзень, пане Шмігельскі!

П а н Ш м і г е л ь с к і. Як маецеся? *(Цалуе Кацярыне руку.)*

У с е. Як самі тэпаеце?

Ш м і г е л ь с к і *(з пагардай агледзеўшы прысутных).* Кампанія ў панны Катажыны хоць не вельмі ганаровая, але затое вясёлая.

К а ц я р ы н а. Я тут выпадкова прыпынілася.

Б а т у р а. Вы-пад-ко-ва! *(Падміргвае Рыгору.)* Чуў?

Ш м і г е л ь с к і *(не зважаючы на Батуру).* Чаму пані на фэсце не была?

К а ц я р ы н а. Так неяк, паленавалася.

Ш м і г е л ь с к і. Дарэмна. Там бы панна Катажына знайшла кампанію больш пожондную. Кірмаш вялікі быў. Свінні ладныя былі, хоць не дужа шмат. Пан Заруба кныра вывез — ах, каб пані бачыла, што гэта за кныр! Пудоў на пятнасце, калі не венцэй. Майго панна Катажына бачыла? Дык амаль што такі самы. Пан Халяўскі з маладою жонкай да касцёла прыязджаў. Таксама кабыла важная. Праўда, крышачку ніжэйшая за маю, але таксама фармальная і спераду і ззаду. Ойца вашага бачыў, словам перакінуўся. Маю велькі інтэрас да яго. *(З намёкам.)* І да панны Катажыны тым часам. Гэтымі днямі завітаю. Дасвідзэнечка! *(Цалуе Кацярыне руку і, ні на каго не гледзячы, адыходзіць. Усе, апрача Кацярыны, праводзяць яго насмешлівым поглядам.)*

Б а т у р а *(ківае галавой у бок Шмігельскага, нібы гаворачы: «Бачылі, што за ён!»).* Пан Шмігельскі!

К а с т у с ь. Фрэнч ангельскі!

Н а с т у л я. Парфума ды мыла!

Р ы г о р. І сам — дурніла!

Рагочуць. Кацярына пакрыўджана. Яна ўстае і, ні з кім не развітваючыся, адыходзіць.

Б а т у р а *(да Рыгора).* Бедны Рыгорка, будзе табе горка. Цяпер цэлы тыдзень будзеш перапрошваць.

Р ы г о р. Альбо буду, альбо не.

К а с т у с ь. Каб у яго такі кныр быў, як у Шмігельскага, дык бы і перапрошваць не трэба было.

Ж а н ч ы н а з к л у н к а м *(праходзячы па вуліцы).* Ці не пакажаце, людзі добрыя, дарогу на Глінішчы?

Б а т у р а. А чаму ж не. Такой маладзіцы я не толькі ў Глінішчы, а да самай Масквы паказаў бы дарогу. *(Устае, падыходзіць да жанчыны і адводзіць яе ад прызбы.)* Ідзі, кабетка, вось гэтай дарогай. Там будзе рэчка

і мост, дык ты ў рэчку не лезь, а цераз мост ідзі. *(Ціха.)* Ну, што сарока прынесла?

Ж а н ч ы н а з к л у н к а м. Спазнілася. *(Аглядаецца на хлопцаў і дзяўчат, хутка гаворыць Батуру нешта напаўголасу.)*

Б а т у р а *(напаўголасу).* Шкада. Каб крыху раней. *(Уголас.)* Як пройдзеш мост, дык увойдзеш у лес. А як выйдзеш з таго лесу, дык і Глінішчы недалёка. *(Варочаецца на прызбу, бярэ гармонік і ціхенька грае сумны матыў.)* Дык вось, атрымаў пан Яндрыхоўскі тую пісульку ў дзесяць гадзін, а ў шэсць гадзін тае ж раніцы партызанаў тых...

Р ы г о р. Што?

К а с т у с ь. } Н а с т у л я. } *(устрывожана).* Расстралялі?

Батура не адказвае і грае той жа сумны матыў. Усе маўчаць, а потым пяюць.

Трава палягае,
Віхура галосіць,
На свежыя раны
Пясочку наносіць.

Нясіце ж вы, ветры,
Жалобу матулі:
Скасілі сыночка
Варожыя кулі.

І вечар праходзіць,
І ночка мінае,
Матуля над сынам
Паноў праклінае:

— Бадай вам, панове,
Спазнацца з труною,
Як вы разлучылі
Сыночка са мною.

Бадай вам, панове,
На сэрца атруты,
Як ён да сырое
Зямелькі прыкуты.

Бадай жа з сваіх вам
Не цешыцца дзетак,
Каб вы галасілі
Над трунамі гэтак,

Каб вы галасілі —
Сціханку не мелі,
Як вусны сыночка
Навек анямелі.

Міхалю, Міхалю,
Прыйду к табе ў маю,
Любімую песню
Табе праспяваю.

На свежай магіле
Я кветак пасею.
Мо матчына гора
Я гэтак развею.

Расціце ж вы, кветкі,
Расціце вы, ружы,
Як быў ён высокі,
Як быў жа ён дужы.

Я буду вас, ружы,
Слязьмі паліваці —
Хай высахнуць грудзі.
На тое ж я маці.

Хвіліну ўсе маўчаць.

Батура. Што ж вы так спахмурнелі? Сумам паноў не возьмеш.

Настуля. Хлопцаў шкада.

Батура. Вестка гэта ўвесь павет абляціць. Усю краіну. Сотні стануць на іх месца. Мы станем...

Падыходзіць Маргун. У руках у яго скрутак паперы і шклянка з клеем.

Добры дзень, пане староста! Вы, здаецца, у гміне сягоння былі? Што чуваць на белапольскім... цьфу, каб на яго ліха!.. На белым свеце?

Маргун. Навіны важныя. Заработкі вам прывёз.

Прыклейвае на сцяну аб'яву.

Батура. Гэта добра. Хоць на газу якую капейчыну зарабіць. Можа, і заработкі добрыя?

Маргун. А вось пачытайце.

Усе зацікаўлены, устаюць і падыходзяць да аб'явы.

Кастусь *(чытае)*. «Ужо восем месяцаў, як у павеце арудуе банда атамана Дрыля, якая тэрарызуе самых паважаных і шаноўных жыхароў павета і лепшых сыноў айчызны. Ад яе прынялі пакуты пан Монця, пан Дзюбецкі, пан Шчакала, пані Яндрыхоўская. Гэта банда асмельваецца нападаць на абозы і штабы, дэзарганізуе тыл нашай арміі, якая ратуе край ад нехрысцяў-бальшавікоў. Усяму насельніцтву павета ставіцца ў абавязак: калі хто нападзе

на след банды, зараз жа паведаміць польскай уладзе. Хто будзе ведаць хоць што-небудзь пра банду альбо яе атамана і не заявіць, той будзе строга пакараны, як зраднік. За галаву атамана вызначаецца ўзнагарода — 15 тысяч марак польскіх».

Маргун. Вось калі хто ведае, дзе ён паварочваецца, дык пятнаццаць тысяч як у кішэні.

Батура. Гэта не так проста, пане стараста.

Настуля. Няхай дзядзька сам ідзе ў такія заработкі.

Маргун. Каб я ведаў, дзе ён туляецца.

Батура. То і мы ж не ведаем.

Кастусь. Хто пойдзе па Данілаву галаву, той сваю няхай дома пакідае.

Маргун. Нагнаў ён вам страху.

Кастусь. Не так нам, як панам.

Маргун. Баязліўцы! *(Адыходзіць.)*

Хлопцы праводзяць яго злымі і насмешлівымі поглядамі.

Кастусь. Бач, чаго яны захацелі!

Батура. Смачны жабе арэх, ды зубоў бог не даў.

Настуля. І няўжо гэта знойдзецца гад, што такога чалавека прадасць?

Разыходзяцца.

Рыгор *(адзін. Прачытвае яшчэ раз аб'яву)*. Пятнаццаць тысяч... *(Стаіць у роздуме.)* Тады б Кацярына і не глянула на пана Шмігельскага.

## Карціна шостая

Бедная сялянская хата. Уздоўж задняй сцяны, бліжэй да дзвярэй — пол, далей — ложак. На стале цьмяна гарыць газоўка. Рыгор адзін сядзіць на лаве, папраўляе лапаць — кладзе лату на пратаптаную пяту.

Рыгор *(скончыўшы работу, пакручвае лапаць у руцэ, з горкім смехам)*. Няшчасце ты маё! Няўжо мяне доля з табой навек пажаніла? *(Кідае лапаць аб падлогу.)* Хоць бы раз абуць такія бліскучыя боты, як у пана Шмігельскага. Ці хаця б дзёгцем вымазаныя, як у Маргуна. *(Чуцен стук у шыбу. Рыгор падыходзіць да акна і ўглядаецца ў цемру ночы. Трывожны і ўсхваляваны адыходзіць ад акна і ідзе ў сенцы. У сенцах чуваць прыглушаная гамонка. Рыгор уваходзіць у хату адзін, завешвае посцілкамі вокны, тады прыадчыняе ў сенцы дзверы.)* Заходзь.

Уваходзіць Даніла, моцна стомлены.

Ну і адвага ж твая! Ты, мусіць, яшчэ не ведаеш, якую паперу пра цябе расклеілі?

Даніла. Ведаю.

Рыгор. Як жа ты адважыўся прыйсці?

Даніла. Я ж да цябе.

Рыгор. Да мяне-то да мяне, але ж мог хто-небудзь убачыць.

Даніла. Я ў вёску не заходзіў, а да тваё хаты з лесу вельмі зручна падысці. Паноў няма ў вёсцы?

Рыгор. Былі сягоння, не ведаю, ці паехалі, ці тут яшчэ.

Даніла. А я па Марыльку прыйшоў. Баюся, каб чаго не зрабілі. Яны ж цяпер раз'юшаныя.

Рыгор. Як шалёныя сабакі.

Даніла. У каго яна?

Рыгор. Трэба ў Батуры запытацца — ён павінен ведаць.

Даніла. Дык ты, можа, прывядзеш яе сюды?

Рыгор. Пазней, як усе спаць палягуць.

Даніла. Ну, добра... Да цябе ніхто не ходзіць?

Рыгор. А хто да мяне пойдзе?

Даніла. Дык я крыху падрамлю. Стаміўся вельмі. Тую ўсю ноч не спаў.

Рыгор. Кладзіся насмелую. Я пабуджу.

Даніла *(бярэ пад галаву лахман і, апранены, кладзецца на пол)*. А да нас ты так і не збіраешся?

Рыгор. Нельга мне.

Даніла. Чаму нельга?

Рыгор. Прычына ёсць. Я магу сабе ўвесь інтэрас сапсаваць, як даведаюцца.

Даніла. Прычына... гэта даўганосая такая, чарнявая?

Рыгор. Угадаў.

Даніла. Усё ныеш?

Рыгор. Ныю.

Даніла. А яна што?

Рыгор. Вось гэтай штукі баіцца. *(Паказвае на лапаць.)*

Даніла. Плюнуў бы ты на яе.

Рыгор. Не магу.

Даніла. Праз яе ты ад сяброў адрокся ды з ворагам звязаўся.

Рыгор. З якім ворагам? Што ты гаворыш, сам не ведаеш што?

Даніла. Памятаеш, як нас жандары да пані прыгналі. Яна тады ў спісачак глядзела. А хто, па-твойму, склаў ёй гэты спісачак?

Рыгор. А што я ведаю. Мог і Шмігельскі скласці.

Даніла. Шмігельскі ўсяго не ведае, хто што рабіў. Гэта, няйначай, Маргунова работа.

Рыгор. А калі і Маргунова, дык хіба Каця вінавата?

Даніла. Яна, думаеш, вялікая прыяцелька нашаму брату?

Рыгор. Я ад яе нічога не чуў такога.

Даніла. Яшчэ пачуеш.

Рыгор. Тады тое будзе, а цяпер лепш скажы, як мне з лапцей у боты перабрацца, тады яна мая будзе.

Даніла. Лапці няхай будуць. Хутка мы ў іх паноў будзем абуваць.

Рыгор. Ой, не ведаю! Нешта на тое не паказвае. Умацаваліся яны тут.

Даніла. Гэта я табе кажу. Хутка ад іх толькі пух будзе ляцець.

Рыгор. Пажывём — пабачым.

Даніла. Паспім, кажаш? Давай паспім, можа, паразумнеем. *(Адварочваецца тварам да сцяны.)* Не забудзься ж пабудзіць мяне.

Рыгор. Смела будзь. *(Бярэцца за другі лапаць, правіць яго, напяваючы нешта ледзь чутнае. Устае, падыходзіць да пола, прыслухоўваецца, як дыша Даніла.)* Ужо спіць. Знябыўся, небарак. *(Бярэ лахман і накрывае.)* Спі, Данілка! Невядома, колькі ночак табе спаць засталося. Можа, смерць ужо ў цябе за плячыма стаіць. *(Ідзе на ранейшае месца, садзіцца і бярэцца за лапаць. Чуваць знадворку бразганне клямкай. Рыгор насцярожана прыслухоўваецца. Зноў бразгаюць.)* Каго ж гэта нясе яшчэ нячыстая сіла? Ніколі ніхто не хадзіў, а тут на́ табе якраз. На ліха агню не патушыў. *(Аглядаецца па хаце, бярэ пад лаваю начоўкі і ставіць на край пола, каб замаскаваць Данілу, накідвае на яго кучу лахманоў. Тады ідзе адчыняць дзверы. Уваходзіць у хату, за ім Кацярына.)* Асцярожненька ж, тут яма ля парога, каб на яе паляруш, дошкі прагнілі. А я думаў, хто гэта такі ідзе да мяне?

Кацярына. Не рад, што прыйшла?

Рыгор. Так рад, аж ледзь язык не адняўся з радасці. Не ведаю, дзе і пасадзіць. Вось тут прысядзь. *(Агдядаецца па хаце, чым бы сцерці лаву, але, убачыўшы, што ўсе лахманы на Данілу, сцірае падалом сваёй кашулі.)*

К а ц я р ы н а. Не турбуйся, лава ж чыстая.

Р ы г о р. Часамі куры, каб яны падохлі... Сядай. Вось жа маладзец, што прыйшла!

К а ц я р ы н а. Я не так сабе прыйшла, патрэба ёсць.

Р ы г о р. Я ж ведаю, што гуляць бы не прыйшла. Ды ліха яе бяры з патрэбаю. У лес не збяжыць.

К а ц я р ы н а. Гэта якраз такая патрэба, што можа ў лес збегчы.

Р ы г о р *(садзіцца ля Кацярыны і абнімае).* Не пушчу цябе ўжо адгэтуль.

К а ц я р ы н а. Не ўтрымаеш.

Р ы г о р. Утрымаю. Кавалак сілы ёсць. *(Сціскае яе ў абдымках.)*

К а ц я р ы н а. О-ёй-ёй! Мядзведзь!

Р ы г о р. Не гневайся, золатка, больш не буду. *(Цалуе ў шчаку.)*

К а ц я р ы н а *(абводзіць вачыма хату.)* А хатка ж маленькая! Як наш свінушнік!

Р ы г о р. Калі люба ды весела, дык усё нічога.

К а ц я р ы н а. І прусы ёсць?

Р ы г о р. Ёсць, каб на іх ліха. І бураксам труціў, і што ні рабіў — не памагае.

К а ц я р ы н а. Ну, я б у гэткай хаце ніколі не жыла.

Р ы г о р. Прывыкла б і жыла. Гэта толькі спачатку страшна.

К а ц я р ы н а. Не ўгаворвай, я ведаю, куды ты закідаеш.

Р ы г о р *(спахмурнелы).* А я думаў...

К а ц я р ы н а. Што ты думаў?

Р ы г о р. Калі ты сама прыйшла...

К а ц я р ы н а. Не сама, бацька мяне прыслаў.

Р ы г о р. Бацька? Дык, можа, гэта ён... *(Не то жартуючы, не то сур'ёзна.)* Хоча мецць за зяця мяне? *(Глядзіць ёй у вочы.)*

К а ц я р ы н а. Можа, і захоча калі-небудзь. Гэта як ты заслужыш.

Р ы г о р. Як жа мне заслужыць гэтакую ласку?

К а ц я р ы н а. Перш за ўсё скажы мне нешта, пра што я ў цябе запытаюся.

Р ы г о р. Пытайся.

К а ц я р ы н а. А скажаш?

Р ы г о р. Калі ведаю.

К а ц я р ы н а. Напэўна, ведаеш. Скажы, дзе цяпер Даніла знаходзіцца?

**Рыгор.** Які Даніла?

**Кацярына.** Ну які ж! Дрыль.

**Рыгор.** Нашто табе?

**Кацярына.** Тату трэба ведаць.

**Рыгор.** А яму нашто?

**Кацярына.** Ён жа староста, у яго начальства пытаецца. Калі навядзе на след ды Данілу зловяць, дык яму могуць нават павышэнне даць, войтам могуць зрабіць.

**Рыгор.** А тады што?

**Кацярына.** А тады ён і цябе можа на службу ўстроіць. Стражнікам можаш застацца ў мястэчку.

**Рыгор.** А тады што?

**Кацярына.** А тады надзенеш шапку з цэшкаю, мундзір, шаблю пры бок прычэпіш.

**Рыгор.** Шкада, што я не ведаю, дзе ён.

**Кацярына.** Як не ведаеш?

**Рыгор.** Не ведаю. Адкуль жа мне ведаць?

**Кацярына** *(зазлаваўшы).* А яшчэ пытаўся: «А тады што, а тады што?»

**Рыгор.** Мне вельмі хораша слухаць было пра тое, як твой тата войтам будзе, а я стражнікам.

**Кацярына.** Няўжо такі ні разу ты яго і не сустракаў?

**Рыгор.** З таго часу, як ён ад жандараў уцёк, магу прысягнуць, што і па сённяшні дзень ні разу не бачыў.

**Кацярына.** Шкада. *(Устае.)* Ну, бывай!

**Рыгор** *(спужана).* Ты ўжо ідзеш?

**Кацярына.** А што мне з табоюваждацца?

**Рыгор** *(утрымліваючы яе за руку).* Кацечка, золатка, не злуй, я ж не вінават, што не ведаю, дзе ён. Пасядзі яшчэ трошкі. *(Абнімае, туліць да сябе, садзіць на лаву, цалуе.)*

**Кацярына** *(злёгку адпіхвае яго локцем).* Толькі лізацца. Казаў некалі, што дзеля мяне роднага брата зарэзаў бы, а як прыйшлося, дык разбойніка пакрываеш.

**Рыгор.** Ён мой сябар з маленства.

**Кацярына.** Быў сябар, а цяпер разбойнік. Такія ж толькі свет каламуцяць. Каб не яны, мы ж бы спакойна жылі і гора не зналі. А бізунамі білі праз каго, ты думаеш? Каб ён панскай зямлі ды лесу не чапаў, дык і кары не было б.

**Рыгор.** Каб жа я ведаў, дзе ён.

Даніла, сплючы, захроп. Кацярына, спужаная, страсянулася, саскочыла з лавы.

К а ц я р ы н а *(трывожна, прыцішаным голасам).* Хто гэта ў цябе спіць?

Р ы г о р *(стараючыся быць спакойным).* Жабрак нейкі. Папрасіўся пераначаваць. Ну, я адзін у хаце — маці да сястры на радзіны паехала — начуй, кажу, месца не праляжыш.

К а ц я р ы н а. А можа, ты каго хаваеш?

Р ы г о р. Яшчэ што выдумай!

К а ц я р ы н а. Я хачу глянуць на гэтага жабрака.

Р ы г о р *(хапае за руку).* Кінь ты! Прачнецца і нам перашкодзіць.

Кацярына вырывае руку і падыходзіць да пола.

К а ц я р ы н а *(ціха ўскрыквае).* Вой! *(Адыходзіць задам да парога, выставіўшы перад сабою рукі.)* Гэта ж ён! *(Намацвае рукою клямку.)*

Р ы г о р *(падбягае да яе. Гаворыць далей, увесь час амаль шэптам).* Цсс! Супакойся, ён моцна спіць, стомлены вельмі.

К а ц я р ы н а *(садзіцца на край ложка, прыцішаным голасам.)* Вой! Не магу апамятацца. Сэрца як не выскачыць! *(Прыкладае руку да сэрца.)*

Р ы г о р. Я патрымаю, каб не выскачыла. *(Абнімае.)*

К а ц я р ы н а *(крыху супакоіўшыся).* Ці не сабака ж ты пасля гэтага! Прысягаўся, што не бачыў.

Р ы г о р. Я прысягаўся, што не бачыў па сённяшні дзень, а сёння якраз ён і прыйшоў.

К а ц я р ы н а. Гэта шчасце тваё само прыйшло табе ў рукі.

Р ы г о р. І шчасце прыйшло. Вось я яго і трымаю, і нікому не аддам. *(Туліць Кацярыну да сябе.)*

К а ц я р ы н а. Гэта багацце тваё прыйшло да цябе.

Р ы г о р. І багацце, калі бацька за табой пасаг добры дасць.

К а ц я р ы н а. Ніхто табе не дасць гэтага багацця, ты сам яго возьмеш. Вунь яно за начоўкамі ляжыць.

Р ы г о р *(не верачы вушам).* Што ты гэта гаворыш?

К а ц я р ы н а *(парывіста абнімае яго, цалуючы).* Любы мой, салодкі мой, дурненькі мой! Няўжо ж ты яшчэ не разумееш? Цяпер мне не прыйдзецца ісці за нялюбага, за няўклюду — за гэтага пана Шмігельскага.

Р ы г о р. Як гэта? Ты выразней кажы.

К а ц я р ы н а. Чытаў паперу, што ў цябе на хаце прыклеена?

Рыгор. Чытаў.

Кацярына. Пятнаццаць тысяч, як лёду.

Рыгор *(ашаломлены)*. Прадаць яго?!

Кацярына. Разбойніка, што людзей забівае,— гэта не грэх.

Рыгор. Але ж...

Кацярына *(затульвае яму рот рукою)*. Маўчы. Ты ж дурны, нічагусенькі не разумееш. *(Хіліць яго на падушку.)* Я табе ўсё раскажу. Пятнаццаць тысяч — гэта не жарты, гэта столькі грошай, што табе, дурню, і злічыць цяжка.

Рыгор хоча пярэчыць.

Маўчы, маўчы, я табе яшчэ не ўсё сказала. За пятнаццаць тысяч ведаеш, што мы зробім? Купім дзве валокі зямлі, паставім дом, каня добрага набудзем, справім вазок.

Рыгор пачынае прыслухоўвацца.

Як апранеш ты бурку [redacted] башлыком, боты добрыя абуеш, запражэш стаенніка ў вазок ды як паедзем на кірмаш, дык усё мястэчка залюбуецца, гледзячы на нас. Нашы вясковыя хамулы толькі шапкаваць будуць перад намі. Сам Шмігельскі не будзе пагарджаць табою.

Рыгор. Пайшоў ён к чорту!

Кацярына. А якую гаспадарку мы завядзём! Кароў галяндэрскіх, свіней ангельскіх. Далікатныя, праўда, догляд патрэбен, але ж калі ўкормім вепрука! Наймічку возьмем, яна і будзе хадзіць каля іх.

Рыгор *(раптам усхапіўся і сеў)*. Ну, ты мне паню не строй!! Сама не хворая пахадзіць. Наймічка яшчэ свіней мне паморыць.

Кацярына *(закрывае яму рот)*. Ціха! Чаго ты крычыш? Яшчэ ж раней грошы ў кішэнь палажы.

Рыгор *(апамятаўшыся)*. Ах... Як жа гэта зрабіць?

Кацярына *(устае, бярэ абору ад лапця і дае Рыгору)*. На!

Рыгор *(трымаючы абору)*. Нашто гэта?

Кацярына. Вяжы! Толькі асцярожна: залажы спачатку за адну руку, пасля за другую, а тады — раз. Пакуль апамятаецца спрасонку, дык ты яго і скруціш.

Рыгор *(трымаючы абору)*. Адну страшэнную хвіліну выцерпець, і тады ты мая, і багацце, і шчасце на ўсё жыццё... Усё роўна як сон які альбо казка. А як рукі мае калоцяцца! *(Ідзе да пола, асцярожна бярэ начоўкі і ста-*

*віць пад пол, каб не заміналі. Стаіць з аборай у руках над Данілам.)* Каця, ён жа прачнецца!

Кацярына. Няхай прачынаецца. Звязаны не страшны.

Рыгор. Дык ён жа глядзець будзе. Куды ж я вочы свае дзену?

Кацярына. А ты адвярніся.

Рыгор. Дык ён жа гаварыць будзе. Гад ты, скажа, гад! Я да цябе як да найлепшага сябра прыйшоў з адкрытай душой, а ты вунь што зрабіў! Да соннага да мяне, як вужака, падпоўз і абкруціў. *(Становіцца на палу на калені, нейкі час вагаецца.)* Не, я не магу! *(Адкідае ўбок абору і кладзецца на ложак. Кацярына падыходзіць да яго.)*

Кацярына. Баязлівец, размазня! Усё роўна яму не жыць, ён і без цябе загіне, але табе тады фіга будзе!

Рыгор. Не гневайся! *(Хоча абняць яе.)*

Кацярына *(энергічна адпіхае руку)*. Не чапай мяне! Ідзі з ім абнімайся.

Рыгор. Кацечка, не сягоння. Другі раз я гэта зраблю. Ён яшчэ прыйдзе да мяне.

Кацярына. Сягоння ты павінен выбраць, хто табе мілей — я ці ён, палацы ці твой гэты свінушнік. Калі зараз гэтага не зробіш, дык абнімаў ты мяне апошні раз. Да мяне сватаюцца людзі — не табе раўня.

Рыгор. Шляхціц Шмігельскі?

Кацярына. Так, пан Шмігельскі, якога ты нагі не варт.

Рыгор. Паскудства гэта? І ты будзеш яго жонкай?!

Кацярына. Ты гэтаму паскудству будзеш яшчэ ручкі цалаваць, ласкі прасіць. А я скажу — гані яго вон, ён не варты тваё ласкі, у яго самога багацце ў руках было, а ён, дурань, выпусціў.

Рыгор. Гэтага не будзе! *(Абнімае.)* Я ніколі не дапушчу, каб гэта брыда, каб гэты стары слімак цалаваў цябе. Я не пушчу цябе. Я хутчэй сам задушу цябе, чым яму аддам. *(Цісне яе ў абдымках, кладзе на ложак, прыпадае вуснамі да яе вуснаў.)*

Кацярына *(вызваляецца)*. Стой! Пусці, сапраўды задушыш. Зрабі, што я скажу, і тады абнімай мяне, як хочаш. Я чакаю цябе на гэтым ложку.

Рыгор *(сеў)*. Але ж ён будзе глядзець... Гаварыць будзе.

К а ц я р ы н а. Зрабі, каб не глядзеў і не гаварыў.

Р ы г о р. Як гэта?

К а ц я р ы н а. У паперы сказана — пятнаццаць тысяч за галаву, але там не сказана, што за жывую. *(Устае, бярэ на лаве ля лапця нож, дае Рыгору і сама кладзецца на ложак.)*

Р ы г о р *(трымаючы нож)*. Гэтак, можа, будзе лягчэй! Намерыцца, заплюшчыць вочы і... *(Падыходзіць да Данілы.)* Цяпер ты, Данілка, нічога на мяне не скажаш... Заўтра пан Яндрыхоўскі возьме тваю галаву і адлічыць мне пятнаццаць тысяч марак... І я паеду купляць ангельскіх свіней. Сябраву галаву аддаць за свінню — ці не занадта дорага будзе!

К а ц я р ы н а *(з ложка)*. Я табе не свіння.

Р ы г о р *(не зважаючы на яе)*. Залатую галаву. Гэта галава думала і за сябе, і за такіх дурняў, як я... Усе паны ўздыхнуць з палёгкаю, што я ім долю бядняцкую прадаў.

К а ц я р ы н а *(не ўцярпеўшы, устае з ложка і падыходзіць да Рыгора)*. Годзе табе казань казаць! *(Штурхае яго пад локаць.)* Рабі хутчэй, што робіш.

Р ы г о р *(паварочваецца да яе)*. А калі я не зраблю, тады што?

К а ц я р ы н а *(захліпаючыся ад злосці)*. Тады... тады праваліся ты разам з ім! Дагнівай тут з сваімі недатопкамі.

Р ы г о р *(амаль заспакоены)*. Ну, што ж... Затое душа чыстая будзе.

К а ц я р ы н а. А, ты і ўзрадаваўся! Не, я табе не дам спакойна тут дагніваць. Я заяўлю, што хаваеш бандыта, і цябе самога возьмуць, як здрадніка. Жандары тут, у нас у хаце.

Р ы г о р *(з выклікам)*. Заявіш? А можа, пашкадуеш?

К а ц я р ы н а. На чорта ты мне патрэбны гэтакі, каб цябе шкадаваць. *(Хоча ісці да дзвярэй.)*

Р ы г о р. Дык здохні ж лепш ты, гадаўка! *(Б'е нажом у грудзі. Кацярына падае на падлогу.)*

Р ы г о р *(тузаючы за плячо, будзіць Данілу)*. Даніла, уставай!

Д а н і л а *(усхопліваецца і праціраe вочы)*. Хіба ўжо? Смачна спаў, ды мала.

Р ы г о р. Хадзем, і я з табой.

Д а н і л а *(убачыўшы Кацярыну)*. Што гэта?..

Р ы г о р. Яна хацела твае пагібелі.

Д а н і л а. Руку, друг! Цяпер я ведаю, што ты наш. *(Цісне руку.)* Што дзень, то больш у мяне баявых тавары-

шаў. Трымайся, пане Яндрыхоўскі! Трымайся, панская сволач! *(Выходзяць.)*

Кацярына *(насілу ўстае і садзіцца на падлозе. Слабым голасам).* Людзі! Ратуйце! Лавіце! *(Паўзе да парога.)*

Заслона

## АКТ ЧАЦВЁРТЫ

### Карціна сёмая

Палявы штаб дывізіі — зямлянка ў сцяне невысокага абрыву. Над абрывам, на заднім плане — лес. Ля дзвярэй вартавы з вінтоўкаю. Справа падыходзіць дзед Бадыль.

Вартавы. Стой!

Дзед Бадыль *(аглянуўшыся па баках).* Гэта ты мне?

Вартавы. Пропуск ёсць?

Дзед Бадыль. Мне трэба начальніка бачыць.

Вартавы. Якога табе начальніка?

Дзед Бадыль. Самага большага. Луста яго прозвішча.

Вартавы. Ніякай Лусты тут няма. Ідзі, адкуль прыйшоў.

Дзед Бадыль. А вот і не пайду. *(Садзіцца.)* Буду сядзець, пакуль мне начальніка не дасі.

Вартавы. А нашто табе начальнік?

Дзед Бадыль. Гэтага я табе не скажу. Справу маю, але не з тваім розумам у ёй разабрацца.

Вартавы. Ідзі, кажу, а то страляць буду.

Дзед Бадыль. Ну, ну! Ты здуру яшчэ сапраўды бахнеш! Ёсць вунь каго страляць і без мяне.

Начдыў *(выходзіць з зямлянкі).* Што такое? Што гэта за чалавек?

Вартавы. Жабрак прычапіўся, таварыш начдыў. Хоча бачыць нейкага начальніка.

Дзед Бадыль. Не нейкага, а самага большага.

Начдыў. Я самы большы. Што табе трэба, стары?

Дзед Бадыль *(мерае начдыва поглядам)*. Самы большы, кажаш? Не, тут другі павінен быць... Луста.

Начдыў. Такога я не ведаю... А што, цябе пакрыўдзілі?

Дзед Бадыль. Яшчэ і як пакрыўдзілі, каб ім бог не дапамог. Парсючка з'елі, жыта забралі, самога схвасталі.

Начдыў. Як! Не можа гэтага быць!

Дзед Бадыль. Як жа не можа быць! Што я — блазан, каб маніць?

Начдыў. Калі гэта праўда, дык мы за гэта па галаве не пагладзім. А парсючка табе вернем і жыта вернем. *(Сам сабе.)* Чорт ведае што такое! Усе рапартуюць аб высокім маральным стане байцоў, а тут такое безабразіе.

Дзед Бадыль. Безабразіе, таварыш! Такое безабразіе, што вытрымаць нельга. Адна надзея на вас.

Начдыў *(гукае)*. Мікалай Пятровіч! Падыдзі сюды, калі ласка.

Голас Скібы. Нашто я табе?

Начдыў. Ды вось тут дзед скардзіцца, што чырвонаармейцы ў яго парсючка забралі...

Дзед Бадыль. Якія чырвонаармейцы! Што ты, таварыш! Пабойся бога!

Начдыў. А хто ж? Ты ж гаварыў толькі што.

Дзед Бадыль. Не чырвонаармейцы, а паны жандары, каб на іх халера.

Начдыў. Дык ты адтуль, з-за фронту? Прыйшоў нам скардзіцца на паноў?

Дзед Бадыль. А да каго ж мне ісці?

Начдыў *(рагоча)*. Гэта здорава!

Дзед Бадыль *(крыху пакрыўджаны)*. Табе смешкі, а нам там не да смеху. Народ жа пакутуе!

Начдыў. Не крыўдзіся, дзед. Не з цябе я смяюся, а таму, што рад. Калі адтуль народ ідзе да нас на паноў скардзіцца, значыць, справа іх — дрэнь. Значыць, мы іх паб'ём...

Дзед Бадыль. Галавой яны наложаць. Нашы хлопцы і самі іх шчыплюць патроху. Але дзе ж! Не сіла. Да вас прыйшоў паратунку прасіць. І не маеш права адмовіцца, калі ты за народ.

Начдыў. Чуў, Мікалай Пятровіч?

Скіба *(падыходзячы)*. Ды мы ўжо раней сустракаліся з таварышам Бадылём. Здароў, бацька! Што добрае прынёс нам?

Дзед Бадыль *(углядаючыся).* Чакай! Дык гэта ж... *(Да начдыва.)* А вы, таварыш, казалі, што ў вас Лусты няма.

Начдыў. Гэта наш камісар, таварыш Скіба.

Дзед Бадыль *(сканфужаны).* Цьфу, каб ты спрахла! Сапраўды ж, Скіба! А я ўсё Луста ды Луста. Не гневайся, таварыш камісар: Луста ці Скіба — усё роўна... чалавеку на спажытак. Хе-хе-хе! Насілу пазнаў. Зусім перамяніўся.

Скіба *(да начдыва).* Я табе развіваў план удару цераз лес. Гэта чалавек, які нам можа дапамагчы. Гэта яшчэ адзін довад за.

Начдыў. Добра, паглядзім.

Скіба *(да Бадыля).* Як там Даніла?

Дзед Бадыль. Даніла маладзец, не спіць у шапку. Часцяком трывожыць паноў. Бывае, наскочаць дзе ды як дадуць, дык тыя і стрэльбаў адракуцца. Але ж і яны не шкадуюць. Наляцяць на вёску, аграбяць, людзей паб'юць ды яшчэ і падпаляць. Здзекуюцца, крыўдзяць, не дай бог! І народ, праўда, стаў адчаянны. Смерць дык смерць, а за сваё кожны гатоў стаяць. Не дачакаюцца людзі, каб хутчэй савецкая ўлада зноў вярнулася. І я вас прашу, таварышы, не марудзьце! Цяпер самая пара. А то народ не вытрымае, з голымі рукамі кінецца на гарматы і кулямёты. Крыві шмат будзе, і ўсё роўна ж не здужаем самі без Чырвонай Арміі.

Скіба. Цяпер ужо марудзіць не будзем. Не па сваёй віне марудзілі. Раскажы, як ты ішоў і што бачыў?

Дзед Бадыль. Ішоў я нагамі і глядзеў вачамі — так, як мне Даніла казаў.

Начдыў. Давайце прысядзем. *(Садзіцца на траве і вымае з палявой сумкі карту. Да Скібы.)* У мяне твой план з галавы не выходзіць. Рызыка надзвычайна вялікая, і мне трэба мець зусім ясную карціну мясцовасці, іначай ад твайго плана прыйдзецца адмовіцца.

Скіба. А нашто ж я чалавека турбаваў? Ён нам і праясніць гэтую карціну.

Начдыў. Калі цераз лес, дык галоўны кірунак я выбраў бы такі *(водзіць пальцам па карце).* Дом лесніка...

Дзед Бадыль. Гэта ж якога лесніка? Гаўрылы?

Начдыў. Тут не напісана, як яго зваць. Калі глядзець адгэтуль проста на Цітвяны, дык управа.

Дзед Бадыль. А, гэты! То там ніякага лесніка няма, і дом спарахнеў дарэшты.

Начдыў. Нам ляснік і не патрэбен, а вось рэчка там ёсць і берагі балоцістыя.

Дзед Бадыль. Глупства. Была некалі рэчка, калі млын стаяў вёрст за пятнаццаць ніжэй ды ваду падпіраў, а цяпер млын спалілі, дык і рэчка абмялела, і балота высахла.

Начдыў. Уброд перайсці можна?

Дзед Бадыль. Чаму не. Толькі берагі высокія — не ўз'едзеш, раскопваць трэба!

Начдыў. Адзначым. *(Адзначае ў блакноце.)* Таварыш пасыльны!

Падбягае пасыльны.

Знайдзіце камандзіра палка Кулагіна і перадайце, што я прашу яго сюды зараз жа.

Пасыльны *(казырае)*. Ёсць папрасіць сюды камандзіра палка Кулагіна. *(Адыходзіць.)*

Начдыў. Далей мяне цікавіць урочышча Воўчы Хвост.

Дзед Бадыль. Ведаю. Каля гэтага «хваста» я цэлы дзень пратупаў — няхай ён спрахне. Лагчына там, ды такая ж паскудная! Што ні ступіш, дык навылёт і навылёт. Ледзь я там і з душой не загінуў і лапаць згубіў у гразі. Цэлую ноч ля агню сушыўся потым.

Начдыў. Ну і што ж?

Дзед Бадыль. Знайшоў назаўтра.

Начдыў. Лапаць знайшоў?

Дзед Бадыль. Мясціну знайшоў, дзе прайсці можна. Толькі ж ельнік такі густы, што і барсук не пралезе. Церабіць трэба.

Начдыў. Шмат церабіць?

Дзед Бадыль. Ды так, як вунь да тае бярозы.

Начдыў. Нічога, асілім як-небудзь. А далей да Цітвян як?

Дзед Бадыль. І далей асілім як-небудзь.

Начдыў. Трэба, каб маглі гарматы праехаць.

Дзед Бадыль. І гарматы праедуць. Толькі малайцоў дай мне з сякерамі ды з рыдлёўкамі. Часам дзе загаціць трэба будзе альбо буралом расцерабіць.

Кулагін *(бярэ пад казырок)*. Па вашаму загаду прыбыў, таварыш начдыў.

Начдыў. А, здароў, таварыш Кулагін. *(Вітаецца. Бадылю.)* Ну, дзякую, таварыш Бадыль. *(Паціскае руку.)* Пойдзеш адпачнеш цяпер, а потым раскажаш усё больш падрабязна.

С к і б а *(гукае).* Таварыш пасыльны!

П а с ы л ь н ы *(падбягае).* Я, таварыш камісар.

С к і б а. Завядзіце гэтага старога да памочніка начальніка штаба і перадайце, што я загадаў выдаць яму штаны, боты, звадзіць у лазню, накарміць і няхай спіць да распараджэння начдыва.

П а с ы л ь н ы. Ёсць, таварыш камісар: памыць старога, накарміць, абуць у боты і палажыць спаць да распараджэння.

Н а ч д ы ў. Ды не ў ботах спаць палажыць.

П а с ы л ь н ы. Ёсць, таварыш начдыў: палажыць старога разуўшыся. *(Адыходзіць.)*

Н а ч д ы ў *(Кулагіну).* Чуваць, Сяргей Міхайлавіч, што нашы гоняць палякаў з-пад Кіева. Што вы думаеце наконт гэтага?

К у л а г і н. Я думаю, таварыш начдыў, што яны правільна робяць.

С к і б а. Ёсць весткі, што конніца Будзённага заняла Бярдзічаў.

Н а ч д ы ў. Ці не думаеш ты, Сяргей Міхайлавіч, што мы павінны ўзяць прыклад з часцей Паўднёва-Заходняга фронту?

К у л а г і н. Мая часць у поўнай баявой гатоўнасці, таварыш начдыў.

Н а ч д ы ў. Спадзяюся, што заўтра досвіткам мы ў гэтым пераканаемся. Загад дывізіі на наступленне ёсць, трэба яго рэалізаваць. Мы з камісарам спрачаліся аб кірунку ўдару. Я быў за тое, каб наступаць па бальшаку,— можа, меншы эфект, затое і рызыкі менш. Лезці ў балота з завязанымі вачыма я не згодзен быў. Але сягоння камісар выставіў мне такога козыра, як гэты дзед, якога ты толькі што бачыў.

С к і б а. А дзед сапраўды казырны. Як ні круці, а павінен ты гэта прызнаць.

Н а ч д ы ў. Прызнаю і раблю вывад. Нам неабходна прарваць фронт, прайсці лес і, заняўшы пераправу ля Цітвян, адрэзаць палякам шлях адступлення. Здолеем мы гэта зрабіць за адзін дзень — наша ўзяла, а засядзем у балоце — тут нам і крышка. Паны з лесу нас не выпусцяць.

С к і б а. Партызанскаму атраду дадзена заданне захапіць пераправу і ўтрымліваць, пакуль хопіць сілы. А калі мы не падаспеем і далей трымацца нельга будзе — узарваць.

Начдыў. Узарваць — гэта крайняя мера. Думаю, што абыдзецца без гэтага. Толькі каб яны ў паніцы не зрабілі гэтага раней часу.

Скіба. Дрыль не панікёр, на яго можна спадзявацца.

Начдыў. Ваш полк, таварыш Кулагін, будзе наносіць галоўны ўдар. Якія сілы праціўніка на вашым участку, вам вядома?

Кулагін. Тры заставы, кожная з станковым кулямётам. Штаб батальёна ў фальварку Падлессе, вярсты за чатыры.

Начдыў. Абарона на шырокім фронце. Яны не думаюць, што мы самі палезем у гэту чортаву пастку. Тым лепш. За ноч полк прывядзіце ў поўную баявую гатоўнасць, зыходныя пазіцыі для наступлення заняць да світання. Звяжыцеся з камандзірам артпалка і ўкажыце яму дакладна, дзе знаходзяцца кулямёты праціўніка, якія будуць перашкаджаць нашаму наступленню.

Кулагін. Ёсць, таварыш начдыў.

Начдыў. Збіўшы заставы праціўніка, шпарка прайсці лес і к вечару заняць пераправу ля Цітвян. Прыдаю вам роту сапёраў і праваднзіка, гэтага старога.

Кулагін. Ёсць, таварыш начдыў.

Скіба. Ды глядзі, беражы старога, Сяргей Міхайлавіч. Гэта наша вока, каб нам яго не выбілі.

Кулагін. Будзьце спакойны, таварыш камісар, без патрэбы пад кулі не падстаўлю.

Начдыў. Астатнія ўсе ўказанні атрымаеце ў загадзе па дывізіі. Можаце ісці.

Скіба. Перадай камісару палка, каб сабраў увесь палітсастаў, я зараз буду гаварыць.

Кулагін адыходзіць.

Начдыў. Ты ж там, Мікалай Пятровіч, доўга не затрымлівайся, трэба будзе загад абмеркаваць.

Скіба. Пакуль вы з начальнікам штаба падрыхтуеце, я вярнуся. У прынцыпе ж усё дагаворана.

Хочуць ісці ў штаб. Да іх падыходзіць Бадыль у чырвонаармейскіх штанах і ў лапцях. За плячыма ў яго новыя чырвонаармейскія боты.

Скіба. Ну як, таварыш Бадыль, накармілі вас?

Дзед Бадыль. Дзякую. Наеўся, як на Дзяды.

Начдыў. А боты што ж не абуваеш?

Дзед Бадыль. Шкада, таварыш, цягаць па гразі. Добра будзе ў свята калі абуць.

Начдыў. Зносіш, дык мы другія дадзім.

Дзед Бадыль. Дзе я вас знайду тады? Вы, можа, за Аршавай будзеце.

## Карціна восьмая

Дэкарацыя 4-й карціны. Даніла сярод партызан.

Кастусь. І дзед Бадыль прапаў недзе. Як пайшоў, дык ні слуху ні духу.

Міхаль. Ваўкі з'елі недзе старога.

Халімон. Альбо палякі засеклі.

Даніла. Вось ні за што ні пра што пахавалі чалавека. А ён, можа, цяпер у дарозе ўжо — Чырвоную Армію вядзе.

Халімон. Цешыш ты, начальнік, нас і сам сябе. А мы і плакаць не збіраемся. Ведалі, чаго ў лес ішлі.

Даніла. Не цешу, а напэўна ведаю: наб'ём панам рыла. Так Скіба і перадаваў, што мы павінны чакаць іх сягоння ці заўтра.

Кастусь. Вось каб цяпер, здаецца,— сядзім мы тут, а Скіба з дзедам Бадылём шусь — добры дзень, таварышы! А за імі каб цэлы полк. Ох, і далі ж бы мы панам лупцоўку!

Даніла. Чакай! Нейкі голас чуваць. *(Прыслухоўваецца.)*

Халімон. Жаночы голас.

Міхаль. Можа, ягады збіраючы, дзяўчо якое заблудзіла.

Даніла. Збегай, Кастусь, паглядзі. Толькі асцярожна.

Кастусь бярэ вінтоўку і знікае ў ельніку.

Міхаль. А кепска нам будзе, мужчыны, калі Чырвоная Армія не ўдарыць. І сям'я загіне, і самому капут.

Халімон. А каб ты папрэў! І ён хныкае! Хоць бы барады свае пасаромеўся.

Міхаль. Трапятун ты, што ты разумееш!

Настуля *(задыхаўшыся, падбягае з Кастусём)*. Мужчынкі, браточкі, палякі ў вёсцы!

Даніла. Шмат?

Халімон. Што яны робяць?

Міхаль. Бяда якая здарылася?

Настуля. Чалавек дзвесце. Яндрыхоўскі прывёў іх. Усіх нашых пабралі. *(Данілу.)* І Марыльку забралі, і Кастусёвых бацькоў, *(Міхалю)* і вашу, дзядзечка, усю сям'ю, *(Халімону)* і вашу. Я ледзь уцякла агародамі. Усіх заперлі ў Рыгораву хату і вокны дошкамі пазабівалі. Яндрыхоўскі сказаў, калі хоць адзін партызан шавяльнецца, дык пусціць з агнём і хату, і людзей.

Халімон *(хапае вінтоўку)*. Бяжэм! Бяжэм ратаваць! За мной!

Некаторыя партызаны памыкаюцца бегчы за ім.

Даніла *(крычыць)*. Стой!.. Назад!..

Усе спыняюцца і слухаюць.

Пан Яндрыхоўскі сказаў не шавяліцца, дык і не шавяліся... без толку. *(Да Настулі.)* Што яшчэ робяць паны?

Настуля. Па нашых хатах шныраць, валакуць што папала. На мосце варту паставілі... Чалавек дзесяць... з кулямётам.

Даніла. Мужчыны! Паны заварушыліся — па ўсім відаць, што Чырвоная Армія ідзе нам на выручку. Але чакаць мы не можам, бо могуць падысці новыя польскія часці, тады мы ім нічога не зробім. А там жа, у Рыгоравай хаце, чакаюць смерці блізкія нам і родныя людзі. Апошняя іх надзея — мы. І мы іх выратуем! Ці так я кажу, мужчыны?

Галасы. Так! Правільна! Выратуем! Пайшлі.

Рух у натоўпе.

Даніла. Стойце! Пакуль сцямнее, мы выйдзем з лесу. А там паміж жыта па межах будзем паўзці на жываце да самай вёскі. Каб ні стуку, ні груку, ні шэпту. Ударым, як гром з яснага неба, скрышым паноў, выратуем людзей і захопім мост. Толькі памятайце, калі хто з вас пападзецца Яндрыхоўскаму ў лапы, дык загіне і сам, і людзі, якіх мы ідзём ратаваць, і Арміі Чырвонай мы не дапаможам. Рыгор! Да моста, браток, пойдзеш ты. Вазьмі з сабою восем чалавек і ўсё, што я табе казаў. Пастарайся падкрасціся па кустах да моста як можна бліжэй і ўзяць польскую варту на мушку. Толькі не страляй, пакуль мы не наляцім з вёскі. А калі ў вёсцы сціхнуць стрэлы і крыкі і ты пачакаеш паўгадзіны і нас не прычакаеш,— значыць, нас няма на свеце. Тады дай залп, захапі мост, хоць на мінут дзесяць, і ўзарві. Сустрэнеш Скібу — далажы, што мы баявую задачу выканалі. Бывай! *(Паціскае Рыгору руку.)* Пайшлі, мужчыны! Не рана ўжо.

У натоўпе рух і гамонка. Разбіраюць зброю і патроны.

Ціха, асцярожна! Пан Яндрыхоўскі сказаў не шавяліцца.

## Карціна дзевятая

Пакой у доме Яндрыхоўскага. Пан Яндрыхоўскі адзін — прачэрчвае лінію фронту на карце, што вісіць на сцяне.

Пан Яндрыхоўскі *(круціць галавой)*. Вялікую непрыемнасць зрабілі нам пад Кіевам бальшавікі. Няўжо гэта канец? Няўжо так ганебна пахаваем мы свае мары аб вялікай польскай дзяржаве? Не, не можа быць! У нас тут яшчэ моцна трымаецца фронт... Прарыў пад Гневанню... Глупства, мы гэта ліквідуем. *(Прыадчыняе дзверы.)* Сяржант!

Сяржант. Што пан капітан загадае?

Пан Яндрыхоўскі. Чаму не далажыў аб выкананні загаду?

Сяржант. Не адважваўся турбаваць пана капітана. Загад пана выкананы: на мосце варта з кулямётам выстаўлена, парныя пасты вакол вёскі і маёнтка расстаўлены, усе сваякі тых, што ў лесе, сабраны ў адну хату і запёрты, як было загадана.

Пан Яндрыхоўскі. Па майму загаду пусціць з дымам... да бога.

Сяржант. Слухаю пана капітана. Па сігналу «зялёная ракета» жаўнеры гэта зробяць.

Пан Яндрыхоўскі. Падрыхтаваць сорак фурманак, каб дзяжурылі тут, у маёнтку.

Сяржант. Адступаць будзем, пане капітан?

Пан Яндрыхоўскі. Не размаўляць! Марш, марш!

Сяржант шчоўкае каблукамі, паварочваецца і ідзе да дзвярэй.

Стой!

Сяржант паварочваецца.

Аб адступленні не можа быць ніякай гутаркі. Разумееш?

Сяржант. Разумею, пане капітан.

Пан Яндрыхоўскі. Наша задача тут — ахоўваць пераправу і ліквідаваць банду Дрыля. Ідзі!

Сяржант выходзіць, у дзвярах сустракаецца з ксяндзом і дае яму дарогу.

*(Ідзе насустрач ксяндзу і вітаецца.)* Рад бачыць свентэго ойца.

Ксёндз. Як пан Болесь маецца? Ці надоўга бог прынёс сюды?

Пан Яндрыхоўскі. Не бог прынёс, ойча, а чырвоныя д'яблы прыгналі.

Ксёндз. Што-небудзь небяспечнае?

Пан Яндрыхоўскі. Ойча яшчэ нічога не ведае. Бальшавікі прарвалі фронт каля Гневані і маюць намер зайсці ў тыл нашай дывізіі.

Ксёндз. Езус Хрыстус! Нех пан буг ратуе!

Пан Яндрыхоўскі. Не пужайцеся, ойча. Яны яшчэ далёка. Нас з гэтага фронту прыкрываюць бездарожныя лясы ды непраходныя балоты. Ім прыйдзецца даць круг, а коні здохлыя, самі галодныя. Раней як праз два дні яны тут быць не могуць. А за гэты час наша дывізія здолее адысці і ўмацавацца на новым рубяжы ў гэтым вось раёне.

Ксёндз. Але ж лес кішыць нядобрымі людзьмі. Калі яны даведаюцца...

Пан Яндрыхоўскі. Мы пад надзейнай вартай. Са мной дзве сотні жаўнераў. Пакідаючы павет, я ад камандавання атрымаў даручэнне ахоўваць пераправу тут да прыходу нашых часцей. Вакол вёскі выстаўлены пасты, у лес выслана разведка.

Ксёндз. Дзякуй пану. Цяпер я заспакоены. Буду дзень і ноч бога маліць аб перамозе над антыхрыстамі.

Пан Яндрыхоўскі. Павінен, аднак жа, ойча, сказаць вам па сакрэту, што справы нашы на фронце не зусім добрыя. Наш паход на Кіеў скончыўся дрэнна. Конніца Будзённага прарвала фронт і зайшла ў тыл нашым.

Ксёндз. Ратуй мяне, божа!.. Нячыстая сіла сядзіць у гэтых людзях. Антыхрыст ім дапамагае. Але на нашым баку сам пан бог.

Пан Яндрыхоўскі. Калі б да боскай дапамогі ды яшчэ пару карпусоў...

Ксёндз. Пан Болесь думае...

Пан Яндрыхоўскі. Што і гэты раён, магчыма, давядзецца нам пакінуць.

Ксёндз. Нават?

Пан Яндрыхоўскі. Так... Думаю, што ойча, у выпадку чаго, застанецца на месцы.

Ксёндз. Дрэнны той пастыр, які пакіне статак свой на спажыву ваўкам.

Пан Яндрыхоўскі. Думаю, што ойча будзе добрым служкам не толькі богу, але і айчызне.

Ксёндз. Маю гонар быць патрыётам свае айчызны.

Пан Яндрыхоўскі. Я ў гэтым быў упэўнены. Значыць, калі нам патрэбны будуць некаторыя весткі, ойча праз пэўных людзей заўсёды здолее іх сабраць і нам даставіць.

К с ё н д з. Няхай пан будзе пэўны. Толькі пры маім духоўным званні мне не заўсёды зручна будзе здабываць гэтыя весткі.

П а н  Я н д р ы х о ў с к і. Ойча занадта скромны. У гэтай мясцовасці нямала ёсць людзей набожных, якія на споведзі ахвотна раскрываюць душу свентэму ойцу.

К с ё н д з. Гэта толькі адна крыніца, якая мне даступна.

П а н  Я н д р ы х о ў с к і. А для другой крыніцы ёсць у мяне ў павеце чалавек, з якім ойча павінен будзе пазнаёміцца.

К с ё н д з. З вялікай прыемнасцю.

П а н  Я н д р ы х о ў с к і. Я не супакоюся да тае хвіліны, пакуль нашы мары і нашы планы не будуць здзейснены.

Стук у дзверы.

Проша.

Уваходзяць М а р г у н і К а ц я р ы н а ў шлюбным убранні.

М а р г у н. Добры вечар, паніч!

П а н  Я н д р ы х о ў с к і. А, сам пан стараста з дачкой! Што скажаце?

М а р г у н. Прыйшлі паніча на вяселле прасіць.

П а н  Я н д р ы х о ў с к і. Дачку аддаеш?

М а р г у н. Аддаю, панічок. За пана Шмігельскага.

П а н  Я н д р ы х о ў с к і. Гэта тая?

М а р г у н. Тая, пакутніца. Дзякуем панічу за доктара, за дапамогу.

П а н  Я н д р ы х о ў с к і. Жадаю шчасця тваёй дачцэ. Яна яго заслужыла, прыняўшы ад рукі бальшавіка пакуту за нашу справу.

К с ё н д з *(падыходзіць да Кацярыны).* Слаўную дачку выгадаваў Маргун. Шкада, што не каталічка. *(Злёгку пагладжвае яе па галаве.)* І жаніха ёй за гэта бог даў добрага. Шмігельскі чалавек сталы і гаспадарлівы. Жывіце, дзеці мае! Шануйце бога, шануйце айчызну, шануйце ўладу. Хто з намі, з тым сам бог, а хто супроць нас...

Шырока расчыняюцца дзверы, і д в а  ж а ў н е р ы ўпіхаюць у хату Р ы г о р а. Вопратка на ім падраная, твар у крыві. Ззаду ўваходзіць с я р ж а н т.

М а р г у н *(кідаецца да Рыгора).* Вось ён, разбойнік! Папаўся!

П а н  Я н д р ы х о ў с к і. Чакай, стараста. *(Сяржанту.)* Зялёную ракету... Да бога!

С я р ж а н т казырае і выходзіць.

Маргун. Гэта, пане, забойца мае дачкі.

Пан Яндрыхоўскі *(да жаўнераў)*. Дзе ўзялі?

Жаўнер. Ля моста, у кустах, пане капітан, з карабінам.

Пан Яндрыхоўскі. Што пры ім яшчэ было?

Жаўнер. Дзесяць штук патронаў, больш нічога.

Пан Яндрыхоўскі. Пакажыце.

Жаўнер падае патроны.

*(Пан Яндрыхоўскі іх разглядае. Да Рыгора.)* Хадзі бліжэй, бандыт!

Жаўнеры падводзяць Рыгора да Яндрыхоўскага.

Галаву вышэй! З табой размаўляе павятовы камісар. *(Штурхае абоймай у падбародак.)* На каго ты гэта насіў?

Рыгор. На тых, што топчуць нашы палеткі, што топчуць у гразь наш народ.

Пан Яндрыхоўскі. Зразумела! Гэта патроны нашы, нашай арміі. Дзе ты іх узяў?

Рыгор маўчыць.

Значыць, ты з банды Дрыля, што нападала на нашы абозы?

Рыгор маўчыць.

Дзе Дрыль цяпер?

Рыгор маўчыць.

Скажы, дзе Дрыль, дарую жыццё.

Рыгор маўчыць.

Жыццё і пятнаццаць тысяч... тых, што ты хацеў за яго ўзяць раней. Падумай.

Рыгор. У магіле Дрыль.

Пан Яндрыхоўскі. Як гэта — у магіле?

Рыгор. Ранены памёр.

Пан Яндрыхоўскі. Банда дзе?

Рыгор. Паразыходзіліся хто куды.

Пан Яндрыхоўскі. Ты чаго каля моста быў?

Рыгор. Дадому ішоў ды на варту наткнуўся.

Пан Яндрыхоўскі. Брэшаш!

Рыгор. Я не сабака.

Пан Яндрыхоўскі. Не веру ніводнаму слову. Глядзі ў акно — бачыш агонь? Гэта займаецца твая хата. Ведаеш, хто там запёрты?

Рыгор. Ведаю.

**Пан Яндрыхоўскі.** Яшчэ не позна. Ты іх можаш выратаваць — скажы, дзе банда?

Рыгор глядзіць з жахам на пажар, ногі яго млеюць, і ён асядае на падлогу.

**Ксёндз** *(падыходзіць да Рыгора і кладзе яму руку на галаву).* Не будзь упартым, сын мой. Праз тваю ўпартасць могуць загінуць людзі. Гэтым ты бярэш цяжкі грэх на душу сваю. Скажы, і адпусцяцца табе ўсе грахі твае.

Рыгор з агідай адштурхоўвае ксяндзову руку. Ксёндз павольна, але выразна ківае Яндрыхоўскаму.

**Пан Яндрыхоўскі** *(жаўнерам).* Вазьміце яго!

**Жаўнеры.** Што з ім рабіць, пане капітан?

**Пан Яндрыхоўскі** *(дае жаўнеру патроны).* Няхай ён спажыве гэта... што нам прыгатаваў.

Жаўнеры бяруць Рыгора пад рукі і збіраюцца выходзіць.

**Кацярына.** Пане капітан, я маю да пана просьбу.

**Пан Яндрыхоўскі.** Я слухаю. Чаго панна млода хоча?

**Кацярына** *(паказваючы на Рыгора.)* Гэта мой каханы. Я прашу, каб яго не расстрэльвалі.

**Пан Яндрыхоўскі.** Але ж гэта немагчыма!

**Маргун.** Дачушка! Апамятайся, аб чым ты просіш!

**Кацярына.** Я хачу, каб ён на маім вяселлі пагуляў! Павесьце яго, пане, на клёне перад акном нашай хаты.

**Пан Яндрыхоўскі** *(стрымана.)* Брава, брава! Гэту просьбу я з прыемнасцю выканаю. *(Да жаўнераў.)* Зрабіце так, як панна млода просіць.

Жаўнеры выводзяць Рыгора.

**Рыгор** *(у дзвярах).* Няхай жыве савецкая ўлада!

**Жаўнер.** Мільч, холера! *(Б'е яго прыкладам.)*

**Пан Яндрыхоўскі** *(падыходзіць да адчыненага акна і глядзіць на пажар).* Светла будзе яму аж да самага пекла. Няхай свенты ойча памоліцца за мяне, калі я тут саграшыў.

**Ксёндз.** Пан бог бачыць тую вялікую мэту, дзеля якой гэта робіцца. Сама царква каталіцкая ачышчала сябе агнём.

**Пан Яндрыхоўскі** *(прыслухоўваецца).* Страляюць?.. Што такое?

Чутны далёкія крыкі «Ўра».

**Маргун.** Гэта Дрыль. Панічок, хаваймася!

**Пан Яндрыхоўскі.** Думаю, што мае жаўнеры не дапусцяць сюды Дрыля.

Ксёндз. Які страшны, дзікі крык!

Кацярына *(гледзячы ў акно).* Яны сюды бягуць.

Пан Яндрыхоўскі *(крычыць у акно).* Сяржант! Сяржант! Дзе яго д'яблы ўзялі! Гэй, хто там? Коні, коні падайце! *(Выбягае за дзверы. За ім Маргун, Кацярына і ксёндз.)*

Некалькі хвілін на сцэне пуста. Крыкі «ўра» набліжаюцца. У акне паказваецца галава Данілы. Ён улазіць праз акно ў пакой і паспешна запіхае ў кішэні паперы, кінутыя панам Яндрыхоўскім. У пакой праз дзверы ўваходзіць задам пан Яндрыхоўскі, наставіўшы перад сабою рэвальвер. Даніла раптоўна хапае яго ззаду і валіць на падлогу.

Даніла. Ну, пане Яндрыхоўскі! Ты хацеў мяне мець за пятнаццаць тысяч. Я сам прыйшоў. Пятнаццаць тысяч у пана ў кішэні астанецца.

Пан Яндрыхоўскі. Дрыль? Забойца маткі мае?

Даніла. Ты забойца тысяч людзей, якія ў тысячу разоў вартней за тваю матку.

У дзвярах, падняўшы рукі ўгару, з'яўляюцца ксёндз, Маргун і Кацярына. За імі ўзброеныя Батура, Міхаль, Халімон, Настуля.

Ксёндз *(дакорліва ківаючы галавой).* І ты, Батура?

Батура. І я, Батура.

Ксёндз. На сваіх пайшоў?

Батура. Сваяк знайшоўся! Вунь твой сваяк! *(Паказвае на Яндрыхоўскага.)* А мая радня тут. *(Паказвае на партызан.)*

Даніла. А ты, служка божы, таксама ваюеш з намі?

Ксёндз. Я воін з арміі пана бога. Мая зброя — слова боскае. Не смерць я нясу людзям, а палёгку душы і целу.

Даніла. Хораша пяеш, паглядзім, дзе ты сядзеш.

Рыгор *(урываецца ў пакой).* Цяпер-то я пагуляю на вяселлі!

Цэліцца з вінтоўкі ў Кацярыну. Яна хаваецца за ксяндза, які ў сваю чаргу хоча схавацца за яе.

Даніла *(адводзіць вінтоўку).* Чакай! Не цяпер!

Кастусь *(убягае).* Ура! Полк прыйшоў! Скіба і дзед Мікола.

Партызаны. Дзе яны? *(Кідаюцца да акон.)*

Уваходзіць дзед Бадыль, за ім Скіба, начдыў, Кулагін.

Дзед Бадыль *(ківае пальцам на Яндрыхоўскага і іншых).* Я вам пакажу, гіцлі!

Даніла *(падыходзіць да Скібы і рапартуе).* Таварыш камісар! Партызанскі атрад баявую задачу выканаў: банда пана Яндрыхоўскага разбіта, пераправа за намі.

Скіба. Ад імя Чырвонай Арміі — дзякуй, таварышы партызаны!

Даніла. Няхай жыве Чырвоная Армія!

Дзед Бадыль. Няхай жыве здароў таварыш Ленін!

Скіба. Арыштаваных вядзіце за мной.

Даніла. Халімон, замятай паноў!

Дзед Бадыль. Замятайце, браткі! Вымятайце ўсю гэту поскудзь з нашай зямлі, каб яна тут і не смярдзела.

Усе выходзяць.

Канец

*1937*

# КАМЕНТАРЫІ

У трэці том увайшлі празаічныя і драматургічныя творы Кандрата Крапівы. Менавіта ў гэты час ва ўсёй паўнаце выявіліся шматграннасць яго таленту, шырыня творчай, навуковай і грамадска-палітычнай зацікаўленасці. Адным з самых значных твораў гэтага перыяду лічыцца раман «Мядзведзічы». Гэта — яркае мастацкае сведчанне аб жыцці беларускай вёскі пярэдадня калектывізацыі, твор, у якім шчасліва спалучыліся праўдзівасць паказу побыту сялян са смеласцю выяўлення складанасцей і супярэчнасцей сацыяльна-палітычных узаемаадносін у тагачаснай Беларусі; псіхалагічная дакладнасць абмалёўкі характараў герояў — з тонкім уменнем перадачы каларыту вясковай рэчаіснасці, у якой арганічна суседнічаюць высокае душэўнае парыванне, альтруістычная бескарыслівасць і хцівая звераватасць, смех і слёзы, радасць і гора, адчай і надзея.

Аўтар не закрывае вочы на шматлікія праявы адсталасці, нават дзікасці ў жыцці вяскоўцаў, але яго пазіцыя адназначна аптымістычная. Вёска пахінулася да новага жыцця, каб пазбыцца спрадвечнай забітасці, побытавых агіднасцей, традыцыйных сварак ды грызні... Многія мядзведзіцкія гарапашнікі шчыра жадалі перамен, «каб кожны не дрыжэў над сваёй крыхой, каб не рваў у другога, каб не калаціўся кожны раз, думаючы пра тое, як будуць жыць яго дзеці і хто яго будзе даглядаць пад старасць». Разам з тым гэтае новае трывожыла, у нечым нават палохала герояў рамана, прымушала пакутліва разважаць пра магчымыя наступствы калектывізацыі. Час паказаў, што не былі тыя трывогі беспадстаўнымі: калектывізацыя, вырашыўшы адны праблемы, нарадзіла шэраг іншых. Ды такіх складаных, што пісьменнік, які заўсёды вызначаўся праўдзівасцю адлюстравання рэчаіснасці, не рызыкнуў брацца за іх мастацкае асэнсаванне. І не столькі з-за перастрахоўкі, боязі сапсаваць адносіны з уладнымі структурамі, колькі з-за сумненняў, ці здолее ўтрымаць узровень мастацкасці, глыбіні раскрыцця праблем. У выніку напісанне рамана «Мядзведзічы» завяршылася першай яго часткай.

МЯДЗВЕДЗІЧЫ. *Раман:* (с. 5)

Задума рамана цалкам акрэслілася ў другой палавіне 20-х гадоў, хоць да яе здзяйснення пісьменнік прыступіў толькі ў канцы 1931 года. Твор быў напісаны параўнаўча хутка — за адзін год. Праўда, трэба ўлічыць, што многія яго фрагменты аўтар напісаў раней, а некаторыя з іх у выглядзе самастойных апавяданняў («Снег ідзе», «На пасёлкі» і інш.) нават апублікаваў у перыядычным друку. Асобным выданнем раман пабачыў свет у 1932 годзе, побач з гэтым яго раздзелы друкаваліся ў часопісе «Полымя рэвалюцыі», № 1—4 за 1932 і 1—3 за 1933 гады.

Датуецца 1932 г.

## П'ЕСЫ

*Канец дружбы* (с. 236)

Упершыню п'еса надрукавана ў часоп. «Полымя рэвалюцыі», № 1, 1934 г. Датуецца 1933 г.

*Партызаны* (с. 310)

Упершыню п'еса надрукавана ў часоп. «Полымя рэвалюцыі», № 7, 1937 г. Датуецца 1937 г.

## ЗМЕСТ

**Крапіва К.**

**К 78** **Збор твораў у 6-ці т. Т. 3. Раман, п'есы/Уклад., камент. С. Лаўшука; Маст. А. Александровіч.— Мн.: Маст. літ., 2000.— 382 с., іл. [4] л. іл.**

**ISBN 985-02-0420-6 (т. 3).**

**У трэці том Збору твораў Кандрата Крапівы ўвайшлі раман «Мядзведзічы», п'есы «Канец дружбы», «Партызаны».**

**УДК 882.6-8**
**84(4Беи)6**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**КАНДРАТ КРАПІВА**
**(Кандрат Кандратавіч Атраховіч)**

***Збор твораў у шасці тамах***

**Том 3**
***Раман, п'есы***




Рэдактар *Г. В. Роліч*
Мастацкі рэдактар *Л. І. Мележ*
Тэхнічны рэдактар *Т. М. Сокал*
Карэктар *Н. І. Міронічык*

Здадзена ў набор 20.09.99. Падпісана да друку 08.11.99. Фармат 84×108[1]/32. Папера афс. № 1. Гарнітура Тып Таймс. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 20,16 + + 0,42 укл. Ум. фарб.-адб. 21,42. Ул.-выд. арк. 22,66. Тыраж 3100 экз. Зак. 3603.

Выдавецкае дзяржаўнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 3 ад 19.11.97. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат ВПП імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.